Кніга трэцяя

# Скрыжалі памяці

У трох кнігах

***З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны***



Мінск, «Беларускі кнігазбор», 2005



# Уладзімір ПАХОМЕНКА

Уладзімір Еўдакімавіч Пахоменка нарадзіўся ў 1923 г. у в. Сапрынавічы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Настаўнічаў у г. Хоцімску. Быў прызваны на вайсковую службу. З 1943 г. — на фронце, прымаў удзел у шматлікіх баях. Сяржант 1152-га стралковага палка 334-й стралковай дывізіі У. Пахоменка загінуў 22 студзеня 1945 г. Пахаваны ў Латвіі. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені.

Паэтычныя здольнасці выявіліся ў школьныя гады. Пісаў вершы ў франтавых умовах. Некалькі твораў з яго літаратурна-эпісталярнай спадчыны былі надрукаваны ў газеце «Магілёўская праўда» ў 1985 г.

# Паэзія

## ОТОМСТИМ ЗА МУКИ ЮРИЯ СМИРНОВА

Его на кресте распинали.
Руки гвоздями ему пробивали.
Было работы тогда палачам.
Обер бесился: «Не скажешь — убью.
Ну-ка скажи только часть свою».
И снова кнутом его бил и рычал.
Но комсомолец молчал.
Мы слышим твой голос, Юрий Смирнов.
В битвах горячих мы слышим твой зов.
Праведной местью полны сердца,
Мы отомстим врагу до конца!

## МЕСТЬ ЗА ДРУГА

Сапер-гвардеец шел дорогой дальней.
Пробрался он через заставы, смел,
И в предрассветной мгле сырой, туманной
Раздался взрыв — на воздух склад взлетел.
Он не успел уйти — его схватили,
Избитого, забросили в подвал.
Потом водою отливали, били.
А он молчал, терпел и не стонал.
А на лице — кровавые подтеки.
И бледный свет шатнулся впереди...
Разорванная в клочья гимнастерка,
Знак «Гвардия» сверкает на груди.
Ему на теле звезды вырезали.

Ему казалось — это страшный сон.
В крови лишь стены в каменном подвале
Всё видели, что пережил там он.
Мы в бой пошли, и немцу нет пощады.
В сердцах — огонь. Вперед, друзья, вперед!
Пусть рвут врага гранаты и снаряды,
И он от нашей мести не уйдет!

## ПИСЬМО

Я тебе из далекого края
Шлю горячий-горячий привет.
Как живешь ты, моя дорогая?
Напиши мне об этом ответ.
У Балтийского моря живу я,
Где до немцев — две сотни шагов.
И тебя вспоминаю, родную,
И свинцом поливаю врагов.
Я за наше разбитое счастье,
За разлуку врагам отомщу.
За тебя, ненаглядная Настя,
В сердце недруга пулю пущу.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Васіль Леўчанка*

## ШТЫКОМ І ПЯРОМ

«На подступах да Клайпеды і на яе вуліцах праліта кроў сыноў і дачок многанацыянальнай Радзімы. Аб братэрстве, змацаваным крывёю, піша ў артыкуле-ўспаміне Герой Савецкага Саюза І. Барзоў. Аб братэрстве сведчаць матэрыялы, прысвечаныя простаму і мужнаму жыццю і гераічнай гібелі Уладзіміра Пахоменкі, паколькі беларус Пахоменка ішоў, па сутнасці, у тым жа страі, што і літовец Юозас Мацкявічус...».

Газета «Советская Клайпеда» (28 студзеня 1971 года), урывак з якой я прывёў, трапіла да чырвоных следапытаў Хоцімскай СШ № 1 зусім нядаўна. Толькі цяпер, праз 40 год пасля гераічнай смерці нашага земляка, ураджэнца Мсціслаўскага раёна У. Пахоменкі, на Магілёўшчыне становіцца вядомым яго прозвішча. Гэта быў бясстрашны воін і страсны паэт...

У 1983 годзе супрацоўнікам хоцімскай райгазеты «Шлях Кастрычніка» стала вядома, што ў Крымскім выдавецтве рыхтуецца да выхаду невялікі зборнік вершаў Уладзіміра Пахоменкі. Гэты факт зацікавіў рэдакцыю, паколькі перад прызывам у армію Пахоменка настаўнічаў у Хоцімску. Першыя звесткі аб паэце даслала сястра Уладзіміра Ганна Еўдакімаўна, якая жыве ў сяле Рамашкіна Крымскай вобласці. Яна і цяпер захоўвае сшыткі, у якіх Уладзімір вёў улік прачытаных кніг. Любоў да літаратуры і вызначала яго імкненне «стаць настаўнікам, а потым, па ўсёй магчымасці, і паэтам». А вось радкі з даваеннага пісьма Уладзіміра да сястры Ганны Еўдакімаўны, якія пацвярджаюць яго захапленне літаратурай і мастацтвам. «Свята Кастрычніка прайшло весела. Быў вечар. Я выступаў з дакладам (не здзіўляйцеся, атрымалася нядрэнна). Затым была пастаноўка п’есы Я. Купалы «Прымакі» і клаунад «Рэвізор» і «Цырульнік», — усё гэта пры маім удзеле і пад маім кіраўніцтвам. Зала не змаўкала ад смеху і апладысментаў. Усе гаварылі, што колькі яшчэ жывуць у Бруёўцы (вёска Хоцімскага раёна), не бачылі такога

цуду».

На жаль, не наканавана было збыцца марам Уладзіміра.

З пісьма баявога сябра Пахоменкі Івана Міхайлавіча Цісленкі:

«Уладзімір Еўдакімавіч Пахоменка — наш лепшы баявы таварыш. Мы ганарымся ім, ганарыцца ім наша Радзіма. У наступленні за г. Клайпеду ён загінуў смерцю храбрых. Мы страцілі лепшага свайго сябра і таварыша.

Мне цяжка пісаць гэта пісьмо. Ён быў першым маім сябрам. Пасмяротна Валодзю ўзнагародзілі ордэнам Айчыннай вайны. У бліндажы мы з Валодзем збіралі таварышаў, весялілі іх. Я баяніст, ён — скрыпач. Многа аб ім можна ўспомніць харошага...»

Нельга без хвалявання чытаць адно з апошніх пісьмаў самога Уладзіміра:

«Прывітанне вам з фронту. Мы прасунуліся бліжэй да ворага на адлегласць 200 метраў. Зараз умовы цяжкія: гнілая восень, дождж, гразь. Але для савецкага салдата няма цяжкасцей, якія б ён не мог пераадолець.

...Кожную пядзю зямлі бяром з боем, можа быць, давядзецца загінуць. Але я, як камсорг, павінен быць там, дзе мае салдаты.

Высылаю вам тры падзякі Радзімы за мае баявыя справы. Прашу захоўваць доўгія гады як памяць...»

Гэта было восенню. Зімой 1945 года пры вызваленні Клайпеды Пахоменка па-геройску загінуў.

Але памяць аб ім жыве. <…> Жывуць і яго вершы.



# Пётра
# ПРОСТЫ

Пётра Просты (Ільдэфонс Бобіч) нарадзіўся 10 (23) студзеня 1890 г. у в. Дзедзінка Друйскай воласці Віленскай губерні (цяпер Міёрскі раён Віцебскай вобласці).

У 1909 г. скончыў Ковенскую гімназію і ў верасні гэтага ж года паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. У 1911 г. накіраваны ў Папскі універсітэт (Collegium Germanicum) у Рыме, які закончыў з навуковай ступенню доктара філасофіі. Ад тагачаснага папы Пія X атрымаў блаславенне на выданне газеты для беларусаў-католікаў «Беларус» («Bieiarus»). Пасля вяртання з Рыма (1913) закончыў навучанне ў Віленскай духоўнай семінарыі (1915). Пасвечаны ў святары ў ліпені 1915 г. У 1917 г. на I з’ездзе беларускіх святароў у Мінску ўступіў у Саюз ксяндзоў-беларусаў. Працаваў вікарыем у Друі і душпастырам на Дзісеншчыне (1917–1920). У 1921–1923 гг. нёс святарскую службу ў розных прыходах: вікарыем пры віленскай катэдры і адначасова законавучыцелем у Віленскай беларускай гімназіі, пробашчам у мястэчку Германавічы. З 1930 па 1940 г. — на пасадзе пробашча і дэкана ў мястэчку Іўе. У гады вайны быў арыштаваны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Неўзабаве пасля турэмнага зняво-

лення і допытаў сканаў (па іншых звестках — быў забіты) 28 красавіка 1944 г. Пахаваны ў Іўі каля касцёла.

Выступаў як празаік, драматург, публіцыст, перакладчык. Першы абразок «Слёзы» надрукаваў у 1907 г., мастацкія і публіцыстычныя творы змешчаны ў «Нашай ніве», «Першым беларускім календары «Нашай нівы» на 1910 год», заходнебеларускіх выданнях «Наша думка», «Беларускія ведамасьці». Друкаваўся ў польскіх рэлігійных часопісах. У 1912 г. выдаў «Нядзеляшнія эвангеліі і навукі». Асобным выданнем выйшла кніжка «Нашто беларусам газеты» (1914). Аўтар п’есы «Свякроўка» (1917; апублікавана ў 1995 г.). У гады Другой сусветнай вайны напісаў фундаментальную працу «Навучайце ўсе народы». Некаторыя абразкі пісьменніка перакладзены на ўкраінскую і польскую мовы.

# ПРОЗА

## СЛЁЗЫ

Ясна гарацъ агні ў багатым палацы вяльможнага пана: гаспадар спраўляе баль.

Гнуцца дубовыя сталы ад націску дарагіх бутэлек ды страваў, грыміць музыка ў панскіх салонах, чуваць вясёлыя песні... Госці танцуюць, весяляцца, і нікому няма дзела да таго беднага мужыка, што стаіць цяпер каля варот панскага палаца — і дрыжыць ад холаду і голаду і плача ад несправядлівасці ды крыўды людской... Хлеб выйшаў ужо даўно, дровы — таксама. І ніхто не памог яму дагэтуль — мусіць, ніхто аб ім і не ведаў. І, дачуўшыся, што ў панскім палацы грыміць вяселле, пайшоў ён, няшчасны мужык, да шчаслівага пана, нібы той Лазар да багача — папрасіці ратунку... Спадзяваўся ён, што пан у гэты радасны вечар не захоча, каб бедны брат яго стагнаў, скрыўджаны — ды плакаў. Ён спадзяваўся, што пан злітуецца над яго нядоляй, прыйшоў і ціха, пакорна выцягнуў сваю руку.

Але вяльможны пан не даў яму ратунку, не пацешыў беднага; вяльможны пан выштурхаў яго за вароты — на мароз, на голад, на смерць... І стаіць ён тут, гэты бедны мужык, каля палаца панскага і дрыжыць, скасцянелы ў марозным снягу, — а з вачэй яго старыкоўскіх, па твары маршчыністай цякуць горкія слёзы, слёзы вялікай крыўды, слёзы страшнай скаргі-пракляцця...

А мароз усё крапчэе, холад пякельны сціскае беднага прамёрзлага Лазара, люты сівер ледзяністымі нажамі рэжа яго хворае цела... а слёзы цякуць з блішчачых апошнім светам вачэй...

Яшчэ мінута, другая — яшчэ адзін пацалунак марозу, адзін подмух сіверу — і, упаўшы на калені перад панскім палацам, бядак забудзецца пра свае мукі ў вялікім, непрабудным, вечным сне, яшчэ мінута — і канец, усяму канец — і беднаце, горкай цяжкай долі, і тым пякучым слёзам.

Апускаецца ён ніжэй... ціха... Ужо не варушыцца... І толькі музыка ў панскім палацы грыміць яшчэ мацней у начной цішыні...

Што гэта?! Дзе ён?

Так цёпла, так добра. Мо гэта ён у раі? Разглядваецца навокал і відзіць, што сядзіць ён на лаве ў простай мужыцкай хаце; на стале перад ім стаіць вада, хлеб ды страва... Неякісьці бедны вясковы чалавек, знайшоўшы яго нежывога пад варотамі панскага палаца, падняў ды прынёс да сваёй курнай хаты... Адагрэў ды накарміў брата свайго, чым меў, — аднімаючы нават [ад] сябе...

І той бедны аджыўшы чалавек павёў другі раз радасным вокам па хаце свайго збавіцеля. Глянуў на яго бяду і на яго сэрца, успомніў палац пана, і сэрца яго — і ўвесь садрыгнуўся... зноў глянуў на шчырую твар свайго брата-мужыка і — заплакаў ціхімі цёплымі слязьмі...

Але гэта не былі ўжо тыя страшныя слёзы — слёзы гора, пракляцця... Гэта былі добрыя слёзы, слёзы радасці, шчасця, ясныя слёзы...

## ВОЛЯ

— Воля, свабода! — сорак пяць гадоў таму крычаў мужык.

— Свабода! Волю нам цар даў!..

І, зняўшы шапку, горача маліўся мужык за добрага цара, што даў волю, што асвабадзіў ад панскіх батагоў, што звольніў ад прыгону... Маліўся шчыра, горача за гэтага цара, і слёзы цяклі з вачэй, слёзы радасці і падзякі...

— Воля! Свабода!..

Няма болей панскага прыгону, не скачуць болей панскія бізуны па мужыцкай сярэдзіне... Але ёсць прыгон правіцельства, і гэтаму правіцельству з усёй сілы памагаюць яго чыноўнікі, ёсць нагайкі стражнікаў і казакоў, ёсць салдацкія кулі... Прыгон цяжэйшы, як быў перш!..

— Воля! Свабода!

Дзе ты, гэта воля? Дзе ты, свабодная мужыцкая праца?

Дзе не льецца мужыцкая кроў, мужыцкі пот, мужыцкія слёзы?..

Турмы і астрогі стогнуць ад мужыцкіх енкаў, вароны і груганы дзяўбуць мужыцкае цела ў далёкай Манджурыі, рэкамі цячэ мужыцкая кроў, і ручаямі льюцца мужыцкія слёзы!..

— Воля! Свабода!..

Гнецца мужык на ніве ад цяжкай непамернай работы, курчыцца ў хаце ад голаду і холаду, стогне ад «начальства» — і гібне ў турмах ды ў ссылцы...

І гэта — воля?

Цяжкая твая доля, бедны мужык!

Доўгія вякі нясеш ты свой нялёгкі крыж!.. Але прыйдзе гадзіна — і ты парвеш кайданы, у каторыя закавалі цябе твае мучыцелі, і высока-высока падымеш свой штандар за свабодную працу, за лепшую долю, за новае, свабоднае жыццё!..

## АБРАЗКІ

*Ахвяруецца Якубу Коласу*

Я чуў, як мой брат-беларус спяваў свае песні.

Божа! Колькі мукі і енкаў у ягоным голасе, колькі скаргі страшнай у гэтай песні, што выходзіла з яго грудзей і смутна і нудна лілася па полі, аддавалася гулка ў лесе і падымалася вышэй і вышэй — аж да сіняга неба!

За сэрца хапала гэтая песня — песня мужыка-нявольніка.

Загудзелі ў душы ўсе струны, з грудзей вырваўся енк, і на вачах закруціліся слёзы...

Бедны, бяздольны народ; слязьмі і потам залітая зямелька.

* * *

Вот вёска, дзе жывуць мае браты.

Дрэнненькія хацёнкі пryляпіліся адна да аднэй; абапал стаяць хлявы і паветкі; дзе-нідзе ўгледзіш садок. Толькі рабіна, што плача чырвонымі слязьмі, ды кудравая бяроза, ды хвойка вексвечны глядзяць на тваю, беларус, нядолю...

Як смутна!..

А кругом раскінулася шырокае поле. Як мурашкі, высыпаліся туды мужычкі і, сагнуўшыся над цяжкімі сохамі, аруць усохшую зямельку. Тут уся іх надзея, усё іх багацце, усё іх шчасце...

* * *

У беднай, курнай хатцы, на канцы вёскі, гарыць лучына, уткнёная ў сцяну. На скрыпучай жэрдцы вісіць калыска, а ў ёй ляжыць галоднае дзіцятка. Над ім, сагнуўшыся, стаіць маці і пяе песню — нудную, смутную песню, а ў тэй песні столькі енкаў, столькі нявыплаканых слёзаў, што самому хочацца разам з ёю

плакаць і крычаць на ўвесь свет: «Ратунку! Падмогі!..»

А там, у куце, на лаве, варушыцца нешта пад кажухом. Гэта хворы мужык-гаспадар хоча падняцца, каб напіцца вады, — і не можа. Яго кінулі сілы: цяжкая непамерная праца падтачыла яго здароўе, і вось ён ляжыць, бядак, звесіўшы мазалістую руку, і спёкшыміся губамі шэпча: «Піць», а пасля доўга-доўга кашляе… Відаць, што ўжо апошнія свае дні дажывае мужык. Гэта канец гаротнага жыцця...

* * *

Вот могільнік, дзе ляжаць косці нашых дзядоў і бацькоў.

Некалькі хвоек, ліп і бярозак, з паўсотні згніўшых крыжоў — і ўсё...

Як ціха, як смутна.

Нішто не парушае вечнага сну нябожчыкаў, — іх адпачынку па цяжкім, бяздольным жыццю. Толькі часам закрычыць сава, што звіла сабе тут гняздо ў дупле старой ліпы, закаркае варона, закукуе-загалосіць зязюлька над мужыцкай нядоляй. Заўтуруюць ёй сваім шумам хвойкі і бярозы — і ізноў усё сціхне, засне...

Вось ты які, мой родны край!

Смутак вее ад тваіх вёсак, ад палёў тваіх і лясоў, ад рэк і азёраў і ад тых крыжоў, што стаяць пры дарогах. Смутак чуваць у тваіх песнях-скаргах, мужык беларускі; смутак і надзея ў тваіх малітвах, што да Бога шлеш.

Смутак і скарга...

Люблю цябе, мая родная старонка, мая матка-Беларусь! Ты выгадавала мяне, ты мне паказала нядолю і слёзы маіх братоў.

.............................................................................................

Віджу — усходзяць над табой зоркі ясныя. Усё святлей робіцца ў табе...

Веру — устане сонца, пашле яно нам свой свет, разгоніць туман, што спавіў цябе, Беларусь!

Прыйдуць для цябе лепшыя часы...

Для сыноў тваіх зачнецца новае жыццё — вольнае, светлае! Стануць яны ўрад са старэйшымі сваімі братамі і дружна возьмуцца да агульнай працы, а ты, маці, падымеш спаняверaную дагэтуль галаву і смела будзеш паглядаць у ясную будучыню, што нясе тваім дзяцём лепшую долю, лепшую славу!

# ДРАМАТУРГІЯ

## СВЯКРОЎКА
*Абразок для сцэны ў 3 дзеях*

### Асобы

Я к у б — гаспадар, стары, сівы.
Е ў к а — ягоная жонка.
Я н к а — іхні сын.
А л е н а — Янкава жонка, маладзіца.
М а р ы л ь к а — Янкава дачка, гадоў 5-6.
Ю л ь к а — дачка Якуба.
А н у ф р э й К а ч а н — пісар, таўсты, лысы, нос чырвоны.
П ё т р а — стары гаспадар.
С і м о н і х а, Б а з ы л і х а — дзве вясковыя кабеты.
Д з е ц ю к і, д з я ў ч а т ы.

Рэч дзеецца ў вёсцы. Між 1 і 2 актам мінае 2 нядзелі,
а між 2 і 3 — цэлы год.

### Акт I

Сцэна прадстаўляе гарод каля хаты Якуба, на старане відаць хату і акно. У глыбіні сцэны від сяла, хатаў і г. д.

### Сцэна I

А л е н а (*навешвае бялізну на плаце і вяроўках; счакаўшы, апіраецца аб плот і гаворыць маркотна*). Ой Божа мой, Божа!

Два гадкі мінаюць, а Яначкі як няма, так няма, і лістоў во не шле... Можа, яму які трафунак стаўся, або, Божа барані, якое няшчасце?.. Мо забілі яго на вайне, ці ў плен папаўся... (*Плача.*) Яначка, Яначка, вярніся ж ты ўжо раз да мяне. Мне так цяжанька жыць на Божым свеце... Пяць год як мы пажаніліся, ды і што з таго? Вось як-неяк пажылі год, а ўжо нядоля нас разлучыла. Цябе ўзялі, а я засталася адна-адзінёшанькая на долю і нядолю. Кожны штурхае, кожны здзекуецца, ніхто не скажа і добрага слоўца... (*Плача.*) Ой гэта свякроўка, свякроўка! Цяжанька ёй прыйдзецца пры смерці за маю крыўду! Кусок хлеба, як сабацы, кіне ды яшчэ накляне ды напразываецца столькі, што і хлеба не захочацца... Ой Божа, Божа! Я-то яшчэ туды-сюды, але мая бедная Марылька... ані ёй естачкі даць, ані ў што надзець. І каму ж я што благога зрабіла, што мяне так усе ненавідзяць? (*Плача.*) Чаму ж гэта такая чорная нявестчына доля? Дзе ў хаце маладая нявестка, там няма ёй жыцця... Чаму ж гэта першыя маладыя годы марнуюцца на плачу ды чорнай рабоце?.. Цяпер замест таго каб мне толькі жыць, працаваць і цешыцца, — я вяну, сохну, затурканая, напраклінаная, і то ад каго? Ад маткі, свякроўкі!! Замест сэрца, парады для маладой нявесткі — у хаце толькі тое і чуеш, што кляцьбу ды сваркі... Ой Божа, Божа, такое ўжо жыццё гаратное.

Е ў к а (*з хаты праз акно*). Ах, маё ж ты ліхачка! Ужо ізноў стаіць і гультаіць? Есць нябось захочаш, а робіць работу — дык і ручанькі баляць? Га? Ой скаранне Боскае!..

А л е н а (*папраўляе бялізну*). Вось ізноў! І што ж я благога зробіла, што крыху пасумавала ды свайго мужыка ўспомніла ды да Бога ўздыхнула аб сваёй гаротнай долі?.. (*Плача.*)

З'ява II

Е ў к а (*уходзіць у гарод*). Ну, чаго хнюкаеш, га? Ужо табе не рэхт работа?

А л е н а. Чаго, мама, хочаце ад мяне? То ж я працую ад самога рання.

Е ў к а. А як гэта ты мне адказваеш, га? Ужо ізноў брэшаш, а? А хто я ёсць?

А л е н а. А што ж я благога сказала?

Е ў к а. Ой, нічога благога! Яшчэ і артачыцца! І жані тут сына, прымай у хату нявестку. Перад шлюбам дык такая скромная, лёсная, а пасля... го, го, го! (*Гразіць Алене кулаком.*)

А л е н а. Чаго гэта Вы, мама, чапаецеся да мяне? Што я вам зробіла?

Е ў к а (*перадражнівае*). «Зробіла, зробіла...», о, о, о! Ты ўжо многа чаго наробіла! Я навучаю, гавару, паказваю, а яна — быццам стоўп які!

А л е н а (*плача*). Ды дайце ж ужо раз супакой з гэтай сваркай, а то ўжо і жыццё збрыдла…

Е ў к а. Ого-го!.. Збрыдла, збрыдла? Не ведаю толькі чаму! Не смакуе чорны хлеб, праца? Го, го, го! Знаю я, знаю такіх паненак. Ляжала б дзень цэлы на баку ды пірагі ела б, а ты, старая, рабі, служы ёй... ого-го! Спракудзела жыццё? Як табе не ўпанараў, то ўбірайся вон, каб тут і духам тваім не пахла!

А л е н а. Але ж я жонка вашага сына. Куды ж я пайду?

Е ў к а. Ну, ну, ну! Падзівіцеся, людчыкі добрыя, які мая нявестачка язычок мае! Вот табе і на! Вось і дачакалася пацехі! А бадай ты была яшчэ малой сканала, нічым мела завязаць свет майму сыночку!

А л е н а. Няго ж то я сама ўпрашвалася, ці што? Самі ж вы гэтага хацелі.

Е ў к а. Бо дурная была, вось што!

А л е н а. Мама, мама! Чы ж гэта я не людзіна? Чы ж я вам што злога зробіла? Вы і цюцьку пагладзіце, а для нявесткі дык і добрага слова ніколі не маеце...

Е ў к а. Маўчы, сука! О! Падзівіцеся людцы, яшчэ мяне абмаўляе, што я і нетведама якая благая! Ах ты прыблуда, ты!.. (*Гразіць.*)

## З’ява III

Я к у б (*уходзіць з-паза хаты, з граблямі на плячах*). Зачым жа гэта ты ізноў крычыш на Алену?

Е ў к а. А табе што за дзела? Мужык да цапа ды да плуга, а да таго, што паміж бабамі дзеецца, — не мяшайся!

Я к у б. У табе, баба, мусіць, нейкісь чорт раскватараваўся, ці што! Чуць увойдзеш, чалавек, у хату, а тут толькі і чуеш што грызню, грызню ды грызню!.. Тфу, прападзі, ліха!

Е ў к а. А табе, дзядок, ужо і я не рэхт, га? Я ўжо табе старавата? Што? Ой, змарнавала я свае маладыя гадочкі за такім мужыком, а сягоння — дык ён мяне нават і пашанаваць не ўмее.

Я к у б. Дык жыві ж, як людзіна, будзь добрай, не рабі пекла ў хаце, тады і я, і кожны пашануе.

Е ў к а. Ну, падзівіцеся, добрыя людцы, чаго ён тут толькі не наплёў на мяне? А як жа ж гэта я жыву? Я раблю пекла... га?..

Я стараюся, гарую, недаем, недасплю, працую за ўсіх, як вол, а гэты стары дармаед яшчэ глуміцца нада мной! А бадай табе язык скруціла...

Я к у б. Ну, ужо разінула ляпу! (*Махае рукой.*) Аленка, кінь ты бялізну, бяры граблі ды хадзі са мной да сена. (*Выходзяць.*)

Е ў к а (*за імі*). Ад'ю! Праваліцеся вы! Дык ён замест таго каб за жонку ўступіцца, бярэцца за нявестку... А пярун жа цябе спалі!

З'ява IV

Е ў к а (*адна*). Усё рабі сама, працуй, гаруй на старыя гады, быццам наймітка якая, а нявестка будзе вылежвацца... І нашто гэта Янка жаніўся?.. У людзей ёсць якіясь нявесткі здаровыя, працавітыя, вясёлыя, а тут што? Неякая паршывая, плаксівая — я і навучаю, і паказваю, а не раз, як не стане цярпення, дык і штурхану, а яна маўчыць, як стоўп. Чыстае скаранне Боскае з такой нявесткай. Яшчэ ж і бахура мае, і яго гадуй, слухай яго крыкаў... А каб вас ліхачка ўзяло...

З'ява V

С і м о н і х а (*ідзе з вёдрамі да студні*). А што ж ты гэта, кума, так разлябедзілася?

Е ў к а. Ой, нешчаслівая мая галава, кумачка, ужо не магу даць сабе рады, быццам насланнё якое, ці што.

С і м о н і х а (*уздыхае*). Эй, цяжка цяпер жыць беднай людзіне.

Е ў к а. Ой, ой, ой! Цяжка, цяжка! На старыя леты не мае чалавек супакою. Гарую ды гарую да грабовай дошкі, — хіба ўжо толькі тагды будзеш мець спачынак.

С і м о н і х а. Э-э... ды вы ж яшчэ маеце, дзякаваць Богу, кім выручыцца.

Е ў к а. О, а кім жа гэта?

С і м о н і х а. Ну, а Алена?

Е ў к а. Го, го, го! гэтая паненка, лялька! Дзе ёй да работы! Баіцца, каб рукі не сшурпацелі.

С і м о н і х а. Э, гукайце вы сваё, кумачка, я ж гэта бачу, як яна шчыра да работы бярэцца. Яна яшчэ дзяўчынай была працавітая ды рупная.

Е ў к а. Ага — працуе! Хіба што накрычу.

С і м о н і х а. Богам а праўдай, але вы, кумачка, занадта крычыцё на нявестку; і яна ж людзіна і сэрца мае.

Е ў к а. Вось як! Дык ты гэта вучыць мяне хочаш, ці што? Табе, кума, да гэтага няма дзела.

С і м о н і х а. Але ж калі гэта імасць зараз і гневаешся, а я так шчыра кажу, што будзеце мець грэх за нявестку.

Е ў к а. А годзе табе ад мяне! Пільнуй свайго носа, а не чужога проса.

С і м о н і х а. Ды чаго ж сярдзіцца, чаго ж крычаць? Як табе маё слова не ў лад, то я з ім назад, а брахаць няма чаго.

Е ў к а. Што? Як? Брахаць? Я брашу? Ах ты запаветраная! То ты будзеш сабе мной гэбу выціраць? А каб жа ж цябе скруціла!

С і м о н і х а. Цябе ўжо і так выкруціла... а вялікшая яшчэ цябе кара чакае, як не будзеш пакутаваць!

Е ў к а. Ды зачыні ж ты, паскуда, ляпу, бо я табе яе калом зачыню, ты чараўніца якаясь!

С і м о н і х а. Сама ты чараўніца. А хто ж гэта, калі не ты, у Юрчынай каровы малако адабраў, га?..

Е ў к а. А хварэй жа ты! Убірайся прэч з маіх вочаў, бо абязвечу!

С і м о н і х а. На, дулю з’еш! (*Паказвае фігу.*) Я і сама пайду, каб не слухаць твайго вужачага шыпення. (*Выходзіць.*)

## З’ява VI

Б а з ы л і х а (*уходзіць, спакойна гаворыць*). Ды аб што ж гэта вам тут пайшло?

Е ў к а. Кажу табе, кумачка, выдумаць нельга з гэтай сукай. Яна будзе мяне вучыць, што я робіць маю з нявесткай! Падзівуйцеся, людчыкі, якая пападдзя знайшлася!

Б а з ы л і х а. Э-э-э... ды хто б там зважаў на такую Сімоніху.

Е ў к а. Але ж калі ўжо вытрымаць няможна!

Б а з ы л і х а. Вы вось лепш паслухайце, што я вам скажу, кумачка.

Е ў к а. А што ж такое? (*Абціраецца фартухом.*)

Б а з ы л і х а. А ну — угадайце. (*Смяецца.*)

Е ў к а. Ды дзе ж мне да гэтага цяпер, калі гэта лахудра так мяне рассярдзіла, што ледзь ёй галаву не пашчапала, як суцы якой.

Б а з ы л і х а. Маеце Юльку, га?

Е ў к а. Ну, ёсць... дык што?

Б а з ы л і х а. Трапляецца ёй добры кавалер.

Е ў к а (*цікава*). Га?.. а дзе?.. хто?..

Б а з ы л і х а. Чакайце, кума, я ўжо скажу.

Е ў к а. Ну, хто? Кажы ж ужо раз!

Б а з ы л і х а. Пісар наш упадабаў сабе Юльку.

Е ў к а. Пісар? Ну гэта яшчэ нішто сабе! Дзяўчына, як сама ведаеш, добрая, працавітая, бо, як той казаў, добрую школу перайшла ў маіх руках.

Б а з ы л і х а (*усміхаючыся*). Веру, веру, ого!

Е ў к а. Але ж ён не багаты, а я Юльцы таксама многа даць не магу.

Б а з ы л і х а. Але ўсё ж такі што-колечы будзе меці?

Е ў к а. Ну, ведама, не голая... Ёсць паўвалокі зямлі па маёй смерці. Кабе ж гэта не Янка ды не тая нявестка... Тагды мела б Юлька больш, была б першай багатыркай на ўсю вёску. Але што ж? Есць ёсць каму, але рабіць няма.

Б а з ы л і х а. А што чутна аб Янку?

Е ў к а. Ды нічога, сам ані адазвецца, а мне тутваждайся з жонкай ды з рабёнкам.

Б а з ы л і х а. А чы ж не магла б гэта Алена ісці на службу, нічым мае сядзець у хаце ды дарма хлеб есць?

Е ў к а. Во-во ж гэта, кумачка! Ой, святыя вашы словы. А-яй! У службу, у службу — няхай ідзе ў чужыя рукі!

Б а з ы л і х а. Вось то-та. Вам было б лепш і ёй.

Е ў к а. Ая-я! ведама, зязюлька. Ая, зараз такі, сягоння яшчэ выжыву яе з дому. Няхай ідзе з бахуром між чужых людзей. Няхай пазнае, што гэта такое — праца і кусок хлеба! Ая-я! Сам Бог вас прасвяціў!

Б а з ы л і х а. Ды я нібы гэта, кумачка, як той казаў, не таго... Ды дзе ж там? Я гэта толькі так сказала... я не хачу ёй ліха... хай Бог сцеражэ...

Е ў к а. А каб жа ж ужо раз счэзла, то ў хаці лягчэй стала б.

Б а з ы л і х а. Вы, кумачка, так не рабіце. Я гэта толькі так сабе сказала, а не то, можа, Янка скора вернецца з вайны, то што ён скажа, як Алены не найдзе ў хаце?

Е ў к а. Што? нічога! Ды я ж ягоная родная матка, што ж ён мне можа зробіць? З хаты выганіць ці зямлю адбярэ? Але ж гэта ўсё маё! Ён яшчэ мне павінен заплаціць, што я ягоную жонку гадавала.

Б а з ы л і х а. Ну-ну... але мо яму будзе-такі прыкра. Людзі, кумачка, казалі, вось гэны Лявон Каравай, што нядаўна прыйшоў у водпуск, то ён казаў, што Янка доўга ляжаў у шпіталі, ранены, але яму ўжо палепшала і яго маюцца пусціць саўсім дадому па беламу білету.

Е ў к а. А няхай сабе... Я тут гаспадыня ў сваёй хаце, а не Янка або ягоная жонка. Так зраблю, як мне захочацца.

Б а з ы л і х а. Ды па мне дзеля, робце, як хочаце. Вы разумная ды багатая, маеце права, што мне за дзела да Алены ці Янкі, — яны ж не мае дзеці.

Е ў к а. Я так-такі і зраблю, як захачу. А вы, кумачка, пагукайце з пісарам. Юльку я ўжо сама ўгавару, і ўсё будзе добра. Аяй!

Б а з ы л і х а. Дык дай жа Божа! Добра! Я зараз жа паляту да пісара. (*Выходзіць.*)

З’ява VII

Е ў к а (*адна*). Гм... што ж! пойдзе! А што скажа Янка, як вернецца? О-ва! А што мне зробіць? Ці ж я яму не родная матка? Мне вольна зрабіць, што ўздумаю. Я сама гаспадыня на сваёй сялібе. А мо і не вернецца, мо дзе... заб’юць... (*Думае.*) Не будзе навет з кім і размовіцца, як Алена адайдзе! Не будзе на кім і злосці спагнаць... Стары накрычыць на мяне, а я на каго?.. Гм, гм... Юлька яшчэ застаецца... А Алена — няхай ідзе... Толькі вось кепска, што лета... работы шмат. Захацелася ёй быць гаспадыняй на чужым грунце. Дзіва! (*Са злосцю.*) А годзі ёй да майго грунту, да мае хаты... што з таго, што і хлеб спячэ лепшы, як я, і страву варыць лепшую? Або ж і горшай не можна з’есць, ці што? Усе яе хваляць... ну дык што? Але дзе яна ўжо так усяго наўчылася? Мне дык аж стыдна перад ёй... Не, кончана дзела! Алена пойдзе на службу, да чужых, са сваім бахуром. Няхай уступіць мне з вачэй... мусіць уступіць, а не то... у, у, у! (*Гразіць кулаком і выходзіць.*)

З’ява VIII

Ю л ь к а (*выбягае з хаты, кліча*). Мама!.. мама!.. (*Агляда-ецца.*) А дзе ж гэта яна дзелася? Толькі што чула ейны гоман тутка, а ўжо і нямаш. Мо пайшла да саду? Ну дык я да яе пабягу. (*Выбягае і спатыкаецца з пісарам, убачыўшы яго, адскоквае ўбок.*)

З’ява IX

П і с а р (*уходзіць і, расставіўшы рукі, гаворыць*). Пачакай жа, Юлька-зязюлька! Ты чуць мяне не забіла...

Ю л ь к а. Але ж не, я толькі...

П і с а р. Ая-яй! Ды ты ж так мяне загрэла, што аж у мяне свечкі ў вачах сталі.

Юлька (*смяецца*). Ха-ха-ха... Але ж дык і ёсць у што загрэць, запраўдове... Каб гэта я не бачыла, то падумала б, што натрапіла на быка...

П і с а р. Няго ж гэта я такі грубы, ці што? Я яшчэ... таго... нішто сабе... малады...

Ю л ь к а. Вот табе і маеш — малады, а лысы, як гарбуз. Ха-ха-ха...

П і с а р. Э, не штука табе смяяцца. Табе блазнота ў галаве, а мне дык згрызота. Охо-хо. (*Уздыхае.*)

Ю л ь к а. Вось немаведама, чым гэта пісар можа так ужо вельмі грызціся!

П і с а р. Ой-ой — ёсць чым грызціся! Сам я бедны аднюсенькі на свеце, як палец, у хаце дык няма да каго і слова замовіць.

Ю л ь к а. Ідзіце да людзей, а там ужо нагаворыцеся даволі.

П і с а р. Ды якая там гаворка на людзях! Я хацеў бы лепш мець каго ў хаце, з кім мог бы пагаварыць.

Ю л ь к а. Запрасіце сабе — от... Базыліху, яна вам напляце за цэлае сяло.

П і с а р (*да сябе*). Думай тое, якая бойкая... (*Да Юлькі.*) Нашто ж мне старая? Я хачу маладой... вось такой, як ты... тагды але!

Ю л ь к а. Ха-ха-ха... Захацелася...

П і с а р. Або што? Можа, я табе не ўпанараў?

Ю л ь к а. Упанараў ці не ўпанараў, а за вашэцю тыкі не пайшла б.

П і с а р. А чаму ж гэта? Я яшчэ цяпер не сватаюся, але калісь мо і паспрабую.

Ю л ь к а.

Да мяне ты не хадзі,
Не псуй сабе ночы.
Я за цябе не пайду,
Бо мне се не хоча.

(*Уцякае.*)

З’ява X

П і с а р (*адзін*). Ігіт!.. Уцякла, шэльма, але пачакай жа... Абы тыка Базыліха лад зробіла, дык чалавек на старасць яшчэ ажэніцца і сагрэецца на чужым багацтве... А жыў бы ж я тады,

жыў бы!!! Ах, цямненька... Старым даў бы каленам куды палагаецца... а сам... (*аглядаецца на ўсе бакі*) піў бы я... піў бы, быццам той бык! Хата файная... зямлі шмат, э... ды і грошы, кажуць людзі, старая хавае дзесьці ў скрыні. От каб яшчэ выжылі б Алену з хаты, тагды я быў бы сабе пан, як патрэба. Старую ўзяў бы ў рукі, так што ну-ну!..

З’ява XI

А л е н а (*уходзіць, плача*). Божа ж мой, Божа, чаго яны са мной ужо не робяць?..

П і с а р (*да сябе*). Ого! Пэўне, пасварыліся! Трэба мне ўцякаць, бо нашто мне піхаць здаровую галаву пад Евангеліе, ды яшчэ перад шлюбам... (*Выходзіць.*)

М а р ы л ь к а. Матачка, плачаш? Чаго плачаш?

А л е н а. Нічога, дзетачка, маё ты шчасце (*цалуе яе*), маё ты злоцітка. Бог нас не апусціць.

М а р ы л ь к а. Бозя добры. Не плач, мама, бо Бозя будзе гневацца. Марылька будзе маліцца Божынькі за маму... ды за тату...

А л е н а. Так-так... маліся, дзіцятка, можа, Бог выслухае твайго нявіннага сэрдачка і не апусціць нас. (*Плача.*)

Здалёку далятае спеў харальны, дужа ціхенькі: «Ой, ляцелі гусі...»

А л е н а. Як пекна ўсюды на свеце, як вясёла, а мне так сумна на душы, так маркотна... так баліць сэрца... Сягоння, Божа ж мой, Божа, сягоння я маю ўсё гэта пакінуць — гэту хату, дзе з Янкам мы жылі цэлы год у шчасці... усё пакінуць, і ісці між чужых людзей на нядолю і паняверку...

Спеў зближаецца штораз больш.

Ого... яны там спяваюць... ім вясёла ў сэрцы... гэта вясна йграе ў душы... а мне так маркотна, так пуста ў сэрцу (*цалуе Марыльку*). Ты адна яшчэ, маё злотка, ты яшчэ адна любіш маму?

М а р ы л ь к а (*абнімае Алену за шыю і цалуе*). Марылька дужа-дужа любіць мамачку...

## З’ява XII

Уходзяць дзяўчаты і мальцы з граблямі і са спевам.
Алена і Марылька ў абоймах настаране.

Д з я ў ч ы н а 1. Алена, чаму ты ўцякла з поля? Хадзі з намі! Мы ідзём цяпер канчаць сена... а пасля будзе музыка... вечарына...

А л е н а. Ідзіце без мяне, сястрыцы! Мне цяпер не музыка ў галаве!

М а л е ц. Хадзі з намі на зялёную луку. Там пры сене заспяваем так, што сена высахне і сэрца зрадзее.

А л е н а (*сумна*). Божа, Божа!.. (*Да іх*.) Не магу... не магу... бо... у хаце ёсць работа...

Д з я ў ч ы н а 1 (*да другой*). Гэна старая чараўніца Еўка не пусціць яе.

Д з я ў ч ы н а 2. Ціха! А то яшчэ старую наднясець!

М а л е ц. Ну, дзяўчаты, як не можа ісці, то не можа, а мы хутчэй спраўляймася, бо вечар недалёка, а работы шмат.

Д з я ў ч ы н а 1. Ну, Алена, пойдзеш ці не?

А л е н а. Ой, рада бы я пайсці... але не магу... Галавой сцяны не праломіш.

Д з я ў ч а т ы. Га, як не можа, то не можа, — а шкада! Ну, бывай здарова, Аленка, трэба спяшацца. (*Адходзяць*.)

Д з я ў ч ы н а 1. А ну, заспяваем!

Д з я ў ч ы н а 2. А якую?

У с е. «Чаму мне не пець, чаму мне не пець!» (*Спяваюць, спеў памалу сціхае*.)

А л е н а (*стаіць заслуханая, хапаецца за сэрца*). О, так страшна, так маркотна... Гэй, бывайце здаровы, мілыя людчыкі, ужо я вас не пабачу, не буду разам з вамі спяваць. Ох, як цяжка на сэрцы... Заўтра дзе? на чужыне, між чужымі... не пабачу дарагіх маіх таварышак... а родная вёска, хата... родныя горы... як у сэрцы цяжка, як баліць, якая чорная туча абнімае сэрца... Янычка, Янычка! ты далёка, не ведаеш, што робяць з тваёй жонкай... гоняць яе вон з тваёй хаты... Янка! твой рабёнак ідзе на чужыя рукі... (*Плача*.)

## З’ява XIII

Ю л ь к а (*уходзіць заплаканая*). Аленка, Аленка, і ты плачаш?

А л е н а. А што ж мне рабіць? Цяжка пакінуць, дзе чалавек жыў...

Ю л ь к а. Як гэта пакінуць?

А л е н а. Мама выганяе мяне з хаты, бо кажа, што не будзе мяне задарма карміць...

Ю л ь к а. Бедная ты, сястрычка! Божа, Божа! Што гэта ў нас не дзеецца!.. І мяне мама маніцца сілай выдаць за пісара, за гэтага п’яніцу і гультая! Але... я не магу... і не пайду... хіба мяне звяжуць і занясуць у касцёл... але я і ў касцёле скажу, што мяне сілуюць і не пайду за нялюба, хоць бы мне галаву сарвалі!

А л е н а. Бог нас дасвядчуе, Юля!

Ю л ь к а. І гэта родная матка? Гэта...

А л е н а. Цыт! Юлька, родную матку грэх абмаўляць. Бог добры. Ён бачыць нашую крыўду.

Ю л ь к а. Але я ведаю, што мама як упрэцца, дык ніхто не параіць. Навет тата не паможа, дарма што абедзвюх нас так любіць. Мамка на яго закрычыць, затопае — і па ўсім.

А л е н а. Ой, Юля, горка жыць на свеце... але што ж рабіць? Карае нас Бог за грахі нашыя... Не маю я нікога — ні таткі, ні мамкі, ні сваякоў, — я бедная сірата, не маю дзе дзецца, а заўтра ўсё кіну, ды пайдзем мы з Марылькай, абедзве бяздольныя, да чужых... а ты, Юля... няхай табе Бог благаславіць ды сцеражэ ад няшчасця (*паказвае на неба*). Маліся! Там, высока, ён запаліў для ўсіх слонейка, усіх агравае, усіх бачыць... Да яго ідзі, яму аддайся ў апеку... у ім цэлая наша надзея...

Ю л ь к а. І табе, Аленка, Бог не даў долі.

А л е н а. Я не наракаю на Бога... не... дарма што сэрца... лопае... з жалю, з болю, аднача...

Ю л ь к а. Алена, я без цябе памру хіба! Не ідзі, не ідзі, сястрыца... дзе ж я дзенуся, як цябе не стане?.. Каму пажалюся? Перад кім выплачуся?!. (*Абнімаюцца і плачуць.*)

Куртына спадае.

## Акт II

Сцэна прадстаўляе нутра хаты Еўкі.
Углыбіні — дзверы, па правай старане — акно.

### З’ява І

Я к у б. Я табе кажу, Еўка, што з гэтага нічога не будзе, — я не пазволю дзяўчыну банітаваць: не дам Юлькі за пісара, разумееш?

Е ў к а. Глядзі яго, як расскрыпеўся стары! А ну, пабрашы яшчэ.

Я к у б. Пляці, што хочаш, а я не дам.

Ю л ь к а (*цалуе бацьку ў руку*). Татачка, Бог татачку заплоціць за гэта.

Я к у б. Не бойся, Юлечка.

Е ў ка. Ого-го... цацкайся з ёй, цацкай, але каб ты тут і трэснуў, то такі будзе так, як я захачу, а не ты.

Я к у б. Ужо ты досі тут наробіла ліха.

Е ў к а. А табе што за дзела? Я хачу, каб Юлька ішла за пісара, і баста! І так мусіць быць!

Я к у б. А ты што сабе выдумала? Я гэта ўжо нічога не значу, ці што? Ці я не бацька сваго рабёнка? Ці я не маю мець голасу і там, дзе ідзе аб долю роднай дачкі?

Е ў к а. А годзі табе! Я тут гаспадыня, а ты што? Гэта мая зямля, мая хата, ты тут з бока-прыпёка, то і голасу не маеш, і як я захачу, то вас усіх выганю на чатыры ветры, панімаеш?

Я к у б. Ой, баба! Ведзьма — баба! Не брашы і не чапайся да мяне, а не — то пажалееш!

Е ў к а. Ого! І што ты мне зробіш? Мо тое, што з Аленай? Не даў яе выгнаць, ну і што з таго? А я ёй есць не дала і не дам, бо не хачу! Няхай здыхае з голаду, прыблуда!

Я к у б. Ох ты чортавага сына дачка! Чакай, будзеш ты калісь цяжанька канаць за людскую крыўду!

Е ў к а. Што? Можа, хочаш мяне біць?.. а ну паспрабуй! Ты думаеш, што я цябе баюся або твае Алены? А вось твая Алена ўжо два дні не ела, а што мне сталася? І не дам, — хоць бы і гінула! Няхай сабе ідзе ад мяне, куды яе вочы панясуць. У мяне для яе месца нямашака!

Я к у б. І ты не баішся грэху мучыць бедную нявестку? Ой, баба, баба! Помні, Бог цябе цяжка пакарае за нявінных.

Е ў к а. Як пакарае, то мяне, а не цябе. Глядзіце, людчыкі! Ён мне тут яшчэ казанне гаворыць. Як табе не рэхт, то ўбірайся вон на ўсе чатыры бакі, — ты хрэн стары.

Ю л ь к а. Мама, што гэта...

Е ў к а. Маўчы, бо раздзяру табе губу аж да вуха!

Юлька плача.

## З’ява II

Уходзіць, сланяючыся, Алена з Марылькай.

Я к у б. Глянь, чараўніца, што ты з ёй зробіла.

Е ў к а. Няхай сабе ідзе прэч, каб мае і вочы яе не бачылі. Тут няма месца для прыблудаў.

А л е н а. Мама, у мяне ўжо сілы няма! Ды змілуйцеся ж ужо не нада мной, але над бедным рабёнкам. Ад учора яшчэ не елі. Дайце хоць кусочак хлеба!

Е ў к а. Ага: «Мама, дайце», а дулю хочаш? Нічога не дам, убірайся адгэтуль, каб тут і тваім духам не смярдзела.

А л е н а. Куды ж я, бедная, пайду? Я сілы не маю, ды не маю і грашочка пры душы...

Е ў к а. А «пасобіе» за Янку брала? Га?

А л е н а. Вы сама, мама, ведаеце добра, дзе яно... у вашым куфры... Вам жа аддавала...

Е ў к а. Аддавала... Затое ела маё. Убірайся куды хочаш. Свет шырокі для такіх завалок.

Я к у б (*да Еўкі*). О, ты без сэрца, вужака ты шыпучая! (*Вымае са століка акраец хлеба і падае Алене*.)

Е ў к а (*ускаквае і адбірае хлеб*). Прэч ад хлеба! Гэта не тваё!

Я к у б. Ды падавіся ты ім, змяя падкалодная! (*Выбягае, трэснуўшы дзвярмі*.)

Е ў к а. Ідзі, ідзі ды ногі сабе паламай!

Алена садзіцца на лаву.

Е ў к а. Проч адсюль — лава не твая! Убірайся!

Юлька бярэ Алену і выходзіць з ёй з хаты.

Е ў к а. Што гэта? Юлька як быццам нешта дала Алене, — ну-ну! Папомніш жа ты гэта сабе!

## З’ява III

Е ў к а (*адна*). Ха-ха-ха... як высахла Алена сабе! Не памрэ! А такі з голаду пойдзе, і ўжо раз урэшце пазбудуся з хаты гэтай завалокі! З Юлькай зараз, сягоння яшчэ, скончу; зараз прыйдзе пісар у сваты, і тагды канец зробім. А пасля... гм... гэта-то мяне,

прызнацца, трохі грызе... Янка! (*а па хвілі*) прападзі яно! Што ён мне зробіць? Пэўне ж, на родную матку не кінецца, бо гэта грэх, — а я... (*Глядзіць у акно.*) Сваты ідуць! (*Бяжыць і адчыняе дзверы.*)

З’ява IV

Уходзіць Пётра і пісар.

П ё т р а. Пахвалёны Езус Хрыстус!

Е ў к а. На векі... Вітайце, госці!

П ё т р а. Прыйшлі мы да вас па княжню для вось гэтага князя.

Е ў к а. Гэта вялікі гонар для нас бедных, але з ахвотай прымаем. (*Кліча.*) Юлька. Юлька, а Юлька!

З’ява V

Е ў к а (*да Юлькі*). Прыйшоў тутака пан малады да цябе ў сваты, — дзе мае ж ручнікі?..

Ю л ь к а. Мама!..

Е ў к а (*грозна*). Маўчы! Нясі ручнікі!

Ю л ь к а. Мілейшая смерць, мамо...

Е ў к а. Кажу, ідзі і ані слова, бо...

Юлька плача і выбягае.

Е ў к а. Не дзівуйся, васпан, гэта яшчэ маладое, ды дурное, ды не ведае, дзе яе доля чакае.

П ё т р а. Вот дзяўчына, звычайна, стыдаецца... а замуж аж пішчыць...

П і с а р. Ды яно так.

Е ў к а (*кліча*). Юлька, ды нясі ж ты ўжо раз.

П ё т р а. Не гневайцеся, кума, — мы пачакаем.

П і с а р. Не спешна (*не ўспех*) — дзень вялікі.

Е ў к а. Зараз, я ўжо пайду па яе.

П ё т р а. Ось, пане пісар, штось вам не дужа рады.

П і с а р. От, сказаў! Дык я ж не першы лепшы, але рахманы такі пісар.

П ё т р а. Я на васпана месцы... так... такі не напіраўся б.

П і с а р. А ці ж я напіраюся? От, матка хоча, годзіцца, — то і чаго яшчэ трэба? Юлька — дачка, яна павінна слухаць, што родная матка загадае.

П ё т р а. Ягомасць не рабёнак, свой розум маеш, — рабі як хочаш. (*За сцэнай крык.*)

П ё т р а. О-ей... Божухна — ды яна яе б’е!

П і с а р. Ну дык што ж! Родная матка мае права...

П ё т р а. Э... ведаеце, гэта неякая няясная справа. Я не хачу тутка і мачыць пальцаў... дык пайду сабе лепш...

П і с а р. А ну паспрабуй! Як ужо прыйшоў, то прапала.

П ё т р а. Як то прапала? Гэта ж не кірмаш!

З’ява VI

Еўка ўводзіць Юльку і штурхае яе па дарозе.

Е ў к а. Не дзівуйцеся, паны, гэта праз дурную скромнасць дзявоцкую! (*Да Юлькі.*) Падавай ручнік Пётру, — ну, хутчэй! бо як я табе падам, то аж нагамі накрыешся!

Ю л ь к а. Мама, мамачка, не завязвайце мне свету, я не хачу...

Е ў к а (*бярэ яе за рукі і цягне*). Я, матка, аддаю вам, пане малады, яе за жонку, — бярыце ды жывіце шчасліва.

П і с а р. Дзякую вам, пані-матка, будзем жыць шчасліва. Бог дасць!

П ё т р а (*сам да сябе*). Ну, такога сватання (*такіх заручын*) я яшчэ зроду не бачыў. (*Да ўсіх.*) Мне ўжо тут нечага робіць. Юлечка, не гневайся на мяне! Каб жа ж гэта я ведаў, якія гэта сваты, то б я тут і не паказаўся. Бывайце здаровенькі. (*Выходзіць.*)

Ю л ь к а. Божа мой, Божа мой! Чаго толькі яны са мной не вырабляюць!..

П і с а р. Не прыкідайся, Юля, усё будзе слаўна, вось толькі пажэнімся.

Е ў к а. Ага! Зараз такі ідзіце на клябанію ды давайце на запаведзі. І я з Юлькай прыйду неўзабаве. (*Да Юлькі.*) Ідзі збірайся, — пойдзеш да пробашча.

Юлька выходзіць і плача.

П і с а р. Усё гэта добра, але што ж з зямлёй, — пасагам?

Е ў к а. Так і будзе, як я сказала: усё аддам вам, калі будзеце мяне шанаваць, і сама каля вас прытулюся.

П і с а р. Ну, а... прымерна... парахаваўшы... Якуб то што?

Е ў к а. А няхай сабе робіць што хоча; гэта не ягоны, а мой грунт, да яго ён не мае права. З голаду не прападзе.

П і с а р. Усё гэта добра — толькі вяселле; але чуеш, паня-

матка, гэта толькі абяцанка, — а мо, як той казаў: «Тое добра, што на паперыне», ці не лепш было б спісаць наш угавар?

Е ў к а. О, о... зараз і пісаць! Чакайце, няхай выйдуць запаведзі, тады пойдзем [да] натарыша і спішам умову; не бойцеся, ужо што я абяцала, то і дам.

П і с а р. Бэ... калі так кажаце, то і добра. А цяпер, матуля, уважайце на Юльку ды прыходзьце ў клябанію, бо я ўжо іду. (*Выходзіць.*)

З'ява VII

Е ў к а (*адна*). Усё ідзе як па масле... Алена пойдзе ўпрочкі... хоць... тут, у сэрцу, якісь неспакой... (*Упарта.*) Гэ-гэ... ды каго ж я маю баяцца?.. Хто мне што зробіць?.. Я тут гаспадыня ў сваёй хаце! Ого! Што мне зробяць? Няхай хто паспрабуе, няхай хто мяне зачэпіць, тагды — апошняя яму гадзіна! Якуб? Ога, мела б гэтага целюка баяцца?.. А Янка?.. Гм, мо і зусім не вернецца, хто ведае, дзе ён, што з ім дзеецца. Гм... крыўда? Якая? Чы ж гэта я што чужое бяру? Сваё толькі бараню ад прыблудаў, гэта ж не грэх... да гэтага маю права... а можа, і грэх? (*думае*) э, дам папу на імшу ды пастаўлю свечку перад Цудатворцам, вось і канец! Адмалюся, — чаго ж тут грызціся? (*На дварэ чуваць гоман.*) А там што такое робіцца? (*Выглядвае праз дзверы і адскаквае набок.*) Алену вядуць!.. Чуць жывюсенькая... Дзіўна! Мо што сабе дрэннага зробіла? Скажуць людзі, што гэта з мае прычыны... а... (*Дзверы адчыняюцца, Якуб вядзе Алену і Марыльку, і Пётра ўходзіць.*)

З'ява VIII

Я к у б (*з абурэннем*). Паглядзі, чартоўская баба, што ты натварыла! Алена з голаду гібне... Бог цябе цяжка за яе пакарае.

Е ў к а. А ці ж я ў гэтым вінавата? Ці ж я ёй не казала ісці на службу? Чаму ж не робіла так, як я ёй казала?

Я к у б. Не таркачы ты, не мялі языком, а падай вады барджэй, чуеш?

Е ў к а. А што ж гэта — я твая слуга ці наймітка, га?

П ё т р а. Ды дай жа ж, Еўка, нягож не відзіш, што чалавечына гіне?

Е ў к а. Маўчы, ты чаго сюды ўлез? Убірайся з маёй хаты, я тут гаспадыня!

Пётра бярэ ваду і падае Алене.

А л е н а. Марылька!.. Дзе Марылька?..

М а р ы л ь к а. Тут я, мамачка, пры табе.

А л е н а. Бедная мая сіротка...

Я к у б. Супакойся, Алена, на, маеш вады напіся. Зараз дадуць табе хлеба. А ну, Пётра, збегай за хлебам да суседа, бо гэта чараўніца не дасць, гэта ж камень, а не чалавек. (*Пётра выходзіць.*)

А л е н а. Татачка, я ўжо не хачу... мне ўжо не да ежы... я ўміраю...

Я к у б. Ціха, дзетка, гэта яшчэ нічога...

А л е н а. Ой, Божухна... так цяжанька...

М а р ы л ь к а. Матачка, матуля...

А л е н а. Тата... На каго ж я кіну яе?

Я к у б. Не бойся, Аленачка, нічога табе не станецца. (*Да Еўкі.*) Паглядзі, што наробіла! І маеш ты сумленне?

Е ў к а. А ты не чапай майго сумлення!

А л е н а (*плача*). Ой, Яначка, Яначка! Чаму ж ты кінуў мяне адну, чаму не адгукнешся!

Дзверы адчыняюцца, убягае Я н к а ў салдацкай адзежы, з клункам у руках.

З'ява IX

Я н к а. Алена. Дзе Алена?

Усе адступаюцца, Еўка напужаная.

Я н к а (*да Алены*). Божа... Што гэта за няшчасце? Аленачка, што табе зробілася? Мая ты бедная жоначка, замучалі цябе... А я, нешчаслівы, не мог барджэй прыехаць, бо ляжаў ранены ў шпіталі...

А л е н а (*усміхаецца*). Яначка, Яначка...

Я н к а. Алена, Алена! Мая ты дарагая таварышка! Я спяшаўся, ехаў, я ляцеў птушкай, каб да цябе прыбегчы... Ой, не спадзеяўся я так цябе знайсці. Але не бойся, цяпер усё паправіцца. (*Да Еўкі.*) Мама! І вы такая матка?.. Гадзіна бы гэтага не зробіла.

Е ў к а. Гэдак? То ты такі сын? То ты гэтак з маткай вітаешся?! га?!

Я н к а. Нягож вы матка? Я меў бы з вамі вітацца? (*Упадае ў плач.*) Ох, я бедны сірата, я ўжо не маю маткі... (*Адварочваецца*

*ад Еўкі.*)

П ё т р а. Ды перастань, Янка! Грэх так плакаць, Бог з табой!

Я н к а (*бярэ Марыльку за ручку*). Марылька, бедная мая дачушка. (*Цалуе.*)

Е ў к а (*да сябе*). Штосьці мне... тут (*паказвае на сэрца*) залідала... але... пэўне, не кінецца на родную матку...

Я н к а (*да Якуба*). Тата, вы былі добры для Алены; маеце тут крыху грошы, што мне за Георгія далі, памажыце наняць мне хурманку ды забраць адгэтуль Алену. Мы пойдзем у свет, куды вочы павядуць, куды ногі панясуць, абы толькі як найдальш ад гэтага... пекла, бо баюся... граху... Памажыце мне вынесці адсюль бедную маю жонку, бо не хачу, каб глядзела на свайго ворага заклятага (*выводзіць Алену, усе выходзяць*).

Е ў к а (*застаецца адна, аглядваецца на дзверы*). Ужо забраліся... Чаго ж мне страшна (*жагнаецца*)... Іж як пачарнела з голаду... страшна... я ж хацела толькі яе пазбыцца... а што ж я вінавата? Дык жа ж яшчэ не памерла... (*аглядаецца*)... з голаду млела, з жалю... да мяне... Божухна... Алена, даруй мне, я не прагнула табе благога... ты ўсё маўчала... (*Па хвілі.*) І чаго ж я хачу, што гукаю? Юлька будзе багацейшая... Юлька? Юлька? А як ды і яна мяне пракляне за тое, што сілую яе ісці за нялюба? Янка пракляў мяне і Юльку страчу? О! (*Хапаецца за сэрца.*) Тут нешта баліць... нешта цісне... гэта Боская кара...

Адмалюся... Куплю свечку... Дам на царкву — можа, палягчэе...

Куртына спадае.

## Акт III

Хата Я н к і. Дзверы зашчэплены, усярэдзіне налева аконца, направа накрыты стол, на ім хлеб, — за сталом на лаўцы сядзіць М а р ы л ь к а. Я н к а стаіць пры акне.

### З’ява I

Я н к а і М ар ы л ь к а.

Я н к а. Ужо год мінуў, як я завярнуўся. Сягоння святы вечар — Куцця... зараз гвездачка пакажацца на небе... на сяле зачынаюць Каляды; усюды радасць, усюды вяселле ў сям’і... а ў мяне... так пуста і маркотна... Святы вечар!.. Абхадзіў я яго калісьці... з Аленай першы і апошні раз... Потым у акопах... Кроў лілася рэкамі... чуваліся стогны і енкі раненых... За аплатак служыў мне цвёрды чорны сухар... на пастэрку ігралі нам гарматы... Сэрца на кускі рвалася ў грудзёх ад думак аб роднай хаце, аб ёй — Алене дарагэнькай, аб дачушцы роднай... Горкімі, крывавымі слязьмі плакаў я па родным сяле, па сваёй хаце... Ірваўся душой да сваіх... І вырваўся. Ехаў з надзеяй, спадзяваўся, што слонейка засвеціць над маім жыццём... а знайшоў!.. Божа, Божа! жонку мне замучылі на смерць... І вось цяпер я зноў адзін, з рабёнкам, каля мяне пуста, зноў туга сэрца абнімае... І гэта мне наробіла родная матка... родная матка... замучыла мне жонку... узяла ад мяне палавіну душы... ах... Божа, Божа, ратуй мяне ад граху. (*Заламвае рукі.*) Што цяпер варта мае жыццё? (*Аглядаецца.*) Марылька, гэта ж мой рабёнак, мая залатая дачушка... для яе, для яе яшчэ мушу жыць!..

М а р ы л ь к а. Тата, а маму ўзялі... ужо не прыйдзе?

Я н к а. Ах, Марылька, дзевачка ты мая... ужо няма нашай матулі, узялі яе, закапалі ў сырую зямлю, — яе душа там у Бозі, высока, яна спаглядае на нас.

М а р ы л ь к а (*углядаецца ўвысь*). Дзе? дзе? Я яе не бачу!

Я н к а. Не бачыш і не пабачыш, бо яе ўжо цяпер няможна бачыць, яна цяпер там (*паказвае на неба*), высока — у Бозі — з анёлкамі разам...

М а р ы л ь к а. Матачка высока ў Бозі... там на зорках... праўда? А прыйдзе калі?

Я н к а. Ох, каб ды прыйшла... Каб яе яшчэ хоць пабачыць. (*Уздыхае.*) Алена, Алена! ты ўжо ў Бога... спаглянь тут на нас, бедных сірот (*спускае галаву і абцірае слёзы*).

М а р ы л ь к а. Татуля... а ўжо зорка ўзышла? Ужо можна куццю есць?

Я н к а. Узышла ўжо, зараз будзем вячэраць. Перажагнайся, Марылька, змоў за мной... пацеры за душу мамуньці...

Кленчаць, мовяць «Анёл Панскі».

Я н к а (*устае, бярэ акраец хлеба, абцірае слёзы, кроіць і дае кусок Марылі*). На, мая ты дачушка, гэта Божы дар! Тата не мае лепшага, бо мы дужа і дужа бедныя...

М а р ы л ь к а. А куцці не будзе?

Я н к а. Не будзе, дзетка! На другі год — то ўжо дам табе і куцці. (*Кладзе кусок хлеба на пустое месца.*) Алена, і аб табе не забыліся. Спаглянь на нас. Мо твой дух тутка блізка — можа, тут пры нас стаіць...

Чуваць лёгкі стук у дзверы.

Я н к а. Хто гэта можа быць цяпер, гэтак позна, калі цяпер усе сядзяць пры святой вячэры?

М а р ы л ь к а. Тата! Я баюся... нехта стукае...

Я н к а. Гэта, можа, мышка дзе скрабецца, не бойся, дачушка.

М а р ы л ь к а (*туліцца да Янкі*). Тата, так чагось цёмна за акном...

Я н к а. Гэта чорная ночка абняла зямельку, ды слонейка схавалася за гарамі, вось і цёмна стала на свеце (*да сябе*)... як у маёй душы.

М а р ы л ь к а. Нешта так маркотна... я баюся...

Я н к а. Маё ты золатка, не бойся нічога... (*Туліць яе да сябе, у тым зноў чуваць стук.*)

М а р ы л ь к а. Вось зноў нешта стукае, можа, гэта матуля?

Я н к а. Табе прычулася. (*Слухае.*) Хто там?

Г о л а с. Я, Юлька, адчыні ж скарэй!

Янка бяжыць хутка і адчыняе дзверы.
Уходзіць Юлька, бледная, пастарэўшы.

### З'ява II

Я н к а (*здзіўлёны*). Юлечка! Сястрыца! Ты? уночы? да мяне?..

Ю л ь к а. Так, браток мой, да цябе, але... (*Неспакойна.*)

Я н к а. Што сталася, Юлька?

Ю л ь к а. Яначка, брацітка... Я тут не адна... (*Адчыняе дзверы, уходзіць Якуб і вядзе памалу Еўку і садзіць яе на лаўку.*)

Янка глядзіць здзіўлёны, пасля моршчыць лоб і грозна прастаецца.

Ю л ь к а. Янка! Браток! помні... грэх... гэта ж матка, умі-

рае...

Е ў к а. Яначка, Яначка... я прыехала... не магла...

Я н к а. І чаго ж вы яшчэ хочаце ад мяне тутка ў святы вечар?..

Е ў к а. Я... ужо над магілай... Янка, сынок, даруй мне...

Янка маўчыць.

Я к у б (*абцірае слёзы*). Янка, гэта ж твая родная матка! Глянь, сама прыходзіць... Адпусціся... Не будзь як каменны... Грэх...

Е ў к а. Я... не магу сканаць... з грахом на душы... я ўжо спавядалася... учора... Янка!.. Бог цяжка мяне... пакараў... глянь на мяне... ужо жыцця ў мяне... так, як і няма... грызота не дае супакою... жыццё загубіла... Яначка... правінілася... страшэнна...

Я н к а (*засланяе вочы*). Божа мой, Божа — памажы мне!

Е ў к а. Я... ад смерці Алены... не мела хвілі... супакою... Бог мяне... карае... І Юльку я змарнавала... аддала за п’яніцу... прапіў усё... і заліўся... на смерць... Кара Божая... Юлька мне... даравала... Юля... падыдзі... ось так — блізка — блізюсенька... гэтак лягчэй мне.

Юлька кленчыць каля Еўкі і кладзе галаву ёй на калені.

Я к у б. Ой, Бог цярплівы, але і справядлівы.

Ю л ь к а. Татачка, перастань! Я ўжо ўсё даравала, — я даўнейшая Юлька. Матачка, супакойся!

Янка абцірае слёзы.

Е ў к а. Янка... чуеш, сынок?.. Усе мне даравалі... а ты... не хочаш?.. Я без твайго слова не магу... не магу сканаць... мне страшна... Суд Божы... ах... я твая матка...

Янка борацца сам з сабой.

Е ў к а. Я ўчыніла табе страшную крыўду... я ведаю... бачыш... я прызнаюся... аднача... даруй, даруй мне, Яначка. Сягоння Хрыстус нарадзіўся... і мне выбачыў... выбач і ты, Яначка... (*Плача.*) Янучок... падыдзі, глянь на сваю матку… скажы

хоць слоўца!..

Я н к а (*падходзіць на крок да Еўкі*). Мама!.. (*Да сябе.*) Штосьці за горла цісне, Божа, Божа — памажы...

Е ў к а. Ох!.. Мне нешта цісне... у грудзёх... (*аддыхае цяжка*) ужо... ужо... зьбліжаецца... страшна... Божа — не пакінь мяне...

Я н к а. Мама... я маме...

Е ў к а. Конч... Яначка... Конч скарэй, бо мне зімна... Касцянею... ужо ўсё чорна ў вачах... нешта душыць...

Я н к а. Няхай Вам Бог даруе ўсё, як я вам ад сэрца дарую.

Е ў к а. Сынок мой!

Янка кленчыць побач з Юлькай.

Е ў к а. Божа... Божа... благаславі ім, наградзі... а мне… будзь… міла... сэр... ным... (*гаворыць гэта штораз цішэй, цішэй, а на апошнім слове апускае галаву — уміраe*).

Усе плачуць.

Я к у б. Ужо канец, Бог міласэрны не даў загінуць грэшнай душэ; ужо цяпер яна на судзе...

Я н к а. Няхай ёй Бог усё забудзе і даруе, — столькі благога, столькі крыўды...

Ю л ь к а. Яначка, забудзься і ты — ужо яна ў Бога, не нашае дзела яе судзіць, гэта ж родная матка наша... Памолімся за яе душу, — няхай Бог будзе ёй міласэрным.

У с е кленчаць і мовяць «Анёл Панскі».

Канец

*4 красавіка 1917*
*Друя*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## У КАЛЯДНЫ, ЦІХІ ВЕЧАР...

Замігацела на ясным небе гвездачка, — за ёй паказалася другая, трэцяя... і вот цэлы іх карагод развярнуўся над роднай зямелькай...

Настаў вечар, ціхі і святы...

А ў гэты вечар усе стварэнні прыціхлі і занямелі; з высокага неба сышоў на зямлю пакой небывалы і маестатычная[1] павага; сэрца людское забілася мацней, і з паняверанай душы выйшаў радасці крык і гімнаў хвалебных адгалосак...

Ідзе куцця...

З кожнага сэрца, з кожнага дому, з кожнага краю — з усёй зямлі ідзе ўвысь да неба вялікае, нестрыманае «Асанна!», як бы дым ахвярны, як бы кадзідла з алтароў...

Ідзе куцця...

Памятка ідзе вялікая, каторай ніхто з сэрца людскога выдраць не можа, каторая з году ў год аджывае ў душах з новай сілай...

Вечар святы і ціхі!

* * *

Ідзе куцця!..

А пры ёй сышліся сем'і цэлыя ламаць аплатак... Замоўклі сваркі, уляглібя нязгоды, і скаргі і енкі ўціхлі... Забыты трывогі і слёзы; забыта нядолі горкая дакука. Бо і чым жа ж наша бедната і паніжэнне перад той беднатой і паніжэннем, якой памятку сённіка святкуем?!.

...У стайні батлеемскай, на сене і саломе, у марозную зімовую ноч прыйшоў на свет убогі свету Пан...

І пастухі першыя пакланіліся Яму.

І паклон гэты быў Божаму Дзіцяці наймілейшы, бо ён прыйшоў на свет, каб бедных узбагаціць, пакорных і нізкіх падвышшыць, хворых лячыць, а ўсіх збавіць...

* * *

Гэй вы, бяздольныя, гэй вы, гаротныя! — то ваша свята настала!

У свеце вам горка, галодна-халодна, і слёзы цяжкія вам льюцца... Душа ваша плача, душа ваша енчыць, і сэрца вам б'ецца боязна!..

Адвагі! Устаньце, ідзіце, куды вас завуць анёлаў скрыдлатых напевы! Сэрцам ахвочым, простым і шчырым падхваціце нябесныя тоны: «Хвала ў вышыне Богу!»

Эхам далёкім, шырокім, як свет, неба вам радасна адкажа: «А на зямлі пакой людзям добрай волі!..»

Добрай волі будзьце, браты! Бо добрая воля і нядолю вашу асалодзіць, і неба вам адчыніць!

* * *

Вечар ціхі і святы — вечар літасці і міласэрдзя...

Чым быў бы чалавек, каб не міласэрдзе Бога, што ў вечар святы на зямлю зышоў, каб усю людскасць ратаваць з пагібелі вечнай?!. Чым быў бы свет, каб не міласэрдзе Бога, што праз новы закон зямлю адрадзіў, — праз закон міласці і справядлівасці?!.

Сам Бог даў нам прыклад і словам сваім, і жыццём, — а мы, што сынамі Божымі завёмся, за прыкладам гэтым ісці мусім верна.

Бог меў міласэрдзе і літасць для нас усіх, што ў няволі граху енчылі, — майма ж і мы міласэрдзе для братоў нашых, што маюць меней ад нас. Справядлівасць для ўсіх, міласэрдзе і літасць для слабых і бяздольных, для ўпаўшых і пакрыўджаных, — вот наша павіннасць, каторай надусё[2] трэба нам вучыцца ў вечар ціхі і святы... Як у пратэстанцкай Англіі не найдзеш кабеты, каторая б не надзяліла ў гэты вечар — «хрыстмас» там званы — убогага ці цёплай стравай, ці адзежынай якой, — так і ў нашай каталіцкай Беларусі ў святы калядны вечар ніхто не мае права забыцца аб апушчаных і бяздольных. Паспяшыць у помач, абагрэць і накарміць — гэта наш святы, вялікі абавязак. Мы не многа маем, але і тым, што маем, дзяліцца мусім, — тым большая, тым пякнейшая будзе заслуга нашая.

* * *

Вечар ціхі і святы — вечар сямейнага шчасця, лучнасці і давольства...

У гэты вечар успомніць нам трэба і аб тых, хто далёка ад роднай сямейкі, пад чужой страхой, за чужым сталом з куццёй разам слёзы невясёлай палыкаюць разлукі...

І аб тых, што ад роднай зямліцы адарваны, так як лісцінкі ад жывога пня, у чужых краях, пад небам чужым, сярод чужых, незнаёмых людзей святы вечар спатыкаюць і праводзяць адзінока; што слоўца роднага, ні песні ад дзяцінства знаёмай ніадкуль не пачуюць, не ўловяць; што да чужых, незразумелых звычаёў мусяць прывыкаць, хоць ім родная хатка і сямейка, і гутарка і песня свая простая, чутая калісьці, даўно-даўно так жыва на памяць прыходзяць, што аж сэрца стогне ў грудзях, — о, і аб тых ўздыхні, мой браток, у гэты вечар ціхі і святы...

І за ўсіх, усіх чыста памаліся ты шчыра да Бога, бо для ўсіх Бог зышоў на зямлю, бо сягодня — свята ўсіх-усіх, хто «добрай волі» ёсць!..

*1913 г.*
*Рым*

## НАВАГОДНІЯ ДУМЫ

І зноў адзін год адышоў у вечнасць... Ідзе новы — невядомы, неразгаданы, таямнічы...

А на ягонае спатканне прыгатаўляюцца ўсе — і шчаслівыя і бяздольныя, і старыя і малыя. Усім ціснецца на вушы пытанне: які ён для нас будзе, гэты новы год?..

Нейкая сіла магутная і невядомая няволіць кожнага да абрахунку з самім сабой. Перад вачыма душы праходзіць мінучына з усімі сваімі радасцямі і вяселлем, з усім сваім горам і бядой. Устаюць перад сумленнем чалавека яго думкі і жаданні; ён відзіць ясна, як развеяліся ягоныя надзеі і як упалі ягоныя ідэалы, быццам замкі паветраныя, быццам сны пекныя і ўладныя... Ён лічыць загубленыя напрасна сілы і змарнаваныя хвілі дарагога часу...

А разам з сваёй індывідуальнай мінучынай устае перад вачыма душы супольная мінучына роднага краю і братняга народа. Што даў нам год мінулы?..

І мы сёння, у хвілі абрахунку, звяртаемся вокам душы да таго, што нам, беларусам, прынёс год стары, і стараемся ўгадаць, што дасць нам новы і чаго нам ад яго чакаць...

Мы сёння маем права цешыцца. Год стары даў нам многа — як на нашы слабыя сілы, дужа многа! Ён даў нам новую газету,

а ў ей новую пляцоўку працы для справы адраджэння. Ён узбудзіў новыя сілы, што дагэтуль, непазнаныя і нявыкарыстаныя, ціха спалі ў лоне народа. Усё больш і больш варухаецца народ. І хоць велізарныя масы ягоныя яшчэ не скінулі з сябе навеянай цэлымі вякамі драмоты, усё ж такі чуць не з кожным днём павялічваецца лічба тых, што зразумелі патрэбу новага жыцця і смела паднялі свой голас за вялікую справу адраджэння. Поле працы ўжо пашырылася, працаўнікоў адважных і ахвочых прыбыло, а разам з іх радамі ўзрасла і надзея на лепшую будучыну. Усё больш і больш шырыцца і ўкарэніваецца ў народзе пракананне, што так жыць, як дагэтуль жылося, далі не можна; што трэба, канешна, шукаць новых дарог і мэт. Народнае самапачуццё расце, а з ім разам расце і сведамасць народных патрэбаў і жаданняў, балючак і хваробаў. Душа народа пачынае жыць інакшым жыццём; ёй цесна стала ў цёмнай, адусюль зачыненай клетцы рэзыгнацыі і безнадзейнага застою, і вось яна стала рвацца на волю, да свету і праўды. Але ёй трэба праваднікоў, светлых і разумных, такіх, каб памаглі ёй развярнуць свае скрыдлы і паказалі мэты, куды ляцець і чаго шукаць. У ёй сіл хопіць — у гэтай здаровай, велізарнай душы беларускага народа, — у ёй сіл хопіць і на найвышэйшыя ўзлёты!

Народ устае — беларускі народ, той, аб каторым прад некалькі гадамі і не чувалася на свеце. Гэта яшчэ пачаткі, гэта першыя крокі... А зараз загаманіць, валам пойдзе, хваляй нестрыманай жывая сіла народа ўпярод, да інакшай долі, да інакшага жыцця, па правы свае і па справядлівасць!.. Зразумелі, відаць, ворагі нашыя, што ўжо не ўдзержыш нічым гэтай сілы, калі яна ракой станецца магутнай; дык прабуюць яны задзержыць яе і зглуміць у самым пачатку, калі яна яшчэ толькі ручайком ціхім плыве. Затое ў гэтым гаду павялічыліся і ворагаў нашых напасці. Але гэтага нам баяцца не трэба, гэта — добры знак: усякая справа мае сваіх праціўнікаў. Спярша смяяліся з нас і літаваліся над намі; гэта было тады, калі мы яшчэ былі сусім слабыя і толькі прабавалі нашых сіл; цяпер яны зашумелі і заварушыліся, сталі ж лічыцца з намі, бо і мы ўзраслі і небяспечнымі ім здавацца пачалі. Яны брызнуць нам злосцю ў вочы і пракляцце нам кінуць пад ногі, але справы нашай не зваююць, не змогуць! Свет зразумее, што яна справядлівая і добрая і ўступіцца за нас. Не, ворагі нам не страшны, хоць і іх рады павялічыліся ў гэтым гаду.

Такі быў год стары, мінулы, — а які новы будзе для нас?

*Такім будзе, якім мы яго самі зробім!* Гэту праўду трэба ўсім

добра зразумець і ўзяць блізка да сэрца. Усе мы ведаем старую як свет прыказку: «Усякі сам свайго шчасця каваль». Гэта прыказка мае свае падставы не толькі ў жыцці аддзельных людзей, але і ў жыцці цэлых народаў. Гісторыя ўсяго свету не раз ужо яе праверыла і пацвердзіла. Толькі тыя народы былі запраўды дужыя і шчаслівыя, каторыя самі сабе долю шукалі; а тыя, што чакалі злажыўшы рукі, пакуль ім доля з неба зваліцца, змарнелі і вымерлі.

Наша будучына — у нашых руках. Але каб яна была пэўнай і прыгожай, усім нам трэба ўзяцца да працы. Ніхто не мае права адцурацца ад агульнай культурнай работы; думаць толькі аб сабе, шукаць толькі свае выгады, гэта — грэх і ганьба, за каторыя будзе мсціцца і Бог і Бацькаўшчына!

З такім пракананнем трэба нам зачаць год новы. Калі мы верна пойдзем па дарозе нашых абавязкаў, год будзе добры і шчаслівы, але калі зачнём шукаць крывых сцежкаў, тым самым утрацім права чакаць і спадзявацца ад новага года благаславенства і паляпшэння нашай долі.

Шлю табе прывет, дарагі Беларускі Народзе! Няхай узмацняецца ў табе пачуццё ўласнай сілы і годнасці, а сыны Твае няхай дружна бяруцца да працы!

А тым, што выйшлі на родную ніву і ўзяліся за цяжкі плуг грамадскіх абавязкаў, даў бы Бог вытрывання і сілы!

*1914 г.*
*Рым*

## «ОЙЧА НАШ» БЕЛАРУСА

Ойча наш, Каторы ёсць у небе! Глянь вокам ласкавым на зямельку нашую бедную і на сыноў яе верных, што да Цябе сёння свой голас падносяць і просяць аб благаславенстве і помач! Выцягні руку Тваю літасцівую і благаславі!

Няхай Імя Тваё свяціцца ад краю да краю! Выпішы Тваё Імя Святое на сэрцы беларускага народа знакамі незацёртымі і спраў, каб Яно ў пашане было па вёсках нашых і гарадох — ад аднаго канца Беларусі да другога! Пакіруй справай нашай так, каб яна вялася Табе на хвалу, а нам на пажытак...

Няхай прыйдзе Каралеўства Тваё — Каралеўства Праўды і Справядлівасці. Крыўдай зямелька наша поўніцца, слязьмі горкімі плача народ... Нам Праўду адабралі, не далі нам Справядл-

івасці... Цяпер мы шукаць іх хочам. Памажы, Божа! Няхай і да нас прыйдзе Каралеўства Тваё...

Няхай будзе Воля Твая, як у небе, так і на зямлі. Воля Твая хоча, каб усё стварэнне ішло сваім шляхам да супольнай мэты, каб усё расло паведлуг[1] сваіх патрэбаў і натуры. Воля Твая хоча, каб адзін народ не прашкаджаў другому ўзмацняцца і спакойна працаваць над пазнаннем Твайго Закону і над долі сваёй паляпшэннем. Няхай жа станецца Воля Твая Святая і на нашай зямлі! Няхай слонца Праўды ёй засвеціць і згоніць з яе прастораў цемру векавечную!..

Хлеба нашага штодзённага дай нам сягоння — і на векі! Долю нам дай, о Божа міласцівы, долю нам дай! Мы енчым так доўга ў паніжэнні і ганьбе; мы здзервянелі ў горы нашым і бядзе, але ў душах нашых не загасла жаданне лепшага жыцця, не ўлёгся голад Праўды і Свету... Мы галодны, мы не маем чаго есці, мы не маем нікога, хто б нам хлеба адламіў штодзённага. Узбудзіш Ты, о Божа, у народзе Тваім працаўнікоў рупных і шчырых грамаду і пашлі ж Ты іх на заглохлую ніву, каб спуставанне паправілі і засеялі зерне Дабра і Праўды.

І адпусці нам даўгі нашы... бо і мы даўгі мелі, а за даўгі ўзялі нам долю і шчасце... Даруй нам грахі нашыя — наша ляніўства і нядбальства, нязгоды і сваркі, і дай нам сілы досі, каб мы паправіліся і да лепшага ўзяліся жыцця. Адпусці нам даўгі нашы, бо і мы адпускаем нашым даўжнікам... Адпускаем усім, хто нас крыўдзіў і туманіў, хто ад нас скарбы нашыя хацеў адабраць — нашу Веру, сумленне, мову і годнасць нашу! Мсціцца не будзем... з душы адпускаем, так, як Ты, о Пане, нам прыказаў!..

І не ўводзь нас на спакусу! Сцеражы нас ад здрады Твайго Імення і Справы нашай! Мы цёмныя і слабыя, а спакусаў у нас многа: чужыя нас завуць у свае рады, хочуць перацягнуць да сябе нашы лепшыя сілы, а нам грошы абяцаюць, і выгоды, і спакой... Колькі іх — і дужых, і светлых, і багатых — за спакусай гэтаю пайшло! Адракліся і зямлі і народа — сокамі зямлі і народнай працай узгадаваныя вырадкі — і запрапасцілі, запрадалі родную справу! О, не ўвадзі ж Ты нас у спакусу, Божа Вялікі!..

Збаў нас ад злога — ад граху, ад здрады, ад ляніўства! Ворагаў нашых паканаць памажы, надзею нам у сэрца ўлі — адрадзі Ты нас, Божа, адрадзі!

*1914 г.*
*Рым*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Янка Трацяк*

## «ЧАЛАВЕКАМ БЫЎ ЁН ПРОСТЫМ...»

Дай жа Божа, каб скарэй адчыніліся вочы
нашаму беларусу і каб ён скарэй зразумеў,
чаго яму найбольш і за ўсё пільней патрэба!

*Пётра Просты*

Можа, і з гэтай нагоды Ільдэфонс Бобіч узяў сабе псеўданім Пётра Просты, а можа, таму, што ў дарэвалюцыйныя часы вельмі часта ўжывалі псеўданімы, каб пазбегнуць прыкрасцяў ад уладаў, ды каб «падкрэсліць сацыяльны кірунак сваёй творчай дзейнасці, сувязь яе з жыццём народа (напрыклад, П. Просты, З. Бядуля, Беларус і г. д.)», як тлумачыць аўтар прадмовы да зборніка «Беларуская дакастрычніцкая проза» (Мн., 1965) В. В. Барысенка. Згадвае ён Пётру Простага і пры іншай нагодзе: «У беларускай прозе значнае месца займае алегарычнае апавяданне. Яно распрацоўвала самыя розныя і актуальныя праблемы. Так, пытанням сацыяльнай няроўнасці, жорсткага нацыянальнага і сацыяльнага ўціску, рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбе народа прысвечаны лепшыя празаічныя алегорыі П. Простага «Воля», Ядвігіна Ш. «Павук», Цёткі «Прысяга над крывавымі разорамі», У. Галубка «Навальніца», Я. Коласа «У балоце», М. Багдановіча «Музыка» і інш.» (тамсама. С. 9).

Гэта, бадай што, быў апошні ўспамін у беларускай савецкай літаратурнай крытыцы пра Пётру Простага, а звесткі аб ім у каментары да вышэйзгаданага зборніка змяшчаюцца ў адзін радок: «Псеўданім невядомага аўтара, які друкаваўся ў «Нашай ніве» (с. 413). Праўда, яшчэ вельмі сціпла і ў шэрагу малавядомых аўтараў згадаў П. Простага Алег Лойка ў сваёй двухтомнай працы «Гісторыя беларускай літаратуры» (Мн., 1989. Ч. 2. С. 52): «Асноўныя тэмы яе [беларускай масавай прозы пачатку стагоддзя. — *Я. Т.*] — жыццё дарэвалюцыйнай вёскі, цяжкая нядоля чалавека працы, яго мары аб лепшым жыцці (апавяданні П. Беларуса «У кузні», Л. Гвазда «Цмок», П. Простага «Слёзы», Н. Бываеўскага «Перад раніцаю»)».

Пералічаныя творы Алег Лойка характарызуе як «прозу малых форм: бытавых замалёвак, пейзажных эцюдаў, дыялогаў, кароткіх сюжэтных апавяданняў» (тамсама. С. 52). Такія творы нібы складалі асобны жанр у літаратуры — абразкі (згадаем «Абразкі» Змітрака Бядулі).

З гэтага жанру і пачынаў Пётра Просты сваю літаратурную дзейнасць. Першы абразок «Слёзы» (Наша ніва. 1907. № 4) быў накіраваны супраць сацыяльнай несправядлівасці. Аўтар, на фоне бездухоўнасці і абыякавасці тых, хто цешыцца ў палацах, паказаў чуласць і добразычлівасць бедных людзей. Не могуць не крануць радкі Пётры Простага з абразка «Воля»: «Цяжкая твая доля, бедны мужык! Доўгія вякі нясеш ты свой нялёгкі крыж!.. Але прыйдзе гадзіна — і ты парвеш кайданы, у каторыя закавалі цябе твае мучыцелі, і высока падымеш свой штандар за свабодную працу, за лепшую долю, за новае, свабоднае жыццё!..» (Наша ніва. 1907. № 5).

Тэма мужыка-беларуса, вера ў яго лепшую долю, абуджэнне яго свядомасці была галоўнаю тэмай творчасці ў тагачаснай літаратуры. Да гэтай тэмы звярталіся не толькі будучыя класікі беларускай літаратуры, але і тыя, хто рабіў першыя крокі ў ёй і ўсведамляў сябе беларусам.

Так, першыя творы Пётры Простага з’явіліся ў 1907 годзе. Было тады аўтару 17 гадоў. Вучыўся ён у гімназіі ў горадзе Коўне. Не зроблены яшчэ канчаткова выбар: кім быць, чаму прысвяціць сваё жыццё; малады хлопец стаяў на раздарожжы і шукаў сябе ў літаратуры. Мы пераконваемся, што гэта былі паспяховыя пошукі. Сведчаннем таму і яго «Абразкі», што былі перакладзены на ўкраінскую мову і друкаваліся ў штомесячніку «Українська хата» (выходзіў у 1909–1914 гг. у Кіеве), а «Грамадській голос» (Львів. № 8) змясціў яго апавяданне «Скарб».

Згадваў Пётру Простага і Сяргей Палуян у артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 гаду»: «Пётра Просты даў адну з лепшых рэчаў таго года «Абразкі» ды і затрымаўся на гэтым. Два другія яго апавяданні — перасказы: адзін з Гарбунова-Пасадава з народных вуснаў» (Палуян С. Лісты ў будучыню. Мн., 1986).

Чаму аўтар «затрымаўся на гэтым», можна растлумачыць тым, што Ільдэфонс Бобіч выбраў сабе дарогу: адчуў пакліканне служыць Богу і ад 1909 года навучаецца ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. Тут ён яшчэ больш зацікавіўся беларускім адраджэнскім рухам, уваходзіць у склад беларускага гуртка семінарыі, удзельнікамі якога ў часы вучобы былі маладыя клерыкі Міхал Пятроўскі, Андрэй Цікота, Віктар Шутовіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Германовіч, Кастусь Стаповіч ды іншыя. Усе яны сталі пазней вядомымі дзеячамі нацыянальнага адраджэння Заходняе Беларусі.

У 1911 годзе Ільдэфонса Бобіча накіравалі на далейшыя студыі

ў Рым, у Папскі універсітэт. Там, у Рыме, ён шырока прапагандаваў беларускую справу і тады ўжо атрымаў бласлаўленне ад папы рымскага Пія X для першай каталіцкай беларускай газеты ў Вільні «Беларус» (першы нумар выйшаў 13.01.1913 года).

У «Беларусе» зрэдку з’яўляліся творы і Пётры Простага. Не абышоў іх сваёй увагай і Максім Багдановіч. Пры пераважна адмоўным стаўленні да мастацкіх вартасцяў паэзіі ў гэтай газеце, Максім Багдановіч між іншым заўважыў: «У аднаго толькі П. Простага ёсць праўдзівая здольнасць. Галоўная вартасць яго — у стройным развіцці думкі ды ў сціснутасці і гучнасці мовы, надзвычайна пекнай па сваему складу. Але надрукаваў ён усяго 2-3 рэчы, ды і тыя былі невялічкія» (Багдановіч М. Поўн. зб. тв. [Мн., 1993.] Т. 2. С. 228).

І Сяргей Палуян і Максім Багдановіч падштурхоўвалі таленавітага літаратара да больш актыўнае творчасці, а яна і сапраўды была нешматлікая. Можна пералічыць мастацкія і публіцыстычныя тэксты Пётры Простага, якія былі надрукаваны ў «Нашай ніве» (1907. № 4, 5; 1908. № 13; 1909. № 13–14, 19, 21; 1910. № 11), у газеце «Беларус» (1913. № 16, 25, 39; 1914. № 1, 2, 4), у «Нашай думцы» (1921. № 2), у «Беларускіх ведамасьцях» (1921. № 8) ды інш. Характэрна для гэтых твораў імкненне аўтара зазірнуць у глыбіню народнае душы, разуменне патрэбы і сцвярджэнне абавязковасці духоўнага і нацыянальнага адраджэння народа, рэлігійнасць і філасафічнасць.

У 1914 годзе асобным выданнем выйшла кніжачка П. Простага «Нашто беларусам газеты». У ёй аўтар грунтоўна і пераканаўча тлумачыць патрэбу беларускамоўнага друку. На яго думку, газета — «гэта не толькі крыніца розных ведаў, парадаў, розная інфармацыя, але і школа выхавання, і шлях да прасветы». Праблемы, якія закрануў аўтар больш за 80 гадоў таму назад, не страцілі сваёй актуальнасці і злабадзённасці. Не лішнім будзе нагадаць іх сёння:

«Але бываюць і такія газеты, што <...> патаемна падкопваюць у чалавеку ўсе святыя цноты і здаровыя засады. Яны ўсё толькі аб зямлі яму гутарку вядуць, аб яго цялесных патрэбах, як быццам чалавек быў толькі для зямлі створаны і не меў ніякіх вышэйшых мэт. Такія газеты часта-густа надта шкодны маюць уплыў на душу чалавека, і дзеля гэтага самага не можна ім верыць і трэба заўсім іх не браць у рукі. Тыя, што іх выдаюць, часта маюць іншую мэту, не праўдзівае дабро свайго народа. Яны абаламучваюць простых, легкаверных чытароў сваіх, зводзячы іх абяцанкамі раю на зямлі, прывучваюць думаць і рупіцца аб целе, а забываюць зусім аб Богу і аб душы сваёй несмяротнай.

Усе мы не раз чулі евангелічнае апавяданне аб ваўку, каторы, каб не быць пазнаным ад пастуха і тым лягчэй спуставаць аўчарнік, над-

зявае на сябе аўчынку. Вось гэтак робяць і людзі, каторыя шыраць гэткія здрадлівыя газеты, і яны ўбіраюцца ў бліскучую адзежу пекных абяцанак, і простыя людзі ім вераць, адчыняюць ім насцеж дзверы сваёй душы, здаецца, усё добра, а глядзі! і неспасцеражэшся, як табе столькі шкоды наробяць, што і паправіць трудна!

І для адраджэння народа такія газеты не многа памогуць, бо пачынаць вялікую справу адраджэння без Бога — гэта тое самае, што будаваць дом на пяску, без трывалых фундаментаў і падпор. Наш народ дагэтуль заўсёды быў рэлігійны, не выракаўся ніколі сваёй Веры, не раз кроў сваю за яе праліваў — за тое ён датрываў аж дагэтуль, і ніякія буры яго не змаглі. Калі ён і надалі астанецца верным Богу і касцёлу і Веру святую будзе шанаваць, як свой найвялікшы скарб, Бог яго пэўне не пакіне і award адваяваць сабе лепшую долю!

Беларускі Народзе! Сцеражы сваёй Веры і свайго сумлення!

І такіх газет нельга нам чытаць і мець штокольвек з імі супольнага, каторыя смяюцца з мовы нашай і нашай зямлі, каторыя ніякай не маюць пашаны для нашай грамадзянскай працы, стараюцца яе асмяшыць і знявечыць; каторыя дзяцей Беларускай Зямлі замест таго каб заахвоціць і павучыць, як узяцца да агульнай работы, стараюцца толькі запужаць ураеннымі страхамі і рознымі абяцанкамі перацягваюць на сваю старану; каторыя сеюць зерне нязгоды між сынамі аднэй Маткі — Беларусі, каб іх аслабіць і звясці з дарогі вялікіх абавязкаў служэння Бацькаўшчыне і братом. Шчырыя прыяцелі нашага народа так пісаць не будуць, — гэта работа ворагаў нашых, а з імі найлепш і не зыходзіцца (с. 12–13).

Дай Божа, каб скарэй адчыніліся вочы нашаму беларусу і каб ён скарэй зразумеў, чаго яму найбольш і за ўсё пільней патрэба!» (С. 15).

Растлумачыць гэтаму цёмнаму і забітаму чужым прыгнётам беларусу, «чаго яму найбольш і за ўсё пільней патрэба», было галоўнаю мэтай творчасці і жыцця Пётры Простага — Ільдэфонса Бобіча.

Пасля вяртання з Рыма (1913 г.) Ільдэфонс Бобіч скончыў навучанне ў Віленскай духоўнай семінарыі і 27.07.1915 г. быў пасвечаны ў святары. Паміж 1915 і 1919 гадамі адсутнічаюць у тагачасным друку яго творы. Магчыма, у душы маладога святара адбывалася змаганне паміж літаратарам Пётрам Простым і святаром Ільдэфонсам Бобічам. Час пазней пакажа, што перамог усё ж такі святар, але застаўся ў рукапісах адзін цудоўны твор, яскравае сведчанне супольнай творчасці і таленавітага пісьменніка, і сапраўднага хрысціяніна, багаслова. Гэта п’еса «Свякроўка». У ёй аўтар не толькі пацвердзіў словы Максіма Багдановіча, але пайшоў далей, — у выніку атрымалася драма, такая нетыповая сваёю тэматыкай і нязвыклая сваёю ідэяй. Безумоўна, тут адчуваецца рука каталіцкага святара.

П’еса, пранятая хрысціянскімі прынцыпамі несупраціўлення злу і сіле. Аўтар не асуджае пакорлівасць перад злом, а сваіх герояў у сутыкненні з ім надзяляе цярпеннем і спадзяваннем на лепшае. Адсюль героі робяцца бездапаможнымі і індыферэнтнымі, не здольнымі да актыўнага і катэгарычнага выступу супраць зла. Хацеў таго аўтар ці не, але ўскосна ён крануў вельмі далікатны і супярэчлівы, на першы погляд, матыў — матыў патурання злу, што, вядома, абвастрыла яшчэ больш драматычную сітуацыю ў п’есе, і яна ад гэтага толькі выйграла. Але, з іншага боку, магчыма, дзеля гэтага матыву аўтар не спяшаўся абнародаваць свой твор. У п’есе зло пашыраецца ды множыцца і вырашае па-свойму лёсы бліжніх. У выніку «прамень» святла гасне, а канфліктную сітуацыю вырашае сам Бог, які карае зло. Але гэта нікога не робіць шчаслівымі. І тут аўтар сцвярджае галоўную ідэю твора — ідэю адпушчэння і даравання грахоў сваім бліжнім. Усё было б добра, калі б злу не патуралі тыповыя беларускія характары: згода, паслушэнства, пакорлівасць, дагодлівасць, цярпенне, дабравольнае прыманне пакут і празмерная надзея на некага... Але гэтыя ўсе рысы (апроч апошняе) з’яўляюцца высокімі цнотамі хрысціянскае маралі. Хрысціяне, аднак, не толькі павінны падстаўляць шчокі, але і весці актыўнае змаганне супраць сілаў цемры, «супраць духаў злосці паднябёсных» (Эф. 6: 12). Зразумела, што аўтар ставіў перад сабою іншую мэту, але нельга не заўважыць наогул у нашай гісторыі і тое, што як на пачатку стагоддзя, так і ў пазнейшых часох, змаганне «супраць духаў злосці» было ў значнай ступені сярод хрысціянаў паслаблена. У выніку ж, магчыма, і наш народ мае тое, што мае. З іншага боку, народ сам праз сваю пасіўнасць не заўсёды быў актыўны ў змаганні. А вось зразумець, дзе і якія сілы, — таксама пільная патрэба беларуса. І яе святар Ільдэфонс Бобіч тлумачыў не толькі сваімі творамі, але і прамовамі, казаннямі, малітвамі. Адметнасцю яго святарскае працы былі беларускамоўныя багаслужбы. Не застаўся ён і наўзбоч практычных захадаў беларускіх святароў у нацыянальна-адраджэнскай справе. Так, разам з Уладзіславам Талочкам і Адамам Станкевічам Бобіч уваходзіць у склад арганізацыйнага камітэта з’езда ксяндзоўбеларусаў, які адбыўся 12–13 ліпеня 1921 года ў Вільні. На з’ездзе ён зачытаў рэферат: «Аб беларускім рэлігійным выдавецтве».

Разам з тым Ільдэфонс Бобіч выступае ў друку з артыкуламі багаслоўскага характару, з патрабаваннямі канечнасці рэлігійнага жыцця для беларусаў.

Працаваць прыходзілася Ільдэфонсу Бобічу ў розных прыходах: вікарыем у Друі, пробашчам у Ідольцы, вікарыем пры віленскай катэдры і адначасна да 1923 года настаўнікам у Віленскай беларускай гімназіі. У 1921–1922 гадох ён выдае вельмі каштоўную і патрэбную

працу ў трох кніжках пад назовам «Нядзельныя эвангеліі і навукі». Былі нечаканыя праблемы і перашкоды з боку польскіх рэлігійных уладаў пры надрукаванні гэтай працы (Гл.: Кс. Ад. Станкевіч. Родная мова ў святынях. 1929. С. 140). За тую працу польскае шавіністычнае духавенства доўга не пакідала ў супакоі Ільдэфонса Бобіча. Далейшыя звесткі пра яго жыццё вельмі скупыя. Вядома, што з Вільні Бобіча неўзабаве выслалі ў Германовічы на пасаду пробашча, а затым пробашчам і дэканам у мястэчка Іўе. У гэты час ён, загнаны рэлігійнымі ўладамі, адыходзіць ад чыннай беларускай дзейнасці. Але памылковым было б лічыць, што Ільдэфонса Бобіча зламалі, пераканалі альбо запалохалі. У 1941 годзе ён напісаў два тамы беларускамоўных казанняў: адзін пад назовам «Роднае слова ў касцёле», другі — «Навучайце ўсе народы». Маніўся напісаць яшчэ чатыры кнігі. Працаваў над імі, але турэмнае зняволенне пры нямецкай акупацыі перашкодзіла здзяйсненню задуманага. Не надрукавана дасюль і яго багаслоўская праца пра малітву «Ойча наш». Як бачым, Ільдэфонс Бобіч пісаў, і пісаў нямала, бо верыў, што рана ці позна творы яго спатрэбяцца людзям. І «Нядзельныя эвангеліі і навукі», і вышэйпералічаныя тэалагічныя кнігі маглі б стаць падручнікамі для беларускага духавенства...

Вось толькі ці думаў Ільдэфонс Бобіч пра тое, што некалі ўзнікне праблема адшукаць гэтыя вельмі і вельмі патрэбныя сёння працы.

Ільдэфонс Бобіч нарадзіўся 22 студзеня 1890 года ў вёсцы Дзедзіна Браслаўскага павета[1] ў сям'і небагатага беларускага селяніна, сёлета былі 105-я ўгодкі з дня яго нараджэння. Пасля турэмнага зняволення ў 1940-х гадох ксёндз занядужаў і 28 красавіка 1944 года яго не стала. Пахаваны ў мястэчку Іўе каля касцёла.

Жывуць у Іўі людзі, якія помняць Ільдэфонса Бобіча. Юзаф Юркевіч шмат гадоў працаваў у касцёле побач з святаром Бобічам, дапамагаў яму: «А кніг у яго было колькі... розных, — расказваў Ю. Юркевіч, — сам пісаў нешта... вершы складаў, нас вучыў вершам. Дарэчы, паслухайце:

Я не зайздрошчу нідзе і нікому,
Крый мяне, Божа!.. Крый мяне Божа!..
Толькі адному зайздрошчу, панове,
Хто добра пісаці ўмее і можа.

Дайце мне пёры, дайце мне карту,
Наўчэце пёрам вадзіць як трэба.
Так бы пісаў я, так бы лятаў я,
Быццам па цёмнаму небу!

Спісаў бы відокі я цэлага свету —
Як кожны пекны, кожны адменны!..
А зараз жутка марнею ўлету,
Бо невучоны, бо непісьменны.

Гэта ён сам склаў. Што вам яшчэ расказаць пра Бобіча? — перапытвае Юзаф Юркевіч. — Добрым ён быў ксяндзом, і гаварыў пап-



# Алесь
# ПРУДНІКАЎ

Алесь (Аляксандр Трафімавіч) Пруднікаў нарадзіўся 14 красавіка 1910 г. у в. Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Пасля заканчэння Мілаславіцкай сямігодкі (1929) год вучыўся ў Магілёўскім белпедтэхнікуме. У 1930 г. працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы — Магілёў — Рослаў, пасля на будоўлях Мінска. З 1931 г. — на рэспубліканскай кніжнай базе, потым працаваў стыльрэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, рэпарцёрам у БЕЛТА. Вучыўся на літфаку Мінскага педагагічнага інстытута (1932–1933). У сакавіку 1933 г. рэпрэсаваны, вызвалены з турмы праз восем месяцаў (рэабілітаваны ў 1956 г.). Затым быў прызваны ў армію, дзе служыў да 1935 г. У 1935–1936 гг. працаваў у рэдакцыі клімавіцкай райгазеты «Камуна». Скончыў Ленінградскі настаўніцкі інстытут (1938). Працаваў настаўнікам, завучам Спаскагубскай сярэдняй школы Пятроўскага раёна, пасля інспектарам Пятроўскага рана ў Карэліі. Адначасова вучыўся завочна на філалагічным факультэце Карэльскага універсітэта. З першых дзён вайны — у апалчэнні, быў разведчыкам знішчальнага батальёна. Загінуў 5 жніўня 1941 г. у час

выканання баявога задання каля в. Уткі Пятроўскага (цяпер Кандапожскага) раёна Карэліі.

Выступіў з першым вершам у рэспубліканскім друку ў 1930 г. Друкаваўся ў газетах «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі», «Беларуская вёска», «Чырвонаармейская праўда», часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», «Чырвоная Беларусь», «Заклік». У 1932 г. асобнай кніжкай выйшла паэма «Зямныя зоры». Аўтар паэмы «Круг дарог» (1933), а таксама іншых твораў, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 55). Асобныя вершы паэта змешчаны ў зборніку «Крывёю сэрца» (1967).

# ПАЭЗІЯ

* * *

Зацвітуць бялявыя вербы,
табуны мітусяцца хрушчоў…
Я ўбачыў клён — станам нязграбным
прыгарнуўся да ліпіных шчок.

Як квітнела ў тумане свяча —
залаціў месяц нечую голень;
можа, клёна ды ліпу вянчаў,
можа, дзеўчына спала на полі.

Толькі я, калі зорка пагасла,
заблудзіўся туды, падарожнік,
Дык пад лісцем вясенняга ясеня
паўстала радзімая пожня.

Ой, калі ўсееца дымам
ды пялёсткі пасыпле на жвір,
а калоссі зярняты падымуць
чалавечай вышэй галавы, —

прыслануся пад шатамі ясеня…
Струны крануцца надзіва.
І радзіма тады не пагасне
у песнях маіх лебядзіных.

*16 чэрвеня 1929 г.*

## ПАМЯЦІ ПАЎЛЮКА ТРУСА

Не заспі,
пабудзі мяне рана,
о!.. мая
дарагая матуля!..

*Паўлюк Трус*

Не, не пабудзіць маці дарагая!..
Як сноп зарніцы неба азарыць,
Яна маўкліва выйдзе за курганы,
Дзе дзве сцяжынкі крочаць з-за гары.
Адна супыніцца ў тумане сінім,
Вачамі слёзнымі угледзіцца у даль,
Ці не пакажацца там постаць сына?..
Толькі сына ўсё чамусьці не відаць…

І пасыплюцца слёзы матчыны,
Нібы перлы рос залацістыя…
Ветры буйныя раскудлачацца,
Замятуць прастор-поле чыстае.
Бо пагасла зара юнай цвецені,
Бо замоўклі навек струны звонкія.
Асыпаюцца іх букецікі
На мурожныя травы золкія.

Больш не пабудзіць маці дарагая…
Як сноп зарніцы неба азарыць,
Яна маўкліва выйдзе за курганы,
Дзе дзве сцяжынкі крочаць з-за гары.
Адна сутуліцца ў тумане сінім,
Вачамі слёзнымі угледзіцца у даль…
Няма, няма там дарагога сына,
Ён больш не вернецца пад саламяны дах…

* * *

На вуліцы конь заірзаў
І змоўк, галаву апусціўшы.
Ён хоча туды, назад —
На ціхі зялёны гасцінец.

Туманныя ночы. Лугі. Асака.
І цёплы паўднёвы дожджык,
Дзе хвалямі мерна рака
Калышацца спелага збожжа.

Туды яму хочацца на адпачын,
На пышных лугах пакачацца,
Адчуць, міма вольх ідучы,
Рэдкае конскае шчасце.

Ён, можа, не ведае, што ў аглаблях
Жыццё сваё страціць заўчасна…
І слёзы ніхто не захоча губляць
Над чэрапам вечарам ясным…

…Вось так жа і я па гасцінцы прайду
З надзеяй на будучынь дальнюю,
Пакуль на парог забыцця прывядуць
Ногі майго развітання.

* * *

Усё так спакойна, усё адмірае.
Заўвагі, развагі на ўлонне спадуць.
І людзі запішуць былое над краем
З няведамай шчырасцю дум…

Нашчадкі, як некалі продак іх волат,
Узложаць вячысты цярновы вянок
На кнігу брыльянтаў чароўнага слова,
Даруючы памяць вякоў —
маладосць.

## НА ВАКЗАЛЕ

Цішы нерухомае тут не налучыш,
хвіліны падлічаны кожным.
Чаканнем ахоплен балючым
ў натоўпе людскім падарожнік.

Жаданне ў душы кожны носіць,
гадзінамі сочыць заўзята,
як стрэлкі паўзуць па дарозе
люстровага дна цыферблата.

А дзесьці даюцца сігналы,
як лебедзі, мчацца вагоны,
душа у трывожнай навале
затоіць чуццё дарагое…

Пацякуць на перон пасажыры
з пакункамі дзеля пасадкі.
Навокала вочы чужыя
шкляную рассейваюць вадкасць.

Рассядуцца шумна знянацку,
купэ не пакінуць парожнім…
З нас кожны ў разбезе юнацкім
маленькіх шляхоў падарожнік.

Вакзал жа шуміць і гамоніць,
ён вечна хвалюецца нівай…
Так наша жыццё дарагое
хвалюецца новым прылівам.

*4 верасня 1930 г.*
*Ворша*

* * *

Ноч глухая...
Цярушыцца снег.
Затапляецца ў зарыве горад.
Месяц плечы кастлявыя гне —
Падымаецца ціха угору.

Я стаю.
Доўга думаю я...
І не верыцца нават самому,
Што мяне ўзгадавала зямля
Каля гумен, прапахлых саломай.

Дзесьці крокі рыфмуе цягнік...
Гул губляецца
Ў шпаркім разбезе...
……………………………………..

Зацвітае ў маёй крыві
Маладая пара паэзіі.

Ноч прайшла.
Пачынаецца дзень.
Свечкі зор патухаюць, бы ў моры…
...Ты сустрэўся сягоння мне
Невыказнаю радасцю, горад.

*1930 г.*

## ЗВІНЯЦЬ АБШАРЫ

Восень звонкая — звіняць абшары,
Павуціны сцелюцца па полю...
Манеўруюць качкі у надхмар’і
Над празрыстым люстрам вадапою.
Я стаю. У садзе дрэвы зябнуць.
Думы рвуцца ў палявую цемень...
Асыпаецца лістота з яблынь
На палёў абстрыжанае цемя.
Не шкадую згубленай красы іх,
Не сумую больш па іх увечар.
Зразумеў, што на прасторах сініх
Шлях другі пралoжан чалавекам.
Пачакай, асенняя сцюдзёнасць!
На сцяжынцы, маем утрамбованай,
Мяне стрэне, юны і бадзёры,
Дзень вясенні, ў зелень
афарбованы...

І я знаю — рань зямнога раю
Зноў сады ахутае лістотай.
Вось таму і ласкава прымаю
Стынь асенняй дзіўнай пазалоты.
Я пайду на шторм свайго імкнення,
У страі тварцоў да мэты мчацца,
Каб тварыць другому пакаленню
На зямлі маёй зямное шчасце!

*1931 г.*

## МАЛАДЫ ПЛЫТАГОН

На беразе
на пакатым —
ярусы бярвення смалянога,
гэта сосен ствалы чубатых,
якія раслі на аблогах,
якія у пушчах заснежаных
незакранутымі стаялі,
сочучы,
як месяц-ліхтар падвешаны
хістаўся адзін над палямі.
А ўранні вершалін далоні
да сонца ўвысь працягвалі...
Здавалася —
рынуцца на ўлонне,
на далячынь неабсяжную.

Гады ім дадалі дужасці,
не ахапіць — таўшчынёю.
— Цяжка з такімі
піле падужацца, —
галасіла піла шчанём.
Сырымі іх вывезлі з лесу
і палажылі на беразе
для сплаву
у краі бязлесныя,
дзе доўгія гладзі ды зоры ўверсе;
там шахты Данбаса
стоек

чакаюць у вузкія штрэкі,
каб падкрапіць стопудовыя столі іх
новым і дужым крэпам.
На якары лес стаяў
звязаным у грабёнкі,
калі пазнаёміўся я
у будцы дарожнай
з Сёмкам.

— Раніцаю адплывём, —
кінуў слоўца ўбок
і квола вачыма правёў,
паказваючы на бонт.
Хлопец ты добры, відаць,
бяры сабе лепшы шост. —
Яму я руку падаў
і разам на прыстань пайшоў.
Вячэралі рыбу і бульбу
ля вогнішча мы гурбой...
Рака стагнала бабулькаю,
кідаючыся на бонт.
— Уставай, плытагон малады, —
Пабудзілі мяне ўранні.
Над вадою,
і каля вады
паразвешаліся туманы.
Крануліся,
і...
лугі
знаёмыя нас пакідаюць;
адзін за другім загіб —
і новых абшараў далеч.
Злуе калі плынь ракі, —
штыль у руках трымай.
Практыкаваныя плытнікі
на вяку сустракалі шмат.
Неба ў вір празрысты
упала і там — нерухома.
Мінаем за прыстанню
прыстань —
Радасць усім і нікому.

Камлі набракаюць вадою,
ногі мне хвалі ліжуць,
і шлях карацее доўгі,
і адпачынак бліжай.
Жаўранкі, быццам бомы,
ў надхмарным блакіце спяваюць
адзін на падмен другому...
Толькі падмену няма нам.
— Глядзець табе на плыты,
зоркае вока плытагона.
Напагатове трымаць штыль
метраў у сем пагонных.
— Эх, хлопцы, —
я задаволен,
што ўзялі мяне з сабой.
Дагонім да Кіева
і на Волгу
пойдзем усе гурбой.
...Так плыў малады плытагон
уздоўж па Дняпры на грабёнцы.
Праходзілі постаці дзён
шырокім гасцінцам пад сонцам.

*1931 г.*

## АБРАБАВАНЫ СТРОНГ

Гэта было на ваенным парадзе.
Горад грымеў. Хваляванні. Рух...
Стронг не бунтуе... Ён любіць
парадак...
Ён верыць Вільямсу — гаспадару.
Вось ён выходзіць вясёлым з аўто
З верай у поспехі шахтаў, Вільямс,
І па-акцёрску вітае натоўп.
І цешыцца раннем яго сям'я.
Ён Стронга рукой па плячы пахлопаў:
— Ты кроўны ангелец, Стронг!
Я помню, калі выпраўлялі ў акопы
Цябе на германскі фронт:

Дзень быў зялёны...

I лэдзі вам слалі
Свае пацалункі з букетамі руж...
Ішоў ты без імя...
Вярнуўся са славай
З-за даляў Ла-Манша пад маршы труб!
Якая ўцеха! Я многа павінен...
Бо ты пераможцам прыйшоў у Брадфард
I зноўку вугольныя крышыш цвярдыні.
Геройскі імпэт
I брытанскі форс!
Усе акіяны разлінены плаваннем,
Рэйсам увязаны ў вузел парты.
У сусветных затоках,
у бухтах і гаванях
Вугалем нашым жывуць флаты.

Спяём жа з табою мы славу вітальную
Нашай блакітнай краіне цуд!
Брытанец ніколі не здрадзіць Брытаніі.
Як спрытнасць спартсмену, як рукі плыўцу.
...Гэта было на ваенным парадзе...
Стронг у захапленні,
ён верыць, што:
Брытанец брытанцу нізашта не здрадзіць,
I можна падняць за Вільямса тост,
I можна прайсці адвячоркам па травах,
I лёгка дыхнуць, і забыць на тугу, —
Вільямс не пакрыўдзіць...
У чым жа справа?
А справа ў тым, што гады бягуць.
Глухім запусценнем на банкі лажацца,
I голад на шыю кладзе пятлю,
I Стронг не патрэбен цяпер у шахце,
Як вугаль патопленаму караблю.

Ён доўга блукаў па пляцах-праспектах,
Стамляліся ногі... Куды ісці?
I ў думках вярзлося, як быццам
ён скептык,
Не бачыць жыцця ў жыцці.

— Што ж мне — павесіцца?
Выпіць атруты?
Кінуцца з даху у бездань-шлюз?
А вы балявацьмеце, паны,
над трупам
З віватамі вугальнаму каралю,
У штрэках якога
жыццё я пакінуў?
Згарэўшых у топках за дваццаць год,
Там русасць валос маіх выбеліў іней,
Там стан мой сагнуўся у крук дугой...
А ты захаваўся, Вільямс, не чуеш?
Я горкую праўду хачу сказаць:
Ты абакраў мяне!
Я патрабую —
Вярнуць мне жыццё назад!
Не зможаш? Я знаю цябе, сабака!
Схаваўся за шторы сваёй хлусні!
Твой Стронг пасівелы не ўмее плакаць,
Маліцца зладзею, падаць ніц.
Няхай я галодным пайду з кастылямі
І з раненых ног няхай выступіць кроў, —
Я скіну адвечнага рабства лямку
На тлустыя шыі багатыроў!
Мой прадзед — жабрак старасвецкі,
Я ж быў таварам жывым свой век...
І ўрэшце народзіцца,
сонцу ўсміхнецца
У муках няволі мой сын — чалавек!

*1932 г.*

# ЗЯМНЫЯ ЗОРЫ
*Урывак з паэмы*

## ЗАМЕСТ УСТУПУ

Люстрам зялёным вады
легла усцяж рака;
па берагах крутых
скібы раскідала скал.

Многа прайшла шляхоў,
многа стварыла лук,
хваляў сваіх сахой
кроіла роўны луг.

Крэйду і твані глей
са дна вынасіла вон...
Мелі зашмат уклей,
мелі шырокіх вод.

...Тут, як жабрак-сірата,
стаяў над вадою млын
і прагна ваду глытаў
зяхам вірлівых глыб.

Можа, прайшлі б гады
і млынавы след знік бы,
як на паверхні вады
кругі некранутыя нікнуць…

# КРУГ ДАРОГ

*Урыўкі з паэмы*

Кужалем сцелецца
пар і дым,
гудуць тэлеграфныя
правады —
так пачынаецца
круг дарог...

Вочы зялёныя
пражэктароў
мацаюць рэек
халодную сталь;
шпарка імчыцца
насустрач даль.
За вокнамі ноч
і гусцее цень,
плашма лажыцца
туману шчэць.
Звонка і ціха!
Ні ветру, ні зор...
Лёгкія ўздрыгі
вагонных рэсор...
Румы снуюцца —
ідуць да мэт:
— Заўтра прайдуся
ля зжатых ніў...
Яшчэ,
і яшчэ,
і яшчэ кіламетр —
і горад далёкі
за лесам знік.
Першае лета
травіцу скуб
ён з маткаю
на аблоні.

Расці, малады віхор!
Будзь стройным,
высокім
і дужым!

Цябе яшчэ многа год
чакаюць для працы напружнай.

## ГАДќ

Гады языкамі не зліжуць
памяць з жыцця дарог.
Ляжаць далягляды абстрыжаныя
восенню каля дуброў.

Стаю на перонным глянцы я,
чамадан у руках парожні.
І мне прыгадалася станцыя —
першая ў падарожжы.

Адплыла яна хваляй азёрнай
(там стаялі два ясені стройныя).
Паглядзеў я вачамі зорнымі
у акно маёй памяці яснае.

З сілуэта малога —
вялікая
вырасла постаць, як дрэва.
Па-ранейшаму зноў яе клікаю,
хоць і ведаю —
не сустрэну.

Лірыка, дзіўная лірыка,
ты на мяне не падобная.
Ці не таму я і выракся
ўсякае песні нядобрае.

## НАЗАД

— Слаўнай дарогі табе,
мой даражэнькі сыночак! —
Матчыны словы любей
за самых ласкавых дзявочых.

Забудзеш каханак навек,
і знікнуць яны, як паданне,
а маці у сэрцы жыве
заўсёды і ўсюды, як праўда.

На шлях яна стала, і я
шапкай махнуў на расстанне.
Маці мая... маці мая...
У сэрцы маім не растанеш.

Абстрыжаны восенню лес
завесіў абрысы паселішч,
і ластаўкі слоў маіх селі
на рукі алешын-калек.

Дарогі ў вузел звяжу
і з пройдзеных тысяч прагалаў,
як поясам, я абвяжу
па экватары земную галу.

І томамі мудрых кніг
прайду акіянаў глянцы!
...І вось падабраў цягнік
мяне з невялікай станцыі.

У тахт пад калёсны разбег
песня крылатая крочыць:
«Слаўнай дарогі табе,
мой даражэнькі сыночак!»

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Павел Пруднікаў*

## ЯГО ЗАБЫЦЬ НЕЛЬГА

Мне хочацца расказаць сваім сучаснікам пра шчырага паэта і чалавека, з якім я амаль чвэрць веку дзяліў і кавалак хлеба, і цыгарку, і радасць, і гора, з якім я разам пачынаў жыццё, разам выдаваў першую сваю кніжку.

Сын сялян-беднякоў, сірата, пазбаўлены шчаслівага дзяцінства, Алесь Пруднікаў толькі дзякуючы сваёй упартасці, савецкай уладзе і добрым людзям змог атрымаць адукацыю і займацца літаратурнай працай. Успамінаючы сваё дзяцінства, паэт пісаў:

Я стаю.
Доўга думаю я.
І не верыцца нават самому,
Што мяне ўзгадавала зямля
Каля гумнаў, прапахлых саломай.

А. Пруднікаў нарадзіўся 14 красавіка 1910 г. у вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Трохгадовым хлапчуком ён згубіў бацьку, і яго разам са старэйшым братам Сымонам і сястрой Марыяй гадаваў айчым.

Школьны парог Алесь упершыню пераступіў у 1917 годзе, але пачатковую школу, у якой у той час налічвалася ўсяго тры класы, ён змог скончыць толькі ў 1925 годзе. Прычынай гэтага была Грамадзянская вайна. У 1929 годзе ён скончыў Мілаславіцкую сямігадовую школу, пасля некаторы час вучыўся ў Магілёўскім педтэхнікуме.

Час вучобы ў сямігодцы і педтэхнікуме з’явіўся часам нараджэння яго як паэта. Першы верш з’явіўся ў рэспубліканскім друку («Чырвоная змена») у красавіку 1930 года. У гэтым жа годзе, у кастрычніку, ён пераязджае ў Мінск, дзе спачатку працуе на будаўніцтве ў якасці чорнарабочага, затым на кніжнай базе, у Белдзяржвыдавецтве і нарэшце ў БЕЛТА.

З гэтага часу на старонках беларускага перыядычнага друку

вельмі часта пачалі з'яўляцца вершы А. Пруднікава.

У 1932 годзе ў Белдзяржвыдавецтве асобным выданнем выйшла яго паэма «Зямныя зоры», якая была станоўча адзначана тагачаснай крытыкай і цёпла сустрэта чытачамі.

З 1933 па 1935 год А. Пруднікаў служыць у радах Чырвонай Арміі. Як і раней, ён многа піша і друкуецца, толькі пераважна ў армейскіх выданнях. Гады службы ў арміі яшчэ больш загартавалі і ўзбагацілі яго.

Пасля дэмабілізацыі з арміі ён працуе ў клімавіцкай раённай газеце «Камуна». Там аднавіў работу літаб'яднання, у якім ужо ў той час расціў свой талент зараз вядомы беларускі пісьменнік Іван Новікаў, а некалькі раней пачыналі сваё літаратурнае жыццё Павел Кавалёў і Аляксей Кулакоўскі.

У 1936 годзе А. Пруднікаў паступае па літаратурны факультэт Ленінградскага настаўніцкага інстытута, які рыхтаваў спецкадры для Карэліі. Гэта казачная краіна даўно вабіла да сябе маладога паэта, і ён быў рады выкарыстаць выпадак. Пасля заканчэння інстытута ў 1938 годзе ён тры гады працуе на Поўначы — на радзіме «Калевалы» — настаўнікам. Там ён напісаў новую кніжку вершаў, некалькі паэм, апавяданняў, нарысаў; назбіраў на цэлы том фальклорнага матэрыялу. Усе гэта паэт акуратна апрацаваў і збіраўся адразу па прыездзе ў Мінск здаць у Белдзяржвыдавецтва. Аб гэтым ён паведамляў мне ў маі 1941 года, але 22 чэрвеня пачалася Айчынная вайна.

З першых дзён вайны А. Пруднікаў апынуўся ў радах апалчэнцаў, а праз некаторы час быў ужо ў партызанскім атрадзе разведчыкам. Не адно баявое заданне давялося выканаць паэту-воіну. Але ў апошнім сваім баі, у вёсцы Утукі Пятроўскага раёна, ён трапіў у рукі фашысцкіх карнікаў. 5 жніўня 1941 года пасля цяжкіх катаванняў ворагі яго павесілі.

Так трагічна абарвалася жыццё шчырага і сціплага паэта-воіна.

Не многім вядома творчасць Алеся Пруднікава. Але нягледзячы на тое, што шмат год прамінула з дня яго гераічнай смерці, нас і сёння хвалююць лепшыя яго вершы, напісаныя ў свой час аб індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны і рэвалюцыйным руху на Захадзе, аб любві і дружбе савецкай моладзі. У адным з сваіх вершаў ён пісаў:

Дзесьці крокі рыфмуе цягнік...
Гул губляецца
Ў шпаркім разбезе...
……………………………
Зацвітае ў маёй крыві
Маладая пара паэзіі...

Так, сапраўды, ён быў маладым і застанецца назаўсёды такім у нашай памяці.



# Уладзімір
# РАГУЦКІ

Уладзімір Лаўрынавіч Рагуцкі нарадзіўся 9 снежня 1917 г. у в. Цёплае Чавускага раёна на Магілёўшчыне.

Вучыўся ў школе ў в. Старое Пашкава Магілёўскага раёна. У 1936 г. скончыў у Магілёве сярэднюю школу. Затым вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1939 г. Працаваў у рэдакцыі абласной газеты «Камунар Магілёўшчыны», адкуль быў прызваны ў армію. Загінуў на фронце ў 1941 г.

Першы верш апублікаваў на старонках газеты «Піянер Беларусі» ў 1934 г. У 1940 г. Дзяржаўным выдавецтвам БССР быў прыняты да друку першы зборнік яго вершаў, але рукапіс не ацалеў, быў згублены ў час вайны. Друкаваўся ў газетах «Камунар Магілёўшчыны», «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя рэвалюцыі». Асобныя вершаваныя творы змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967), «Покліч долі адзінай» (1979), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2) і некаторых іншых.

# Паэзія

## ПРАХОДЖУ Я...

Мінаючы звонкія сосны,
Бурлівыя рэкі, палі,
Праходжу я вечарам росным,
Дарогамі роднай зямлі.

І чую, як нівы гамоняць,
Шумяць сінявокія льны,
Па сёлах спяваюць гармоні
Прыгожыя песні вясны.

І мне не стрымаць хвалявання,
Не выказаць радасць сваю —
Я песням іду на спатканне
І песням руку падаю...

З вясёлым агнём маладосці
Над краем яны расцвілі.

І месяц і зоры зайздросцяць
Над стэпам і борам, калі,
Мінаючы звонкія сосны,
Бурлівыя рэкі, палі,
Праходжу я вечарам росным
Дарогамі роднай зямлі.

*Старое Пашкава*

## ПАШТАЛЬЁН

Вокны насцеж —
сонца залатое!
Азіраю пышны далягляд:
Хтось ідзе цяністай стараною, —
Зачарован зеленню прысад,
Хараством блакітнага світання,
Прывітальным посвістам сініц...
Сам асыпан пылам красавання
Белакудрых грэчак і пшаніц.

Пазнаю я русую чупрыну
І яго вясёлую хаду.
На спатканне —
стройная дзяўчына,
Несучы крынічную ваду.
Вось яны вітаюцца шчасліва,
І знімае ён, бы незнарок,
Сумку з плеч,
напхануюрупліва,
І спыняе дзеўчына свой крок.

Славіць сонца радасць маладую.
Цвет губляе топаль ля акон,
І пісьмо ад мілага — мяркую —
Падае дзяўчыне паштальён.

І пісьмо — здаецца мне — здалёку,
Ці не з мора сіняга ужо?
Мо з Адэсы, мо з Уладзівастока,
з Камсамольска-горада няўжо?

Адно бачу: лёгкая трывога,
Пунсавеюць шчокі, як зара.
І вада плюскоча на дарогу
Ручаямі срэбнымі з вядра.

І стаіць разгублена дзяўчына...
Як у вершы гэта расказаць?

Паштальён хаваецца за тынам,
І прыгожа вішні шалясцяць!

*1937–1938 гг.*
*Старое Пашкава*

# НЕЗАБУДКІ

Я цяпер не ведаю спакою:
Усхвалёван раннем залатым,
Калі спудзіў качак над вадою,
Бег да кветак берагам крутым.

Доўга думкі роіліся: цуда!
Ты згубіла вочы між травы...
Гэтых воч ніколі не забуду,
Бо яны глыбокія, як вір.

Бо часамі мроіцца усюды
Прамяністы погляд малады...
А тым больш ніколі не забуду
Цягніка знікаючага дым.

Не забыць, як вольнымі часамі
Маляваць любіла кожны раз, —
Выраслалі кошыкі з грыбамі,
Караблі і сонечны гараж.

Як вясною часта з захапленнем
Праз акно на белыя сады
Ты глядзела ў лёгкім задуменні...
Ну, аб чым ты думала тады?

Мы аб гэтым гутаркі не мелі,
Ды было не цяжка адгадаць:
— Дзе знайсці такія акварэлі,
Каб такую радасць перадаць!

Вось мяне на золаку румяным
Сёння сцежка ціхая вядзе:
Я цяпер прыходжу кожны ранак —
Светлых незабудак паглядзець.

*1938 г.*

## ХВОЯ

Цябе любіць ранак золкі,
Любіць ясная зара,
Пасля дождживыка вясёлка
Абнімае, як сястра.

І, як вечарам паволі
Ахіне прастор імжа,
На тваім шырокім голлі
Зоры спелыя дрыжаць.

І стаіш ты, ані дбаеш,
Над глыбокаю ракой,
У люстэрка пазіраеш,
Умываешся расой.

Рэюць песні над табою,
Спеюць ягады вакол,
Але заўтра, раніцою,
Ты павалішся на дол.

А як скоцішся з абрыву,
Я скажу:
— Шчаслівы пуць!
За табою над вадою
Мае мары паплывуць.

Па імклівых водах нашых
Будзе шлях твой да пары:
Мае мары разгадаўшы,
Спыняць дзесь цябе сябры.

Змераць поглядам любоўным...
І тады — у іх руках —
Станеш скрыпкаю цудоўнай,
Небывалай у вяках.

Для прыгожай гордай мэты
Зберагуць цябе як след, —
І на конкурсе сусветным
Здзівіш музыкаю свет.

Будзе дзень вялікі гушкаць
Тваю песню на руках.
Запяюць чароўна птушкі
Пад узмахамі смычка.

Нават пушчы загамоняць,
Зашумяць на ўсе лады.
Гучна ў яблыкі зазвоніць
Сад багаты, малады.

Будзе сэрца калыхацца
На высокіх хвалях струн.
Акрыляе гром авацый
Славы нашае зару.

*1938 г.*

## М. А. НЯКРАСАВУ

Яго вабілі родныя клёны,
Сенажаці і хвалі ракі...
Адвячоркам на беразе сонным
Пачыналі спяваць бурлакі.

У іх песнях — праклёны багаццю,
Гневу-болю вялікага сказ,
Над калыскай журботнае маці
І над хатай задумлівы вяз.

Плылі гэтыя песні далёка,
На спатканне ім хлопчык, як мог,
Паскараў свае лёгкія крокі, —
І каменьчыкі беглі з-пад ног.

Ён прыходзіў на бераг высокі
Да знаёмых агнёў залатых...
І дзіцячае сэрца глыбока
Раніў сумны бурлацкі матыў.

Беглі годы... Каціліся хвалі...
Гудзеў сумна спрадвечны гушчар.
Людзі слоў незвычайных шукалі.
Іх знаходзіў вялікі пясняр.

Ён, магутны, устаў над краінай,
Дзіўных песень вялікі ўладар,
Быў адданым народным ён сынам,
Гнеўнай праўды, свабоды пясняр.

*1938 г.*

## 17 ВЕРАСНЯ

Каліны схіліліся нізка,
І плакаў засмучаны гай.
Матуля ў журбе над калыскай
Спявала:
  — Ой, баюшкі, бай!
Ты станеш на ногі, саколік,
А долі не знойдзеш нідзе,
І спевам птушыным ніколі
Цябе не парадуе дзень.

Яшчэ ад маленства да смерці
Зазнаеш нямала прынук, —
На панскіх абшарах прыйдзецца
Згінацца за працай у крук.
А сцежкі-шляхі да навукі
Для нас зараслі палыном... —
І раптам
  — на вуліцы грукат.
Матуля зірнула ў акно.
Грымелі магутныя танкі —
Чырвоныя войскі ішлі —
На новы матыў калыханку
У бедную хату няслі.

*1939 г.*

# НА ЎСПАМІН

Хутка з кіпарысамі, з гарою
Развітанне сумнае прыйдзе.
Возьмуць рэчы розныя з сабою
На ўспамін таварышы мае.
Я на ўсё пытліва пазіраю.
Ўсхвалявала думка і мяне:
Што душою ў Крыме ўпадабаю —
Зберагу ў далёкай старане.
Мне не трэба чашкі адмысловай,
На здзіўленне свету усяму,
Не вазьму адкрытак каляровых
І шкатулкі рэдкай не вазьму,
Не вазьму і кветак беласнежных —
Не вазьму найлепшай пекнаты...
І пайду не блукаць па ўзбярэжнай,
А пайду на бераг на круты.
Там, дзе пырскі падаюць далёка,
Рэжуць чайкі крыллямі ваду, —
Я вазьму каменьчык круглашчокі
І ў сваю кішэню пакладу.
Каб і там, дзе мора не спаткаю,
У хвіліну марнае гульбы,
Як рука ў кішэню завітае,
Я не мог аб моры пазабыць.
Каб убачыць: родныя прыбоі
Коцяць камні — словам не сказаць!..
Каб запомніць: з мужнасцю якою
Трэба кожны камень абрабляць.

*1940 г.*

## ЧАЙКА

Спала мора, поўнае спакою,
Скованае сном і цішынёй.
Нат усе хмурынкі над вадою
Застывалі гэтаю парой.
Чайка ж захлыналася ад піску
І спакойна лётала адна...
Спудзіць сон — глыбокі, багатырскі —
Як відаць, задумала яна.
Чайка мора дужае збудзіла,
А сама загінула ў імгле,
Каб зрабіцца хваляй белакрылай
І спачыць на каменнай скале.

*1940 г.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Мікола Аўрамчык*

## ПАЭТ І ЧАЙКА

Прозвішча Рагуцкага запала мне ў памяць яшчэ з дзесяцігодкі. Яго вершы паявіліся тады ў «Чырвонай змене» і час ад часу друкаваліся на старонках «Літаратуры і мастацтва» і «Полымя рэвалюцыі».

Калі я паступіў у Мінскі педагагічны інстытут, я не ведаў, што ў ім вучыцца Уладзімір Рагуцкі.

У кастрычніцкім нумары «Полымя рэвалюцыі» быў змешчаны яго верш «Хвоя».

Аляксей Коршак хадзіў па інстытуцкім калідоры і на памяць чытаў уголас радкі з гэтага верша.

Нехта са старшакурснікаў пахваліўся, што гэты верш напісаў іх студэнт, і паказаў нам Рагуцкага, чарнявага хлопца з мілым дзявочым абліччам.

Праз нейкі месяц «Полымя рэвалюцыі» на адным развароце надрукавала побач яго і мой вершы. Мы былі імяніннікамі... Хтосьці тады і пазнаёміў мяне з Рагуцкім.

Як-ніяк ён быў усё-такі трэцякурснік, дый па ўзросце старэйшы за мяне на тры гады. Таму я звычайна неяк нясмела падыходзіў да яго на перапынках. А Уладзімір таксама быў сарамлівы і заўсёды ветлівы... У дадатак, як і большасць старшакурснікаў, ён ужо сур’ёзна рыхтаваўся да самастойнай працы ў жыцці, не сланяўся без справы і не бурапеніў, як мы, першакурснікі.

Мы зрэдку сустракаліся на калідорах, чыталі адзін аднаму свае вершы.

Відаць, любоў да літаратуры, асабліва да паэзіі, яму прышчапіў яго настаўнік, вядомы беларускі паэт Янка Журба, які вучыў Рагуцкага ў Пашкаве на Магілёўшчыне. Уладзімір неаднойчы расказваў мне пра свайго настаўніка.

Памятаю, як я ўпершыню ўбачыў Журбу, калі ён прынёс у рэдак-

цыю газеты «Піянер Беларусі» новыя вершы. Пры размове з ім я ўспомніў пра Рагуцкага. Трэба было бачыць, як засвяціўся радасцю твар Журбы, як з гонарам ён сказаў тады:

— О, дык гэта ж мой вучань!.. Я цяпер уважліва сачу за яго вершамі...

Пасля заканчэння інстытута Уладзімір да прызыву ў армію працаваў у рэдакцыі газеты «Камунар Магілёўшчыны». Ён здаў у выдавецтва зборнік сваіх вершаў. Рукапіс гэтага зборніка загінуў.

Больш я не сустракаўся з Рагуцкім. Помню толькі, што ўлетку 1940 года ў «Літаратуры і мастацтве» прачытаў два яго вершы. Адзін з іх, пра чайку, заканчваўся радкамі:

Чайка мора дужае збудзіла,
А сама загінула ў імгле,
Каб зрабіцца хваляй белакрылай
І спачыць на каменнай скале.

Як гэтая чайка, і сам паэт загінуў у імгле вайны.

У апошні год вучобы Уладзімір падараваў мне фотаздымак і некалькі сваіх вершаў, што былі перапісаны на старонках з вучнёўскага сшытка. Вершы, на жаль, не захаваліся. А фотаздымак уцалеў. Ён змяшчаўся ў кнігах «Мы іх не забудзем» і «Крывёю сэрца». З гэтага фотаздымка зроблены партрэт, які вісіць у Доме пісьменнікаў.



# Рува
# РЭЙЗІН

Рува Шоламавіч Рэйзін нарадзіўся ў 1911 г. у г. Лондане (Англія), куды сям'я выехала на заробкі.

Рана застаўся без бацькі. Пасля вяртання на радзіму, у Мінск, яго сям'я жыла ў нястачах і беднасці. Выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Слуцку, адкуль уцякаў некалькі разоў. Бадзяўся з катрыншчыкамі па мястэчках Беларусі. Васемнаццацігадовым прыехаў у Мінск (1929). Працаваў мулярам на будоўлі. Вучыўся на рабфаку, а затым паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педінстытута, які закончыў у 1937 г. У 1940 г. быў прызваны на вайсковую службу. З першых дзён вайны — на фронце. Загінуў у баі ў 1942 г.

Выступаць у друку пачаў з 1929 г. Пісаў на ідыш. Друкаваўся ў газетах «Юнгер арбайтэр» («Малады рабочы»), «Акцябэр» («Кастрычнік»), часопісе «Штэрн» («Зорка»). Выдаў зборнікі «Вершы і апавяданні» (1929), «Цяжкай працай» (1940), асобным выданнем таксама выйшла паэма «Вялікая Хартыя» (1935). Вершы Р. Рэйзіна ўключаны ў зборнік «Лира» (М., 1985). У перакладзе на беларускую мову яго творы змешчаны ў зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Дзень паэзіі» (1971).

# ПАЭЗІЯ

## ФАНЬКА

I

Ты ўзнялася першая на дах,
І наўкол ад здзіву
І ад страху
Толькі ўсе й казалі:
— Вой-вой! Ах!
Як гэта дзяўчына
І на даху?

Потым стала больш
І больш дзяўчат
І на дахах, і на рыштаваннях.
У спяцоўках цешылі пагляд,
Непаўторныя ў сваіх стараннях.

Слухаюцца спрытных, маладых
Пэндзлі барадатыя і кельмы.
На будоўлі ўдарнай
Кожны міг
Дарагі і працавіты вельмі.

II

Як Фанька з прафтэхшколы ўпершыню
Прыйшла ў малярны цэх,
Усе наўкола
Замоўклі,
Ды парушыў цішыню
Хлапечы бліск вачэй
І смех вясёлы.

Як Фанька пэндзаль захацела ўзяць,
Усіх ад рогату аж захістала...

Было самую можна фарбаваць —
Калонай знерухомелай стаяла.

І да яе ў мурзатым хвартуху,
З запэцканай у фарбу барадою
Сам майстра падышоў
І стаў крыху
Далей,
Бо сукня ззяла чысцінёю.

— Вы сапраўды
Зрабіцца маляром
Надумалі, таварыш дарагая?
Вас не палохае ні град, ні гром?
А хлопцы толькі зыркалі й міргалі.

Спыталася:
— Не бачылі людзей? —
І падняла пакрыўджаныя бровы.
Зняла апратку верхнюю хутчэй.
Сказала:
— Рукі працаваць гатовы.

Нібыта нехта падмяніў хлапцоў,
Збянтэжыліся ўсе й пачырванелі,
І адракліся ўраз ад грубых слоў.
Спяцоўкі перад сукняй анямелі.

III

Хто гэта смяяўся?
Хто спяваў?
З малярамі смелая дзяўчына
Дах фарбуе,
Ёй хапае спраў,
Абагнаць хлапцоў
Яна павінна.

Толькі ружавее далягляд,
Фанька па драбінах хісткіх вёртка
Узлятае ўгору,
Акурат
Па сасне замроенай вавёрка.

Падымаецца наўслед за ёй
У нябёсы сонца залатое.
Быццам хочуць дружнай талакой
Цэлы дзень папрацаваць абое.

Маладыя, ясныя яны,
Сонейка і Фанька.
І абоім
З вышыні ўсе далечы відны.
І абое дружаць з неспакоем.

Вочы — іскры чорныя,
Ад іх
Сэрца ў хлопца полымна ўзгарыцца.
Фанька між напарнікаў сваіх
У сукенцы лёгкай, як царыца.

Жмурыцца прыціхлы краявід.
Ахалоду толькі сніць спякота.
Падахвочвае мужчынскі спрыт
Светлая дзявочая пяшчота...

* * *

У агнях усміхаецца горад, як зыркія птахі,
Прыселі яны на вячэрнія дахі...

Добры вечар, мой Мінск, павітацца з табою хачу.
Колькі год пад акном я катрынкі хрыпатай не чуў.

І не ўбачыш даўно ўжо, сталіца, на радасных вуліцах
Беспрытульных, што ўночы ў трушчобе забруджанай
туляцца.

Сам бадзяўся калісь, беспрытульным я быў пацаном.
А цяпер маю шлях у жыццё, маю родны я дом.

Кліча ўперад мяне, як ніколі цяпер, спадзяванне,
Жыць хачу і тварыць, поўніць грудзі мне гэта жаданне.

Мяне кветкамі горад п’яніць і дзяўчатамі зноў.
Можа, тут сваю першую я напаткаю любоў.

А сустрэнуся з ёй, дык ужо сарамліва не збочу,
Гляну смела любімай дзяўчыне ў задумныя вочы.

Не сустрэць ёй ніколі мяне больш ужо ў лахманах,
У шаўковай кашулі мяне сёння ўбачыць яна.

Падарунак куплю ёй, аддам ля той самай вітрыны,
Дзе лічыў, беспрытульны, я некалі марна гадзіны.

Горад мой, родны Мінск, ты ў вячэрніх агнях залатых.
Я іду, малады, па асветленых плошчах тваіх.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор РЭЛЕС*

## ПАЭТ-САЛДАТ

Творчы шлях Рувы Рэйзіна пачаўся ў канцы 20-х гадоў, напярэдадні першай савецкай пяцігодкі. Гэта быў час бурнай індустрыялізацыі, масавай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і росту культурна-асветніцкай дзейнасці ў гарадах і вёсках. У гэты перыяд выхадцы з яўрэйскай беднаты — дробныя гандляры, саматужнікі і жабракі — таксама падаліся на заводы, фабрыкі, у калгасы, пацягнуліся да асветы. І Рува Рэйзін часта з гонарам гаварыў пра тое, як ён, у мінулым беспрытульны, які неаднойчы ўцякаў з дзіцячага дома, вандраваў з катрыншчыкам, працаваў затым малярам на буйных будоўлях, стаў паэтам, а потым і студэнтам інстытута.

Рува Рэйзін у 1929 годзе закончыў прафтэхшколу і стаў маляром-ударнікам.

Вось тады і з’явіўся ў друку першы яго верш «Фанька», які стаў хрэстаматыйным.

З таго часу на старонках газет «Акцябэр», «Юнгер арбайтэр» і часопіса «Штэрн» часта з’яўляліся яго вершы і паэмы.

Памятаю вясну 1936 года. Мы — малады празаік Моця Дзяхцяр (ён загінуў на фінскай вайне), пачынаючы паэт Захар Барсук (загінуў на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны), Рува Рэйзін і я — сядзелі ў выхадны дзень у парку Чэлюскінцаў.

Раптам перад намі з’явіўся высокі худы хлапец. Ён быў у адных трусіках. Рукі і грудзі пакрыты татуіроўкай.

— Рува? — запытаўся ён здзіўлена.

— Мішка Шалапут!

Хлапец заявіў:

— Я хуценька. У магазін збегаю. Такую сустрэчу нельга не адзначыць.

Калі ён знік, Рува нам сказаў:

— Гэты хлапец зух. Былы беспрытульнік. Два разы ўцякаў з дзіцячай калоніі. Спрактыкаваны кішэншчык. Пападаўся ў выключна рэдкіх выпадках.

— Адкуль ты яго ведаеш?

— У дзіцячым доме разам былі. І потым сустракаліся. Толькі не прагаварыцеся, хто я цяпер. І пра сябе не расказвайце, калі хочаце, каб я выклікаў яго на шчырую размову.

Хутка з'явіўся Шалапут. У сінім касцюме і жоўценькіх туфельках. Ён падсеў да нас і разгарнуў скрутак. Там было дзве бутэлькі, каўбаса, хлеб.

— Ну, як твае справы? — запытаўся Рува. — Усё ўверх ідуць? Яшчэ ў тым жа трэсце арудуеш? Ці, можа, пласцінку перамяніў?

Хлапец нахмурыўся і маўчаў.

— Развяжы язык, — не адставаў ад яго Рэйзін, — тут усе свае, і не бойся. Рува не з тых, хто падводзіць.

— Рува, — сказаў Мішка ціхім голасам, — вельмі прашу цябе: пра маё мінулае забудзь. А прозвішча маё Левін, калі ты да гэтага часу не ведаеш. А калі цікавішся мной па-сапраўднаму, дык магу ўвесці ў курс справы. Летась я закончыў Ленінградскі чыгуначны інстытут. Працую інжынерам у Віцебскім дэпо. Тут я ў камандзіроўцы. І табе, Рувачка, таксама пара развітацца з мінулым. Хочаш, паедзем са мной? Я цябе ў дэпо ўладкую?

Мы так і пакаціліся са смеху...

Рува любіў сяброў, быў шчыры і таварыскі, уважлівы да будзённых людскіх клопатаў. Але галоўнае, чым ён жыў, была паэзія.

Рува Рэйзін выявіў сябе ў 30-я гады як адзін з таленавітых паэтаў у яўрэйскай літаратуры. Пра гэта сведчаць хаця б такія цудоўныя вершы, як «Фанька», «У агнях усміхаецца горад...». За сваё кароткае жыццё ён паспеў выдаць тры зборнікі вершаў. Вершы Рувы Рэйзіна, лірычныя па сваёй сутнасці, былі ў той жа час прасякнуты і грамадскімі матывамі. Духоўны рост чалавека — адна з цэнтральных тэм творчасці паэта. А яшчэ ў мінскіх часопісах і газетах ён змяшчаў вершы на абаронную тэматыку. Паэт быў улюбёны ў сваю родную старонку Беларусь, яе прыроду. Усё гэта таксама знайшло адбітак у яго паэзіі.

Рува Рэйзін станоўча адносіўся да савецкай улады. Ён быў упэўнены, што калі б не яна, то ён на ўсё жыццё застаўся б катрыншчыкам альбо валацугам. Чаго грэх утойваць: любіў ён Сталіна-правадыра, толькі лічыў, што яго падводзяць кіраўнікі НКУС. Паэт, як і многія ў той час, не ведаў, што злачынствы супраць сумленных людзей сыходзілі ад Сталіна — «бацькі ўсіх народаў», як ён сам сябе называў. Таму Рува ў сваёй паэме «Вялікая Хартыя», маючы на ўвазе Канстытуцыю, якая была прынята ў гады першай пяцігодкі, так праслаўляе Сталіна. Але культаўскі пафас не складае аснову паэзіі Рувы Рэйзіна, а толькі ўсяго фрагмент яго творчасці.

Пасля інстытута яго накіравалі працаваць у вёску, ён засмучаўся:

— Мяне пасылаюць на работу ў сельскую мясцовасць, каб у армію не ўзялі.

— Але ж, — растлумачылі яму, — на сяле настаўнікаў не хапае. А ў арміі абыдуцца пакуль і без цябе.

Рува настояў на сваім: праз некалькі месяцаў ён быў на вайсковай службе. Хутка ў яўрэйскіх газетах і часопісах з'явіліся яго армейскія вершы...

Апошні раз мы бачылі Рэйзіна летам 1940 года, калі ён прыязджаў з арміі ў адпачынак. У мінскім Доме пісьменнікаў яму тады арганізавалі творчы вечар. Рува чытаў новыя вершы з армейскага жыцця. У ваеннай форме ён выглядаў бравым, падцягнутым. Спражка на ім аж зіхацела. Боты былі наглянцаваны да поўнага бляску. Куды дзявалася яго сутуласць? Адчувалася, што Рува паводзіць сябе, як належыць афіцэру.

Праз некалькі дзён мы зноў праводзілі яго ў часць.

Армія стала яго другой сям'ёй. Байцы любілі свайго ўзводнага. Яны ведалі, што ён паэт, і ганарыліся ім. Афіцэры яго таксама любілі і паважалі. Ён быў добры і справядлівы. Як верны сын Радзімы, ён аддаў жыццё ў баях за яе. Імя яго высечана на мемарыяльнай дошцы ў будынку Саюза пісьменнікаў Беларусі.

І яшчэ вось пра што думаецца сёння. Калі б не абарвалася яго маладое жыццё ў самым росквіце творчай дзейнасці, ён, безумоўна, стаў бы ў шэраг выдатных паэтаў яўрэйскай літаратуры.



# Рыгор СУНІЦА

Рыгор Суніца (Рыгор Ціханавіч Лынькоў) нарадзіўся ў красавіку ці маі 1909 г. у чыгуначнай будцы каля в. Старое Сяло Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці.

З 1923 да 1925 г. жыў у в. Свержань на Рагачоўшчыне. Вучыўся ў мясцовай сямігодцы, пасля ў сярэдняй школе ў Бабруйску. З 1928 г. працаваў загадчыкам хаты-чытальні ў в. Ахвоцічы Бабруйскага раёна. Прыблізна ўвосень 1929 г. уладкаваўся на працу ў газету «Камуніст» (Бабруйск). Адначасова займаўся на курсах марзістаў пры гарадскім райваенкамаце. Служыў у арміі, а пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў рэдакцыю газеты «Камуніст». Потым пераехаў у Мінск. У 1936–1941 гг. — адказны сакратар газеты «Літаратура і мастацтва». Загінуў у 1941 г. на фронце.

Выступаў як паэт, перакладчык, крытык і публіцыст. Друкавацца пачаў з 1925 г. Першыя творы апублікаваў у 1926 г. на старонках газеты «Камуніст» і ў літаратурным альманаху «Уздым» Бабруйскай філіі «Маладняка». У 1928–1931 гг. змяшчаў вершы ў штомесячніках «Вясна» і «Ударнік» — літаратурных дадатках да газеты «Камуніст».

Пераклады і артыкулы пад уласным прозвішчам і крыптанімамі Р. Л., Р. Л-коў і інш. друкаваў у газетах «Камунар Магілёўшчыны», «Камуніст», «Палеская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», часопісе «Полымя рэвалюцыі». Перакладаў з рускай, украінскай, польскай, нямецкай, іспанскай, грузінскай, казахскай, яўрэйскай моў. У яго перакладзе на беларускую мову асобным выданнем выйшла апавяданне Л. Панцялеева «Пакет» (1938). Таксама пераклаў п’есу М. Святлова «Казка», якая была пастаўлена ў 1941 г. Удзельнічаў у перакладзе вершаў для «Выбранага» У. Маякоўскага (1940).

Аўтар артыкулаў і рэцэнзій «Творы Я. Купалы на ўкраінскай мове» (1937), «Мачыха» А. Бальзака» (1938), «П’есы беларускіх драматургаў на сцэнах братніх рэспублік» (1941) і некаторых іншых.

Зрабіў творчую спробу ў жанры прозы. У 1927 г. надрукаваў у газеце «Камуніст» апавяданне «Лыска» пад псеўданімам Р. Смелы.

# Паэзія

## ЭХ ВЫ, ДУМКІ…

Эх вы, думкі золатазвонныя,
Эх ды стромені бяздонныя,
Век крынічыць у вас моладасць,
Неўміручая, разгонная.

Вы, бы шыр-палі бязмежныя,
Нібы моры безбярэжныя.
У вас сіла — сіла волата,
Усё ў свеце вам падлежнае.

Вы й гарача-санцавейныя,
І віхурыста-завейныя.
Б’еце вы па часу молатам, —
Іскры ў свет лятуць надзейныя.

*1926 г.*

## РАНІЦА

Рана, рана,
Шчэ не ўзыдзе сонца,
Сцежкай знанай
Полем іду ў бор.

Свет далёкі
Расчыніў вaконцы,
Душа рвецца
На прастор.

*

Па нізінах
Спяць яшчэ туманы,
На раслінах
Зіхаціць раса.

Вабіць даллю
Свет нязнаны.
Золак багровы —
Краса!

*

Каля рэчкі
Не шумяць чароты,
І над грэчкай
Пчолы не гудуць.

Дыша ранне
Пахам сотаў,
Захад смокча
Шэрань-муць.

*

Сонейка праменнем
Глянула з-за гаю,
Ўсім стварэнням
Кліч падала: «Жыць!»

Эх, зямелька,
Родны краю,
Як вас
Не любіць?!

*1926 г.*

## РЫТМАКАПЫТАМУ ДРУГУ

О конь, прад табою
    бязмоцны паэты,
Не скласці ім песню

такую, як ты:
Бяжыш, і па бруку
чаканяць манеты,
Віхорныя маршы
грымяць капыты.

Ударыш аб камень,
і — пырскамі іскры,
Бы сноп метэораў,
пасыплюцца ў змрок, —
Хоць з сэрца паэта
рамантыку выскраб,
А п’е, як віно,
твой імклівісты крок.

Як зорнаю ноччу,
упіцца ім хоча,
З глыбінямі неба
у сэрца уліць,
Каб сінімі сталі
збялеўшыя вочы,
Каб даўнія рытмы
ў душы абудзіць.

І ловіць ён бег твой,
як подых вясновы,
Хапае рукамі,
як казку, як сон...
О конь, пераразвоны
сталёвых падковаў
Дарожай яму,
чымся золата звон.

Ён помніць даўно
прамінуўшыя хвілі,
Той час, адзвінеўшы
ў мінулае ўгрунь,
Калі твае ногі
вымервалі мілі
Пад музыку волава
ветравых струн.

Было: пад уздрыгі
гарматных грымотаў
Імжылася кроў
на зялёны мурог, —
Ты бег праз палі
і скрываўленым потам
Жывіў чалавека,
што к шыі прылёг...

Ўздагонку гадзюкамі
сыкалі кулі,
Звінелі напевам —
зім-зум... цэ-цэ-цэ…
Ўсё ж лірыка смерці
цябе не кранула,
Твой бег даімчаў цябе
к сіняй рацэ.

Спявалі аб смерці
халодныя хвалі,
І пырскі, як скаргі,
ляцелі на бераг,
І вербы згіналіся
з болем і жалем
Ад скаргаў халодных,
тых скаргаў бязмерных...

Ты стаў ля вады
і пачуў, як шапталі
Збялелыя вусны
падзяку, як другу...
Паранены друг твой,
таварыш Галя
Зубамі ірвала
тугую папругу.

І волю пачуў ты,
і радасным крыкам
Хацеў да жыцця
абудзіць прасторы.
О конь!.. Не збылося...
Як войстрая піка,
Працяў цябе стогн
ад бяскрайняга гора.

Хвалі халодныя
дыхалі смерцю,
Шмат тут герояў
магілу спаткала, —
Раны абмыла ў іх
любая Галя,
І... затрымцела
гарачае сэрца.

Страшкімі сталі
грымоты гарматаў.
Страшна, што сонейка
засціла дымам,
Страшна, што позна ўжо
несці адплату
За кроў і за раны...
Так марна гіне!

Вочы згаслі.
І... згасла сонца!..
Так бо здалося табе,
о конь мой.
Любы таварыш
быў дораг бясконца.
У роспачы біў ты
зямлю падковай.

У роспачы гнуліся
нізка вербы,
Пырскамі плакалі
сінія хвалі,
Скаліўся вечар
чырвонымі шчэрбамі,
Як памірала
на беразе Галя...

А за узгоркам
сціхала бойка,
Чулася: грае
апошнім акордам.
Кавэскадрон
біўся з ворагам стойка,
Непераможнай
адвагаю горды.

Гэтак было.
А ці ж так не будзе?
Конь, ты у новую
бойку гатовы?
Ты пастарэў,
але дужы у грудзях,
І на капытах
не збіты падковы.

І прад табой —
не бязмоцны паэта, —
Бачыў, склаў песню
такую, як ты:
Бяжыш, і твой бег
расцвітае санетам
І маршам паходным
звіняць капыты!

*1930 г.*

## НА СКОНЕ ДЗЁН
*Лірычная эпітафія*

Сёння ты задумаўся глыбока...
З-пад імха брывей не відна вочаў:
Знаць, спаткалі думы-звадыёкі,
Пахіснулі сэрца твайго крокі
І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы.
Сёння ты задумаўся глыбока...

З-пад імха брывей не відна вочаў.
Ну, бяда? — вятры каменні точуць,
Дык няхай і па-над сэрцам крочуць!
Ветрам сёння тваё сэрца — камень.
З-пад імха брывей не відна вочаў...

Знаць, спаткалі думы-звадыёкі
Не пяшчыннік крохкі сярод поля:
Зваяваць не цяжка яснавокіх,
Для якіх пад сонцам свет шырокі.
А цябе вось цяжка, мой саколе,
Знаць, спаткалі думы-звадыёкі...

Пахіснулі сэрца твайго крокі
Не табою ўспешчаныя вады,
А прыйшлі што госцьмі з таго боку,
Скуль і жорсткі вецер, аднабокі.
Незнаёмых госцяў шумы-рады
Пахіснулі сэрца твайго крокі...

І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы,
Дзе няма ні месяца, ні зораў
І не відна, у які бок крочыць,
Бо старыя вочы ўжо не хочуць
Пазіраць у новыя прасторы, —
І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы...

Сёння ты задумаўся глыбока:
Калі долу хілюцца ўжо плечы, —
Апынуцца цяжка адзінокім,
З акалелым сэрцам і бязвокім.
На канцы дарогі чалавечай
Сёння ты задумаўся глыбока...

*1930 г.*

# ПЕРАКЛАДЫ

*Аляксандр Пушкін*

## У СІБІР

У глыбіні сібірскіх руд
Хавайце гордае цярпенне,
Не згіне праца вашых рук
І дум высокае імкненне.
Няшчасцю верная сястра,
Надзея ў змрочным падзямеллі
Абудзіць весялосць і смеласць,
Прыйдзе жаданая пара:
Сяброўства і любоў людзей
Дайдзе да вас праз змрок засоваў
Так, як у катаржныя зводы
Мой вольны спеў да вас ідзе.
Аховы цяжкія спадуць,
Астрогі рынуць — і свабода
Вас рыме ветла ля ўвахода,
І меч браты вам аддадуць.

*Адам Міцкевіч*

## БЛЫХА І РАВІН
*Байка*

Равін раз у Талмудзе зарыўся па вушы,
Цярпеў, як блыха джгала, ды гнеў яго уз’юшыў.
Прысачыў, злавіў яе. Стогне ў пальцах сцятых,
Круціцца, выцягвае пыску, нажаняты:
— Даруй, рэбе, мудраму не варта гнявіцца.
О, святы сын Леві, не дай крыві праліцца!

— Кроў за кроў, — пярэчыць ён, — Вельзевула плоддзе,
Тлушч, як філістымлянка, нажыўшае ў шкодзе!
Мурашкі запас маюць, рой пчол працавітых
Зносяць мёд і воск сабе, а шэршань напітак.
Ты ж адна сярод людзей смактачом дыбаеш,
З п’яніц тым шкаднейшая, што чужога дбаеш...
Змоўк, і як палонную павалок к расправе,
Блыха нема піскнула: «А чым жыве равін?»

*Уладзімір Маякоўскі*

## ВАЙНА АБВЕШЧАНА

«Вячэрнюю! Вячэрнюю! Вячэрнюю!
Аўстрыя! Германія! Італія!»
І на плошчу, змрочна акрэсленую чэрняю,
барвовым струменем кроў паліла!

Морду на кроў разбіла кафейня,
барвеючы крыкам звярыным:
«Атруцім крывёю гульні Рэйна!
Ядраў грымотамі ў мармур Рыма!»

З неба, падзёртага аб штыкоў джгалы,
слёзы зор прасейваліся, як мука ў сіце,
і падэшвамі сцятая жаласць вішчала:
«Ах, пусціце, пусціце, пусціце!»

Бронзавыя генералы на гранёным цокале
малілі: «Раскуйце, і мы з вамі ў ногу!»
Развітальна конніцы пацалункі цокалі,
і пяхота прагла да забойцы-перамогі.

Гамузнаму гораду вярэзіўся ў сне
рагочучы голас гарматнага баса,
а з захаду падае чырвоны снег
сакавітым ашмоццем чалавечага мяса.

Уздымаецца ля плошчы за ротай рота,
у злуючай на ілбу надзімаюцца вены.
«Гакайце, шаблі аб шоўк какотак
выцерам, выцерам на бульварах Вены!»

Газетчыкі надрываліся: «Купіце вячэрнюю!
Аўстрыя! Германія! Італія!»
А з ночы, змрочна акрэсленай чэрняю,
кроў барвовым струменем ліла і ліла.

*Жнівень 1914 г.*

## МАМА І ЗАБІТЫ НЕМЦАМІ ВЕЧАР

Па чорных вуліцах белыя мацеры
сутаргава распасцёрліся, як па труне глазет,
паўплакваліся ў гарланячых аб пабітым
непрыяцелі:
«Ах, закрыйце, закрыйце вочы газет!»
Пісьмо.
Мама, гучней!
Дым.
Дым.
Дым яшчэ!
Што вы мямліце, мама, мне?
Бачыце —
паветра ўсё вымашчана
грукочучым пад ядрамі каменем!
Ма-а-а-ма!
Зараз прыцягнулі зранены вечар.
Трымаўся доўга,
куртаты,
шаршавы,
і ўраз —
надламіўшы тлустыя плечы,
расплакаўся, бедны, на шыі Варшавы.
Зоры ў хусцінках пад сіні паркаль
вішчалі:
«Забіты,
о любы,
о любы мой-ой!»
І ў жаху касавурыцца вока маладзіка
на мёртвы кулак з зацятай абоймай.
Збегліся дзівіцца літоўскія сёлы,
як, пацалункам ў кульцяпку ўкованая,

заслязіўшы залатыя вочы касцёлаў,
пальцы вуліц ламала Коўна.
А вечар крычыць,
бязногі,
бязрукі:
«Няпраўда,
я яшчэ магу-с —
хэ! —
здрэнькаўшы шпоры агністай мазуркай,
выкруціць русы вус!»

Званок.
Што вы,
мама?
Белая-белая, як на труне глазет.
«Пакіньце!
Аб ім гэта,
аб забітым, тэлеграма.
Ах, закрыйце,
закрыйце вочы газет!»

*Кастрычнік 1914 г.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Васіль Вітка*

## НАША ВЯСНА

<...> Успамінаючы Бабруйск, работу на лесакамбінаце, у заводскай шматтыражцы «За ўдарныя тэмпы», супрацоўніцтва ў «Камунісце», загадзя скажу, што гэта — самыя дарагія для мяне жыццёвыя старонкі. Гэта быў час юнацтва, няхай сабе цяжкага і галоднага, але поўнага радаснага ўсведамлення сваёй непасрэднай прыналежнасці да найвялікшай перабудовы ўсяго жыцця.

Моладзь першай адчула высокую паэзію гераічных дзён, і не дзіва, што ўсе мы з такой прагнасцю імкнуліся да працы на новабудоўлях, да авалодання ведамі, да кнігі, да газеты. І свае радасці, і свае нягоды мы давяралі друкаванаму слову. Ніколі яшчэ не былі такімі блізкімі паміж сабой заметка, допіс рабселькора і паэтычныя радкі, якія выходзілі з-пад аднаго пяра, што пісала і пра камсамольскі спектакль на вёсцы, і пра нясмелыя пачуцці кахання.

Газета «Камуніст» была руплівым і чулым арганізатарам творчых сіл на Бабруйшчыне. Штомесячным літаратурным дадаткам «Вясна», альманахам «Уздым», сваімі літаратурнымі старонкамі яна далучала да творчасці ўсё новых і новых людзей.

Так, пачаўшы з рабкораўскіх допісаў, становіцца вядомым пісьменнікам тэлеграфіст са станцыі Асіповічы Хвядос Шынклер. Адну за другой піша кнігі пра жыццё і працу чыгуначных рабочых.

Незабыўным сяброўствам я абавязаны брату Лынькова — Рыгору. Тыя, хто ведаў яго па Бабруйску ў дваццатыя — трыццатыя гады, памятаюць, напэўна, пацёрты, зрудзелы шынялёк, што дастаўся яму ад старэйшага брата Міхася. У гэтым шыняльку, апаленым Грамадзянскай вайной, прайшло юнацтва абодвух братоў. Для старэйшага яно, гэтае юнацтва, канчалася, для серадольшага пачыналася. Грыша Лынькоў едзе ў вёску Ахвоцічы, непадалёк ад Бабруйска, і працуе там хатнікам — загадчыкам хаты-чытальні, асноўнага ідэйнага і культурнага асяродку ў той час на вёсцы. Актыўны прапагандыст новага жыцця, ён становіцца селькорам і

паэтам. Абраўшы сабе прыгожае паэтычнае прозвішча — Суніца, Рыгор публікуе свае першыя вершы.

Юнак з незвычайна чулай душой і суровай ашчаднасцю да кожнага свайго слова, ён адразу ж вылучыўся сярод нас маштабнасцю вобразаў, значнасцю думкі. Адзін з яго вершаў называўся «Лірычная эпітафія» і напісаны быў амаль у той час, як і вядомы верш Янкі Купалы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...». Успамінаючы верш Суніцы, яшчэ раз упэўніваешся, якім прадбачлівым, якім чуйным быў малады паэт да гістарычнай драмы і да псіхалагічнай складанасці характару селяніна:

Сёння ты задумаўся глыбока...
З-пад імха брывей не відна вочаў.
Знаць, спаткалі думы-звадыёкі,
Пахіснулі сэрца твайго крокі
І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы.
Сёння ты задумаўся глыбока...

Я прыводжу гэтыя радкі па памяці. І тое, што цераз паўвека яны не забыліся, яшчэ раз падкрэслівае, наколькі моцнае ўражанне зрабіў верш на сваіх сучаснікаў.

За сваё кароткае жыццё Рыгор Суніца надрукаваў не болей двух дзесяткаў вершаў, але яны вабілі нас музычным харавством і кампазіцыйнай дасканаласцю. Зноў па памяці прывяду пачатак яго верша, прысвечанага фізкультурніцы — жывой, рэальнай юнай бабруйчанцы, у якую, як мы здагадваліся, Грыша быў закаханы:

Не хістайся, белаблузая,
Не танцуй,
Не танцуй!
Па камандзе слухай музыку —
У ланцуг,
У ланцуг!

На старонках бабруйскай «Вясны» разгарнуў свае крылы для палёту студэнт Рагачоўскага педтэхнікума Алесь Жаўрук.

Вясна нашай маладосці натхніла ўзнёслую паэтычную прозу Барыса Мікуліча.

З душэўным болем успамінаем мы дарагія імёны гэтых людзей. Яны аддалі Радзіме не толькі сваю творчасць, але і сваё жыццё.

У першы ж дзень вайны браты Лыньковы — Міхась, які быў старшынёй Саюза пісьменнікаў, і Рыгор — адказны сакратар газеты «Літаратура і мастацтва» — пайшлі ў свае часці, да якіх былі прыпісаны. Яны не паспелі нават развітацца з сем'ямі. І адна, і другая сям'я трагічна загінулі. Няма дакладных звестак пра смерць Грышы Лынькова.

Некаторыя знаёмыя расказвалі, што бачылі яго на пераправе цераз Бярэзіну <...>

Міхасю Ціханавічу — свайму рэдактару, старэйшаму другу, удзячны многія, і асабліва тыя з нас, чыя жыццёвая і творчая біяграфія звязаны з Бабруйскам, газетай «Камуніст», з «Вясной» — часопісам і незабыўнай вясной нашага жыцця.

*Васіль Вітка*

## СУНІЦЫ

*Памяці Рыгора Лынькова*

Яшчэ няспелае, дачаснае,
Упала ніцам
І запалала лета краснае
Усё ў суніцах.
Упаў на шлях апошні ясень,
Як пагранічнік.
Пад гусеніцамі не гасне,
Гарыць сунічнік.
Світанак у смузе дыміцца
На пераправах.
Гараць чырвоныя суніцы
У чорных травах.
Цівосе жыта налілося,
Запалавела —
Агнём калоссе занялося
І спапялела.
Над устрывожанай Айчынай
Маланак рэха.
Гарыць ляшчэўнік у лагчыне —
Вянкі арэхаў.
У лесе снайперы кукуюць,
А не зязюлі.
І, затаіўшыся, цікуюць
Дарогу кулі.
І колькі нас у тых лагчынах —
Не злічыць рэха.
Чарнее завязь па ляшчыне —
Вянкі арэхаў.

Далёкі досвітак дыміцца
На пераправах.
Гараць жалобныя суніцы
У чорных травах.

*1976 г.*

*Янка Казека*

## НА ПАЧАТКУ ШЛЯХУ

### 1

Амаль усё, што вядома было пра жыццё беларускага паэта і перакладчыка Рыгора Лынькова (вершы свае ён падпісваў псеўданімам Рыгор Суніца, пераклады і артыкулы — уласным імем і прозвішчам), змясцілася ў кароценькіх біяграфічных нататках, надрукаваных у дзесятым томе БелСЭ і ў іншых выданнях. Энцыклапедыя змясціла і партрэт паэта. На фота ён у чырвонаармейскім шынялі і ў шлеме.

Раней, у 1967 годзе, гэты партрэт і верш Рыгора Суніцы «Рытмакапытаму другу» з'явіліся ў зборніку «Крывёю сэрца», складзеным з твораў беларускіх паэтаў, якія загінулі ў барацьбе з нямецкафашысцкімі захопнікамі. Для зборніка партрэт рабілі з групавога фотаздымка, які захаваўся ў Васіля Віткі і Аляксея Зарыцкага. Яны сябравалі з Рыгорам Лыньковым і ў адзін са сваіх прыездаў у Бабруйск у студзені 1934 года сфатаграфаваліся разам.

Вітка тады жыў у Жлобіне, працаваў у рэдакцыі чыгуначнай палітаддзельскай газеты «Ударнік», Зарыцкі вучыўся ў Маскоўскім інстытуце замежных моў (у Бабруйску быў у час зімовых канікулаў), а Рыгор Лынькоў працаваў у рэдакцыі газеты «Камуніст». Непадалёк ад рэдакцыі знаходзілася прыватная фатаграфія «Рэмбрант» Е. А. Нісенбаўма, дзе і зроблены быў гэты здымак. Карткі сябрам Рыгор Лынькоў паслаў з надпісамі: Вітку — «На напамінанне. Студзень 1934 г. Бабруйск»; Зарыцкаму — «Ад шчырага сэрца вітаю Маскву! Рыгор Лынькоў. 27/I – 34 г. Бабруйск». А ў зносцы напісаў: «Амаль верш. Больш нічога за тры гады».

Пры жыцці Рыгор Лынькоў не выдаў нават маленькай кніжачкі вершаў, хоць друкаваўся ён пятнаццаць гадоў. Яго творы так і засталіся на старонках бабруйскай газеты «Камуніст» і яе літаратурнага дадатку «Вясна» (выходзіў у 1928–1932 гг., апошнія нумары мелі назву «Ударнік»), альманаха «Уздым» і некаторых рэспубліканскіх выданняў.

Быў ён надзвычайна патрабавальны да сябе, клапаціўся пра мастацкую дасканаласць сваіх твораў, бясконца папраўляў напісанае, шліфаваў кожны радок. Аддаваў у друк толькі тады, калі пераконваўся, што лепш ужо, мабыць, не здолее зрабіць. У трыццатыя гады займаўся галоўным чынам перакладамі, з арыгінальнымі творамі выступаў рэдка. І знаёміць з новымі сваімі вершамі да іх апублікавання не любіў.

Большая частка вершаў Рыгора Лынькова перахоўвалася ў рукапісах і загінула ў часе вайны.

«Рытмакапытаму другу» — бадай, адзіны даступны сёння чытачу яго твор. Нават у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна не зберaглося ніводнага даваеннага нумара «Камуніста» і «Вясны», дзе ў другой палове дваццатых — пачатку трыццатых гадоў надрукавана было шмат яго вершаў. Крыху больш пашчасціла перакладам. У аднатомніку выбраных твораў Уладзіміра Маякоўскага, выдадзеным у 1952 годзе, у яго перакладах, акрамя паэмы «Добра!» (перакладаў ён яе разам з Васілём Віткам), апублікаваны «Вайна абвешчана», «Мама і забіты немцамі вечар», «Левы марш», «Празасяданыя», «Уладзімір Ільіч!», «Юбілейнае», «Блэк энд уайт», «Таварышу Нетэ, параходу і чалавеку», «Гутарка з таварышам Леніным» і іншыя вершы выдатнага рускага савецкага паэта.

У зборнік «Крывёю сэрца» верш Рыгора Лынькова трапіў дзякуючы шчаслівай выпадковасці. Адзін з супрацоўнікаў выдавецтва «Беларусь» дзесьці адшукаў некалькі нумароў «Вясны». Пра знаходку дачуўся складальнік зборніка Анатоль Вялюгін. З вершаў Рыгора Лынькова, надрукаваных у гэтых нумарах, ён выбраў «Рытмакапытаму другу». Магчыма, і не самы дасканалы з ранніх твораў паэта, — прынамсі, у маладнякоўскіх артыкулах і аглядах у ліку лепшых называліся яго вершы «Дзяўчынцы з юндому», «Белы птах», «Рытмы завода» і іншыя. Але тых вершаў складальнік не змог знайсці. А гэты падкупіў яго шчырасцю пачуцця, рамантычнай усхваляванасцю і ўзнёсласцю. Напісаны юнаком, ён перадае светаадчуванне таго пакалення, чые першыя незабыўныя ўражанні звязаны з Кастрычніцкай рэвалюцыяй і Грамадзянскай вайною. Водсвет падзей тых памятных гераічных дзён ляжыць на ўсіх творах Рыгора Лынькова.

Друкаваўся верш «Рытмакапытаму другу» ў кастрычніцкім нумары «Вясны» за 1930 год. Незадоўга да гэтага, у ліпені, Беларусь святкавала дзесятую гадавіну свайго вызвалення ад польскай акупацыі. Газеты і часопісы публікавалі ў тым годзе — да свята і пасля яго — шмат паэтычных і празаічных твораў, у якіх услаўлялася мужнасць народа ў барацьбе з акупантамі. Адным з такіх твораў і

быў верш Рыгора Лынькова.

Узнік гэты твор з успамінаў пра Грамадзянскую вайну, пра час, «адзвінеўшы ў мінулае ўгрунь». Паэту хацелася выказаць тое, што жыло ў яго памяці і сэрцы з маленства і з гадамі ўсё больш і больш хвалявала яго ўяўленне. У аснове верша — эпізод часоў вайны: смяртэльна параненага чырвонаармейца — дзяўчыну Галю — конь вынес з поля бою да ракі, у хвалях якой яна перад смерцю «раны абмыла». Цяжка сказаць што-небудзь пэўнае пра паходжанне згаданага эпізоду, — магчыма, ён пачэрпнуты аўтарам з кніжак, магчыма, пачуты ад удзельнікаў вайны. Ды гэта, урэшце, і не мае істотнага значэння. Куды важней тое, што, узнаўляючы яго, паэт і ў будзённых падзеях заўважыў праявы выключнага, гераічнага. Натхнёна паэтызаваў ён рэвалюцыйныя імкненні моладзі.

І па адным гэтым вершы можна меркаваць пра самабытнасць, арыгінальнасць таленту яго аўтара. Васіль Вітка, які добра ведаў творчасць свайго сябра і цяпер яшчэ памятае тэксты некаторых яго вершаў, пісаў, што яны, яго вершы, былі «вельмі адметныя тады ў маладой беларускай паэзіі»*.

Рыгор Лынькоў не захапляўся, як многія з маладых паэтаў, знешнімі аздобамі, не гнаўся за знешняй кідкасцю твораў, але любіў яркі, нечаканы, дакладны вобраз. У вершы «Рытмакапытаму другу», напрыклад, пра тое, што бой каля ракі быў цяжкі, зацяты («Кавэскадрон біўся з ворагам стойка») і што многія героі знайшлі ў яе хвалях магілу, ён скажа: «Хвалі халодныя дыхалі смерцю», «і пырскі, як скаргі, ляцелі на бераг». Нельга не заўважыць, як старанна апрацаваны ў гэтым вершы кожны радок, якія ў ім паўнагучныя рыфмы, не адчуць сілы, пругкасці рытму твора. Вось хоць бы першыя строфы:

О конь, прад табою
бязмоцны паэты,
Не скласці ім песню
такую, як ты:
Бяжыш, і па бруку
чаканяць манеты,
Віхорныя маршы
грымяць капыты.
Ударыш аб камень,
і — пырскамі іскры,
Бы сноп метэораў,

* Вітка В. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1973. Т. 2. С. 216.

пасыплюцца ў змрок, —
Хоць з сэрца паэта
рамантыку выскраб,
А п’е, як віно,
твой імклівісты крок.

2

Цяпер, амаль праз сорак гадоў пасля таго, як не стала Рыгора Лынькова, цяжка больш-менш поўна ўзнавіць яго жыццёвую і творчую біяграфію. Сямейны архіў Лыньковых захоўваўся ў Міхася Ціханавіча і загінуў у час вайны, а ў дзяржаўных архівах і ў рукапісных фондах бібліятэк пакуль што не ўдалося натрапіць на дакументальныя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. Біяграфічныя звесткі пра яго даводзіцца чэрпаць у асноўным з успамінаў яго сваякоў і сяброў.

Добра ведаў Рыгора Лынькова і я. Пазнаёміліся мы позняй восенню ці то 1932, ці то 1933 года, калі ён, вярнуўшыся з вайсковай службы, узначаліў літаратурны гурток пры рэдакцыі газеты «Камуніст». Помню, яшчэ доўга хадзіў ён у вайсковай вопратцы, з пятліцамі на шынялі і гімнасцёрцы. Я тады працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце інструктарам-масавіком шматтыражнай газеты «За ўдарныя тэмпы» і разам з іншымі камбінатаўскімі пачаткоўцамі наведваў заняткі гэтага гуртка. І цяпер, бываючы ў Бабруйску, часам прайдуся да таго дома па Сацыялістычнай вуліцы, дзе была рэдакцыя, дзе мы калісьці праседжвалі да глыбокай ночы, спрачаліся, абмяркоўвалі прачытаныя творы. Сустракаліся часта і пазней, калі Рыгор Лынькоў пераехаў у Мінск. Апошні раз бачыліся ў пачатку лістапада 1939 года: перад адыходам на службу ў Чырвоную Армію я забег у рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» развітацца з ім.

Шмат перагаворана на тых сустрэчах — найбольш пра літаратуру, пра любімых пісьменнікаў.

Рыгор Лынькоў увесь час займаўся самаадукацыяй, вельмі любіў паэзію. Здавалася, не было ў жыцці таго, чым бы ён ні цікавіўся, і такіх паэтаў, якіх бы ён ні чытаў. З ім хацелася сустракацца, цікава было гаварыць. Шкада толькі, што многае з тых нашых размоў сціраецца ў памяці.

Нікольні не прымяншаючы каштоўнасці біяграфічных звестак, якія паведамілі пра Рыгора Лынькова тыя, хто яго блізка ведаў, трэба ўсё ж улічваць, што там, дзе нельга абысціся без дакладнага факта і даты, памяць — крыніца не заўсёды надзейная. На жаль, у

апублікаваных біяграфічных нататках пра паэта, складзеных праз многа гадоў пасля яго смерці паводле сведчанняў сваякоў і сяброў, не ўсе даты ўзноўлены дакладна.

Для кнігі «Крывёю сэрца» (на яе спасылаліся пазней энцыклапедыя і іншыя выданні) звесткі пра жыццё Рыгора Лынькова складальнік браў у яго сяброў. Гутарыў ён і з Міхасём Лыньковым. А яму чамусьці думалася, што брат крыху раней, чым на самай справе, быў на вайсковай службе і пераехаў у Мінск. Гэту версію ён паўтарыў і ў адказе на мае запытанні. 9 лютага 1974 года Міхась Лынькоў пісаў пра свайго брата: «Адслужыў пэўны тэрмін у Чырвонай Арміі і пасля дэмабілізацыі працаваў у рэдакцыі бабруйскай акруговай газеты «Камуніст» да 1932 года, пасля чаго пераехаў у гор. Мінск». А вось меншы іх брат, Мікалай Ціханавіч, запэўнівае, што Рыгор жыў у Бабруйску да 1936 года. У яго збераглася «яшчэ бабруйская», як паведаміў ён мне ў лісце ад 27 мая 1977 года, Рыгорава фотакартка з такім жартоўным надпісам: «Мая морда ад 4 ліпеня 1936 г. Р. Лынькоў».

Тое, што яшчэ ў 1935 годзе Рыгор Лынькоў працаваў у Бабруйску, магу засведчыць і я. У час летніх канікулаў пасля заканчэння першага курса Мінскага педінстытута я, пабыўшы з тыдзень у сваёй вёсцы ў бацькоў, выбраўся ў Бабруйск праведаць Рыгора Лынькова. Ён угаварыў мяне папрацаваць месяц у рэдакцыі «Камуніста», пакуль вернецца з вайсковых збораў адзін іх супрацоўнік.

Вечарамі мы хадзілі ў гарадскі сад. Разы два-тры глядзелі там выступленні заезджых акрабатаў і барцоў, а то звычайна блукалі па садзе, абмяркоўвалі літаратурныя навіны, чыталі вершы. У Рыгора тады было чарговае захапленне — Эдуард Багрыцкі. Не сказаў бы, што ў яго часта і прыкметна мяняліся густы. Проста ён чытаў самых розных паэтаў і ў кожнага знаходзіў такія вершы, якія яму вельмі падабаліся і на пэўны час цалкам забіралі яго ўвагу. З твораў Багрыцкага, помніцца, ён найбольш упадабаў «Вясну» і «Кантрабандыстаў». Да гэтых вершаў найчасцей і вярталіся нашы размовы. «Вясну» ён ведаў на памяць, чытаў і хваліў ад душы: «Добра! Нічога не скажаш, добра!»

Пакуль што невядомы дзень і месяц нараджэння Рыгора Лынькова, а ў апублікаваных біяграфічных нататках недакладна названы і год яго нараджэння — 1911. Выправіць гэту памылку памаглі сваякі паэта. У пісьме Міхася Лынькова ад 9 лютага 1974 года ёсць такое сведчанне: «Нарадзіўся ён у 1909 годзе, вясной (месяца не памятаю) у сям'і рамонтнага рабочага-чыгуначніка ў будцы на 230-й вярсце

на перагоне між станцыямі Рагачоў і Тошчыца каля вёскі Старое Сяло Кісцянёўскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні». Гэты ж год называе і старэйшая сястра паэта, Пелагея Ціханаўна. У пісьме ад 10 лютага 1974 года яна паведаміла, што Рыгор нарадзіўся «ў красавіку або ў маі, але не пазней».

Невядома таксама, калі і дзе ён загінуў. У самым пачатку вайны быў мабілізаваны ў армію, і з таго часу ніякіх звестак пра яго ніхто са сваякоў не атрымаў. На ўсе іх запытанні ў розныя вайсковыя ўстановы прыходзіў адзін адказ, што ён прапаў без вестак у 1941 годзе.

1909 і 1941 — гэтымі датамі абмежавана вельмі кароткае жыццё Рыгора Лынькова.

Маленства яго прайшло ў той жа чыгуначнай будцы, дзе ён нарадзіўся, — кіламетраў за дзесяць ад Рагачова. Будку гэту, яе ваколіцы, заняткі і клопаты бацькоў, братоў і сясцёр падрабязна апісаў Міхась Лынькоў у аўтабіяграфіі «З родных крыніц».

Яшчэ малым хлапчуком Рыгор быў сведкам такіх падзей, якія не маглі не пакінуць пэўнага следу ў яго свядомасці. Безумоўна, увесь сэнс таго, што рабілася ў час імперыялістычнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, барацьбы з інтэрвентамі, зразумеў ён пазней. А тады глядзеў, як ішлі паўз іх будку эшалоны ў бок фронту, а адтуль — санітарныя цягнікі з параненымі, праводзіў цікаўным позіркам салдатаў, што стаялі каля адчыненых дзвярэй цяплушак. Прагна ўслухоўваўся ў размовы старэйшых, рамонтнікаў, якія працавалі на чыгунцы і прыходзілі ў іх будку напіцца вады, а ў дажджлівую і халодную пару — палуднаваць. Памятаў, як хаваліся яны, меншыя, калі непадалёк ішлі баі супраць польскіх легіянераў. Бачанае, пачутае ў тыя гады адгукнецца пазней у яго вершах якой-кольвек згадкай, дэталлю, ноткай настрою.

Час быў складаны, цяжкі, і жылося тады нялёгка. У 1920 годзе памёр бацька. Міхась служыў у Чырвонай Арміі. Сястра Пелагея выйшла замуж у суседнюю вёску Станькаў. З маці засталося трое малых дзяцей, самы большы з іх — Рыгор. Каб хоць як пратрымацца з імі, яна пайшла на рамонтныя работы. Рыгор памагаў ёй, глядзеў меншых. У 1923 годзе здарылася новая бяда: трагічна загінула маці, трапіўшы пад пасажырскі цягнік. Малых братоў і сястру забраў да сябе Міхась Лынькоў. Ён ужо дэмабілізаваўся з арміі і працаваў настаўнікам у Свержані. Ім ён стаў і апекуном, і выхаваўцам.

У маі 1925 года Міхась Лынькоў быў прызначаны адказным сакратаром акруговай газеты «Камуніст» і перабраўся з малымі ў Бабруйск. Жылі спачатку на прыватнай кватэры па Кастрычніцкай, 46 — наймалі два маленькія пакойчыкі ў доме саматужніка-

пераплётчыка Курцэра, потым атрымалі двухпакаёвую кватэру па Савецкай вуліцы (у доме, які тады, здаецца, меў № 81).

Прыехаўшы ў Бабруйск, Рыгор пайшоў вучыцца ў 1-ю беларускую сярэднюю школу (пачынаў ён вучобу яшчэ ў Старым Сяле, працягваў — у Свержанскай сямігодцы). У адным з ім класе займаўся вядомы потым беларускі празаік Барыс Мікуліч, класам вышэй — паэт Аляксей Зарыцкі. Літаратурныя інтарэсы і зблізілі іх у школьныя гады. Рыгор актыўна ўдзельнічаў у грамадскай працы: выбіраўся старшынёй вучкама, у рэдкалегію насценнай газеты; разам з сябрамі-пачаткоўцамі выпускаў школьны рукапісны літаратурны часопіс. У 1926 годзе ён пачаў друкавацца на старонках «Камуніста». Першы з вядомых мне яго вершаў — «Ноч селькораўская» — апублікаваны 4 ліпеня. Увосень таго ж года ў літаратурным зборніку «Уздым» Бабруйскай філіі «Маладняка» (бібліёграфы лічаць гэта выданне альманахам) з’явілася падборка яго твораў пад агульнаю назваю «Вершы Рыгора Суніцы».

Крыху раней, у лістападзе 1925 года, часопіс «Малады араты» (№ 16) апублікаваў вялікі допіс Рыгора Лынькова «Свержанскія камсамольцы», пасланы ім у рэдакцыю яшчэ да пераезду ў Бабруйск. Напэўна, гэта і было яго першае выступленне ў друку. «Ціха, паважна, часамі шумна і весела, нават бурна праходзіць праца ў камсамольцаў мястэчка Свержань Рагачоўскага раёна Бабруйскай акругі», — так пачаў ён сваё апавяданне пра дзейнасць свержанскай камсамольскай ячэйкі. Апісаў выгляд мястэчка, домік, у якім месцілася ячэйка, расказаў пра яе працу за тры гады, пра тое, што рабілі камсамольцы «па-за межамі ячэйкі». Галоўным яе недахопам аўтар допісу лічыў «зусім малы лік сялянскіх дзяўчын у камсамоле».

Школы ён не скончыў. Заставалася правучыцца яшчэ адзін год (сярэдняя школа мела тады дзевяць класаў), але ў 1928 годзе гаркам камсамола паслаў яго загадчыкам хаты-чытальні ў вёску Ахвоцічы Бабруйскага раёна. Факт гэты і дату памятаюць Аляксей Зарыцкі і бабруйчанін Аляксей Рачэўскі, які вучыўся з Рыгорам у адным класе і зрэдку друкаваў вершы ў «Вясне». З іх сведчаннем не разыходзіцца і Міхась Лынькоў. 9 лютага 1974 года ён пісаў, што брат, «не закончыўшы апошняга класа, пайшоў па камсамольскай пуцёўцы працаваць ізбачом на вёску». Па тых звестках, якія ўдалося сабраць, працаваў ён у хаце-чытальні не менш года. Прынамсі, пад некаторымі яго вершамі, апублікаванымі ў 1929 годзе, пазначана месца іх напісання: «в. Ахвоцічы, Бабруйскі раён». Такое пазначэнне ёсць пад вершамі «Белы птах» («Вясна» № 5–6, 28 чэрвеня 1929 года) і «Здалося!..» («Вясна», № 7, 31 ліпеня 1929 года).

Было, праўда, іншае сведчанне. Васіль Вітка расказваў, што пазнаёміўся ён з Рыгорам Лыньковым у 1928 годзе, прыйшоўшы на працу ў рэдакцыю «Камуніста», і што Рыгор нібыта працаваў ужо там, а загадчыкам хаты-чытальні быў раней. Магчыма, Вітку запомніліся сустрэчы з ім у рэдакцыі. Працуючы у Ахвоцічах, Рыгор час ад часу прыязджаў у Бабруйск — па новую літаратуру, на нарады ў райкам камсамола, а то і праведаць братоў і сястру. І ніколі не абмінаў рэдакцыі. Вось у 1929 годзе (хутчэй за ўсё з восені) ён ужо сапраўды працаваў у «Камунісце». Сведчанне таго — датаванае 1929 годам фота ў кнізе Фёдара Куляшова «Міхась Лынькоў» (1961). На ім — рэдактар «Камуніста» з групай сваіх супрацоўнікаў. Як і вядзецца здаўна ў такіх выпадках, рэдактара Міхася Лынькова пасадзілі ў першым радзе ў цэнтры, побач з ім селі яго бліжэйшыя памочнікі, астатнія — побач з імі або пасталі ў другім радзе. Рыгор стаяў другі справа каля Хвядоса Шынклера, Васіль Вітка быў крайні злева.

Для Рыгора, пісаў малодшы яго брат Мікалай Ціханавіч, «было вялікім ударам тое, што яму адмовілі ў прызыве ў армію». У яго яшчэ ў маленстве было пашкоджана адно вока, і медыцынская камісія вынесла катэгарычны прысуд, што ён не прыдатны да вайсковай службы. Але ён дамогся свайго: скончыў пры гарваенкамаце курсы марзістаў, заручыўся падтрымкай гаркама камсамола і, хоць і пазней, чым яго аднагодкі, стаў чырвонаармейцам. Служыў у Магілёве, апошні год — бібліятэкарам часці.

3

У другой палове дваццатых — пачатку трыццатых гадоў Бабруйск (у той час цэнтр вялікай акругі) быў адным з асяродкаў інтэнсіўнага літаратурнага жыцця.

Маладнякоўскі рух ахапіў усю рэспубліку. З раёнаў акругі ў рэдакцыю «Камуніста» прыходзіла многа вершаў, замалёвак. Прысылалі іх галоўным чынам вучні старэйшых класаў, студэнты, настаўнікі вясковых школ. Найчасцей гэта былі бездапаможныя літаратурныя практыкаванні. Але траплялiся і творы, якія сведчылі пра бясспрэчныя здольнасці іх аўтараў, і з імі рэдакцыя завязвала больш трывалыя сувязі, лепшым іх вершам і абразкам знаходзіла месца на старонках газеты.

Пастуnова вакол «Камуніста» склалася сталая група здольнай творчай моладзі, і ўжо не ад выпадку да выпадку, а амаль кожны тыдзень паэтычныя і зрэдку празаічныя творы пачалі друкавацца ў газеце ў спецыяльным літаратурным кутку над агульнымі назвамі «Наша творчасць», «Песняры Бабруйшчыны», «Бабруйскія песняры». Не хочучы адставаць ад моды, многія з маладых выбралі

сабе псеўданімы — Пятрусь Ясны, Апанас Атава, Рыгор Суніца, Хвядос Явар (Шынклер), Алесь Жаўрук і г. д.

Адразу па прыездзе ў Бабруйск Міхась Лынькоў паклапаціўся пра арганізацыйнае аб'яднанне літаратурных сіл акругі. 9 мая 1925 года ўстаноўчы сход, на якім прысутнічала пяць маладых паэтаў і празаікаў, аформіў Бабруйскую філію «Маладняка». Зберагліся прысланыя ў ЦБ «Маладняка» копія пратакола гэтага сходу і іншыя матэрыялы пра склад філіі на пачатку яе дзейнасці: спіс «сапраўдных сяброў» (у спісе сем чалавек, сярод іх Янка Журба, які тады працаваў у Бабруйску інспектарам акруговага аддзела народнай асветы, і Міхась Лынькоў) і запоўненыя імі маладнякоўскія анкеты.

Азнаёміўшыся з гэтымі матэрыяламі, ЦБ «Маладняка» 28 ліпеня 1925 года прыняло пастанову: «Ад зацверджання складу філіі ўстрымацца да прысылкі твораў сяброў філіі ў дадатак да анкет. Сакратарыяту падрыхтаваць да наступнай парады даклад аб філіі і кіраўніцтве». Філія тэрмінова даслала ў Цэнтральнае бюро выразаныя з «Камуніста» літаратурныя матэрыялы.

Як і іншыя маладнякоўскія арганізацыі, філія разгарнула актыўную грамадскую дзейнасць: стварала літаратурныя гурткі, наладжвала выступленні маладых пісьменнікаў у рабочых і чырвонаармейскіх клубах, у школах і вёсках, пасылала сваіх членаў у раёны акругі для правядзення там літаратурных вечароў і дыспутаў.

Склад філіі мяняўся: некаторыя маладыя пісьменнікі ехалі вучыцца або на працу за межы акругі, прымаліся новыя члены аб'яднання. У справаздачы, дасланай у ЦБ «Маладняка», відаць, улетку 1926 года, Міхась Лынькоў пісаў, што да пачатку гэтага года «ўсе хлопцы параз'ехаліся хто куды», у Бабруйску асталіся толькі ён і Я. Журба. А ўвосень, калі рыхтаваўся да друку першы выпуск альманаха «Уздым», у складзе філіі было ўжо дзевяць чалавек. Хроніка другой кнігі альманаха «Уздым» (1928, с. 134) сведчыць, што на пачатак 1928 года на Бабруйшчыне было шэсць маладнякоўцаў: Міхась Лынькоў, Мікола Мікіцін, Арына Глінская, Сцяпан Голуб, Янка Хмель і Хведар Бужан, а на працягу года ў аб'яднанне прынята пяць новых членаў: Вільгельм Гараўскі, Рыгор Вахта, Барыс Мікуліч, Хвядос Шынклер і Апанас Атава.

У сваёй дзейнасці філія апіралася на шырокі актыў творчай моладзі. Літаратурны куток у газеце і перыядычныя выпускі альманаха «Уздым» ужо не маглі задаволіць патрэб аб'яднання, і ў 1928 годзе рэдакцыя «Камуніста» пачала выдаваць штомесячны літаратурны дадатак «Вясна».

Рыгор Лынькоў быў адным з найбольш актыўных удзельнікаў літаратурнага жыцця Бабруйшчыны. Бадай ніводнае пачынанне філіі,

ніводзін яе творчы вечар і дыспут не абыходзіліся без яго. I сам ён тады даволі часта друкаваўся ў «Камунісце» і ў «Вясне». А калі прыйшоў працаваць у рэдакцыю, непасрэдна займаўся падрыхтоўкай матэрыялаў для чарговых выпускаў «Вясны», пазней — літаратурных старонак газеты. I яшчэ адну добрую справу зрабіў ён бабруйчанам — арганізаваў літаратурны аддзел гарадской радыёгазеты «Пралетарскі рупар» і працяглы час кіраваў ім.

«Не бяруся, — пісаў 9 лютага 1974 года Міхась Лынькоў, — даваць ацэнку яго паэтычнай творчасці (як-ніяк я самы блізкі сваяк яго), скажу толькі, што быў ён чалавекам здольным, багата часу аддаваў самаадукацыі, быў сапраўдным патрыётам савецкай дзяржавы, сумленным чалавекам і грамадзянінам».

Ацэнка, якую Міхась Лынькоў даў чалавечым, грамадзянскім якасцям свайго брата, якраз і дапамагае лепш зразумець галоўнае ў яго паэзіі, яе сутнасць.

Напачатку Рыгор Лынькоў пісаў пераймальныя творы. Такія яго вершы з падборкі, надрукаванай у 1926 годзе ў першай кнізе альманаха «Уздым» («Мы пад старасць...», «Эх вы, думкі...» і «Раніца»). Узніклі яны ў рэчышчы масавай маладнякоўскай лірыкі, перапявалі пашыраныя ў ёй матывы, тэмы.

Мы пад старасць
Ой ды не састарымся,
Мы пад старасць
Будзем маладзей.
Ці ж у нашым жыцці
Можна быць старымі,
Радасць даастатку
Выплескаць з грудзей?!

Тады многія паэты — яго аднагодкі — якраз так імкнуліся ўславіць маладосць, неаглядныя далі, бязмежныя прасторы, так выказвалі сваю радасць, захапленне жыццём, новай явай, веліччу здзейсненага рэвалюцыяй. У Рыгора Лынькова такое захапленне не ведала межаў. Характэрны ў гэтым сэнсе верш «З уласнага» (1926), асабліва яго другая частка:

Сэрца з радасці рвецца з грудзей,
Затрымаць, закілзаць — няма сілы!
Жыццё шчасцем душу ўскаласіла.
Сэрца з радасці рвецца з грудзей.
Па-над сумам стаіць крыж пахілы,
А у будучым — столькі надзей...

Сэрца з радасці рвецца з грудзей,
Затрымаць, закілзаць — няма сілы!

Запазычваў ён далёка не лепшыя атрыбуты «бурапеннага» стылю твораў некаторых маладнякоўцаў з яго неадменнымі «ой», «эх» і «гэй».

Эх вы, думкі золатазвонныя,
Эх ды стромені бяздонныя,
Век крынічыць у вас моладасць
Неўміручая, разгонная.
…………………………

Вы й гарача-санцавейныя,
І віхурыста-завейныя.
Б'еце вы па часу молатам, —
Іскры ў свет лятуць надзейныя.

Пэўную даніну матывам масавай маладнякоўскай лірыкі аддаў у сваіх паэтычных спробах і кіраўнік філіі Міхась Лынькоў. І ў яго можна было сустрэць такія радкі:

Ў маім сэрцы пажары загойсалі,
І хвалюе бурліва кроў,
Хоць не быў я раней камсамольцам,
Хоць на карку і шмат гадоў.

Але ён, як ніхто іншы з «бабруйскіх песняроў», бачыў мастацкую прымітыўнасць большасці твораў, якія друкаваліся ў выданнях філіі, добра разумеў, што, каб стаць сапраўднымі мастакамі, «песнярам» трэба вельмі многа вучыцца, авалодваць ведамі, багаццямі культуры. У адным з літаратурных куткоў «Камуніста» ён апублікаваў верш «Чытачу», які пачынаўся радкамі:

Хоць вершы нашы
Просяць кашы...

Аўтар пісаў, што вершы гэтыя сваім зместам «з радні» вёсцы, бо ўзрошчаны яны «на чорным хлебе роднай глебай», і прасіў чытачоў:

І калі іншы час
У нас
Пясняр з мазольнаю рукой
Кране не звонкаю струной, —
Так выбачайце
І не лайце...

Творчая індывідуальнасць, самабытнасць таленту Рыгора Лынь-

кова пачалі пакрысе выяўляцца ў тых вершах, дзе ён з большым даверам паставіўся да свайго жыццёвага вопыту, да асабіста перажытага, перадуманага. Варта было яму загаварыць пра тое, што перажыў, як у вершах — яшчэ няспелых, юнацкіх — з'явіліся ўласныя лірычныя інтанацыі, больш натуральнымі сталі вобразы, мова, набылі пэўную выразнасць жыццёвыя рэаліі. Пісаліся ж гэтыя вершы адначасова з цытаванымі вышэй пераймальнымі творамі. А вершы зусім розныя, як бы і не адной рукой напісаныя. У «Ночы селькораўскай», напрыклад, адчуваюцца канкрэтныя бытавыя рэаліі, жывы малюнак ночы ў сялянскай хаце, калі ўсе, напрацаваўшыся за дзень, спалі цяжкім сном, толькі селькор складаў свой ліст у газету:

Дзесь пад мостам, па-за сценкаю
Байку дзецям кажа тхор,
А пад столлю муха трэнькае
Што папала ў перабор.
Пахне блінам недапечаным,
Пахам хлебнае дзяжы...

У «Ночы селькораўскай» ёсць радкі, здольныя запыніць на сабе ўвагу. Хоць бы першы: «Цёмна. Ноч, бы доля цыгана». Параўнанне нязвычнае, нечаканае, натуральнае ў гэтым вершы. З часам творчасць паэта станавілася ўсё больш і больш метафарычнай. Вось пачатак верша «Трактарыст» (снежань 1926 г.):

Плугамі трактара на глебе
Аб новым піша трактарыст.

«Пішы ж, пішы, камуны веснік», — горача звернецца да яго паэт. Ён увогуле вельмі чуйна ўспрымаў новае ў жыцці, з захапленнем пісаў пра рэвалюцыйны энтузіязм моладзі, яе духоўныя імкненні, мары пра сусветную рэвалюцыю. «Мы ўжо апошні бяром перавал», — так у вершы «Юнацкае» (1927) выкажа ён веру, перакананні свайго пакалення.

Нас не супыняць
Варожыя здані,
Ўсе яны — толькі гнілое смяццё.
Шчыра мы верым,
Што скора настане
Ў свеце усім маладое жыццё.

Быў ён сынам свайго часу, і гэтым цікавая яго паэзія.

Упершыню слова «я» сустрэлася ў Рыгора Лынькова, здаецца, у вершы «Дзяўчынцы з юндому» (1927):

Сам я,
вам прызнацца,
вельмі малады,
а вачам блакітным
не складаў шчэ песень.

Пачынаючы з гэтага твора, асабістыя перажыванні, матывы кахання, адданасці, дружбы занялі важнае месца ў яго паэзіі. Асабісты пачатак увайшоў і ў вершы, якія паэт прысвячаў канкрэтным палітычным тэмам, з’явам грамадскага жыцця.

«Дзяўчынцы з юндому» — твор пра маладую работніцу, якая ў маленстве была беспрытульнай і зазнала шмат гора, бадзяючыся па свеце. Потым выхоўвалася ў дзіцячым доме, пайшла працаваць у кравецкую майстэрню. Перажытае не знявечыла яе душы, не зрабіла жорсткім і абыякавым сэрца дзяўчыны: усёй сваёй істотай успрымае яна хараство жыцця. Толькі часамі ў яе вачах ажывае «маленькі сум і маленькая, таемная задума». Лірычны герой верша згадвае тую даўнюю раніцу (пасля яе «многа было зімак, многа было вёсен»), калі ўбачыў, як яна, беспрытульная дзяўчынка, спала каля ганка, накрыўшыся бруднымі лахманамі. Верш кранае шчырасцю інтанацый, задушэўнасцю роздуму пра лёс юндомаўкі, глыбокім і чыстым пачуццём юнацкай закаханасці ў «тую дзяўчыну, што працуе ў швейнай».

Чытачу, мабыць, цікава ведаць, як успрымалі творчасць Рыгора Лынькова яго сучаснікі, як ацэньвала яе тагачасная крытыка.

У пачатку 1930 года часопіс «Маладняк» (№ 2) апублікаваў артыкул Барыса Мікуліча «Бабруйшчына рапартуе». У ім размова ішла пра літаратурнае жыццё акругі, пра пісьменнікаў, творы якіх прыкметна вылучаліся з агульнай плыні тагачаснай маладой беларускай паэзіі і прозы. «Вясна» нават перадрукавала ў двух нумарах частку гэтага артыкула, прысвечаную творчасці Рыгора Суніцы і Цімоха Крысько (Васіля Віткі).

Як «станоўчы, безумоўны факт» Барыс Мікуліч адзначыў тое, што паэтычная моладзь Бабруйшчыны «не дае ў сваёй прадукцыі беспрадметнай лірыкі, асабліва якіх-небудзь упадніцкіх, песімістычных ідэй». Рыгора Суніцу ён назваў у ліку «найбольш выяўленых у паэзіі», пісаў: «Мы маем... гэткіх аўтараў, як Яўхім Кохан, Цімох Крысько, Рыгор Суніца, Алесь Жаўрук, якія рупліва, крок за крокам заваёўваюць пэўнае месца ў літаратуры» (с. 151). У артыкуле зроблена спроба вызначыць асаблівасці творчасці паэта: «Рыгор Суніца, як і Крысько, паэт з лірычным нахілам. Але ў Суніцы больш удумлівасці, больш ідэёвасці і пачуццёвасці. Кохан і Крысько

дасягаюць моцы вобразнасцю, мовай. Суніца ж дасягае мэты думкай і чаканкай верша» (с. 153).

Аўтар артыкула не памыліўся, называючы характэрныя рысы паэзіі Рыгора Лынькова: у яго творах канца дваццатых — пачатку трыццатых гадоў адчуваецца выразная грамадзянская пазіцыя, арыгінальная паэтычная думка, імкненне паглыбіцца ў сутнасць сацыяльных з'яў, даць значныя мастацкія абагульненні. І з тэхнічнага боку яго вершы таго часу («Здалося!..», «Белы птах», «Рытмакапытаму другу» і інш.) старанна апрацаваныя.

Да літаратурнай працы Рыгор Лынькоў ставіўся вельмі сур'ёзна. Шукаў новых тэм, вобразаў, паэтычных сродкаў, дамагаўся разнастайнасці рытмічнага малюнка твораў. Шмат у якіх яго вершах чуюцца меладычныя песенныя інтанацыі. Услухайцеся, як бадзёра, энергічна гучаць, напрыклад, радкі верша «Рытмы завода» (снежань 1926 г.):

Покуль сэрцы гараць,
Сілы у жылах бруяць, —
Нішто ў працы
Не стане мяжою.

Рыгор Лынькоў імкнуўся ўзбагаціць беларускую паэзію новымі формамі, не цураўся эксперыментаў у галіне паэтычнай строфікі. Мала каму вядома, што яго пяру належыць узор такой рэдкай вершаванай формы, як лірычная секстына. Прынамсі, ніхто з даследчыкаў беларускага вершаскладання раней не адзначаў гэтага факта. У форме секстыны напісаны яго верш «На сконе дзён» (1930 г., чытачам «Вясны» больш запомніўся падзагаловак твора — «Лірычная эпітафія»).

Вось першая страфа:

Сёння ты задумаўся глыбока...
З-пад імха брывей не відна вочаў:
Знаць, спаткалі думы-звадыёкі,
Пахіснулі сэрца твайго крокі
І зблудзіла сэрца у цёмнай ночы.
Сёння ты задумаўся глыбока...

Кожная з наступных пяці строф пачынаецца і канчаецца чарговым радком першай страфы.

У вершы развіваюцца дзве арганічна звязаныя між сабою тэмы, два матывы: матыў адзінокай старасці і матыў неразумення, непрымання старым чалавекам новага ў жыцці.

Калі ўлічыць, што ствараўся гэты верш у час «вялікага пералому» ў вёсцы, стане зразумела, якая глеба жывіла яго матывы, праб-

лематыку, аўтарскую думку. Працуючы ў рэдакцыі акруговай сялянскай газеты, паэт быў у гушчы ўсяго, што адбывалася тады ў вёсцы. Бачыў, як цяжка было пераадолець недавер селяніна да новых форм жыцця, пераканаць яго ў перавагах калектыўнай гаспадаркі. Асабліва такога старога, як герой верша:

Знаць, спаткалі думы-звадыёкі
Не пяшчыннік крохкі сярод поля:
Зваяваць не цяжка яснавокіх,
Для якіх пад сонцам свет шырокі.
А цябе вось цяжка, мой саколе,
Знаць, спаткалі думы-звадыёкі...

Бачыў, як моцна прырос селянін да старога вясковага ўкладу, якія складаныя канфлікты, драматычныя сітуацыі нараджала калектывізацыя. З роздуму пра гэта і ўзнікла «Лірычная эпітафія», хоць сувязь яе матываў непасрэдна з працэсамі калектывізацыі як бы не прасочваецца. Асноўным у творы стаў матыў боязі старога чалавека перад новым, невядомым, боязі астацца аднаму ў жыцці. Сваё мастацкае завяршэнне гэты матыў атрымаў у апошніх дзвюх строфах:

І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы,
Дзе няма ні месяца, ні зораў
І не відна, у які бок крочыць,
Бо старыя вочы ўжо не хочуць
Пазіраць у новыя прасторы, —
І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы...

Сёння ты задумаўся глыбока:
Калі долу хіляцца ўжо плечы, —
Апынуцца цяжка адзінокім,
З акалелым сэрцам і бязвокім.
На канцы дарогі чалавечай
Сёння ты задумаўся глыбока...

Звярнуўшыся да так званых вечных матываў і тэм — жыцця і смерці, кахання, вернасці і інш., Рыгор Лынькоў узбагаціў духоўны змест сваёй паэзіі.

З сярэдзіны трыццатых гадоў ён, як зазначалася вышэй, займаўся ў асноўным перакладамі. Перакладаў на беларускую мову творы рускіх паэтаў, кнігі для дзяцей («Пакет» Л. Панцялеева, 1938 г. і інш.). У 1941 годзе Беларускі тэатр юнага гледача паставіў перакладзеную ім п’есу Міхаіла Святлова «Казка».

Самай значнай працай Рыгора Лынькова як перакладчыка быў удзел у выданні аднатомніка выбраных твораў Уладзіміра

Маякоўскага на беларускай мове, які выйшаў у свет у 1940 годзе. Ведаючы яго таленавітыя пераклады з рускай паэзіі, у тым ліку некаторых вершаў Маякоўскага, што друкаваліся ў газетах і часопісах, рэдактар аднатомніка Пятрусь Броўка ахвотна прапанаваў яму ўдзельнічаць у гэтым выданні.

Паэму «Добра!» перакладалі ўдвух — Рыгор Лынькоў і Васіль Вітка. Праца была не з лёгкіх: трэба было зберагчы жывы голас паэта рэвалюцыі, перадаць з усімі адценнямі яго дакладныя, чаканныя страфы, дамагчыся сэнсавай і мастацкай блізкасці да арыгінала. Вітка расказваў, што працавалі яны разам. Разам шукалі адзіна патрэбнага слова, цярпліва шліфавалі радок за радком. Часам даводзілася перабраць дзесяткі варыянтаў.

Рыгор Лынькоў любіў паэзію Маякоўскага, захапляўся яркай афарыстычнасцю яго вершаў, цытаваў іх у размовах. Яму імпанавала публіцыстычная адкрытасць твораў рускага паэта, яго страсная ідэйная мэтанакіраванасць. І ў перакладах ён імкнуўся зберагчы гэтыя якасці, хацеў як мага дакладней перадаць змест, сэнс вершаў, непаўторную своеасаблівасць іх стылю. Пры гэтым дамагаўся не даслоўнай адпаведнасці арыгіналу, а стараўся так узнавіць тэкст, каб ён і на беларускай мове гучаў натуральна, з першароднай сваёй сілаю...

Рыгор Лынькоў пражыў вельмі мала, быў толькі на пачатку свайго літаратурнага шляху. Зразумела, не ўсё з таго, што друкаваў ён у дваццатыя і трыццатыя гады, вытрымала выпрабаванне часам. Але шмат якія яго вершы гучаць свежа і арыгінальна, зберaглі юнацкую адкрытасць і непасрэднасць, здзіўляюць майстэрскай чаканкай радка.

*1978 г.*

*Мікалай Лынькоў*

## СЛОВА ПРА БРАТА

…Шмат думаў і згадваў пра Грышу… <…>

Да гібелі мамы і пераезду ў Свержань да Міхася ён дапамагаў на чыгунцы маме. Бацька памёр у 1921 годзе, і маці адна і абходчыкам працавала, і гаспадарку вяла. Вось ёй і дапамагалі, калі маглі, Грыша і Поля[1].

У перыяд нашага жыцця ў мястэчку Свержань Рагачоўскага раёна (1923–1925) Грыша шмат займаўся грамадскай працай, выпускаў школьную насценгазету, дапазна седзячы пры маленькай газоўцы.

Жылі мы тады ў другім невялікім школьным будынку. Асноўная частка школы месцілася ў вялікім панскім доме каля вялікага панскага саду.

Неяк позна вечарам, праз маё свавольства, лопнула ў лямпе шкло, Грыша вельмі засмуціўся і з вялікай цяжкасцю закончыў газету. Ён, зразумела, здагадаўся, хто вінаваты ў лопнутым шкле, але і голасу не падаў. І наогул, я карыстаўся яго вялікай любоўю і ніколі не чуў ад яго ні грубага слова, ні дакору ў чымсьці, а прычыны на тое, безумоўна, былі.

З 1925 года мы жылі ў горадзе Бабруйску. Спачатку на прыватнай кватэры ў хаце працавітага саматужніка-пераплётчыка Курцэра. Міхась здымаў два невялічкія пакойчыкі — адзін для сябе і адзін для нас (для мяне, Ганны і Грышы). Затым, недзе ў 1927–1928 гадах, пераехалі ў кватэру з 2-х пакояў на Савецкую вуліцу, дом, здаецца, 81. У Бабруйску мы ўсе трое вучыліся ў 1-й беларускай школе. І тады Грыша быў надзвычай актыўны. Яго выбіралі старшынёй вучкама, працаваў ён у сценгазеце і, памятаецца, з сябрамі выпускаў рукапісны літаратурны часопіс. Сярод сяброў быў яго тады і добра вядомы вам Барыс М-ч[2]. У час паміж школай і прызывам у Чырвоную Армію Грыша працаваў недзе на вёсцы загадчыкам хаты-чытальні.

Для Грышы стала вялікім ударам тое, што яму адмовілі ў прызыве ў армію. У яго адно вока было з дэфектам — вынік пападання каменем яшчэ ў час жыцця на чыгунцы ў будцы пуцявых абходчыкаў Лыньковых, што ў вёсцы Старое Сяло ў 10 км ад г. Рагачова. Дык ён дзеля таго, каб у армію ўсё ж прызвалі, паступіў на курсы марзістаў пры гарваенкамаце, якія паспяхова скончыў, затым па яго настойлівай просьбе яму зрабілі якуюсьці аперацыю (не на вачах). Пасля ўсяго гэтага яго ўсё ж у армію прызвалі. Служыў ён быццам бы ў Магілёве, на другім годзе службы быў бібліятэкарам, але наконт дакладнасці не ўпэўнены.

У 1931 г. я паступіў у Мінскі палітэхнікум сувязі (ён тады так называўся). У 1935 г. яго скончыў і недзе ў ліпені па пуцёўцы наркамата сувязі паехаў працаваць у далёкі Сталінабад (цяпер — Душанбе). З той пары мы сустракаліся толькі тады, калі я прыязджаў у адпачынак. Калі таджыкская піянерка Мамлакат Нахаігава пераўзышла рэкорд па ўборцы бавоўны (насуперак усім даўнім звычаям пачалі працаваць абедзвюма рукамі, а не адной, як раней) і была ўзнагароджана ордэнам Леніна і асабіста ад Сталіна атрымала залаты гадзіннік, Грыша вельмі зацікавіўся Таджыкістанам і прасіў у лістах

дасылаць яму падрадкоўнікі таджыкскіх вершаў. На жаль, я яшчэ не ведаў як след мову (хаця праходзіў так званую таджыкізацыю), і яго просьбаў не выканаў.

У час яго «выгнання» з рэдакцыі газеты «Камуніст» і ад’езду з Бабруйска мяне ў Беларусі не было. Помню, калі даведаўся пра гэтыя сумныя падзеі, я напісаў ліст у рэдакцыю «Комсомольской правды», у якім катэгарычна настойваў на крыштальнай сумленнасці, прыстойнасці і адданасці савецкай Радзіме майго брата Рыгора Лынькова і прасіў спагады і абароны ад цкавання. Думаю, гэты ліст нічога не памяняў, хіба што толькі падтрымаў Грышу, — я яму паведаміў пра гэты ліст. Дарэчы, у канцы 1937 года і мне давялося развітацца з камсамолам, мяне выключылі па сфальсіфікаванай і сшытай белымі ніткамі справе. У 1938 годзе аднавілі толькі фармальна, маёй асабовай справы, карткі нідзе не знайшлося. Гэта быў такі ліхі час, калі сёння і ўявіць не мог, што магло здарыцца заўтра.

У апошні раз мы бачыліся з Грышам 6 ці 7 сакавіка 1941 года. Я тады прыязджаў на месяц адпачываць у Беларусь з Ташкента. Там з 1940 года служыў у Чырвонай Арміі ў званні ваентэхніка 2-га рангу. Грыша жартам казаў: не рангу, а 2-га шпангоўта. Тады ж пабываў у вёсцы Станькаў у сястры Пелагеі Ціханаўны. Гэта непадалёк ад роднай будкі, у Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці. Затым у сястры Ганны Ціханаўны ў Паськавых Горках Старадарожскага раёна, яна там настаўнічала ў школе. Там, у Старадарожскім раёне, надзвычай адчувалася трывожнае перадваеннае становішча. Усё гаварыла, скажам як ёсць, што вось-вось пачнецца вайна.

У Мінску на кватэры Міхася, а Грышава кватэра была там жа, на другі бок лесвічнай пляцоўкі на 2-м паверсе дома на Кальварыі (было гэта, здаецца, 7 сакавіка 1941 г.), мы селі за стол — тры браты. Зайшла гаворка, дзе і калі сустрэнемся ў наступны раз. Міхась больш, як заўсёды, маўчаў, я сказаў, што сустрэнемся дзесьці ў Дэлі ці Бамбеі, а Грыша сказаў: «Не, сустрэнемся ў Ніццы». Але, на вялікае наша гора, мы больш не сустрэліся з Грышам, і нават ніхто не ведае, дзе ляжыць яго прах. <…>

*1977 г.*



# Мікола СУРНАЧОЎ

Мікола (Мікалай Мікалаевіч) Сурначоў нарадзіўся восенню (па іншых звестках — у снежні) 1917 г. у в. Слабада Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці.

Закончыў сямігодку, вучыўся ў Гомельскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Атрымаўшы сярэднюю спецыяльную адукацыю, працаваў аграномам на Рагачоўшчыне. Потым перайшоў у райгазету «Камунар». З 1937 па 1939 г. вучыўся на літаратурным факультэце Гомельскага пединстытута. У 1939 г. перавёўся ў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Адначасова з вучобай працаваў у рэспубліканскіх газетах «Звязда» (1939–1940) і «Чырвоная змена» (1940–1941). З пачаткам вайны — на фронце. Ваяваў на Заходнім, Бранскім, Данскім, Паўднёва-Заходнім, 1-м Беларускім, Паўднёвым, 4-м Украінскім франтах. Удзельнічаў у абароне Каўказа, у баях пад Сталінградам, вызваляў родную Беларусь, а таксама Украіну, Румынію, Польшчу. Некалькі разоў быў цяжка паранены. Старшы лейтэнант, камандзір узвода М. Сурначоў загінуў у ноч з 19 на 20 красавіка 1945 г. у рукапашным баі на подступах да Берліна. Быў пахаваны ў брацкай магіле за 8 км ад Берлінскай акруговай дарогі. У 1948 г. яго прах

перанесены на брацкія могілкі у г. Бад-Фрэенвальдэ (Германія). На помніку прозвішча паэта пададзена як «Н. Н. Сурнамов».

Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.

Упершыню выступіў у друку ў рагачоўскай раённай газеце «Камунар» (1933). У даваенны час яго нешматлікія творы надрукавалі газеты «Гомельская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена». Ваенная лірыка поўнасцю не ацалела, многія творы згублены ў баях і шпіталях. Найбольш славуты верш паэта часу вайны — балада «У стоптаным жыце», якая ўключалася ў шматлікія анталогіі і хрэстаматыі.

Творчая спадчына М. Сурначова сабрана ў зборніках «На сурмах баравых» (1946), «Барвовая зара» (1959), «Акопны спеў» (1986). Яго творы змяшчаліся у калектыўных кнігах «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967), «На сцягу і ў сэрцы» (1982), «За цябе, Радзіма!» (1984), «Крыніцы» (1998) і інш. У Маскве ў перакладзе на рускую мову выйшаў паэтычны зборнік «Одна любовь» (1971). Пасмяротна М. Сурначоў узнагароджаны мемарыяльным медалём літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага, які ў 1967 г. праводзілі Саюз пісьменнікаў СССР і выдавецтва «Молодая гвардия».

Выступаў у друку з літаратурна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі.

# Паэзія

## НАКАЗ

Песню звонкую Анэта
Разгубіла ў берагах.
Праплыла яна, як лета,
Разлілася па лугах.

«Ранкам чэрвеньскім пад дубам
Цалаваў мяне Лявон, —
Палымнелі мае губы,
Сэрца біла, нібы звон.

Люба нам было кахацца!
Дні міналі, быццам сон.
Але ў жніўні развітацца
Да мяне прыйшоў Лявон.

Сэрца к сэрцу прытулялі,
Сэрцы гутарку вялі,
Думы юныя крылялі,
Песняй-птушкаю плылі

Там, дзе сонца палыхае,
Шлё адтуль святло на дол,
Дзе вясёлка залатая
Абмываецца вадой.

Я Лявонку ключавою
Той вадзіцай абдала,
За сялібы ярыною
Ў пуць-дарогу правяла.

Цалавала, варкавала
І наказ такі дала:

Каб Радзіма красавала
Ад сяла і да сяла,

Каб злы вораг не сваволіў,
К нам не лез з па-за мяжы,
Наша шчасце, нашу долю
Пільна, любы, беражы».

*1938 г.*
*Мінск*

* * *

Зноў яны, драбнюткія сняжынкі,
Не сняжынкі, а пялёсткі вішань,
Замялі знаёмую сцяжынку,
На якую пагуляць я выйшаў.

Замялі, засыпалі — ні следу,
Любая, твайго не адшукаю.
І куды я ні іду, ні еду, —
Вецер зімні пра цябе спявае.

А чаму спявае?
Не згадаю.
Мабыць, і яго ты акрыліла,
Песню напявала ў ціхім гаю
І, як мне, галованьку ўскружыла.

* * *

Пра цябе не сніў і не гадаў,
Сваё сэрца праз цябе не мучыў,
А сустрэўся — і ў палон папаў,
Хоць жыццём к няволі не прывучан.

Мне здалося, што такіх, як ты,
Сонца век яшчэ не грэла,
Пра такіх на скрыпках залатых
Песняй толькі марыла капела.

Скажуць: гэта выдумка мая.
Можа, так, — не думаю пярэчыць.
Я ж таксама не супроць праяў
Слабасці у сэрцы чалавечым.

Пра цябе, адзіную маю,
Раскажу я ўсё барвовым зорам.
Гай папросіць, — гаю прапяю,
Бор захоча, — не адмоўлю бору.

Цішыня. Замёр маёвы шум,
Шум вясны і гаманлівых сёлаў.
Смешна неяк: год цябе нашу
Ў самым сэрцы без твайго дазволу.

*1940 г.*

## БАРВОВАЯ ЗАРА

Вот и кончилось детство, Коля.
*А. Суркоў*

Лясная дарожка
Слядочак губляе:
То вынырне з елак,
То ў лозы знікае,

То выгнецца спінкай,
То ўся ўстрапянецца —
З заросшай лагчыны
На ўзгорак імкнецца.

На ўзгорку рабіна
Махае галоўкай,
Рабіну наведаў
Чаканы салоўка.

Шуміць таямніча,
Нібы ёй вядома,
Куды мяне клічаш,
Барвовая, з дому.

*

Аддаў бы многае, каб толькі
Сказаў мне прадапошні гром,
Аб кім спяваеш ранкам золкім,
Смуткуеш познім вечарком.

Каго вачыма сустракаеш,
Каго вітаеш праз акно,
Прад кім нясмела рассыпаеш
Усмешак дарагіх зярно.

*

Сняжынкі кволыя ляталі,
На лоб, на вусны ападалі,
Я ім зайздросціў,
А пасмеў бы, —
Сваім цяплом
Цябе сагрэў бы.

*

Табою ўсё тут заварожана:
І падужэўшыя дубкі,
І сад з прысадамі прыгожымі
На беразе крутой ракі,

І патануўшы за курганамі
Паводкай зрушаны паром,
І нават ў вершы закаханае
Маіх надзей і дум пяро.

А ты? Цябе няма,
І горыч
Спадае кропелькамі рос.
...З дубамі пра цябе гаворачы,
Мне стала горасна да слёз.

*

Стаў бы стромкаю сасонкай,
Прашумеў бы над табою,
Калі раніцаю звонкай
Крочыш к рэчцы ярыною.

Мо на стан мой на сасновы
Ўскінула б ты вочы-зоры
Ясныя, як дзень маёвы,
Сінія, нібы азёры.

*1940 г.*
*Мінск*

## НА РОСТАНІ

Гадзіну горнымі наростамі
Хадзіў і не абдумваў толкам,
Што, стоячы з табой на ростані,
Цябе пакрыўджу словам колкім.

Відаць, слядамі неглыбокімі
Даўнейшай дружбы шлях адзначан,
Калі суседзямі далёкімі
Становімся пасля няўдачы.

А крыўдна!
З тонкаю вяршыняю,
Падмытая з бакоў дажджамі,
Скала махае шапкай сіняю,
Навечна стаўшы паміж намі.

*1941 г.*
*Пяцігорск*

## У СТОПТАНЫМ ЖЫЦЕ

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да роднага гаю,
Да блізкага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

*1941 г.*
*Заходні фронт*

* * *

Ты мне патрэбна, як глебе вада,
Як мараку пах салёнага мора.
Клікнуць? — Не змогуць вятры перадаць.
Плакаць наўзрыд? —
Прад бярозкамі сорам.

Казку прыдумваць? — Не выйдзе на лад.
Песню складаць? — Не складаецца песня.
Сон, бы рукою, з павекаў зняла, —
Мусіў я ночы прастойваць ля весніц.

Думаў:
Цяжкая дарога баёў
Казку юнацкага сэрца прыглушыць,
Можа, яе каля родных гаёў
Куля праніжа ці бомба прыдушыць.

Думкі плывуць і плывуць валакном
Зноўку туды, ў маю родную вёску, —
Бразне галінкай бярозка ў акно,
Як на цябе, я гляджу на бярозку.

*1941 г.*

* * *

Старонка мая, у смутку
Ты сына свайго не кляні!
Мне ў кожным лясным закутку
Сняцца твае кляны,

Хваёвыя пералескі,
Кветак мядзвяны пах,

Узняўшыя снег пралескі
Як зараз стаяць у вачах.

Ці ноччу лаўлю над гаем
Мігценне высокіх зор,
Ці звонка ўвесь дзень махаю
Касой, аж гамоніць бор,

Ці трактарам ля узрэчча
Тарфянікі варушу,
Ці песняй прыйсці на сустрэчу
Дзяўчынку сваю прашу.

Старонка мая, з дакорам
Ты сына свайго не кляні!
Мы пройдзем любімым борам,
Здабудзем твае кляны,

Хваёвыя пералескі,
Кветак мядзвяны пах.
Узняўшыя снег пралескі
Усцелюць прад намі шлях.

*Бранскі фронт*

## МЕСЯЦ ЗНІЗІЎСЯ...

Месяц знізіўся, лёг за карчы,
Бор ад інею быццам сівы,
Не спыняйся, у твар сячы,
Нашай поўначы люты сівер!

Біся шротам, зганяй у склеп,
Чорным дымам выкурвай зрэнкі,
Каб злы вораг зусім аслеп
І яго след замёўся навекі!

Каб чужацкіх вачэй агні
Пранасіліся, гаснучы, міма.
Не шкадуй іх, мятлой гані
Ад пpастораў маёй Радзімы!

Замятай ім шляхі, масты,
Беларускіх раўнін завея.

Месяц ранены знік у кусты,
А буран у палях шалее.

*1941 г.*
*Заходні фронт*

## ПАШТОЎКА

Калі змаўкаюць мінамёты
І цішыня атуліць лог,
Я дастаю паштоўку, што ты
Прыслала з бацькаўскіх дарог.

Размыта ўся дажджамі марка,
Злінялі словы ад вады,
Але ж у слове кожным ярка
Цябе я бачу праз гады.

Вось ты праходзіш полем роўным,
І аддае табе паклон
Высокі, вечна неспакойны,
Зялёны прыдарожны клён.

Ты на зямлі асірацелай,
На папялішчах родных сёл
Ідзеш-брыдзеш хадой нясмелай,
І слёзы сыплюцца на дол.

Але я зараз добра знаю:
Мы звернем край свой у баю.
Таму сябрам штодня чытаю
Паштоўку блеклую тваю.

*1941 г.*
*Бранскі фронт*

## СЛОВЫ ПОМСТЫ

Ты стаптаў нашчэнт мае сады,
Папаліў, развеяў гарады,
Наша шчасце — наш калгасны дом
Затапіў ты горкім палыном.

Я табе спакою, гад, не дам, —
Чорнай кроўю ты адкажаш нам!

Ты маю зямлю асіраціў,
Пакляваў зярняты нашых ніў,
Патравіў пракосы нашых траў,
Ты маю сям'ю ў палон забраў.

Я табе спакою, гад, не дам, —
Кроўю сэрца ты адкажаш нам!

Ты хацеў, каб для гайні тваёй
Хлеб радзіў і гай звінеў пчалой,
Білі рыбай рэкі ў берагі,
Сенажаці складаліся ў стагі...

Я табе спакою, гад, не дам, —
Сваім прахам ты адкажаш нам!

Ты жадаў, каб пёк табе пірог,
Тваіх тлустых бугаёў бярог,
Каб аддаў усё табе, што меў,
І хадзіў закуты у ярме.

Я табе спакою, гад, не дам, —
Чорнай кроўю ты адкажаш нам!

*1942 г.*

* * *

Як неба рассякла ракета
Узмахам вогненнай дугі,
І над прыціхшым сельсаветам
Узвіўся раптам залп, другі,

І ў дружбе не маглі адмовіць
Сто дальнабойных за мастом,
І стаў атаку славасловіць
«Кацюшы» нашай рускі гром,

І на асвечанай лагчыне
Пайшоў па стоптаным аўсе
На выручку сваёй айчыне
Строй важкіх танкаў пакрысе,

І «ястрабкі», што мужна летась
Над Свіслаччу трымалі бой,
Сабой прыкрылі поле гэта
Усё трывалаю бранёй, —

Ускінуўшы штыкі, пяхота
Пайшла на прыступ, як вясной
Ідзе на штурм рачная слота,
Ўраз крыгі крышачы сабой.

Паспрабуй загадай спыніцца:
І, быццам вал стаў нем і глух,
Пакуль надзейна сэрцу біцца,
Жыцця струменьчык не патух.

Яна, дзе крокам,
Дзе трушочкам,
Дзе проста цераз рэчку ўброд,
Дрыгвой ці высахшым пясочкам
Упэўнена ідзе ўпярод.

І, можа быць, наш шлях не просты
І абарвецца тут парой,
Але мы горад той, дзе рос ты,
Дзе ты кахаў, таварыш мой,

Той горад, дзе з табой кахалі,
Дзе мы раслі, таварыш мой,
Хоць жарка нам было, — не здалі
І, вер, ніколі не здамо.

*17 кастрычніка 1942 г.*

* * *

Ён не хацеў здавацца нам,
Гранатай біў браню і потым
Бег напрамкі к чужым гаям
І ледзь не захлынуўся потам.

Шляхі яго не павялі,
Не захаваў пад лісце доннік.
Яму заслужаны разлік
Прынёс на піцы рускі коннік.

Другія за кусок зямлі
Тры дні трымаліся заўзята,
Тут ярасна тры дні гулі
Над імі нашыя гарматы.

Яшчэ адзін быў. Ён за ўсіх
Не пажадаў адказваць чэсна.
Рашыў паміж кустоў чужых
Схавацца ўпотай пад арэшняй.

Над ім прайшоў шрапнельны град.
Ён паў, накрыты чорнай пенай,
Чупрынай рудай да гармат,
Нагамі ў выцвілае сена.

*1942 г.*

* * *

Ні шчыры мароз, ні сівыя бураны
Не спыняць мяне. Я праз горыч і смерць
Прыйду да цябе ў ціхі ліпеньскі ранак
У вочы паблеклыя паглядзець.

Як колісь, у шыбы пастукаю зрэдку
І, покуль у хатцы агеньчык мігне,
Глядзець буду моўчкі, як мук тваіх сведку —
Каліну да долу чырвоную гне.

Тут, маці мая, я тваімі вачыма
На свет пазіраць навучыўся з сяла,
Тут потым, узяўшы за рукі, айчына
Мяне па шляхах у жыццё павяла.

З пары той са мною здружылась старонка,
Любіць навучыла ніў родных напеў,
Тут я палюбіў нашых пушчаў гамонку
І голасна ў іх на жалейцы запеў.

Хоць поле радзімы засохла, як камень,
Зганьбована ворагам, змокла ў крыві,
Прынікну ад крыўды сухімі губамі
Да глебы прыбітай, да сосен крывых.

І хоць яна сёння закута, забіта,
Бярозавы сок яе грудзі заліў, —
Я, зведаўшы горычы, устаўшы з нябыту,
Сваёю бы кроўю яе ажывіў.

*1942 г.*

## ПРЫСЯГА Ў АКОПАХ

Радзіма!
Далёкія нівы без краю,
І ластавак гнёзды над хатай маёй...
Не знаю, калі цябе зноўку спаткаю,
Калі я тваёю прайду ярыной.

А толькі гадаць нам
Аб гэтым не трэба.
Не час.
Паглядзі, па-над Волгаю дым.
Гарматнымі громамі поўніцца неба,
І бомбы равуць над акопам маім.

Няхай жа лютуе варожая зграя
І бомбамі рвецца дыван ціхіх траў.
Я губы ад гневу калёнага сцяў
І сэрцам, Радзіма, табе прысягаю.

У стэпе палынным,
У небе крылатым
Мы будзем знішчаць іх няшчадней і злей,
Каб сцежкі-дарожкі да роднае хаты
Ніколі ў жыцці не знайшоў
Ліхадзей.

*1942 г.*
*Данскі фронт*

## ПАХОДНАЯ

Нам яшчэ, магчыма, давядзецца
Піць ваду балотную з канаў,

І не хутка мірна усміхнецца
Рог вясёлкі паміж росных траў.

Нам, магчыма, лёс насуліць многа
Непрадбачных і звычайных спраў,
Баявую не адну дарогу,
На якой смерць часта сустракаў,

На якой не зацвіце маліна,
Кветкі сохнуць, стогнуць крумкачы
І, як здань, зямлі маёй дзяўчына
Плача горка, косы ірвучы.

*Паўднёвы фронт*

* * *

Штодзень вялі мяне шляхі
З краю ў край жаданы,
Ад старай дзедаўскай страхі
Да мазанак гліняных,

Ад зацвітаўшых паплавоў
Да выкашаных ніваў, —
І ўсюды я, як свой, ішоў,
Вясёлы і шчаслівы.

То я на Волзе з-пад вясла
Раскідваў смех дзявочы,
То мне Кахетыя нясла
Віно і мёд ахвоча.

Дзе вінаград да глебы звіс
І шэпча таямніча,
Нясла мне, хвораму, кумыс
Чарнявая калмычка.

То на уральскі краявід
Не мог я надзівіцца,
То плакала прад мной наўзрыд
Палтаўская крыніца.

Казачка цёплым каймаком
Гасцінна частавала,

Бялюткі расчыняла дом,
Як сына абдымала.

І толькі б дзе ні ваяваў,
Дзе б ні быў у траншэі,
Такіх, як на радзіме, траў,
Такіх густых завеяў,

Такіх світанняў і крыніц,
Крутых віроў, палонак,
Такіх, як нашы, зараніц,
Як на Сажы сасонак, —

Я не знайшоў, як ні хацеў
Знайсці ў другой мясціне.
І доўга мой акопны спеў
Журыўся па айчыне.

*1-шы Беларускі фронт*

## НОВЫ МОСТ

Як колісь, гонячыся хваляй
За параходамі наўсцяж,
Ізноў ты, вецер, з сіняй далі
Палошчаш апусцелы пляж.

Кідаешся, як вал, на піхты,
На залатыя каштаны.
Не гні дадолу ў гневе іх ты,
Хай дачакаюцца вясны.

Вясна цяпер не за гарамі, —
Ты бачыш, за Дняпро, наўпрост,
Шляхі пракладваем штыкамі
І пад агнём наводзім мост.

Той мост лёг на маю радзіму,
І чую, бачу я праз стэп,
Як каласіцца шнур азімых,
Як налівае важкі хлеб.

*1943 г.*
*4-ты Украінскі фронт*

## ЛІСТ ДА МАЦІ

Ля хаціны тваёй сасновай
Скрозь байцы ў шынялях, бушлатах,
Маці!
Стрэнь іх там добрым словам,
Пачастуй, чым наш край багаты.

Ведай, родная маці, —
Дзеці
Пакідаюць свае дубровы,
Сенам пахнучыя павеці,
Водар пасек сваіх ліпнёвых,

Недаспелую канюшыну,
І жыты, як чарот, густыя,
І адзіную ў свеце дзяўчыну,
І юнацтва сны залатыя.

Можа стацца,
Ад кулі злое
Злягуць многія ў час атакі,
На акопах, на буераках
Адцвіце іх жыццё маладое.

Ты прыкрый іх павекі,
Мятай
Усцялі іх магілы-курганы
І паплач, як над сынам чаканым,
Майскай раніцай сіняватай.

*1943 г.*
*Запарожжа*

* * *

Што пісаць і чым парадаваць,
Не прыдумаю, павер,
Я тваімі жыў парадамі,
За цябе іду цяпер.

За цябе, што сінім ранкам
Затаілася ў ляску,

Што губляе на світанку
Слёзы на сухім пяску.

Я лічу іх; дожджык колькі
Кіне кропель на раллю,
Твае вочы сёння столькі
Слёз сярэбраных пральюць.

А дарма. З чужацкай куляю
Куляй спрэчку я вяду
І з табою, як з матуляю,
Стрэцца цераз Сож прыйду.

І, магчыма, ў той жа хаце,
Да якой мне шлях трымаць,
Ты, каханая, як маці,
Можаш госця не пазнаць.

А ні целам, ні душою
Не пакрыўджуся зусім,
На парозе прад табою
Стаўшы з ранцам франтавым.

*1943 г.*

## РОЗДУМ

І цішыня, і стогн глухі,
І сэрца ачарсцвела быццам,
І хочацца на грунт сухі,
Нібы на ложак, апусціцца.

Мацнее бой, і ты з штыком
Ідзеш наўпрост да перамогі,
І, можа быць, сустрэне дом
Пасля вайны зусім нямногіх.

І, можа, я, як ветэран,
Паду на жоўклыя пракосы
І да маіх гаручых ран
Нахіляцца спагадна лозы.

Не гэта нас турбуе! — Што ж?
Без перамогі свет не міл мне.

Калі не я, жыць будзе ўсё ж
Зямля, што нас з табой ўзрасціла.

*4-ты Украінскі фронт*

## СМАГА

Іншы раз брыдзеш сваёй пуцінай,
Перасохне ў горле — проста страх,
І здаецца, хоць прайшла б жанчына
З вёдрамі паўнюткімі ў руках.

Ледзь падумаў, — як з вачэй дрымота
Адлятае, ў сэрцы халадок,
Дзе падзенецца тады спякота, —
Зноўку мераеш за крокам крок.

Так і сёння, — як іду ў атаку,
Аж гарыць зямелька прада мной.
Ўспомню, краю, пра цябе, дружака,
І тады ахвотней мкнуся ў бой.

Так, магчыма, пройдзе колькі сутак,
І глядзіш — на бацькаўскай зямлі
Знойдзем той з крынічынай закутак,
Дзе зноў зможам смагу уталіць.

*1943 г.*

## ЗЯМЛЯНКА

Да франтавой маёй хаціны
Ісці нядоўга. На бугры,
Сярод жытнёвай зеляніны,
Яна стаілася ў нары.

Страхі няма. Замест столі
З бярвення зроблены накат,
Ды куча заімшэлых голляў,
Пакладзеных паверх няўлад.

На сценцы дзве ці тры бусолі
Ды томік Блока ў шынялі,

Як бы не існавала болей
Другіх паэтаў на зямлі.

У гліне высечаны сцены,
Пячурка зроблена штыком, —
Вось мой прытулак летуценны,
Мой франтавы надзейны дом.

Яго зімой снягі ўсцілалі,
Вясной дажджы мачылі дах,
Яго шрапнеллю засыпалі
Гарматы ўдзень і па начах.

І часта зранку мінамёты
Ўзрывалі зроблены насціл.
Крышылі, як арэхі, дзоты, —
На дом мой не ставала сіл.

Абвеяны ён ветрам польным,
Абсушан сонейкам удзень,
Пад небам франтавым прывольным
Не раз туліў нас у бядзе.

І хоць з прывычкі неахвота, —
Час развітання блізка ўсё ж,
І будаваць другі нас потым
Пакліча па-суседску Сож.

Калі часіне той збывацца,
Гадаць не будзем, але мы
Не думаем вось тут, прызнацца,
Сядзець, чакаючы зімы.

*1943 г.*

* * *

Стаіць над попелам хаціны,
Пілотку зняўшы з галавы.
Сяло ў жалезнай павуціне,
А ў сінім небе журавы.

А ў сэрцы?
Хіба ў сэрца глянеш,
Як у крыніцу ля сяла?

Маўчаць, стаіўшыся, сяляне,
Дзе вёска некалі была,

Дым рассцілаецца атрутны,
Агонь грызе галлё ракіт...
А сэрца?
Сэрца ў гневе лютым!
А ў сінім небе?
«Ястрабкі».

*1944 г.*

* * *

Вея кідаецца, кружыць,
Я ж нясу, як падарунак,
Міма смерці, міма сцюжы
Твой апошні пацалунак.

Кулямёты на паляне
Заліваюцца і стынуць.
Ой, як цяжка на майдане
Галаву ў кустах пакінуць.

І нялёгка ў лютай сцюжы
Стаць скалою і на зорцы,
Калі побач кулі кружаць,
Бачыць, як на гімнасцёрцы
Зацвітаюць ружы.

Зацвітаюць, сілы таюць,
Ты ж кідаешся з гранатай.
Старана мая лясная,
Ночка цёмная, густая,
Ой, нялёгак шлях салдата!

Ўспамяніце ж вы, з якімі
Мы не бачымся гадамі,
Нас хоць снамі залатымі,
Ўспамяніце і сваімі
Дакраніцеся губамі.

*1944 г.*

## ВЯСЕЛЛЕ

У садах яшчэ ліст не жаўцеў,
Дацвіталі яшчэ журавіны,
І даносіўся звонкі спеў
На ячменным кліну дзяўчыны.

І дзядзькі атаву граблі,
Як у жніўні, гулі касаркі.
А сваты палямі ішлі
З жаніхом да вядомай свінаркі.

Рваў пялёсткі з рамашкі жаніх
І казаў сабе:
«Любіць, не любіць,
Ці да сэрца мяне прыгалубіць,
Ці мо к д’яблу з сватамі пашле...»

Як на свята, ў сяле,
Заліваўся заслужаны бубен.
Так ішлі яны грэчкай, праз лубін,
Пад каштанамі...
Між прысад
Ехаў карны атрад.

Што ж марудна ты рос, жаніх?
Засядзелася ў дзеўках нявеста,
Дачакаўся гасцей чужых
Ды нязваных, з-за Брэста.

Цесен стаў табе родны дом,
Непрыветлівай цешча.
— Гэй, жаніх!
— Я — жаніх.
— На паром!..
Нёс асіннікам пошчак.

Не прыйдзецца, браткі, выпіваць, —
Упіліся слязамі...
А сяло?
А сяло не пазнаць:
Іскраў замець.

Дзе вяселле, шырокі круг,
Бубен дзе, дзе гармонік?

Як нявеста згубіла падруг?
Дзе стаеннікі-коні?

Запрагайце буланых, сівых,
Запрагайце!
Ад няпрошаных, ад чужых
Уцякайце!

— Гэй, жаніх!
Што ў журбе?
Ай, жаніх. Не глядзі, што не рана...
Жонкай стане вінтоўка табе,
А дружкамі сябры-партызаны.

Цешчай будзе зямлянка,
А цесць?..
І па ім сёння чарку выпіць,
Чуеш песні?
То плачуць дзесь.
А нявеста?

Вісіць на ліпе.
Чоран воран. Трава-мурава.
Ой, як гора мне сэрца цісне!
Дзе нявеста?
З пятлі галава
На дзявочыя грудзі вісне.

Цешча! Што ж ты?
Склікай музык!
З усяго, калі хочаш, свету.
Зяць, чаму ж ты не возьмеш смык,
Каб суцешыць кабету?

Хіба злая?
Не можа быць.
Мо сварлівая, кажуць людзі?
А жаніх пад ліпай стаіць,
Жаніх шэпча:
«Вяселле будзе...»

Сабірайце мужчын у сяле,
Па ваколіцах вестку шліце!
Мы вяселле зробім як след,
Збор у жыце!

І бярыце з сабой нажы,
Стрэльбы, хлопцы, не жонак бярыце…
Гэй! Гэй!
Збор у жыце!

*1944 г.*
*Мінск*

## ДУМА ПРА КАЗАКА ЧУБАТАГА

Цемень.
Аб сонцы не варта марыць.
Сонца расстралялі гарматы.
І на пустых, на размытых выжарах
Енк ледзь чутны:
«Ой, маты, маты!»

І зноў цішыня.
І зноў гарматы.
Верас абвуглены нелітасціва.
І стаіць над ім казак Чубаты,
А перад ім старэнькая маты.
«Маты, маты! Шчасліва!»

А ў небе ніводнай зоркі.
Час горкі.
Лёс горкі.
І садзіцца казак на гнядога.
«Ой, імчыся віхрам, нябога,
Шлях дабудзь да роднае хаты,
Чуеш, плача на скрыжаванні маты.

Стэп бяскрайні пад Запарожжам
Пачарнеў ад сілы варожай», —
Так сказаў сябрам казак Чубаты.
І тады выглянулі ў небе зоркі,
І месяц усплыў з-за горкі,
І бліснулі шаблі сталёвай лускою,
І крыкнуў Чубаты:
«За мною!»

І як падаў казак, — плакалі травы,
Жалкаваў з вадою ў завадзях явар,
А як падалі немцы, —

Палын гаркавы
Вырастаў над імі сцяной густою.

І калі радзіма лягла за Чубатым
І ён убачыў сваю хаціну,
Сказаў Чубаты:
«Ой, маты, маты,
І ты, Чырвона Ўкраіна...»

І ўпаў як сноп,
Рослы сноп пшаніцы,
А прад ім гаі, нівы палі ніцам.

Яго слава ў бой
Ходзіць з хвілі той.

*1944 г.*

## ЗАПАВЕТ САЛДАТА

Я не ведаю, дзе праляглі яны,
Сцежкі тыя,
Па якіх мне ісці з вайны.
Ці ўзышло тое дрэўца,
Што першым здалёк
Накіруе на мяне свой зялёны зрок,

І як зваць тую рэчку
Між лясоў, асакі-кусачкі,
Дзе мяне не пазнаюць
Балот маіх дзікія качкі.

І цікава,
Хто сустрэне мяне ля знаёмай дубравы
І пакажа:
«Твой дом далёка,
Спяшайся, спяшайся, салдат,
Да сваіх, цяпер вольных хат!»

Шмат каму не пазнаць гэтай радасці,
Хто пахован намі ў жоўтых курганах
І хто сёння к Адэсе рад ісці
І, як скошаны, падзе ў туманах.

Можа, й мне так жыццём наканована —
Не баяцца ні куль, ні мін,
Ад прыволжскіх ісці раўнін
Да Дуная, што ў путы закованы,

А праз хвілю ў ціхі Дунай
Пасці мо ад рукі варожай.
Таварыш!
Мяне пахавай,
Акружы мой курган агароджай.

А пасля перамогі вазьмі мой прах,
Пранясі праз рэкі і горы,
Гарадамі, пасёлкамі,
Пад дажджамі, вясёлкамі
На маёй Беларусі прасторы!

*1944 г.*

## СОН

Мне сёння сніліся суніцы,
Сцяжынка праз густы хмызняк
І дзераза, што хутка віцца
Пачне ў імхах і так і сяк.

І луг мурожны, і прысады
Вакол Варшаўскае шашы
Шапталі мне: «Цябе мы рады
Сустрэць ад шчырае душы».

І так заўжды перад вачыма:
Густы хмызняк, разбег дарог...
Такою я цябе, Радзіма,
У дні суровыя збярог.

*1944 г.*
*Румынія*

## З РУМЫНСКІХ ЭЦЮДАЎ

*

Апошняя мазанка
Пусціла апошні дымок.
Стаіць румын ля мазанкі,
Стаіць — не ступіць крок.
А вецер рве за крыссе
Прадымлены армяк.
Румын невясёлы —
Румын ад слёз размяк...
Не нам карміцца слёзным хлебам!
Нам свой, рускі, несці не хапае рук.
Падае баец кусок хлеба
І важна кажа: — Еш, хлапчук!

*

Дванаццаць немцаў
Зачапілі за бугарок руды
Сто дваццаць румынаў і загадалі:
— Страляй!..
І радзяцца румыны,
Як з гэтае бяды
Хутчэй уцячы,
Каб не трапіць у рай.

Як уцячы?
Крычы не крычы —
Глядзяць у румынскія спіны
Нямецкіх кулямётаў лычы.

А Прут пеніць,
Крышыць крыгі,
І праз стынь яго я ўдаль крычу:
— Мы прыйшлі к табе, радзіма мамалыгі,
Знішчыць берлінскую саранчу!

Уставай, Румынія, з попелу, галечы.
Усміхніся шчыра, шэрае сяло.
Мы да вас часова —
Выпроствай плечы,
Бяры ў рукі новае святло!

*1944 г.*

# ЛІСТЫ

*28 жніўня 1942 г.*

Дарагі дружа!

Сёння прыехаў «дадому». Гляджу — два лісты: ад цябе і Алеся [наш былы аднакурснік па Гомельскім педінстытуце. — *П. П.*[1]]. Абодва вырашылі разведаць, і добра, што гэта зрабілі. Даўно не бачыліся, вестак адзін ад другога не мелі, а вось узяўся пісаць ліст — і не ведаю, аб чым расказваць. Надта ўжо многа давялося перажыць. Аб гэтым «ні ў песнях, ні ў вершах, ні проста так расказаць» (М. Ціханаў).

Разумееш — знаходжуся на пляжы. Якраз у гэты дзень адкрыццё Мінскага штучнага возера. Сюды павінна прыехаць мая дзяўчынка, раптам вестка: вайна. Еду ў горад. Усе ўстрывожаны, на вуліцах сцягі. Дзесьці ў Маскве каля мікрафона арудуе мой цёзка Мік. Асееў. Горад не пазнаць. Над ім самалёты. Гартанныя гудкі сірэн. Каля Дома пісьменніка ўзнервавана пахаджваюць А. Кучар, К. Крапіва і другія. Мая дзяўчынка ў роспачы. Яе сястра працавала на нямецкай граніцы. Супакойваю яе і маці. Ідзём глядзець «На дне» ў пастаноўцы МХАТа. Праз дзень усё пайшло хадуном. Разбудзіла мяне бамбёжка. Бягу ў рэдакцыю. У горадзе пажар. Гарыць дом на Інтэрнацыянальнай. Адкуль ні вазьміся — гомельскі лірык Кастусь Кірэенка. З кнігай вершаў. Выпіць не давялося: нідзе не дастаў віна.

Пішу патрыятычныя вершы. Ноччу дзяжуру ў рэдакцыі. Раніцай мяне аглушыла ад разрыву бомбы. Яна ўпала на пляцы Волі, якраз насупраць рэдакцыі маёй газеты. Заходжу ў рэдакцыю. Усе пазіраюць на мяне, як на нябожчыка. Ірынка (так звалі нашу адзіную жанчыну літработніцу, прыгожую і прывабную) падыходзіць і запрашае закурыць. Пазірае таемна-трывожна.

Глухата праходзіць. Вось на горад налятае мноства самалётаў. Разбіт трамвай, электрастанцыя, папсаван Дом урада, гарыць квартал за пляцам Волі каля Свіслачы. Вось захапіўся дом Янкі Купалы. Ён, гаспадар, у гэты час быў у Вільні.

Бягу да сваёй дзяўчынкі. Маці сустракае плачам. «Яна, — гаворыць пра дачку, — у шпіталі. Асколак пераламаў ёй руку». Так пасялілася ў маім сэрцы трагедыя. Чэрствым яно зрабілася і моцным, як ніколі. Сцяўшы зубы, я гатоў быў пераносіць усё і ні перад чым не схіліць галавы.

Адзінае рашэнне — ісці ў Чырвоную Армію. Наведваю сваю дзяўчынку. Прыношу ёй «мішак». Вечарам эвакуіруюся з горада з яе маці. Горад палае. Каля Дома пісьменніка П. Глебка з жонкай. З вуліцы Энгельса снапы іскраў. Вось-вось загарыцца Дом пісьменніка. Мяне затрымліваюць: дакументы мае амаль усе згарэлі. Выратоўвае П. Глебка.

У рэдакцыі вецер свішча. Бяру некалькі кніжак са свайго стала, курава і пакідаю (не думаючы, што надоўга) рэдакцыю. Толькі назаўтра я выйшаў з горада. Гэта было позна вечарам. Ад Мінска засталіся адны ўспаміны. Крыўдна стала да болю, калі глянуў я на яго, адышоўшы кіламетраў дваццаць. Вялізны слуп дыму ўзвышаўся пад маім любімым горадам. І тады чамусьці прыпомніліся радкі М. Асеева:

Свежая, сырая,
Злая моя жизнь,
Ветром раздираемая,
Вейся и кружись.

Ішоў са мной М. Аўрамчык. Памятаеш, як яго верш «Жураўлі» Я. Колас назваў класічным? Брыдзём дарогай. Пачынае пікіраваць фашысцкі самалёт, а мы ідзём у жыта і давай чытаць М. Багдановіча, А. Куляшова, П. Броўку. Чамусьці яны аказаліся пад рукамі, і, каб не сумна было ў дарозе, мы захапілі іх з сабой.

Ірынку я бачыў апошні раз 24 чэрвеня. Закурылі. Яна неяк самотна паглядзела мне ў вочы. Сказала, што не ведае, як быць з бацькамі, куды іх падзець. Але чым я мог дапамагчы яе гору? Трэба было ратаваць сваю параненую дзяўчынку. Так і не сустрэліся мы потым. На шашы забіты коні, людзі, парваны правады. Моўчкі хістаюцца прыціхлыя жыты. Вось каля дарогі труп юнака-чырвонаармейца. І так нараджаецца першы верш Айчыннай вайны:

Не вярнуцца ніколі
Хлапцу маладому
К заросшаму мохам

Забытаму дому.

Над ім асыпаюцца  
Слуцкія краскі,  
Абсмалены колас  
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, забіты,  
У стоптаным жыце.  
Маці спаткаеце —  
Ёй не кажыце...

Аўрамчыку ён падабаўся, а мне не. Здавалася, што няма сардэчнасці, што не тое, няма сапраўднай цеплыні. І толькі цяпер я ў гэтым кірунку дасягнуў. Вось вытрымка з аднаго сёлетнега верша:

Старонка мая, у смутку  
Ты сына свайго не кляні!  
Мне ў кожным лясным закутку  
Сняцца твае кляны,

Хваёвыя пералескі,  
Кветак мядзвяны пах,  
Узняўшыя снег пралескі  
Як зараз стаяць у вачах.

Гэта напісана ўжо ў акопе, у адказ на боль за пакінутыя гарады і вёскі, за нашу жытнёвую Беларусь.

Развітаўся з Аўрамчыкам у Бабруйску. Сам паехаў да Магілёва. Там працаваў у «Звяздзе», а потым пайшоў у Чырвоную Армію. Праводзіла сястра. Развіталіся — сам ведаеш, як развітваюцца ў такі момант. З таго часу я не маю ніякіх вестак пра сваю сям'ю, сваіх блізкіх і родных.

Доўгі шлях прыйшлося прайсці. Дзе толькі не пабываў: і на Урале, і ў Казахстане, і, нарэшце, у Маскве. Быў разведчыкам. Цяпер прысвоілі званне малодшага палітрука. Жыву не дрэнна. Пішу амаль кожны дзень вершы. Падробней аб усім потым. Рад вельмі, што знайшліся ты і Алесь. Верш твой у газеце чытаў. Прабач, што адказваю са спазненнем. Чакаю падрабязнага ліста. Ці ведаеш, дзе штаб беларускіх пісьменнікаў? Як жывеш? Як маешся? Ці многа напісаў? Дай мой адрас сваім сябрам на ўсякі выпадак. Няхай яны мне пішуць. Адказу чакаю з нецярпеннем. Пацiскаю руку.

*P. S.* Хавай лісты, можа, калі-небудзь дасі маім родным па-

чытаць. Усё можа здарыцца.

*20 верасня 1942 г.*

Дарагі сябар!

Пісьмо выслаў, але яно вярнулася назад. Цяпер я далёка ад тых мясцін, адкуль пісаў апошні раз. Тут адбываюцца вялікія падзеі. Толькі зараз я ўбачыў сапраўдную вайну.

Не ведаю, ці давядзецца калі ўбачыцца, але памятай, што ты не забудзеш паведаміць маім родным што-кольвечы. Іх адрас: БССР, Гомельская вобл., Журавіцкі р-н, Свержанскі с/с, в. Слабада, Сурначову Мік. Яфімавічу. Беражы гэты адрас. Пасяброўску абдымаю. Спадзяюся, што хто-небудзь з нас пабывае ў родных мясцінах. Беларусь будзе савецкай!

*Мікалай.*

*17 кастрычніка 1942 г.*

Дарагі Паўлюк!

Шчыра дзякую за ліст, за беларускую газету. [Маецца на ўвазе газета «Савецкая Беларусь» і літаратурны дадатак да яе — газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Іх мне прыслаў на Бранскі фронт з Масквы Кузьма Чорны. — *П. П.*] Яна пазнаёміла мяне з творамі нашых карыфеяў паэтычнага слова. Надта хацеў прачытаць «Песню аб Радзіме» нашага беларускага Крылова — Кандрата Крапівы. Верш Я. Коласа крануў мяне да слёз. Хто б мог падумаць, што гэты дзядуля зможа напісаць такі верш. Падобныя рэчы былі толькі пад сілу Лермантаву ў разгар яго паэтычнай дзейнасці.

На захад, на захад
Спяшайцеся, хмары,
Варожай крывёю
Заліце пажары.

Гэта ж гімн беларускага народа. Гэта выключны верш. Цяпер пра сябе. Цяжкія баі пакуль закончыліся. Нейкае зацішша, магчыма, перад бурай. Многа напісаў, у прыватнасці, некалькі балад, некалькі вершаў лірычных. Вось адзін з іх, з лірычных:

Як неба рассякла ракета
Узмахам вогненнай дугі

І над прыціхшым сельсаветам

Узвіўся раптам залп, другі,

І ў дружбе не маглі адмовіць
Сто дальнабойных за мастом,
І стаў атаку славасловіць
«Кацюшы» нашай рускі гром,

І на асвечанай лагчыне
Пайшоў па стоптаным аўсе
На выручку сваёй Айчыне
Строй важкіх танкаў пакрысе,

І «ястрабкі», што мужна летась
Над Свіслаччу трымалі бой,
Сабой прыкрылі пашню гэту
Усёй трывалаю бранёй, —

Ускінуўшы штыкі, пяхота
Пайшла па прыступ, як вясной
Ідзе на штурм рачная слота,
Ўраз крыгі крышачы сабой.

Паспрабуй загадай спыніцца:
І, быццам вал стаў нем і глух,
Пакуль надзейна сэрцу біцца,
Жыцця струменьчык не патух.

Яна, дзе крокам, дзе трушочкам,
Дзе проста цераз рэчку ўброд,
Дрыгвой ці высахшым пясочкам
Упэўнена ідзе ўпярод.

І, можа быць, наш шлях не просты
І абарвецца тут парой,
Але мы горад той, дзе рос ты,
Дзе ты кахаў, таварыш мой,

Той горад, дзе з табой кахалі,
Дзе мы раслі, таварыш мой,
Хоць жарка нам было, — не здалі
І, вер, ніколі не здамо.

Можна б было яшчэ перапісаць вершаў з гэтага цыкла, але трэба ехаць на агнявую. Няма часу, а ліст хочацца адаслаць своечасова. Другім разам больш напішу. Ці чытаў ты літстаронку ў «Чырвонай змене», дзе былі змешчаны твае вершы пад псеўданімам Паўлюк Дабруша? Удала ахрысціў ці не? [Маюцца на

ўвазе мае вершы, надрукаваныя ў «Чырвонай змене» вясной 1941 года. — *П. П.*] Прысылай свае вершы, і калі што-небудзь з беларускіх паэтаў ёсць — прысылай, звярну.

Моцна паціскаю руку.

*Мікалай.*

*9 снежня 1942 г.*

Дарагі Паўлюк!

Ад цябе атрымаў ілюстраваную газету і больш ні слова. Чаму ты не напісаў ліста? Алесь паведаміў мне пра Кірэенку. Я вельмі ўзрадаваўся, што яшчэ адзін гомельскі «курылка» жыў і штосьці творыць. Напішы мне яго адрас або адрас той газеты, дзе ён друкаваўся.

У нас тут немцы крэпка пішчаць. Усыпалі ім здорава. Беглі і скора яшчэ пабягуць як апантаныя.

Ці чытаеш ты «На разгром врага»? [Газета Бранскага фронту. — *П. П.*] Хелемскі па-ранейшаму актыўнічае? Чаму не шлеш сваіх вершаў? Як жывуць гамяльчане? Я — па-ранейшаму. Хварэў толькі здорава, а зараз усё ў парадку.

*Мікалай.*

*13 студзеня 1943 г.*

Дарагі Паўлюк!

Можа, пакрыўдзішся, што пішу паштоўку, даруй, часу ў абрэз, усё справы і справы. Увесь час у дарозе — ніяк не дагнаць немца. Стукнуць — і пабяжыць. Дзякую за ўласныя вершы. Добрыя радкі:

А як таму у вочы глянеш,
Хто край ад ворага спасе?

Сустракаюцца русізмы — «разрушэнне», трэба — «разбурэнне». Вельмі рад, што стаў ты пісаць смялей, паўней, радзей сустракаецца недапрацаваны радок.

Добры верш К. Кірэенкі. Многа пачуцця, напісаны ад душы, ёсць добрыя радкі. Прышлі што-небудзь з вершаў уласных. Я веру, што ў цябе ёсць яшчэ лепшыя.

Прывітанне сябрам! Пішы, не забывай. Прывітанне ад Дона і Данца.

Твой аднакашнік *Мікалай.*

*31 снежня 1944 г.*

Добры дзень, дружа!

Вельмі рад, што нарэшце знайшлі адзін аднаго. Ведай, Паўлюк, многа мне давялося перажыць. Сем з паловай месяцаў у шпіталі. Твой адрас і мноства напісаных у акопах вершаў загінула...

Я зараз таксама на Вісле. Хутка ўдарыць вялікі гром, і я буду ўдзельнікам. Па-ранейшаму на камандней рабоце. Займаюся артразведкай. Вершаў амаль не пішу. Няма часу. Ад цябе чакаю вялікага ліста.

Твой сябра *Мікалай*.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Мікола Аўрамчык*

## НЕДАСПЯВАНАЯ ПЕСНЯ

Кожны раз, калі я спыняюся ў Саюзе пісьменнікаў перад мемарыяльнай дошкай, на якой залатымі літарамі высечаны імёны тых, чые сэрцы згарэлі ў пажары ваеннага ліхалецця, мне здаецца, быццам бы перада мной не калонка знаёмых прозвішчаў, а шарэнга выстраеных людзей. І ўсе ў цывільнай вопратцы. Толькі адзін Іван Шапавалаў вылучаецца сярод іх сваёй вайсковай выпраўкай. Мне чамусьці ён прыгадваецца то ў цёмна-сіняй лётнай форме, то ў зялёнай фуражцы пагранічніка...

Ажываюць успаміны...

Затаіўшы дыханне, я сачу за вяснушкаватымі рукамі Рыгора Мурашкі, які гартае вучнёўскі сшытак з маім апавяданнем.

То ўспамінаю высокую танклявую постаць Аркадзя Гейнэ. Пераступаючы з нагі на нагу, ні адзін з нас доўга не адважваецца першым увайсці ў кабінет маладога аўтара да Аркадзя Куляшова.

Паўстае ў памяці дзявочае аблічча Валодзі Рагуцкага, які на перапынку чытае мне свае новыя вершы.

Бачу перад сабой прыгожы чарнабровы твар Генадзя Шведзіка, стол якога стаіць насупраць майго ў рэдакцыі «Піянера Беларусі».

Зноў позірк затрымліваецца спачатку на адным, а пасля на другім прозвішчы, якія асабліва блізкія і дарагія майму сэрцу.

Аляксей... Мікола...

Нейкімі нязвычнымі і занадта афіцыйнымі выглядаюць у такім напісанні іх імёны.

Лёшам Коршакам і Колем Сурначовым назаўсёды засталіся для мяне гэтыя юнакі.

Пасівелі ўжо нашы аднагодкі. А Коршак і Сурначоў, якія ляжаць у брацкіх магілах, навекі засталіся маладымі ў сваіх вершах і ў нашай памяці.

Цяпер нават не верыцца, што да выдання іх паэтычных зборнікаў многія з гэтых вершаў у лепшым выпадку публікаваліся толькі ў

адным экземпляры: Коршака — у студэнцкай, а Сурначова — у салдацкай насценгазетах.

Для Сурначова гэта было вынікам ваенных абставін. А натура Коршака не дазваляла яму абіваць парогі рэдакцый. Гэты сціплы юнак саромеўся паказваць свае вершы блізкім сябрам. І хоць у інстытуце ён быў намеснікам рэдактара рукапіснага літаратурнага часопіса, вершы для насценгазеты ў яго самога даводзілася вырываць сілком.

...На Студэнцкай вуліцы не засталося і следу ад баракаў, дзе мы жылі ў часе вучобы. Але ў глыбіні двара па вуліцы Энгельса ўцалеў чырвоны цагляны будынак, у якім на другім паверсе, у вялікім пакоі справа, сярод дваццаці студэнтаў-другакурснікаў жыў Аляксей.

Яго бацька, калгасны млынар, часта прысылаў сыну пасылкі. Студэнты з усяго інтэрната прыходзілі пакаштаваць свежаніны. Аляксей не любіў, калі ў яго пыталі дазволу на гэта:

— Хіба вы не ведаеце, каторая мая тумбачка?

Таму звычайна кожны наведвальнік аблюбоўваў па свайму густу кавалак, ад якога адразаў тоўстую скварку. Дзверцы ў Аляксеевай тумбачцы ніколі не зачыняліся. Як плашкі, старчма стаялі ў ёй кавалкі сала.

За сцяной гэтага пакоя жылі студэнты кансерваторыі. Калі хлопцы збіраліся на гулянку і надзявалі пад пінжакі, паўзверх маек, беласнежныя накрухмаленыя манішкі, Аляксей жартаваў:

— Дзяўчаты, гляньце, як нашы лыцары, ідучы ў паход, прыкрываюць свае грудзі латамі!..

Студэнткі рагаталі.

У вершы «Паранены», які датаваны 1942 годам, А. Коршак пісаў:

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май...

Для Аляксея гэта былі не пустыя словы...

Высокі Коршак і сярэдняга росту Сурначоў з выгляду былі не падобны адзін на аднаго. Мікола быў старэйшы за Аляксея на тры гады і больш разважлівы. Якраз тады М. Сурначоў надрукаваў у «Полымі рэвалюцыі» нізку вершаў «Барвовая зара» з эпіграфам з А. Суркова «Вот и кончилось детство, Коля».

Калі я прыгадваю гэты эпіграф, перада мной, як вобраз таго наіўнага дзяцінства, паўстае даўняе Міколава фота, з якога паглядае малады хлопец з люлькай у зубах, у кепцы з доўгім брылём. Мабыць, гэты фотаздымак зроблены ў гады вучобы ў тэхнікуме. Мала хто

ведае, што М. Сурначоў у свой час скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і працаваў у аддзеле сельскай гаспадаркі рагачоўскай газеты. Улетку 1939 года ён, студэнт Гомельскага педінстытута, быў выкліканы ў Мінск на канферэнцыю маладых пісьменнікаў. Увосень Мікола перавёўся ў наш інстытут і адначасова пачаў працаваць у рэдакцыях — у «Звяздзе», у «Чырвонай змене».

І ў Коршака і ў Сурначова было штосьці агульнае ў характарах. Адзін і другі былі стрыманыя ў пачуццях і з выгляду нехлямяжыя. На фізкультуры Аляксей не мог кінуць на патрэбную адлегласць гранату. Некаторыя кпілі з яго... Здаецца, менавіта гэтых насмешнікаў меў на ўвазе А. Коршак у адным з вершаў ваеннай пары:

Усім гэтым гладзенькім, глянцавым
Я кіну ім вокліч жывы:
— А вось яно! От яно! Гляньце вы!
Бачыце вы?!

А ў нашым запасным палку Сурначова дакаралі, што не навучыўся як след хадзіць страявым крокам...

Калі спатрэбілася, адзін з гэтых юнакоў шпурнуў сваё сэрца, як гранату, з Капыльшчыны ва Усходнюю Прусію, а другі ад казахстанскіх стэпаў прайшоў пераможным крокам да самага Берліна.

Вось што піша ў лісце з Узбекістана баявы сябра Міколы афіцэр запасу Васіль Сямёнавіч Капычэнка:

«Я вельмі рад, што ваш сябра і мой аднапалчанін Мікола Сурначоў быў таленавітым маладым паэтам. Рад і таму, што мне давялося правесці з ім шмат баявых дзён і начэй, дзяліць усе нягоды баявога паходу.

Атрымаў ад вас усё, што вы мне паслалі...

Мікола Сурначоў у любых выпадках застаўся б у маёй памяці паэтам, калі б нават ён чытаў мне вершы, не маючы да іх ніякіх адносін. І вось чаму.

Ён любіў жыццё, як Беларусь.

Ён чытаў вершы на беларускай мове так, што я зразумеў мову гэтага народа і палюбіў яе.

І вось зараз перада мной яго вершы... Я маю магчымасць праз семнаццаць гадоў чуць яго словы...

Мікола прыйшоў у наш армейскі знішчальны супрацьтанкавы артылерыйскі полк у 1944 годзе.

Вось бывае ж так: увойдзе чалавек у душу, размесціцца ў ёй, і калі ўспомніш пра яго, здаецца, што ён там знаходзіўся раней, чым ты зразумеў, што такое душа.

...Сумку палявую кірзавую, якая, не ведаю, як магла ўмяшчаць у

сабе гэтулькі шмат усяго, я ўбачыў у яго тады, калі нас перакінулі ў Польшчу, пад г. Лукаў. Убачыў таму, што ў гэты час мы сталі з ім вельмі блізкімі. Мікола быў камандзірам узвода ўпраўлення батарэі. Я быў начальнікам разведкі дывізіёна...

І вось тады, уначы, пры газоўцы ў польскай хаце Мікола пазнаёміў мяне з тым, што ляжала ў яго палявой сумцы. Гэта была непаўторна цікавая ноч. У тую ноч ён даказаў мне, чаму ён абраў шлях паэта...

А хутка пасля ночы Міколу заўважылі лётчыкі, танкісты, артылерысты і пехацінцы. У кастрычніку ці лістападзе 1944 года камандаванне фронту рашыла правесці сустрэчу лётчыкаў, якія шэфствавалі над намі, з афіцэрамі нашай танкавай арміі. І як заўсёды бывае, пасля афіцыйнай часткі пачаліся тосты... Калі б вы бачылі, як гэты сціплы, сарамлівы хлопец у «чэрчылеўскім» шынялі прачытаў верш на беларускай мове! Цяпер я перакананы, што верш яго...

З Міколам мы прывязвалі баявыя парадкі ўсяго дывізіёна, арганізоўвалі аб'яднанае назіранне і засечку цэляў па імітаваных успышках.

...Чатырнаццатага студзеня 1945 года наша танкавая армія ўвайшла ў прарыў, семнаццатага студзеня мы ўзялі Варшаву, дзевятнаццатага — Лодзь, а дваццаць дзевятага студзеня ўварваліся ў Памеранію. У пачатку лютага падышлі да важнага стратэгічнага пункта г. Пірытц. Вораг сцягнуў штрафныя часці, завязаліся жорсткія вулічныя баі, у адным з якіх Мікола быў лёгка паранены ў нагу. Вярнуўся ён са шпіталя, калі мы пасля захопу плацдарма на Одэры адышлі на адпачынак.

У другой палове красавіка наша армія зноў увайшла ў прарыў. Артылерыйская калона ўначы ішла за танкавай. Паколькі армія адарвалася ад свайго фронту на 150–200 кіламетраў, громячы тылы і камунікацыі немцаў, патрабавалася выключная дакладнасць руху па маршруце. Але першая аўтамашына адарвалася ад танкавай калоны, у выніку танкі звярнулі направа, а артылерысты, не ўдакладніўшы маршрут, паехалі прама... Наткнуліся на засаду. Немцы прапусцілі пяць машын, пачалі біць «фаўстамі», завязаўся бой. Немцы адступілі, пяць аўтамашын, якія праскочылі праз засаду, невядома дзе. Даведацца, што з імі здарылася, даручылі мне раніцай наступнага дня. Як рашыць гэту задачу? Ехаць проста на разведмашыне, гэта значыць нічога не даведацца і напэўна трапіць у лапы ворагу. І выйсце знойдзена: ёсць легкавая машына, захопленая ў немцаў у начным баі, з іх апазнавальнымі знакамі і афарбоўкай.

Праехаўшы два-тры кіламетры, бачу, стаяць машыны на ўскраі вёскі. Пад'язджаю.

Перада мной адкрылася карціна начнога няроўнага бою жменькі храбрацоў, якімі камандаваў Мікола. Забітыя немцы і нашы, машыны

спалены. Падыходжу да крайняй хаты, ля якой пад коўдрай стогне паранены парторг дывізіёна, зямляк-іркуцянін Федзя Захараў. Расплюшчвае вочы, пазнае, просіць вады. Выпіўшы некалькі глыткоў, заплюшчвае вочы і на маё пытанне, як усё адбылося, дзе Мікола, не адказвае, памёр...

Пачуўшы і пераканаўшыся, што размаўляюць рускія, са склепа, размешчанага побач з хатай, вылез салдат, які расказаў мне пра ўсё. Праскочыўшы засаду і недаехаўшы да наступнай вёскі трыста-чатырыста метраў, калона спынілася. Насустрач, лязгаючы гусеніцамі, ішоў танк ці «СУ», а ззаду пачалі аб’язджаць бронетранспарцёры. Адзін з нашых салдат падышоў да транспарцёра і, не падазраваючы, што гэта фашысты, спытаў, куды яны едуць і з якой часці.

Вось тут і пачалося. Але вельмі мала было нашых. Ворагі іх адолелі. Мікола біўся як сапраўдны герой. Пазнаць яго я мог па светлакарычневых ботах, якія былі адзінымі ў палку. А сумкі так і не знайшоў, хоць патраціў на гэта шмат часу.

Вось так закончыў свой слаўны жыццёвы шлях ваш сябра, мой таварыш Мікола Сурначоў...

Прашу вас, пакланіцеся мемарыяльнай дошцы, на якой напісана яго імя!»

Ўспамяніце ж вы, з якімі
Мы не бачымся гадамі,
Нас хоць снамі залатымі
Ўспамяніце... —

пісаў М. Сурначоў у адным са сваіх вершаў.

Чэрвеньскай ноччу сорак першага года мы з Міколам Сурначовым пакінулі Мінск. Ледзьве здолелі перабегчы Савецкую вуліцу, якая ў цэнтры горада нагадвала глыбокую вогненную раку. З трэскам гарэлі з сярэдзіны трох- і чатырохпавярховыя камяніцы, нібы драўляныя домікі.

Мы прайшлі міма Універсітэцкага гарадка і цераз чыгунку, па прывакзальным віядуку, рушылі ў бок Студэнцкай вуліцы. Трывожную цішыню парушалі свісткі цягнікоў, цемру прарэзвалі водбліскі паравозных топак.

На Студэнцкай, у інтэрнаце, не было ні душы. Я адчыніў пакой, выцягнуў з-пад ложка чамадан і ўзяў у кішэню пашпарт, студэнцкі білет і заліковую кніжку. Крыху падумаўшы, невядома дзеля чаго, захапіў альбом з фотаздымкамі, паклаў да яго пару кашуляў і, абгарнуўшы ўсё гэта тонкай коўдрай, перавязаў чамаданнымі рамянямі.

Цераз пераезд, міма Чэрвеньскага рынку, мы выйшлі вуліцай за горад, на Магілёўскую шашу.

На пагорку, дзе цяпер стаяць карпусы велазавода, пачынаўся пералесак, перад якім была будка дарожнага майстра. Мы выцягнулі са студні вады, напіліся і селі перадыхнуць. З пагорка журботным позіркам глядзелі на горад свайго юнацтва. Над ім высока шугала барвовае полымя.

З горкай іроніяй ціха прамовіліся радкі Суркова: «Вот и кончилось детство, Коля», якія Сурначоў узяў эпіграфам да нізкі вершаў «Барвовая зара», што былі надрукаваны зімой у «Полымі рэвалюцыі».

Не паспелі мы адысціся ад горада, як развіднела і над шашой з’явіліся нямецкія самалёты. На абочынах валяліся разбітыя фурманкі, ляжалі забітыя людзі.

Як і іншыя ўцекачы-выгнаннікі, мы пачалі пятляць па жыце, наводдаль ад шашы. Балюча было глядзець, як варожыя самалёты кружыліся над Красным Урочышчам, дзе быў ваенны гарадок, і скідвалі бомбы. Некаторыя зніжаліся над шашой, вышуквалі сабе здабычу.

Сурначоў са шкадаваннем глядзеў на вытаптанае жыта і, прыцмокваючы, паўтараў:

— Сцяблінына, як чарацінына!.. Які быў ураджай!.. Як на пагібель...

Ён адрываў сцябло, заціскаў у зубах і, штосьці абдумваючы, маўчаў.

Усцяж шашы мы ішлі далей.

Надвячоркам Сурначоў раптам прачытаў мне верш «У стоптаным жыце», які цяпер увайшоў у анталогію беларускай паэзіі і перакладзены на рускую мову А. Твардоўскім. Гэты верш пазней друкаваўся ў нашай палкавой насценгазеце.

Злева ад шашы была вялікая вёска. Мы прайшлі вуліцай да сярэдзіны яе і папрасіліся на начлег. Гаспадары хаты, спачуваючы людской бядзе, далі нам прытулак. Мы адразу ж заснулі.

Раніцай, адмовіўшыся ад снедання і выпіўшы толькі па шклянцы малака, мы наважыліся ісці ў Пухавіцкі ваенкамат. Я зразумеў, што ўзятыя з сабой рэчы мне болей не патрэбны. Вырашыў усё гэта пакінуць у гаспадароў.

Маладзейшая гаспадыня, відаць, разумеючы, што ў вайну мужчына-гаспадар не будзе сядзець дома, параіла запісаць іх адрас так: Рудзеншчына, вёска Матарова, Крайко Надзея.

У гады майго блукання па свеце згубіўся гэты запіс. Але ці то ад нашага веку матораў, ці то пад уплывам думак пра родны край і надзеі на вяртанне — запомнілася назва вёскі, прозвішча і імя гаспадыні.

Праўда, адразу ж пасля вайны, калі людзі не знаходзілі сваіх род-

ных і блізкіх, мне было не да пакінутых рэчаў, а тым болей не да такой дробязі, як фотаздымкі.

Але калі наша выдавецтва пачало рыхтаваць кнігу «Мы іх не забудзем», для яе неабходны былі фотаздымкі пісьменнікаў, якія не вярнуліся з вайны. Сябры пераканалі мяне, што варта ўсё-такі з’ездзіць у тую вёску, дзе я пакінуў альбом. А раптам што-небудзь з фотаздымкаў уцалела...

Вясновай раніцай я прыехаў цягніком на невялікі паўстанак, з якога трэба было пешкі дабірацца да вёскі. Ісці давялося каля дзесяці кіламетраў.

На скрыжаванні дарогі з вясковай вуліцай стаялі дзве жанчыны.

Я павітаўся з імі.

— Скажыце, калі ласка, дзе тут хата Крайко Надзеі?..

Адна з жанчын здзіўлена паглядзела на мяне:

— А што такое?.. Я Крайко Надзея...

— Прабачце... Я адзін з тых студэнтаў, што ў першыя дні вайны спыняліся на начлег у вашай хаце.

— А, помню, помню... Ну дык хадземце ў хату. Вашы рэчы ўцалелі. А ці застаўся жывы ваш сябар?..

Я сказаў, што ён загінуў пад Берлінам.

У хаце, за гасцінным сталом, хвалюючыся, разглядаў я фотаздымкі ў сваім альбоме. Перада мной зноў паўставалі знаёмыя аблічы студэнтаў-аднакурснікаў, сяброў-пісьменнікаў, былых аднакласнікаў — лейтэнантаў з кубарамі на пятліцах, сувязістаў, лётчыкаў, артылерыстаў...

Я разумею, як рызыкоўна і небяспечна было ў вайну трымаць у хаце такія здымкі. Але ў Ганны Георгіеўны, старэйшай гаспадыні хаты, свой сын быў з гэткімі ж лейтэнанцкімі кубарамі...

Яна расказвала, як схавала ўсе гэтыя фотаздымкі ў самавар і закапала яго ў зямлю. Некаторыя з іх пажоўклі ад вільгаці.

— Толькі шкада, што пласцінка не ўцалела... Паліцаі парвалі яе...

Да вайны ў кінатэатры «Чырвоная зорка» перад пачаткам сеанса можна было запісаць свой голас на гнуткую патэфонную пласцінку. Мы з Аляксеем Коршакам аднойчы зрабілі такі запіс. Гэтая пласцінка і захоўвалася ў маім альбоме.

Так незнаёмыя людзі збераглі ў час вайны многія дарагія для мяне фотаздымкі, некаторыя з якіх спатрэбіліся пры выданні кнігі «Мы іх не забудзем».

Мінула больш за дваццаць гадоў з таго часу. Мне захацелася зноў наведаць гэтую вёску.

З аўтастанцыі, што на ўскраіне Мінска, загарадны аўтобус, пасля некалькіх прыпынкаў, давёз мяне на месца за паўгадзіны.

Ажно не верыцца, што мы з Сурначовым дабіраліся сюды ледзь не цэлыя суткі.

Вёска Матарова... Аказваецца, жыхар яе, вясковы актывіст Хведар Трапашка, у трыццатыя гады перапісваўся з М. Горкім. У гісторыка-краязнаўчым музеі мясцовай сярэдняй школы ашчадна захоўваюцца лісты вялікага рускага пісьменніка.

Гаспадары, якіх я хацеў наведаць, у першыя пасляваенныя гады пераехалі ў Рудзенск.

Праз некалькі дзён я знайшоў там іх домік, у якім мы прасядзелі за сталом некалькі гадзін.

Гаспадар, Мікалай Міхайлавіч, вясёлы, дасціпны чалавек. Мы адразу ж знайшлі з ім агульную мову. Некалі, у юнацтве, ён быў аграномам непадалёк ад маіх родных мясцін. Я распытваю пра яго маці, Ганну Георгіеўну. Яна памерла тры гады таму назад. З вялікай удзячнасцю да яе я надпісаў Надзеі і Мікалаю Крайко толькі што выдадзены зборнік «Крывёю сэрца», у якім змешчана некалькі фотаздымкаў з тых, што зберагла Ганна Георгіеўна. Некаторыя з іх друкаваліся ў часопісах і кнігах.

З фотаздымкаў зроблены партрэты, што цяпер вісяць на сценах у нашым Доме пісьменнікаў.

*1964–1968 гг.*

*Мікола Аўрамчык*

## ПАМЯЦІ МІКОЛЫ СУРНАЧОВА

Я помню, калі мы,
Ўчарашнія студэнты,
Дзялілі на дваіх
Салдацкі хлеб,
З тэадалітам і сталёвай лентай
Вымерваючы казахстанскі стэп.

У ранцы за спіной
Быў вопыт небагаты,
І маладых тапографаў узвод
Спяшаўся вывучыць
Ландшафт Карпатаў
Або Мазурскіх заліўных балот.

Калі ж на захад
Нас паклікалі дарогі,
Нам стужку

Не спатрэбілася браць...
Адлегласць доўгую да перамогі
Гадамі давялося вымяраць.

Не раз, бывала, мы
І ў радасці, і ў горы
Жылі надзеяй,
Выхадзіўшы свет,
Яшчэ вярнуцца ў наш далёкі горад
Пад заравам расквечаных ракет.

І кожны раз,
Калі я толькі бачу блізка
Ракет святочных
Каляровы рой,
Як загрыміць салют
Над стольным Мінскам,
Здаецца мне,
Што не закончан бой.

Як быццам і цяпер
Перад варожым дотам
Знаёмы лейтэнант
З забінтаванай галавой
Наперад кліча
Ў наступленне роту,
Іграючы на сурме баравой.

*1947 г.*

*Мікола Аўрамчык*

* * *

Адкуль бы ні вярнуўся ў горад родны —
З вагона выйду пад абцасаў стук
І мімаволі
позіркам самотным
Заўважу прывакзальны віядук.

Калісьці
з шумнай вуліцы Студэнцкай
Цераз чыгунак лініі
наўпрост
Штодзень

да гарадка Універсітэцкага
Хадзілі мы з табой праз гэты мост,
Дзе на васьмі вятрах каля вакзала —
Само сабой вядомая ўжо рэч —
І горкіх расставанняў шмат бывала,
І незабыўных радасных сустрэч.

Пад заравам нябёсаў кумачовых,
Ў палаючага Мінска на віду,
Разгневаныя,
з Колем Сурначовым
Мы рушылі праз гэты віядук
Над водбліскамі паравозных топак
І скрозь трывожнае выццё гудкоў
У гарады сталічныя Еўропы
Без універсітэцкіх гарадкоў.
Майго там сябра вернага не стала...
А гэты віядук перакідны
Астаўся мостам
з маладосці ў сталасць,
Апаленую полымем вайны.

*1965 г.*

*Анатоль Вялюгін*

## ПЕСНЯ ПАЎШАГА ДРУГА

Ёсць у васьмі кіламетрах ад Берліна на ўсход брацкая магіла, у якой пахаваны малады беларускі паэт Мікола Сурначоў. Перад намі яго першая кніжка. Яна выйшла з друку больш чым праз год пасля смерці аўтара. Называецца яна «На сурмах баравых».

Эпіграфам да яе могуць служыць словы ўкраінскага песняра Андрэя Малышкі.

Немало мы воювали, стоптали чобіт рудых,
І якщо згадати мертвих, то й я зажурюся по них.
І якщо живих згадати, — няхай заніміе плач.
Бо друзі йдуць полками, і я серед них — сурмач.

Перад вайною Мікола Сурначоў змясціў у часопісе «Полымя рэвалюцыі» нізку вершаў з эпіграфам: «Вось і скончылася дзяцінства, Коля». Гэта былі ясныя, свежыя вершы аб Дняпры, шчаслівых хлебаробах, каханні:

Стаў бы стромкаю сасонкай,
Прашумеў бы над табою.

Калі раніцаю звонкай
Крочыш к рэчцы ярыною.

Мо на стан мой на сасновы
Ўскінула б ты вочы-зоры
Ясныя, як дзень маёвы,
Сінія, нібы азёры.

Вайна паклікала маладога паэта, равесніка Кастрычніка. Мікола Сурначоў пайшоў на фронт радавым чырвонаармейцам абараняць свае вялікія правы, сваё шчасце, сваю Радзіму. Ён біў ворага не толькі з вінтоўкі, ён клікаў на смяротны бой аднапалчан сваёй узнёслай, гнеўнай песняй, граючы на баравых пявучых сурмах роднай Беларусі.

«На сурмах баравых» — гэта другі па ліку зборнік маладой беларускай паэзіі (пасля кніжкі Кастуся Кірэенкі «Ранак ідзе»), што выйшаў з друку пасля вайны. Ён сведчыць аб росце нашых маладых паэтаў, творчасць якіх узмужнела на франтах Айчыннай вайны.

Тут і суровыя, прапахлыя чадам і крывёю дні чэрвеньскага і ліпеньскага адступленняў, калі, як слёзы, раняла буйнае зерне пераспелае жыта, дзе ляжаў забіты нямецкаю куляю таварыш, а над ім абсыпаліся «слуцкія краскі, абсмалены колас схіліўся да каскі»:

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

*(«У стоптаным жыце»,*
*1941 г. Заходні фронт)*

Тут і завейная зіма, у якую мы абаранялі маці-Маскву.

Замятай іх шляхі, масты,
Беларускіх раўнін завея...
Месяц ранены знік у кусты,
А буран у палях шалее.

*(«Месяц знізіўся»)*

Паэт прысягаў на вернасць Радзіме і ў пякельных палынных стэпах пад Сталінградам:

Радзіма!
Далёкія нівы без краю
І ластавак гнёзды пад хатай маёй...
Не знаю, калі цябе зноўку спаткаю,
Калі я тваёю прайду ярыной.

Толькі дзе б ні быў паэт — ці ля мазанак гліняных, ці пад раздольнаю Волгаю, ці ў Кахетыі, якая яму, хвораму, раненаму, «нясла віно

і мёд ахвоча», ці там, дзе плакала прад ім наўзрыд палтаўская крыніца, дзе «казачка цёплым каймаком гасцінна частавала, бялюткі расчыняла дом, як сына абдымала», — акопны спеў Міколы Сурначова заўсёды журыўся аб айчыне, аб Беларусі.

Слова паэта гучала з вялікаю вераю ў суджаны час, калі ветла ўсміхнецца Перамога на роднай зямлі.

Безумоўна, некаторыя вершы Міколы Сурначова маюць на сабе адзнаку паспешлівасці, рытарычнасці. Яны пісаліся ў акопах, траншэях, але і гэтыя яго творы хвалююць сваёй надзённасцю, дыханнем вайны.

Вельмі цяжка было на фронце «акопным сурмачам» шліфаваць свой верш.

Страхі няма. Заместа столі
З бярвення зроблены накат
Ды куча заімшэлых голляў,
Пакладзеных наверх няўлад.

На сценцы дзве ці тры бусолі
Ды томік Блока ў шынялі,
Як бы не існавала болей
Другіх паэтаў на зямлі...

*(«Зямлянка»)*

Але і ў паходах, і ў баях паэт не кідаў паэтычнай вучобы, удасканальваў свой верш. З Міколы Сурначова вырас бы добры паэт. Гэта сцвярджаюць яго вершы, напісаныя ў 1944 годзе: «Вяселле» і «Дума пра казака Чубатага», з якіх бярэш радкі, чыстыя, важкія:

Чоран воран. Трава-мурава.
Ой, як гора мне сэрца цісне!
Дзе нявеста?
З пятлі галава
На дзявочыя грудзі вісне...

Або:

Аб сонцы не варта марыць.
Сонца расстралялі гарматы.
І на пустых, на размытых выжарах
Енк ледзь чутны:
«Ой, маты, маты!»

І зноў цішыня.
І зноў гарматы.
Верас абвуглены нелітасціва.
І стаіць над ім казак Чубаты,

А перад ім старэнькая маты.
«Маты, маты! Шчасліва!»

А ў небе ніводнай зоркі.
Час горкі.
Лёс горкі.

У пачатку 1945 года Мікола Сурначоў даслаў у Мінск апошні свой верш з Румыніі. Паэт зноў журыўся аб сваёй чароўнай айчыне, сніў аб ёй прыгожыя сны, у якіх бачыў суніцы ў барах, сцяжынкі праз густы хмызняк, дзеразу, што «хутка пачне віцца».

І так заўжды перад вачыма:
Густы хмызняк, разбег дарог...
Такою я цябе, Радзіма,
У дні суровыя збярог.

Пасля маладыя мінскія паэты чакалі ад свайго дружбака новых вершаў з-пад Берліна. Замест вершаў прыйшоў ліст ад баявых паплечнікаў Міколы Сурначова. Яны пісалі аб смерці паэта.

Такія жыццё і паэзія Міколы Сурначова — маладога паэта і друга, які загінуў у баях за наша шчасце на світанні сваёй творчасці і не даспяваў да канца юнацкую песню.

*1946 г.*

*Рыгор Бярозкін*

## ТАВАРЫШ ЗАГІНУЎ НА ВАЙНЕ

Гэта быў сціплы, маўклівы юнак, бязмежна ўлюбёны ў паэзію. Я помню яго, усхваляванага, над старым камплектам «Чырвонай змены»: «Глядзіце, верш Маякоўскага, якога нават няма ў поўным Зборы твораў паэта...» Да вайны ён паспеў напісаць нямнога: некалькі вершаў пра маленства, якое адышло, пра Каўказ, куды ён ездзіў лячыцца, і яшчэ пра каханне, ціхае, чыстае, але трывожнае. У Пяцігорску, перад самай вайной, ён напісаў пра падмытую дажджамі скалу, што «махае шапкай сіняю, навечна стаўшы паміж намі». Верш называўся «На ростані» і быў прысвечаны дзяўчыне, якая пазней таксама загінула...

Усё напісанае Міколам Сурначовым на вайне дыхала сардэчнай замілаванасцю да пакінутага роднага краю, смуткам па ім. Пачуццё нейкай вінаватасці перад бацькоўскай старонкай часта агортвала яго, чалавека са зброяй, і тады нараджаліся словы, вельмі шчырыя і праўдзівыя.

Паэт лірычнага складу, надзвычай уважлівы да прыватнай дэталі, да маляўнічай падрабязнасці, Сурначоў і пра вялікае, драматычнае, скажам, пра наступленне баявой пяхоты, пісаў так, што мы, яго чытачы, заўсёды адчуваем усю нявыдуманую праўдзівасць карціны. Вось як добра сказана пра пяхоту ў адным з вершаў 1942 года:

Яна, дзе крокам,
Дзе трушочкам,
Дзе проста цераз рэчку ўброд
Дрыгвой ці высахлым пясочкам
Упэўнена ідзе ўпярод.

Армія, што «ўпэўнена ідзе ўпярод», «дзе крокам, дзе трушочкам», — такое, вядома, магло быць напісана адным з удзельнікаў наступлення, а не староннім яго назіральнікам.

Не ведаю, можа, і не зусім дарэчы разважаць аб такіх «тонкасцях», як мастацтва кампазіцыі або культура радка ў дачыненні да вершаў, што ствараліся пад агнём, у бліндажах і акопах, але, гаворачы пра ваенныя вершы Міколы Сурначова, менавіта хочацца адзначыць іх сюжэтную завершанасць і яснасць, іх кампазіцыйную зграбнасць.

Вось, напрыклад, верш 1944 года «Стаіць над попелам хаціны...» — аб салдаце, якога ваенны лёс прывёў у роднае сяло, дашчэнту спаленае фашыстамі. Скупа, некалькімі радкамі, малюе паэт карціну сяла: попел, дым і сумныя журавы ў сінім небе. Нічога не гаворыць аўтар аб помсце, што спасцігае ворагаў, і толькі канцоўка, стрыманая, лапідарна-сціслая, прымушае нас паверыць, што нелюдзі будуць пакараны:

Дым рассцілаецца атрутны,
Агонь грызе галлё ракіт...
А сэрца?
Сэрца ў гневе лютым!
А ў сінім небе?
Ястрабкі.

Чытаючы запар усе вершы Міколы Сурначова, яскрава бачыш, як мужнеў голас маладога паэта, як удасканальвалася яго майстэрства. Такія вершы 1944 года, як «Вяселле», «Думка пра казака Чубатага», «Запавет салдата», сведчылі аб тым, што Сурначоў паспяхова пераадольваў рытмічную аднастайнасць, якая адчувалася ў некаторых яго творах. Жывое і інтанацыйнае рознагалоссе запаўняе гэтыя вершы, вельмі гнуткія, выразныя па рытмах. Асабліва гэта датычыць «Вяселля», дзе гучыць мноства самых непадобных галасоў, пачуццяў, настрояў, ад ціхага гадання дзяўчыны «любіць — не

любіць» да трагічнага апавядання пра тую ж дзяўчыну, што «вісіць на ліпе», ад успамінаў пра радаснае, з цымбаламі і бубнам, вяселле ў нядаўнія гады да суровага партызанскага воклічу:

«Гэй! Гэй! Збор у жыце...»

Вядомая рэч, не ўсё, напісанае М. Сурначовым у ваенныя гады, стаяла на аднолькава высокім узроўні. Былі ў яго і вершы слабыя, агульныя, недасканалыя па мове, вершы, у якіх залішне вялікае месца займае рамантызаваны, нежывы вобраз дзяўчыны, чый «апошні пацалунак» паэт праносіць «міма смерці, міма сцюжы». Але не гэта галоўнае. Важна тое, што, робячы сваю цяжкую салдацкую справу, выконваючы свой баявы абавязак на многіх, ад Бранска да Каўказа, франтах Айчыннай вайны, Мікола Сурначоў здолеў стварыць і такія вершы, у якіх выразна чуецца біццё яго чалавечага сэрца — воіна і патрыёта, сапраўднага гуманіста.

І хіба не глыбокай чалавечай спагадлівасцю і дабратой кранае нас напісаны Сурначовым у толькі што вызваленым Запарожжы «Ліст да маці», у якім мы чытаем такія радкі:

Ля хаціны тваёй сасновай
Скрозь байцы ў шынялях, бушлатах.
Маці!
Стрэнь іх там добрым словам,
Пачастуй, чый наш край багаты.

І проста ўзрушвае ў вуснах Міколы Сурначова, у вуснах чалавека, які сам загіне праз два гады на чужой нямецкай зямлі, просьба, звернутая да маці: можа стацца, многія з тых, у шынялях і бушлатах, злягуць ад злое кулі, —

Ты прыкрый іх павекі,
Мятай
Усцялі іх магілы-курганы
І паплач, як над сынам чаканым,
Майскай раніцай сіняватай.

На франтах Вялікай Айчыннай вайны загінулі таксама маладыя беларускія паэты Аркадзь Гейнэ (які выдаў да вайны зборнік вершаў), Леанід Гаўрылаў і Аляксей Коршак. Усе яны маглі жыць сярод нас, працаваць, славіць сонца, мір, наш росквіт і нашу пераможную хаду ў будучыню. Мы абавязаны сабраць і выдаць усё лепшае, што пакінулі нашы таварышы...

*1960 г.*

*Паўлюк Прануза*

# ТАКІ ЁН БЫЎ

Гавораць, што час — добры лекар, які залечвае раны і прыглушае боль. Можа, гэта і сапраўды так. Але ўспаміны аб мінулым можна параўнаць з вогнішчам, якое раздзімае вецер часу. Даўно адгрымелі баі Айчыннай вайны, але ў памяці астаюцца сябры, з якімі еў з аднаго кацялка, у адным ланцугу ішоў у атаку, над магілай якіх праліў салдацкую слязу.

У мяне захавалася некалькі ваенных лістоў ад Міколы Сурначова. Пранесены яны ў рэчавым мяшку па франтавых дарогах, пабывалі пад варожым агнём, пажоўклі ад часу, але яны — жывыя сведкі баявога жыцця паэта, які не даспяваў сваёй мужнай салдацкай песні.

Позняя дажджлівая восень 1942 года. Пад моцным артылерыйскім абстрэлам варожых гармат у акоп прыбягае лістаносец.

— Тут ёсць і беларусам! — радасна выгукнуў ён.

— Каму? — пачулася адразу некалькі галасоў. У нашым гарматным разліку было некалькі беларусаў: з Гомельшчыны, з Палесся. Лістаносец назваў маё прозвішча.

— Ад каго гэта магло быць?

Хвалюючыся, разглядаю трохкутнік, і ў вочы кінуўся знаёмы почырк: Мікола Сурначоў. Адрас мой ён знайшоў праз рэдакцыю газеты Бранскага фронту «На разгром ворага», у якой я друкаваў свае вершы на рускай мове.

— Чытай, чытай, — насядалі на мяне сябры.

Страляніна ўзмацнялася. Вораг каля акопа густа клаў міны і снарады. Не зважаючы ні на што, я разгарнуў ліст і пачаў чытаць:

«[22 чэрвеня] знаходжуся на пляжы. Якраз у гэты дзень адкрыццё Мінскага штучнага возера. <...> раптам вестка: вайна. Еду ў горад. Усе ўстрывожаны. <...> Дзесьці ў Маскве каля мікрафона арудуе мой цёзка Мік. Асееў. Горад не пазнаць. Над ім самалёты. <...> Каля Дома пісьменніка ўзнервавана пахаджваюць А. Кучар, К. Крапіва і другія. <...> Адкуль ні вазьміся — гомельскі лірык К. Кірэенка. З кнігай вершаў. <...> Вось захапіўся дом Янкі Купалы. Ён, гаспадар, у гэты час быў у Вільні <...> Адзінае рашэнне — ісці ў Чырвоную Армію. <...> Горад палае. Каля Дома пісьменніка Глебка з жонкай. <...> Мяне затрымліваюць: дакументы мае амаль усе згарэлі. Выратоўвае П. Глебка. <...> Вельмі крыўдна стала, да болю, калі я глядзеў на Мінск...

Ішоў са мной М. Аўрамчык. Памятаеш, як яго верш «Жураўлі» Я. Колас назваў класічным? Брыдзём дарогай, пачынаем <...> чытаць М. Багдановіча, А. Куляшова, П. Броўку. Чамусьці яны аказаліся пад рукамі, і, каб не сумна было ў дарозе, мы захапілі іх з сабой».

Гэты ліст «шукаў» мяне больш месяца. Напісаны ён быў не адразу — аб гэтым сведчылі почырк і рознае чарніла. Пісаўся ён, відаць, на кароткіх прывалах ці пасля бою.

Ніхто з байцоў не зварухнуўся, калі я чытаў гэты ліст. Кожны пасвойму ўспомніў, як пакідаў родныя мясціны.

— А ці ўсё вы прачыталі? — спытаў у мяне гамяльчанін. — Не ўсё? Мы яшчэ будзем слухаць.

«На шашы забітыя коні, людзі, парваныя правады. Моўчкі хістаюцца прыціхлыя жыты. Вось каля дарогі труп юнака-чырвонаармейца. І так нараджаецца першы верш Айчыннай вайны:

Не вярнуцца ніколі
Хлапцу маладому
К заросшаму мохам
Забытаму дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся ля каскі.

Ляжыць ён, забіты,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...»

— А хто гэта напісаў? Можа, з газеты якой?..

Я назваў імя і прозвішча. Адзін з артылерыстаў, выпускнік Гомельскага педінстытута, дзе вучыўся Мікола Сурначоў, радасна сказаў:

— Дык вось хто гэта напісаў. Ведаю яго. А дзе ён цяпер? Ён ужо і тады пісаў вершы. Цікавая сустрэча. А вы яму напішыце пра гэта і ад нашай батарэі прывітанне перадайце.

...Упершыню ўбачыў я Сурначова ў Гомелі восенню 1937 года перад уступнымі экзаменамі ў інтэрнаце па вуліцы Песіна. Калі я зайшоў у пакой, на крэслах, на ложках сядзелі незнаёмыя юнакі. Адзін з іх, больш сталы, за столікам чытаў вершы. Я, як навічок, спыніўся ў парозе.

Я выберу звонкий, как бубен, кавун
И вырежу ножиком сердце.

Я быў здзіўлены: што тут адбываецца? Можа, які дыспут? Вось юнак скончыў чытаць верш, блакітнымі вачыма зірнуў на слухачоў і спытаў:

— Ну як? Спадабалася?

Усе маўчалі. Хлапец сам за ўсіх адказаў:

— Эдуард Багрыцкі. Сапраўдная паэзія. Так трэба пісаць. А можа, хто з вас піша вершы? Няўжо ніхто? Вы ж на літфак паступаеце. Не саромейцеся.

Адзін студэнт дастаў з кішэні блакноцік і пачаў перагортваць яго. Сарамліва прызнаўся, што друкаваў свае вершы ў «Чырвонай змене», у раённай газеце. Паспрабаваў чытаць, але хутка сумеўся. З вершаў пасыпаліся росы, зоры, ружы...

— Дык будзем знаёмы, — звярнуўся да ўсіх ініцыятар паэтычнага дыспуту. — Мікола Сурначоў. З Рагачоўшчыны. Давайце я вам пачытаю вершы. Хочаце?

Такая прастата нам спадабалася.

Мікола адчыніў свой аблузаны чамадан, напакаваны кнігамі. Нас гэта вельмі здзівіла: ехаў чалавек у далёкую дарогу і нават харчоў не ўзяў з сабой. У нашых жа чамаданах ляжала ежа, чыстая бялізна. Мікола Сурначоў, на наша здзіўленне, пачаў выкладаць на тумбачку кнігі і ўголас называў аўтараў: Багрыцкі, Асееў, Ціханаў, Купала, Колас, Тычына, Уткін. Склаўшы кнігі ў акуратны стосік, ён узяў адну і разгарнуў. Пачаў чытаць Ціханава — «Баладу аб цвіках». Кнігу, відаць, трымаў перад вачыма для прыліку, бо дэкламаваў на памяць, зрэдку пазіраючы на старонку. Прачытаў, крыху падумаў — і да нас:

— Класічная рэч. Спрасаваная. Мужная.

Мы былі зачараваны чытаннем і вершамі. Сядзелі доўга. Нарэшце схамянуліся: колькі ж гадзін? Гадзінніка ні ў кога не было. Уключылі рэпрадуктар — маўчыць, значыць, ужо за поўнач. А заўтра ў 9 гадзін уступны экзамен па беларускай літаратуры. Дыскусію аб паэзіі мы прадоўжылі, лежачы на ложках.

Неяк адразу ўвайшоў у нашы сэрцы Мікола Сурначоў. Экзамены па літаратуры ён здаў на «выдатна». Экзаменатар звярнуў на яго ўвагу: затрымаў у аўдыторыі і пачаў з ім гаворку не па праграме.

— У вас свой погляд на рэчы, бліскучыя веды па літаратуры. Можа, вершы пішаце? — пацікавіўся выкладчык.

Будучы студэнт злёгку ўсміхнуўся:

— Крыху грашу вершамі. Толькі пачынаю.

— Жадаю вам поспеху, не пакідайце сваёй маладой музы, — пажадаў выкладчык.

Неўзабаве студэнцкае жыццё ўвайшло ў сваё рэчышча: заняткі, дыспуты, сходы, літаратурныя вечары. У Міколы Сурначова хапала часу на ўсё: пабыць у бібліятэцы, схадзіць у тэатр, паглядзець новую кінакарціну, пабыць на дыспуце.

Ён даражыў часам і дарэмна яго не бавіў. Пасля заняткаў, адпачыўшы і падсілкаваўшыся, ён заходзіў у чытальную залу інтэрната і

праседжваў за падручнікамі за поўнач. Кніга для яго была нечым свяшчэнным. Калі мелася лішняя капейка, ён заходзіў у кнігарню, купляў любімы томік і гаварыў сябрам:

— Які ж ты будзеш настаўнік без уласнай бібліятэчкі? Цяпер трэба збіраць кнігі. Адразу ўсяго потым не набудзеш.

Мы ведалі, што Мікола Сурначоў піша вершы. Але ён гэта ад нас спачатку ўтойваў. Шмат хто са студэнтаў пасылаў свае першыя паэтычныя спробы ў рэдакцыю газеты «Гомельская праўда», а ён не спяшаўся. Падступіцца да яго паэтычнага сакрэту было нялёгка. Занадта цікаўных ён недалюбліваў. А калі адчуваў, хто па-сапраўднаму цікавіцца паэзіяй, тым чытаў свае вершы. Мікола ніколі не патрабаваў ацэнкі сваіх вершаў. Часта ён гаварыў сваім слухачам:

— Яшчэ яны зялёныя. Няхай даспеюць у шуфлядзе.

З цікавасцю слухалі мы, як ён расказваў пра знаёмства з паэтамі А. Ушаковым і А. Жаўруком. Аднойчы на зімовых канікулах, едучы з дому, ён узяў з сабой часопіс «Полымя рэвалюцыі». Гэта быў 1937 год. У часопісе была надрукавана паэма А. Жаўрука «Крывёю сэрца». Мікола ўвайшоў у пакой інтэрната бадзёры, радасны і сказаў:

— Слухайце, хлопцы. Свежая рэч. Пакуль ехаў з Рагачова, многія мясціны завучыў. Добры твор, пра гераічную Іспанію.

Ён доўга цытаваў урыўкі з паэмы, а потым перайшоў на вершы А. Жаўрука.

— Цікавы і здольны паэт. Адчувае слова, ведае добра жыццё, — заключыў Мікола Сурначоў.

Два гады правучыўся Мікола Сурначоў у Гомельскім педінстытуце. У вольны час у пакой, дзе ён жыў, часта збіраліся сябры-аднакурснікі. Да Міколы многія гарнуліся, як да брата. Наш пакой у інтэрнаце называлі «мыслільняй». Часта ў нас адбываліся гарачыя спрэчкі аб маладой паэзіі, аб філасофіі, мастацтве. І ў гэтых спрэчках сваё слова заўсёды гаварыў Мікола Сурначоў. Разважанні яго былі грунтоўныя, глыбокія, арыгінальныя. Часта да яго на кансультацыю прыходзілі студэнты іншых курсаў. Яны чыталі свае вершы. Мікола Сурначоў цярпліва выслухоўваў іх і даваў парады. Яго сэрца было адчынена для ўсіх.

Студэнцкае жыццё ў той час было нялёгкае. Калі Мікола Сурначоў атрымліваў ад бацькоў пасылку з харчаваннем, ён гаварыў сваім сябрам: «Да сала і каўбасы доступ вольны. Хто захоча паласавацца, калі ласка, ешце на здароўе».

На трэцім годзе вучобы Мікола Сурначоў пераехаў у Мінск. На старонках «Чырвонай змены» мы часта чыталі яго вершы і нарысы. Неўзабаве нізка вершаў «Барвовая зара» з эпіграфам «Вот и кончилось детство, Коля» (А. Суркоў) з’явілася ў часопісе «Полымя рэва-

люцыі». Гэтыя словы любіў паўтараць Мікола Сурначоў, і яны былі нібы эпіграфам да яго юнацтва.

Калі па справах рэдакцыі Мікола Сурначоў прыязджаў у Гомель, ён заўсёды заходзіў у педінстытут да сяброў. Мы абступалі яго, сталічнага жыхара, распытвалі пра літаратурныя навіны. Ён ахвотна расказваў, а пра свае вершы — ні слова. Папыхваючы люлькай, хутчэй за ўсё для фацэтнасці, у педінстытуце ён не курыў, ён на памяць чытаў новыя вершы А. Куляшова, П. Броўкі і некаторых маладзейшых паэтаў, даючы свае каментарыі. Цікавіўся нашымі творамі, пытаўся, дзе друкуюцца нашы вершы. Тут, у Гомелі, падавалі свае галасы К. Кірэенка, Л. Гаўрылаў, М. Корнеў.

Праз некаторы час Мікола Сурначоў перайшоў працаваць у «Звязду». У першым да мяне лісце ваеннага часу ён пісаў: «Развітаўся з Аўрамчыкам у Бабруйску. Сам паехаў да Магілёва. Там працаваў у «Звяздзе», а потым пайшоў у Чырвоную Армію».

Вайна раскідала нас па розных суровых дарогах. Лёс павёў Міколу Сурначова праз хрыбты Урала, праз стэпы Казахстана, праз дымныя дарогі франтоў Украіны, Беларусі, Румыніі, Германіі. У яго лістах да мяне — смутак па родным краі, нянавісць да ворагаў. У жніўні 1942 года ў акопе ён склаў шчырыя радкі:

Старонка мая, у смутку
Ты сына свайго не кляні!
Мне ў кожным лясным закутку
Сняцца твае кляны,

Хваёвыя пералескі,
Кветак мядзвяны пах,
Узняўшыя снег пралескі
Як зараз стаяць у вачах.

Пасля гэтых радкоў у пісьме прыпіска: «Гэта напісана ўжо ў акопе, у адказ на боль за пакінутыя гарады і вёскі, за нашу жытнёвую Беларусь». Вайна паставілася сурова да Міколы Сурначова. І ў гэтым лісце ён сціпла паведамляе аб раненні. На сем месяцаў ён быў прыкаваны да шпітальнага ложка. Але няўрымслівае сэрца паэта рвалася на фронт. У снежні 1944 года Мікола пісаў мне з-пад Варшавы: «Я зараз таксама на Вісле. Хутка ўдарыць вялікі гром, і я буду ўдзельнікам».

Восенню 1942 года, будучы на Бранскім фронце, я даведаўся, што ў Маскве выдаецца газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» і газета «Савецкая Беларусь». Я паслаў туды некалькі сваіх вершаў, і ў хуткім часе мне прыйшоў пакет. Раскрываю яго — ліст ад Кузьмы Чорнага, яго зборнік фельетонаў «Кат у белай манішцы» і некалькі

нумароў газет. Радасць была незвычайная.

Прачытаўшы ўсё гэта сваім сябрам, я адаслаў газету Міколу Сурначову.

А як ён быў рады, калі даведаўся аб беларускіх выданнях, калі чытаў у газетах вершы беларускіх паэтаў. Вось радкі, напісаныя Сурначовым у той далёкі суровы час: «Верш Я. Коласа крануў мяне да слёз. Хто б мог падумаць, што гэты дзядуля зможа напісаць такі верш. Падобныя рэчы былі толькі пад сілу Лермантаву ў разгар яго паэтычнай дзейнасці.

На захад, на захад
Спяшайцеся, хмары,
Варожай крывёю
Заліце пажары».

Ніколі ў сваіх лістах Мікола Сурначоў не скардзіўся на цяжкі лёс салдата. Творчая лабараторыя яго была незвычайная: акоп, кароткі прывал паміж баямі. Неаднойчы ён пісаў мне, што ў яго назбіралася многа вершаў, але некаторыя былі загублены ў шпіталях, у баях. Частку вершаў, якія прыслаў мне Мікола, я захаваў.

У 1959 годзе мне давялося ўкладаць яго зборнік «Барвовая зара». У яго я ўключыў і вершы, узятыя з лістоў паэта да мяне. Але не ўсё напісанае паэтам уключана ў зборнік. Пасля доўгіх пошукаў мне ўдалося знайсці верш «Румынскія эцюды». Ён быў надрукаваны толькі ў часопісе «Полымя», № 6 за 1966 год. Зараз ён уключаецца ў гэты зборнік[1]. Напісаны гэты верш у франтавых умовах сталай рукой таленавітага паэта. «Румынскія эцюды» раскрываюць душу савецкага воіна-вызваліцеля, які нёс свабоду, шчасце, радасць тым, хто пакутаваў ад фашызму. Нарадзіўся гэты верш пад Бухарэстам, і цяпер, праз многа год, нельга чытаць яго без хвалявання. А колькі гуманізму, чалавекалюбнасці ў такіх радках:

Уставай, Румынія, з попелу, галечы.
Усміхайся шчыра, шэрае сяло.
Мы да вас часова —
Выпроствай плечы,
Бяры ў рукі новае святло!

За гэтае «новае святло» паэт-воін не шкадаваў свайго маладога жыцця, мужна змагаўся з ворагам і вершам, і зброяй.

Восенню 1944 года ў Мінску я спаткаў Міколу Сурначова — свайго сябра па Гомельскім педінстытуце. Ён, як і я, прыбыў з фронту на кароткую пабыўку. Прыгадалі часы студэнцтва, Гомель, ён — сваю Рагачоўшчыну. У 1940 годзе летам мы былі з ім у Мінску на курсах-нарадзе пачынаючых пісьменнікаў. Пятро Глебка даў высокую

ацэнку яго твораў. Я не пазнаў голасу сябра — суровага, крыху прастуджанага. Ён прачытаў свой верш «Зямлянка», нядаўна надрукаваны ў газеце «Чырвоная змена», пацікавіўся, ці захаваў яго франтавыя лісты да мяне. Чую, як зараз, радкі з гэтага верша. Чытаў Мікола Сурначоў узнёсла, з захапленнем:

Да франтавой маёй хаціны
Ісці нядоўга. На бугры
Сярод жытнёвай зяляніны
Яна стаілася ў нары.

Было дзіўна глядзець, як у салдата, які зведаў пакуты і раны, пры расставанні ў блакітных вачах заіскрыліся слёзы. Скора цягнікі павезлі нас у розныя кірункі, і больш мы не сустракаліся...

У апошніх лістах, прысланых з Германіі, Мікола Сурначоў радаваўся, верыў, што неўзабаве вернецца на родную зямлю, да сяброў, знаёмых, да мірнай працы. І гэтая думка яшчэ мацней распальвала ў яго грудзях нянавісць да ворага, клікала наперад, надавала яму сілы.

Ужо на дымным небасхіле варожай зямлі вырысоўваўся воблік чаканай Перамогі. Баі былі жорсткія, упартыя. Вораг напружваў апошнія сілы. У адным з баёў недалёка ад варожай сталіцы, да якой ішла наша армія столькі цяжкіх гадоў, Мікола Сурначоў загінуў як герой, не даспяваўшы сваёй мужнай песні, прапахлай порахам, абпаленай пажарамі вайны. Ён загінуў далёка ад роднай Беларусі, дзе смуткавалі па ім тыя гаі і пералескі, аб якіх ён так усхвалявана пісаў і насіў іх у сэрцы. Але не памірае яго песня, яна жыве ў сэрцах і памяці нашага народа, за шчасце якога ён аддаў жыццё.

*1966 г.*

*Феня Шапавалава*

## НЕКАЛЬКІ ШТРЫХОЎ

Памятаю Міколу Сурначова са школьных гадоў. У нашай Слабадзе Коля скончыў тры класы, а ў чацвёрты ўжо хадзіў у Свержань. Сямігодку канчаў у Рагачове, а потым паехаў у Гомель вучыцца ў сельскагаспадарчы тэхнікум.

Мікола вельмі любіў чытаць. Ужо калі вучыўся ў сямігодцы, дык меў сваю бібліятэчку. Кнігі, у якіх што-небудзь падабалася, ведаў на памяць — цэлыя раздзелы. Вельмі любіў чытаць іншым, а такіх, каб паслухаць, заўсёды каля Міколы збіралася многа. Вучыўся добра і памагаў вучыцца сябрам. А іх было ў яго шмат.

Яшчэ ў сямігодцы пачаў пісаць вершы і таксама чытаў іх сябрам. Мікола шанаваў старэйшых у сям'і, але асабліва любіў сваю маці Аксінню Мартынаўну. Яна шмат яму расказвала з пражытага. Калі Міколы не стала, маці яго гаварыла: «Каб ён хоць калі-небудзь сказаў што мне наперакор, можа, мне не так было б яго шкада...»

Маці доўга гаравала па сваім любімым сыне. Памерла Аксіння Мартынаўна ў 1962 годзе. Бацька паэта Мікалай Яўхімавіч жыве ў Магілёве. Там і яго брат Іван, сёстры Насця, Ліда і Ганна. А два браты — Хведар і Яўхім — злажылі, як і Мікола, свае галовы на фронце.

Мы, хто ведалі Міколу ў юначыя гады, не можам забыць яго светлы воблік.

*1969 г.*

*Андрэй Кордзікаў*

## МАЕ СУСТРЭЧЫ

Гэта было восенню 1933 года. Аднойчы па запрашэнні літаратурнага аб'яднання, створанага пры рэдакцыі райгазеты «Камунар», я прыехаў на нараду. Сярод членаў літаб'яднання я заўважыў невысокага, але рухавага і энергічнага юнака з прыемным, амаль дзіцячым тварам. На выгляд яму было гадоў 19–20. Мяне зацікавіў гэты юнак, і я запытаў, хто гэта.

— Гэта раённы аграном Мікола Сурначоў. Ён спрабуе пісаць вершы.

Пачаўся разбор твораў маладых паэтаў. Першы выступіў Мікола Сурначоў. Верш яго быў яшчэ слабы, і гэты твор забракавалі. Твар Сурначова паружавеў. Як відаць, яго ўсхвалявала першая няўдача.

Праз месяц, калі мы зноў сабраліся на нараду, Сурначоў прынёс некалькі новых вершаў. Калі я прачытаў іх, мы здзівіліся: гэта былі сапраўдныя вершы, у якіх адчуваліся шчырасць, задушэўнасць, цеплыня. На гэты раз усе яны былі аднагалосна прызнаны годнымі да друку і ў хуткім часе былі апублікаваны ў газеце.

З таго часу ў раёнцы сістэматычна сталі друкавацца вершы Сурначова. Я, прызнацца, зачытваўся імі — такія яны былі жыццярадасныя і шчырыя.

Аднойчы, у жніўні, мне давялося быць у Рагачове. Я купіў у кіёску газеты, зайшоў у гарадскі парк і пачаў чытаць. Раптам хтосьці абняў мяне за плечы. Гляджу, перада мной Мікола.

— Што, перапалохаў? — з вясёлай усмешкай на твары запытаў ён. — Чаго гэта ты адзін сядзіш тут? Хадзем на бераг Дняпра. Вершы

пачытаю.

Дзень быў ціхі і сонечны. Мы селі на пясчаным беразе каля самай вады. Палюбаваўшыся прыгажосцю прыроды, Сурначоў дастаў з кішэні вучнёўскі сшытак і пачаў чытаць. Чытаў ён паважна, не спяшаючыся, выразна выгаворваючы кожнае слова. У гэтых вершах апяваў радасць жыцця, сваю бурную маладосць і родны беларускі край.

Пасля яшчэ не адзін раз гулялі мы з Сурначовым па беразе Дняпра, і кожны раз ён чытаў мне свае вершы. Яго твар тады свяціўся вясёлай іскрыстай усмешкай.

*1969 г.*

*Дзмітрый Кавалёў*

## АДНА ЛЮБОЎ

Усе справы, усе мары і само жыццё Міколы Сурначова былі аддадзены ёй, адзінай любові — Радзіме. І ў гэтым тое агульнае, што аб'ядноўвае паэтаў майго ваеннага пакалення, такіх розных і непадобных і такіх блізкіх духоўна.

Калі я пазнаёміўся з Міколам Сурначовым, ён паспеў павучыцца ў інстытуце і надрукаваць свае першыя вершы ў тоўстым рэспубліканскім часопісе. Можа быць, таму ён здаваўся мне старэйшым, хаця ён быў маладзей за мяне. Хударлявы, з ледзь прыкметнымі маршчынкамі на строгім твары, блакітнымі няўсмешлівымі вачыма, ён быў чалавекам здзіўляючай душэўнай пяшчотнасці, валодаў рэдкім дарам пранікнення ў духоўны свет аднагодкаў. Памятаю, мы хадзілі з ім па гомельскім парку, і ён нанова адкрываў мяне таварышам, якія ўжо ведалі, як я пішу. Пасля такой гутаркі яны нават больш паважна сталі адносіцца да мяне. Потым мы сустракаліся з ім у Мінску ўжо як старыя знаёмыя. На Мінскім возеры ён чытаў мне свае вершы, чакаючы, што я скажу пра іх. Я тады адчуў, што Мікола шукае сябе ў ключы народнай паэзіі.

Наогул беларускай паэзіі такі народны пачатак вельмі ўласцівы.

Купала і Колас у гэтым сэнсе зрабіліся ўплывовымі настаўнікамі. Але песеннасць Міколы Сурначова была нейк больш сённяшняй, яна імкнулася да рамантычнай казачнасці. Але лад яго мовы быў занадта падабраным, чаканна разумным. Словы ён выбіраў строгія, нават сухаватыя. Яго паэзія, як мне тады здавалася, была ўжо празмерна стрыманай.

Сам Мікола Сурначоў любіў вершы шчодрыя, размашыстыя, гарэзлівыя, нават некалькі легкадумныя. Чытаў з захапленнем Ціханава,

Ісакоўскага, Твардоўскага, Пракоф’ева, Святлова, Уткіна... Добра ведаў і заходніх, і рускіх, і ўсходніх паэтаў. Здзіўляў мяне гэтай шырынёй сваёй. Ён працаваў у рэспубліканскай газеце, потым са сваім сябрам па вучобе і паэзіі Міколам Аўрамчыкам прайшоў з тэадалітам Сярэднюю Азію. Здавалася, і ўявіць сабе было немагчыма Міколу Сурначова ваенным. І вось сугуба цывільны чалавек, паэт, стаў у вайну баявым камандзірам. Ён быў некалькі разоў паранены, зноў і зноў вяртаўся ў строй.

Але ні на адзін дзень не развітваўся з паэзіяй — ні на перадавой, у акопах, ні на бальнічным ложку ў шпіталі.

Не заўсёды знаходзіў час, каб папрацаваць над радком, пазначыць нават, калі і дзе былі вершы напісаны. Аднак у адносінах да паэтычнага слова Мікола Сурначоў заставаўся верным сабе: няма неахайнасцей, няма выпадковых, першых трапіўшых слоў. І ўсё тая ж, але толькі больш спелая, выпрабаваная вайной прыхільнасць да народнай традыцыі, песеннай і казачна-рамантычнай і ў той жа час скупой у выказванні патаемнага.

А патаемнае для Міколы Сурначова — Радзіма. Адсюль — сабранасць, сканцэнтраванасць. Вайна сціснула і ўзмацніла да апошняй мяжы інтарэсы і пачуцці, перажыванні і чаканні, мары і надзеі. На маленькіх кавалачках зямлі вырашаўся лёс свету для кожнага салдата. На маленькім аркушы баявой насценгазеты вершы трымалі сябе, як салдаты ў траншэі. Усе навокал глухла ад кананады, але радкі гучалі:

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

Суровая, найчалавечная казка! Быліна і быль адначасова. Але, бадай, усё ж болей песня.

Калі ж закіпае гнеў паэта, верш яго робіцца суровым і бязлітасным, як гранёны штык. Ён кідае ворагу:

Я табе спакою, гад, не дам, —
Чорнай кроўю ты адкажаш нам!

З такім пачуццём ішлі якраз у штыкавую. Як гэта ўсё зліваецца ў адзінае цэлае.

Мікола Сурначоў загінуў у апошнія дні вайны, на самых подступах

да Берліна. Да гэтага часу ён паваяваў на многіх франтах, прайшоў вызваліцелем па рускай, украінскай і па сваёй беларускай зямлі, па землях Румыніі і Польшчы. Быў ужо старшым лейтэнантам, камандзірам узвода ў армейскім знішчальным супрацьтанкавым артылерыйскім палку. Некалькі машын, якія грамілі тылы фашыстаў, трапілі ў засаду. Сурначоў, паранены незадоўга да гэтага, адмовіўся ісці ў шпіталь: войскі спяшаліся да логава ворага. У рукапашным няроўным баі Сурначоў і яго салдаты палі смерцю герояў. Пахавалі іх у брацкай магіле ў некалькіх кіламетрах ад Берліна. Нязменная спадарожніца Міколы Сурначова — палявая кірзавая сумка, набітая не толькі тапаграфічнымі картамі, але і вершамі, не была знойдзена. Але шмат з таго, што было ім напісана на вайне, усё ж уцалела. І вершы, якія яшчэ ніхто, апрача аднапалчан, не чытаў і не чуў, выйшлі ў выдавецтве «Беларусь» дзвюма тоненькімі кніжачкамі. Яны нямала сказалі сэрцу чытачоў аб адзінай і ўсеабдымнай любві Міколы Сурначова, сабранай, як у кроплі сонца, у яго юнай, трывожнай, задушэўнай паэзіі, не старэючай, як і ён сам. І гарыць над узгоркам яго брацкай магілы камсамольская, яго баявая, чырвоная зорка, аб якой ён сказаў такія выдатныя і такія прарочыя словы:

Услаўце ж зорку, зорку вызвалення!
Бо доўга-доўга будзе зорка гэта
Ісці па заняволенаму свету.
Дзе зорка гляне — там зардзее ранне.

*1971 г.*

*Кастусь Кірэенка*

## ПЕСНЯ БАЯВЫХ ШЛЯХОЎ

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

Як быццам пра самога сябе сказаў гэтыя сумныя словы Мікола Сурначоў. Як быццам яшчэ ў 1941 годзе пачула яго сэрца той страшны ўдар агню і сталі, што падкасіў яго потым, як віцязя, на самым пярэдадні Перамогі...

Няўрымслівы шукальнік, чулы і таварыскі, але заўсёды бескампрамісны да фальшу слова, няпэўнасці погляду, браку пачуцця...

Такім Мікола запомніўся мне і ўсім сябрам у гады вучобы ў

Гомельскім педінстытуце, такім ён быў у час нядоўгай сваёй працы ў газетах «Звязда» і «Чырвоная змена», і такім жа ён паказаў сябе ў страі змагароў за Айчыну.

Пяро журналіста на чырвонаармейскую вінтоўку Мікола Сурначоў змяніў у першыя ж дні Вялікай Айчыннай вайны. Але ён біў ненавісных ворагаў не толькі агнём салдацкай зброі. Ён змагаўся супроць іх і кожным радком сваіх мужных франтавых песень. У яго паходным блакноце былі занатаваны цікавыя паэтычныя задумы, накіды новых вершаў, зробленыя паэтам непасрэдна на полі бою. Паэт заклікаў сваіх сяброў на подзвігі і на славу ў імя Радзімы і светлага, мірнага жыцця.

Некалькі разоў цяжка паранены, Мікола, як толькі папраўляўся, адразу ж спяшаўся вярнуцца да сваіх аднапалчан.

На штурм Берліна ён ішоў ужо вопытным баявым камандзірам, якога любілі байцы. Вось што пісалі ў сваім пісьме з Берліна франтавыя паплечнікі Міколы:

«У горадзе Пірыцы мы з Міколам Сурначовым пайшлі ў баявую разведку. Каля самага горада нас немцы абстралялі. Мікола быў паранены асколкам міны, якая разарвалася ў пяці метрах ад нас. Пры дапамозе таварышаў удалося вынесці яго з поля бою і накіраваць у шпіталь. Ён быў паранены ў жывот. І вось, калі мы прагналі немцаў за Одэр і рыхтаваліся да апошняга штурму Берліна, да нас са шпіталя вярнуўся і Мікола. Мы ўсе былі рады бачыць свайго камандзіра, з якім так доўга білі ворага.

Пачаўся штурм Берліна. Мікола заняў сваё баявое месца і зноў павёў нас у бой. Ішло бязлітаснае знішчэнне ворага. Да Берліна заставаліся лічаныя кіламетры. У адной жорсткай сутычцы з фашыстамі Міколу параніла ў руку. Раненне было цяжкое, але наш адважны камандзір адмовіўся ехаць у шпіталь і працягваў весці бой. І вось у ноч з 19 на 20 красавіка мы непрыкметна паглыбіліся далёка ў тыл фашыстаў і напалі на адступаючую калону нямецкіх войскаў. Пачаўся цяжкі бой, які перайшоў у рукапашную схватку. Перамога была за намі. Толькі не было ўжо Міколы. Нямецкі снарад «фаўст» трапіў у яго. Смерць наступіла імгненна. Міколу пахавалі у брацкай магіле ў 8 кіламетрах ад Берліна. Над магілай свайго сябра мы пакляліся адпомсціць ворагам за яго смерць. Сваё слова мы стрымалі. Вораг разбіты.

Жывыя, натхнёныя словы паэзіі Сурначова, яго баявыя песні, якія ён ствараў пад гукі мін і снарадаў, будуць вечна жыць у нашых сэрцах».

Так гераічна загінуў Мікола Сурначоў.

Кароткім, але поўным творчага натхнення і пафасу барацьбы

было жыццё гэтага таленавітага паэта.

З яго вершамі наш чытач пазнаёміўся яшчэ да вайны. Творчасці маладога паэта ўжо тады былі ўласцівыя ўдумлівасць, паэтычнае бачанне свету, шчырасць і цеплыня. Аўтар умеў знаходзіць цікавыя, метафарычныя вобразы, любіў рытмічную разнастайнасць, свежае, трапнае слова. У гады змагання памужнеў сам паэт, стала больш мужнай і яго паэзія. Паэт сумуе па роднай зямлі Беларусі, але гэта не сум разгубленасці і адчаю, а палымянае, мужнае пачуццё чалавека, які ўпэўнены ва ўрачыстасці сваіх ідэалаў, у сваёй перамозе. Кожны яго верш дыхае спапяляючай нянавісцю да ворага.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў 1946 годзе пасмяротна зборнік вершаў Міколы Сурначова «На сурмах баравых».

Нельга стрымаць хвалявання, калі чытаеш франтавыя вершы Сурначова, — гэты, як правільна адзначыў Анатоль Вялюгін у прадмове да кнігі «Мы іх не забудзем», своеасаблівы паэтычны летапіс Вялікай Айчыннай вайны. Заходні фронт і Бранскі фронт... Данскі фронт і 1-шы Беларускі фронт... 4-ты Украінскі фронт і зноў 1-шы Беларускі... Беларусь... Каўказ... Украіна... Румынія... Польшча... Германія... Гэтыя і іншыя подпісы пад вершамі Сурначова гавораць самі за сябе. Яны сведчаць пра тое, што паэт-воін быў усюды і заўсёды там, куды пасылала Радзіма, дзе ішлі няспынныя баі, у якіх кожны савецкі салдат, у тым ліку і Мікола Сурначоў, імкнуўся як найхутчэй наблізіць апошнюю хвіліну змагання і тым самым прынесці жаданы мір і бяспеку роднай з маленства зямлі...

У вершы «Чырвоная зорка», які датаваны 1944 годам і быў напісаны ў вызваленым Мінску, чытаем:

У акопе часта, седзячы ў завею,
Я гадаваў цярплівую надзею,
Што прынясу спакой ў паходным ранцы
Для вас,
Пакінутых ў няволі станцый,
Да зорак тых,
Што падбіраў ў крыніцах,
Да зведаўшых выгнанне маладзіцаў,
Да ліп мядовых і вішнёвых вёсак,
Да Свіслачы і раненых бярозак.
Я ў Мінск прыйшоў.
Хілюся на калені
Прад горадам, што дачакаў збаўлення.
Услаўце ж зорку, зорку вызвалення!

Бо доўга-доўга будзе зорка гэта
Ісці па заняволенаму свету.
Дзе зорка гляне — там зардзее ранне.

Над брацкай магілай, дзе пахаваны і Мікола Сурначоў, гарыць не згасае і ніколі не згасне ўслаўленая ўсімі народамі зорка, аб якой так цёпла сказала слова паэта. Сам паэт застаўся ляжаць там, дзе здзейсніўся яго апошні баявы подзвіг, але песня паэта вярнулася пад роднае песнярова неба і жыве з намі і будзе жыць заўсёды, пакуль у чалавечых сэрцах застаецца незгасальная самаахвярная любасць да маці-Айчыны.

*1946–1979 гг.*

*Іван Плахатнюк*

## «ЛЯЖЫЦЬ ЁН, ЯК ВІЦЯЗЬ...»

Быў снежань 1944 года. У 1643-ці лёгкі артылерыйскі полк (ЛАП) прыбыло папаўненне. Полк размяшчаўся ў сасновым лесе на правым беразе Віслы недалёка ад Варшавы. У другую батарэю было прызначана чалавек 5–6 навічкоў: я — радыст, яшчэ адзін малады салдат — тэлефаніст, астатнія — агневікі. Мой камандзір аддзялення, высокі, худы, на гады два старэйшы за мяне, малодшы сяржант Ваня Кагукін, збегаў за вячэрай. І пакуль мы ўпляталі кашу, Ваня расказаў гісторыю палка. Сфарміраваны ў 1943 годзе як знішчальны супрацьтанкавы напярэдадні баёў на Курскай дузе, ён браў Кіеў, прайшоў па поўдні Украіны да Румыніі, вызваляў Заходнюю Украіну, абараняў Сандамірскі плацдарм. І вось выпалі два месяцы перадыху, калі ёсць час, каб папоўніцца людзьмі, тэхнікай і зброяй. Уведаў я і тое, што полк уваходзіць у 2-ю гвардзейскую танкавую армію 9-га танкавага корпуса 1-га Беларускага фронту, якім камандаваў маршал Г. К. Жукаў.

На другі дзень пасля снедання прывялі ў зямлянку камандзіра ўзвода ўпраўлення. Лейтэнант Сурначоў як ваенны афіцэр, кажучы мякка, не глядзеўся: без належнай выпраўкі, сярэдняга росту, прыгорблены, з простым «неадбеленым» тварам. Галава была перабінтавана. Пасля патрэбнага ў такім выпадку дакладу ён прывітаўся за руку. Я крыху збянтэжыўся, бо да гэтага часу афіцэры са мной так ніколі не здароваліся. Ён распытаў, адкуль я родам, а таксама пра маіх бацькоў. Уведаўшы, што мой бацька знаходзіцца недзе ў нямецкай няволі, сказаў: «Прыйшоў час выручаць яго. Хутка

нас чакаюць баі ўжо ў Германіі». Потым Сурначоў расказаў, чым з'яўляецца наш ЛАП, батарэя, узвод упраўлення, аб нашай ролі ў складзе танкавага злучэння. Полк уваходзіць у прарыў разам з танкамі, а там — па абставінах. Амаль усюды гарматы вядуць агонь па бачных цэлях прамой наводкай. «Сваёй радыёстанцыяй практычна будзеш заняты мала. Затое бесперапынна разам з агневікамі прыйдзецца цягаць снарады. Ты, як пяхота, пойдзеш у атаку і ўвесь час будзеш капаць зямлю: у першую чаргу — агнявую пазіцыю для гарматы, пасля — для аўтамашыны і акоп сабе. У баі выжывае і выйграе той, хто першы закапаецца ў зямлю».

Камандзір батарэі капітан Васільеў быў чалавекам сярэдняга росту, шырокага целаскладу, адным словам, здаравяк. Помню, як раніцай дзяншчык Ляднёў ліў яму на голыя рукі і спіну халодную ваду. На заўсёды чыста выгаленых шчоках — пунсовы румянец. Не ведаю яго радаслоўнай, але чамусьці напамінаў ён мне паніча. Магчыма, таму, што камбат заўсёды пакрыкваў на ўсіх. І няцяжка было заўважыць, што капітан Васільеў быў «у не ладах» з Сурначовым. Жыў у асобнай зямлянцы, хаця двум афіцэрам батарэі можна было б размясціцца і разам. Па паводзінах, адукацыі і культуры мовы капітан цягнуў на класаў сем. І, відаць, тут яўна не ўжывалася мяккая, інтэлігентная манера Сурначова з адкрыта салдафонскай Васільева.

Наш ад'езд на перадавую быў начны і спешны. Цяпер мы ведаем прычыну: камандаванне вымушана было паскорыць пачатак Вісла-Одэрскай аперацыі, каб выратаваць саюзнікаў, якія цярпелі паражэнне на Заходнім фронце ад нямецкіх танкавых кліноў.

Па пантонным мосце пераехалі Віслу і занялі месца, адведзенае палку на Мангушэўскім плацдарме, на поўдні ад Варшавы. А далей было ўсё, як абяцаў мне Сурначоў. Ніхто не разагнуў спіну, пакуль не былі падрыхтаваны ўкрыцці для гармат, «студэбекераў», снарадаў, выкапаны траншэі і зямлянкі. Мы закопваліся ў зямлю.

На світанку 14 студзеня зямля здрыганулася ад залпаў тысяч гармат, мінамётаў і «кацюшаў». Пасля артпадрыхтоўкі прыйшла каманда на марш, ды так хутка, што мы з цяжкасцю паспелі скруціць тэлефонны дрот паміж НП і агнявой. Следам за танкамі пайшоў у прарыў і наш артылерыйскі полк. У гэты раз мы сутыкнуліся з немцамі, якія спрабавалі прарвацца праз шашу. Батарэя наша першай уступіла ў бой. Сітуацыя не дазволіла павярнуць гарматы, мы спешыліся і з крыкам «ура!» атакуем праціўніка. Я знаходжуся ў ланцугу, якім камандуе лейтэнант Сурначоў. Гэта быў мой першы бой з ворагам. Ад нечаканага ўдару немцы адкочваюцца. У снежнай дымцы мільгаюць цёмна-зялёныя фігуры. У спешцы вяду ў той бок

беспрыцэльны агонь з карабіна і не заўважаю, як мяне абганяюць многія батарэйцы. Схамянуцца мяне прымушае Сурначоў: «Хочаш пастраляць? Тады бяжы ўперад. Адсюль можна раніць сваіх». Так амаль па-бацькоўску вучыў камандзір узвода ваяваць навабранцаў.

Новы прыліў наступальнаму парыву прыдаюць дзве «трыццацьчацвёркі». Бяжым за танкамі. Праціўнік, апомніўшыся ад нечаканага удару, арганізоўвае супраціўленне. Відаць, мы наскочылі на добра ўзброеную групіроўку. Узмацніўся кулямётны агонь, па танках пачалі прыстрэльвацца «фаўстнікі». Мы залеглі. Наглядаю, як амаль побач уперадзе, справа і злева, кладуцца кулямётныя і аўтаматныя чэргі. На памяць прыходзіць, што падобнае бачыў у кіно. Побач — забітыя фашысты, сярод нас ужо ёсць раненыя. Чую размову лейтэнанта Сурначова з камандзірам бліжняга танка.

— Далей не пайду. Не маю загаду. Я павінен даганяць сваю брыгаду. Калі спалю машыну — аддадуць пад суд.

— Пакуль я не адвяду салдатаў, не ўздумай ад’язджаць назад. Прашу цябе!

Пaступае каманда вяртацца да машын. Пад прыкрыццём танкаў адыходзім назад. Наша калона зноў рухаецца на захад, пакінуўшы ў тыле «пры сваіх інтарэсах» нямецкую групіроўку. Відаць, з ёй разбяруцца агульнавайсковыя часці, якія ідуць следам за намі.

...Сурначоў, па характары сціплы, сарамяжлівы, ніколі не хваліўся перад батарэйцамі сваім паэтычным талентам. Відаць, былі праблемы з публікацыяй у франтавых умовах. І ён пісаў у сваю палявую сумку. Нават па тым, як доўга па начах у яго зямлянцы трапятаў агеньчык, няцяжка было здагадацца, што лейтэнант складае...

Аднойчы сабраліся мы невялікай групай. Пасля дасціпных жартаў, успамінаў нас пацягнула на лірыку. Тым больш, побач свой паэт. І мы пачалі прасіць яго пачытаць што-небудзь. Як кажуць, ламацца ён не стаў:

— Дык пра што вам прачытаць?

— Пра каханне, — усміхнуўся нехта.

— Гэта ў памяці, — сказаў Сурначоў і, не адкрываючы сумку, стаў чытаць пра каханне.

Час не пакінуў у памяці ўсе падрабязнасці той імправізаванай сустрэчы з беларускай паэзіяй у прыфрантавым лесе. Але тады я ўслухоўваўся ў меладычную беларускую мову і знаходзіў у ёй блізкае мне, роднае і знаёмае.

— Таварыш лейтэнант! Вы ж напалову складаеце вершы па-ўкраінску.

— Не здзіўляйся, салдат. Родам жа я з Гомельшчыны. А гэта —

поўдзень Беларусі. Там у нас што беларусы, што ўкраінцы — усё ўперамешку. Таму і ў мовах шмат чаго агульнага.

І Сурначоў расказаў, калі ён ваяваў на Украіне, часта да хрыпаты даводзілася спрачацца, якому народу належаць песні «Закувала зязюленька», «Ой, хмелю мой, хмелю», «Бандароўна».

Свае ваенныя вершы Сурначоў чытаў па напісаным, кожны раз доўга корпаўся ў сваёй сумцы. Помніцца, было пра зямлянку, наступленне пяхоты. Кожны раз у пачатку або ў канцы ён заўважаў: «Гэта напісана на Данскім фронце, гэта — на Украінскім, гэта — у Румыніі...»

У пачатку красавіка полк ужо быў на Кюстрынскім плацдарме. Рыхтавалася бітва за Берлін, да якога напрамую заставалася ўсяго 70 кіламетраў. На другі дзень наступлення лейтэнант Сурначоў куляй быў ранены ў руку. У гэтых адносінах яму не шанцавала. Па розных даных я падлічыў, што за час вайны Сурначоў атрымаў пяць раненняў. Але і на гэты раз, падвязаўшы руку да пляча, ён застаўся ў страі.

Мы прыбліжаліся да прыгарадаў Берліна. Зацягнуты начны маршкідок нарадзіў сумненні. І недарэмныя: мы аказаліся ў тыле варожага ўмацаванага раёна, насычанага войскамі. Пачаўся бой. Уверх узлятаюць ракеты. Нямецкі танк расстрэльвае нас гарматным агнём. Успыхнулі машыны. Вораг палівае кулямі. Невялікай групе салдатаў удалося вырвацца і дабрацца да лесу. Пасля мы далучыліся да сваіх. У гэтым баі я быў цяжка ранены: асколкі пасеклі грудзі і раструшчылі кісць правай рукі. А што ж адбылося з Сурначовым, іншымі батарэйцамі?

Пазней з пісьма Вані Кагукіна я даведаўся, што Сурначоў загінуў.

Для мяне існуе дзве версіі смерці Міколы Сурначова. Першая — ён загінуў у рукапашным баі на шашы. Пра гэта з Берліна напісалі ў шпіталь аднапалчане. У другім пісьме камандзір разведкі дывізіёна маёр Васіль Сямёнавіч Капычэнка расказвае, што камандаванне даручыла яму па гарачых слядах выехаць на месца гібелі 2-й батарэі. «Перада мною адкрылася карціна начнога няроўнага бою жменькі храбрацоў, якімі камандаваў Мікалай. Забітыя немцы, спаленыя машыны... Пазнаць яго я мог па светла-карычневых ботах, якія былі адзінымі ў палку. А сумку так і не знайшоў, хаця і патраціў на гэта шмат часу...»

Пахаваны лейтэнант Сурначоў у брацкай магіле ў горадзе Фрэйдэнбергу.

Калі ўжо былі напісаны гэтыя радкі, мне пашанцавала пабываць у Берліне. Адным з першых жаданняў была спроба знайсці магілу Сурначова. Але як, дзе ўзяць транспарт, праваднікá? І тут спаткаўся чалавек, які блізка прыняў да сэрца расказаную мной адысею 2-й

батарэі і дапамог арганізаваць пошук. Гэта быў свяшчэннік рускай праваслаўнай царквы беларус Анатоль Каляда.

Мы едзем на месца апошняга бою батарэі. Гэта кіламетраў дваццаць ад берлінскага кальцавога аўтабана. У Фрэйдэнбергу захаванняў савецкіх воінаў не знаходзім. Адзін з мясцовых жыхароў ахвотна расказаў, што астанкі з брацкай магілы былі перанесены ў райцэнтр Бад-Фрэенвальдэ. Едзем туды і знаходзім могілкі загінуўшых савецкіх воінаў. Тут пахавана каля 2000 чалавек. На могілках больш дзвюхсот мармуровых пліт. На кожнай — надпісы воінскіх званняў, прозвішчы загінуўшых. На ўзвышэнні — скульптурная фігура салдата.

Пасля доўгіх пошукаў знайшлі подпіс: «л-нт Сурнамов Н. Н.». На вялікі жаль, зроблена памылка ў прозвішчы...

Так мы аказаліся першымі блізкімі людзьмі Сурначова, якія наведалі яго магілу. Памаўчалі, зрабілі здымкі. А ў Патсдаме свяшчэннік паабяцаў правесці богаслужэнне за памяць загінуўшага воіна, беларускага паэта Міколы Сурначова. Пакуль жа ў храме запалілі свечкі.

*1969 г.*

*Анатоль Вярцінскі*

## ТРЫ СУСТРЭЧЫ З СУРНАЧОВЫМ

Тройчы сустрэўся я з Міколам Сурначовым. Не асабіста, вядома. Асабіста сустрэцца мы з ім ужо не маглі. Хаця б па той простай прычыне, што прах мужнага воіна і паэта спачывае вось ужо семнаццатую вясну ў адной з брацкіх магіл, што пад самым Берлінам. Паэт, праўда, прасіў, на той выпадак, калі ён загіне ад варожай кулі:

Таварыш!
Мяне пахавай,
Акружы мой курган агароджай.

А пасля перамогі вазьмі мой прах,
Пранясі праз рэкі і горы...
На маёй Беларусі прасторы!

Верш называецца «Запавет салдата». «Таварыш», а дакладней, Радзіма зрабіла намнога больш таго, аб чым прасіў салдат, дала яму другое пасмяротнае жыццё, — але прах яго ўсё ж застаўся ў чужой зямлі...

Дык вось я сустракаўся з Сурначовым. Упершыню гэта адбылося неўзабаве пасля вайны. Я прачытаў верш Міколы Аўрамчыка, прысвечаны памяці паэта. Верш быў напісаны як успамін аб сваім

таварышу, у ім жыва трапятала памяць сэрца, — і гэта рабіла радкі асабліва пранікнёнымі і хвалюючымі, а тое, аб чым у іх гаварылася, — асабліва верагодным. Верш глыбока ўзрушыў мяне, васемнаццацігадовага юнака. Я не ведаў, хто такі Сурначоў, нічога не ведаў аб абставінах яго смерці, невядома мне было нават, што такое «баравая сурма». Але вобраз «лейтэнанта з забінтаванай галавой», які, іграючы на сурме баравой, кліча ў наступленне роту, доўга не даваў мне спакою...

Пазней мне трапілася ў рукі тоненькая, у шэранькай вокладцы кніжка — Мікола Сурначоў «На сурмах баравых». Я з хваляваннем разгарнуў кніжачку, прабег вачыма прадмову. Тое, аб чым я даведаўся з яе, прымусіла яшчэ раз успомніць верш, прысвечаны Сурначову. Толькі цяпер вобраз «лейтэнанта з забінтаванай галавой» стаў для мяне больш акрэслены і канкрэтны. Дадам яшчэ: і больш блізкі.

За прадмовай ішлі вершы, аб якіх баявыя сябры паэта пісалі з Берліна: «Жывыя натхнёныя словы паэзіі Сурначова, яго баявыя песні, якія ён тварыў пад гукі мін і снарадаў, будуць вечна жыць у нашых сэрцах».

Адразу ж кідалася ў вочы адна асаблівасць зборнічка — пераважная большасць вершаў была напісана ў гады вайны, пад імі значыліся назвы розных франтоў. Вершы былі своеасаблівым дзённікам салдата. І ў іх, як і ў салдацкім дзённіку, не заставалася месца для чаго-небудзь занадта асабістага, дробязнага. Яны прысвячаліся самаму дарагому, самаму запаветнаму, самаму свяшчэннаму. Прасякнутыя вялікай сыноўняй любоўю да Радзімы і болем за яе раны і пакуты, яны палыхалі нянавісцю да ворага, гучалі гневам і суровай мужнасцю воінскай прысягі. «Я губы ад гневу калёнага сцяў і сэрцам, Радзіма, табе прысягаю», — пісаў Сурначоў у вершы «Прысяга ў акопах». Пад вершам стаіць подпіс: «1942 год. Данскі фронт». А апошні яго верш быў напісаны у 1944 годзе на румынскай зямлі. Гэтая невялічкая, усяго ў дванаццаць радкоў, лебядзіная песня паэта напоўнена самым светлым пачуццём — пачуццём любві да роднага краю. Сніцца паэту ўсё тое, што запала ў сэрца з дзяцінства, — суніцы, сцяжынка ў хмызняку, мурожны луг, прысады «вакол Варшаўскае шашы», — і ён гаворыць:

І так заўжды перад вачыма:
Густы хмызняк, разбег дарог...
Такою я цябе, Радзіма,
У дні суровыя збярог.

На жаль, Сурначову не ўдалося ажыццявіць адну з самых запа-

ветных сваіх задум — прысвяціць верш Дню Перамогі, таму дню, аб якім ён са сваімі баявымі сябрамі марыў і да якога мужна пракладваў шлях штыком і пяром...

Нядаўна я сустрэўся з Сурначовым трэці раз. Сустрэўся з яго бацькамі, з домам, дзе ён нарадзіўся, з яго роднай Слабадой, што недалёка ад той Варшаўскай шашы, аб якой паэт успамінае ў апошнім вершы. Слабада пры ўсім яе падабенстве да іншых такіх жа вёсачак на Рагачоўшчыне мае і сваю адметную адзнаку — у ёй асабліва многа садоў. Што ні двор — то сад, то яблыні і вішні. Хораша, напэўна, у вёсцы, калі сады зазелянеюць ды зацвітуць! Можа, менавіта яны і навеялі калісь басаногаму хлопчыку жаданне напісаць першы верш?

Ёсць сад і ў бацькі паэта Мікалая Яфімавіча Сурначова — састарэлага, але яшчэ даволі моцнага і жвавага чалавека. Даведаўшыся, што я хачу пагутарыць аб сыне, Мікалай Яфімавіч гасцінна запрашае ў хату.

І вось мы ўспамінаем. Дакладней, успамінае стары, а я толькі слухаю ды пытаю. «Дужа душэўны быў у мяне Коля, — расказвае Мікалай Яфімавіч. — У маці пайшоў увесь. Яна такая ж... Тады яшчэ, бывала, з-за мяжы ці з-за патравы з суседам пасварышся, дык Коля ці другі сын і пачне казаць: «Не трэба, тата... Ну што з таго, што ў цябе на адну баразну зямлі больш будзе. Не трэба сварыцца з-за такой дробязі...» Малыя былі, а ўжо разумелі больш за нас, старых. Добрыя сыны былі ў мяне. І вось...»

— У вас і другія сыны не вярнуліся?

— Не вярнуліся, — змахвае слязу стары. — Старэйшы пад Масквой загінуў, малодшы, Федзя, — ва Усходняй Прусіі...

Мікалай Яфімавіч успамінае, як ён вучыў дзяцей. Нічога не шкадаваў для таго, каб яны былі пісьменнымі. Асабліва ахвочы да кніг быў сярэдні сын, Мікола. «Гатовы быў не разлучацца з кніжкаю, — успамінае бацька. — Іншы раз, калі Коля чытаў што-небудзь цікавае ўголас, дык цэлая хата народу збіралася».

— Ці не захаваліся якія-небудзь пісьмы ад Колі? — пытаю я.

У шуфлядзе старога стала захавалася некалькі пісем. Уласна кажучы, гэта і не пісьмы ў сённяшнім разуменні, а кароткія франтавыя паштоўкі і трохкутнікі з грыфам «воінскае» і нумарам палявой пошты. «Добры дзень, дарагія бацькі, — піша паэт. — Я жывы і здаровы. Знаходжуся ў 70 кіламетрах ад Варшавы. Не турбуйцеся аба мне. Палякі да нас вельмі добра адносяцца. Яны вельмі ўдзячны, што мы выгналі немцаў з іх радзімы...». «Я па-ранейшаму жывы і здаровы, — другая паштоўка. — Справы мае ідуць добра. Сёння мяне павіншавалі з урадавай узнагародай — ордэнам Чырвоная Зорка». У кожным

пісьме Сурначоў турбуецца аб бацьках, іх здароўі, аб малодшых братах і сёстрах. Усё просіць: «Жывіце дружна». І яшчэ: «Пішыце часцей». Вельмі ўжо хочацца атрымаць яму вестку з роднага краю, вельмі ўжо засумаваў ён па ім. «У вас, напэўна, скора восень, — піша Мікола, — жыта жняце, сена косіце. Як хацелася б наведаць!»

А вось і яшчэ адно пісьмо. Яно ўжо не ад Сурначова. Не яго почырк. У ім паведамляецца: «Ваш сын гвардыі лейтэнант Сурначоў Мікалай Мікалаевіч... у баі за сацыялістычную Радзіму, праявіўшы геройства і мужнасць, паў смерцю храбрых 20 красавіка 1945 года. Пахаваны ў пасёлку Фрэйдэнберг (Германія)...»

— Так хацеў вярнуцца і вось не вярнуўся, — у голасе старога ўстрывожаныя горыч і боль.

— Гэта не зусім так, — гавару я на развітанне. — Не зусім так, Мікалай Яфімавіч. Ваш сын вярнуўся да нас...

Гавару я не толькі для таго, каб суцешыць бацьку паэта, а з глыбокім перакананнем, што гэта сапраўды так, што яго сын жыве. Жыве ў памяці яго баявых сяброў і землякоў, жыве ў сваёй натхнёнай песні. І на памяць мне зноў прыходзіць верш, з якога пачалося маё знаёмства з Сурначовым:

І кожны раз,
Калі я толькі бачу блізка
Ракет святочных
Каляровы рой,
Як загрыміць салют
Над стольным Мінскам,
Здаецца мне,
Што не закончан бой.

Як быццам і цяпер
Перад варожым дотам
Знаёмы лейтэнант
З забінтаванай галавой
Наперад кліча
Ў наступленне роту,
Іграючы на сурме баравой.

*1962 г.*

*Аляксей Пысін*

## У СЯСТРЫ ПАЭТА

Ніколі не ехаць

Хлапцу маладому
Да роднага гаю,
Да блізкага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

Даўно ў маёй памяці жыве гэты верш, запомніўся ён неяк адразу, без завучвання і стаў побач з нямногімі шэдэўрамі паэзіі і народнай творчасці, якія складаюць маю асабістую анталогію. У гэтых дванаццаці радках і мой боль і смутак па тых, якія загінулі, мае вяртанне ў вогненнае мінулае, і мая ўцеха, што вось быў жа і сярод нас, у самым пекле вайны, юнак, якому ўдалося, мажліва, адным выдыхам у час высокага душэўнага ўзлёту стварыць цудоўны верш, які можа быць і рэквіемам, і песняй, і нерукатворным помнікам усім, хто не вярнуўся з вайны, у тым ліку і самому паэту.

Нават мы, сучаснікі і аднагодкі, мала ведаем пра Міколу Сурначова. Даведнік паведамляе: «Нарадзіўся ў 1917 годзе на Гомельшчыне ў сялянскай сям'і. Вучыўся на літаратурным факультэце Гомельскага педагагічнага інстытута. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет. У час Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у абароне Каўказа, у вызваленні Украіны, Беларусі і Польшчы. Загінуў у красавіку 1945 г. на фронце». Вось і ўсё. Кароткі мужны жыццяпіс, які мог бы ўмясціцца на магільнай пліце.

Засталіся нямногія ўспаміны сяброў паэта, і яны ў поўнай меры сталі штрыхамі яго вобраза і ўнутранай біяграфіі. Вось што пісаў Дзмітрый Кавалёў: «Калі я пазнаёміўся з Міколам Сурначовым, ён паспеў павучыцца ў інстытуце і надрукаваць свае першыя вершы ў тоўстым рэспубліканскім часопісе. Можа быць, таму ён здаваўся мне старэйшым, хоць быў маладзей за мяне. Хударлявы, з ледзь прыкметнымі маршчынкамі на строгім твары, блакітнымі няўсмешлівымі вачыма, ён быў чалавекам здзіўляючай душэўнай пяшчотнасці, валодаў рэдкім дарам пранікнення ў духоўны свет аднагодкаў».

А з пісьма, якое адразу ж пасля вайны даслалі франтавікі бацькам Сурначова, мы даведаліся пра апошнія дні яго франтавога жыцця. Цяжка паранены ў руку, старшы лейтэнант Сурначоў адмовіўся ехаць

у шпіталь, бо пачынаўся штурм Берліна, і ён вельмі хацеў удзельнічаць у гэтым штурме. Падраздзяленне супрацьтанкавай артылерыі граміла тылы фашыстаў. Некалькі машын трапіла ў засаду. У няроўным рукапашным баі Мікола Сурначоў і яго салдаты загінулі. Пахавалі іх у васьмі кіламетрах ад Берліна. Палявая кірзавая сумка Міколы Сурначова, набітая не толькі геаграфічнымі картамі, але і вершамі, не была знойдзена. Нямногае з таго, што ўцалела, было выдадзена пасля вайны дзвюма тоненькімі кніжкамі.

...Аднойчы на Карабанаўскіх могілках у Магілёве кінуўся мне ў вочы магільны надпіс: «Ксенія Мартынаўна Сурначова. 1885–1961». Абнадзейваючая здагадка павяла мяне ў пошук. Праз некаторы час даведаўся, што на могілках у ціхім бярэзнічку пахавана маці Міколы Сурначова. І яшчэ стала вядома, што ў Магілёве жыве бацька, жывуць тры сястры і брат паэта. Наталля, Лідзія і Ганна — медыцынскія работнікі, Іван — рабочы завода «Строммашына».

Цяпер дакараю сябе, што ў свой час не наведаў старога Мікалая Яўхімавіча, усё адкладаў сустрэчу на потым, шукаючы нейкага зручнага выпадку. Жыў ён на Карабанаўскай вуліцы ў новым зялёным доміку з малодшай дачкой Ганнай. Нідзе ўжо не працаваў, бо стары, пенсіянер. Любіў сад і гародчык пры ім, пах свежай зямлі нагадваў яму родную вёску і тое поле, на якім усё жыццё рабіў. Сям’я ў Сурначовых была па-сялянску вялікая і працавітая. Сам малапісьменны, Мікалай Яўхімавіч хацеў бачыць сваіх дзяцей адукаванымі і ўвогуле цягнуўся да ўсяго новага, што несла ў вёску савецкая ўлада. Вельмі ганарыўся Міколам, які ў чатырнаццаць год пачаў друкаваць вершы і селькораўскія допісы ў раённай газеце. Гаварыў, што вось, дзякуючы сыну, прозвішча Сурначоў упершыню пачало «пісацца» друкаванымі літарамі. Калі Мікола вучыўся ў Гомелі, бацька час ад часу наведваў яго. І ўсякі раз пехатой, з важкай торбай за плячамі: сто кіламетраў не лічыў доўгай дарогай. Ды што тыя знаёмыя кіламетры!

У час апошняй вайны, у 1942 годзе, клапоцячыся аб дзецях, Мікалай Яўхімавіч з яшчэ цяжэйшай торбай, напакаванай харчамі, рушыў з Рагачоўшчыны ў блакіраваны ворагам Ленінград. Чуў, што ленінградцы галадаюць, а там яго сын і дачка! Салдат Першай сусветнай вайны і ўдзельнік Грамадзянскай, ён меркаваў, што недзе ж удасца яму перайсці лінію фронту, адрасы ж дзяцей трымаў у памяці. Не ведаў бацька, што старэйшы сын Яўхім, інжынер караблебудавання, яшчэ на пачатку вайны пайшоў добраахвотнікам у народнае апалчэнне і загінуў у баях на Волхаўскім напрамку. А дачка Лідзія ўжо не студэнтка — яна сяржант медыцынскай службы ў адным з ваенных шпіталяў Ленінграда. Лінію фронту не перайшоў, вярнуўся

ні з чым. Калі вайна ішла ўжо к канцу, стары страціў яшчэ двух сыноў: ва Усходняй Прусіі загінуў Фёдар, пад Берлінам застаўся Мікола.

Праз нейкі час пасля вайны Сурначовы пераехалі з Рагачоўшчыны ў Магілёў: бацькі і астатнія дзеці. У зялёным доміку на Карабанаўскай вуліцы пры жыцці Мікалая Яўхімавіча (памёр у 1972 годзе) знаходзіліся перададзеныя яму на захаванне дыплом і медаль лаўрэата Ленінскага камсамола імя М. Астроўскага, якая пасмяротна была прысуджана яго сыну Міколу, паэту-франтавіку.

Дарогай братоў ішла ў жыццё Лідзія Мікалаеўна Сурначова, якая на пяць гадоў маладзейшая за Міколу. Пасля заканчэння сямігодкі вучылася ў Ленінградскім медыцынскім тэхнікуме. Дыплом фельчара атрымала ў канцы ліпеня, калі грымела ўжо вайна. Паехала суправаджаць эвакуіраваных дзяцей. 400 малышоў ясельнага ўзросту — і дзесяць іх, медыцынскіх нянек. Дабраліся толькі да станцыі Балагое, далей не было як: з боку Старой Русы вораг адрэзаў дарогу. Вярнуліся ў Ленінград, аддалі дзяцей мацяркам. Лідзія Сурначова стала медыцынскай сястрой ваеннага шпіталя. Пасля прарыву блакады разам з франтавым шпіталем выехала ўслед за наступаючымі войскамі.

У Фінляндыі пад Выбаргам атрымала вестку ад брата. Мікола Сурначоў пісаў аднекуль з-пад Варшавы.

— Пісьмо тое не захавалася, — кажа цяпер Лідзія Мікалаеўна. — Ды яно ўсё ў памяці. Звычайны салдацкі трохкутнічак, дробныя радкі, напісаныя алоўкам. Брат паведамляў, дзе ён быў, дзе ваяваў. Радаваўся, што наша армія імкліва наступае, што скора фашысцкі звер будзе дабіты ва ўласным логаве. У пісьме былі і такія словы: «Дарагая сястрыца! Я думаю пра цябе і пра ўсіх дзяўчат, прыгожых і пяшчотных, якіх вайна абула ў кірзавыя боты, а на плечы ўскінула суровы армейскі шынель. Уяўляю цябе на полі бою, бачу, як ратуеш параненага воіна, засланяючы сабой ад варожай кулі. Мяне таксама ўжо тройчы бінтавалі ласкавыя дзявочыя рукі, я адчуваў, што ад дотыку іх цішэў мой боль, хутчэй зажывалі раны. Салдаты Вялікай Айчыннай вайны ніколі не забудуць сваіх сясцёр. Трымайся, сястрыца, да перамогі ўжо недалёка!»

Усё далей на Захад пасоўваўся прыфрантавы шпіталь. Беларусь. Літва. Усходняя Прусія. Колькі радавых і камандзіраў у белых бінтах і гіпсавых павязках, вяртаючыся на бераг жыцця, называюць і яе, Лідзію Сурначову, па-роднаму коратка і ўдзячна: «Сястра!» Двое сутак ішлі баі за авалоданне горадам Інстэрбургам. Двое сутак не спалі ваенныя ўрачы і медсёстры. Падбіралі параненых і рабілі ім перавязкі на вуліцах абложанага горада, пад няспынным вогненным абстрэлам. Лідзія Мікалаеўна ўспамінае, што за тыя сорак восем гадзін праз яе рукі прайшло каля 500 параненых.

Пасля заканчэння вайны на Захадзе быў Далёкі Усход. Перамога над Японіяй. Вяртанне на радзіму. Дома дэмабілізаваная франтавічка даведалася, што бацька і сястра Наталля таксама змагаліся, каб наблізіць перамогу над ворагам: былі партызанскімі сувязнымі.

Вось ужо дваццаць гадоў Лідзія Мікалаеўна працуе загадчыцай пакоя маці і дзіцяці на Магілёўскім чыгуначным вакзале. Кажучы пра гэта, пажартавала:

— Усё жыццё за няньку. За гэты час і сваіх чацвёра выняньчыла.

За сцяной вакзала спыняюцца і зноў ідуць у вялікую дарогу цягнікі. Сыходзяць пасажыры з дзецьмі, трэба перачакаць нейкую часіну, а можа, і ўсю ноч. Вядома ж, адразу знаходзяць пакой маці і дзіцяці, у якім усё ёсць для адпачынку: медыцынскі нагляд і дапамога. Вось маладая маці прывяла сына, а сама пабегла, відаць, у білетную касу. Лідзія Мікалаеўна, якая сёння тут дзяжурыць, пагаварыла з хлопчыкам, дала яму танк і нейкія цацкі, той сцішана заняўся сваёй справай. Сястра паэта! У нашым уяўленні склаўся абагульнены вобраз самай блізкай і роднай спадарожніцы маленства і юнацтва паэта, яго даверанай асобы, хавальніцы сакрэтаў і літаратурнай спадчыны. Сёстры ў чымсьці дапаўнялі сваіх славутых братоў, рабілі іх багацейшымі ў многіх адносінах. З пачуццём запозненай цікавасці і шкадаваннем, што ўсё, аб чым цяпер расказваецца, маглі мы ведаць раней, слухаю Лідзію Мікалаеўну.

— Наша радзіма — вёска Слабада Рагачоўскага раёна. За крайнімі хатамі адразу ж пачынаўся лес. У вёсцы была толькі пачатковая школа. Сямігодку Мікола канчаў у Рагачове. Потым ён вучыўся на агранома ў Гомельскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, гэта недзе ў пачатку трыццатых гадоў. Вучыўся і адначасова быў настаўнікам на пункце ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Едучы на вакацыі дамоў, запасіў усім нам падарункі: каму хусцінку, каму плацце альбо чаравічкі. Самы лепшы падарунак, вядома ж, — маці, якую вельмі любіў і шанаваў. Калі пачаў вучыцца ў Гомельскім педагагічным інстытуце, прыкметна пасталеў. Гэту сталасць паважалі ў ім старэйшыя. І старшыня калгаса, і нават дзяды звярталіся да яго як да раўні, абмяркоўвалі з ім самыя сур'ёзныя справы, раіліся.

Міколу цягнула да людзей, кожнае лета працаваў ён разам з калгаснікамі ў полі і на лузе. Прымаў удзел у грамадскіх справах, дапамагаў выпускаць калгасную насценную газету. Многа чытаў, прыахвочваў да чытання сясцёр. Дома ў нас сабралася ніштаватая бібліятэка. Бацька ў час вайны склаў кнігі ў скрыню і так захаваў дзесьці ў зямлі, што потым і сам не змог знайсці...

Лідзія Мікалаеўна ўспамінае маленства і школьныя гады, уваскрашае абразкі, кожны з якіх мае дачыненне да брата і дае магчымасць

лепей уявіць, як складваўся характар, умацоўваліся воля і маральныя сілы будучага паэта-франтавіка.

*1974 г.*

*Аляксей Пысін*

## ВЕРШЫ МІКОЛЫ СУРНАЧОВА

Зноў асколак сляпы
На ўспамін?
Рух рукі перасмяг,
Прыпыніўся,
Б'е вайна трэці раз па ім,
Перад гэтым — зімою, на Вісле.

Так руку апякло,
Так сцяло —
Не ўтрываць,
Не ўтрымаць пісталета.
І не выняць паперу й сціло
З-пад слюды палявога планшэта.

І рука і плячо
У вязьме
Загусцелага белага бінту,
У шпіталь ён свой боль павязе
І пакіне апошнюю бітву.

Тыл спагадна суцешыць яго,
Ды наросхліст душа забурліла:
Толькі тыдзень застаўся ўсяго,
Толькі тыдзень —
Да штурму Берліна.

І — наперад з сябрамі. Без слоў.
Весняй роўняддзю, чорнаю пашай.
З перабітай рукою павёў
У той бой, найцяжэйшы з баёў.
Рукапашны.

Адляталі душы жаўрукі
З поля бою — ужо начнога.
Паміж паўшымі — вершаў радкі,

Веснавыя радкі Сурначова.

У радках — сэрца хлеб трапяткі,
У радках — сурначынкі-крывінкі...
Паўтарае планета віткі,
Выкругляе дубы і крынічкі.

Узняла ў родным слове ралля,
Насыцелая,
Лесу слаямі, —
Пушчы Мележа, Янкі Брыля
З барадулінскімі салаўямі.

*1981 г.*



# Мікола
# СЯМАШКА

Мікола (Мікалай Пятровіч) Сямашка нарадзіўся ў 1914 г. у в. Барылы (пазней злілася з в. Катушанкі) Полацкага раёна Віцебскай вобласці.

Скончыўшы сямігодку, доўгі час працаваў у ветранскай раённай газеце (выходзіла ў тагачасным Ветранскім раёне). З 1939 г. — у арміі, удзельнічаў у паходзе ў Заходнюю Беларусь. У 1940–1941 гг. працаваў загадчыкам літаратурнага аддзела рэдакцыі беластоцкай газеты «Вольная праца». З першых дзён вайны знаходзіўся на фронце. Загінуў у 1941 г. пры абароне Оршы.

У друку з вершамі выступіў у 1926 г. на старонках газеты «Чырвоная Полаччына». Творы М. Сямашкі таксама друкаваліся ў полацкіх літаратурна-мастацкіх альманахах «Росквіт» і «Зарніцы», часопісе «Полымя рэвалюцыі», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Звязда» і некаторых іншых. Аўтар кнігі паэзіі «Шчырасць» (1939). У чэрвені 1941 г. у Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі быў здадзены новы зборнік вершаў. Асобныя вершы змешчаны ў зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 3), «Крывёю сэрца» (1967), «На сцягу і ў сэрцы» (1982), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2) і інш. Выступаў з нарысамі, спрабаваў свае сілы ў мастацкім перакладзе.

# Паэзія

ЭХ, ПАШТО...

Кругом ціш, кругом бляск,
сінь сняговая.
Вёскі зрэбныя ў гурбах ляжаць...
Эх, зіма ты,
зіма сінябровая,
люба мне табе песні складаць.

Люба мне у марозныя раніцы
слухаць спеў
завірухі ліхой...
Мае думкі, бы хмель, завіваюцца...
Бор качае сівой галавой.

Эх, пашто,
ну пашто сумаваць мне,
жудасць чорную ў сэрцы насіць,
калі дні віхрамётныя вабяць, —
толькі мне маладому
і плыць.

Кругом ціш, кругом бляск,
сінь сняговая.
Вёскі зрэбныя у гурбах ляжаць...
Эх, зіма ты,
зіма сінябровая,
люба мне табе песні спяваць.

*в. Барылы*

## ВЯСНЫ Ў ГРУДЗЁХ Я НЕ ЗГУБЛЮ

Зіма,
зіма ў завеях, з маразамі,
па-за вакном
ільсніцца белы снег.
Сасонкі ў шэрані —
хістаюць галавамі
і ціха шэпчуць гімн вясне.

Была вясна...
даліны расквіталі,
была вясна...
Журчаннем ручайкоў
ліліся песні ў узбуджаныя далі,
а ў сэрцы
былі копны слоў.

Хоць сёння ты
сваімі дыванамі
услала дарагую мне зямлю,
усё ж люблю,
люблю цябе, зіма, я,
вясны ж ў грудзёх
ніколі не згублю.

*10 студзеня 1928 г.*
*Полацк*

## ПАЙДУ ЎПЕРАД

Няхай сабе зіма завеямі рагоча,
Зямлю ўсцілае белым дыванам.
У маіх грудзях — май радасны кляхоча
Расквітшаю чаромхай у цвецень пад вакном.

Не хочацца так мне успамінаць старое
І сэрца маладое акутваць у жаль...
Калі жыццё у нас бурлівіць маладое,

Калі што дзень ярчэй аснежаная даль.

Няхай сабе зіма завеямі рагоча,
Зямлю ўсцілае белым дыванам.
Уперад я пайду, дзе дзень агнём плюскоча,
Уперад я пайду насустрач новым дням...

*в. Барылы*
*Ветрынскі р-н*

## З ВЕРШАЎ АБ РАДЗІМЕ

Багаццем паўнаводных рэк,
Прасторамі стэпоў і гор,
Агнём (яму не дагарэць)
Заманлівых вячэрніх зор,

Вясновым гулам буйных вод,
Узнятай песняй над зямлёй,
Усмешкай шчырай і жывой
Дзяўчыны любае маёй, —

Я гэтым шчасны, гэтым рад,
Жыццю — у пояс мой паклон.
Я гордым стаў, бо я багат
Нясходжанай сваёй зямлёй.

Прыслухайся: гудзе яна
Кіпучай сілай маладой,
Дыміцца на ўзбярэжжы дня
Густым туманам над вадой.

Разносяць спелыя палі
Мядовы пах каля прысад,
Сады высока узраслі
Каля калгасных новых хат.

І ва усе яе бакі,
Ва ўсе канцы маёй зямлі
Спяшаць-імчацца цягнікі,
Плывуць па рэках караблі.

Таму увечар, ў час начны,
Гадзінамі не сплю падчас, —
Палёў дыханне, шум лясны,
Узняты, я іду страчаць.

І сэрца стукае мацней
Тады,
Мацней і гарачэй...
Здаецца: шчасця да мяне
Ніхто не адчуваў яшчэ.

*1936 г.*

## ПАСТУХ

Ані канца, ні краю —
Шырок калгасны луг.
Надвечар каля гаю
Сабраў кароў пастух.
На пень усеўся чынна.
Як важны гаспадар,
Трубу з-пад пахі выняў —
Вялікі дзедаў скарб.
Ён вытрубіць, што хочаш,
Хоць што, матыў любы, —
І слухаюць ахвоча
Шырокія дубы,
І слухаюць уважна
І гай, і дальні бор,
Як песняю працяжнай,
Берасцяной трубой
Высокі дзед чаруе.
Сабраўшыся у круг,
Кароўі статак чуе,
Як трубіць іх пастух.
Знаёма ім размова
Трубы, бо дзед не раз
Іх цешыў,
і каровам
Так любы дзедаў сказ.

Ім добра ў вечар сіні
Паслухаць мудры сказ,
Адчуць цяжар у вымі
Густога малака.
Ані канца, ні краю —
Шырок прастор палёў.
Надвечар каля гаю
Сабраў пастух кароў.

*1937 г.*

## ДЗЯВОЧАЯ

За ракою — луг някошаны
І прасторы спелых ніў.
За ракою той — харошы мой
Весялун і гарманіст.

Чую днём спакойны ляскат я:
Водзіць трактар за ракой
Самы лепшы, самы ласкавы,
Яснавокі сокал мой.

А як зоры тыя спелыя
Згубіць вечар малады,
Кліча любы песняй смелаю
Пад гармоніка лады.

Як дайсці? На мост — не хочацца
Гэткі круг дарма даваць,
За раку ж так сэрца просіцца...
Нацянькі — рукой падаць.

Не адолею я гэтага:
Ці мне цешыцца, ці не,
Што люблю яго, зарэчнага,
Што далёка ад мяне?

Ну, няхай. Не так шырокая
Рэчка з бегам ціхіх вод, —
Адшукаю неглыбокае,
Перайду яе ўброд.

*1937 г.*

*Полацк*

## ЧАКАННЕ

Цішыня. Спяць спакойна сады.
Ноч прыйшла з ношай мар залатых.
Ад нагрэтай спакойнай вады
Пахне моцным туманам густым.

Ў сінім марыве ў лузе кусты...
Драч азваўся у соннай траве.
Я ў чаканні прыціх, я застыў,
Я лаўлю сэрцам крокі твае.

Прыйдзеш.
Знаю: табе, як і мне,
Не дружыць з адзіноты тугой.
Пэўне, ў свеце не любяць мацней,
Як з табой мы адзін аднаго.

Хай табе не казаў я аб тым,
Не ступіў за прызнанняў парог, —
Колькі шчырасці ў сэрцы сваім
Для адной для цябе я збярог!

Сёння ж, мусіць, усё раскажу,
Хай таму будзе сведкаю ноч,
Што у думах так доўга нашу,
Што ў грудзях пасяліў так даўно.

Выплыў месяца серп залаты,
Пакаціўся па роснай траве...
Я ў чаканні прыціх, я застыў, —
Мне пачуліся крокі твае.

*17 чэрвеня 1937 г.*

## СТУДЭНТЦЫ

Вечар. Зоры. Месяц светлы,

І снягоў сыпучых бель...
Зноўку думы мне прынеслі
Успаміны аб табе.

Помніш: ліпы шалясцелі
За заслонай аканіц,
Мы ж над Пушкіным сядзелі
Аж да ранішніх зарніц.

І спрачаліся з табою
Па-дружацку мы падчас,
І ўдваіх хадзілі ў поле
Росы цёплыя страчаць.

І, дарэшты ўсхваляваны,
Быццам слухаў цэлы свет,
Горача табе чытаў я
Вершы новыя свае.

...Дык прыедзь ізноў, як росы
Згубіць ліпень у траве,
Пачытаем мае строфы
Недапісаных паэм.

*1937 г.*

## ЖЫЦЦЁ НАМ Б'Е СВАІМ ЧАЛОМ

Жыццё нам б'е сваім чалом,
Зямлі дзівоснымі садамі
І песні шчырае цяпло
Навекі падружыла з намі.

Падумай, любая: з табой
За ўсіх мы багацей на свеце.
У нас — лугі з густой травой,
Лясы і рэкі, моры й вецер.

Мы ў свет вялікі увайшлі,
Гарачым сонцам абагрэты, —
Гаспадары сваёй зямлі,

Гаспадары сваёй планеты.

Таму вось,
Светлая, як дзень,
З багаццем дум сваіх глыбокіх,
Ты па зямлі сваёй ідзеш
Такім упартым, цвёрдым крокам.

Таму
І дзень шчаслівы твой
Табою радаснай адзначан
Высокай песняй маладой,
Усмешкай шчырай і гарачай.

## ВЕЧАР НА ВОЗЕРЫ

Вечар.
І над возерам глыбокім
Задрамалі дымныя кусты.
Паў на воды маладзік высокі
Трапяткім паўкругам залатым.

Ціш такая — не здрыгнуць асокі,
На вадзе — шырокія кругі, —
Жыраваць з сярэдзіны глыбокай
Прыплываюць рыбы ў берагі.

Разгайдалі карасі хрыбтамі
Шкло вады туманна-залатой
У аір прайшлі верацянамі
Шчукі за здабычаю сваёй.

А за дальнім берагам пакатым,
У сям'і лазовых хмызнякоў,
Маладых, гарачых і заўзятых
Перамовы й спрэчкі салаўёў.

Так, да самай ранішняй зарніцы
Неспакойным рыбам вандраваць,
Туманам над возерам дыміцца,
Працавітым салаўям не спаць.

*26 мая 1938 г.*

## ТЫ ВЫЙДЗІ Ў САД

Ты выйдзі у сад. У гэты цёплы вечар
Так добра ў ім — расцвіўшым, маладым.
І неба сіняе з любоўю чалавечай
Прасцерла рукі зорныя над ім.

Багат ён сёлета, наш сад калгасны:
Ва ўборы вішні гонкія стаяць,
Пад поглядам маладзіковым ясным
Пажарам белым яблыні гарацць.

Тут родна ўсё. Тут усяму мы рады.
Тут дрэва кожнае знаёма нам з табой, —
Старэнькаму садоўніку брыгада
Дапамагала ранняю вясной.

Мы удваіх з табой тут працавалі,
Сухое голле нішчылі і мох,
Крынічнаю вадою палівалі
Карэньчык кожны дрэў,
Каб жыць, расці ён мог.

Каб цёплым маем, пад шпачыны гоман,
Наш сад квітнеў, як нашае жыццё,
Каб красаваў ён, родны і знаёмы,
Шырокіх яблынь кветкавы шацёр.

І ён стаіць пад зорамі, спакойны,
Плён працы нашае, убраўшыся у бель.
І кветка кожная, і ліст жывы зялёны
З табой гаворыць, кліча да сябе.

Прыйдзі ж у сад, вясны маёй сяброўка,
У наш агульны і прыгожы дом, —
Шчырэйшай будзе нашая гаворка
Пад яблыняю белай маладой.

*28 мая 1938 г.*

## ДЗЕ ТЫ

Неба цёмна-сіняе глядзела
З зайздрасцю з вышынь сваіх нямых,
Як крылатай птушкай ты ляцела
Да зямлі, прастораў палявых.

Юнаю парашутысткай смелай
Прыняла дачку сваю зямля,
Рук цяплом вяснова-загарэлых
Стрэціла сяброў цябе сям'я.

Я, з калгаса, першамайскім святам
У сталічным горадзе быў госць
І, сказаць па шчырасці, крылатых
Я дзяўчат не бачыў да таго.

На цябе, з цікавасцю узнятай,
Наглядзецца я тады не мог, —
Трэба ж пра усё сваім дзяўчатам
Расказаць, прыехаўшы дамоў.

Пра цябе ў калгасе расказаў я:
«Асаблівых не было прыкмет, —
Як усе, звычайная такая,
На шчаках — вяснушак лёгкі след».

І цяпер вось, ідучы за плугам
Шырынёй нязмераных палёў,
Ўспамінаю, як старога друга,
Воч тваіх дзявочае цяпло.

Дзе ты, у якіх такіх шыротах,
У якіх абветраных краях?..
Можа, ты ўжо водзіш самалёты,
Дзеўчына вясёлая мая?..

*1938 г.*

## ПАЧАТАК ЛЕТА

Цеплынёй і радасцю сагрэты,
Я іду. Кругом шумяць сады...

Вось ён, залаты пачатак лета!
Дзе ні глянеш — скрозь яго сляды.

Некранутыя касой густыя пожні
З ранішняй прахладаю расы,
Сіні гай, рамонак прыдарожны,
Маладога жыта каласы,

Рэк імклівых, буйных, мнагаводных
Светлая празрыстая вада,
Спелых зор, далёкіх і халодных,
Звонкая, заманлівая даль,

Любае сяброўкі родны голас
Пад гармонік позняю парой, —
Вось ён, скарб, багаты, незлічоны, —
Лета гаспадарнага дабро!

Гэткім часам весялей удвое!
Вечар, ноч і працавіты дзень,
І жыве, здаецца, й нежывое,
Песня гарачэй і маладзей.

*1938 г.*

## ДОЖДЖ ПРАЙШОЎ

Дождж прайшоў.
І адплываюць хмары
Краем неба дальнім на спачын.
Сабіраюць з гор ваду імшары,
Каб да часу вільгаць зберагчы.

Маладою рожаніцай дужай
Загула абмытая зямля.
І чуваць, як прарастае дружна
Ярына на ўспаханых палях.

І чуваць, як наплываюць сокі
У сцяблы дубоў і свежых траў,
Як у яблынь, гонкіх і шырокіх,
Адсачае тонкая кара.

— Жыць! — сказала сонца маладое, —

Аглядзеўшы ўзгоркі, шыр далін, —
Каб ніякай сіле не адолець
Прагавітасць да жыцця зямлі.

Слава ж сонцу яснаму і ветрам,
Жыватворчым веснавым дажджам,
Маладой зямлі, цяплом сагрэтай,
Ў добры час расціць і нараджаць!

*1938 г.*

## НЕПАРУШНАЕ СЛОВА

Усё так звычайна і проста
(Без лішніх узвышаных слоў), —
І вось нечаканая ростань
Ў сям'і прыдарожных дубоў.

Быў сведкай чарэмхавы вечар,
Як мы пакляліся тады
У дружбе гарачай навечна,
Ў пачуццях сваіх маладых.

З таго дня мінула нямнога,
Як я развітаўся з табой,
Ды цьмяных сумненняў трывога
Падыдзе да сэрца парой.

Тады паўстае прада мною
Той вечар з барвовай зарой,
І дуб, заручоны з вясною,
І гоман зялёных бароў,

І ты, маладая дзяўчына,
З сардэчнаю шчырасцю слоў...
Адценні трывог беспрычынных
Ганю тады з сэрца далоў.

У дружбе, з узнятасцю новай,
Клянуся табе і сабе,
Тваё непарушнае слова
Хаваю у сэрца глыбей.

*1938 г.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Станіслаў Шушкевіч*

## НА АРШАНШЧЫНЕ ЛЯ СІНЯЕ РАКІ

*Міколу Сямашку — паэту і салдату*

За балотам, за узгоркам гэтым,
Дзе прабег гасцінец праз лясок і гаць,
Полаччына блізка. Дом паэта,
Глянеш, дык, здаецца, як рукой падаць.

Яблынька у полі на паўмежку,
Возера, якіх не бачыў свет.
Не адну дарожку я і сцежку
Пратаптаў, праездзіў там як след.

Не з адной рачулкі і крыніцы
Вусны прагныя, гарачыя пілі,
І смачнейшай, вось як там, суніцы
Не сустрэць на ўсёй зямлі.

І дзяўчат з вачыма-васількамі
Прыгажэйшых, лепшых не шукай.
Там, здаецца, ажывае камень,
Калі прыйдзе свежы, светлы май.

І вяснянкі — песні залатыя —
На узгорку над ракою чуў.
Дайце крылы, і ў мясціны тыя
Ластаўкай імклівай палячу.

Ёсць куток далёкі, сэрцу мілы
На Аршаншчыне ля быстрае ракі...
Там насыпаны высокія магілы
У зацішку вербаў і ракіт.

І вось там, дзе ўсё агнём палала,
А цяпер вянкі — на просценькіх капцах,
У радах салдацкіх больш не стала
Простага вясковага хлапца.

Полаччына блізка, прад вачыма,
Дзе прабег гасцінец праз лясок і гаць.
Спіце, слаўныя! Квітней, мая Радзіма,
Кожны за цябе гатоў жыццё аддаць.

*1958 г.*



# Леў ТАЛАЛАЙ

Леў Барысавіч Талалай нарадзіўся ў 1906 г. на Магілёўшчыне.

У 1925–1926 гг. працаваў настаўнікам Ведаражскай пачатковай школы Магілёўскага раёна. З 1926 па 1928 г. вучыўся ў Віцебскім педагагічным тэхнікуме. Затым быў прызваны на вайсковую службу (1928–1932). Ёсць звесткі, што ён служыў у арміі таксама звыштэрмінова. У 1932–1936 гг. — супрацоўнік яўрэйскай газеты «Юнгер арбайтэр» («Малады рабочы»). Некалькі гадоў да вайны выкладаў рускую мову і літаратуру ў сярэдніх школах ў Мінску. З першых дзён вайны зноў у арміі. Загінуў у 1942 г. на фронце.

Друкавацца пачаў з 1924 г. Пісаў творы на ідыш. Выйшлі яго зборнікі вершаў «Мой першы сноп» (1932), «У паходзе» (1940). Падборка вершаў змешчана ў зборніку «Лира» (М., 1985). Яго вершы на беларускую мову пераклалі А. Бялевіч, Р. Няхай, Р. Барадулін. Творы друкаваліся ў кнізе «Мы іх не забудзем» (1949), часопісе «Іскры Ільіча», газетах «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва» і інш.

# Паэзія

## РАЗВІТАННЕ

Цяжэй, чым з усімі,
Развітвацца мне
З чырвоналобым цяляткам.
Тужліва глядзіць
З мокрай мордачкай ён,
Нібыта мяне лічыць таткам.

Цяжэй, чым з усімі,
Развітвацца мне
З жарэбчыкам маладзенькім.
Ледзь ціха гукну —
Наўздагон да мяне
Ляціць
Са сваім ценем ценькім.

Цяжэй, чым з усімі,
Развітвацца мне
З маім сябруком.
Гэта Янкель
Залезе на дрэва,
Каб зорку дастаць.
Ён быстры, задзірысты,
Цямкі.

А вочы — агрэст,
Нос — гароху стручок.
Вясёлы любою парою,
З усімі на «ты» ён,
З усімі як свой:
Са мной, з жарабяткам,
З каровай.

Цяжэй, чым з усімі,
Развітацца мне
З Ханэлэ —
Любай дзяўчынай.
— Давай пацалуемся, —
Ёй кажу, —
Ад'езд мой
Таму прычынай.

Я еду ў краіну,
Якую завуць
Арміяй,
І, як у цудзе,
Збудзецца ўсё,
І жарэбчык канём
У кавалерыі будзе.

Хана здарослее,
З'явіцца той,
З кім паляціць
Без мяне ўжо,
Бо трапяткую душу
Заўсягды
Вабіць таемна бязмежжа.

Ах, блізка цягнік,
І цалуюся я
З бацькам калючабародым,
З мамай —
Прыцьмелыя вочы ў яе,
З Ханэлэ, —
Вусны, як мёдам,
Падсаладзіла
Ростань сама.
Ды не пыхкай
Так, паравоз!
Не забуду я ўсіх
Блізкіх
На станцыі ціхай.

## ТЭЎЕ-МАЛОЧНІК

Ён едзе марудна, парыпваюць колы.
Навошта спяшацца? І сонца высока.
І ўсмешка на вуснах яго. І наўкола
Ўсміхаецца ўсё задуменна й далёка.

Дзе позірк ні кінеш — раздолле без краю,
Палеткі ў зіхценні, лясы ў перагудзе,
Што ж, Тэўе, рабі так, як сэрца жадае.
Хай будуць шчаслівыя добрыя людзі.

У Бродскага множацца самі мільёны,
А ў Тэўі ўсе дочкі, хоць торбы навешай.
Каб наадварот стала ўсё, дык ягоны
Быў клопат лягчэйшы б і лёс ласкавейшы.

Ён едзе марудна, пагруквае посуд.
Ён бачыць сябе ў перапаленай блясе.
Спыніўся, бо лопнула раптам атоса.
Цяпер рамантуй, злазь у гразь, завіхайся.

І хіліцца ўніз галава ў неспакоі.
І ўсмешка ад Тэўі далей уцякае.
Якое ўжо заўтра насунецца злое,
Бяда да яго зноў прыліпне якая?

Пазнішчылі ўсё, што нажыў сваім потам.
І выгналі старцам з ягонай сядзібы.
І дзе гэта заўтра? І дзе гэта потым?
І друзам аселі пабітыя шыбы.

...Стаіць гаспадарліва восень сытђя.
За плугам яўрэй прыпыніўся на момант,
Вачыма зажураны вырай вітае.
Ну, выліты Тэўе, да болю знаёмы.

У хвалях раллі маладзеюць загоны,
Цяжкая зямля на лямех наліпае.
І гэта пачатак любові ягонай,
Што з даўніх часін яшчэ ў сэрцы жывая.

Калоссе казыча брыво небакраю.
І жмурыцца сонца ратаю-яўрэю.
І кожны ў ім роднае штосьці пазнае,
А ён ад усмешкі сваёй маладзее.

Дзе позірк ні кінеш — раздолле без краю,
Палеткі ў зіхценні, лясы ў перагудзе.
Што ж, Тэўе, рабі так, як сэрца жадае.
Хай будуць шчаслівыя добрыя людзі.

## У палявым штабе

Глыбокаю ноччу чуваць страляніна.
У ззянні ракет — таямнічыя цені.
Глыбокаю ноччу мы ведаць павінны,
Хто блукае ля нашых палеткаў вясенніх.

Шапочуць лісты ў задуменні глыбокім,
Дазоры ідуць баявыя.
Праносяць салдат ледзьве чутныя крокі
Праз жыта, праз росы густыя.

Далёка ўначы расцвітаюць ракеты,
Палаюць агнямі нябёсы.
Як дорага мне ты, радзіма Саветаў,
Жыта́ твае, песні і росы.

## НА МАРШЫ

Тры дні і тры начы
Полк рухаецца жвава.
Налева глянеш — лес,
Зірнеш — лясы направа.

Зялёная зіма —
Хваіны ды яліны.
Калісьці як-ніяк
Лес скончыцца павінны.

Прысталі людзі ўсе.
Ступаюць коні вяла.
Стамілася звінець
І песня запявалы.

Ды адступіўся лес.
Стаяць за хатай хата.
Прыбрана вёска ўся,
Як на якое свята.

Вясёлы брэх сабак,
Нязлосны шып гусіны.
У гожых маладзіц
Ажно гарацць хусціны.

Каб стому нам прагнаць,
Рачулка з лесу выйшла.
Дзяўчаты пачалі
Бялізну мыць увішна.

Якія ў кожнай з іх
Задзірыстыя рухі,
Як вабіць кожны стан,
Як вабяць гэты рукі!

І вечар звесялеў,
І неба пасінела,
І песня над шыхтом
Узвысілася смела.

Зрабілі тут прывал.
І на вясёлым мосце
У скокі ўсе пайшлі,
Гаспадары і госці.

Палкоўнік — шэры вус,
І вочы — смех сінечы,
Як самы першы зух,
Расправіў горда плечы.

На мосце дошкі ўсе
Трывалыя, бо з клёну.
Сасновыя ніяк
Не вытрымалі б звону.

На беразе ляжу,
Папера на прыкладзе.
І пішацца ў мяне
З усімі ў добрым ладзе…

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор Рэлес*

## ЛЕЎ ТАЛАЛАЙ

Леў Талалай — яўрэйскі паэт, член Саюза пісьменнікаў. Сваё жыццё і творчасць з юнацкіх гадоў паэт прысвяціў Савецкай Арміі, у шэрагах якой доўгі час знаходзіўся.

Яго даваенная паэзія адлюстроўвала побыт новай калгаснай вёскі і вайсковае жыццё. Байцы ў вершах Талалая — адважныя людзі, якія сталі на абарону сваёй Радзімы, жывуць думамі пра родны край, пра блізкіх і родных, чые інтарэсы яны абараняюць.

На прывалах, у паходах Талалай прыгадвае сваіх сяброў, свой родны дом, калгас. У гэтым сэнсе вельмі характэрным з'яўляецца верш «На прывале» з аднайменнага зборніка твораў:

Я сядзеў на мураве зялёнай,
Паснедаў я з апетытам.
Крынічнай вады напіўся
І песню ціха сабе заспяваў.

У такія хвіліны на сэрцы,
Як пасля добрага дажджу,
Свежа і спакойна; свет шырокі, светлы,
Прыгадваюцца вясёлыя прыгоды.

Вось я — хлапчына маленькі,
Сябры мяне заўсёды палохалі:
— Ты не зможаш зрабіцца чырвонаармейцам,
У пяхоту цябе не возьмуць!

Успамінаючы сваё армейскае жыццё, паэт прыходзіць да высновы:

Ніхто ў свеце не скажа,
Што дарэмна я вінтоўку насіў.

Вялікае ўражанне стварае верш «На маршы». Тры дні і тры ночы полк праходзіць бясконцы лес. Стаміліся людзі, коні престалі. Не чут-

но ў ротах песні. Раптам паказалася вёска. Брэшуць сабакі, гагочуць гусі, жанчыны палошчуць на рэчцы бялізну. Усе байцы зрабіліся бадзёрымі, забыліся на стому і на мосце пусціліся ў скокі:

На мосце дошкі ўсе
Трывалыя, бо з клёну.
Сасновыя ніяк
Не вытрымалі б звону.

І малюнак агульнай радасці заключаецца наступнай страфой:

На беразе ляжу,
Папера на прыкладзе.
І пішацца ў мяне,
З усімі ў добрым ладзе...

*(Пер. Р. Барадуліна)*

Праз радкі «І пішацца ў мяне З усімі ў добрым ладзе…» аўтар перадае радасць і ажыўленне пасля цяжкога паходу.

Наогул салдацкая песня пераважае ва ўсёй творчасці Л. Талалая. Яна з'яўляецца самым каштоўным у яго паэзіі. І гэта зразумела: Талалай доўгі час служыў у арміі. Тэрміновая служба, пасля чатыры гады звыш тэрміну. У 1937 годзе, пасля дэмабілізацыі, паэт перайшоў на педагагічную работу. Але і ў гэты час ён шмат пісаў пра армію. Ён умеў хвалююча выказаць думкі і пачуцці, перадаць настрой чалавечага сэрца.

З першых дзён Айчыннай вайны Леў Талалай быў на фронце. Ён загінуў у 1942 годзе ў самым росквіце жыццёвых і творчых сіл. Паэт аддаў жыццё за Радзіму, за светлую і мірную будучыню.



# Андрэй
# УШАКОЎ

Андрэй Фёдаравіч Ушакоў (выступаў таксама пад псеўданімам Андрэй Бязмежны) нарадзіўся 16 кастрычніка 1912 г. у в. Рабяткі Чавускага раёна Магілёўскай вобласці.

Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў прафтэхшколе, а калі яе скончыў, працаваў слесарам Віцебскага дэпо і майстэрняў авіяпарка. Скончыў падрыхтоўчыя курсы (1930), пасля чаго ў 1930–1931 гг. вучыўся на крытыка-творчым аддзяленні Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. Затым працаваў слесарам на швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» ў Віцебску. У 1932–1933 гг. вучыўся на сцэнарным аддзяленні Віцебскага кінатэхнікума. Уваходзіў у Віцебскую філію БелАППа. З 1933 па 1934 г. вучыўся ва Усесаюзным інстытуце кінематаграфіі ў Маскве, адначасова працаваў слесарам на будаўніцтве Маскоўскага метро. Пасля ліквідацыі сцэнарнага аддзялення ў Інстытуце кінематаграфіі перайшоў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага на аддзяленне мастацтва літаратурнага факультэта (скончыў у 1939 г.). З жніўня па кастрычнік 1939 г. працаваў інспектарам ва Упраўленні па справах мастацтва пры СНК БССР. У кастрычніку гэтага ж года прызваны ў армію, быў

сакратаром рэдакцыі дывізіённай газеты «За Советскую Родину» (Гомель). З першых дзён вайны ўдзельнічаў у баях на Магілёўшчыне і Гомельшчыне. Загінуў летам 1941 г. пад Гомелем пры пераправе праз раку Сож.

Першыя вершы надрукаваў у газетах «Чырвоная змена» (1928) і «Віцебскі пралетарый» (1929). Першую кніжку вершаў «Рабочы пульс» (1932) выдаў у сааўтарстве з П. Ананьевым. Аўтар паэтычных зборнікаў «Праца і маладосць» (1933), «Зарава вагранак» (1933), «Голас Радзімы» (1938). На старонках перыёдыкі надрукаваў паэмы «Говар машын» (1930), «Шуміць хвоя» (1930), урывак з паэмы «1920 год» (1934). У 1962 г. выйшла кніга выбраных твораў А. Ушакова «Наша маладосць».

Працаваў у жанры дзіцячай літаратуры. Разам з А. Жаўруком выдаў асобнымі кніжкамі паэмы «Пра майго таварыша» (1939) і «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (1939). Творы для дзяцей друкаваліся ў часопісе «Іскры Ільіча» і «Піянер Беларусі». Кніжка «Пра майго катка», створаная разам з Алесем Жаўруком, пабачыла свет у 1950 г.

Пісаў апавяданні і нарысы, спрабаваў свае сілы ў драматургіі, перакладаў з рускай і ўкраінскай моў. У сааўтарстве з А. Жаўруком стварыў лібрэта першай беларускай аперэты «Зарэчны барок» (музыка М. Чуркіна). Выступаў і як крытык (артыкулы «Вайсковая беларуская літаратура», «Аб некаторых «дробязях» паэзіі», «Аманал» А. Куляшова», «Аб п’есе «Хто смяецца апошнім» і інш.). Асобныя вершы А. Ушакова перакладзены на рускую, балгарскую, польскую і армянскую мовы.

# ПАЭЗІЯ

## ЗІМОЙ У ЛІЦЕЙНАЙ

Эх, мароз! Акон не зачыняй
Ледзяной халоднаю фіранкай,
Навакол пячэ гарачыня
З чарнаблузае мае ваграккі.

Вентылятар! Больш паветра дай,
Награбай шырокімі рукамі,
Хай кіпіць чыгунная руда,
Быццам лава ў кратэры вулкана.

З жолаба слясарным малатком
Выбілі гліняны корак,
І чыгун гарачым малаком
У каўшы пацёк з напорам.

Замільгалі чорныя каўшы,
Ад апок — да жолаба ваграккі.
Вокамгненна часткі для машын
Застываюць чэрстваю балванкай.

Ад гарачай працы — потны твар,
Цяжка дышуць змораныя грудзі.
— Эх, давай, вясёлая братва,
Бо чыгун застыгне, — не марудзіць.

После змены можна адпачыць,
Не стаяць без працы ні хвіліны!
Моцныя на печах абручы,
З кажуха не абгарэла гліна.

Дык хутчэй, мая лапата, сып
У вагранку новую калошу...

Праз акно відаць: на карпусы
Ападае снежная пароша.

Сэрца рвецца радасна з грудзей:
Сёння сталлю ўсе заліты формы,
Як ніколі, быў ударны дзень —
Сем працэнтаў дадзена звыш нормы.

Зноў пячэ гарачыня вакол,
Як вулкан, гудзе, кіпіць вагранка...
Звонка кроплі капаюць з акон,
Растаюць марозныя фіранкі.

*1930 г.*

* * *

Вечар спіць. Навокал цішыня,
Ліхтары, бы верставыя вехі,
І здалёку, квола на санях
Адвячорак з вуліцы пад'ехаў.

Ледзь прыкметна дыхае зямля,
Кудрамі туман з-пад кепкі лезе.
Гукі... Сціхлі... Узрастаюць...
Ляск
На заводзе чорствага жалеза.

Вецер пазяхнуў ды лёг ізноў,
Нейкая таемнасць у паветры...
І пачуццяў хмельнае віно
Распусціла легкакрылы ветразь.

І здаецца — лепшага няма:
Над машынай зараз сілу выліць,
Там у далях — творчасці размах,
Палатно шырокае — імклівасць.

Быццам хто за рэчкаю прысеў
Ды развешвае туману сеці...
Хутка гул фабрычны прынясе
У ахапку мне гарэзны вецер.

Гэта значыць, чорныя каўшы
Разлілі чыгун гарачы ў формы,

Ад таго сталёвы гул машын
Стаў мацней, гуллівей і напорней.

І тады я чую: б’ецца пульс
І мацнее з кожнаю хвілінай,
Бо зарадку новую адтуль
Мне прынеслі лёскаты машыны.

Адвячорак думы ўскаласіў,
Чуцен вечара мядовы водыр.
— Вецер! Ну хутчэй нясі
Чорствы пах з ліцейнага завода.

Хай праравецца гэта цішыня
Говарам адлітай сталі!..
...Праімчаўся вечар на санях
І застыў акамянела ў далях.

*1930 г.*

* * *

Вятроў ліхія табуны
Прабеглі па асенніх лужах.
З глухой паўночнай стараны
Прыходзіць снежаньская сцюжа.

Ва ўзоры казачных раслін
Марозам шкло акон убрана.
Як пра маленства успамін,
Ў паветры першаснежны ранак.

У гэткі б час у цішыні
Хутчэй зарыцца ў кніжак груды
І радавацца, як праз дні
Чаканая прыходзіць мудрасць.

Так на парозе забыцця,
Праз мукі родаў, смерці націск,
Пачуўшы першы крык дзіцяці,
Шчасліва радуецца маці.

*1934 г.*

* * *

Дзяўчыну бачыў я, такую, як і ты,
Яна спяшалася з партфелем на заняткі.
Такія ж вочы дзіўнай яснаты,
Прычоска, як твая, і губы тонкай складкі.

І мне хацелася дагнаць яе хутчэй,
Каб прывітацца з дзіўнай незнаёмкай.
Яна зірнула, і зрабілася няёмка
За халадок зусім чужых вачэй.

*1935 г.*

* * *

Праз кісейную фіранку
Ты глядзіш на белы свет:
— Дзе ж той, суджаны цыганкай,
З чубам кручаным валет?!

Не выходзіць штось насустрач
Столькі год чаканы госць!
Праглядзела вочы ў люстра,
Даглядаўшы прыгажосць.

Колькі песень праспявана,
Колькі выплакана слёз...
Адгукніся, мой каханы,
Ашчасліў дзявочы лёс!..

Не жыццё, а непрабудны
Сон. Пародыя жыцця.
За акном праходзяць будні,
Не крануў твайго жыцця.

Свет далей парога хаты
На цябе наводзіць жах...
Ля акна ідуць дзяўчаты
З метрапалітэнскіх шахт.

Смех нясуць на вуснах спелых,
Твары іх пакрыў загар.

Ты глядзіш услед нясмела
І хаваеш бледны твар.

Ім чужая невядома
Адзіноцтва боль твая.
Ўся краіна родны дом ім,
А таварышы — сям’я.

Вечар стрэне рэчкай, паркам
Яснавокіх, маладых.
Кавалеры лепшай маркі
Заглядаюцца на іх:

— Лепш, як вы, хоць пад прысягу
Не знайсці на ўсёй зямлі...
Гэта права на павагу
Шчырай працай здабылі.

І яна, як лепшы помнік,
Да патомкаў дажыве.
А табе што можна ўспомніць,
Для чаго пражыты век?!

Кроў гарачая астыне,
Пасівее кудраў смоль,
У тугіх дзявочых скрынях
Папсуе сукенкі моль.

І закончыш дамаседкай
Век нікчэмны і ляны,
Каб апавядаць суседкам
Пра залеташнія сны,

Ведаць на тавары цэны
І які ў каго абед.
Хлопцы з метрапалітэна
Усміхнуцца не табе!

І ад сэрца пазайздросціш,
Насупер свайму быццю,
Іх багатай маладосці,
Іх разумнаму жыццю.

Прычакаеш гэткіх — дзе там...
Раз’ядае сэрца боль.

І прыйдзе замест валета
Інвалід, сівы кароль.

*Жнівень 1934 г.*

## ЯК МНОГАМУ ІМ ТЫ Ў ЖЫЦЦІ АБАВЯЗАН

Ля дарогі узняўся высокі курган,
Ён горда глядзіць на жыты і пожні.
Перад брацкай магілаю партызан
Спыніся і шапку здымі, падарожнік!

Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,
Імёны іх прачытай і запомні.
Ты пройдзеш па полі, па сцежках лясных,
Праз ціхі вечар і ясныя промні.

Каб даць спакой здранцвелым нагам,
Прысядзеш спачыць у цяньку пад вязы.
І, можа, будзе зусім няўцям,
Як многаму ім ты ў жыцці абавязан!

*1936 г.*

## НА ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ

Надвячэрняя ціш у акопах,
Тонкай дымкай пакрыты абшар.
Два салдаты па воўчых тропах
Прабіраюцца ў ціхі яр.

Азіраючыся з апаскай,
Прывіталіся поціскам рук.
І садзяцца на змятыя краскі
Пад стагодні, кроністы бук.

Рускі немца частуе махоркай,
Немец рускага — хлебам сухім.
І пачынаецца разам гаворка,
Зразумелая толькі ім, —

Па мазолях на жорсткіх далонях
(След батрацтва ў чужым двары),
Па жыццю, што бязлітасна скроні
Замарозіла без пары,

Па скалечанай маладосці
Пазнаюць па класу братоў
І рашуча гавораць:
— Досыць
Праліваць маладую кроў!
Годзе, братка!
Паваявалі
За багацце другіх, за медалі,
За асінавыя крыжы!

Густа пахла згарэлым порахам.
Ноч запальвала ліхтары.
Прывіталіся моўчкі два ворагі,
Развіталіся два сябры.

А назаўтра іскрыстым раннем
Сонца бачыла, як у лясок
З дружнай песняю на братанне
Выйшаў цэлы стралковы полк.

*1935 г.*

## РАДАСЛОЎНАЯ

Прасачы ад малпы ці Адама
Продкаў паважаных развіццё.
Быццам за замкамі, за гадамі
Захавана іхняе жыццё.

Рослы селянін з-пад Магілева,
Жыў мой прадзед у глухім сяле.
Жыў на месцы ўсё жыццё, як дрэва,
Ў цемры, як кажан жыве ў дупле.

Свет не бачачы далей мястэчка,
Працаваў з зары і да зары,
Гнуў спіну ў абшарніцкім двары
І сатлеў пакорна, быццам свечка.

На паглум аддай жыццё ў салдаты!
Дзед, хоць быў і смелы чалавек,
Каб не скласці косці на Карпатах,
Палец на руцэ адсек.

Сорак сутак насустрэчу сонцу
Бацька ехаў у чужую даль
Шапкамі перамагаць японца
І прывёз кастыль, а не медаль.

Каля Віслы брат памёр ад газаў,
Роднай не пабачыўшы зямлі.
І нарэшце — камбайнер калгаса —
Я апошні з нашае сям'і.

За гадамі, за глухой заслонай
Бачу продкаў невясёлы век.
Я з свае вялікай радаслоўнай —
Самы найшчаслівы чалавек!

*1936 г.*

* * *

Дзе ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа, ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?!

Каля воднай станцыі
З песнямі і танцамі
Моладзь весялілася гурбой.
За цяністым паркам,
Дзе прастор байдаркам,
Там я пазнаёміўся з табой.

Кожнай сваёй рыскаю
Ты мне стала блізкаю,
Нібы сябравалі многа год.
Над ракой блукалі,

Песенькі спявалі,
Разам сустракалі сонца ўсход.

Птушкі чулі-бачылі,
Стрэчу як прызначылі,
Дзе дубы над возерам раслі.
Час быў нешчаслівы —
Трохгадзінны лівень
Нашу дружбу цёплую разліў.

З той пары прыходжу я
Ў парк, цябе, прыгожая,
Поглядам шукаю між дзяўчат.
Колькі ні ўглядаўся,
А цябе няма ўсё, —
Сумны я вяртаюся назад.

Дзе ж ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа, ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?!

*1937 г.*

## РАЗВІТАННЕ З ЛАГЕРАМ

Адкрасавала залатое лета
Травой духмянай, гулам пчол ля кветак,
Кустом ажыны, пахам канюшыны,
Вясёлым хорам галасоў птушыных.

Малінавым адпалымнела ранкам,
Дугой вясёлкі, росчыркам маланкі,
Ў лісці зялёным адшумела ліўнем,
Састарылася пладаносным жніўнем.

Прыходзіць восень ў сівізне тумана,
І воблакі, як хвалі акіяна,
Навіслі над зямлёй з нямой пагрозай...
Цяжэй і халадней на травах росы.

Наліты чырванню рабіны гроны,
Шумяць тужлівай пазалотай клёны.
Імкнуць у вырай птушкі ў высі шэрай...
І нам пара на зімнія кватэры.

Тут дні міналі лагернай вучобы:
Вось мы капалі ротаю акопы,
Вось стрэльбішча ў густых і рослых травах,
Вунь рэчка, дзе масцілі пераправу,

Вунь хмызнякі, дзе мы вялі разведку...
Ўсё, што было работы нашай сведкай, —
Бывай.
Да будучай вясны, да стрэчы новай.
Бяжыць дарога ўся ў лісці барвовым.

*1940 г.*

## ПАРАШУТЫСТКА

Неспакойна вятры запелі,
Буйным градам сякуць у твар.
Толькі роўна гудзіць прапелер,
Праразаючы хвалі хмар.

Самалёт ў навальнічнай зоне.
Беспрасветная ноч. Імгла.
І дзяўчына ў камбінезоне
Узыходзіць на край крыла.

Перад ёю, як ноч, невядомасць
І бяздонная глыбіня,
А над ёю раскаты грому,
Неба ў бляску маланак-агня.

Толькі моцна дзяўчына станам,
І спакойны пранікліві зрок.
Ў глыб паветранага акіяна
Яна смела заносіць крок.

Прарываючы з свістам шалёным
Горы хмар, заглушаючы гром,
Ўніз імчыцца, дзе коўдрай зялёнай
Разаслаўся аэрадром.

Яна ўпэўнена прызямліцца,
Камандзіру адкажа: «Ёсць!»
Гэта водзіць нас праз навальніцы
Наша ўпартая маладосць.

Прыйдзе час з лютым ворагам біцца
Нам, бясстрашным і маладым.
Добра помнім пра нашы граніцы
І тады, калі нават спім!

*1936 г.*

## ПАГРАНІЧНІК

У гнёзды, у лес, у зацішак травы
Хаваюцца птушкі у навальніцу.
І толькі спакойным стаіць вартавы
З надзейнай вінтоўкаю на граніцы.

Ён слухае пільна, як дрэвы гудуць,
У шэпце лісця, у буры і громе
Ён адчувае шпіёнаў хаду,
Як адчувае надвор'е барометр.

А за плячыма ляжаць палі,
Гарады і вёскі, лясы і гаці.
Тысячы дзён ідзі па зямлі, —
Не пералічыш ўсяго багацця.

Заводы ўздымаюць па гарадах
Дымныя трубы да хмар высокіх.
Пад сонцам пяшчотным у рослых садах
Плады наліваюцца спелым сокам.

На складах высокіх зубчатых гор
Ляжаць руды наздраватыя глыбы,
У вадаёмах марэй і азёр
Плодзіцца самая смачная рыба.

Рукамі бяры гэты дзіўны дар!
Ён дадзен табе! Ён твой! Ён кроўны!
Усё тваё! Ты ўсяму гаспадар!
Ніхто па багаццю табе не роўны.

...Ўначы, калі дожджык сячэ круты,
Бура стагоднія дрэвы круціць,
Аб ім непакояцца, як браты,
Зусім яму не знаёмыя людзі.

І кожны стрэл над спакоем граніц
Па ўсёй зямлі адгукаецца рэхам, —
Па ўсёй зямлі — мільёны радні,
Куды б ні пайшоў, куды б ні паехаў.

Адданасць радзіме — надзейны пароль,
Ты з ім, як друг, праходзь усямесна.
Голас народа у буру і ў золь
Яго сагравае, як сонца увесну.

У гнёзды, у лес, у зацішак травы
Хаваюцца птушкі у навальніцу.
І толькі спакойным стаіць вартавы
З надзейнай вінтоўкаю на граніцы.

*1937 г.*

## НА ШАЎКОВЫЯ ТРАВЫ ПАЛА РАСА

*З народнага*

На шаўковыя травы пала раса,
Уранні пала, а ўдзень растала.
А твая каса, а твая краса
Назаўсёды мне ў сэрца запала.

А шчыміць жа сэрца маё, шчыміць
Нестрывалым сумам балючым.
А паліць жа і не спаліць
Гэты сум ды агнём пякучым.

А шчыміць жа сэрца маё, шчыміць
Нестрывалым сумам балючым.
А ліць жа і не заліць
Гэты сум ды слязам гаручым.

— Ты, дзяўчынка, мяне пашкадуй,
Цёпла, ветліва усміхніся.

Абдымі мяне, пацалуй,
Маёй жонкаю назавіся!

*Май 1939 г.*

## З ДУШНАЙ ХАТЫ Ў САД Я ВЫЙШЛА
*З народнага*

З душнай хаты ў сад я выйшла
Пагуляці, малада.
Салаўі пяюць на вішнях, —
Ой, бяда, ой, бяда.

Я адна хаджу, сумую,
Ой, бяда, ой, бяда.
Тата кліча — я не чую,
Ой, бяда, ой, бяда.

Чым я сум свой утаймую?
Ой, бяда, ой, бяда.
Маці кліча — я не чую,
Ой, бяда, ой, бяда.

Радасць сэрца агарнула:
Любы клікнуў — я пачула, —
Ой, бяда, ой, бяда!

*Май 1939 г.*

## КАЛЫХАНКА

Добрым часам, ціхай ночкай,
Лёгкі сон, зляці на вочкі,
Баю, баю, баю, бай,
Спі спакойна, засынай.

Каб ты цяжкіх сноў не знала,
Бесклапотна засынала,
Табе песеньку спяю
Я пра долюшку тваю.

Ў цяжкай зморы на пастаці
Нарадзіла цябе маці,
Шостай ты ў сям'і была
І без догляду расла.

Табе маці не спявала,
А зязюля кукавала,
Буйны дожджычак купаў,
Золкі вецер калыхаў.

А цяпер, маё малое,
Больш не ўбачыш гора злое.
Ясным ранкам вераснёвым
Зажылі жыццём мы новым.

Ты расці, ты цвіці,
Будзь шчаслівай у жыцці.

*1939–1940 гг.*
*Мінск — Гомель*

## А МОЖА БЫЦЬ

А можа быць, яшчэ любоў не згасла, —
Ты будзеш па-ранейшаму любіць
І жыць са мною радасна і шчасна?
А можа быць?..

Я адчуваю, любіш ты другога...
А можа, у грудзях тваіх гарыць
Яшчэ хоць іскра пачуцця былога?
А можа быць?..

Ды хто б ні быў сапернік мой лісліві,
Як я люблю — яму так не любіць.
І, можа быць, ты будзеш з ім шчаслівай,
Але мяне табе не пазабыць.

*20 чэрвеня 1940 г.*
*Літва, дарога на Вільню*

* * *

Як вясною смугою пакрыліся далі,
Над ракою з табою мы моўчкі стаялі.
Пазіралі-стаялі, а плыткія хвалі,
Быццам наша жыццё,
ў небыццё праплывалі.

Зноў вясною смугою пакрыліся далі,
Зноў імчацца-бруяцца няўтомныя хвалі,
Зноў курлыкаюць жоравы над галавою,
Толькі ты над ракою стаіш не са мною.

*1939 г.*
*Масква*

## З ПАЭМЫ «КРЫЛАТАЕ СЭРЦА»

У люстры плыткіх дзвінскіх вод
Барвовы дагараў заход.
Агню жывыя языкі
Лізалі грабяні ракі.
У гэта полымя стралой
Ўляцела лодка.
Там у ёй
Сядзеў юнак з сваёй сяброўкай.
Здавалася, што адзін міг —
І полымя ахопіць іх,
Ды лодка пад рукою лоўкай
Імкліва ўперад праплыла
Па стромах, як па гладзі шкла.
І толькі спуджана ўзляталі
З-пад вёслаў пырскі-жамчугі.
Наўсцяж густой вады стаялі,
Як дзве карціны, берагі.
Над кручаю на левы бераг
Крывыя вербы выйшлі ў шэраг
Глядзецца ў чорныя віры.
А там, за вербамі, ўгары,
За мураванай агарожай,
Развесіў голле пышны сад.

Там гул аркестра, смех дзяўчат.
Як ранне, свежых і прыгожых.
У шызай дымцы адвячорка
Успенская заснула горка.
Стаяла дрэўняя царква,
Нібыта векавуха-дзева.
Высокай хваляю трава
Пад лёгкім ветрыка павевам
Збягала пад адхон гары.
Як сведка даўняе пары,
Муры, падмытыя вадою,
Глядзелі ў мутны вадасцёк,
Увасабляючы сабою
Старога Віцебска куток.
На правым беразе адхонным
Бярвенне ў промнях залатых.
Адсюль вадзілі плытагоны
Ў дарогу дальнюю плыты.
З чырвоным сцягам урачыста
Глядзела ўдаль рачная прыстань,
Да трапа сходкавы праход
Старая арка вартавала.
Пад парай грузны параход
Цягуча падаваў сігналы.
Было прыемна юнаку
Паволі грэбсці ў пругкіх хвалях,
Глядзець на плыткую раку
І вечарэючыя далі.
І разам з гэтым незнарок
Спыніць свой на дзяўчыне зрок.
Яна ж, стаіўшы ўздых глыбокі,
Рукамі закрывае твар,
Каб захаваць, што, быццам жар,
Ад позірку палаюць шчокі.

* * *

У вагонным акне
Ты глядзіш на мяне
І махаеш бязвольнай рукою.
Здрыгануўся цягнік
І у цемені знік,
І павёз маё сэрца з сабою.

Я гляджу табе ўслед —
Апусцеў раптам свет.
Толькі ў цемені восеньскай ночы
Усё мрояцца мне
У вагонным акне
Ціхім сумам налітыя вочы.

*16 кастрычніка 1939 г.*
*Мінск*

* * *

Як шмат і лёгкіх і суровых
Дарог пралегла ў белы свет.
Ты сам па іх свой значыш след,
Сам гаспадар шляхоў жыццёвых.
Ды важна зразу чалавеку
Знайсці сябе ў сваім жыцці,
Сваёю сцежкаю ісці,
А не блукаць,
А не паўзці
Не здольным ні на што калекам.
Глядзіш, як у хлапца другога
Чым не занята галава:
Імкненняў многа, планаў многа,
Але мінае год і два,
А там і цэлага паўвека,
І сушыць горкая туга, —
Што ён ні чорту качарга
Ні богу свечка. Нуль. Няўмека.

Здаецца, меў і розум смелы
І здатным чалавекам слыў,
Але не так, як мог, пражыў,
Пражыў, як мокрае згарэла:
Ні полымя, ні цеплыні,
Бяздарна праляцелі дні
Ў бясплоднай, дробнай мітусні.

*1940 г.*

## ДОЖДЖ

Бліснулі маланкі ў хмарах чорных,
Быццам кавалерыі клінкі.
Лінуў дождж такі густы і спорны,
Жвавы, цёплы, радасны такі.

Па палатках кроплі гулка білі,
Абмывалі пыл з лісця бяроз.
Вецер праляцеў на лёгкім крыллі,
Дождж усё мацнеў, і рос, і рос.

І адразу з пенных, мутных лужын
Дружна заспявалі раўчакі,
Па нізінах, па слядах калюжын
Шпарка паімчалі да ракі.

А зямля, засмяглая ад спёкі,
Мыла твар вадою дажджавой.
Прагная,
Яна піла патокі
Лісцем дрэў,
Паніклаю травой.

А калі сплыла густая хмара,
Дождж угаманіўся,
Гром прыціх,
Свежая дыхнула тлустай парай
Ад праменняў цёплых,
Залатых.

Тхнула водарам з гушчараў-нетраў
Ад смалы, ад кветак.

І кругом
Гэтакае чыстае паветра, —
Хоць бяры і пі яго нагбом.

Птушкі заспявалі урачыста
Песню-славу сонечнаму дню.
Свет такім стаў чыстым і празрыстым,
Быццам нарадзіўся ўпершыню.

*Ліпень 1940 г.*
*Маладзечна*

## РАНАК

Асіны палахлівы ліст
Дрыжыць пад раннім колкім ветрам.
Над лагерам зайграў гарніст
І рэхам абудзіў паветра.

Знікае млявасць.
Дружна ўсе
Выходзім з цёплае палаткі,
Наперагонкі па расе
Бяжым да рэчкі на заняткі.

Мы, як дубовыя кражы, —
З нас кожны дужы і здаровы.
І гэтак лёгка на душы,
Настрой, як светлы дзень вясновы.

Туман ўзнімаецца ўгару,
Чапляецца за голлі дрэваў,
І птушкі летнюю зару
Вясёлым сустракаюць спевам.

Вось сонца яснага прамень
Пакрыў яліны пазалотай.
Вітанне, новы слаўны дзень,
З вучобай, з спорнаю работай!

*Жнівень 1940 г.*

## РАЗВЕДЧЫК

Асцярожным, мяккім крокам
Ён ідзе між хвой старых,
Па густым асеннім змроку,
Па ярах,
Равах крутых.

Ён ідзе, вядзе разведку.
Ціха, сонна ўсё наўкол.
Толькі птушка ўскрыкне зрэдку,
Шышка зваліцца на дол.

Можа, ворагі заўважаць
І адрэжуць шлях назад?..
Ён за хваляю заляжа,
Злоснай гутаркай адкажа
Яго верны аўтамат.

Азвярэлы вораг рыне
На яго, шлючы праклён.
Смерцю труса не загіне,
Не патрапіць у палон.

Да апошняе хвіліны
Будзе мужным
І пакіне
Для сябе адзін патрон.

*Кастрычнік 1940 г.*

* * *

Дзень мінуў, і сонца круг патух,
Запаліўшы воблакі праменнем.
Што карыснага зрабіў, мой друг,
Ты правер перад сваім сумленнем.

Каб не мучыў сорам перад тым,
Як апошняя часіна прыйдзе,
Што ты век пражыў жыццём пустым,
Што нашчадкі на цябе у крыўдзе.

*1941 г.*

# Пераклад

*Міхаіл Лермантаў*

Прадказанне

Прыдзе Расіі чорная пара,
Калі карона упадзе цара,
Забудзе чэрнь к яму сваю любоў
І ежа многіх будзе смерць і кроў;
Калі дзяцей, калі нявінных жон
Не абароніць звергнуты закон;
Калі чума ад тухлых мерцвякоў
Пачне блукаць паміж гнілых двароў,
Каб хусткаю з хацінак выклікаць,
І стане голад бедны край знішчаць;
І зарава асвеціць хвалі рэк:
Прыдзе ў той дзень магутны чалавек,
Тады ты зразумееш — для чаго
Булатны нож быў у руцэ яго.
І гора для цябе! — Твой плач, твой скон
Тады палічыць толькі смешным ён.
І ўсё ў ім будзе жахам, чорным злом,
Як плашч яго з узвышаным чалом.

# КАЗКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ПРА МУХУ БУРКУХУ І ДЗЯЎЧЫНКУ ГРАЗНУХУ*

Казка гэтая пра муху,
Ўсім вядомую Буркуху.
Многа дзе яна лятала,
Шмат куткоў утульных знала,
Але больш усіх мясцін
Быў ёй любы кут адзін.
Там не мучыла трывога
За жыццё яе штодня, —
Бруду многа,
Ежы многа —
Бесклапотнасць, цішыня!
Там жыла адна дзяўчынка,
Вечна брудная, як свінка, —
Есці ёй паставіць маці,
А дзяўчынка разалье,
У кісель залепіць плацце,
Суп развозіць па стале,
Вымажа варэннем кніжку,
На падлогу скіне лыжку,
Нос накорміць,
па шчаках
Паразмажа — глянуць страх!
І заўсёды да Гразнухі
Цэлым роем ліпнуць мухі,
Абступіўшы міску цесна,
З ёй ядуць яны сумесна.

* Твор напісаны разам з Алесем Жаўруком.

А гуляць яна ідзе —
Дваццаць мух над ёй гудзе.
Цэлы дзень лятаюць следам —
Чуюць мухі мёду пах
І садзяцца, каб паснедаць,
На губах
І на шчаках.
І Буркуха з ёю ела,
Вечна клопатаў не мела,
А пад’еўшы, кожным ранкам
Вылятала на гулянку.
Вось ляціць яна к сяброўкам.
Там жылі ў другім двары
Мухі, божыя кароўкі,
Павукі і камары.
Прыляцела к ім, а мухі
Убіваюцца ад скрухі:
Трэці тыдзень не пускаюць
Іх у дом гаспадары,
Трэці тыдзень галадаюць
Павукі і камары.
Ім жыцця няма нікому
Ад вакольнай чыстаты.
Надышлі часы ліхія —
Хоць кідай знаёмы двор.
Сталі мухі ўсе худыя —
Ледзь лятаюць,
Ледзь жывыя, —
Надышоў мушыны мор.
Сталі скардзіцца тут мухі:
— Хоць лажыся памірай!
— А ў мяне, — пішчыць Буркуха, —
У дзяўчынкі у Гразнухі
Не жыццё, а проста рай!
Раптам, быццам бы з засады,
З-за парэчкавых кустоў
Ўніз пасыпалася градам
Стая пры́ткіх вераб’ёў.
Мухі ўсе аслупянелі,
Вераб’і іх тут жа з’елі,
Толькі наша муха — ўбок

Ды штосілы науцёк.
З жаху ўся яна спацела,
Пяць завулкаў праляцела
І тады хутчэй цішком
Праз акно — у нечый дом.
Бачыць муха: ў цяжкім горы
Цёця нейкая сядзіць,
А у ложку хлопчык хворы
Ў непрытомнасці ляжыць.
Погляд мутны і пануры —
У яго тэмпература,
Ад яго гарачыня,
Як у печы ад агня.
Муха бліжэй падляцела,
Хлапчуку на губы села,
Па шчаках перапаўзла
Ды адразу — да стала.
Вось прыволле дзе для мухі,
Спрытнай збродлівай Буркухі!
Можна есці,
Можна піць —
Нечапана ўсё стаіць.
Спрабаваўшы сёе-тое —
Суп, кісель, сухарык, чай, —
Муха бачыць: што такое
Там у шкляначцы — чакай!
І к лякарству ўжо ляціць,
Падпаўзла і стала піць.
Як хлябнула — дрэнна стала —
На нагах ледзь устаяла:
— Як жа гэта піць малому? —
Вельмі горкае ж віно! —
І хутчэй к сабе дадому
Паляцела праз акно.
Ледзь жывой Буркуха-муха
Даляцела да Гразнухі,
Да сяброўкі да старой,
І хутчэй на губы к ёй.
Тут яна лякарства горач
Смачным мёдам запіла.

А праз дзень дзяўчынка хворай
Ў непрытомнасці злягла.
Погляд мутны і пахмуры —
У яе тэмпература,
Ад яе гарачыня,
Як у печы ад агня.
Плача мама,
Плача тата:
— Хто ў хваробе вінаваты?
Што далей, то не лягчэй,
Трэба доктара хутчэй.
Так дзяўчынка прахварэла
Цэлы тыдзень, як злягла, —
Ад спякоты ўся гарэла,
Ані ела, ні піла.
Дзеці ўсе ідуць купацца —
Ёй прыходзіцца астацца,
Дзеці ўсе ідуць у кіно,
А яна глядзіць ў акно.
Дзецям — яблыкі і вішні,
Ёй жа зноў — мікстуры выйшлі,
Дзецям — з макам піражкі,
А Гразнусе — парашкі.

Толькі зараз вы дзяўчынку
Не пазнаеце, сябры:
Ходзіць чыстай, як карцінка,
Разам з дзецьмі па двары.
Пыл сцірае у пакоі,
Мые рукі прад ядою,
Мые ногі перад сном,
Чысціць зубы парашком.
А для мух ў былой сяброўкі
Пачастункаў поўна зноўку,
Толькі іншых — бачыш ты:
Мухаморы,
Мухалоўкі
І ліпучыя лісты.

# ПРОЗА

## АБКРАДЗЕНАЕ ЖЫЦЦЁ
*Апавяданне*

Віктар Недасекін нясмела прайшоў праз густы і цёмны калідор да крайняга пакоя. На дзвярах вісеў замок. Недасекін пераступіў з нагі на нагу і гучна кашлянуў. «Хоць бы хто заўважыў, што я тут быў» — падумаў ён і моцна пастукаў у дзверы. Як бы выконваючы яго жаданне, прыадчынілася суседняя кватэра і з-за дзвярэй высунулася ўскалмачаная галава жанчыны.

— Ці ж вы не бачыце, што замок вісіць? — захутваючыся ў шырокі халат і выходзячы ў карыдор, ухмыльнулася жанчына.

— А я і не заўважыў... — вінаватым тонам адказаў Недасекін. — Тут галаву можна згубіць. Чацвёрты раз заходжу і ніяк не магу заспець дома. Грошы трэба перадаць... — Апошнія словы ён прамовіў падкрэслена.

— Клапоціцеся ўсё ж ткі? — падступаючы бліжэй, пацікавілася жанчына.

— Ну а як жа, — з робленай гордасцю адказаў Недасекін. — Абавязак...

— Таццяна трэці дзень як у больніцы і прасіла вас зайсці... Ведаеце, дзе больніца? — І, не чакаючы адказаў, пачала тлумачыць: — Гэта як ідзеш на рынак, па вуліцы...

— Ды я ведаю, ведаю — перапыніў яе Недасекін. Відаць, гаворка на гэтую тэму для яго была непрыемнай. — Дык я і пабягу хутчэй, бывайце здаровенькі... — сказаў ён, ужо крочачы па калідоры.

А за гадзіну перад гэтым з Недасекіным здарыўся выпадак, які моцна занепакоіў яго. У інстытуце ён прывітаўся з ішоўшымі насустрач знаёмымі дзяўчатамі. Тыя прайшлі міма яго, робячы выгляд, што не заўважаюць. А парторг, убачыўшы, запытаўся:

— Ну як, грошы Таццяне аднёс?

— У-у яшчэ ўчора, — схлусіў Недасекін.

Цяпер неабходна было тэрмінова адшукаць яе і аддаць грошы, інакш выкрыюць яго ману. Толькі як іх перадаць? У бальніцы запытаюцца: ад каго? Адказаць: «Ад мужа»? Як непрыемна гучыць слова «муж»! А можа, ужо бацька. Схлусіць — брат? Яшчэ павядуць да Тані ў палату. Пачнуць паказваць дзіцёнка, будуць віншаваць... А можа, Таня і глядзець не захоча на яго, пры людзях прагоніць. Сораму не абярэшся! Хіба грошы ў пакетцы перадаць, а самому хуценька ўйсці? Не. Гэтак яны могуць згубіцца. Таня ж яшчэ слабая здароўем... І тут прыходзіць у галаву звярыная думка: а можа, дзіцёнак пры родах памрэ?.. Бываюць жа такія выпадкі... «Я ў нашу медыцыну веру, яна мне два разы жыццё выратавала», — успомніў ён словы сябра, які нядаўна выйшаў з бальніцы. — Яму выратавала жыццё, а мне загубіць, — горка ўсміхнуўся над сабой Недасекін. А можа, не пайсці і пачакаць дні два?..

З дому ён выйшаў шпаркімі крокамі, але чым бліжэй падыходзіў да рынку, тым усё больш і больш крокі яго рабіліся павольнымі. Нарэшце ён спыніўся зусім. Вось і рынак, і вуліца, на якой змяшчаецца бальніца. — А жанчына ж не сказала нумар дома? Нават назву вуліцы не сказала — мільгнула ў галаве думка. Чаго ж я тады сюды іду? Можа, бальніца зусім у іншым баку?.. Ну канешне, — пачаў ён запэўніваць самога сябе, хоць добра ведаў, што бальніца менавіта на гэтай вуліцы, тут ён не раз праходзіў і бачыў яе. Гэта быў самаабман. Гульня ў хованкі з сваім сумленнем. Недасекін адчуў, што яму сорамна будзе цяпер сустрэцца з Таццянай. Ён нічога не зможа сказаць ёй у сваё апраўданне. А маўчаць ці неразважна ўхмыляцца — цяжка і ніякавата. І ён збочыў на другую вуліцу і пайшоў па ёй, пільна ўглядаючыся ў шыльды, усё больш набаўляючы крок.

Таня сядзела на ложку. Цела млела ад слабасці, хіліла на сон. Побач у калясцы спала дзіцё. Ад яе толькі што выйшлі сяброўкі, аднакурсніцы яе інстытута. Яны прынеслі падарункі: кветкі, матэрыі, каляску, нават таз купілі, каб было ў чым купаць дзіцёнка. Сяброўкі радаваліся за яе, падбадзёрвалі, і Таццяне як ніколі хацелася жыць, вучыцца і гадаваць дзіцё. Яна нават пакінула думаць аб тым, што ў яго не будзе бацькі. Бацька ёсць, але хіба можна яго назваць бацькам, калі ён выракся сваёй крыві!

Год таму назад Таццяна пазнаёмілася з Недасекіным Віктарам. Ён паабяцаў жаніцца, а як даведаўся, што яна зацяжарыла, пачаў вымушаць зрабіць аборт. Доўга ў Тані змагаліся два пачуцці — любоў да Віктара і да дзіцёнка. Радасць мацярынства аказалася мацнейшай. Яму, першаму дзіцяці, яна прысвяціла

столькі дзявочых мар! Стварала малюнкі сумеснага шчаслівага жыцця і ўжо загадзя любіла будучае дзіцё, і зараз гэта павінна рассеяцца, як сон. А што калі пасля аборту не будзе дзяцей? Значыць, усё жыццё быць адзінокай і ўпякаць сябе ў непаправімай бядзе? Або народзіцца калека. Каму патрэбны такія дзеці? Сяброўкі падтрымалі яе, абяцалі прыходзіць і дапамагаць у вучобе, пакуль падрасце дзіцё. Яна скончыць другі курс інстытута разам з сваімі сяброўкамі. Таня распытвала пра навіны ў інстытуце. Занепакоілася, хто цяпер выконвае яе нагрузку культработніка групы і шкадавала, што яшчэ не хутка звернецца на работу. Дзяўчаты яе заспакойвалі:

— Гадаваць дзяцей цяпер таксама грамадская нагрузка. А пакуль сядзі дома і ні аб чым не думай.

Каб даць спакой і не дакучаць, яны яе пакінулі, паабяцаўшы часта наведваць. Цяпер Таня сядзела змораная, але шчаслівая. На сэрцы было лёгка і радасна...

У гэты час пачуўся стук у дзверы. Не чакаючы дазволу, дзверы адчыніліся і ўвайшоў Віктар. Ён суха прывітаўся і сеў у крэсла. Прайшло некалькі цяжкіх мінут маўчання. Нарэшце Таня слабым голасам, нясмела загаварыла:

— Ты не хочаш мяне прывітаць, дык я цябе прывітаю з бацькоўствам. А дзіцё якое здаровае ў нас. Восем фунтаў важыць. Мне нават прэмію ў 100 рублёў далі...

— Прыходзячы на хаўтуры, ніколі не віншуюць з нябожчыкамі. Ты гэта павінна ведаць! — Недасекіну ад злосці хацелася абразіць яе, сказаць, што дзіцёнак не яго і хутчэй адсюль пайсці, але Таня папярэдзіла:

— Няўжо ты яго ніколі не будзеш кахаць? Ён жа твой...

Віктар няёмка закруціўся на крэсле:

— Я не хацеў дзіцёнка — і кахаць яго не магу.

— Віктар, ты ж не бачыў дзіцё... Пачакай, зараз прачнецца... Ты нават не пажадаў даведацца, сын ці дачка.

— Я нецікаўны, — нахабна адказаў Віктар.

— Ты ж не хочаш параіцца, як назваць яго.

— Для мяне ўсё роўна...

— Ты за грошы злуешся. Скажы, за грошы?

Віктар маўчаў, утопіўшыся поглядам у падлогу.

— Табе шкада іх. Дык вось, забяры назад... — Таня схапіла грошы і кінула іх у твар Віктару. — Забяры! Хіба мне грошы твае патрэбны... Я сама сына выгадую. Працаваць пайду, а яго чалавекам зраблю. Дзяржава дапаможа. Мне тваё сумленне патрэбна, а не грошы, ты ж яго бацька. Вырасце сын і запытаецца:

«Дзе тата?» Што яму адказаць? Адказаць, што ты аказаўся нягоднікам, ашукаў мяне і кінуў роднага сына? Абкраў мае пачуцці кахання і гордасць сям'і, абкраў у сына радасць кахання да бацькі. Ці хопіць у цябе нахабнасці потым паглядзець яму ў вочы?

— Ну, мне няма калі з табой лаяцца, — прамовіў Недасекін, рвануўся вон і, не зачыніўшы дзвярэй, гулкімі крокамі пайшоў па калідоры.

Ён ішоў і ні аб чым не думаў. Ён баяўся думаць, як злачынца, які, ведаючы, што не будзе апраўдання за зроблены ўчынак, баіцца думаць пра сваю кару. У адчуванні была пустата і нахабная абыякавасць.

## ШЫРОКАЯ РАДАСЦЬ

*Урывак з аповесці «Зялёная вада»*

Павучынаю на плоце павіс вечар. Апошняя прозалаць зайчыкам саскочыла з чорных сцен дэпо і растала ў сутонні. Некалькі хвілін, бы на шалях, вечар пераважваў дзень. Гіры хісталіся. А калі паволі туман і дым, што назбіраўся за дзень, аграмаднаю крыгаю споўз на велізарную чашку шаль, вечар пераважыў дзень. Сутонне змыла ружовасць неба, — бы вугалі пасля пажару дацьмелі і не гараць чырванню. А цяпер застаўся халодны прысак — шэрыя хмурынкі. Было прахладна. Можа, што вячэрняя свежасць непрыкметнай хваляй абдала цела Касмача, ці што гады ўжо немаладыя, — паставіў каўнер паліто і стаў з боку ганка. Выходзілі з вытворчай нарады. Шумелі і спрачаліся. Касмач не спрачаўся сёння, проста выйшаў на ганак дэпоўскае сталовай і, аблакаціўшыся на пеpакладзіну, маўчаў. Хацелася адпачыць. За дзень фізічная праца змарыла, а тут і грамадскія абавязкі. Старасць, — адпачыць бы дзе адвячоркам, сядзець пад вакном у цішы і марыць. Грудзі ўжо змучаныя, і гаварыць неяк цяжка. Можа, ад працы, што ўвесь век сагнуўшыся стаяў на падпілкам, што было дрэнна дыхаць, — а толькі ныюць цяпер, і адпачынак не лішні. Ведае Касмач, што цяжка працаваць, толькі дапамога яго неабходна. Не такі час сядзець склаўшы рукі, калі ўсё кіпіць жыццём, бурліць, ідзе наперад, — як уседзіць самому, не пабегчы разам з усімі, не крыкнуць юнаком:

— Я з вамі разам! ідзем! Гэй, шпарчэй там крок! Запявала, зацягвай песню!

Ён першым уведаў горач жыцця, знае яго сапраўднасць. Таму трэба імкнуцца да нечага лепшага, нешта тварыць. Сумленне не дазваляе сядзець. І працуе Касмач на колькі хапае сіл. Ужо паўсотні за плячыма, як верставых слупоў — гадоў мінуўшых. А ён прайшоў падарожнікам з торбай за плячыма — жыццёвымі турботамі, мінуў іх, нідзе не прысеўшы, бо, покуль сіла ёсць і гэта шырокая жыццёвая дарога заве ўдаль, — трэба ісці.

— На пенсію б вам, Ігнатавіч. Адпачыць не пашкодзіла б. Старасць падходзіць.

На Касмача гэта так часамі рабочыя кажуць.

— Эйт. Яшчэ не скора прыстань, таварыш. Сып у качагарку вугалля, працуй. Вось яшчэ. — Тады падымае ўгору рукі і напружвае мускулы: — Пакуль крукам не сагнуліся, нажымай на падпілак. Маладыя, а пра адпачынак пагаварваюць. І не сорам.

І той, хто казаў пра адпачынак, — засароміцца. Не па настрою сказаў Ігнатавіча. Стары яшчэ вунь як жадае працаваць, а тут пра пенсію ўспамінаюць. І нейкавата перад старым робіцца. Вось так бы самому разгульна грымець — працаваць. І адыходзіць паднажаць у працы, каб чыстым засталося сумленне.

Даўно заціхлі галасы, а ён стаіць ўсё на ганку і дзівіцца ўдаль. Захацелася падумаць аднаму аб тым, аб сім, каб ніхто не перашкаджаў. І ў думах усплыло радасцю: запрацуе дэпо. Пашырым, знацца. Новых рабочых прымуць — моладзь з фабзавуча, не тое будзе. Старыкі: сям'я, клопаты, ім што — 7 гадзін адбарабаніў, ды і ўсё. Яны яшчэ з старой закваскай. А тут трэба нажаць, каб усё трашчэла.

І, сарваўшыся з ганка, разгульна зашагаў, адкрыўшы грудзі, да горада. Сцямнела. Уздоўж станцыі агні морам зор, паглядзеў вакол: стала радасна, весела. Усё акаляючае даходзіла да нутра і настрайвала там струны пачуцця на мінорныя лады.

Відно было: вялізманым дрэвам кучаравілася труба дэпоўскай электрастанцыі жоўтым дымам. За плотам вугальны склад. Там чмыхаюць цягнікі. Гулка, хуценька пырскаюць смехам і бягуць удаль. Глянеш на далячынь — шырокі размах імкненняў. Хочацца бегчы ўслед, крычаць і смяяцца:

— Шырокі прастор зямлі. Шырокі прастор працы.

А ў цемені вырысоўваецца, аркаю ўздымаецца эстакада для вугаля. Ляпае пад'ёмны кран, падымаючы кадкі з вугалем, а ў цемені гэта здаецца, быццам нехта вялікімі вёдрамі чэрпае ваду з студні. За вугалем, бліскаючы вачыма, бягуць цягнікі некуды ўдаль, толькі ззаду мільгаюць чырвоным трыкутнікам тры ліхтары. І хочацца Касмачу здзець шапку, махаць услед таварнаму і

радавацца ад душы.

Гэта значыць — павязуць некуды эшалоны бярвення, пабудуюць дом. А трактарам узаруць старую быльнікавую мяжу. Эх, прастор чыгункі! Шырокі прастор, як і жыццёвая радасць! Ну як не кахаць цябе! Як не аддаць і сэрца і пачуцці табе, родная чыгунка! А чаму родная? І выплыла ў памяці: з малых год жыў тут, зрадніўся — горам і пакутаю жыццёваю. Чалавек прывыкае да працы, а з ёю пераносіць горач, крыўду, смутак і радасць, пазнае сапраўднасць жыцця, — таму яна і здаецца роднай.

Дзесяцігадовым пайшоў Юрка (так звалі Касмача) на чыгунку ў дэпо вучнем. Пасля вярцелася кола жыцця і так да старых год, пакуль смерць спыніць яго кастлявай рукой. І яшчэ памятае: хілы, слабенькі, па 11 гадзін працуе. Галава — стопудовы цяжар, — цела не варушыцца ад стомы, а працаваць трэба — жыць ненавошта. Тады моладзь жыла не так, як цяпер. Цяпер і школы, і фабзавучы, усё ў меру. А тады. Ці так было? Эйт, ці варта думаць... за 5 год вучнёўства нічога не навучыў майстар. За папяросамі ды за гарэлкаю пасылаў увесь час. Напіваўся і за вушы драў. А каму паскардзіцца? Боязна — яшчэ прагоняць. Быў выпадак: п’яны майстар балюча выдраў за вушы. Маленькім звярком сагнуўся Юрка ў камячок, — бы няма яго, і ад крыўды і болю заплакаў. І першы раз з’явілася ў галаве запытанне: за што? У чым я вінаваты? Адказу не знайшоў — толькі вокал былі п’яныя вочы і незнаёмая праца. Майстар застаўляе працаваць, а як працаваць? Ці растлумачылі яму... І не вытрымаў — пабег да маці. Расказаў аб крыўдзе — матчына сэрца зразумее. Хворая маці ласкаю прыгалубіла, пацалавала дарагое сваё дзіцё і заплакала. Гэта азначала: «Крыўдзяць цябе — шкада, а як жа жыць будзем?» І Юрка зразумеў — у слёзах прачытаў матчыну роспач — і зноў пайшоў на працу. І так не раз. Таму, можа, пасля пражытых нягод — чыгунка стала роднай і блізкай. Таму і праца пры новым жыцці стала каханай, і яе шануе ад усяго сэрца. Пасля пакуты — усягды бывае шырокая радасць. А цяпер інакшае жыццё... І весела зрабілася да бяскраю, як малому дзіцяці, ад гэтых новых год і што пражытыя гады не звернуцца ўжо. Наперадзе шырокі шлях вольнай працы...

Набліжаўся горад.

Ярчэй гарэлі агні.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Аляксей Зарыцкі*

## АНДРЭЙ УШАКОЎ

З беларускім паэтам Андрэем Фёдаравічам Ушаковым я ўпершыню сустрэўся ў Маскве амаль трыццаць гадоў назад. Добра помню скромнага светлавалосага хлопца з дабрадушным удумлівым тварам. Нягледзячы на сваю маладосць, паэт паспеў ужо набыць немалы жыццёвы вопыт: скончыўшы сямігодку, ён некалькі год працаваў слесарам у віцебскім чыгуначным дэпо і ў майстэрнях авіяпарка.

У 1932–1933 гг. Ушакоў вучыўся на сцэнарным аддзяленні Віцебскага кінатэхнікума. У Маскву ён прывёз свае першыя зборнікі вершаў: «Рабочы пульс», выдадзены ў 1932 годзе ў Мінску (у гэтую кніжку ўвайшлі таксама і творы пачынаючага паэта Паўлюка Ананьева), а яшчэ «Зарыва вагранак» і «Праца і маладосць». Гэтыя два зборнікі Ушакова выйшлі ў свет на год пазней, першы ў Мінску, другі, як значылася на ім, быў выпушчаны ў Віцебску аргкамітэтам віцебскага Саюза савецкіх пісьменнікаў. Тры кнігі, выдадзеныя за два гады, — вось сапраўды бурны старт маладога паэта.

Зразумела, што цяпер, праз столькі год, перачытваючы гэтыя зборнікі, знаходзіш у іх шмат наіўнага і недасканалага. Вельмі высока за гэты час вырасла наша беларуская паэзія, непараўнальна ўзняўся яе ўзровень, але ў тыя гады голас Андрэя Ушакова выразна гучаў у хоры галасоў яго паэтычных аднагодкаў. І сёння гэтыя першыя зборнікі паэта не страцілі свайго значэння. Асноўная вартасць іх, на маю думку, заключаецца ў тым, што Андрэй Ушакоў адным з першых беларускіх паэтаў паспрабаваў у меру сваіх сіл узбагаціць тагачасную беларускую паэзію творамі аб горадзе і заводзе. Сам Андрэй Ушакоў паходзіць не з рабочых. Нарадзіўся ён у вёсцы Рабяткі, што ў Чавускім раёне на Магілёўшчыне, 16 кастрычніка 1912 года і прайшоў звычайны шлях вясковага хлапчука — быў падпаскам, скончыў сельскую сямігодку. Але некалькі год працы на заводах, цесная сувязь з рабочым асяроддзем пакінулі глыбокі след у яго душы і ў творчасці. <…>

Жыццёвы шлях Андрэя Ушакова быў шляхам многіх і многіх сялянскіх хлопцаў, якія, калі пачалося разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва, прыйшлі з вёскі на завод, палюбілі яго, зрадніліся з ім. Таму так шчыра і жыццёва пераканаўча гучаць яго радкі:

Знітавацца мне з кожнай дэталлю,
За завод свой хварэць душой.
І цяпер — маё сэрца з металам
У кіпучых і круглых каўшох.

Качарга, ланцэт, малаток
Сталі роднымі з цягам часу.
Не, не той я, зусім не той —
Учарашні падлетак-падпасак.

Гэты ўчарашні падлетак-падпасак, вядома, добра помніць, як зусім нядаўна ён «мядовы жытнёвы водар піў з шырокіх раздольных ніў». Але, жадаючы як найхутчэй зліцца з рабочым калектывам, лірычны герой Ушакова часам стараецца нават і не ўспамінаць аб харастве роднай прыроды, на ўлонні якой ён узрос, відаць, думаючы, што падобныя ўспаміны будуць замінаць яму ў працы. Гэтая наіўнасць думкі параджае, вядома, і такія наіўныя радкі, як:

Бачыш, месяц, маю сур’ёзнасць,
Што на твары спацелым лягла?
Не кажы мне пра ніцыя лозы
І не кліч на азёрную гладзь.

Вось так са строф паэта перад намі пачынае вымалёўвацца аблічча лірычнага героя яго першых твораў, аблічча маладога рабочага пачатку трыццатых год, выхадца з сяла, часамі яшчэ па-вясковаму наіўнага, але ўсёй душой адданага сваёй працы. Рабочы калектыў стаў яму роднай сям’ёй, завод родным домам, у якім кожная драбніца дарагая. Нават пра сваю табельную марку ён не можа гаварыць без хвалявання:

Імчацца і кружацца дні — карусель,
Мінаюць, праходзяць, бягуць.
Бляшаны кружочак 77,
Як вока сваё, берагу.

Андрэй Ушакоў імкнецца ўславіць у вершах свой цэх, сваіх сяброў-рабочых. Ён бачыць новае хараство ў стваральнай працы і спрабуе апаэтызаваць яе:

З жолаба слясарным малатком

Выбілі гліняны корак,
І чыгун гарачым малаком
У каўшы пацёк з напорам.

Замільгалі чорныя каўшы
Ад апок — да жолаба ваграНкі.
Вокамгненна часткі для машын
Застываюць чэрстваю балванкай.

Далёка не ўсё ўдавалася тады маладому паэту. Часта, не знаходзячы патрэбных паэтычных сродкаў, ён збіваўся на сухаваты пераказ, часам клаў у аснову верша неглыбокі замысел. Не хапала Андрэю Ушакову і паэтычнай самастойнасці: моцныя ўплывы іншых паэтаў адчуваліся вельмі выразна. Але мне хочацца ў першую чаргу падкрэсліць усё тое станоўчае, што было ў першых зборніках Ушакова. Многія з яго ранніх вершаў, на маю думку, цікавыя перш за ўсё не з літаратурна-гістарычнага боку, а таму, што яны і сёння хвалююць нас як творы, надзеленыя паэтычным пачуццём і паэтычнай думкай. <…>

Андрэй Ушакоў вучыўся на тэатразнаўчым аддзяленні філалагічнага факультэта Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры. У гэтым самым інстытуце вучыўся і мой стары знаёмы, друг дзяцінства паэт Алесь Жаўрук. Ушакоў і Жаўрук моцна падружыліся. Я нярэдка прыязджаў да іх на маскоўскую ўскраіну Астанкіна, дзе яны жылі ў студэнцкім інтэрнаце. Ушакоў цалкам аддаўся вучобе. Літаратура па-ранейшаму аставалася яго асноўнай справай, але, моцна палюбіўшы тэатр, ён з цікавасцю паглыбіўся ў вывучэнне тэатразнаўства. Учарашні падлетак-падпасак, зрабіўшыся заўзятым тэатралам, стараўся не прапусціць ні адной новай пастаноўкі.

Да сваёй творчасці паэт пачаў ставіцца больш патрабавальна. Ён сур’ёзна задумваецца над выпрацоўкай уласнага творчага почырка, многа чытае, працуе над пытаннямі паэтычнай мовы і формы. Стаўшы больш патрабавальным, паэт значна менш друкуецца. Новая кніга вершаў Ушакова «Голас Радзімы» выйшла ў свет толькі ў 1938 годзе, яна шмат чым адрозніваецца ад яго першых зборнікаў.

У «Голасе Радзімы» ўжо не было вершаў, звязаных з заводам, з жыццём і працай рабочай моладзі. І шкада, што Ушакоў не паглыбіў тое новае, свежае, што кідалася ў вочы ў такіх яго кніжках, як «Зарыва вагранак» і «Праца і маладосць». Новы зборнік не выходзіў з кола тэм, якія ў тыя гады распрацоўваліся большасцю тагачасных паэтаў. Вершы аб грамадзянскай вайне ў Іспаніі, аб нашых пагранічніках, аб Чырвонай Арміі, нарэшце, і лірычныя вершы аб каханні і дружбе — вось асноўныя тэмы, якія Андрэй Ушакоў закрануў у зборніку «Голас

трудно представить, как тихо здесь по вечерам и ночью. Такой тишины ты нигде больше не услышишь. Она, эта тишина, как струна натянутая, кажется, тронь — и лопнет. Каждую секунду ждешь, что ее расколет звук выстрела, иногда далекого, приглушенного, иногда резкого, близкого. Это напряжение меня вначале очень утомляло, сейчас — ничего, привыкла, видимо.

Потом, знаешь еще что? Мною овладевает очень странное чувство, когда Семен уходит из кордона. Каждый раз навязчиво возникает вопрос: может быть, я его больше не увижу? Вначале это чувство тоже было острее, теперь несколько притупилось, но исчезнуть оно, по-моему, не сможет никогда, так как не исчезнут причины, которые его порождают. Ведь, понимаешь, когда его нет, каждый, может быть, случайный услышанный выстрел отдается в мозгу мыслью: «может быть, по нем». Ведь здесь холостыми патронами не стреляют. Я не скажу, что это тяготит; нет, это просто порождает постоянное состояние какой-то напряженности, готовности ко всяким неожиданностям. Я бы сказала, что мы здесь привыкли ожидать неожиданностей.

Когда мы бываем вместе, нам очень хорошо. Когда порознь — ожидаем встречи, и это тоже хорошо, а кроме того, работы так много, что твой вопрос о скуке меня прямо рассмешил. Во-первых, у меня восемь человек ребят-пограничников, которых я на отрядном совещании жен начсостава обязалась подготовить за четыре группы, а у них с грамотой туговато было. Но сейчас они у меня уже читают и пишут, как заправские грамотеи. Один только — с ним прямо беда. Вечно путает «е» и «и» и обязательно напишет наоборот. Я ему начала задавать по целой странице таких слов, на которых он бы мог упражняться. Он очень добросовестно всё выполняет и страшно смущается, когда я всё еще нахожу у него ошибки. Но у него дело пойдет обязательно. А когда он смущается и краснеет, мне становится очень весело. Он такой большущий, сильный и смелый (имеет уже 6 задержаний), а я перед ним совсем девочка.

Потом — цветы. Я их вокруг кордона много-много насажала. Семян в колхозе достала и немножко из Минска выписала. Только страшно обидно — нигде не смогла достать нарциссов. А так много разных достала. Ребята в прошлый выходной сделали замечательные клумбы. Нередко бывает, что я встану утром (я рано встаю), а цветы уже политы. Сами ребята поливают. Ко мне они все относятся очень хорошо. Как-то особенно бережно. Называют меня «товарищ Морозова», а я вначале никак

привыкнуть не могла к этому, до 23-х лет Сергеевой была. Теперь уже привыкла. Если ты сможешь достать семян нарциссов, вышли обязательно. Я в будущую весну их посажу, а это лето как-нибудь обойдемся.

Ну, потом я научилась ездить верхом (сейчас пока прекратила — врач запретил). Вначале я очень боялась лошади. Мне почему-то казалось, что она меня обязательно укусит за голову. А теперь я очень полюбила нашего Громобоя, и он меня уже знает — когда я его зову, подходит и сует морду к рукам. Я ему корочки ношу. Прошлой осенью я участвовала в конном переходе. Нас по 10 человек от каждого отряда в Минск ездило. Звездный пробег был. Прошел наш отряд хорошо. Мы все получили грамоты от начальника Управления погранохраны.

Потом меня Семен научил стрелять из пистолета и из боевой винтовки (из мелкокалиберной, ты помнишь, я и дома неплохо стреляла). Тоже вначале боялась отдачи винтовки и зверски моргала.

В прошлую осень я насобирала очень много грибов. Мы их сушили, а часть замариновали. Последние грибы доедали на 1 Мая. Кстати, на Первое мая у нас было очень весело. Я с ребятами разучила несколько новых песен, потом здесь есть два очень способных парня и любят литературу. Мы с ними декламировали Пушкина. Один, Тишкин по фамилии, так читает «Скупого рыцаря», что только рот раскроешь, а приехал на границу — еле читать умел. Потом танцевали прямо на берегу речки, на поляне, и всё дело окончилось мировым обедом. Мы с Силуновым (это наш повар) готовились к этому обеду дня три и очень трусили, что он не удастся, даже раза два поругались, но всё обошлось как нельзя лучше. Только я чуть было не испортила пирожки. Понимаешь, дрожжи несвежие были. Их привезли еще 25 апреля. Не подходит тесто, хоть ты плачь. Но всё обошлось хорошо. Тесто в конце концов подошло, обед получился отличный, и нас ребята благодарили.

Я, между прочим, после одного случая шутя называю себя замповара. Это так было дело. На заставе была боевая тревога. Людей мало. Мой Силунов (повар) котлеты делать начал, а тут человек дозарезу на тревогу нужен. Пришлось мне его котлеты дожаривать, а он — за винтовку, и на границу убежал. Осталась я тогда, можно сказать, начальником гарнизона. Я да один красноармеец у кордона — вот и всё. Мне на кухню ребята тоже винтовку принесли, «на всякий случай». Ну, она так и провисела на гвоздике, не понадобилась на этот раз. Я котлеты дожари-

ла, сижу жду. Они уже сохнуть начали, а ребят всё нет, так обидно. Только вечером вернулись. Поругала я их, что не вовремя обедать приходят, но они с таким аппетитом ели мой обед, как будто он и не перестоялся совсем.

Еще был случай, когда мне за телефониста пришлось работать, а раз часовым у кордона стоять, но я и так уже много написала и тебе наверняка надоело читать мою болтовню. Может быть, скоро приедет Семен. Уже начинает светать.

Пиши мне чаще.

Целую крепко.

Твоя *Варя.*

*P. S.* Обязательно пришли семян.

*В.*

Меня просили написать очерк о женщинах нашей границы, о наших боевых подругах.

Вместо очерка я привожу это письмо жены советского пограничника, каким оно было или каким могло быть.

*Ив. Ш.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Васіль Феранц*

## ПЯСНЯР ГРАНІЦЫ

У кожнага мастака, пісьменніка як і ў кожнага чалавека, свае жыццёвыя шляхі-пуцявіны і свая біяграфія і лёс. Кожнаму выпадае свой непаўторны час, у рамках якога працуе і творыць пісьменнік, і толькі ён вызначае творчы лёс мастака слова. Час дыктуе творчы напрамак, ідэйную пераканнасць і шляхі здзяйснення сваіх планаў і задум. Колькі іх, калісьці вядомых літаратараў, прамільгнула ў гісторыі літаратуры, не пакінуўшы ў ёй колькі-небудзь значнага следу, і толькі ў цэнтральных бібліятэках можна адшукаць іх кнігі, пазнаёміцца з імі, каб скласці ўражанне аб вядомых калісьці творах і іх аўтарах. Не таму, што яны заганныя, «аднадзёнкі», — так склаўся іх лёс і лёс іх аўтараў, такі выпаў ім час, — яны жылі ім і ў ім і адступіцца ад яго не маглі. А хутка грымнула вайна, якая ў самым пачатку, у росквіце абарвала жыццё і творчы шлях стольміх нашых пісьменнікаў, якія маглі б вельмі многа сказаць, раскрыцца ў поўную сілу свайго даравання...

Імя Івана Еўдакімавіча Шапавалава сёння, бадай, нічога не гаворыць чытачу. У перадваенныя гады ён быў даволі чытаемым і дастаткова вядомым пісьменнікам, кнігі якога, пачынаючы з 20-х гадоў, часта выдаваліся. Шапавалаў быў літаратарам, абуджаным і народжаным рэвалюцыяй, якой ён цалкам прысвяціў сваю творчасць. Быў чалавекам і паэтам сваёй эпохі, свайго часу...

Нарадзіўся Іван Шапавалаў 26 студзеня 1907 г. Нялёгкім выдалася дзяцінства будучага пісьменніка. З малых гадоў давялося пазнаць нястачу, нярэдка — сіроцкі холад і голад. Хлапчуком пасвіў жывёлу ў вясковага багацея. Як і цяпер, тады моладзь імкнулася ў горад, і вось 17-гадовы Іван Шапавалаў працуе на заводзе ў Ліпецку. Адсюль ён дабравольцам пайшоў у Чырвоную Армію. Вайсковая служба вызначыла ўвесь яго далейшы лёс, які не абдзяліў вясковага хлопца здольнасцямі.

— Бацька выдатна маляваў і ляпіў, любіў музыку, спяваў, выдатна іграў на гітары, — успамінае Ігар Іванавіч Шапавалаў, сын пісьменніка. — Ён неаднаразова атрымліваў прызы на стралковых спаборніцтвах, якія захоўваюцца ў мяне і цяпер... Узнагароджаны імянной шашкай — быў добрым коннікам. У запісной кніжцы бацькі я знайшоў такі запіс, які вельмі мне запомніўся: «Вышэйшае задавальненне ў жыцці — пазнаваць; шчасце — у рабоце, менавіта работа дазваляе пазнаваць, вывучаць...» Бацька быў таксама моцным лыжнікам, выдатна вадзіў аўтамабіль.

У пагранічных войсках на Беларусі Іван Еўдакімавіч Шапавалаў прайшоў шлях ад радавога байца да намесніка камандзіра авіяатрада. Доўгі час служыў на Палессі, у 18-м пагранічным атрадзе ў Жыткавічах. У 1929–1930 гг. быў зампалітам заставы ў вёсцы Вільча, непадалёку ад Турава. Марыя Сідараўна Канапацкая, жыхарка Вільчы, успамінае: «Шапавалаў быў невысокага росту, каржакаваты, з добрай, сціплай усмешкай... Камандзірам заставы ў той час быў Пякарскі, у адрозненне ад іншых, сумленны, шчыры чалавек. Я тады толькі прыйшла ў вёску замуж. Жыла ў суседняй вёсцы Малішаў. Хата бацькі мужа, Зміцера, стаяла ў Вільчы, на беразе Случы, на самым краю дзяржавы. Сустрэў неяк Пякарскі: «Трэба рабіць вобыск у багацеяў, ёсць у іх золата, з мясцовых ніхто не згаджаецца ў панятыя, а ты новая ў вёсцы, цябе тут не ведаюць як камсамолку, павінна паказаць сябе актывісткай». Мусіла згадзіцца. Пайшлі з Шапавалавым, двума байцамі і яшчэ з адным хлопцам — камсамольцам. Шапавалаў адчуваў сябе няёмка, але загад выканаў сумленна. Знайшлі-такі золата, у свіную мешанку ўкінуў яго ў торбачцы Пятро Кулакевіч, як тады лічылася, кулак. Выслалі яго потым, згінуў недзе. Панёс золата Шапавалаў на заставу, з мокрай торбачкі капае...»

...Вольны ад службы час афіцэр-пагранічнік цалкам аддаваў літаратурнай рабоце. Ужо ў пачатку трыццатых гадоў ён зарэкамендаваў сябе як самабытны, таленавіты пісьменнік і паэт. З лютага 1938 г. служыў у Мінску. Вучыўся ў літаратурным аб’яднанні Чырвонай Арміі і Флоту пры Доме афіцэраў Беларускай ваеннай акругі, затым — у Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. У 27-гадовым узросце Шапавалава прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР, білет № 1583 падпісаў Аляксей Максімавіч Горкі. У верасні 1939 г. у Маскве быў адкрыты часопіс «Пограничник», і Шапавалава запрасілі ў яго на пасаду загадчыка літаратурнага аддзела.

Шапавалаў пісаў вершы, апавяданні, нарысы, прысвечаныя пагранічным будням, ён любіў гэтую неспакойную, трывожную, але высакародную, рамантычную службу. Пісьменніка нездарма крытыкі называлі песняром граніцы. Яе вартавым ён прысвяціў кнігу

вершаў «Таварыш» і аповесць-паэму «Ян Рэндзя» з эпіграфам «Чэкістам-пагранічнікам Жыткавіцкага пагранічнага атрада асобай пагранічнай акругі БССР прысвячаю». Ён пісаў у паэме: «...Мы яшчэ сустрэнемся, напэўна. І сённяшняе ўстане як у сне... Як радасна і незвычайна самая звычайнасць нашых дзён!» Выйшлі гэтыя кнігі ў 1932 г., больш чым паўстагоддзя назад, і цяпер можна ўвачавідкі ўпэўніцца, наколькі быў правы паэт і наколькі памыляўся. Толькі то была святая вера, прадыктаваная сваім непаўторным часам...

У наступныя гады ў выдавецтвах рэспублікі выходзяць кнігі Шапавалава «Дзяржынцы», «Час набліжаецца», зборнік апавяданняў «Ненадуманыя расказы» аб буднях граніцы, аповесць «Бальшавікі граніцы», у многім аўтабіяграфічная. У ёй дзейнічаюць і жывуць пагранічнікі і людзі маляўнічай вёскі Вільча ў глыбіні Палесся, якую, відаць, вельмі любіў Шапавалаў, як і наш сучаснік, пісьменнік Віктар Казько, які значную частку свайго часу праводзіць у гэтай вёсцы, дзе каля ціхай Случы, былой памежнай рэчкі, пад стогадовымі дубамі вельмі лёгка і хораша дыхаецца, думаецца, пішацца...

Цікавы і незвычайны лёс выдаўся маленькай, надзвычай маляўнічай вёсцы Вільчы на ціхай, непрыкметнай Случы. Яна, як славуты Нізок на Уздзеншчыне, стала калыскай таленту не аднаго беларускага пісьменніка. Каларытныя фігуры яе жыхароў можна без цяжкасці сустрэць амаль ва ўсіх творах Івана Шапавалава, Віктара Казько. Жыў тут і працаваў і не раз успамінаў мясцовых сялян у сваіх творах пісьменнік і вучоны Навум Перкін.

«Бальшавікі граніцы» — галоўны і найбольш значны твор Івана Шапавалава. Нялёгкія, нярэдка трагічныя падзеі калектывізацыі паўстаюць са старонак кнігі на фоне замежжа, дзе праз рэчку, у некалькіх дзесятках метраў зусім іншая, чужая ідэалогія, незразумелае жыццё пад крыламі белага польскага арла. Вораг не дрэмле, уплыў яго адчуваецца і ў настроях сялян, і ў грамадскай працы, нават ва ўчынках некаторых пагранічнікаў. Не абмінуў творчасць Івана Шапавалава і ўплыў Міхаіла Шолахава, асабліва ў калізіях класавай барацьбы, раскрыцця сялянскай псіхалогіі пры ўступленні ў калгас, непрымірымасці розных светапоглядаў. Знайшлося месца і прататыпу Паўліка Марозава, калі 12-гадовы Міколка Круковіч выдае кулака-бацьку і гіне ад яго рук... Хто мае права сёння, з вышыні пазіцый свайго часу крытыкаваць пісьменніка, якому лёс адмераў так мала часу на зямлі?..

За кароткі час «Бальшавікі граніцы» былі перавыдадзены двойчы, кніга стала любімым творам не толькі пагранічнікаў. Шапавалаў стварыў таксама лібрэта оперы «Пагранічнікі», музыку да якой напісаў А. Туранкоў. Ён прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі рускай секцыі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Закончыў другую частку кнігі «Баль-

шавікі граніцы», яна павінна была выйсці ў Мінску ў чэрвені 1941 г. Аўтар атрымаў сігнальны экземпляр, але ў той трагічны летні месяц было ўжо не да кніг... Пачалася вайна, у полымі якой згарэў і Іван Еўдакімавіч Шапавалаў. Загінуў ён, як і жыў, на граніцы, якую так любіў. У першы дзень вайны Шапавалаў выехаў з Масквы з пасведчаннем часопіса «Пагранічнік» у раён Брэста, дзе першымі прынялі бой з гітлераўскай армадай яго баявыя сябры. Пісьменнік хацеў убачыць іх подзвіг, напісаць пра яго ў часопіс, сам прыняць удзел у баях.

24 чэрвеня, напярэдадні ад'езду, ён напісаў пісьмо жонцы, якой на гэты час не было ў Маскве, яна адпачывала з сынам і дачкой на поўдні: «Прывучай дзяцей да працы... Трымайся мужна, жадаю табе сілы і вытрымкі. Моцна цісну руку, мой таварыш, маці маіх дзяцей. Мы жывём у цяжкі, але вялікі час, пражывём яго так, каб не было сорамна за сябе ў гэтыя грозныя дні». І прыпіска сыну: «Ігар! Ты яшчэ малы, але цяпер старэйшы мужчына ў сям'і. Беражы маці і сястру. Старанна вучыся. Гэта цяпер самае галоўнае. Будзь дужым, за бацьку табе сорамна не будзе...» Было тады Івану Шапавалаву 34 гады. Нямнога пражыў, мала стварыў — толькі малую частку таго, што мог...

26 чэрвеня батальённы камісар Шапавалаў выводзіў на перафарміраванне ў тыл пагранічнікаў з разгромленых застаў. У лесе каля Барысава на калону аўтамашын наляцела авіяцыя ворага.

Шапавалаў загадаў усім разбегчыся па лесе і стаяў, назіраючы, як выконваюць загад. Побач упала бомба... Недзе там, каля Барысава, ён і пахаваны.

Сведкам гібелі Шапавалава стаў Канстанцін Міхайлавіч Сіманаў. У кнізе «Розныя дні вайны» ён пісаў: «Палкоўнік-пагранічнік раптам сказаў, што сёння забіла аднаго пісьменніка.

— Там, у ляску, дзе мы стаялі... — ён назваў прозвішча — Шапавалаў.

І я ўспомніў батальённага камісара — пагранічніка, які заходзіў да нас у клуб пісьменнікаў. Успомніў машыну, пагранічніка побач з ёй і зразумеў, што быў сведкам гэтай смерці...»

Імя Шапавалава ўвекавечана на мемарыяльнай дошцы Цэнтральнага Дома літаратара ў Маскве, ён уваходзіць ва ўсе літаратурныя анталогіі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Толькі творы яго ў пасляваенныя гады не перавыдаваліся і не вядомы шырокаму чытачу, а яны заслугоўваюць увагі і памяці, як і іх аўтар, герой-пагранічнік.



# Генадзь
# ШВЕДЗІК

Генадзь Барысавіч Шведзік нарадзіўся 4 сакавіка 1914 г. у г. Бабруйску.

Закончыўшы сямігодку, паехаў працаваць на новабудоўлі ў г. Бірабіджан. Пасля вяртання ў Мінск (1929) паступіў вучыцца на рабфак. У 1937 г. скончыў літаратурны факультэт Мінскага педінстытута. Адначасова працаваў у газеце «Юнгер арбайтэр» («Малады рабочы»). Потым загадваў аддзелам у газеце «Піянер Беларусі». З 1938 па 1940 г. настаўнічаў у Мінску, быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры АН Беларусі. З пачаткам вайны — у эвакуцыі (Узбекістан, г. Наманган). Выкладаў у школе. У кастрычніку 1941 г. добраахвотна пайшоў на фронт. Трапіў у кулямётную роту 1-га батальёна 210-га стралковага палка 82-й дывізіі, у шэрагах якой ваяваў на Заходнім фронце. Кулямётчык Г. Шведзік загінуў 11 кастрычніка 1942 г. у баі пад Бранскам.

Выступаць у друку пачаў з 1929 г. Пісаў свае творы на ідыш. Друкаваўся ў газетах «Акцябэр» («Кастрычнік»), часопісе «Штэрн» («Зорка»). Выдаў паэтычныя кнігі «Старт» (1934), «Вершы» (1939), а таксама паэму для дзяцей «Наш Джым» (1935). Асобнымі выданнямі ў перакладзе на беларускую мову выйшлі кнігі твораў

Г. Шведзіка «Лірыка» (1962), «Матчына сляза» (1989). Асобныя вершы перакладзены на рускую мову.

Выступаў як перакладчык. Пераклаў на ідыш асобныя творы Л. Талстога, А. Чэхава, Джамбула і інш. Спрабаваў свае сілы ў жанры літаратурнай крытыкі.

# Паэзія

* * *

Я вечарам бачыў,
калі змяркала,
як сонца
сцежку чырвоную ткала
у рэчцы
з праменняў —
вогненных нітак,
прырода прымала
чароўны набытак...
Я думаў,
і ў зрэнках
свяцілася ўсмешка, —
што і ў мяне
чырвоная сцежка.
Ды не спускаюся
я у глыбіні,
сцежка мая,
доля мая
сягае
да горнай
зіхотнай вяршыні,
дзе песню знайду запаветную я!

*1929 г.*

* * *

Зіма, зіма — ў снягах двары,
Твае вятры — мае сябры:
Рагочуць, плачуць нездарма,
Сумёты горамі — зіма.

Ступі — і знікне ў снезе след.
Зіма — бліскучы белы свет.
Сняжынак трапяткіх раі.
У футрах туляцца гаі.

Завей шалёная гульня,
Танцуюць дол і вышыня.
Зіма, шукаючы прыгод,
Вядзе вясёлы карагод
І тчэ нястомна палатно,
Якому межаў не відно.
Але яна ўсё тчэ і тчэ
Пад свіст:
— Яшчэ, яшчэ, яшчэ!

*1929 г.*

## НА КАТКУ

Б’е бубен, б’е бубен.
Яго не суняць.
І весела флейце
З ім разам пяяць.
А ім адгукаецца
Кожны куток.
Як чыстае люстра,
Зіхоча каток.

Вятрыска-гарэза
Нячутна падбег,
Сарваў з мяне шапку
І кінуў у снег.
Завеяла срэбрам

Мае кучары.
Стаю, пасівелы,
Нібыта стары.

Хлапец за дзяўчынаю
Кінуўся ўслед
І шэпча на вуха
Ёй нейкі сакрэт.
Смяецца дзяўчына.
І ён, трапяткі,
Таксама смяецца.
Смяюццаканькі.

Спявае, гамоніць,
Звініць карагод.
Усе —
ў карагодзе.
А я —
пасярод.

*1933 г.*

## НА ЛЫЖАХ

О як, браткі,
люблю я маразы,
Дарог бясконцасць у крутым палёце.
Снег умінаюць лыжы-палазы.
І сонейка!
І ты не на самоце.

Стаю, дзіўлюся.
Колькі дабрыні
Ва ўласным сэрцы адчуваю сёння.
Наперад!
Бачыш —
удалечыні
Палёў бязмежных снегавое ўлонне.

Так свежа,
так прыгожа навакол,

Што нават сцюжа поўніцца пяшчотай.
Мароз блакітны.
                    Беласнежны дол.
А далягляд зіхоча пазалотай.

Мне хараша.
                    Вятрыска не гудзе.
І я ўглядаюся ў сябе самога.
Куды мяне за іншымі вядзе
Святлівая і чыстая дарога?

Узбоч,
          нібыта ў квецені,
                              сады.
Наперадзе —
                    прывабныя вяршыні.
Я дужы,
          небывала малады,
Як сёння кожны
                    у маёй краіне.

*1934 г.*

* * *

Даспявае жыта ўлетку.
Даспявае зерне дум.
Слых лагодзіць на палетку
Каласоў даспелых шум.

Міла бачыць — сад ірдзее
Спелым водарам пладоў.
Край бацькоўскі маладзее
Буйным росквітам садоў.

Зоркі ўцехі, зоркі долі
Мне ўсміхаюцца здаля.
Пець хачу я, як ніколі,
Пра цябе, мая зямля!

*1934 г.*

* * *

Бяздумна ты пайшла ў яго абдымкі,
У полымя раптоўнага пажару.
А ён — нібы катрыншчык той, што песні
То на адным, то на другім двары пяе.
Калі цябе пакінуў ён, як іншых,
Ты з крыўдай горкай закусіла губы
І, каб сагрэць збалелую душу,
Да вогнішча другога падалася...
А потым? Потым — іншыя кастры
Прыцягвалі і вабілі няўмольна.
Ты нават і заўважыць не паспела,
Як васількі тваіх вачэй паблякклі
І як згарае маладосць твая...
І калі ты пабачыла мяне
З дзяўчынай — і бадзёрай, і лагоднай, —
Ты штосьці хрыплавата заспявала.
І я пачуў у гэтым дзіўным спеве
Такую невымоўную тугу,
Што захацеў табе падаць руку,
Сказаць: — Няўжо няма сцяжыны
іншай,
Чым тая, па якой ідзеш ты зараз?
Яшчэ ступіць ты можаш на дарогу,
Якая ўсім нясе святло і радасць.
Яшчэ не позна — толькі крок зрабі!

*1932 г.*

* * *

*Бэці*

Шчаслівай хвіліны чакаю з журбой,
Мне чуюцца ўдалечы крокі,
Як покліч спаткацца, нарэшце, з табой
У свеце, што гэткі шырокі.
Нязнанасці пераступіўшы мяжу,
Шчымліва стаіўшы дыханне,
Табе запаветныя словы скажу:
Лагода, пяшчота, каханне...
І ў вокнах раптоўна заззяюць кастры,
Трамваі на рэйках зазвоняць,
І мараў маіх і лятункаў, сябры,
Ніхто на зямлі не дагоніць!
Пачую, як тахкае сэрца ў грудзях,
Як квеценню бэз выбухае,
Пабачу табою азораны шлях,
Красуня мая дарагая...

*1933 г.*

* * *

Паглынаюць далеч колы,
Скрозь лясы
Ляціць цягнік.
І зары
Касцёр вясёлы
Неаднойчы ўзнік
І знік.

Недзе там,
На Беларусі,
Маці слёзы лье
Ў журбе:
— Да каго ж я
Прыгарнуся,

Мой сыночак,
Без цябе?..

А цягнік —
як лічыць крокі.
Вёрсты —
хуткія вятры.
Запалі,
Усход Далёкі,
Нам світальныя кастры!

*1936 г.*

ВЕЧАР

Вечар ціхі, вечар зорны
Лёг лагоднай сінявой.
У яго далонях горад
Студзіць лоб гарачы свой.

У абдымках вечаровых
Ён замоўк і пацішэў.
Да яго схіліўся вечар
І вядзе дзівосны спеў.

Тут у полі, на прасторы
Каласочкам я стаю.
Дык паслухай, калі ласка,
Што табе я напяю.

Вечар — мяккая пяшчота.
Вечар — зоркі з цемнаты.
Для цябе саспела ў сэрцы
Песня — ціхая, як ты...

*1933 г.*

* * *

Ці бачыў ты жыты густыя,
Як лёгка ліпеньская ноч
Галовы гладзіць каласам,
Калі за лесам сонца сядзе?
Глядзіш ты на жыты густыя, —
Задумліва-ўрачыста ўсё!
Ды тут прахопіцца вятрэц
І каласы зашэпчуць шумна...

Ці бачыў ты жыты густыя,
Ці бачыў ты жытнёвы шквал?
Жыты хвалююцца, бягуць, —
Куды ні кінеш прагны позірк.
Адно ў жыты густыя кінься,
Цябе падхопіць, як дзіця,
І чуеш, як цябе нясе
Да сініх-сініх даляглядаў...

*1938 г.*

## ПРЫХОД ВЯСНЫ

Праз пушчы і палеткі
Ідзе да нас вясна.
На вуліцы ўся ў кветках
Ізноў стаіць яна.

У кожнай хаце наскай
Дзіцячы твар ў акне.
— Вясна, зрабі мне ласку,
Заходзь
Ка мне.
— Ка мне!..
— Цябе чакалі гэтак
Зімой у халады.

Вясна,
Нясі нам кветак,

Хадзі да нас сюды.
Вясна ім кажа ветла:
— Я вас люблю усіх.
Я вам пралесак светлых
Нясу з палян лясных.

Пушчу вам рэкі ўдалеч,
Сагрэю сонцам сінь,
Каб лёгкія блукалі
Па хвалях парусы.

Для вас здалёк, з-за мора,
Я птушак шлю сюды,
Залью праменнем горад
І ажыўлю сады...

Узводзіць промняў шаты
Над вуліцай вясна.
І разам ва ўсе хаты
Да ўсіх зайшла яна.

*1938 г.*

## ПАМЯЦІ БРАТА

Брат мой,
ты быў маёй радасцю першай.
Як любіць сапраўдны паэт свае вершы,
Гэтак і я цябе шчыра любіў,
Добрай усмешкі тваёй не забыў...

Брат,
я кашулю тваю апранаў,
Родную блізкасць тваю адчуваў.

Белыя зубы,
а вочы, як неба...
Разам дзялілі мы лустачку хлеба,
Быў для мяне ты — у шчасці, ў журбе —
Нават бліжэй, чым я сам для сябе.

Болей няма цябе, родны!..
У сэрцы
Толькі туга па табе застанецца.

Маршаў жалобных не помню, браток.
Сыпаўся дробны, маўклівы пясок,
І засланяў ад мяне ён навекі
Збітае з дошак, маўклівае века...

...Як удавалася песня мая, —
Быў ты шчаслівы не меней, чым я!
Што я скажу табе сёння, мой брат?
Ведаю,
не ад ступлю я назад!

Так! Без малення, без слёз у жыцці,
Толькі наперад, наперад ісці,
Цвёрда зямлю адчуваць пад нагамі,
Хоць і нялёгка бывае часамі.

Ёсць барацьба!
І пакуль я жывы —
Я апускаць не хачу галавы.
Свет наш — вялікі і ясны.
Упарта
Ўперад рванусяз вясновага старта!

*1934 г.*

* * *

Ноч. Ды з якой сінечай!
Не спіцца зусім паэту.
Але не хвалюйся — маўчы.
Яшчэ аніколі ў жыцці я не бачыў
Гэткай цудоўнай начы.

Птушкі-пяюшкі ў гнёздах спяць.
Матылёк на кветцы
Спіць. Нават вецер сціх.
Нячутна праходжу міма,

На пальчыках мякка ступаю, —
Толькі б не спудзіць іх.

Пазасыналі дрэвы,
стоячы ў цёмным садзе,
Сон —
як празрысты дым.
І толькі галінка хвоі
нешта яшчэ шапоча —
Не зразумець аб чым.

Гадаю, што можа сніцца зараз
начному саду.
Што б ні сказаў — зманю.
Можа, ён з месца ўзняўся
і паляцеў раптоўна
Ў ясную вышыню?..

Вось жа было б прыгожа!
Я прыпыніўся нават:
Моўчкі глядзі, сачы:
Так урачыста, важна — неверагодна зялёны
Сад лунае ўначы.

*1938 г.*

## МОРА І ЗЯМЛЯ

Я чуў, што мора не любіць зямлі,
І з гэтым згадзіцца варта, —
Пабачыў, як тупа, цяжка яно
Шпурляе каменне у твар ёй.

Пабачыў, як з пенаю на губах
Зямлі мора шле праклёны,
Ды крыўды не мае зямля, нібы
Не бачыць злосці ягонай.

Усё гэта так. Ды калі ўжо зямля
З морам ваюе да зморы,
Чаму ж тады, як сабака, цішком
Да берага лашчыцца мора?

З маленства просіць прабачыць яму,
Нібы вінаваты школьнік.
Мора ў адчаі: не можа яно
Зямлю угнявіць ніколі.

Мора ў адчаі: маўчыць зямля,
Усё ёй нібы забава, —
Ці мора хоча каменне шпурнуць,
Ці лашчыцца, як сабака.

*1939 г.*

## МОРА І ПТУШКА

Пашчасціла бачыць мне дзіўную дружбу
Чорнага мора
З маленькай птушкаю.
З мокрай далоні карміла мора
Сяброўку —
І цешылася пястушкаю.

А мора такое вялізнае — ўміг
Захоча і сонца патушыць,
Пушынка — маленькая птушка,
Ды дружба мілая, чыстая ў іх.

Напэўна, мору страшэнна самотна,
Што месца сабе не знаходзіць, смелае,
Таму яно ноччу наўзрыд галасіла,
І выйсці яму з берагоў хацелася.

А зараз сіняе, як птушаня.
Сябрамі любуецца цішыня.

Калі я самотны буду ў жыцці
І сэрца ў гаркоце затужыцца,
Хай гэтая дружба прыпомніцца мне
Чорнага мора
І птушачкі.

*1939 г.*

## МОРА

Колькі адценняў мае яно,
Ну хто так адкажа скора?
Колькі настрояў мае яно, —
Само толькі ведае
мора.

Настрояў і фарбаў —
хоць адбаўляй.
Мора — паэт найвялікшы самы.
Вось паэтычную б школу стварыць,
І я ўзяў бы гэты напрамак.

Які ж у яго непаўторны стыль,
Пра гэткі паэты трызняць вякамі.
Тады, калі мора шалёна шуміць,
Тады, калі мора зацята маўчыць,
У ім і святла
і жыцця —
з берагамі.

Вечна няўрымсны,
новы паэт,
Вечна неперайmальны,
натхнёны.
Ну як жа магу я
яго не ўслаўляць,
Не быць пад уплывам ягоным?!

Мне хочацца быць,
як яно,
круглы год
Лагодным,
бадзёрым,
заўзятым.
Падобным на пакаленне маё
У бурным стагоддзі дваццатым.

*1940 г.*

* * *

Песня — што птушка, —
говорыш ты мне,
Як зловіш — не упускай.
Садзіся, пішы.
Бо раптоўна ўпырхне,
Назад тады не чакай.

Песня — што птушка?
Ды сэнсу няма
Трымаць за хвост яе.
Калі прыляціць да паэта сама —
І ўдзень і ўначы пяе.

Тады ўжо за справу
бярыся, паэт,
Слухай яе ды пішы...
І хай запяе тую песню ўвесь свет, —
Птушка ў маёй душы.

*1940 г.*

## ЛЯ ВЕЧНА СІНЯГА ВОЗЕРА

Мы на Каўказе бачылі
Адвечнай сіні возера.
І чыстае,
І свежае,
І вечна
Сіняе, сіняе...
— Чаму гэта? — я пытаюся.
Ты адказаў:
— Хаваецца
Тут, у гары,
Крэйда сіняя,
Таму і сінее возера...
Дзіцяці, магчыма, кожнаму
Лёгка ў такое паверыць.

А мне дык зусім не хочацца
Гэткае разумець.
Хіба сінеча вечная
З крэйдаю
Спалучаюцца?
Не пасміхайся, дружа мой.
Сам я прычыну высветлю.

*

Калісьці жыла ў гэтым краі
Дзяўчына,
Не дужа прыгожая
І не такая ўжо зграбная.
Ды сэрца было ў яе чыстае,
Чысцюткае,
Як сляза.
А хлопец, што закахаўся
У тую дзяўчыну,
Быў зграбны,
Надзіва прыгожы.
Ды сэрца,
Як камень, халоднае меў.
Яе ён, вядома, пакінуў,
Бо палічыў, што не варта
Такая дзяўчына яго...
Маліла яна,
І прасіла,
І пралівала слёзы,
Ды толькі каменнае сэрца
Не адгукнулася ёй.
Адна на беразе возера
Горка дзяўчына плакала
І выплакала
У возера
Усе свае вочы —
Сінія.
Ад гэтага стала сінім
Возера, што схавала
Дзяўчыну на самым дне.

А хлопец блукаў па свеце
У пошуках прыгажуні,
Што вартай была б яго.
Але не знайшоў, вярнуўся,
Урэшце, назад сюды.
І ўбачыў добрыя вочы,
Пяшчотныя вочы дзяўчыны,
Што закахана глядзелі
З возера на яго.
Хацеў ён пайсці адгэтуль,
Ды сінія вочы ўладна
Цягнулі яго
На дно.
І над вадою сіняй,
Нібы каменны востраў,
Сэрца яго застыла.

*

І вечна ты сіняе, возера,
Вечна ты сіняе, сіняе.
Вачэй маіх колер мяняецца,
З сіняга шэрым робіцца.
Можа, таму і поўніцца
Спеў мой журбой бязмежнаю,
Што і ў кахання вялікага
Ёсць берагі і мяжа.
Пагляд мой,
Не будзь летуценным,
Пагляд мой,
Сіней і ззяй!
Інакш гэта ўсё паўторыцца
І тое ж з табою станецца.
Помні пра сіняе возера,
Помні!
Не забывай!

*1940 г.*

## МАТЧЫНА СЛЯЗА

Павязе на фронт нас сёння эшалон.
Мы па Самаркандзе строем крочым.
Маці, маці!..
З брам, з дзвярэй, з акон
Развітальна ўслед глядзяць іх вочы.

І ў якія вочы я ні зазірну,
Пазнаю пагляд сваёй матулі.
Бачу мару я ва ўсіх адну, —
Каб нас кулі
Ў бойцы абмінулі.

Матчыны пагляды зычаць перамог.
І мацнее вера — не загіну.
Словамі ніхто б сказаць не змог,
Што без слоў гаворыць маці сыну.

Вось матуля, што знаёма ўжо з бядой, —
Рукі высахлі, і твар гаротны, —
Вынесла з варот вядро з вадой
Для сыноў, што ў бой ідуць смяротны.

Не паспела вейкі выцерці рукой,
Як сляза сарвалася ў вадзіцу.
Стала чыстаю вада такой,
Быццам бы з далёкай той крыніцы.

Дзе б я ні праходзіў
праз агонь і дым, —
Покуль не прашые куля грудзі,
Матчына слязіна ззяць заўжды
Прад вачмі маімі ў змроку будзе.

Зоркай непагаснай будзе зваць здаля,
Каб ішоў наперад я няспынна,
Аж пакуль не стане ўся зямля
Чыстаю, як матчына слязіна.

*1941 г.*

## КАЛЯ АКНА

Паэзіі голас чуваць вам ці не?
Родная песня гукае:
— Браты паэты, ратуйце мяне!
Хутчэй! Я крывёю сцякаю.

Эх! Я страціў занадта шмат,
Я зведаў замнога страху.
Хутка цямнее. За далягляд
Ляцяць цягнікі на захад.

Апошні прамень дагарэў у акне,
Нібыта сцяг згарнулі.
— Наперад! Адпомсці! —
загадваюць мне
Вочы старэнькай матулі.

*1941 г.*

## СПЯВАЮЦЬ ПЕЎНІ

У крыку — слодыч і пакута:
Што можа сэрцу быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?

Яна з сардэчнаю тугою
Гучыць аднекуль з дальніх хат,
Хвалюе снежнай цішынёю
Людзей, аглухлых ад гармат.

Яна мне поўніць шчасцем грудзі.
Пра салаўя — не гавары,
Калі пачуццяў столькі будзіць
Хрыпаты певень на зары!

І сэрца гнеўнае салдата
Цераз агонь варожы мкне

Да беларускай роднай хаты,
Дзе радасна жылося мне.

У крыку — слодыч і пакута:
Што можа сэрцу быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?

*1942 г.*

## ЗАПЯВАЛА

Быць у батальёне запявалам
Цяжка, браце;
Толькі родны край
Прыгадаеш ідучы, бывала,
Раптам чуеш голас:
— Запявай.

— Зацягні, браток! — крычаць наўкола.
Ты ўзмахнеш курчавай галавой:
— «Тры танкісты, тры сябры вясёлых,
Экіпаж машыны баявой».

І паўстануць зноў перад вачыма
Гарадок у квецені садоў,
Любая смуглявая дзяўчына,
Першы верш і першая любоў.

І здаецца, мы па вулках крочым
Дарагога сэрцу гарадка.
Колькі кветак, колькі шчасця ў вочах —
Родныя выходзяць сустракаць.

І яна стаіць ля светлых вокан,
Запявалы голас пазнае.
Невычэрпнай радасцю глыбокай
Раптам сэрца поўніцца яе.

Чэзне ўсё. Ізноў пыліць дарога.
Да цябе далёка, горад мой.
Вось чаму
То радасць,
То трывога
Прагучаць у песні баявой.

*1941 г.*

# ЛІСТЫ*

*4 ліпеня 1942 г.*
*Бухара*

...Сёння прачытаў у газеце, што Янкі Купалы не стала. Здалося, што пасля такога месяц больш свяціць у небе не будзе. Мы ж усе так былі прывязаны да гэтага любімага, сапраўды беларускага чалавека. І раптам... А зусім нядаўна мы ў Чэбаксарах пілі з ім віно. Так вось яно, дзіця маё...

*16 ліпеня 1942 г.*
*Бухара*

...Знаходжуся ў размеркавальным пункце. Куды мы паедзем, не ведаю. Адно пэўна ведаю — на фронт. Я залічаны ў маршавую роту, і мы гатовы ў паход. Цераз плячо — скрутак шыняля, новая чырвонаармейская форма і моцныя, быццам з жалеза, чаравікі. За спінай рукзак, на поясе біклажка, пры баку сумка. У далейшым у ёй будзе ляжаць граната, а пакуль яна твая. Там ляжаць твая фотакартка, твае лісты, некалькі вучнёўскіх сшыткаў і аловак. Цяпер мне не хапае яшчэ вінтоўкі і процівагаза. Праўда, не стае і ваенных ведаў, але страляць я ўмею добра, і гэта важна. Настрой у мяне аптымістычны, я веру ў хуткую нашу перамогу і спадзяюся, што мы неўзабаве сустрэнемся. Калі я думаю пра цябе, мне робіцца сумна, я адчуваю, як ты хвалюешся і перажываеш. Але, даражэнькая, ты павінна разумець, што як пісьменнік і як грамадзянін я не мог заставацца ў глыбокім тыле. Калі застануся цэлы і прайду ўсе сем смярцей, я стану сапраўдным пісьменнікам...

*17 жніўня 1942 г.*

...Едзем на захад, у напрамку да Смаленска, бліжэй да роднага дому. У вагоне даволі весела, пяюць, смяюцца. Я асабіста

* Усе прыведзеныя лісты былі адрасаваны паэтам жонцы — Б. Б. Рубінай.

надзіва спакойны, быццам еду ў камандзіроўку. Хачу, каб і ты не хвалявалася...

*28 жніўня 1942 г.*

...Прамінулі горад Куйбышаў. Дарога ідзе на Маскву, з Масквы на Смаленск. Там будзе мой фронт. Толькі што прачытаў зводку пра тое, што там нашыя войскі атрымалі вялікую перамогу. Добра было б мець такія перамогі аж да Мінска і далей. Я пішу табе ліст, а па даху вагона б'е, стукае дождж, сапраўдны расійскі дождж, неба шэрае і нізкае. Гэты пейзаж крануў мяне да слёз, нагадаўшы родныя мясціны. Гэтае пачуццё, такая любоў да роднага краю для мяне новыя...

*30 жніўня 1942 г.*

...Мы стаім каля станцыі Разань. Некалі я пісаў у вершы, што горад Разань рыфмуецца з горадам Бірабіджан. Да Масквы засталося дзвесце кіламетраў. Неба тут светлае, але трэба быць пільнымі, каб чорныя сцярвятнікі яго не забрудзілі...

*31 жніўня 1942 г.*

...Прывітанне табе з Масквы. Прыехалі сюды сёння раніцай. Масква стаіць велічная і спакойная. Жыхары кажуць, што паўтара месяца як нямецкіх «чорных птушак» не відаць. Тут усё ў парадку. Мы былі ў цудоўнай добраўпарадкаванай лазні. З вялікім апетытам паабедалі. Дзеці ў Маскве гуляюць у салдатаў, салдаты гуляюць са смерцю. Адным словам — вайна...

*6 верасня 1942 г.*

...Нарэшце прыбылі на месца прызначэння. Знаходзімся ў некалькіх кіламетрах ад лініі фронту. Сёння прыгожы вераснёўскі дзень. Я сяджу і сачу, як ляцяць нямецкія «чорныя птушкі», чую сімфонію смерці ад снарадаў і бомб. Я паспеў ужо звыкнуцца з гэтым, і яно не ўплывае на мой сон і апетыт. Сёння бачыў, як нашы збілі нямецкі самалёт, ад яго застаўся адзін толькі попел. Хутчэй бы такое сталася з усімі фашыстамі, якія нясуць у нашу краіну смерць і пакуты...

*30 верасня 1942 г.*

...Ужо месяц, як я ваюю. А ад цябе ўсё няма лістоў. Цяпер я залічаны ў кулямётную часць. Гэта значыць, што буду яшчэ бліжэй да фронту. Днямі пашлю табе ліст з вершамі...

*5 кастрычніка 1942 г.*

...Я табе абяцаў паслаць ліст з вершамі. Вось ты іх маеш, мой першы крытык. Я здаровы, сплю моцна, ем з апетытам і сумую. Сумую па табе. Галоўнае, не падай духам, не сумуй. Усё будзе добра...

*7 кастрычніка 1942 г.*

...У гэты час сяджу ў «цырульні», адкуль пайду ў лазню. Гэтыя мерапрыемствы на фронце вельмі рэдкія. Яшчэ большая рэдкасць сядзець на лаўцы ля стала ў вясковай хаце і пісаць табе ліст, амаль як у дамашняй абстаноўцы. Прыйшоў я сюды з перадавой лініі фронту, дзе знаходзяцца толькі бліндажы, акопы ды траншэі — жытло для франтавікоў. Я знаходжуся ў некалькіх кіламетрах ад немцаў, а адчуванне ўжо зусім іншае — быццам я далёка ад фронту. Хутка пагалю сваю зарослую, вельмі зарослую бараду (не памятаю, калі галіўся) і пайду ў вясковую лазню. Адтуль — да сябе дамоў, у бліндаж. Назад — да самай перадавой лініі фронту. Наперадзе ад мяне няма чырвонаармейцаў. Тут я чую гукі нямецкай мовы, што далятаюць з іх лініі фронту. Такім чынам, знаходжуся я *на самай мяжы паміж дзвюма паловамі свету*. Тут не запальваюць агонь, уначы не кураць, саграюцца толькі ўласным цяплом. Таму для мяне так дзіўна, нязвыкла сядзець ля стала ў цёплай хаце... Абавязкова паведамі, ці атрымала апошнія мае вершы. Шкада будзе, калі яны згубяцца. Учора я іх цярпліва перапісваў застылымі рукамі ў халодным бліндажы. Як бачыш, быць салдатам нялёгка. І ўсё ж я не бядую. Як пісьменнік я шмат выйграў. Калі буду пісаць, дык буду пісаць толькі добра. Гэта я магу з упэўненасцю сказаць. Бо я сёе-тое пабачыў і на ўласных плячах перанёс...

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Эдзі Агняцвет*

## МАЛАДОСЦЬ НЕ ЗГІНУЛА...

На Беларусі няма ніводнай сям'і, якая б не паслала на франты Айчыннай вайны сваіх верных сыноў.

Поплеч са сваімі рускімі, беларускімі, украінскімі братамі адважна змагаўся і малады яўрэйскі паэт Генадзь Шведзік. Быў ён радавым кулямётнай роты. Дзесьці каля вёскі Дваешкі на Смаленшчыне ёсць узгорак. Там пахаваны 11 кастрычніка 1942 года паэт, які за два гады да гэтага, у роздуме аб жыцці, пісаў аб сабе:

Мой сябар прамовіць праз хвілю маўчання:
«Быў простым ён хлопцам і братам маім»...

Генадзь Барысавіч Шведзік нарадзіўся 4 сакавіка 1914 года ў Бабруйску.

Сёстры Генадзя ўспамінаюць, што першы свой верш «Ленін» ён напісаў у канцы студзеня 1924 года, дзевяцігадовы хлопчык пісаў гэты верш і горка плакаў, узрушаны смерцю Ільіча...

Кажуць, што вочы — гэта душа чалавека. І сапраўды, у шырока адкрытых, блакітных вачах Генадзя свяцілася яго душа — шчырая, ясная, даверлівая. Быў ён незвычайна прыгожым і сціплым юнаком. Я ведала яго як добрага камсамольскага сябра і вельмі здольнага паэта. Быў ён закаханы ў жыццё, у маладосць. Помню, ён часта паўтараў словы свайго любімага паэта Эдуарда Багрыцкага: «Маладосць не згінула, маладосць жыве!»

Г. Шведзік працаваў рабочым на будоўлях Бірабіджана, вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, працаваў журналістам у газеце «Піянер Беларусі» і навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. Потым — вайна, фронт, кулямётная рота.

Г. Шведзік напісаў дзве кніжкі вершаў: «Старт» (1934), «Вершы» (1939), а таксама паэму для дзяцей пра негрыцянскага хлопчыка Джыма.

Маёй ты не бачыў ніколі Айчыны?
Дык пойдзем!
На свеце няма прыгажэй
Лясоў Беларусі,
палёў Украіны,
І досвіткаў мінскіх,
і крымскіх начэй.

У невялічкай кніжцы «Лірыка», выдадзенай Дзяржаўным выдавецтвам БССР у 1962 годзе ў перакладах беларускіх паэтаў, сабраны выбраныя лірычныя вершы Г. Шведзіка.

Паэт быў сынам свайго веку — чалавекам рамантычнай, гарачай душы. У цяжкіх франтавых умовах пісаў ён мужныя, баявыя вершы. Прыгадаем некалькі радкоў з верша «Запявала»:

Быць у батальёне запявалам
Цяжка, браце;
Толькі родны край
Прыгадаеш ідучы, бывала,
Раптам чуеш голас:
— Запявай.

— Зацягні, браток! — крычаць наўкола.
Ты ўзмахнеш курчавай галавой:
— «Тры танкісты, тры сябры вясёлых,
Экіпаж машыны баявой».

І паўстануць зноў перад вачыма
Гарадок у квецені садоў,
Любая смуглявая дзяўчына,
Першы верш і першая любоў.

*(Пераклад А. Вялюгіна і А. Зарыцкага)*

Калі я чытаю гэты верш, мне зноў і зноў прыпамінаецца апошняя сустрэча з паэтам. Гэта было ў 1941 годзе. Некалькі дзён знаходзіліся ва Узбекістане вайсковыя курсы, дзе праходзіў кароткае навучанне Генадзь. Ён пазваніў мне: «Сёння едзем на фронт. Бывай! Пажадай мне ўдачы!»

Генадзь Шведзік пражыў кароткае жыццё — усяго дваццаць восем год. ...Мы схіляем галовы перад светлай памяццю мужнага савецкага воіна, паэта, чалавека.

*Станіслаў Шушкевіч*

## ЯГО ГОЛАС АБАРВАЎСЯ НА ПЕРШАЙ ЛІНІІ ТРАНШЭЙ

На мармуровай дошцы ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі залатымі літарамі высечаны імёны паэтаў, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны, абараняючы Радзіму. Сярод іх — імя Генадзя Шведзіка.

...Калі на Бабруйскім лесапільным заводзе было завозна з прыёмам драўніны, тады плытагоны яшчэ далёка за горадам кідалі якары і прыпынялі плыты, а самі перабіраліся на бераг, раскладалі кастры, варылі ежу, адпачывалі. Гарадскія хлапчукі любілі плытагонскія стойбішчы, гуртом прыбягалі на шырокія плёсы і квяцістыя сенажаці, рабілі буданы ў лазняку, збіралі карчы і сухое ламʼё на кастры.

Сінявокі Геня з віхрастым непаслухмяным чубам, здавалася, мог быць тут бясконца, але баяўся разгневаць сваю добрую маці, і як толькі пачынала змяркацца, ён імчаўся дадому вячэраць, выбіваючы чачотку босымі пяткамі па драўляных бабруйскіх тратуарах.

Толькі аднойчы ён спазніўся да сваёй напалоханай маці, прыйшоў дадому ноччу. А здарылася вось што. На крутым павароце ракі велізарны плыт зачапіўся за камень, лопнулі лазовыя віткі на ромжыне, і бярвенні пачалі расплывацца. Плытагоны на лодцы кінуліся ратаваць сваё багацце, лавіць бярвенні, далучаць іх да плыта.

Хлапчук ім памагаў. Ён падплываў да бервяна, навальваўся на камель грудзьмі, кіруючы яго да плыта. Калі работа была скончана, плытагоны запрасілі Геню да сябе на вячэру.

Асабліва ярка прыгадалася маленства салдату-кулямётчыку Генадзю Шведзіку восенню 1942 года. Як дораг быў цяпер Генадзю голас пеўня на досвітку ў апусцелай прыфрантавой вёсцы Дваешкі, які нагадваў любы горад Бабруйск, яго ціхія вуліцы, яго прыгожыя ўскраіны.

І сэрца гнеўнае салдата
Цераз агонь варожы мкне
Да беларускай роднай хаты,
Дзе радасна жылося мне.

У крыку — слодыч і пакута:
Што можа сэрцу быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?

Не суджана было Генадзю Шведзіку вярнуцца з франтавых дарог

дадому. Верныя сябры пахавалі яго, палявою поштай адаслалі жалобнае паведамленне сям'і нябожчыка, а разам з ім невялічкі пакунак з рукапісамі.

У цяжкіх, суровых умовах пісаў паэт цёплыя лірычныя вершы, поўныя хараства і шчырасці:

І паўстане зноў перад вачыма
Гарадок у квецені садоў,
Любая смуглявая дзяўчына,
Першы верш і першая любоў.

Друкавацца Генадзь Шведзік пачаў з 1927 года. Яго творы заўважыў вядомы яўрэйскі паэт Ізі Харык і даў аб іх станоўчы водгук.

У 1934 годзе Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выпусціла першы зборнік паэтычных твораў Генадзя Шведзіка, а ў 1939 годзе ў тым жа выдавецтве выйшаў яго зборнік «Вершы». Паэма Шведзіка «Наш Джым» была адзначана рэспубліканскай прэміяй у 1933 годзе.

Кароткае, але цікавае і змястоўнае было жыццё Генадзя Шведзіка. Юнаком ён пабываў на далёкаўсходніх новабудоўлях. Вярнуўшыся з Далёкага Усходу, паступіў вучыцца на рабфак, а пасля ў Вышэйшы педагагічны інстытут імя М. Горкага ў Мінску. Працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры, загадчыкам школьнага аддзела газеты «Піянер Беларусі», а пасля — навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры АН БССР.

Тыя, хто сустракаўся з паэтам, памятаюць яго як простага, сціплага чалавека. Ён быў сур'ёзны ў працы, але ўмеў жартаваць і весяліцца. У ім не было нічога надуманага, штучнага. Яго душа была адкрыта кожнаму, і ўсёй сваёй істотай паэт быў ворагам усяго паказнога і вычварнага. Такім і я ведаў Генадзя ў самыя першыя гады яго творчага росту.

Пасля смерці паэта рэдакцыя мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР выдала невялічкую кніжку Генадзя Шведзіка «Лірыка» ў перакладах з яўрэйскай мовы.

Славу і подзвіг не кранае ніколі іржа, не сціраюць вятры, не змываюць дажджы. Разгортваючы кніжку паэта, бачыш яго жывым, адчуваеш рытм яго маладога сэрца, чуеш яго натхнёны голас пра хараство Радзімы.

Прыходзь! Пазнаёмся з Айчынай маёю.
Калі ты сумленны, жывы чалавек,
Калі хараство адчуваеш душою, —
Ты сябрам маім застанешся навек.

*Іван Кудраўцаў*

## ЛІРЫЧНЫ ГОЛАС

Ён не пакінуў вялікай літаратурнай спадчыны. За непрацяглы час, які давялося працаваць у паэзіі, Генадзь Шведзік выдаў дзве кнігі вершаў і паэму для дзяцей. У 28-гадовым узросце ён загінуў на Бранскім фронце радавым кулямётнай роты. Але і тое, што паспеў паэт напісаць, адбілася як пэўны след у літаратуры.

Гэта быў юнак, улюбёны ў жыццё і ў паэзію. Ён рана пачаў пісаць. У 1929 годзе вершы пятнаццацігадовага падлетка Генадзя Шведзіка з'яўляюцца ў друку. Праз некалькі гадоў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выпускае яго першую кнігу «Старт», неўзабаве — другую, «Вершы».

За плячыма быў ужо ніштаваты жыццёвы шлях. Пасля сканчэння бабруйскай сямігодкі — работа на Далёкім Усходзе, затым — рабфак, літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. Вайна, фронт...

Выдадзеная ў 1962 годзе Дзяржаўным выдавецтвам БССР у перакладзе з яўрэйскай мовы на беларускую невялічкая кніга вершаў Г. Шведзіка «Лірыка» сведчыць, што гэта быў здольны паэт, і яму было што сказаць чытачу.

Ён нямала пабачыў на сваім кароткім вяку, дыхаў паветрам неабсяжных прастораў нашай Айчыны. І паэту лцбыя гэтыя прасторы, уся бацькаўшчына, для яго «на свеце няма прыгажэй лясоў Беларусі, палёў Украіны, і досвіткаў мінскіх, і крымскіх начэй» («Гэта ўсё — мой дом»). Лірызмам, задушэўнай шчырасцю прасякнуты вершы Г. Шведзіка пра родны край, пра дарагія сэрцу мясціны. Такія яго прыродаапісальныя вершы. Такія і вершы, прысвечаныя бацькаўшчыне, і вершы, адрасаваныя сябрам. А хіба ж не наскрозь лірычны напісаны ў суровым 1942-м верш «Спяваюць пеўні» — усхваляванае слова-прызнанне салдата, што знаходзіцца на пярэднім краі і аглух ад гарматнага грукату! Там, у траншэі, ён пачуў песню пеўня і шчыра кажа:

Яна мне поўніць шчасцем грудзі.
Пра салаўя — не гавары,
Калі пачуццяў столькі будзіць
Хрыпаты певень на зары!

І сэрца гнеўнае салдата

Цераз агонь варожы мкне
Да беларускай роднай хаты,
Дзе радасна жылося мне.

У крыку — слодыч і пакута:
Што можа сэрцу быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?

Як і ў кожнага пісьменніка па прызванні, у Г. Шведзіка былі свае творчыя планы, непакоілі творчыя задумы. Многае хацелася напісаць, калі выкіраваўся ў літаратурную дарогу. Паэт прысягаў сабе ісці толькі наперад, цвёрда адчуваючы зямлю пад нагамі — як бы ні было часам цяжка.

«Свет наш — вялікі і ясны. Упарта ўперад рвануся з вясновага старта!» — ускліквaў паэт у напісаным у 1934 годзе вершы «Памяці брата».

Але за ўдала ўзятым стартам неўзабаве надышоў непрадбачаны трагічны фініш: 11 кастрычніка 1942 года Генадзя Шведзіка не стала.

*Рыгор Бярозкін*

## СЛОВА ПРА ДРУГА

11 кастрычніка 1942 года загінуў радавы кулямётнай роты малады яўрэйскі паэт Генадзь Шведзік.

«Ён быў добры таварыш, просты, ніколі не выхваляўся сваёй адукацыяй. Мы блізка з ім пасябравалі — яўрэйскі пісьменнік і былы вясковы пастух... Шведзік пахаваны каля вёскі Дваешкі Смаленскай вобласці», — так пісаў жонцы паэта камандзір роты старшы лейтэнант Талстоў...

Я таксама з ім сябраваў. І, здаецца, гэта было зусім нядаўна: з Дома ўрада толькі знялі апошнія рыштаванні, па галоўнай вуліцы, па Савецкай, беглі маленькія трамваі і тонка звінелі, быццам увесь час кацілі перад сабой вясёлыя абручы.

Па горадзе хадзіў надзіва прыгожы юнак: кучаравы, блакітнавокі, у паношанай скуранай тужурцы. Хлопец заўсёды спяшаўся і, прыціснуўшы да сцяны або ў кут любога, хто трапляўся пад руку, «душыў» яго вершамі: «Думай» Багрыцкага, лірыкай Гейнэ, уступам да куляшоўскага «Аманала».

Было ў той час майму таварышу васемнаццаць год. Толькі што здадзена ў друк першая кніжка «Старт»: вершы пра маладосць, пра

каханне, пра Далёкі Усход, дзе ён жыў і працаваў камунарам. Успаміны пра далёкі край былі і радасныя — ах, якія маразы! Якія ўсходы сонца! — і сумныя: там засталася магіла брата... У бясконцых праходках па горадзе, у інстытуцкіх аўдыторыях, у вайсковым лагеры (былі там яшчэ і Грамовіч, і Грахоўскі) нараджаліся новыя задумы, пісаліся новыя рэчы: паэма пра негрыцянскага хлопчыка Джыма, цыкл пра Далёкі Усход, вершы пра цудоўную дзяўчыну, студэнтку з хімфака, што стане пазней яго жонкай, а неўзабаве і салдацкай удавою...

З армейскага эшалона, набліжаючыся да фронту, Шведзік пісаў сваёй жонцы ў адным з пісем: «Сёння даведаўся, што памёр Янка Купала. Гэта было так, быццам я даведаўся, што больш ніколі не ўбачу месяца ў нябёсах. Мы ж так прызвычаіліся, што ён існуе, што ён ёсць, гэты блізкі, сардэчны чалавек! Ці даўно мы пілі з ім віно ў Чэбаксарах...»

...Пісаць ён пачаў у 1928 годзе. Апошнія яго вершы, створаныя на фронце, пад агнём, датаваны жніўнем-вераснем сорак другога.

Ён жыў як паэт. Ён загінуў як паэт і воін, чыё палкае, шчырае слова не разыходзілася са справай, з учынкам і з дзеяй.

Вечная слава яму, салдату савецкай паэзіі, радавому вялікай вайны, міламу майму таварышу, што спіць у магіле каля вёскі Дваешкі, на братняй Смаленскай зямлі...



# Хвядос ШЫНКЛЕР

Хвядос Сяргеевіч Шынклер нарадзіўся 22 верасня 1903 г. на станцыі Рудзенск Мінскага павета (цяпер Пухавіцкі раён Мінскай вобласці).

У 1914–1920 гг. вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. Не пакідаючы вучобы, з 1919 г. пачаў працаваць тэлеграфістам на чыгунцы, на станцыі Рудзенск. Адначасова з гэтай працай быў бібліятэкарам, загадчыкам клуба, вёў камсамольскую і прафсаюзную дзейнасць. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», пазней — БелАПП. З 1929 г. — супрацоўнік бабруйскай акруговай газеты «Камуніст», а са снежня 1931 г. — сакратар рэдакцыі раённа-транспартнай газеты «Ударнік» у Жлобіне. У 1935–1941 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Полымя рэвалюцыі». З пачаткам вайны эвакуіраваўся ў г. Свярдлоўск (Расія), са жніўня 1941 г. па сакавік 1942 г. працаваў там тэлеграфістам на Цэнтральным тэлеграфе. У 1942 г. добраахвотна пайшоў у армію. Закончыўшы чатырохмесячныя курсы, трапіў на фронт. З кастрычніка 1942 г. — камандзір узвода 1-й роты 93-й асобай стралковай дывізіі. Малодшы лейтэнант Шынклер загінуў 25 кастрычніка 1942 г. на схіле безыменнай вышыні 95,9 каля пасёлка Бекетаўка пад Ста-

лінградам.

Друкавацца пачаў з 1922 г. Першае апавяданне «Пас зачапіў» апублікаваў у 1928 г. (літаратурны дадатак «Вясна» да газеты «Камуніст»). Выступаў як празаік, заявіў пра сябе як крытык, нарысіст, дзіцячы пісьменнік, пісаў вершы, перакладаў з іншых моў. У даваенны час асобнымі выданнямі выйшлі кнігі прозы «Ічэ» (1929), «Стрэлачнік Мігай» (1930), «Блок» (1933), «Сонца пад шпалы» (1933), «Запіскі інструктара Томана» (1934). Аўтар аповесці для дзяцей «Петрык-завадатар» (1935; 1973. 3-е выд.), п'есы для юных гледачоў «Пачэсны рэйс» (1939). У сааўтарстве з Ю. Рудзько напісаў кінасцэнарый «Шчаслівы шлях» (1940). У час вайны стварыў дзённік «Пульс жыцця» (у 1942 г. апублікаваны ў перакладзе на рускую мову ў Маскве, а ў 1950 г. выйшаў асобным выданнем па-беларуску ў Мінску) і «Дзённік сувязіста» (1942; апублікаваны ў 1957 г.). Пяру Х. Шынклера належаць артыкулы і рэцэнзіі «Чатырохсотлецце беларускага друку» (1928), «Юбілей Ц. Гартнага» (1928), «Шлях паэта» (1930), «Расійскія пісьменнікі на беларускай мове» (1930) і інш. У 1960 г. выйшлі «Выбраныя творы» Х. Шынклера, у 1984 г. — кніга прозы і ўспамінаў пра пісьменніка «Апошні рэйс».

# ПРОЗА

## СТРЭЛАЧНІК МІГАЙ
*Апавяданне*

Хто яе ведае, што зрабіла чыгунка з нашым Сымонам. Але вярнуўся ён са службы на чыгунцы іншым чалавекам. Нібы падмяніў яго хто там ці ўракнуў. Хто яго ведае...

Памятае наша вёска Сымона Мігая вясёлым, гуллівым хлопцам, які красіў усю моладзь. Прыгожы, зграбны хлапец. Чарнявы, з кучаравай галавой, з шэрымі прыгожымі вачыма — заглядзіся. Ніякае гульбішча, ніякае пракудніцтва не абыходзілася без яго. Ды што — не абыходзілася! Ён звычайна быў і завадатарам-канаводам на ўсе ўчынкі. Калі ж траплялася — не адкідаў і чарку гарэлкі перакуліць. А разгуляецца, дык чаркай справа і не канчалася.

Што казаць — спрытны, самавіты хлапец быў!

Так ад роду было яму напісана быць украсай нашае вёскі. Прайшлі б маладыя гады, перабушавала б маладая кроў — быў бы з яго добры, разумны гаспадар. Так заўсёды бывае. Але не па сэрцу яму вясковае жыццё прыйшлося, не захацеў па-дзедаўску сядзець — працаваць на зямлі, захацеў выйсці ў людзі, працерабіць сабе новы шлях. Не падабаўся яму сялянскі лазовы лапаць, захацеў набыць гарадскія бліскучыя боты. Вось і пайшоў ён на службу, на чыгунку. Казалі людзі, пашанцавала Сымону: прыладзіўся, усталяваўся недзе служыць стрэлачнікам.

Ды нядоўга нешта паслужыў. Неяк праз гады тры зноў з’явіўся ён у роднай вёсцы.

Ды другім чалавекам прыйшоў да нас Сымон Мігай. Не пазнаць у ім былога гуллівага, гарэзлівага завадатара. Ціхі нейкі, мэрам да зямлі прыбіты стаўся. Няма былой весялосці ў вачах, нейкі балючы сум бязмерны відаць у іх. Няма спрытных, жвавых рухаў, замест іх паважнасць нейкая, сталасць ды павольнасць. Смеху, ухмылкі не пабачыш на вуснах яго — крывіць іх,

скажае нейкая балючая грымаса, лапкі-зморшчынкі. А калі гарэлкі чарку па старому звычаю дакляруе хто выпіць — глыбока, цяжка ўздыхне ды моўчкі адыдзе.

Чалавек малады, а на вячорках нідзе яго не пабачыш, ад людзей хаваецца і да грамады рэдка падыходзіць. Другі, зусім другі чалавек...

І з чаго б то стала? Колькі разоў пачыналі людзі дапытвацца ад Мігая, чаму пакінуў ён чыгунку, ці добра працаваць на ёй, ці няўжо на вёсцы лепей, — нічога не адказвае, махне рукой ды пойдзе.

Дзівак чалавек, што казаць...

Нешта нейкае зрабіла з ім чыгунка. Хто ж яго ведае... Знаходзілі некаторыя з тых, што языком ахвочы патрапаць ды розум маюць спрытны, дапытлівы, розныя здагадкі, але нічога путнага і яны прыдумаць не маглі.

Здагадкамі тут нічога не растлумачыш. Дый хацелася ведаць сапраўдную праўду. А Мігай нічагуткі казаць не хоча, абмінае, адхіляе ўсе пытанні. Так і пачалі казаць у нас пра яго: Мігай — не чапай.

Так-так... Другім чалавекам вярнула нам чыгунка Сымона Мігая.

Цёплым вясновым надвячоркам павыпаўзалі людцы з хат адпачыць ад дзённае працы, пагаманіць аб тым аб сім, парадавацца на ажываючую прыроду, поўнымі грудзьмі ўдыхнуць у сябе лёгкае, пахучае паветра.

Сабралася грамада ля хаты старога дзядзькі Нічыпара, які нямала пабачыў на сваім доўгім жыццёвым шляху, нямала меў розных прыгод.

Ён, як і заўсёды, заўладаў агульнай увагай, апавядае, як давялося яму праехаць аднойчы на чыгунцы, колькі папакутаваць давялося яму, непісьменнаму, загнанаму вясковаму чалавеку, які не ведае распарадкаў чыгуначнай сумятні. Колькі гора нацярпеўся, колькі паздзекаваліся з яго разбазыраныя чыгуначныя чыноўнікі.

— Лепей і не знацца, браткі мае, з гэтай чартапхайкай! — заключыў дзядзька Нічыпар.

— Вось і не кажыце, дзядзька, — адазваўся тут Сымон Мігай. — Не ведаеце вы чыгункі, нельга і казаць пра яе гэтак!

— Што не ведаю? Не ве-е-едаю... Шмат ужо ты яе ведаеш. Відаць, на каго яна цябе перарабіла, да сябе падобным не стаў, ад людзей вунь нават хаваешся...

— Ат! Што вы разумееце. Чыгунка — гэта такая складаная машына, якую нялёгка зразумець, трэба пабыць хоць самым мізэрным шрубочкам у ёй, зразумець сваё месца ў гэтай машыне, дык тады не скажаш так, як вы... З мяне яна чалавека зрабіла, ды нялёгка далося гэта мне... Вялікую віну ўзяў я на сябе перад чыгункай, як расквітацца з ёй, і не ведаю... Ды што казаць...

— А вось ужо як пачаў, дык і сказаў бы людзям, чаму цябе чыгунка твая навучыла, якую адукацыю табе дала. Няма чаго хавацца ўжо!

— Ды ўжо ж... раскажу. Слухайце. Мо іначай пра чыгунку казаць будзеце...

І пачаў Сымон апавядаць сваю гісторыю. Зразумела, з якой цікавасцю ўсе слухалі яго, бо расказваў ён тую таямніцу, якую так даўно хацелася ўсім ведаць.

...Прыйшоў гэта я на чыгунку. Вось, бадай, так глядзеў на яе, як дзядзька Нічыпар. Ну, працаваў трохі на шляху ў рамонце, а потым трапіў на лепшую пасаду, стрэлачнікам. Тут ужо служба далікатнейшая, намагацца сілай столькі не трэба, паварочвай стрэлкі, як табе загадаюць, ды прапускай па каляях цягнікі, паравозы.

Абжыўся, пазнаёміўся з людзьмі... А станцыя — нішто сабе, дзейная, грузаў шмат перакідае, працы хапае. Але і жыць весела. І горад блізка. Быў ля станцыі спірытусавы завод, амаль штодня падаваліся туды па спецыяльнай каляі вагоны пад пагрузку. За пагрузку вагонаў станцыйнае начальства атрымлівала звычайна ад уласніка завода аплату за паслугі — ці то грашмі, ці то натурай — спірытусам. Так ужо на чыгунцы вядзецца. Называецца гэта «капытковы збор», ну, а па-простаму будзе — хабар...

— Ну, вось табе і твая чыгунка, бачыш — хабары бяруць, — не сцярпеў нехта.

— А вы ўжо, дзядзька, калі ўзяліся слухаць, дык слухайце, а то...

— І праўда, хлопцы, чаго сунецеся, не перашкаджайце!

— Так... Дык вось з капытковых гэтых перападала тое-сёе і нам, стрэлачнікам. Так што жылося мне някепска, было чаго выпіць, было і закусіць. Так паглядзіш прызвычаеным вокам — бо непрызвычаенае ж не ўсё здолее прыкмеціць, тут асобныя акуляры патрэбны, дык як паглядзіш — ой-ёй што рабілася!

Звычайная рэч, калі начальства ходзіць «пад шэфа», як кажуць па-далікатнаму, ну, а наш брат — проста «пад мухай». Так сабе ніштавата і жылося.

Ды вось мухі гэтыя капытковыя і нарабілі для мяне такога, што і сёння адчуваю, ніяк запамятаваць не магу...

— Гэ-э-эх, мухі, мухі...

— Аднойчы, на свята, атрымалі мы зверх капытковай нормы. Набраліся што называецца. Да службы не праспаўся я, пайшоў на дзяжурства, а ў вачах мітульга нейкая, у нагах казінец. Дзяжуру. Перакідаю стрэлкі. Так-сяк сходзіць. Пачалі мы рыхтаваць падачу вагонаў пад завод, тут я нешта заспяшаўся, перакінуў няёмка баланс, што перацягвае рэйкі, дык пяро не прыкінулася як след да рамачнай рэйкі, і пайшлі вагоны па стрэлцы ўразрэз... Збочылі з галоўнае каляі на заводскую ды з адхону ўніз. Пабег я за імі следам... Ды што ж, дагоніш іх, ці што? А калі і дагоніш? Ляпаюць па стыках вагоны, і я ўгрунь за імі. А яны ўсё далей-далей, коцяцца хутчэй ды хутчэй...

Гляджу я — ідзе ля каляі нейкі салдат, мусіць, з кашараў ішоў. Бачу — схапіў ён шпаліну, відаць, думаў затрымаць вагоны, ды не кінуў шпалу ўпоперак рэек, але паставіў канцом на рэйку, а за другі сам трымае...

І не падумаў, відаць, чалавек, што з гэтага паратунак малы. Ці збянтэжыўся ён з неспадзеўкі, ці што?..

...Наскочылі вагоны на шпалу, крутанулі яе пад сябе, а з ёй і салдата, уздрыгнулі, грымнулі ды далей пабеглі... А на каляі, бачу, ляжыць паміж рэек шпала, а ля яе салдат. Курчыцца...

Падбег я. Тут усе мухі з галавы маёй павыляталі... Адразу цвярозасць найшла. Але што ж з тае цвярозасці...

Ляжыць бядак, енчыць, з ботаў кроў цурком хлышча. Гляджу, а яму абедзве пяты так і адцяло... Як перакуліўся са шпалай, так і папаў нагамі на рэйку...

...Прыбеглі людзі, войкаюць. Забралі салдата таго ў бальніцу. За ім і я, як непрытомны, пацёгся. Колькі дзён прасядзеў ля яго ложка! Што ж, прапаў чалавек... без пят, як без ног, — хадзіць нельга, а бязногі чалавек што ж за работнік...

— А вагоны? — запытаўся нехта.

— На шчапы... Закаціліся на заводскую каляю, грохнулі з разгону ў тупік — і збірай толькі шчапы...

Тут мне і выдалі воўчы білет, ды без права паступлення на чыгунку...

Вось, браткі мае, якая гісторыя!.. Перакаланула яна мяне ўсяго. Назаўсёды ўсе мухі з галавы маёй павыганяла, ды так,

што і не вернуцца яны больш у яе. Шмат-шмат перадумаў я за ãýòû ÷àñ. Âîñü òóò ³ çðàçóìå¢ ÿ ÷ûãóíêó. Ãýòà òàáå íå çàáà¢êà ÿêàÿ. Ãýòà ñóð’¸çíàÿ âÿë³êàÿ ìàøûíà, ÿêàÿ ðîá³öü àäêàçíóþ ïðàöó. Ãýòà æ ïàäóìàöü òîëüê³ — êîëüê³ ãðóçà¢ ÿíà ðîçíûõ ïåðàê³äàå, äû øòî ãðóçà¢, — à ëþäçåé êîëüê³ ïåðàâîç³öü!

ßêàÿ æ ãýòà âÿë³êàÿ àäêàçíàñöü, ïàäóìàéöå ñàì³! ßêîé íàïðóæàíàé, íàëàäæàíàé ïðàöû âûìàãàå ÿíà! Ëåäçü ñïëàøà¢ — âîñü òàáå ³ êàòàñòðîôà.

Òóò ÿê ó ìàøûíå. Óñå ÷àñòê³ ÿå ïàâ³ííû áûöü ïðàâåðàíû, êîæíû øðóáî÷àê, êîæíàÿ øàñö¸ðêà, êîæíàÿ ãàéêà ïàâ³ííà áûöü íà ñâà³ì ìåñöû, âåäàöü ÿãî ³ âûêîíâàöü ÿê ñëåä ñâàþ ïðàöó. À ñàì ñóåööà ÿêàÿ-íåáóäçü ÷àñòêà — çàñêë³ãî÷à¢ñÿ ìàøûíà, ïà÷íå ðûïåöü, äàâàöü ïåðàáî³ äû é ñòàíå...

...Âîñü íàøà ñòàíöûÿ, ÷àñòêà âÿë³êàé ÷ûãóíà÷íàé ìàøûíû, çàïàìÿòàâàëà àá ñâà¸é ðîë³. Ïà÷àë³ øðóáî÷ê³, øàñö¸ðà÷ê³ êåïñêà ïðàöàâàöü, çàðûïåëà, ÿê íÿìàçàíàÿ, ìàøûíà, ñàì ñàâà¢ñÿ àäç³í äðîáíåíüê³ øðóáî÷àê, ³ ìàøûíà ïàëàìàëàñÿ... À êàá æà ãýòà äû ïðû ïàñàæûðñê³ì öÿãí³êó, êîëüê³ àõâÿð áÿçâ³ííûõ áûëî á!.. Äûé òàê âîñü áåç àõâÿð íå àáûøëîñÿ.

Ñâà¸ æûöö¸ ÿ çàìàðóäç³¢ ³ ÷àëàâåêà çàãóá³¢. À ÷àìó? Ãàðýëêà ¢ñ¸ â³ííà! ßíà ñà øëÿõó çâîäç³öü, íà ïðàñòóïàê øòóðõàå...

Øìàò-øìàò äóìàê ó ìà¸é ãàëàâå ïðàáåãëà çà ãýòû ÷àñ... ×àëàâåêàì ïðàç íÿø÷àñöå çðàá³ëà ìÿíå ÷ûãóíêà.

Çðàçóìå¢ ÿ ÿå àäòàãî, ïàëþá³¢... Äû âûê³íóë³ ç ìàøûíû ñàïñóòû øðóáîê, ³ íÿìà ìíå í³äçå öÿïåð ìåñöà.

À áåç ÷ûãóíê³ öÿæêà, íóäíà æûöü ìíå öÿïåð, ïðû çâû÷à³¢ñÿ ÿ äà ÿå. Òàê õî÷àööà ïàêâ³òàööà çà ñâîé ïðàñòóïàê, çðàá³öü øòî-íåáóäçü äîáðàå äëÿ ÿå, ïàìàãà÷û íàëàäç³öü ìàøûíó, êàá äîáðà ïðàöàâàëà, àëå êóäû æ? Âî ¢÷û á³ëåò — ³ íÿìà çâàðîòó. Âûê³íóòû íà ñìåòí³ê, çëàìàíû øðóáîê...

Âîñü ê³ì ñòà¢ñÿ öÿïåð ÿ...

Ïðàéøë³ ãàäû. Àäãðûìåë³ ãðîìû ðýâàëþöû³, ñö³õëà çàâ³ðóõà, ïà÷àë³ ¢çâîäç³öü ðûøòàâàííå íîâàé, ñâåòëàé ïàáóäîâû.

Äàë¸êà àä ðîäíàé â¸ñê³ àïûíó¢ñÿ ÿ. Äàâÿëîñÿ ìíå ïàïðàöàâàöü íà ÷ûãóíöû. Ïàä÷àñ ïðàöû íå ðàç óñïàì³íà¢ Ñûìîíà Ì³ãàÿ ³ ÿãî ã³ñòîðûþ. Ïàëþá³¢ ³ ÿ ÷ûãóíêó, çàõàï³¢ñÿ ³ ÿ ñòðîéíàñöþ, ñâîåàñàáë³âûì õàðàñòâîì ÿå ïðàöû ³ çðàçóìå¢ Ñûìîíà. Çðàçóìå¢, ÷àìó òàê öÿæêà áûëî ÿìó àä÷óâàöü ñÿáå âûê³íóòûì, íÿãîäíûì øðóáî÷êàì ãýòàé âÿë³êàé ñêëàäàíàé ìàøûíû. Äáà¢ ÿ, ø÷ûðà ³ ¢âàæë³âà äáà¢ àá òûì, êàá áûöü íà ñâà³ì ìåñöû, äîáðà âûêîí-

ваць сваю працу маленькага шрубочка, ад якога залежыць праца машыны.

І ізноў успамінаў Мігая.

Аднойчы давялося мне выехаць на маленькую станцыю. Хоць маленькая яна была, хоць зусім мала было тут чыгуначнікаў, але тут добра, прыкладна для іншых працаваў мясцком. Вёў вялікую культурна-асветную работу сярод членаў свайго саюза, меў шэфства над вёскай суседняй і там дапамагаў сялянству выбрацца з векавечнай цемры, распачаць новае, светлае, прыгожае жыццё.

У гэтым мясцкоме спаткаўся я з Сымонам Мігаём. Рэвалюцыя анулявала яго воўчы білет, звярнула шрубок на старое месца, дала магчымасць пасквітацца за былы, мо і несвядомы, праступак.

І шчыра, старанна квітаўся Сымон Мігай.

Уся вялікая культурная работа, пра якую чутно было і за межамі станцыі, была справай рук Мігая, старшыні мясцкома чыгуначнікаў.

З вясёлым тварам спаткаў мяне Мігай. Відаць было, што чалавек жыве, захоплены жыццём, бачыць у ім сэнс, працуе, закаханы ў працу.

— Квітаюся, браток, квітаюся, — казаў ён. — А галоўнае, родны мой, не пабачыш ты на нашай станцыі аніводнага п’янага. Няма, брат, гэтай брыдоты ў нас! На сваім прыкладзе пераканаў я ўсіх. Наша частка машыны працуе добра, сумленна, кожны шрубок на месцы, не хістаецца, роўна і гладка ідзе. За нашу частку машыны можна быць спакойным!

Я ахвотна паверыў Сымону Мігаю.

## СОНЦА ПАД ШПАЛЫ
*Урывак з аповесці*

За семафорам — наколькі можна бачыць — як мурашкі, варушацца, працуюць рамонтныя. Ажывіўся, змяніўся выгляд пуцей. Няма звычайнага зацішша, пустэльнасці, што пануе тут ад праходу да праходу цягніка.

Адзін пуць доўгім бліскучым ланцужком бяжыць туды, далёка, у лес. Другога — не відаць, ён увесь стракаціць рабочымі, якія, паскідаўшы з сябе кашулі, пад пякучым апальваючым спіны сонцам размерана ўздымаюць падбойкі і раўнамерна, напружана, з глухім мяккім стукам убіваюць іх у раскіданыя паміж шпаламі

«скрыні» зямлі — падбіваюць новыя, толькі што пакладзеныя шпалы.

Глянуць здалёк — металічныя аправы канцоў узнятых угору падбоек яркімі, слепячымі вочы агеньчыкамі блішчаць на сонцы. Хутка апускаючыся ўніз, яны маланкай цягнуць за сабой стужкі-праменьчыкі, нібы заганяюць іх пад шпалы.

Лёгкі пах свежых сасновых шпал перамешваецца з пахам раскапанай, зляжалай, тлустай зямлі. Гэты асаблівы, нейкі церпкі водар так прыемна ўцягваць у сябе, адчуваць у ім тую асалоду, якой вось так даўно не адчувалася. Асалоду працы. Асалоду згоднай арганізаванасці цэлай грамады над рамонтам старой, запушчанай чыгункі, над прыданнем ёй належнага для працы стану.

Даўно... Даўно ўжо праходзіў тут капітальны рамонт! Гадоў, мусіць, з дзесяць. Семдзесят працэнтаў верхняй пабудовы шляху прыйшло ў поўную нягоднасць. І як толькі цягнікі маглі хадзіць, як трымалі гэты цяжар здрузлелыя шпалы? Дзіўна проста!

Гэта ж не жартачкі: семдзесят працэнтаў трупехласці!

Ходзіць, шнуруе па сваім пікеце Алесь Дзераш. Поўнымі грудзьмі ўцягвае ў сябе дурнап'яны пах смолі, пах зямлі. Ад паху гэтага хутчэй цурчыць кроў па жылах, пружыняцца мускулы, і здаровая, хвалюючая ўздымнасць, напружанасць сіл напаўняе маладое, моцна скляпанае цела.

І не вытрымаць — самі рукі сціскаюцца, так і карціць схапіць, сашчапіць падбойку, так, як калісь, аддацца працы, у працы ахалодзіць, змарыць запал, даць выхад нахлынуўшай радасці, уздыму.

— Дай, братка, мне сюды... — не сцярпеў-такі Алесь, падышоў да бліжэйшага рабочага.

Той са здзіўленнем паглядзеў на Дзераша. «Няўжо ізноў не гэтак раблю?» — падумалася.

Часта здаралася, што прыходзілася Дзерашу брацца самому за падбойку або штопку, каб паказаць, як трэба рабіць. Арцель уся з маладых, толькі вось гэтымі днямі набраных з вёскі хлапцоў; звычкі да працы няма, і паказваць трэба.

Зразумеў хлапцова недаўменне Дзераш.

— Не, браток, не паказваць буду. Працуеш ты добра. Вось за гэта і адпачні трохі. Проста вось самому, гледзячы на вас, папрацаваць захацелася...

І замігцела падбойка ў дужых умелых руках.

— Га-а-а-а...

— Так, так, арцельны, гані сонца пад шпалы! — падвесяліл-

ісяхлопцы. — Папрацуй, папрацуй крыху...

— Не прывыкаць, — кінуў Дзераш, — колькі гадоў ужо сонейка пад шпалы заганяю, вось і вас давялося вучыць...

Люба паглядзець, як працуе Дзераш. Відаць — спрактыкаваны, не ўпершыню працуе. Падбойка, як механізаваная, робіць сваю справу. І неяк ямчэй робіць, чымся ў руках іншых. І не відаць, каб чалавек напружваўся, стамляўся, выдыхаўся. От, так, гуляе быццам.

Эх, і добра ж пападбіваць! Адчувае Дзераш, як раўнамерна пачала цячы кроў па жылах, няма той перашкаджаючай, незразумелай даўкасці, што ўзбаламучвала кроў, замінала, перапаўняла цела. Знайшоўся выхад: праца паглынае збытак энергіі, у нармальны стан прыходзіць цела.

— Ну, годзе! Будзе...

І ізноў зашнураваў Дзераш па сваім пікеце. Спакайней неяк стала. Раўней дышацца. Можна за работай наглядаць.

Спыніцца, задумаецца, марыць Дзераш, забудзе пра ўсё наўкольнае. Потым трасяне галавой, ізноў рушыць, шнуруе.

— А ўсё ж, хлопцы, наша арцель лепей і хутчэй робіць, — там-сям кіне. І далей, і далей ідзе.

— А вось ты, браток, — звяртаецца да аднаго хлапца, што рабіў зарубку шпал, — не гэтак робіш. Вунь глядзі: зарэзаў нажоўкай зашмат, бач — раўчачок застаўся... І нахіл у зарубцы не такі зрабіў — не роўны. Трэба ж на адну дваццатую рабіць, як вучыў... Глянь?!

Паклаў на зарубку Дзераш лякала — шчыліна відаць пад ёй.

— Бачыў? Ну вось, а пакладзеш на такую зарубку рэйку, што будзе? Па прарэзу большаму вада пройдзе — прухне шпала. Зарубка няроўная, валокны памне рэйка — ізноў шпала будзе прухнець.

— Не, не варта так рабіць... — нездаволена ківае Дзераш і паказвае, як трэба, — схапіў дэксель, зрабіў зарубку. Паклаў лякала — як тут было! — Бачыш? То-та ж...

І далей пайшоў.

У канцы пікета пачалі ўжо прышываць рэйкі да шпал. І тут напрактыкаванае Дзерашава вока бачыць памылкі.

— Прышывайце, хлопчыкі, як след, каб не давялося перашываць... Уб'еш кастыль не так, як трэба, вымеш — дзірка, вось табе і будзе шпала псавацца. А шпал у нас нямнога. Бачыце, да якога стану дайшлі, што павыманы? Вучыцеся як след рабіць!

Слухаюць Дзераша хлопцы. Першыя дні, праўда, не тое было.

Адчувалася нездаволенасць.

Што маладому, не працаваўшаму на чыгунцы хлапцу, які прыйшоў сюды на сезон падзарабіць? Абы адбыць свой «урок» ды хутчэй скончыць працу і — дахаты...

А тут малады арцельны адразу ўз'еўся. Ты яму тое не так, ты яму гэтае не гэтак. Тое трэба вось так, гэтае трэба вось гэтак. І зацягвае толькі працу.

Вунь у суседніх арцелях урок канчаюць. Апошнюю, адзінаццатую, шпалу на чалавека адрабляюць, а тут над дзевятай корпаешся. Куды варта? Хай яно згарыць з такой працай!

Ведама, малады арцельны, ды яшчэ курсант, выслужыцца хоча!

Бачыў, адчуваў нездавальненне Дзераш. Ды пасміхаўся.

— Нічога, хлопцы! З першых дзён адстанем, больш часу зойме навучанне, ды і то больш васьмі гадзін працаваць не будзеце ж, а далей пабачыце, хто хутчэй скончыць — мы ці яны, хто скароціць свой дзень працоўны! — Кажа, бо памятае — сам быў амаль такім самым нецярплівым калісьці.

— Трэба ж працаваць як след. Не на пана працуеце, на сябе. Цяп-ляп рабіць не гожа. Рабіце, як навучаю, — і сапраўднымі рабочымі будзеце, і работа будзе лепшая ад іншых...

Разаб'е Дзераш арцель на асобныя групы, а ў кожнай групе — на пары. Двум меней спрактыкаваным хлапцам-навічкам дасць адкапваць «скрыні» паміж шпал на цэлым звяне рэек; другая пара, што больш часу працавала на рамонце, расшывае старую шпалу, выцягвае яе і зацягвае новую; трэцяя пара, больш спрактыкаваная, падштопвае шпалу, засыпае скрыню, затрамбоўвае, раўняе баласт.

— Ды што нам па-замежнаму рабіць! — чулася, як пачынаў Дзераш новыя прыёмы паказваць. Не падабаецца хлапцам падзеленасць, аднастайнасць працы.

— Дурні, дурні! Якое тут замежжа? Не па-замежнаму, а панавуковаму. Вунь вам за мяжой, у Швейцарыі, падбіваюць і жалезныя, і бетонныя, і драўляныя шпалы аднолькава, робяць нядбала, а мы вось гэтак рабіць не будзем! Не ўсё добра тое, што замежнае. А вось рацыяналізаваць працу трэба! Але што ж вы, мусіць, і слова «рацыяналізацыя» не разумееце, — смяецца Дзераш. — Ну, растлумачу пасля работы. А на справе, бадай, і самі пабачыце, ці варта рацыяналізаваць...

Некалькі дзён толькі прайшло, як працуе арцель пад Дзерашавым кіраваннем. І незадаволення як не было. Арцель слухае Дзераша, робіць так, як загадае.

І дзіўна. Панавучаліся хлопцы патрэбным размераным прыёмам, і праўда, — урок свой канчаюць хутчэй, а як прымае работу ўчастковае начальства, — Дзерашаву арцель хваляць.

— Лепшая! — кажуць.

І пачынаюць хлопцы з другіх арцелей прасіцца да Дзераша.

Смяецца той толькі.

— Прымем, хлопцы? — пытае.

— Не, — крычаць, — хай у сябе рацыяналізуюць арцелі!

— А-а-а... Зразумелі рацыяналізацыю такі?! — ізноў смяецца Дзераш.

Аддасць сонейка моц сваю жыватворную, выльe праменнямі гарачымі на зямлю, зморыцца, менш заўзята пячэ і паволі коціцца па небасхіле за лес шэры, далёкі — на адпачынак.

Канчае работу і рамонтная Дзерашава арцель, збірае інструмент і па новых, беленькіх, яшчэ не забруджаных, сёння ўласнымі рукамі пакладзеных шпалах шнуруе да вакзала, у казарму, на адпачынак. Свежы рахманы ветрык так прыемна абвявае нагартаванае, бронзавае цела.

Хоць змарыліся за час працы, але цікавасць бярэ верх на ўсім, — закідваюць Дзераша пытаннямі, просяць растлумачыць усё незразумелае, з чым спаткаліся на працы за дзень.

Дакладна, старанна тлумачыць Алесь. Тое-сёе, што патрабуе больш дасканалых, падрабязных абгаварэнняў, пакідае на вечар, на час заняткаў тэхнічнага гуртка, што наладзіў ён з маладымі рабочымі і ў якім два разы на тыдзень знаёміць іх з чыгуначнай гаспадаркай.

Ад вакзала хлопцы разыходзяцца: арцель — у казарму, Алесь збочвае на пасёлак прыстанцыйны — дахаты.

Увечары прыходзіць Алесь у казарму рамонтных. Пры святле невялікай лямпачкі, што, асвятляючы вузкае кола ля стала, пакідае ў цьмяным змроку пастаўленыя пры сценках нязграбныя лавы на козліках, на якіх адпачываюць пасля працы сезонныя рамонтнікі, сялянскія хлопцы, — тут, ля стала, у цесным акружэнні хлапцоў выкладае Алесь свае тэхнічныя веды, навучае неспрактыкаваных рамонтнікаў.

Здолеў прыахвоціць да ведаў вытворчых маладых хлапцоўсялян вясёлы, таварыскі арцельны Дзераш. Запалам сваім на працы, захапленнем працоўным працэсам рамонту пуцей, прыкладам сваім уздзейнічаў на іх, выклікаў павагу да чыгункі, да вірлівага суладнага жыцця яе.

І ўважна слухаюць хлопцы тэарэтычнае абгрунтаванне тых

работ, што машынальна выконваюць на рамонце па загаду арцельнага. Цесна згрудзяцца, схіляцца ў купінцы над сталом, пільна ловяць словы дзіўныя Дзерашавы, сочаць рухі яго жвавыя, як тлумачыць што ён.

І зразумелым, простым у сваёй складанасці робіцца тое, што здавалася нядаўна лішнім, непатрэбным.

Пытаецца віхрасты, кірпаты хлопец, што больш за ўсіх палюбіў за кароткі час сваёй працы чыгунку:

— А чаму не адразу забіваюцца ўсе кастылі ў шпалу, чаму раней вы глядзіцё здалёк, прыкладаючыся да рэйкі?

І не паспее адказаць Дзераш, як ізноў кідае пытанне цікаўны хлопец:

— І чаму вы так любіце чыгунку, таварыш Дзераш, калі вы яе спазналі так добра? Вы ж яшчэ зусім малады...

Смяецца Алесь.

— Бач, чаго ведаць захацелася?! Адразу, брат, не спазнаеш такую складаную рэч, як чыгунка, праўду сказаў ты... А спазнаеш, — палюбіш назаўсёды! Ну, а калі цікава, дык паслухайце...

— Раскажыце, таварыш Дзераш, — просяць хлопцы.

Доўга расказвае Алесь пра сваё жыццё, працу на чыгунцы, што зрадніла з ёй.

Слухаюць, самі захапляюцца хлопцы, загараюцца жаданнем застацца ў штаце на чыгунцы, працаваць на ёй.

Вярсты за дзве ад маленькай чыгуначнай станцыі стаіць у густым лесе, што хмура наступае на пуці, будка пераезнага вартаўніка. Шэрай вузкай стужкай праразае глухі лес гасцінец, узнімаецца да чыгуначных пуцей, пераваливае праз іх, ідзе далей. Гэта і ёсць пераезд. Яго і бліжэйшы — як вокам акінуць — участак пуцей вартуе пажылы вартаўнік Максім. Пільна сочыць рух цягнікоў, што густа-часта ідуць удзень.

Пакажацца здалёк над лесам дымок цягніка, пачуецца павольнае ўзгрымванне рэек, і Максім зачыняе шлагбаум, стаіць на пераездзе, трымае зялёны сігнал:

— «Вольны шлях, язджай поўным ходам!»

Грыменне рэек штораз пасіляецца, яскравей абмалёўваецца асілак цягнік, чуцен гучны прарэзлівы свісток.

— «Бачу, ходу не памяншаю!» — нібы кажа і міма праносіцца з грукатам, стукатам, лязгам цягнік. Глядзіць у вокны вагонаў Максім — не разбярэш, хто там едзе, — мігцяць уваччу запыленыя шыбы.

Праскочыць цягнік, выйдзе Максім на сярэдзіну пуцей, стаіць тут з сігналам, ажно пакуль не схаваецца за паваротам задні тормаз, — праводзіць, назірае ход цягніка: так патрабуе інструкцыя. Потым сыдзе з пуцей, адкіне шлагбаум.

— «Едзь, каму трэба, і вам шлях вольны!»

Так дзень у дзень.

І не толькі ўдзень, а і ўначы ідуць цягнікі. Праўда, іх меней, але пасажырскія сустракаць трэба. І стары Максім, не давяраючы гадзінніку, часта стаіць, прыліпнуўшы да акенца, — напружвае вочы, ловіць агеньчыкі цягніка, іскры дымавой істужкі ягонай, хапае ліхтар, бяжыць на пераезд. Спозніцца выпадкам цягнік, — доўга-доўга прыходзіцца чакаць старому, не верыць, бывае, вачам, не-не ды і выйдзе на двор, слыхам ловіць знаёмыя гукі.

Дзень у дзень... Ноч у ноч...

Такая служба пераезных. Чужы спакой вартуй, свайго спакою не май.

Толькі адпачнеш як след па-людску іншы раз удзень, калі хто з старэйшых дзяцей або жонка возьмецца сачыць каляю, перакідаць «шлагбон».

Падрос ужо і малы Алеська. Зробіць з ашмотку сабе «хляг» і разам з таткам ходзіць сустракаць цягнікі. Сур'ёзна стаіць на пераездзе, выставіўшы ўперад адну нагу, моцна трымае ў руцэ сігнал. Ад напружання прыкусіць кончык языка. Пройдзе цягнік, і Алесь важна пераходзіць на пуці, не міргнуўшы глядзіць на кандуктара з задняга тормаза, а той возьме ды «пад казырок» зробіць. Бачыць служаку маладога, пашану належную аддае.

Рады, ганарыцца Алеська.

— Служы, сынку, вучыся, — кажа стары Максім, і на твары яго свеціцца засмучоная ўхмылка.

«А мо калі і спатрэбіцца... Хто ведае!»

Возьме ласкава хлопца за плечыкі худзенькія, і пойдуць разам у будку: службу справілі, цягнік прапусцілі!

Боязна было спачатку Алесю хадзіць на пераезд. Цягнікоў, страшных, грымучых, чорных, ахутаных пасмамі дыму, баяўся. Але бачыў, як спакойна стаіць бацька, і сам пасмялеў. А цікава стаяць, як татка, з «хлягам» у руцэ, паказваць вольны шлях страшыдлу гэтаму!

Два разы на дзень ачышчае ад смецця свой пераезд Максім. Часта пераязджаюць пераезд падводы, забруджваецца смеццем раўчачок між рэйкай і контррэйкай. Бярэ Максім венік, скрабніцу, — пыл хмараю стаіць над пуцямі.

І тут Алеська дапамагае бацьку, завіхаецца з венікам.

А зімой цяжэй бывае. Нялёгка ачысціць пераезныя контррэйкі

ад лёду. Доўга прыходзіцца дзяўбаць ломам, а то і сякерай старому Максіму. Гурбы снегу адкідае лапатай Алесь.

— Працуй, працуй, памочнічак мой! — падбадзёрвае сына малога Максім. Рады стары — расце, гадуецца памочнік.

Так паступова асвойтаўся Алеська з пераездам і цягнікамі. Часта сам бяжыць, папярэджвае:

— Татачка! Дымок відаць, хутка будзе цягнік...

Хутка прыйшлося Алесю спазнацца з цягнікамі бліжэй. Падрос хлопец, трэба ў школу аддаваць. Блізка школы нідзе няма. Старэйшыя браты ездзяць вучыцца ў горад, што за якіх вёрст шэсцьдзесят адсюль. Прыйшлося і Алесю разам з імі ехаць. Пашыла маці торбачку на кнігі, што засталіся ад навучання старэйшых братоў, і паехаў Алесь у школу.

Пабачыў цяпер цягнік ён як след. Не на хаду, як імчыцца паўз пераезд, а як стаіць, пыхкае, набірае сіл — вады і дроў, нецярпліва пасвіствае — патрабуе адпраўлення. Мітусяцца ля вагонаў пасажыры: хто вылазіць, хто садзіцца — парадку аніякага. Проста галава ходырам ходзіць.

Падштурхнулі, пасадзілі ў вагон браты і нашага Алеся; не агледзеўся, як крануўся цягнік, затросся вагон — паехалі. З здзіўленнем пазіраў навокал Алесь: на вокны, лавы, на людзей — незвычайнае ўсё, не так, як у хаце. А за вокнамі мігцяць слупы, дрэвы, веерам разыходзяцца гоні. Шпарка ж ідзе гэты цягнік!

Прыгледзеўся, асвойтаўся і тут Алесь. Хутка адчуваў сябе ўжо як дома. Пападзе толькі ў вагон, так і глядзіць, каб на паліцу ўзлезці ды прыкархнуць крыху, пакуль той горад. Уначы ж дома не выспішся, дужа рана — прыцемкам — уставаць прыходзіцца. А паездзіўшы крыху, знаёмствы завёў Алесь. Тут і вучні з сваёй станцыі і з суседніх. Як толькі ў вагон — пайшлі гамонкі, роспыты пра ўрокі, падзуджванні, кепікі, жарты. Весела!

І з дзядзькамі-кандуктарамі азнаёміўся шустры Алесь.

Калі няма кантралёра ў цягніку, ідзе правяраць білеты сам галоўны кандуктар. Як толькі кранецца з службовага вагона, дзе едуць вучні, Алесь — тут:

— Дайце, дзядзенька, мне папрабіваць білеты!

І ідзе па цягніку кандуктар, крычыць:

— Ваш-шы білеты: прад'явіце білеты-ы!

За ім з абцужкамі ў руках важна выступае Алесь, ветліва бярэ білеты ў пасажыраў, праглядае, прабівае, аддае назад. Здзіўлена глядзяць на малога кантралёра пасажыры, потым бачаць за ім галоўнага, зразумеюць, у чым справа, рагочуць:

— Ай да кантралёр!

А Алесь хоць бы што. І не пасміхаецца.

Так штодня ездзіць Алесь у школу. У вагоне, дзе вучні, едуць зазвычай чыгуначнікі. Вагон так і называюць: «службовы». Збяруцца ў якое аддзяленне, гавораць пра службовыя свае справы. Аб чым і гаварыць, як не аб чыгунцы, людзям, што ведаюць адзін аднаго па службе, але параскіданы па розных станцыях, участках?

Шмат цікавага можна пачуць тут, шмат здарэнняў чыгуначных уведаць. Любіць паслухаць гутаркі такія Алесь. Непрыкметна для сябе вывучае, знаёміцца з усімі чыгуначнымі парадкамі. Нічога ад яго вока не збяжыць — усё бачыць, калі ж не зразумее, — распытвае ў старых, старанна запамінае.

Калі ж не цікавіць нішто ў вагоне, няма каго паслухаць, надакучыць з хлапцамі блазнаваць, — сцішыцца, сядзе, глядзіць у акно.

Прыйдзе гэта цягнік на станцыю якую, сустракае яго living разнае тутэйшае маленькае чыгуначнае начальства. Убачыць Алесь дарожнага майстра, падскочыць:

— А у вас, дзядзя майстар, на кар’еры трыста сорак шостай вярсты як скінулі звяно рэек ля галоўнага пуці, так і не прышылі іх кастылямі да шпалаў — непарадак, дзядзенька, парасцягаюць...

— Брысь-сь-сь, шэльма! — акрысіцца майстар.

А сам думае: «І то праўда, трэба арцельнаму Сымону загадаць, каб прышыў... Расцягаць-то не расцягнуць, але паедзе ПЧ[1], пабачыць і — непрыемнасць...»

А на другой станцыі забяжыць Алесь у тэлеграф да старшага тэлеграфіста, захліпваючыся, дакладвае:

— На трыста семнаццатай вярсце, на дзевятым пікеце алешына завалілася галінамі на правады, перашкаджае, мусіць, працаваць тэлеграфу...

— Бач, малое, і яно нешта разумее? Малайчына! Мы-то глядзім, што на дыспетчарскім нейкае незразумелае дзеянне...

---

[1] Для скарачэння тэлеграм назвы чыгуначных пасад былі зашыфраваны ў спецыяльна апрацаваную сістэму ўмоўных літар, якія з цягам часу перайшлі ў канцылярскі ўжытак, адсюль трапілі ў жывую мову чыгуначнікаў. Мова чыгуначнікаў стракаціць рознымі такімі скарачэннямі. ПЧ — начальнік участка аддзела шляху.

Чуў, ШН?[2] Цяпер, брат, ясна — спалучэнне правадоў. Ну, дзякуй табе, хлопча. Маладзец ты!

Так вось кожную зіму штодня ездзіць у школу, усім цікавіцца, усюды нос свой паткне Алеська. Лепей ад якога старога служакі ведае тыя перагоны, па якіх едзе. І не дзіўна: большая частка жыцця — не дома. А гадзіне пятай устане, паедзе, а гадзіне сёмай увечары прыедзе. Ад цямна да цямна. Урокі вучыць на вакзале, чакаючы цягніка, а то ў самым цягніку, забраўшыся на верхнюю паліцу, прыгарнуўшыся з кнігай да мутнага святла ліхтара.

Толькі летам прыходзяць вольныя хвіліны. Толькі летам не трэба ездзіць у школу. І скарыстоўвае Алесь гэты час як належыць — то ў лес па ягады, грыбы, то на рэчку з вудзільнам. Забрыдзе далёка, толькі пад вечар успомніць пра хату, ловіць вухам знаёмыя гукі паравоза і па гуку тым ідзе нацянькі да чыгункі, на будку.

Не забывае, праўда, і на бацьку старога, нельга гэтага сказаць, дапамагае яму пільнаваць пераезд. Так, як калісь, сур'ёзна стаіць з зялёным сігналам, але стаіць адзін, самастойна; гэта ўжо не гульня, не забаўка, гэта ўжо сапраўдная служба за старога бацьку.

---

[2] ШН — наглядчык тэлеграфа. (*Заўв. аўтара.*)

# ДЗЁННІКІ

## ПУЛЬС ЖЫЦЦЯ
*Запіскі тэлеграфіста*

*9 верасня 1941 года*

На франтоне высокага блакітнага будынка золатам зіхацяць накладныя строгія літары: «Пошта. Тэлеграф. Тэлефон».

Адшукаў камендатуру. Мяне злучаюць з дырэктарам Цэнтральнага тэлеграфа. Бяру трубку тэлефона, коратка гавару аб мэце майго прыходу.

— Вы інжынер? — пытанне з трубкі.

«Так, — хацелася сказаць, — крыху асаблівай кваліфікацыі». Але схамянуўся, усміхнуўся сам сабе і кажу:

— Не. Тэлефаніст. Марзіст.

— Заходзьце. Вам зараз выпішуць пропуск.

Вось я і ў кабінеце дырэктара. За сталом — сухарлявы, з чыста паголеным тварам мужчына. Усім выглядам сваім і кволай усмешкай ён нагадвае замкнёнага ў сабе, далёкага ад гарачай і напружанай работы тэлеграфа вучонага. Толькі форменныя пятліцы на чорным кіцелі з дзвюма сінімі зорачкамі на іх сведчаць, што гэта — дырэктар. Усё аблічча яго неяк вабіць да сябе, і размаўляць з ім лёгка, прыемна. Я ізноў, крыху падрабязней, гавару пра сябе.

— Хвілінку, — ён бярэ трубку тэлефона і выклікае да сябе начальніка эксплуатацыі і старшыню рабачкома. Своеасаблівая камісія гэтая праглядвае мае дакументы. Адрывістыя запытанні, рэплікі.

— Дванаццаць год не работалі на апараце... Адукацыя ваша?

— Сярэдняя.

Здзіўлена падымаюцца бровы дырэктара:

— А вось... Цяперашняя ваша спецыяльнасць?.. Як жа так? Вы скончылі спецыяльную навучальную ўстанову?

— Не.

— Як жа так? — ізноў неўразуменне.

Я ледзь не засмяяўся:

— Здольнасці, мабыць...

— Ага! Здольнасці... — дырэктар здаволен. — Ну што ж, паспрабуем? — паказвае ён на апарат Морзе, што стаіць у кутку пакоя.

Падыходжу. Бяруся за ключ. Нейкае дзіўнае адчуванне ахоплівае мяне. Я хвалююся?! Хачу трымацца вальней, усміхаюся, але ўсмешка выходзіць нацяжнай. Адчуваю: гэта — знешняя, удаваная абыякавасць. А папраўдзе — тут, ля гэтага так знаёмага апарата, у адзін нейкі ледзь улоўны міг пранеслася перад нутраным маім зрокам усё жыццё.

У маленстве трывожна білася сэрца, калі слухаў я гудзенне тэлеграфных дратоў. Таямнічае, незразумелае, яно здавалася грозным. Я бег дадому, ратуючыся ад гэтай няўмольнай, нямоўкнучай і бязлітаснай сілы. Крыху старэйшы, ужо смялейшы і больш упэўнены ў сабе, я доўга стаяў, прыхіліўшыся да тэлеграфнага слупа. Я ўслухоўваўся ў невыразныя шумы, што струменілі ў ім. Я намагаўся адгадаць у гэтых шумах чалавечую мову — словы, складзеныя з іх тэлеграмы. Марна!..

А шаснаццацігадовым хлапчуком я ўжо быў тэлеграфістам. Рассыпалася, развеялася ўся дзіцячая тэлеграфная рамантыка. Я даведаўся пра сакрэты сваёй прафесіі — усё было гэтак проста, усё грунтавалася на законах фізікі, дзеянні электрычнасці. І — хутка я быў ужо абыякавы да сваёй спецыяльнасці. Памятаю, ганарыўся толькі незвычайна сваёй раўнапраўнасцю самастойнага работніка.

Бяруся за ключ. Апарат разрэгуліраваны. Старыя экзаменацыйныя хітрыкі! Скарачаю разгон ключа, падымаю крыху якар магніта — апарат гучыць выразна, чыста. Пачынаю работаць і са здзіўленнем заўважаю: я не выпаў з тэмпу апошніх год сваёй работы ў тэлеграфе, я работаю шпарка! Крыху вязнуць, часам зліваючыся, працяжнікі. Гэта мяне нервуе, — прыкра перад маімі экзаменатарамі. А яны, як выявілася, здаволены.

— Годзе... — гаворыць дырэктар, і кволая сарамлівая ўсмешка ізноў блукае на яго твары.

— Адразу відаць марзіста, — заяўляе начальнік эксплуатацыі.

Гэта ўжо гучыць як пахвала.

Кароткая, напаўголас нарада камісіі. Мне вызначаюць двухтыднёвы выпрабавальны тэрмін. Атрымліваю часовы пропуск.

Дык, значыць — я ізноў тэлеграфіст. Каб сказаў мне хто гэта месяцы тры назад, нізавошта не паверыў бы! Якіх толькі нечаканак не рыхтуе нам жыццё. Ну, што ж... Папрацуем тэлеграфістам.

— Заўтра а восьмай гадзіне раніцы на дзяжурства. Зойдзеце адразу да мяне, — гаворыць начальнік эксплуатацыі.

— Добра, — адказваю я на першае распараджэнне майго начальства.

*10 верасня*

Начальніка эксплуатацыі я сустрэў у калідоры. Разам узыходзім на пяты паверх. Ля дзвярэй вартавы. Паказваю пропуск, праходжу.

Велізарная апаратная зала ашаломлівае мяне шумам і трэскам апаратаў Бадо і Юза, што стаяць у ім роўнымі шарэнгамі. Убаку — меншая зала. «Клопферная» — чытаю я на дзвярах. Тут.

Заходзім. Раздзеленыя шкляной пераборкай стаяць здвоеныя рады марзянак. З бакоў яны таксама аддзелены адна ад аднае шклом. Гэта мне зразумела: большасць марзістаў — слыхачы. Калі прымаюць тэлеграмы, яны ўключаюць клопфер — невялікі ўзмоцненага тыпу магнітны якар, змешчаны ў драўлянай паліраванай, спераду адкрытай скрыначцы, якая ўзмацняе гук, — рэпрадуктар. Ловячы на слых тэлеграфныя знакі — камбінацыі кропак і працяжнікаў, клапферысты прымаюць тэлеграмы без стужкі — на слых. Працэс прыёму значна паскорваецца. А шкляныя пераборкі заглушаюць стук суседніх клопфераў.

Я не клапферыст, я проста марзіст. Працаваў я ў свой час на чыгуначным тэлеграфе, а там клопфераў няма. Праўда, і там шмат ёсць слыхачоў, якія прымаюць на слых і па больш слабаму гуку магнітнага якара апарата. Я таксама прабаваў «браць на слых», але гэта было нібы балаўство. Я не авалодаў гэтым вышэйшым класам мастацтва тэлеграфіста.

Прыслухоўваюся. Работаюць «паштовыя» тэлеграфісты добра — шпарка і выразна. Я ўспамінаю крыўдную мянушку, якой яшчэ ў далёкім мінулым узнагародзілі іх чыгуначныя тэлеграфісты — «сургучнікі», намякаючы гэтым на сургуч, які суправаджае ўсе сур'ёзныя паштовыя аперацыі.

Дарэмна, вядома, крыўдзілі чыгуначнікі сваіх паштовых калег. Проста на апараты, якія злучалі паштовы тэлеграф з чыгуначным, найменш нагружаныя работай, ставілі менш кваліфікаваных работнікаў, часта вучняў. Гэта былі «фушэры» (так тады называлі дрэнных работнікаў). І не было падстаў пагардліва

гаварыць пра ўсіх паштовых тэлеграфістаў.

Паштавікі, вядома, не адставалі ў цэхавай заядласці: яны абзывалі чыгуначнікаў мазутчыкамі, абражаючы гэтым іх карпарацыю.

Успамінаю пра гэтыя цэхавыя лаянкі, і мне смешна. Як выраслі за гэтыя гады нашы людзі, як далёка адышлі яны ад карпаратыўнай абмежаванасці!

Мяне знаёмяць з брыгадзірам.

— Вельмі рады! — гаворыць ён. — Вось добра! У мяне вялікі некамплект у змене.

Сапраўды. Некалькі апаратаў стаяць сіроткамі. Іх абслугоўваюць у нагрузку дзяжурныя суседніх апаратаў.

Брыгадзір вядзе мяне да апарата. Мяне сустракаюць цікаўныя позіркі маіх новых калег: прыйшоў навічок! Гэта ўвага бянтэжыць мяне.

Заўважаю: у змене, акрамя брыгадзіра, усяго двое мужчын. Праца тэлеграфіста ўсё больш становіцца працай жаночай. Даюць сябе знаць, вядома, і дні, якія перажывае наша краіна. Шмат тэлеграфістаў працуе за ключом у іншых абставінах, у іншым адзенні — у зялёных гімнасцёрках, пад акампанемент артылерыйскай кананады.

Распісваюся ў прыёме дзяжурства. На даручанай мне лініі толькі адзін тэлеграфны пункт — нескладаны двухбаковы абмен.

Пачынаю аваладваць напаўзабытымі прыёмамі работы. Мяне выклікае мой партнёр.

— НП, — говорыць ён.

Чаму НП? Я памятаю, у мой час прыём прапаноўваўся ўмоўным ПП, што значыць «прошу принимать», а адказвалі на гэта ПД — «прошу давать».

Павяртаюся да суседа. На мяне ветліва, з запытальнай усмешкай глядзіць сімпатычная чарнавокая шатэнка.

— Што значыць НП?

Мае неўразуменне рассмяшыла яе. Відаць, яе інтрыгуе загадка: што за тэлеграфіст, які не ведае простых рэчаў!

— «Начинаю передачу». А згода даецца літарамі ПО — «прием обеспечен».

— Дзякую, — я бяруся за ключ і даю гэтае ПО. Катэгарычнасць формы прапановы — не «прашу», а «пачынаю» — мне не падабаецца.

Праз пару хвілін я пераканаўся, што шатэнка сочыць за паводзінамі навічка-суседа. У мяне кончылася стужка. Па звыч-

цы я хацеў націснуць ключ — спыніць бег току; тады мой партнёр не зможа работаць, а ўвага яго будзе прыкута да апарата. Я выбіў «стужка ўся» і схапіў бланк, каб засунуць яго, як ізаляцыю, між кантактамі ключа.

— Нашто гэта? — суседка падыходзіць да мяне і выцягвае з прымацаванай да стала разеткі штэпсель. У тую ж хвіліну я здагадваюся аб прызначэнні разеткі: праз яе ўключаецца ў лінію апарат або клопфер — што бывае патрэбна. А трэцяя, непрадугледжаная, функцыя разеткі — вось гэта самае «націсканне».

— Але гэта непатрэбна, — нібы працягвае маю думку суседка. Яна ізноў уключае апарат, бярэцца за ключ і выбівае кароткае слова «міг». — Ён пачакае міг, хвілінку і без націскання.

— Дзякую, — ізноў кажу я і ў адзнаку гэтай удзячнасці вырашаю задаволіць нявыказаную цікаўнасць суседкі. — Я дванаццаць год не работаў у тэлеграфе.

— Ах, вось яно што!..

Я, аднак, бачу, што не дасягнуў сваёй мэты. Я толькі падагрэў цікаўнасць і выклікаў у маёй суседкі новае неўразуменне — а хто ты, а чаму ізноў прыйшоў у тэлеграф? Гэтыя пытанні напісаны на яе рухавым выразным твары. Але я не хачу быць залішне шматслоўным. Ды і навошта?

Настаў мой час перадачы. Я бяру стос ляжаўшых за апаратам тэлеграм і — ізноў абескуражан. Паштовы тэлеграф сустракае мяне сюрпрызамі! На першым бланку наклеена рад за радам тэлеграфная стужка. Але на стужцы гэтай не звычайны літарны шрыфт Бадо або Юза, а нешта накшталт няроўнай рысы метэаралагічнага запісу. Што гэта значыць? Бяру другую тэлеграму, трэцюю — тое ж самае. Набралася гэтай сейсмаграфіі штук восем.

Я чую прыглушаны смех. Гэта, вядома, суседка. Смяшлівыя зморшчынкі забаўна збегліся да яе пераносіцы.

— Што за чорт? — уголас кажу я. — Ніколі не бачыў такіх іерогліфаў...

Яна смяецца ўжо не тоячыся. Потым бярэ чысты тэлеграфны бланк і кладзе яго да верхняга краю іерагліфічнай рысы. І я выразна бачу знакі азбукі Морзе. Ніжні край рысы толькі злучае адрэзкі верхніх знакаў.

— Гэта андулятарны запіс. Тэлеграма прынята па радыё праз пушыраванне...

— Зразумела! — узрадаваўся я. — Гэтыя тэрміны мне знаёмы, але мне не даводзілася бачыць іх арэчаўлёнымі.

І яшчэ не раз пасабляла мне суседка. Яна, пэўна, вырашыла ўзяць шэфства нада мной. Нічога не маю супраць. Мне прыемна яе ўвага.

— Як вас зваць? — спытаў я ў яе.

— Таццяна Сяргееўна. А вас?

— Леанід Сяргеевіч.

— Брацік, выходзіць?

— Так, сястрыца. Меншая сястрыца.

— Згодна, — гаворыць яна.

Згода на дружбу? Няхай так. Будзем дружыць.

Я перадаю андулятарныя тэлеграмы, перасоўваючы па іерогліфах чысты бланк. Гэта не зусім зручна, але без бланка вока мае не адрознівае знакаў верхняй рысы.

Вось і змена. Непрыкметна прайшло дзяжурства.

— Шмат жа вы праз мяне сёння «мігнулі», — вінавата кажу я сястрычцы.

Яна не разумее. Я паказваю на ключ.

— А-а... Глупства. Затое ў вас не было лішніх замінак. І я сваю работу зрабіла. Ну, да заўтра... Не! Да вечара. Я роблю сёння ноч, вы — таксама.

— Да вечара!

Роблю — раблю. Так гавораць уральцы.

*11 верасня*

Учора ў дваццаць чатыры гадзіны мясцовага часу (у дваццаць дзве — маскоўскага, па якому вядзе лік часу тэлеграф) уступіў у першае начное дзяжурства.

Дзяжуру воддаль ад маёй celesнай сястрыцы, нават у другім радзе апаратаў. Я не маю яшчэ сталага рабочага месца, буду замяняць таварышаў, якія карыстаюцца выхаднымі днямі (агульнага выхаднога дня ў тэлеграфе з яго няспыннай работай не можа быць). Такі мой, навічка, лёс.

Сёння шні мой апарат нічым не вызначаўся, у начны час ён мала нагружан работай. Мне нудна. Прыглядваюся да новых сваіх суседзяў. Маю ўвагу прыцягвае сусед з правага боку, сярэдняга веку мужчына. Ён сядзіць роўна, не гарбаціцца, як шмат якія тэлеграфісты, хоць іх і перасцерагаюць ад гэтага, шкоднага здароўю выкрыўлення хрыбта, уціскання грудзей. Наогул мой сусед нейкі падцягнуты, акуратны. І гэта гармануе з яго сухаватым, з рэзкімі рысамі тварам. Ён нагадвае мне тыпічнага англійскага лорда.

Сусед таксама цікавіцца мной. Ён часам кідае ў мой бок шпаркі позірк, ён прыслухоўваецца да гуку маёй работы, сочыць, як я прымаю. Гэта крыху нервуе мяне, выбівае з раўнавагі. Я не люблю працаваць — чым бы ні займаўся — пад назіраючым староннім позіркам. А цікаўнасць майго суседа мае выпрабаваўчае адценне: ён ацэньвае маю работу!

І ва мне ўзнімаецца глухая варожасць да лорда.

Хоць я і паспаў пару гадзін перад начным дзяжурствам, але пад раніцу, к 6–7 гадзінам, павекі наліваюцца волавам, міжвольна зліпаюцца — мяне нястрымна хіліць да сну.

Я памятаю гэтыя стамляючыя перадранішнія гадзіны дзяжурстваў у юнацкія мае гады. Велізарным напружаннем волі ўдавалася мне тады вырвацца з цяжкіх лап сну. А сёння я быў бяссільны. Як ні намагаўся я адолець сон, ён не адступаўся ад мяне, цісnуў сваім цяжарам на мозг, абвалакваў цела, звязваў рукі. Я пачынаў выпадаць з рэчаіснасці, ляцеў у бездань. Цяжкія абдымкі раптам станавіліся мяккімі, асцярожнымі, ласкавымі. Змагацца з гэтымі здрадніцкімі абдымкамі сну было нялёгка. Я ішоў курыць. Але курэнне чмуціла мяне і, бадай, толькі павялічвала пакуты.

У курылцы я стыкнуўся са сваім суседам. Курылі моўчкі. Загаварыў нечакана ён.

— Чыгуначнік?

— У мінулым. А што?

— Ды, гляджу, знак перабою даеш па-старому, чыгуначнаму, і звычка ў цябе ў рабоце ўся чыгуначніцкая, — гаворыць ён з выразным уральскім «о» і таксама чыста па-ўральску, без даліманаў пераходзіць на «ты».

— А вы?

— Быў і я ў чыгуначніках. Пачынаў юнаком у тэлеграфнай калоне, верхалазам па слупах. Быў і тэлеграфістам, і наглядчыкам тэлеграфа.

Курым.

— Ад сну ратуешся?

— Ага...

— Бачу, — смяецца ён. — Даўно не дзяжурыў?

— Дванаццаць год.

— Эге! А робіш нічё (уральскае — нічога). Ну, значыць, і тут я вытрымаў выпрабаванне. Сусед мой траціць надзіманасць лорда, часам перакідваецца са мной парай, другой слоў. І я ўжо не адчуваю да яго беспрычыннай, глухой варожасці.

Крытычныя гадзіны стамляючага адзінаборства са сном прамінулі. Канчаю дзяжурства.

«Спаць! Спаць! Спаць!» — адна толькі думка, адно жаданне валодае мною. Спяшаюся дадому.

*12 верасня*

Пасля дзённага адпачынку — ізноў на ноч. Так пабудован наш графік дзяжурстваў — дзве ночы дзяжурыш узапар.

«Якая ж будзе другая ноч», — гэтая думка гняла, не давала мне спакою ўсю дарогу да ЦТ (Цэнтральны тэлеграф).

І ізноў на новым месцы, з новымі суседзямі. Прыгледзецца да іх не ўдалося — работы было шмат, паспявай толькі рабіць. Гэта, напэўна, выратавала мяне і ад крытычных гадзін, калі так уладарна прад'яўляе свае права сон. Сёння ён пакінуў мяне ў спакоі. Заняты работай, распалены ёю, я забыў пра сон. Ці сон забыў пра мяне?

Але пад раніцу я быў зможан другім, што непрыкметна падабраўся да мяне і нечакана адолеў, ворагам.

Раптам халодная хваля млявасці разлілася па целе, я адчуваў незвычайную і дзіўную лёгкасць у нагах. Мне цяжка падняць руку. Ключ выслізгвае з вялых, бяссільных пальцаў.

Стома...

Вялікіх намаганняў каштавала мне апошняя гадзіна работы гэтай другой ночы дзяжурства.

*15 верасня*

Ларош. Яклак. Еўкеж. Зегмі. Зезер. Жыршу.

Вычварныя, дзіўныя гучаннем сваім словы. Гэта не жывая іншакраінная мова і не эсперанта. Гэта — банкаўскі, кадзіраваны — умоўны лексікон. Банкаўскія грашовыя перaказы стракацяць такімі вось ларошамі і зезерамі. Мне не даводзілася сустракацца з гэтай «мовай», і ад нязвычкі я баюся наблытаць. Я ведаю (сястрыца, канешне, сказала), што словы банкаўскага кода складаюцца з пяці літар і ў іх павінна быць не менш як два галосныя гукі. Гэта пасабляе мне прымаць кадзіраваныя тэлеграмы. Але ўсё ж увага пры прыёме іх падвойваецца. Вось гэта падвоеная ўвага ледзь не падвяла мяне.

Парадокс як быццам? Аднак — гэта так.

Дзяжурыў я на чацвёртым па ліку апараце. Гастраліраванне па клопфернай знаёміць мяне з нашай вобласцю, характэрнымі асаблівасцямі розных яе пунктаў. Але яно не дае магчымасці набыць навык у абслугоўванні лініі. Кожная ж лінія мае свае, часта неўласцівыя іншым асаблівасці.

Сённяшні мой апарат адрозніваецца ад ранейшых тым, што абслугоўвае дзве лініі. Калі канчаецца вызначаны графікам час аднае лініі, пераключаешся на другую (за апаратам стаіць своеасаблівая «шпакоўня» з двума штэпсельнымі гнёздамі і зашклёнымі акенцамі над імі).

Паглыбіўся я ў свае «яклакі» і забыўся на графік. Раптам да мяне падыходзіць брыгадзір. Твар у яго ўстрывожаны:

— Вас клічуць на «авія»!

Гляджу, а ў акенцы над штэпсельным гняздом лініі, з якой мне трэба было пачаць работу пяць мінут назад, мігціць белая палоска паперы і чуцен характэрны шлёпаючы гук.

І як я не пачуў гэтага прыглушанага выкліку? Перабіваю «яклакі» словам «міг» (каб стужка магла гаварыць, гэтае «міг» прагучала б на другім канцы лініі, як крык) і перастаўляю штэпсель. Шлёпанне пераходзіць у нармальны гучны выклік. Я адказваю.

— Эх, варона! — гаворыць партнёр.

Нервова спісваю са стужкі тэлеграму, гляджу на гадзіннік: затрымаў тэлеграму на дзве мінуты. Бегма дастаўляю тэлеграму на стол сарціроўкі, вяртаюся і дзякую партнёру за тое, што ён здагадаўся пазваніць па тэлефоне.

Возьмем да ўвагі: працаваць трэба спакойна, з улікам усіх асаблівасцей рабочага месца, каб пазбегнуць нечаканых прамашак.

Тое, што авіядэпешы перадаюцца без чаргі, тое, што прыемна бачыць, як за 3–4 мінуты такая дэпеша праходзіць тысячы кіламетраў, адольваючы два — тры перапрыёмных пункты, — гэта ўсё знешні бок справы. А які велізарны сэнс закладзен у кароткім найменаванні дэпешы — «авія», у колькі разоў узрасло значэнне яго ў нашы баявыя дні!

На базах, аэрадромах стаяць шарэнгі магутных самалётаў. У іхніх умястоўных фюзеляжах тэрміновы груз — адказныя дэталі машын і агрэгатаў, каштоўная вытворчая сыравіна для заводаў і фабрык, тэрміновая, дзяржаўнай важнасці пошта. На лётных пляцоўках, у зацішных пералесках гатовы штохвіліны ўзнесціся ўгору грозныя паветраныя крэпасці. Іхняе чэрава поўна бомб, тарпед — адплата ворагу, які пасягнуў на нашу Радзіму. І на далёкіх тылавых базах, і на блізкіх да фронту пляцоўках ля самалётаў дзяжураць гатовыя да выканання задання лётчыкі. І вось у камандныя пункты сыходзяцца з усіх бакоў краіны кароткія тэлеграмы. «Авія»! Сіноптыкі дакладна вывяраюць, сумiруюць іх, яны вызначаюць беспамылковы прагноз надвор’я.

І тады настае старт. Ракочуць маторы, самалёты адрываюцца ад зямлі. Лётчыкі ўпэўнена вядуць паветраныя караблі, яны спакойны за свой шлях.

Як дакладна павінна працаваць сувязь. Як павінен ганарыцца тэлеграфіст, скарачаючы хоць на паўхвіліны тэрмін прахаджэння «авія»!

А я?

Варона...

*17 верасня*

Дзяжурыў раніцою. Нічога выдатнага, каб занатаваць...

Хаця — не! Пертэль. Нішто сабе слоўца?

Пертэль! Я адразу было і не здагадаўся. Прымаю службовую тэлеграму: «Ваш пертэль № 434 шыфр няправільны. Цвярдзіце». Што за пертэль? — задумаўся я. І тут з'явілася здагадка: пераказ па тэлеграфу. Пертэль! Неўміручая словатворчасць паштовага ведамства. Так і занатуем. Варта ўвагі і гэтае «цвярдзіце» — маўляў, «пацвярдзіце».

Тэлеграф наогул прыносіць у мову досыць арыгінальныя слоўныя звароты. Іншы раз і не зразумееш, навошта і дзеля чаго? Ёсць граматнае слова «тэлеграфіруйце», раптам з'яўляецца «тэлеграфце». Бывае часам, што і ўдалае, — ну, хоць бы «малніруйце». Але арыгінальней за ўсё, бадай, гэты гучны «пертэль».

Дарэчы, яшчэ адзін кур'ёз. Нейкі дырэктар райгандлю паведаміў свайму ўпаўнаважанаму: «вашу камандзіроўку пралангіруют пяць дзён». Здорава выходзіць: «пра-лан-гі-рую». Не простае камандзіровачнае пасведчанне, а міжнародны пакт!

Ну, хопіць. Час ісці на начное дзяжурства. Якім будзе яно... З кім (выбачайце, з чым) змагацца буду — са сном ці стомаю?

Турбуе чаканне гэтага адзінаборства, што так выматвае мае сілы. Ці ж мне было ісці ў тэлеграф?

*19 верасня*

Аддзяжурыў ноч, другую, і... нічога! Не змагаўся. Не было з кім. І сон не атакаваў мяне, і стома не падкрадвалася.

Адступілі? Абкружаюць? Рыхтуюць каверзу спадціха?

Бадай што не. З нязвычкі, відаць, усё гэта было. Уцягваюся ў работу, уваходжу, так сказаць, у форму.

Гэта пачынае радаваць мяне.

*21 верасня*

Скарачаючы дарогу, глухімі завулкамі ішоў я да ЦТ. З расхліснутага акна пахілага дамка, асеўшага пад цяжарам грамоздкай, уздутай пухіром (на купецка-ўральскі манер) страхі даляцелі да мяне гукі бравурнай музыкі. Патэфон. Што гэта? Ну, вядома, балеро. «Твае ружы квітнелі для мяне» — пазнаю я. І ў той жа міг балеро змяняецца размагнічаным танга «Твая песня чаруе мяне». Я прыскорваю хаду, імкліва павяртаю за рог завулка, але расхліснутае акно праследуе мяне «Пырскамі шампанскага».

У квітнеючых садах маёй радзімы — Беларусі — паламаны ружы, кволыя пялёсткі іх бязлітасна памяты, яны растаптаны цяжкім ботам. І не мілагучныя песні майго народа вольна льюцца з апаганеных садоў, — стогны знявечаных мацярок, праклёны дзяўчат, плач асіроцелых дзяцей клічуць да помсты. Гневам закіпае кроў, агнём гарыць сэрца. Не памятаю, як апынуўся я ў апаратнай.

— Авія!

— Авія!

— Авія! — чую з усіх бакоў.

Я пераводжу дыханне. Кідаюся да апарата і праз мінуту радасна абвяшчаю:

— Авія!

Я бачу — так, я бачу! — у чыстым блакітным паднябессі імчаць на захад ключы імклівых ястрабкоў, эскадрыллі магутных бамбавозаў. Я чую грозную і пераможную песню іх матораў! І гэта ўрачыстая песня хвалюе мяне. Гэта песня — для мяне!

Мне хочацца крыкнуць слаўным сокалам-лётчыкам:

— Ляціце, любыя, хутчэй! Нізрыньце свой смертаносны груз на галовы ворагаў маёй радзімы. Няхай льецца ракой і дыміць іх чорная, паганая кроў. Тлустай і ўрадлівай стане зямля. І ў знак ачышчэння і адраджэння яе ізноў у садах будуць квітнець духмяныя барвовыя ружы. Для мяне, для ўсяго народа — братоў маіх і сёстраў.

— Авія!

— Авія!

— Авія! — нясецца з усіх бакоў.

Які цудоўны сёння лётны дзень!

*23 верасня*

Здарылася тое, чаго я баяўся з першага дня маёй работы і чаго, здавалася мне, я шчасліва ўнікнуў.

Я збіў руку...

Пачаў я работаць у шпаркім тэмпе і быў здаволен, што змагу ісці на ўзроўні лепшых работнікаў.

І ў гэтым была мая памылка.

Сёння з раніцы я пачаў перадаваць тэлеграмы, спадзеючыся хутка ліквідаваць загрузку. Але мой партнёр, малады і слабы яшчэ работнік, не хацеў «завышацца», пусціць стружку пад стол, — ён хацеў прымаць услед.

— Давай цішэй, чаго трашчыш, — перабіў ён мяне.

Я паспрабаваў работаць павольней. Гэта мне давалася нялёгка. Кісць рукі ў мяне адвыкла ад ключа, яна яшчэ не разработалася, перамена тэмпу была ёй не пад сілу. Працяжнікі выходзілі няроўныя, літары неаднолькавыя памерам — то большыя, то меншыя. Адным словам, шрыфт агідны. Я стаў старацца, нерваваць. Раптам пачалі зрывацца кропкі, яны «віслі на слупах», як іранізуюць тэлеграфісты. Маю работу нельга было чытаць — я сам гэта бачыў на стужцы. Раззлаваны ўшчэнт, я вярнуўся да звычнага тэмпу, але... З літарамі А, В, П, Р, якія пачынаюцца кропкай, была тая ж гісторыя: кропкі «віслі на слупах». Даць гэтыя літары было пакутліва цяжка: я ўвесь сціскаўся, рука сутаргава ўздрыгвала, «нацэльваючыся» на кропку, а яна не заўсёды выходзіла, зрывалася, і я чытаў на стужцы нешта іншае, зусім непатрэбнае мне. Замест А на стужцы было Т, замест В — М, замест П — Г. Я ведаю, якая прыемнасць прымаць такую работу!

Трэба было даваць знак перабою, вяртацца на слова-два назад і — ізноў дрыжаць над злашчаснай кропкай. Мучыўся сам, мучыў партнёра...

Вось гэта і ёсць збіць руку — самая жахлівая прафесійная траўма марзіста, якая надоўга, а то і назаўсёды робіць яго калекам. Выправіць збітую руку можна толькі, прымусіўшы сябе работаць вельмі павольна, рытмічна (а галоўнае, спакойна, без гарачкі), надоўга забыўшы пра шпаркі тэмп. Не ўсім гэта ўдаецца, шмат хто назаўсёды траціць гладкасць і роўнасць шрыфту. Працяжнікі ў іх — розныя па велічыні нават у адной літары, кропкі неахайныя, часта зрываюцца.

Збіў руку і я. Гэтага са мной ніколі не здаралася. Я быў прыгнечан, настрой у мяне знік. Затаіўшы ў сабе крыўду (на каго ж, хаця!), пануры і злосны, прымаў я тэлеграмы. Я доўга ўчытваў-

ся ў невыразныя мясціны на стужцы, але партнёра майго стараўся не перабіваць. Са збітай рукой я траціў сваю перавагу над ім, слабым работнікам. Задзірацца не варта было... Гэта злашчаснае «зніжэнне» біла па маім самалюбстве. Адным словам, становішча не з вельмі прыемных.

І вось мяне прарвала. Дзіка, неразумна, страшэнна непрыгожа…

Напружана чытаючы невыразную работу майго партнёра, я раптам чую:

— Прабачце... Можна вас патурбаваць на хвіліну?

Падымаю галаву. Каля мяне стаіць дзяўчына з падстрыжанымі, колеру льну кудзеркамі. У яе руках пачка тэлеграм. Па пісьму бачу — мае.

— Калі ласка! — кажу ёй і выбіваю ключом «міг». Мой партнёр спыняе перадачу.

— Вось гэта ўваходзячыя тэлеграмы, — гаворыць дзяўчына, — а вы адрас напісалі не на месцы. Трэба ў правым верхнім кутку...

— Але вы ж ведаеце, што ўваходзячых бланак сёння няма, усе зрасходаваны. А гэта бланкі для праходзячых. Правы куток у іх разграфлён для адзнак аб далейшай перадачы.

— Вось тут і трэба было напісаць адрас. Між радкоў. Вы перапішыце, калі ласка.

Ці то маладосць і катэгарычнасць тону дзяўчыны з кудзеркамі зачапіла мяне, ці то прарвалася крыўда за збітую руку, але — груба і рэзка — я кінуў:

— Перапісваць мне няма часу, я заняты прыёмам! — і павярнуўся да апарата, паспеўшы заўважыць, праўда, здзіўленае неўразуменне ў вачах субяседніцы.

У наступную хвіліну я ўбачыў вузкую, амаль дзіцячую руку, якая паклала перада мной злашчасныя тэлеграмы. Я рэзка павярнуўся — дзяўчына была ўжо ля дзвярэй. Я схапіў тэлеграмы і шпурнуў іх у шчыліну, якая падзяляе два рады апаратаў, — на канвеер. Ля стала кантролю тэлеграмы павінны былі з'явіцца адначасова з самім строгім кантралёрам.

Не прамінула і пяці мінут, да мяне падыходзіць разносчыца — усё з тымі ж тэлеграмамі. Адрасы ў іх былі тлуста падкрэслены.

— Загадалі перапісаць! — сказала разносчыца і паклала тэлеграмы на мой стол.

Ах, «загадалі»?! Тэлеграмы накіраваліся па канвееры назад.

А яшчэ праз пяць мінут да мяне падышла сястрыца; яна сёння замяняла брыгадзіра, які быў выхадны.

— У чым справа, брацец? Калі дэпешу скласці, рассыльны

не будзе бачыць адрас... — пачала было яна.

— Я гэта ведаю, — перапыніў я, — але няма бланак, а перапісаць адрас мог і сам кантралёр. Куды менш часу пайшло б, чым на ўсе гэтыя хаджэнні.

— Кожны занят сваёй справай...

— Я перапісваць не буду! — ізноў адсек я.

І гэта пайшла, здзіўлена паківаўшы галавой.

Неўзабаве сястрыца вярнулася. Усё з тымі ж ненавіснымі мне тэлеграмамі. Я ледзь не выхапіў іх у яе з рук — скамячыць, падраць хацелася.

— Вось так, брацік?

Напісаны мною праз увесь бланк адрас быў сцёрты гумкай і выпісан нанова рукой Таццяны Сяргееўны ў правым верхнім кутку.

Я глядзеў на сястрыцу. Злосць і гнеў згаслі, мне было ўжо сорамна. На маю нацягненую ўсмешку яна таксама ўсміхнулася і з дакорам прамовіла:

— А я не думала, што вы такі, Леанід Сяргеевіч...

— Які такі?

— Злы і ўпарты. Насмерць перапалохалі ўсіх кантралёраў.

Жартавала яна ці насур'ёз сказала — усё адно мне было хоць скрозь зямлю праваліцца. Так усё гэта неразумна і агідна выйшла...

У канцы дзяжурства сястрыца абвясціла мне:

— Вас выклікаюць да начальніка эксплуатацыі.

Не было амбарасу...

Здаю дзяжурства і іду да начальства.

Начальнік эксплуатацыі ветліва сустракае мяне:

— Вось аддаём загад аб залічэнні вас тэлеграфістам-марзістам першага разраду.

Я здзіўлен. Ідучы сюды, я чакаў зусім не гэтага.

— А... іспыты? — не разумею я.

— Няма патрэбы. Працуеце вы добра, скаргаў на вас не было, наадварот — водгукі самыя пахвальныя.

Вось табе і маеш! А мой дзікі выбрык? А збітая рука?..

— У якую ж вас змену прызначыць? — задумваецца начальнік эксплуатацыі.

Мне не хацелася б пакінуць змену, дзе я ўжо маю прыяцеляў, не хочацца ізноў прызвычайвацца да новых людзей.

— А ці нельга застацца ў гэтай змене?

Тон маёй просьбы выклікае ўсмешку.

— Спадабалася? Ну, добра. І брыгадзір прасіў пакінуць вас

у яго. Атрымлівайце сталы пропуск і вось прачытайце і распішыцеся.

Ён падае мне аркушок паперы з вядомай мне формулай аб захаванні тэлеграфнай тайны. Чытаю, распісваюся.

Дык вось. Я тэлеграфіст... энскага Цэнтральнага тэлеграфа. Уласна, чым жа былі гэтыя мінулыя дванаццаць год? Перапынкам у працы? Досыць усё ж доўгі перапынак! А стаж, стаж? Страчан стаж!

Пацеха.

А дзянёк які! Не, не магу дараваць сабе. Гэтак ганебна выскачыць з рамак... Трэба трымаць сябе ў руках.

*24 верасня*

— Ну, — сказаў сёння раніцаю брыгадзір, — калі вы ўжо сапраўдны тэлеграфіст, атрымлівайце і сталы апарат. Уступайце на Марцьянава.

Падыходжу да новага, нарэшце сталага рабочага месца. Аглядваюся: з правага боку — Таццяна Сяргееўна, проста перада мной, за шклом Міхаіл Мікалаевіч, мой кампаньён па курылцы. Прыемнае мне суседства прыяцеляў.

На лініі дзве станцыі, Марцьянава і Бор.

Выклікаю Бор, прапаную дэпешы.

— Хто робіць? — стрэчнае пытанне.

— Новы чалавек, незнаёмы, — ухіляюся я ад простага адказу.

— А хто, як прозвішча? — налягае Бор.

Прыходзіцца назваць сябе.

— Не ведаю такой. Ну, добра. А я Ніна Ашчэпкава. У мяне шыфроўка.

— Змяню стужку.

— Падрыхтавалася, мілка? — пытаецца мая новая знаёмая праз пару мінут.

— Падрыхтаваўся, — адказваю.

— Ты хто, ён ці яна? — ізноў пытанне цікаўнай знаёма-незнаёмкі, — безасабовы канчатак майго прозвішча блытае яе.

— Ён, — кажу.

— Ну, усё адно, — рэзонна адказвае Ніна. — Робім.

— Робім.

Я прымаю шыфроўку і здаю яе разам са стужкай у аддзел асабліва важных дэпеш. Пачынаю перадачу. Работаю роўна і павольна. Але над кропкамі дрыжу. Нялёгка будзе мне выправіць

збітую руку...

З цікавасцю ўчытваюся ў змест тэлеграм — гэта ж «мая» лінія! Пад канец дзяжурства я ўжо ў асноўным знаём з эканомікай раёнаў Марцьянава і Бор. Марцьянава — вугальны раён, Бор — пераважна сельскагаспадарчы, але мае і пару металаапрацоўчых заводаў — тыповы для Урала комплекс. І ў Марцьянаве, і ў Боры спешкава манціруюцца эвакуіраваныя з прыфрантавой паласы заводы, папаўняючы мясцовую прамысловую базу. Шмат тэлеграм гаворыць аб новых, абаронных, заданнях. Дэпешы адказныя, лінія, значыць, сур'ёзная.

Здаю дзяжурства. Падлічваю: перадаў 48 тэлеграм, прыняў 56. Да змены расшыў апарат — усе начныя рэшткі ліквідаваны.

Нядрэнна! Я здаволен сабой.

*27 верасня*

Выявілася, — тэлеграф вельмі карысны ў справе паднаўлення ведаў геаграфіі сваёй радзімы. Куды, куды толькі не ідуць тэлеграмы, гэтыя вестуны шчасця і гора, радасці і смутку. Нябачнымі ніцямі звязвае тэлеграф самыя аддаленыя канцы краіны — ад Камчаткі да Ленінграда, ад Харога да мыса Жадання.

Колькі даўно забытых геаграфічных найменняў ажыло ў маёй памяці за гэтыя дні.

Працуючы на тэлеграфе, можна зусім нечакана атрымаць шмат карысных ведаў. Хіба не карысна, да прыкладу, даведацца, што ў Саратаве ёсць Карысны завулак?!

*30 верасня*

Нагрузка лініі — ды не толькі маёй — расце. Начны зацішак даваў магчымасць разгружаць лініі сувязі, а ў апошні час не тое: амаль заўсёды ранішняя змена знаходзіць на апараце па 30–40, а то і больш неперададаных тэлеграм, ды блізка таго бывае і на кожным лінейным пункце. Работа ідзе ў напружаным тэмпе круглыя суткі. Не паспееш агледзецца, як прамінаюць гадзіны дзяжурства.

У канцы работы адчуваеш стому, але гэта не тая стома, што так уразіла мяне тады. Гэта стома прыемная: здаволен сабой, сваёй работай, бачыш яе карысць. Бо кожная тэлеграма, перададзеная на гадзіну-дзве хутчэй, — гэта на дзве гадзіны хутчэй дастаўленая дырэктыва, на дзве гадзіны раней вырашанае складанае пытанне працы абароннага прадпрыемства, гэта — своечасова атрыманае баявое заданне. І я не схлушу, калі скажу, што гэта — лішні снарад, лішняя міна, лішняя кулямётная чарга.

Але — ці «лішняя»?!

І калі я садзейнічаў такой лішняй плаўцы металу, значыць, гарачай сталлю заліта яшчэ не адна прагная звярыная глотка гітлераўскага бандыта.

І я ганаруся сваёй працай, я адчуваю, амаль на вагу і зрок, яе каштоўнасць. Гэта, вядома, не мае бахвальства. Я бачу, як таварышы па рабоце поўняцца пачуццём законнага гонару за сваю працу, непрыкметную, але патрэбную радзіме працу.

У працы забываеш і пра некаторыя свае асабістыя справы. Калі бачыш перад сабой важныя тэлеграмы, бывае, адмовішся ад абедзеннага перапынку. Што з таго калі паабедаеш на 3–4 гадзіны пазней, — важней, каб тэлеграмы былі дастаўлены ў тэрмін.

А вось з перакуркай горш... Ды і тут можна прыстасавацца. Заявіць партнёр па рабоце «стужка ўся» — і бяжыш пакурыць. Пакуль ён спіша з істужкі ды зменіць яе, мінуты 3–4 у маім распараджэнні. Але — разладзілася мая курыцельная дружба з Міхаілам Мікалаевічам — ходзім курыць па адным.

— Курыў, Міхаіл Мікалаевіч? — падымаюся я да шкла, што разгароджвае нас.

— Не ўдалося пакуль! — смяецца ён.

— А я разок управіўся.

— Даганю!

І вось заўважыў я за Міхаілам Мікалаевічам адну асаблівасць. Толькі прыйдзе з перакуркі, сядзе за апарат, і я неўзабаве чую яго голас:

— Авія!

Прыгледзеўся я. Усё зразумела. Міхаіл Мікалаевіч ходзіць курыць перад самым прыёмам «авія». Тут бы, здаецца, сядзець ды пільнаваць, а ён ідзе курыць. Ясна. Міхаіл Мікалаевіч падупаў «хваробе» шмат якіх старых тэлеграфістаў: ён сустракае адказны момант работы лоб у лоб. Гэта можна было б назваць любоўю да моцных адчуванняў. Але гэта не тое. Гэта дае сябе знаць шматгадовая напружаная і нервовая работа, так характэрная для тэлеграфа. Носьбіт гэтай «хваробы» любіць нервовае ўзрушэнне, ён адчувае асалоду ад разлічанай, да секунды выверанай дакладнасці. Гэта — як зацяжка добрай папяросай. Я ведаю (і я праверыў гэта): толькі падыходзіць Міхаіл Мікалаевіч да апарата, ён чуе першы гук выкліку на прыём «авія». Ён здаволены.

І я ўспамінаю. У мяне быў старшы па змене тэлеграфіст (так на чыгунцы называлі брыгадзіраў). І не было выпадку, каб ён прыйшоў на дзяжурства хоць бы на хвіліну раней або пазней

вызначанага часу. Разлягаўся першы густы ўдар насценнага гадзінніка, і яму ўторвалі рыпеннем шырока расхліснутыя дзверы — у тэлеграф уваходзіў мой старшы па змене. Ён даставаў з кішэні гадзіннік і здаволена ўсміхаўся: ён быў дакладны, як гадзіннік, — гадзіннік быў дакладны, як ён.

Ведаў я і другога аматара моцных адчуванняў. Памятаю і прозвішча яго — Біруля. Ён быў дзяжурным па станцыі. Пажылы, флегматычны чалавек.

Вось з уваходнага стрэлачнага паста паведамляюць аб набліжэнні поезда.

— Добра... — спакойна адказвае Біруля.

Ён павольна дастае партсігар, бярэ папяросу, падыходзіць да печкі і, прыхіліўшыся да яе, курыць. Вочы яго нічога не выяўляюць, ён як быццам паглынут далёкімі ад навакольнай рэчаіснасці думкамі, ён абыякавы да ўсяго.

Чуцен ужо гул поезда. Нарастаючы, гул гэты пераходзіць у выразнае грыменне колаў, ужо можна адрозніць парывістае, напружанае дыханне паравоза.

Ніяк не зменьваючы выразу твару, Біруля роўным крокам падыходзіць да стала, бярэ прымацаванае да абруча жазло і выходзіць на платформу. Плаўным рухам рукі кінуўшы недакурак у урну, ён тым жа мерным крокам ідзе па платформе да каляі. Калі паравоз раўняецца з асфальтаванай дарожкай, што вядзе ад вакзала, Біруля робіць па ёй апошні крок і адначасова ўзнімае ўгору абруч з жазлом. У абруч праходзіць працягнутая наперад рука машыніста.

Праз секунду разлягаецца гудок паравоза — поезд праследаваў станцыю з ходу. І машыніст, і паравоз, і дзяжурны па станцыі, і абруч з жазлом — усё зработала, як дакладнейшы механізм.

Рытмічна грымяць колы вагонаў, перагукваючыся аб сваім, ім адным зразумелым, а ля краю асфальтаванай дарожкі стаіць, як манумент, спакойны і знешне абыякавы да ўсяго дзяжурны па станцыі. А ў душы яго, я ведаю, музыка. Уздымная, лагодзячая напружаныя да грані нервы. І стукат колаў — як згодны і суладжаны акампанемент гэтаму гімну дакладнасці.

— Вы доўга працавалі тэлеграфістам? — спытаўся я неяк у гэтага «аматара моцных адчуванняў».

— Так. Дваццаць год, — адказаў ён. — А што?

— Ды так. Проста пацікавіўся, — ухіліўся я ад адказу, не хочучы раскрываць сакрэт і, можа, зрабіць непрыемнасць старому. Таму што ўсе гэтыя аматары нервовых узрушэнняў неах-

вотна прызнаюцца ў сваёй хваробе.

Так. Калі Міхаіл Мікалаевіч вяртаецца з перакуркі, я гляджу на гадзіннік: а ці не надышоў час прыёму «авія»? І амаль заўсёды гэта так і бывае.

*2 кастрычніка*

Дзяўчына з КСА (кантрольна-сарціровачны аддзел) часта з'яўляецца ў клопфернай. То лік слоў у тэлеграме няправільны, то адрас недакладны, то напісаны тэлеграмы невыразна — ды ці мала спраў у кантралёра? Аднак Лянок (мне прыгадалася па асацыяцыі жартаўлівая песенька «Ох, і сеяла Ульяніца лянок», і так я ў думках называю кантралёра за колер яе валасоў) не падыходзіць да мяне, хоць ёй і патрэбны часам даведкі і па маіх тэлеграмах. Яна звычайна звяртаецца да Таццяны Сяргееўны, і тая высвятляе непаразуменні, прадстаўляючы такім чынам маю асобу ў зносінах з КСА.

— Яна баіцца вас! — кідае сястрыца пасля аднаго з наведванняў кантралёра.

І мне ізноў сорамна за мой бястактны, недаравальны выбрык. Не, так нельга. Трэба выправіць становішча.

Неяк я прымаў ад Бора пераказную тэлеграму. І сутыкнуўся з арыгінальным скажэннем: у адрасе тэлеграмы было «Нікель Чаркаскі Куйбышаўскай вобласці». Так, звычныя да рознай металургічнай тэрміналогіі, мае ўральскія калегі перайменавалі Кіпель Чаркаскі. Я пасмяяўся і пры зваротнай перадачы дэпешы (на грашовыя пераказы квітанцыя ў прыёме даецца поўным паўторам зместу) даў правільнае найменне. Ніна Ашчэпкава паправіла мяне. Пачаліся спрэчкі.

— Ты, мілка (Ніна ўсё яшчэ не можа прызвычаіцца, што я не мілка. Дарэчы, хто ж я — мілок, ці што?), не дурыся. Як напісана, так і даю. А ты так і пішы. То яшчэ грамацей на маю галаву знайшоўся. Не люблю з табой дзяжурыць.

Гэткая шчырасць пацешыла мяне.

Не ведаю, ці доўга спрачаліся б мы, але не хочучы марнаваць дарэмна часу, я знайшоў найбольш пераканаўчы аргумент:

— Ды ў мяне ў гэтым самым Кіпелі прыяцель жыве. Мы з ім перапісваемся.

— Ну, добра. Наблытаеш — твой адказ, — здалася мілка.

— Згодзен.

Спрэчкі спыніліся. Хацеў было я апусціць дэпешу на канвеер і — затрымаўся. Іду ў КСА.

— Даруйце, — звярнуўся я да дзяўчыны з кудзеркамі. Яна

ўздрыгнула ад нечаканасці, і ў вачах яе мільгнуў спалох. — Будзьце ласкавы, пасадзейнічайце, пасабіце разабрацца... — і я расказаў ёй сутнасць справы.

— Калі ласка, — холадна прагучаў адказ.

Лянок узяла велізарны, як царкоўная Біблія, даведнік. Мы разам гарталі яго, і я расказваў ёй пра кур'ёзныя скажэнні тэлеграм (маскоўскае шасэ Энтузіястаў тая ж Ніна Ашчэпкава перайменавала аднойчы ў масе Эмпузістаў, — ды ці мала бывае кур'ёзу!). Урэшце мне нават удалося рассмяшыць строгага кантралёра.

Зразумела, ніякага Нікеля Чаркаскага ў тэлеграфнай бібліі не знайшлося. Я быў управах.

Карыстаючыся тым жа трафарэтам далікатнасці, дзякую за паслугу. У вачах кантралёра я не бачу ні сполаху, ні халоднай абыякавасці.

Не прайшло і гадзіны, як я быў пакараны за сваю вандроўку ў КСА.

У адной з уваходзячых тэлеграм колькасць слоў была падлічана няправільна. Высветліўшы з Борам (ізноў Бор!) дакладны лік, я звычным, механічным рухам апусціў тэлеграму на канвеер. Наступным, ужо асэнсаваным рухам было — выхапіць тэлеграму назад. Але — позна. Я кінуўся да павароту канвеера, дзе пас яго ідзе па адкрытым жолабе, — тэлеграма на маіх вачах схавалася ў праёме сцяны. А лік слоў у ёй не выпраўлены... Рвануўся ісці ў КСА, але... што магла падумаць Лянок? Вядома, мой прыход яна зразумее як неразумную навязчывасць. І я не пайшоў, апраўдваючы сябе толькі тым, што ўваходзячая тэлеграма закончыла свой шлях і няправільна напісаны лік слоў так не адаб'ецца на яе руху. Аднак жа мне было прыкра. «Так табе і трэба», — казаў я сабе.

Прамінула пяць мінут, дзесяць, раптам чую:

— Можна вас патурбаваць на хвіліну?

Каля мяне стаіць Лянок.

— Вось... Лік слоў...

— Ах! — як мага натуральней спахапіўся я. — Гэта ўжо мая прамашка, — і я паказваю журнал, дзе лік слоў запісан быў правільна, бяру тэлеграму і спраўляю.

— Дзякую.

Лянок адыходзіць. Сястрыца, здаецца мне, хітравата ўсміхаецца. Чаму? Яна ж не ведае, што я сёння выпраўляў сваю памылку — хадзіў да кантралёра.

*5 кастрычніка*

Работа наша (ужо і «наша» — нібыта я найсапраўднейшы сувязіст) патрабуе вялікай сканцэнтраванасці. Кожны занят сваёй справай. Часам толькі перакінуцца суседзі кароткай фразай — з прычыны ўзнікшага ў рабоце сумнення, непаразумення. І ізноў толькі характэрная трасканіна апаратаў, заглушаная сям-там больш чутным і рэзкім гукам клопфера.

А часам гучнае:

— Маланка!

— Урадавая!

— Авія!

Гэта ўсё дэпешы, якія трэба неадкладна дастаўляць на другія апараты для далейшай перадачы. Іх нельга кідаць на канвеер.

Калі між радамі апаратаў ходзіць разносчык, ён адразу ж спыняе размеркаванне тэлеграм і кідаецца на голас, нясе «маланку» на сарціроўку, па дарозе прыклеіўшы да ражка яе палоску са стужкі — своеасаблівую сігналку, — каб тэлеграма не згубілася сярод іншых, звычайных. Калі няма разносчыка, на дапамогу прыходзіць хто-небудзь з вольных якраз ад работы таварышаў.

А калі ўсе заняты?

Тады пачынаецца аднастайнае і нуднае:

— Маланка...

— Маланка...

— Маланка...

Ёсць досыць вытрыманыя таварышы, якія гатовы разоў 15 галасіць «маланка», ператвараючы гэта галашэнне ў SOS тонучага карабля. Мяне гэтыя воклічы аб дапамозе проста злуюць. Прыняўшы «маланку», я яшчэ раз прабягаю яе вачамі, калі яна прыватная і пусцяковая, я прыклейваю да яе сігналку (у мяне і баначка з клеем на стале стаіць) і кідаю на канвеер. Мой голас у хоры галосячых удзелу не бярэ.

— Што гэта ў цябе «маланак» не бывае? — спытаў неяк у мяне Міхаіл Мікалаевіч.

— Бываюць. І не менш, чым у цябе, — і я кажу яму аб сваёй нялюбасці да нуднага галашэння.

Ён смяецца.

— Ну, а «авія»?

— «Авія»? Іх не так ужо і шмат, — кажу я. — Занесці «авія» на сарціроўку самому — небагата часу патрэбна. А мацыён нашаму брату тэлеграфісту не шкодзіць, — дадаю я. — Хоць бы і на паўмінуты. Разамнешся, кроў хутчэй цыркуліруе, і работа

спрытней ідзе.

— Гэта ты правільна...

У размову ўступіла сястрыца:

— А ў нас адзін час фіззарадка была ўведзена перад дзяжурствам. Пацеха!

— Як сказаць... — задумваецца Міхаіл Мікалаевіч. — Перад дзяжурствам яно, можа, і не варта, а вось гадзінкі праз тры пасля пачатку работы ў чахарду пагуляць не шкодзіла б...

Таццяна Сяргееўна пільна глядзіць на Міхаіла Мікалаевіча і раптам раската, вірліва смяецца. Яна ўявіла сабе строгага і самавітага лорда скачучым у чахарду між апаратамі.

Гэта сапраўды смешна!

*8 кастрычніка*

Ангел Гаўрылавіч Архангельскі.

Нішто сабе, га?

Гэта — адрасат адной з прынятых мною тэлеграм. Так і патыхнула на мяне ладанам і перагарам васковых свечак. Патомственная духоўная асоба, трэба думаць.

І захаваўся ж такі анахранізм!

А вось іншае. Роо. Прозвішча такое. Вельмі мне спадабалася. Басовая актава — Ро-о-о...

Эстонскае, ці што?

*11 кастрычніка*

Спяшаюся на абед, разлічваючы выперадзіць магчымую чаргу і, выгадаўшы пару-другую мінут, скараціць перапынак у рабоце.

Па лесвіцы, на два маршы ніжэй мяне, таропкі тупат абцасаў. Ззаду ляскаюць дзверы. З пляцоўкі ў праём лесвічнай клеткі ляціць звонкае:

— Лянок!

Тупат наперадзе сціхае.

Лянок? Што такое?! Я ж нікому не казаў...

Машынальна павяртаюся — мяне абганяе механік радыёапаратнай. З павароткі бачу ўнізе знаёмыя кудзеркі.

«Лянок... Лена... Елена», — здагадваюся я. Якое дзіўнае супадзенне!

Механік дагнаў кантралёра, і яны пайшлі побач, узяўшыся за рукі, як двое свавольных дзяцей, жвава аб чымсьці гутарачы.

Мяне даганяе Міхаіл Мікалаевіч. І мы ідзём побач. Ён дабратліва, з хітрынкай у вачах гаворыць:

— Маладосць! Маладажоны... — і заканчвае сваю думку неакрэсленым жэстам, маўляў: «Што ты скажаш? Іхняя пара!»

Маладажоны. А я хацеў жартаваць з ёй, як з прыгожым дзіцянём!

*12 кастрычніка*

«Каменны пояс» — так у далёкім мінулым называлі Урал першыя даследчыкі прастораў зямлі рускай. Яны і не падазравалі, што тоіць у сабе гэты, што так здзівіў іх сваёй працягласцю, гіганцкі пояс неабдымнай краіны.

«Арсенал дзяржавы Расійскай і скарбніца каштоўных аздобаў яго», — так казалі пазней дапытлівыя геолагі, здзіўленыя багаццямі нетраў адзінага ў свеце, загадкавага і адмысловага стварэння прыроды.

Але яны не маглі прадбачыць выключнай ролі Урала ў пераўтварэнні адсталай Расіі.

Толькі сацыялістычная наша дзяржава здолела па-гаспадарску скарыстаць незлічоныя багацці Урала — выкрыць іх, падняць з нетраў і павярнуць на ўмацаванне магутнасці краіны, на яе росквіт. І кожны новы дзень паказвае, якой шчодрай была прырода, заклаўшы на Урале невычэрпныя багацці. І колькі яшчэ тоіць ён у сабе нязведанага!

Кожны дзень дае новыя знаходкі.

Часам я хаджу на «базу» КСА. Корпаюся там, шукаю неабходных для даведак дэпеш. І колькі бачу я дэпеш аб новых, самых нечаканых знаходках.

Самыя рэдкія металы, у сплавах з якімі сталь набывае несакрушальную цвёрдасць, непрабойнасць, каштоўныя каляровыя металы, якія патрэбны для ўсіх відаў узбраення, знойдзеныя за гэтыя дні ў самых розных пунктах цудоўнага «каменнага пояса». Новыя россыпы каштоўных каменняў. Але ж гэта не проста зіхатлівыя бразготкі! Гэта — дэталі найдакладнейшых прылад, механізмаў, якія скарыстоўваюцца ў барацьбе з ворагам! Так, у нашы дні Урал — адзіны ў свеце арсенал, які дае ўсё, літаральна ўсё неабходнае для ўзбраення краіны.

Сёння Міхаіл Мікалаевіч пастукаў алоўкам па шклу. Гляджу — прасоўвае над канвеерам тэлеграму: чытай! — маўляў.

Чытаю. У глухой мансійскай вёсцы сяляне знайшлі рэдкую гліну. Ведаючы, што ў нашай краіне нішто не ляжыць марна, яны паказалі сваю знаходку мясцоваму спецыялісту — настаўніку сярэдняй школы. Па думцы настаўніка, гэта — шамотная гліна. А недалёка — завод, ён варыць сталь. Шамотную цэглу для домнаў дастаўляюць яму паяздамі. А вагоны патрэбны для

падвозкі боеприпасаў фронту. Усё ўзважылі і ўлічылі гэтыя следапыты-патрыёты. Яны паведамлялі аб сваёй знаходцы Уральскаму філіялу Акадэміі навук.

— Ну як? — красамоўным рухам галавы пытаецца Міхаіл Мікалаевіч. І працягвае руку — ён хоча сам апусціць дэпешу на канвеер.

«Як? Выдатна. Дзівосна!» — мімікай выказваю я сваё захапленне.

Міхаіл Мікалаевіч асцярожна апускае дэпешу на канвеер.

У канцы дзяжурства я пастукаўся да майго прыяцеля. Таксама працягнуў яму дэпешу. У Боры ёсць алюмініевы камбінат. Калектыў рабочых, ведаючы, што краіне патрэбны дзесяткі тысяч баявых самалётаў, падвоіў здабычу алюмінію. Размешчаныя паблізу камбіната баксітавыя капальні ўжо не задавольвалі яго патрэбнасці сваім звужаным фронтам здабычы, яны лімітавалі магчымасці электралітных цэхаў. Як быць? Прывозіць руду здалёк? Не! І тут знайшліся следапыты. Толькі былі яны больш узброеныя, чым мансі з глухой вёскі. Яны пайшлі па адгалінеННях эксплуатуемых месцанараджэнняў баксітаў і за дзевяць кіламетраў знайшлі новыя, яшчэ больш багатыя. Вывады былі зроблены на месцы: у вольны ад работы час рабочыя камбіната ішлі ў поле і браліся за нязвыклую для іх работу. За кароткі час яны праклалі сем кіламетраў чыгуначнай каляі да новай капальні. Хутка будзе гатова ўся каляя. Кіраўніцтва камбіната патрабавала вызначыць яму паравоз для падвозкі руды.

— Ну, як? — пытаюся я ў Міхаіла Мікалаевіча.

— Здорава! Слаўна! — чую прыглушанае шклом.

То-та, што здорава.

*14 кастрычніка*

Пасля начнога дзяжурства сёння быў зменны сход. Адно пытанне разглядалася толькі. Непрыемнае, праўда. Наша змена адстае. На Бадо і Юза не выконваецца заданне па апрацоўцы тэлеграм. Несамавітыя справы і ў клопфернай. Часта бываюць выпадкі, калі мы не спраўляемся з прыёмам і тэлеграмы прыходзяць поштай. Ганьба!

Дакладвала дыспетчар Наркамата сувязі. Прыгадвала рад лічбаў. Перш аб перадавіках, потым аб адстаючых. Раптам назвала маё прозвішча.

— Ён у вас клапферыст першага разраду.

— Марзіст!

— Марзіст! — паправілі з месц.

— Ну, марзіст. Няхай так. А заданне выконвае толькі на 85 працэнтаў.

Сястрыца памыкаецца нешта сказаць. Відаць, апраўдваць мяне хоча. Я бяру яе за руку:

— Спакойна, Таццяна Сяргееўна.

— Ды яна не ведае...

Яна, канешне, не ведае, што я — навічок з дванаццацігадовым перапынкам у рабоце, яна не ведае і таго, што я збіў руку. Апошнім я, праўда, не хваліўся і сястрыцы.

— Не трэба! — кажу я. — Яна ўправах...

— Дык як жа...

Я сціскаю мацней яе руку. На нас пачынаюць азірацца. Сястрыца нездаволена хмурыцца і адварочваецца ад мяне.

Так. Наконт задання трэба падумаць. Першаразраднік і — у хвасце!

Я не прывык быць горшым.

*17 кастрычніка*

Як дамагчыся выканання нормы? Над гэтым я задумаўся сур'ёзна. Выкананне нормы — гэта павелічэнне апрацоўкі тэлеграфнай карэспандэнцыі, гэта не толькі своечасовая перадача, але і рост колькасці прынятых тэлеграм. А гэта таксама неабходна: Бор не спраўляецца з работай і штодзённа прысылае поштай 50, а то і больш тэлеграм. Праўда, поштай ідуць спецыяльна адабраныя, не спешныя тэлеграмы, але якая ж гэта тэлеграма, калі яна, хоць і частку свайго шляху, ідзе нароўні з пісьмом!

Аб паскарэнні тэмпу работы гаварыць не прыходзіцца. Вядома, справа ў мяне ідзе на папраўку. Работаючы павальней, плаўна, я не нацэльваюся так сутаргава на кропку ў пачатку літары, як яшчэ некалькі дзён назад. Але нельга фарсіраваць працэсу выздараўлення. Сарвацца і зрабіцца назаўсёды калекам я не хачу.

Прыглядаюся. Шукаю. І знаходжу рад дробязей, кожная з якіх дапаможа мне выгадаць мінуты. А з мінут, як вядома, складаюцца гадзіны.

Стаўлю сабе законам: мець два-тры заточаныя алоўкі, а не адзін, — не буду траціць часу на заточку ў часе працы.

Заступаючы на дзяжурства, забяспечыць сябе запасам бланак. Адначасова наліць фарбай чарніліцу апарата, — менш будзе затрымак у часе работы.

Прымаючы дэпешы, не хапаць пачак бланак — то ўваходзячых, то праходзячых, а, адарваўшы па штук дваццаць тых і другіх,

скласці разам, тварам наверх. Тады — толькі пераварочвай гэты здвоены пачак — не будзе лішніх рухаў.

Вось дробязі. Гэтыя знойдзены. Знойдуцца і іншыя.

*19 кастрычніка*

Пазаўчора прыбыло поштай 45 тэлеграм. Учора я змяніў сістэму работы з Борам. Правілы тэлеграфнай эксплуатацыі рэкамендуюць весці абмен па адной тэлеграме: адну прыняў, адну перадаў. Гэта нязручна. Адбірае час хоць бы на ўмоўныя НП і ПО. Звычайна, па ўзаемнай дамоўленасці, абмен праводзіцца па пяць або нават па дзесяць тэлеграм. Так я работаю з Марцьянавам. Там добрыя работнікі, і сістэма «па дзесяць» паскорвае апрацоўку, значыць — больш можна зрабіць за паўгадзінны сеанс. Марцьянава ні разу не прыслала тэлеграм поштай.

У Боры работнікі слабыя. Ніна Ашчэпкава стараецца больш перадаць і менш прыняць. Яна і спрачаецца, як мастак, — знойдзе дваццаць прычын, каб адмовіцца ад прыёму. А вынік? Ніякага. І прыме мала, і перадасць не шмат. Спрэчкі з’ядаюць шмат часу. Усе намаганні мілкі гінуць марна.

Паспрабаваў я работаць з Нінай па пяць. Нічога, выходзіць. Не трэба толькі зачэпліваць самалюбства ўпартай дзяўчыны. Стараюся размаўляць з ёй, як з роўнай, нічым не выпінаючы сваёй перавагі. Гэта, бачу, ільсціць ёй. У канцы дзяжурства я, нібы ненарокам, кажу:

— А добра працавалася сёння, Ніна.

— Ага. Добра. Мне падабаецца ўжо з табой рабіць, мілок.

То-та. Ну, вядома, я — мілок!

Адначасова я, нарэшце, ліквідаваў пытанне аб бораўскіх «маланках». Галоўная цяжкасць яго была ў тым, што тут я ішоў супраць правілаў. Бачыў я: жыццё абвяргае правіла аб «маланках», выяўляе ўсю яго негрунтоўнасць у ваенных абставінах.

«Маланка», незалежна ад яе зместу, толькі таму, што за яе кліентам заплочана значна больш, чым за звычайную тэлеграму, перадаецца без чаргі, без графіка. Работаю я з Марцьянавам, дэпешы ў нас сур’ёзныя і спешныя па зместу, але вось урываецца Бор:

— Маланка, — гаворыць Ніна Ашчэпкава.

І мы павінны спыніць абмен, я мушу прымаць «маланку» ад Бора. Усё б яшчэ нічога, але звычайна пачынаюцца доўгія і бязглуздыя спрэчкі.

— Я канчаю перадачу, — гаворыць Марцьянава.

— У мяне маланка, — ізноў перабівае Бор.

— Ды ты чытай, у мяне важная, — не здаецца Марцьянава.

— Не дурыся. «Маланка», — налягае Ніна.

— Дай хоць скончыць дэпешу, — увязваюся ў спрэчкі я, не хочучы адкладваць убок пачаты бланк, парушаць чарговасць нумарацыі бланак у журнале.

— Не ведаеш правіл? Пакліч брыга (брыгадзіра), — страшыць Бор.

І так мінут пяць і больш цягнецца дурная перапалка. А за дзяжурства яна паўтараецца разоў восем. Колькі ж часу траціцца марна?

Я ўчора зрабіў інакш. Калі ўварваўся Бор і заявіў «маланка», я адразу ж прыняў яе. Дэпеша была пусцяковая: «Калі маеш пісьмы Тосі, перашлі мне. Соня». Падумаеш, якая спешка! Нічога не станецца, калі прыйдзе гэта дэпеша на гадзіну пазней. А перадачай яе адсунуты звычайныя дэпешы, якія вызначаюць заводам новую, павышаную праграму выпуску прадукцыі. Тут ужо кожная гадзіна каштоўна!

Прыйшла мая чарга работы з Борам. Перадаў я Ніне такую вось тэлеграму і пытаюся:

— Скажы, мілка, якая дэпеша важней: твая «маланка» ці гэта?

— Гэта, — гаворыць.

— А якую раней трэба перадаць?

— Ды адчапіся ты, — зразумела мэту майго запытання Ашчэпкава.

— Ну, а ты ўсё ж скажы, — не адступаюся я.

— У мяне была «маланка», — ухіляецца яна ад простага адказу.

— «Маланка, маланка». Што ты так баішся гэтага слова! Ты тэкст чытай і сама мяркуй.

— Буду я меркаваць, дык мне ж і нагарыць потым за затрымку.

— А ты не бойся, і не нагарыць, — падбадзёрваю я Ніну. — Вось у мяне чатыры «маланкі» такіх, як у цябе, ляжыць, а я іх перадам толькі ў канцы сеанса. Не будзеш спрачацца, і яны хутчэй дойдуць да адрасата.

— Жартуеш, — сумняваецца Ніна.

— А вось паглядзіш, — і я даю ўзапар некалькі звычайных, але важных тэлеграм, а ў канцы — чатыры пусцяковыя «маланкі».

Прыклад быў, відаць, пераканаўчы.

Ніна больш не перашкаджала мне работаць з Марцьянавам. «Маланкі» яна перадавала ў свой сеанс, хоць і ў самым пачатку

яго. Першы крок быў зроблен. Работа ішла спрытней, без бязглуздых спрэчак.

Я ўрачыставаў, калі пачаў запісваць абмен на чацвёртай старонцы журнала. Звычайна запісы мае змяшчаліся на трох старонках. Пазіраў на гадзіннік, чакаў змены. Вось і час яе надышоў. Чатыры поўныя старонкі! Падлічваю колькасць перапрацаваных слоў — 96 працэнтаў нормы. То-та ж!

*20 кастрычніка*

У мансійскую вёску выязджала экспертыза Акадэміі навук. Вясковыя следапыты не памыліліся: яны знайшлі шамот. Пачынаецца разработка. Міхаіл Мікалаевіч урачыстуе.

А мне пахваліцца няма чым... Паравоз у Бор яшчэ не дастаўлен, хоць і быў напамінак дырэкцыі камбіната.

*21 кастрычніка*

Крыкнем, Леанід Сяргеевіч (ну, нягучна, хоць бы нават самі сабе), ура! Выпрацавалі сёння 104 працэнты нормы. Малайцы мы.

А выправім руку — і не тое будзе.

*23 кастрычніка*

Работаў шпарчэй. Нічога. Выходзіць. Рука ўпэўненая, цвёрдая. Кропкі выразныя, усе на месцы.

112 працэнтаў.

*24 кастрычніка*

Яшчэ смялей паскорваю тэмп. Ніна Ашчэпкава крытычна ацэньвае «маланкі», глядзіць не на магічны штамп, а на сутнасць справы. Малайчына, мілка! Дарэчы, з Бора, гаворыць мой брыг, учора прыйшло поштай толькі 25 тэлеграм.

*25 кастрычніка*

Яшчэ адна «маланка» пайшла сёння з Бора ў Глаўк. Наконт паравоза для падвозкі баксітаў. Каляя пракладзена, думпкары ёсць. Але самі яны па рэйках не бегаюць. А электралітны цэх не загружан. Колькі самалётаў трацім мы...

Рыб'я кроў, напэўна, у работнікаў Глаўка!

*26 кастрычніка*

Усё ў парадку. З Бора няма поштатэлеграм, усё ідзе па дроце. Я выпрацаваў 123 працэнты нормы.

*27 кастрычніка*

— А ці нельга хутчэй? — такім пытаннем агарошыла мяне сёння Марцьянава.

Звычайна лінейныя пункты патрабуюць павольнай перадачы. І раптам...

З Марцьянавам у мяне няма адзінай змены: адна з тамашніх тэлеграфістак мае грудное дзіця і ўначы не дзяжурыць. У Марцьянаве нейкі складаны графік дзяжурстваў — ніколі не ведаеш, з кім ты сёння будзеш работаць.

Хто ж гэта так расхрабрыўся там сёння!

— Чаму? — пытаюся я.

— Ды вы раней работалі павольна, пачалі работаць шпарчэй. А яшчэ шпарчэй не можаце?

Значыць, мяне гэты храбрэц ведае. Яго пытанне здалося мне падкопам.

— Магу, — уваходжу я ў раж. І думаю: «Я ж табе пакажу!» Пачынаю работаць шпарчэй, як запраўскі сыпач. «Заш’ешся, галубок!» — прадчуваю я сваю ўрачыстасць. Канчаю перадаваць пяты пераказ і кажу — «звычайныя», але мяне перабіваюць:

— Квіт НП.

Што?! Няўжо Марцьянава прымае ўслед?

— ПО.

Так. Марцьянава дае квітанцыі, паўтараючы цалкам усе пяць пераказаў. Усе тэлеграмы прыняты ўслед. Са мной працуе добры прыёмшчык.

— Вы на слых бераце? — не сцярпеў я.

— Не, са стужкі. На слых не ўмею.

Здорава! Прымаць жа ўслед са стужкі цяжэй, чым на слых.

Пачынаю прыём і бачу, што Марцьянава і перадае выдатна: працяжнікі роўныя, доўгія, кропкі акуратныя. Ясны, выразны, вельмі прыгожы шрыфт. Прыемны і гук работы. Ён музыкальны (гэта правільна, хаця і зразумела толькі тэлеграфісту; некаторыя марзісты дасягаюць меладычнага, сапраўды музыкальнага гучання сваёй работы). Адчуваецца ўпэўненая рука, якая панастацку валодае тэлеграфным ключом. Мой загадкавы партнёр — артыст сваёй справы.

Але мне работаць з гэтым артыстам нялёгка. Я не паспяваю браць услед, адстаю. Не хочацца ўпасці тварам у гразь. Я напружваю ўсе сілы. І ўсё ж у канцы прыёму прыходзіцца заяўляць «міг», а потым дапісваць тэлеграмы.

Настае 10 гадзін. У гэты час (а яшчэ а 20 і 24 гадзіне) тэлеграфныя пункты звяраюць вынікі работы — колькі кожны прыняў і перадаў тэлеграм ад пачатку сутак. Так высвятляецца — ці не перадана якая тэлеграма на вецер, ці ўсе тэлеграмы прыняты.

Правільнасць вынікаў сцвярджаецца прозвішчам дзяжурнага.

— Арцёмава, — гаворыць марцьянаўскі віртуоз.

Ага. Цяпер я ведаю, хто мацнейшы за мяне. З Арцёмавай я дзяжурыў вельмі мала. Усё ж... Як гэта я раней не прыгледзеўся да яе работы?

Для мяне ўстае новая праблема. Перадаваць я змагу і шпарка, а вось з прыёмам — спасаваў перад Арцёмавай...

Трэба нешта рабіць.

*28 кастрычніка*

Борскія алюміншчыкі звярнуліся непасрэдна ў Наркамат. Рэйкі марна ржавеюць у полі... Самаадданая праца рабочага калектыву, яго патрыятычны подзвіг сутыкнуўся з бяздушнасцю, інертнасцю Глаўка. І гэта ў такі час, калі дораг кожны дзень, ды не дзень — гадзіна!

Як гэта крыўдна і абураюча!

*31 кастрычніка*

Міхаіл Мікалаевіч пытаецца:

— Што з паравозам?

А я сказаць не магу. Прыкра.

*1 лістапада*

— Вы што — надумаліся выперадзіць мяне? — спыталася сёння пасля дзяжурства Таццяна Сяргееўна. Яна толькі што адышла ад дошкі, на якой штодзённа фіксіруецца працэнт выпрацоўкі нормы кожным работнікам. Сястрыца часценька праглядвае гэтыя лічбы — правярае работу сваіх сапернікаў з другіх змен.

Зайздрасці (які чорт зайздрасці!), непакойства ў яе словах я не адчуваю.

— Дзе там нашаму цяляці ды ваўка спаймаці, — адказваю я ёй прымаўкай. — Шмат трэба папрацаваць, каб дабрацца да вашых хаця б звычайных 150 працэнтаў.

— Такімі крокамі, як вы пайшлі, не шмат засталося, — смяецца яна. — І потым, хіба вы цялё? — хоча яна ўкалоць мяне.

— І потым, хіба вы — воўк? — у тон ёй кажу я.

Тут пачаўся сход змены. Ізноў аб выкананні норм.

І зноў гаварыла дыспетчар Наркамата сувязі.

К канцу месяца наша змена палепшыла работу. Месячны вынік — 102 працэнты. Прабралі адстаючых, потым гаварылі аб лепшых. І раптам:

— У вас ёсць клапферыст (называе мае прозвішча).

— Марзіст!

— Марзіст! — папраўляюць з месц.

— Ну, марзіст. Няхай так. За першую палову месяца меў 85 працэнтаў, а за другую — 125.

Ну і пайшлі тут дыфірамбы. Мне было страшэнна няёмка.

Бачу — Таццяна Сяргееўна расквітнела ўсмешкай. Нябось, калі пра яе гаварылі, пра лепшага работніка змены, — і чырванела, і патупіўшыся сядзела.

*4 лістапада*

Тэлеграфісты — народ нервовы. Але чаму больш нервуюць, зацята спрачаюцца маладыя работнікі?! Ці то гэтым зухвальствам яны кампенсіруюць сваю непаўнацэннасць, ці то не прывучылі іх паважаць таварышаў па рабоце? Бадай, і тое і другое.

Мне абрыдалі заўсёдныя спрэчкі з Борам, бязглуздая грызня і лаянка. Быць не можа, каб барчан нельга было перайначыць. Уладзіў жа я з Нінай невырашальнае, здавалася, пытанне адносна «маланак». Уладзім і гэта. Патрэбна вытрымка. Я вырашыў уздзейнічаць на маіх маладых калег спадціха.

— Хто робіць? — гэта звычайнае пытанне ў пачатку дзяжурства. Называю сваё прозвішча, партнёр называе сваё і гаворыць: — Прывітанне.

Вось і добра. Я лагічна прадоўжыў гэту традыцыю. У канцы дзяжурства я кажу:

— Ну, дпбч (да пабачэння).

Для гэтага «дпбч» я не лянуюся спецыяльна выклікаць Бор. Аднойчы Ніна мяне ашарашыла:

— Толькі і ўсяго? Варта было для гэтага выклікаць!

— А чаму ж? Мы ж пачуемся толькі заўтра.

Так мы пачалі развітвацца пры здачы дзяжурства. Наладзілася нейкая агульнасць у рабоце, — агульнасць, адчуваць якую як быццам і не дазваляе адлегласць.

Я пайшоў далей. Папрашу, да прыкладу, даць якую даведку і пасля кажу:

— Дзк (дзякую).

Пачаў і мне дзякаваць Бор: і як бы я ні быў нездаволен сваім партнёрам, я ніколі не дазваляю сабе размаўляць з ім рэзка, груба. Непрыкметна пачала фарміравацца таварыская спайка, — тое, што называецца калектыўным пачаткам у рабоце. Мы ўжо не «дзве высокія стараны, якія варожы і імкнуцца насаліць адна адной», а людзі, якія робяць адну справу і разам цікавяцца яе поспехам.

Мы пачынаем бліжэй пазнаваць адзін аднаго — знаёміцца

завочы. Складваюцца прыяцельскія адносіны. І (гэта было для мяне зусім нечакана) Ніна Ашчэпкава перайшла са мной на «вы». Трэба думаць, фамільярнае «ты» было адной з рыс напускной грубасці маладога яшчэ работніка. Першыя крокі дружбы далі ёй адчуць недарэчнасць гэтага «ты». Бо гэта ж — толькі першыя крокі дружбы, калі «ты» не сарвалася з вуснаў, не паспела.

— Хто робіць? — пытаецца Ніна. Назавеш прозвішча і чытаеш у адказ: — Гэта вы? Вось добра. Вельмі рада. Прывітанне.

Хіба не прыемна гэта?

Часам (калі няма нагрузкі) пара мінут аддаецца на асабістую размову. Гэта як быццам незаконна. Але колькі мінут ідзе звычайна на неразумныя спрэчкі, лаянку? Ды яшчэ ў самыя гарачыя гадзіны работы! Ці лічылі хоць калі іх? І ці законныя яны? Дапраўды, няма шкоды для справы ад гэтых асабістых размоў.

Ага. Я і забыўся: з Нінай Ашчэпкавай, як з «салідным» тэлеграфістам, я работаю «па дзесяць» ужо. Не памятаю нават, калі з Бора тэлеграмы прыходзілі поштай. Брыгадзір мой здзіўлен:

— Што сталася з Борам? Работнікі новыя?

— Не! — кажу я. — Па-сапраўднаму ўвайшлі ў тэмп. Працуюць па-ваеннаму.

*5 лістапада**

Авія, урадавая, «маланка» — гэта ўсё тэлеграмы, якія ідуць без чаргі. Мы да іх звычны. Але ёсць адзін від тэлеграм, які не часта сустракаецца і які прыкоўвае да сябе ўвагу ўсіх. Абвяшчае аб ім тэлеграфіст з асаблівай падкрэсленасцю, значнасцю:

— Масква, Крэмль! <...>

Я прымаў тэлеграму і хваляваўся хваляваннем патрыётаў алюміншчыкаў, мне блізкай і зразумелай была іх справа, іх крыўда, іх надзея на дапамогу.

*6 лістапада*

Сёння я перадаваў у Бор кароткую тэлеграму Старшыні Дзяржаўнага Камітэта Абароны.

Будзе ў борскіх алюміншчыкаў паравоз! Загрымяць па рэйках да капальні колы поўна нагружаных баксітамі думпкараў, весела і заклікальна будзе гудзець паравоз, спяшаючыся да цэхаў камбіната. Патроіцца выпрацоўка алюмінію, узрасце выпуск самалётаў.

*7 лістапада*

---

* Запіскі друкуюцца з некаторымі скарачэннямі.

Раніцаю я ішоў на дзяжурства. Свежы марозны ветрык абярожна надзімаў чырвоныя палотнішчы транспарантаў, шарасцеў у сцягах. Калоны рабочых ішлі да цэнтра горада — на традыцыйную дэманстрацыю. Перабіраю ў памяці адзін за другім мінулыя гады. Так. Гэта, бадай, першы Кастрычнік, што я не іду ў калоне дэманстрантаў...

Уваходжу ў апаратную. У руках таварышаў бачу лісты тэлеграфнай схемы. Заглядваю праз плячо Міхаіла Мікалаевіча, — схема для раённых газет. <...>

*8 лістапада*

Увечары ўчора — яшчэ адна радасная навіна. 7 лістапада ў Маскве быў парад.

Як заўсёды, як усе гады — кастрычніцкі ўрачысты марш. Ішлі міма Маўзалея Леніна батальёны абветраных, у змаганні загартаваных пехацінцаў, імчалі грозныя, выпрабаваныя ў агні бою танкі. <...>

А Гітлер? Яшчэ зусім нядаўна бахваліўся, істэрычны вырадак, крыклівы пігмей, імя якога абразлівай мянушкай будзе нават для валацужных, шалудзівых псоў, што не хто іншы, як ён, будзе 7 лістапада прымаць у Маскве парад сваіх азвярэлых малойчыкаў. Не! Не быващь вам у нашай сталіцы, не апаганіць вам нашай Масквы.

У Маскве ўчора быў парад нашай Чырвонай Арміі. Парад прымаў Сталін. <...>

*9 лістапада*

У Бор прыбыў паравоз. Рабочыя камбіната абавязаліся даць 300 працэнтаў звычайнай нормы выпуску прадукцыі. Колькі гэта будзе новых самалётаў? Канешне, я не ведаю! Але будзе шмат. Гэта мне зразумела. <...>

*10 лістапада*

Будзем працаваць не пакладаючы рук... Я таксама павінен працаваць лепш. Сёння паспрабаваў прымаць на слых. Вядома, не работу Арцёмавай — гэта для мяне пакуль што недасягальна. А вось работу Ніны Ашчэпкавай я браў на слых досыць спраўна. Перад прыёмам папярэдзіў яе, каб не крыўдзілася, калі буду перабіваць (гэта калі не ўпраўлюся, адстану), але перабіваць прыйшлося мала.

Клопфер я не ўключаў, — не хацеў, каб заўважылі, — сорамна будзе, калі правалюся.

— Ну як? На слых? — спыталася Ніна ў канцы перадачы.

— На слых.

— Малайчына, мілок.

Вядома, малайчына: 135 працэнтаў нормы даў.

*12 лістапада*

Пацешыла мяне сёння марцьянаўская Надзенька Федароўскіх.

Перадаю ёй тэлеграму з Ленінграда: «Здароў. Беражы сябе, хадзі асцярожна».

— Чаму «хадзі асцярожна»? — пытаецца Надзенька.

— Эх вы, жанчына! — абураюся я. — Гэта будучы татка клапоціцца аб будучым сваім дзіцяці.

— Так? — здзівілася Надзенька. — Ага...

Гэтае наіўнае «так?» рассмяшыла мяне.

— Ха-ха-ха, — выбіваю я ключом і доўга смяюся.

Між іншым, тэлеграфнае «ха-ха-ха» найбольш блізкае па гучанні да жывога чалавечага смеху.

Ну і Надзенька Федароўскіх!

Федароўскіх, Елаўскіх, Малых — тыповыя для Урала прозвішчы.

*17 лістапада*

Дакладна высветлена: Роо — эстонскае прозвішча. Не, не дарэмна я зацікавіўся ім! Мая скарбонка цікавых дробязей, кур’ёзаў зрабіла мяне відавочцам, ды і не відавочцам, а ўдзельнікам хвалюючай жыццёвай гісторыі. Тры дні я аддаў ёй, але не шкадую гэтых дзён і ніколі іх не забуду.

Вось як усё адбылося. Пасля ранішняга дзяжурства мы засталіся на суботнік. Зашыўся КСА. Калі мы прыйшлі на яго «базу», амаль усе ў адзін голас прамовілі:

— Та-та-ак...

— Вось гэта та-ак...

— Ну і ну...

Было чым здзівіцца! Усе сталы загрувашчаны стосамі паперы — кіпы неразабраных і неадсартаваных пасля перадачы па дроце тэлеграм. Абмен павялічыўся амаль што ўтрая, а работнікі КСА працавалі па-звычнаму, з прахладцаю. Патануўшы ў горах паперы, яны загаласілі аб дапамозе. Так арганізаваўся наш суботнік.

Мы селі за сталы і пачалі падбіраць тэлеграмы. Падабраныя і падшытыя за кожны дзень і па кожным дроце асобна, яны складваліся ў стаяўшыя радамі паліцы-клятушкі — своеасаблівыя тэлеграмныя соты.

Я падбіраў зыходзячыя тэлеграмы. Зусім выпадкова ўбачыў подпіс на адной з іх: «Яўгенія Роо».

Знаёмае прозвішча! Яно падабалася мне сваёй кароткай выразлівасцю. Чытаю тэкст: «Дапамажыце знайсці майго дарагога Аўгуста. З дня эвакуацыі з Таліна не маю вестак аб ім». Кавалачак чалавечай драмы, крык збалелага сэрца...

Я задумаўся: дзе ж сустракаў я гэта прозвішча? Вядома, у тэлеграме! Зрокавая памяць у мяне добрая, я ўспомніў: Роо — гэта быў подпіс тэлеграмы. Але якой тэлеграмы?.. Перадаваў я яе, прымаў? Калі перадаваў — я не памятаю, з якога горада яна ішла, калі прымаў — не ведаю ад каго. «Дапамажыце знайсці Аўгуста... дарагога Аўгуста...» — нібы да мяне звярталіся гэтыя словы.

Я падзяліўся сваёй турботай з Тацянай Сяргееўнай. Яна вельмі зацікавілася гэтай загадкай. Меркавалі мы, гадалі, але... нічога прыдумаць не маглі.

— Ведаеце, Алена Уладзіміраўна можа вам дапамагчы, — гаворыць раптам сястрыца.

Я імчу да дзяўчыны з кудзеркамі.

— Цяжка. Нават немагчыма... — разводзіць яна сумна рукамі. — Вы бачыце, якія тут горы?.. Трэба ведаць хаця б дату падачы, калі тэлеграма ад нас зыходзіла, ці прыёму, калі яна была праходзячая...

— Дату? Будзе дата. Я ведаю дату! — узрадаваўся я.

— Ну, якога? — загарэліся іскаркі ў шэрых вачах кантралёра.

— Зараз не скажу... — збянтэжыўся я. — Увечары, калі прыйдзем на начное дзяжурства... — І хутчэй рэціраваўся.

Здзіўленая, яна глядзела мне ўслед. Якім дзіваком лічыла яна мяне!

Прыбег я дадому, схапіў мой сшытак — ёсць. Тэлеграма праводзілася восьмага кастрычніка.

Вядома, мне не ўдалося заснуць перад дзяжурствам. За паў-

гадзіны да змены я падыходзіў ужо да ЦТ. Лянок таксама прыйшла раней часу.

— Ну? — сустракае яна мяне.

— Восьмага кастрычніка.

— Ідзём у КСА.

Мінут за дзесяць мы перагарталі ўсе зыходзячыя за восьмае число — няма.

— Пэўна, праходзячая... — гаворыць Алена Уладзіміраўна. — Але з якой лініі? — і яна задуменна глядзіць на безлічныя соты паліц, поўныя пачак тэлеграм.

— А можа, я прымаў яе? — усё яшчэ стараюся ўспомніць я.

— Бор, Марцьянава, тысяча дзесяты дрот... — скорагаворкай прамовіла Лянок і шукае на паліцах патрэбную нам клетачку.

— Восьмае число... Так. Ёсць.

Гарталі мы нядоўга. Знайшлася тэлеграма! Прынята з Марцьянава. Чытаем:

«Паранен, папраўляюся. Непакоюся аб жонцы, дзіцяці. Выехалі з Таліна на цеплаходзе «Сібір». Вельмі прашу адшукаць. Роо».

Ён! Ёсць Роо. Ён у марцьянаўскім шпіталі. А жонка яго ў нашым горадзе, адрас яе мне вядомы — ён напісан унізе тэлеграмы Яўгеніі Роо.

Я гатоў імчаць у горад. Але — праз пяць мінут я павінен быць ля апарата...

— Дзякую, Алена Уладзіміраўна.

— А скажыце, як вы дазналіся пра дату? — затрымала яна мяне.

— Дату?.. — мне прыйшлося прызнацца. Кажу пра свае запіскі, пра скарбонку цікавых дробязей, пра прозвішча, якое зацікавіла мяне сваёй ракочучай музыкальнасцю.

— Кажуць, вы кампазітар? — яна глядзіць мне проста ў вочы.

— Кампазітар? Не-е... Хаця кампазіцыя іграе вялікую ролю ў маёй справе.

Яна нездаволена маім адказам. Схлусіць пад яе ўпорчывым позіркам я не змагу. І я паказваю на гадзіннік, прашу прабачэння і спяшаюся ў апаратную.

Дзяжуру. З галавы не выходзіць гісторыя з тэлеграмамі Роо. І вось... закрадваецца сумненне — а ці той гэта Роо? У подпісе ж няма імя. Але абедзве тэлеграмы гавораць пра Талін — пярэчу я сам сабе. Але, гэта так. Але ж... магчыма простае супа-

дзенне — не паддаецца голас сумнення. Як быць? Вядома, я не маю права ісці да Яўгеніі Роо. Як быць?..

Тут мой апарат падказаў мне выхад. Я работаў з Арцёмавай. Расказваю ўсё ёй.

— У нашым шпіталі ёсць капітан Роо. На днях ён павінен выпісацца, — гаворыць яна.

— Адкуль вы ведаеце?

— Я бываю часта там.

— А імя яго?

— Не ведаю. Я заўтра буду там і ў наступную ноч скажу.

Прашу Арцёмаву не забыць. Яна перабівае:

— Вядома, не забудуся.

У наступную ноч я перш за ўсё выклікаў Марцьянава:

— Прывітанне.

— Прывітанне.

— Вы хадзілі...

— Аўгуст, — не дае мне закончыць пытання Арцёмава.

— Ён! — і выбіваю і крычу я.

Проста з дзяжурства, не заходзячы дадому, накіроўваюся па вядомым мне адрасе Яўгеніі Роо. У фортцы я стыкнуўся з высокай стройнай жанчынай. Русыя пышныя валасы ўзбіты ўгору, рукавы яе паліто з буфамі — заходняя мода. Яна трымае за руку прыгожую дзяўчынку шасці-сямі год. Я не сумняваўся — гэта яна.

— Прабачце, Яўгенія Роо тут жыве? — усё ж пытаюся я.

— Гэта я... — гаворыць яна, дапытліва глядзіць на мяне, і раптам празрыстая бледнасць разліваецца па яе строгім, смутным твары.

Я не памятаю, што казаў ёй. Памятаю, яна схапіла мяне за рукі, да болю сціснула іх.

— Жывы... Здароў! — усміхаюся я, сам узрушаны да глыбіні душы.

Яна бачыць — я не маню. Яна нешта ляпеча, яна плача. Мне цяжка стрымаць маё хваляванне.

— Марыя! Наш татка жывы! — ускрыквае яна і пакрывае твар дзіцяці гарачымі пацалункамі.

Праз паўгадзіны мы былі на паштамце. Я пісаў тэлеграму Аўгусту Роо: ад хвалявання пяро вывальвалася з пальцаў Яўгеніі.

Перадаваў тэлеграму не я. Адказ прымаць мне таксама не давялося. Я быў вольны ад дзяжурстваў гэтыя паўтара дня. Але адказ я бачыў — я ведаў ужо, дзе яго адшукаць у КСА. Яўгенія

знайшла Аўгуста. Аўгуст знайшоў Яўгенію.

А «віною» ўсяму — выпадковы запіс у маёй скарбонцы. Адзін скупы радок прынёс столькі радасці, шчасця.

Вось як я даведаўся, што Роо — сапраўды эстонскае прозвішча.

*20 лістапада*

Кожныя пяць дзён алюмініевы камбінат паведамляе тэлеграфнымі зводкамі ў Главк аб выпуску прадукцыі. Заступаючы на дзяжурства, я сёння даведаўся ў маёй зменшчыцы. Яна гаворыць: 254 працэнты. Няўхільны рост.

*21 лістапада*

З цікавасцю назіраю я за нашым брыгадзірам — Сымонам Іванавічам. Гэта досыць флегматычны, роўны ў абыходжанні і паводзінах чалавек. Ён, як гаворыць Міхаіл Мікалаевіч, — тэлеграфіст з вялікім размахам: выдатна работае на апаратах Морзе, Бадо, Юза, на тэлетайпе, ён мае вялікія тэхнічныя веды і нават вядзе нейкую дысцыпліну ў мясцовым тэхнікуме сувязі. Гледзячы на яго шчуплую, знешне нічым не выдатную постаць, цяжка ўявіць яго змясцілішчам такога тэхнічнага багажу. Як брыгадзір ён мае адну, вельмі сімпатычную мне (пэўна, і ўсім), якасць. Ён — незаўважны. Спакойна і роўна, без крыку і афектацыі робіць ён сваю справу, нікога не турбуе, ні да каго без дай прычыны не чапляецца, ніяк не выпінае свайго главенства. Нават па тэлефоне гаворыць ціха, не ўрываючыся ў аднастайнае цурчанне апаратаў клопфернай. Поўная процілегласць некаторым іншым брыгадзірам, адно з'яўленне якіх адразу ж сведчыць, што прыбыў брыгадзір: сумятлівасць, нервозны крык па тэлефоне, прыўзняты тон у размовах з тэлеграфістамі.

Не такі Сымон Іванавіч. Часам ён здаецца староннім чалавекам у клопфернай. Але я меў не адзін выпадак пераканацца, што ён вельмі добра ведае аб рабоце змены і ў цяжкія мінуты з'яўляецца там, дзе гэта неабходна.

Сёння Сымон Іванавіч, правяраючы пакінутыя папярэднімі зменшчыкамі за апаратамі тэлеграмы, падышоў да майго стала.

— Асабліва важных няма? — пытаецца ён і бярэ пачак тэлеграм.

— Няма. Я там, Сымон Іванавіч, падабраў для перадачы ў парадку спешнасці.

— Бачу. А як вы «маланкі» перадаяце?

Ага. Напэўна, ён вывучыў мае журнальныя запісы. Прызна-

юся ў парушэнні ўсталяванага парадку. Кажу і думаю: «Што ж скажа брыгадзір?»

— Вы маеце рацыю, — гаворыць ён. — Жыццё прыносіць свае папраўкі ў правілы. Вядома, кожная прыватная «маланка» менш важна, чым дырэктыва заводу, хоць яна і не «маланка».

Я быў рады, пачуўшы гэта пацверджанне маёй думкі.

Ага. Успомніў пару дэталей да пытання аб тэлеграмах Роо.

Калі гэта досыць заблытаная гісторыя стала вядомай усёй змене, мне прыйшлося не адзін раз расказваць яе ва ўсіх падрабязнасцях. І тут я заўважыў, што Міхаіл Мікалаевіч дуецца на мяне. Здарылася так, што ён не быў на суботніку ў КСА, з якога ўсё пачалося, а пасля я неяк недаўмеўся падзяліцца з ім сваімі сумненнямі (у ноч сумненняў маіх ён выхадны акурат быў). Прыяцель пакрыўдзіўся. Я выклікаў яго на размову.

— Знайшоў дарадчыкаў, — бурчыць ён, — я б табе за паўгадзіны ўсе канцы звязаў. А ты бегаў, хваляваўся немаведама чаго. Дзівак!

— Ну і як бы ты звязаў? — узяла мяне за жывое самаўпэўненасць прыяцеля.

— Вельмі проста. Ты запомніў прозвішча? І нават, што яно подпісам ішло? Ну, вось. А чаму? Чытаў са стужкі, пісаў на бланк ды яшчэ раз потым вачамі тэлеграму прабег. Таму і запомніў. Значыць, з праверкі прыёму і трэба было пачынаць.

Тлумачэнне прыяцеля, хоць і досыць арыгінальнае, здалося мне не зусім пераканаўчым. Але важна не гэта: выказаўшы сваё недавольства, Міхаіл Мікалаевіч утаймаваўся і дуцца пакінуў.

Што і патрабавалася.

Другое. Арцёмава, прыняўшы ўдзел у маіх росшуках, абмовілася, што яна часта бывае ў шпіталі. Успомніўшы аб гэтым, я зацікавіўся: — Чаму? — спытаўся ў яе.

Вось аб чым даведаўся я. Арцёмава — прафорг тэлеграфнага цэха марцьянаўскай канторы сувязі. Па яе ініцыятыве тэлеграфісты сталі частымі наведнікамі шпіталя. Яны чытаюць параненым байцам газеты, кнігі пішуць пад іх дыктоўку пісьмы на радзіму, ну і, вядома, — тэлеграмы. Яны самі дастаўляюць у шпіталь адказныя тэлеграмы, а заадно і пісьмы. Яны там жаданыя госці. Цудоўная ініцыятыва! Чулыя, цёплыя клопаты аб параненых, карысная і каштоўная грамадская работа.

*21 лістапада*

Дзяжурыў гэту ноч з Арцёмавай. Яшчэ звечара я адчуў — з ёй нешта няладнае. Няма звычайнай плаўнасці ў работе, яна нервуецца, перабіваецца (у яе рабоце я ніколі не заўважаў памылак, перабояў), часта я чую шпаркае і ўзбуджанае: НННННН — што з мовы тэлеграфістаў, нікім не ўстаноўленай, а неяк само сабой выпрацаванай, можна перакласці красамоўным «вон».

У чым справа?

Арцёмава заўсёды была роўнай у абыходжанні, калі можна так сказаць, — карэктнай. Пачынаю сачыць за сабой, успамінаць — чым я мог пакрыўдзіць яе, выклікаць недавольства? Не, нічога як быццам не было такога. Дзіўна.

Канчалася шостая гадзіна работы. Я крыху адстаў у прыёме. Пасля хвіліннага націску ключа чую гук шпаркай нераздзельнай работы — так гавораць тэлеграфісты ад сябе. Чытаю:

— Гэту тэлеграму, калі ласка, не затрымлівайце. Гэта мая тэлеграма. Вельмі прашу вас.

— Дбр (добра), — адразу ж кажу я.

— Дзк.

Я падхопліваю стужку:

«Натачка цяжка хварэе на адзёр. Прыязджай, мамуся. Ася».

Вось і разгадка сённяшняй нервознасці Арцёмавай. У яе гора. Натачка, відаць, яе дачка. А гэтае «прыязджай, мамуся» гучыць як просьба аб дапамозе, абароне слабага, самотнага чалавека.

Я быў усхваляваны. Занёс тэлеграму Алене Уладзіміраўне і папрасіў не затрымліваць яе. Апарат быў якраз не загружан, тэлеграма хутка пайшла далей.

Выклікаю Марцьянава.

— Тэлеграма перадана.

— Вельмі ўдзячна.

Прапаную свае тэлеграмы.

— Колькі? — пытаецца Арцёмава.

— Дзесяць.

— ПО.

Перадаю. Бачу — дзве тэлеграмы не менш сумныя па змесце, чым тэлеграма Асі. Мне не хочацца расстрайваць таварыша, груба датыкнуцца да яго душэўнай раны. Гляджу на гадзіннік. Да змены ў Марцьянава засталося паўтары гадзіны (там раніцаю змена бывае на гадзіну раней, чым у нас). Гэтыя дзве тэлеграмы я змагу перадаць другому марцьянаўскаму работніку, — акурат паспеюць да ранішняй разноскі. Я рашуча адкладваю ўбок

сумных веснікаў і выбіваю ключом:

— Усё.

— Вы далі толькі восем, — гаворыць Арцёмава.

— Я памыліўся, — схлусіў я. — Восем і было. Мне хочацца сказаць што-небудзь цёплае, харошае, мне хочацца выказаць Асі сваё спачуванне. Але як? Сухі трэск апарата — не жывая размова, калі інтанацыя, позірк гавораць больш, чым словы. На тэлеграфнай стужцы словы цьмяныя і халодныя, яны бяздыханыя.

Што ж сказаць? Якія падабраць словы? Яна ж там, ля апарата, адна. Адна ў гэтую доўгую чорную ноч, воддаль ад хворага дзіцяці.

Але... Ці патрэбна ёй маё няпрошанае спачуванне — чужога ёй чалавека? Ці не зраблю я бястактнасці сваім умяшаннем у яе гора? Я вагаюся.

— Мне цяжка сёння, — раптам гаворыць Арцёмава.

Так. Яна чакае маёй падтрымкі. І, не задумваючыся больш, я кажу:

— Не бядуйце, Ася. Усе дзеці хварэюць на адзёр. Гэта непазбежна. Вы хварэлі на адзёр?

— Хварэла.

— І я хварэў. І нічога. А колькі год Наташы?

— Паўтара годзіка.

— Зусім малышка. Колькі ж год яе маме?

— Дваццаць два.

— Ая-яй, якая салідная мамаша, — спрабую я жартаваць.

— Я не салідная. Я як дзяўчынка, — раптам чытаю я.

Гэтае наіўнае прызнанне вельмі кранальна. Перад маімі вачамі ўстаюць словы «прыязджай, мамуся».

— Дзіця, дзіця, — зрываецца ў мяне. — Ну, нічога. Усё будзе добра. Не расстрайвайцеся. Заўсёды трэба спадзявацца на лепшае.

— Дзк, — гаворыць яна. — Мне ўжо неяк лягчэй. — І яна на міг змоўкла. — І на дварэ развідневае ўжо.

Так. Чорная, глухая і маўклівая ноч палохала яе.

— Хутка ўзыдзе сонца. Будзе лёгка і радасна.

— Так, — коратка згаджаецца яна.

Передае яна дэпешы ўжо спакойна, роўна. І я рад, што адклаў сумныя дэпешы, што неяк, хоць і не зусім складна, пагаварыў з Асяй, крыху разважыў яе гора.

— Прыйшла змена. Даруйце мне. Я была грубай сёння з вамі, — гаворыць Ася ў канцы перадачы.

—Хіба? Калі? Не. Я нічога не заўважыў, — адказваю я. — Ну, усяго добрага. Бяжыце да дачуркі. Усміхніцеся ёй і ад мяне.

— Дзк. Дпбч.

— Дпбч.

*25 лістапада*

Калі я прымаю зводку борскага камбіната, я кажу:

— Алюміній! — і працягваю яе Міхаілу Мікалаевічу. Ён не менш за мяне цікавіцца справамі алюміншчыкаў.

Сёння я пахваліўся — 274 працэнты!

А праз пару мінут (трэба ж — такое супадзенне!) мне прынеслі дэпешу для Бора. Урад даў новае заданне камбінату: да 1 студзеня выпрацаваць 400 працэнтаў ад норм мірнага часу.

Ці справяцца? Паказваю Міхаілу Мікалаевічу.

— Дадуць! — падымаецца ён да шкла. — Гэта ж уральцы. Савецкі народ!

Шмат, шмат нам трэба самалётаў.

І я таксама веру: будзе сыравіна для авіязаводаў! Не падкачаюць алюміншчыкі.

*27 лістапада*

«Здарова, непакоюся тваім маўчаннем» — гэта другая тэлеграма ў адрас ленінградскага таткі, які так клапаціўся аб будучым сваім дзіцяці.

Чаму ж ты маўчыш, татка? Вось табе і «хадзі асцярожна»...

*28 лістапада*

Сёння зменам паведамлена распараджэнне дырэктара: прыватныя «маланкі» адпраўляць па канвееры — з сігналкамі.

Адразу скарацілася галашэнне, якое так абурала мяне.

Хоць і палавінчатае вырашэнне пытання, але — ліха бяда пачатак. Адмяніць правілы аб «маланках» сам дырэктар, вядома, не можа. Гэта справа Наркамата.

А чаму, дарэчы, з'явілася гэта распараджэнне? Ці не Сымон Іванавіч пастараўся?

*29 лістапада*

— Як Ната? — спытаўся я сёння ў Арцёмавай.

— Блага. Вочкі не расплюшчвае, не есць, — коратка адказала яна.

— Гэта крызіс. Цяпер павінна настаць паляпшэнне, — заспакойваю я яе.

— А доўга крызіс працягнецца?

Што магу сказаць Асі?..

— А што гаворыць доктар? — адказваю запытаннем.

— Дзень, два.

— Ну вось. Верце доктару. Ён ведае лепш за нас.

— Я веру, але ўсё ж...

— Верце. Усё будзе добра.

Сёння Ася работае гладка. Я стараюся нічым ёй не назаляць. Яна таксама ўважліва да мяне. Гэта прыкметна па адной дэталі — па адказе на выклік.

Ёсць у Марцьянаве тэлеграфісты, якіх трэба выклікаць некалькі мінут узапар.

Мрц, Мрц, Мрц, — выбіваеш без ліку і меры, пакуль даб’ешся адказу. Асю не прыходзіцца доўга выклікаць. Яна вельмі акуратная і ўседлівая ў працы. А сёння, толькі я выб’ю адзін раз Мрц, — яна ўжо адказвае:

— Я тут.

Гэта паскорвае работу. І само гэта «я тут», замест афіцыйнага «я Мрц», неяк зближае работнікаў, што нават не бачаць адзін аднаго.

Часам, перадаўшы дэпешу, Ася скажа колькі слоў ад сябе — ёй хочацца пагутарыць. Адной жа цэлы дзень з бясслоўным апаратам — нуднавата!

Перадавала яна мне дэпешу, адрасаваную ў вайсковую часць:

«Выклік прымаю. Даю слова: мой адбойны малаток не схібіць перад тваім аўтаматам. Абавязваюся сутачнае заданне выконваць на 200 працэнтаў. Прывітанне ад шахцёраў, ад сям’і. Чакай пісьма. Сцяпан».

— Яны і ў шахце спаборнічалі, — гаворыць Ася, — Сцяпан меншы брат, Мікалай-старэйшы. Добрыя хлопцы. Пісьмо Мікалая надрукавана ў газеце.

Мяне зацікавіла гэта перапіска. Дома я знайшоў у газеце пісьмо Мікалая.

«Добры дзень, Сцёпа, — піша ён, — жыву добра, чакаю лепшага, таму што хутка мы паедзем на фронт біць нямецкіх сцярвятнікаў. Рыхтуемся мы дзень і ноч — вучымся. Я вучуся добра, аўтаматам валодаю на «выдатна». Запэўняю цябе і ўсіх таварышаў шахцёраў, што буду біцца адважна, умела, з дастоінствам. Будзьце ўпэўнены, жыццё свайго я задарма не аддам. Не трэба думаць, брат, аб тым, што Гітлер нас заняволіць. Колькі ён ні скача, але мы яму дадзім дзёру з лупам, вышвырнем з нашай зямлі.

Пішы, як працуе шахта. Давайце пабольш антрацыту нашым уральскім заводам. Працуйце моцна, памятайце аб тых, хто ў баі,

хто не спіць дзень і ноч, таму што ім даручылі партыя і ўрад абараняць радзіму. Значыць, трэба і вам выконваць свой абавязак перад радзімай, узяцца за справу абедзвюма рукамі.

Выклікаю цябе, Сцяпан, на спаборніцтва: дысцыпліна, палітпадрыхтоўка, баявая падрыхтоўка, страявая падрыхтоўка — на «выдатна». За перыяд службы ў Чырвонай Арміі абавязваюся спагнанняў не мець.

Прывітанне таварышам шахцёрам. Прывітанне родным. Мікалай Кочын».

Браты Кочыны ўступілі ў спаборніцтва. Іх разлучаюць тысячы кіламетраў, але змагаюцца яны за агульную справу. І абодва яны перамогуць.

*30 лістапада*

Над борскімі зводкамі схіляюцца ўжо некалькі галоў. Нават флегматычны Сымон Іванавіч — і той загараецца, пачуўшы маё:

— Алюміній!

Сёння было 332 працэнты. Алюміншчыкі зразумелі, што дапушчальная магутнасць электралітных цэхаў — гэта не ёсць «магчымая». Яны знаходзяць новыя магчымасці. Яны змагаюцца за выкананне пачэснага ўрадавага задання.

*1 снежня*

Таццяна Сяргееўна ў апошнія дні нервуецца. Дзе яе звычайная вытрымка, ураўнаважанасць? Твар спахмурнеў, рэдка з'яўляецца на ім слаўная яе ўсмешка.

Яна адмоўчваецца.

Я прыглядаюся. Бачу — апарат зашыты. Гэта ў лепшага работніка змены! Ды і ў іншых зменах на гэтым апараце працуюць ліхачы. Не-не ды забіраюць з апарата тэлеграмы і адпраўляюць іх поштай.

Вядома, самалюбства Таццяны Сяргееўны гэтым моцна зачэплена. Я прагледзеў яе выпрацоўку за апошнюю дзесяцідзёнку. Кожны дзень павышэнне, яна напружвае ўсе сілы — дасягнула ўжо 170 працэнтаў. А накапленне не змяншаецца...

Учора ля апарата сястрыцы досыць часта з'яўляўся Сымон Іванавіч. Ён браў дэпешы, праглядваў іх, потым хадзіў да другіх апаратаў, зноў вяртаўся, зноў перабіраў дэпешы, нешта падлічваў на паперцы. Сястрыца перш пазірала на яго недружалюбна, на яго пытанні адказвала адрывіста. Ён нешта доўга гаварыў ёй, пераконваў. Бачу — павесялела, усміхаецца.

Пад канец дзяжурства ля апарата Таццяны Сяргееўны з'явіліся начальнік змены, Сымон Іванавіч, зменны механік — цэлы кан-

сіліум. Зноў нешта доўга абмяркоўвалі. А потым над апаратам павесілі таблічку з новай нумарацыяй правадоў.

«Крызіс» у Таццяны Сяргееўны мінуў. І я даведаўся пра гісторыю хваробы сястрыцы. У яе за апаратам — «шпакоўня». Яна абслугоўвае дзве лініі сувязі. У мірны час гэтым дасягалася поўная загрузка рабочага часу. А ў апошнія дні ў абодвух пунктах, з якімі працуе Таццяна Сяргееўна, пачалі працаваць эвакуіраваныя абаронныя прадпрыемствы. Узрасла яшчэ больш колькасць тэлеграм. Усе прыватныя тэлеграмы залежваліся, потым адпраўляліся поштай. Апошняя акалічнасць і нервавала Таццяну Сяргееўну — у яе ды раптам пошта-тэлеграмы. Яна намагалася выцягнуць работу. Але гэта было звыш магчымага. Цяпер адна з ліній у яе заменена менш нагружанай. Работа ўвайшла ў норму.

Я ўшчуняў яе за залішнюю самалюбнасць. Яна і сама разумее цяпер, што гэта было неразумна, нават шкодна для справы.

Так. Нагрузка ліній мяняецца. Звычайныя ўяўленні аб іх рабоце ломяцца. Сымон Іванавіч вывучае нагрузку, асабліва на апаратах са «шпакоўнямі».

*2 снежня*

Зноў: «Хвалююся, непакоюся тваім маўчаннем».

А следам — другая тэлеграма: «Малю паведаміць, што з мужам». Гэта — у адрас начальніка цэха ленінградскага завода, на якім працуе будучы тата.

Пад Ленінградам зацятыя баі, да горада прарываюцца зграі фашысцкіх коршунаў... Эвакуіраванай у тыл жонцы не соладка яе бяспека, яна пакутліва хвалюецца за лёс мужа. І гэта перад родамі. Як жа гэта ўсё для здароўя яе, дзіцяці...

Я памятаю: раней па адрасе «суддзі Маторынай для Колесавай» у Марцьянава рэгулярна ішлі дэпешы — кожныя пяць дзён. А вось ужо больш як два тыдні дэпеш гэтых няма. Што здарылася з Колесавым?

Я пачынаю блізка да сэрца прымаць хваляванне невядомай мне жанчыны.

*4 снежня*

З Ленінграда было некалькі тэлеграм. Прыняты не па дроце, як звычайна, а па радыё. Відаць, недзе сувязь парушана...

А Колесавай тэлеграмы няма.

І проста нажом рэзала мяне дэпеша на імя дырэктара завода: «Малю, паведаміце, не тоячы, што з мужам маім Колесавым, які працуе ў цэху № 17».

Прымаў я яе ў канцы дзяжурства. І нават, прыйшоўшы дадому, не мог пазбавіцца цяжкага адчування трывогі.

Чужыя мне людзі. Не ведаю я іх. А не магу...

*5 снежня*

Балельшчыкамі алюмінію стала ўся змена.

— Зводка была? — пытаецца Таццяна Сяргееўна.

Міхаіл Мікалаевіч усміхаецца.

А я ў Бора пытаюся:

— Як зводка камбіната?

— Бач, і яны цікавяцца, — здаволена Ашчэпкава.

У Боры таксама, значыць, цікавяцца. А чаму, уласна, ім не цікавіцца? Што гэта, наша толькі прывілегія?

Дала Ніна доўгачаканую зводку — 362 працэнты.

— Я ж казаў табе... — заяўляе мой прыяцель.

Ён казаў! А мы маўчалі хіба? Усе мы ведаем: «Фронту трэба — будзе зроблена». Такі цяпер закон усіх савецкіх людзей.

*6 снежня*

— Што з Колесавым? — я пытаюся ў дзяжурыўшай ноч тэлеграфісткі.

— Не. Маторынай для Колесавай тэлеграмы не перадавала, — гаворыць яна.

А можа, учора была. Чакаю змены.

— З Ленінграда наогул не было тэлеграм, — гаворыць мая зменшчыца, якая дзяжурыла ўчора.

Што з Колесавым?..

*7 снежня*

Прыбыло распараджэнне Наркамата сувязі: прыватныя «маланкі» не прымаюцца зусім, размер усіх прыватных тэлеграм абмяжоўваецца дваццаццю словамі.

Тэлеграф пайшоў нарэшце ў нагу з жыццём. Інтарэсы дзяржавы, прамысловасці, якая працуе цалкам для фронту, — вышэй прыватных спраў.

Я меў рацыю, калі пачынаў самавольнічаць з прыватнымі «маланкамі».

Арцёмава вясёлая. Дачушка яе папраўляецца.

— Я вам больш верыла, чым доктару, — прызналася Ася сёння.

— Чаму?

— Дактары заўсёды суцяшаюць.

— Але ж і я суцяшаў!

— Вы — іншая справа. Не ведаю чаму, але толькі вашы словы падтрымлівалі мяне.

Прыемна было чуць гэта.

Дзеля жарту, замест звычайнага Мрц, я неяк выбіў кароткае А. Гэта — першая літара і прозвішча і імя Арцёмавай. І раптам чую таксама кароткае: «Я».

— Вы не абразіліся? — збянтэжыўся я.

— Не. Так прасцей і прыемней.

Яна мяне выклікае таксама кароткім Л. Я адказваю. Дружба гэта? Пэўна, дружба. Працуецца мне з Арцёмавай добра і лёгка.

Ася, відаць, зразумела, што мне цяжка ўгнацца за ёю пры прыёме, і пад канец дзяжурства пачала работаць павольней. Я браў услед, сёе-тое лавіў на слых. І што ж выявілася?! Прымаючы ўслед больш павольную работу, я прыняў больш, чым пры спісванні «ўслед з-пад стала» шпаркай работы.

— Добра так? — спыталася Ася.

— Дбр. Дзк. Але гэта вам цяжка.

— Зусім не. Мне ўсё адно — шпарка ці павольна работаць.

Гэта правільна. Арцёмава вельмі лёгка мяняе тэмп работы, і гэта аніяк не адбіваецца на выразнасці яе і яснасці. Так, яна тэлеграфіст-віртуоз.

*8 снежня*

Папрасіў Алену Уладзіміраўну прасачыць: ці не будзе тэлеграм для Колесавай. Яна ж чытае амаль усё, што праходзіць праз наш тэлеграф.

Лянок абяцала не забыць і адразу прынесці мне, калі такая тэлеграма з’явіцца.

Пасля гісторыі з дэпешамі Роо ў мяне з Аленай Уладзіміраўнай наладзіліся прыяцельскія адносіны. Яна спачувае маім хваляванням і, вядома, ужо не баіцца мяне.

Толькі...

— Бадзісты гавораць, што вы — артыст. Гэта праўда? — пытаецца яна.

— Які артыст? — нібы не зразумеў я.

— Ну... акцёр.

— А-а... Не. Я не акцёр.

Яна надзьмула губкі.

Як бы гэта непатрэбная цікаўнасць не разладзіла нашага сяброўства.

А дэпешы Колесавай так і не было да канца дзяжурства.

*10 снежня*

Нарэшце!

«Ваш муж жывы, здароў. Знаходзіцца за горадам адказным заданнем», — чытаю тэлеграму, якую моўчкі падала мне Алена Уладзіміраўна. Тэлеграма пахне свежым гуміярабікам, наклееная на ёй стужка вільготная, — яна толькі што прынята па радыё.

— Дзякую, Алена Уладзіміраўна! — кажу я так, нібы тэлеграма адрасавана мне.

Вось ён, доўгачаканы адказ. Як жа будзе рада Колесава! Хацелася зараз жа перадаць тэлеграму ў Марцьянава. А я работаў з Борам... І да канца сеанса яшчэ пятнаццаць мінут. Перабіць? Не. Нельга. Я ж адвучваў Бор ад спрэчак, лаянкі. Не варта самому даваць повад для іх.

Мне не церпіцца. Сяк-так заканчваю сеанс з Борам. Выбіваю:

— А.

Зараз жа чую адказнае:

— Я.

— Для Колесавай з Ленінграда, — таропка кажу я Арцёмавай.

— Нарэшце! — узрадавана і яна. — Спакутавалася, бед... — і пайшлі раптам па стужцы куцыя, няроўныя працяжнікі. Ніводнай кропкі.

Гэта ў Арцёмавай!

?

?

?

?

?

Пытальнікі мае — з пстрыкатымі кропкамі і пасечанымі працяжнікамі. Я не атрымліваю на іх адказу... Потым зноў з’яўляюцца працяжнікі. Адны недарэчныя працяжнікі. Нешта здарылася з акумулятарамі.

— Току! — крычу я. — Дабаўце току!

Далі мне току. Усё адно. Ключ ледзьве вытрымлівае мае нер-

вовыя рыўкі. Кідаю яго і сяджу пануры, злосны. Мяне, відаць, клічуць — на стужцы не-не ды з'явяцца працяжнікі. А што я магу зрабіць?

Ненавісная марзянка... Яна бяссільна перад раптоўна налянцеўшай магнітнай бурай.

Магнітная бура — частая з'ява на Урале, якая дэзарганізуе работу сувязі. Яна захоплівае часам усе лініі. Гучанне апаратаў раптам глухне, робіцца заіклівым. На стужцы ідуць адны працяжнікі. Кропкі віснуць недзе на далёкіх слупах. Ды і працяжнікі даюцца насілу. А якая з іх карысць?

Тэлеграфісты нервуюцца. Толькі і чуеш:

— Току!

— Току дабаўце!

— Ніч-чога не выходзіць...

Сымон Іванавіч кідаецца ля размеркавальнай дошкі. Але і новыя порцыі току не могуць перамагчы магнітнай буры. Брыгадзір наш, вопытны тэхнік, бездапаможны перад стыхіяй.

Цэлую гадзіну сядзеў я абібокам ля апарата. А перада мной невялікі лісток паперы з андулятарнымі іерогліфамі. Чытаю я іх ужо даўно зусім добра, без дапамогі накладнога лістка. Ды гэту тэлеграму мне і чытаць не трэба — на памяць ведаю, ад нумара да подпісу.

Слаўныя загагулінкі, якія нясуць столькі радасці стомленаму сэрцу.

Гляджу — павесялелі мае таварышы, схіліліся над апаратамі. Выразны, чысты гук нясецца з усіх бакоў. Хапаюся за ключ — ёсць! Адступіла бяссэнсная стыхія, утаймавалася магнітная бура.

— Вы мяне разумееце? — чытаю ясны шрыфт Арцёмавай.

— Разумею!

— Ну, што там у вас? Не ведаю, як быць. Яна сама тут. Ішла міма, яе паклікалі.

— Жывы, здароў, — выбіваю я і, як магу, хутчэй перадаю тэлеграму.

— Яна плача, — гаворыць Арцёмава.

— Няхай паплача. Лягчэй стане. Разрадка для напружаных нерваў, — тут я спахапіўся: што гэта за ўсеагульны суцяшальнік, навязчывы тэлеграфны аракул! Я нездаволен сабой.

Работае Арцёмава. Работа нервовая і няроўная. Перабоі. Як тады. Ці не плача і яна?

— А вы чаго? — груба вырвалася ў мяне.

— У мяне муж таксама месяц не піша.

Вось табе і маеш. Ну, вядома, і яна плача. Адну парадаваў,

другую расстроіў.

— А ён дзе?

— На фронце.

— Напіша. Бачыце — Колесавай тэлеграфуюць, — кажу я і — асекся. Хаця — што ж тут такога? Але я ведаю, і за маё спачувальнае слова яна не будзе крыўдзіцца.

— А вы чаму не на фронце? — атрымліваю нечаканае і рэзоннае пытанне.

— Прыйдзе і мая пара, — кажу. — Падыдуць нашы войскі да маіх родных краёў, там і я згаджуся.

— Ага. Зразумела.

Мы канчаем работаць.

— Прывітанне Наташы, — кажу я Асі на развітанне.

*12 снежня*

Не, дапраўды, гэты Ангел пачынае мяне злаваць... Той самы Ангел, прозвішча і імя якога так здзівілі мяне. Яны і ў запіскі мае трапілі — разам з гучным і музыкальным прозвішчам Роо. А не было б Ангела Гаўрылавіча Архангельскага, бадай, я і не запісаў бы пра Роо?! Праўда ж! Запіс праз яго ж рабіўся. Вось яно, дзіўнае супадзенне, роля сляпога выпадку!..

Аднак я аніколькі не ўдзячны гэтаму Архангельскаму. Часта прымаю я падпісаныя ім дэпешы — адзін прыехаў, другі ад’ехаў, той уладзіўся на работу, гэты прагне работы, таму прыслалі грошы, а гэты сам высылае. І да ўсяго гэтага ёсць інтарэс Архангельскаму, усім ён пасярэднічае, — проста нейкае бюро абслугоўвання і найму. Чымсьці буржуазна-дзяляцкім, спекулянцкім так і патыхае ад карэспандэнцыі Архангельскага.

Што гэта за тып? І прозвішча, і імя, і дзейнасць яго — усё з нейкага чужога, не нашага свету.

Ну, чорт з ім, з гэтым Ангелам. Ёсць справы больш цікавыя.

*13 снежня*

Сёння было багата работы. Да паловы дня я нават і не курыў. Сяджу, перадаю дэпешы. Раптам адчуваю — нешта перашкаджае мне, нешта непакоіць. Нават перабівацца пачаў. Доўга не магу зразумець — што са мной. Потым здагадваюся: гэта нехта глядзіць на мяне, — я заўсёды адчуваю староннi позірк, ён перашкаджае, паралізуе мяне.

Падымаю галаву — проста перада мной, за спіной Міхаіла Мікалаевіча, стаіць дырэктар і ўпрост глядзіць на мяне. Толькі ўзняў я галаву, ён зараз жа адвёў вочы ўбок, потым пайшоў.

У чым справа? Што за ўвага такая?

Пасля змены табельшчыца гаворыць мне:

— Дырэктар прасіў вас зайсці да яго.

У чым справа? Не разумею.

Іду ў кабінет дырэктара. Я не быў тут з таго, памятнага мне, дня паступлення на работу.

Дырэктар сустракае мяне сваёй звычайнай кволай усмешкай.

— Сядайце...

Перасунуў на стале паперы.

— Я прасіў вас зайсці да мяне... Справа вось якая: я хачу вас прызначыць брыгадзірам клопфернай.

Заўважыўшы маё здзіўленне, ён растлумачвае:

— Вы неяк ладзіце з лінейнымі пунктамі. Адвучылі іх ад спрэчак... Я неяк гутарыў з начальнікамі кантор. Наконт Марцьянава і наконт Бора далі вельмі добры водгук аб вас...

Пахвалу дырэктара, вядома, прыемна слухаць. Але які з мяне брыгадзір! Я — новы работнік, працаваў толькі на апараце, да работы брыгадзіра нават не прыглядаўся. Я разгубіўся адразу ля аднаго толькі размеркавальнага шчыта, на якім так упэўнена варожыць Сымон Іванавіч. Ёсць людзі з большым стажам, вопытам...

Усё гэта я кажу дырэктару.

— І потым, — заключаю я, — працую я тут часова, ну — два месяцы, тры — і толькі. Ці варта на такі тэрмін вылучаць мяне?!

— Дык вы адмаўляецеся? Шкада, вельмі шкада! — на твары дырэктара з’яўляецца незнаёмая мне сухасць. Такім я яго не бачыў.

Развітваюся, выходжу. Мне нават неяк няёмка. Брыдкае нейкае адчуванне. І чаго, дапраўды?

Вось дык аказія...

*18 снежня*

Я падымаўся па лесвіцы ў вестыбюль ЦТ. Яшчэ не даходзячы да пляцоўкі, бачу знаёмыя мне фігуры стройнай жанчыны і дзяўчынкі. З імі высокі вайсковы.

Дзяўчынка першая заўважыла мяне. Яна кідаецца да мяне, хапае за руку.

— Тата! — крычыць яна. — Вось гэта той дзядзя!

Я акружан сям’ёй Роо. Мне моцна паціскаюць руку.

Я вельмі замяшаўся...

На мужным твары Роо прабіваецца чырвань кволага румянцу.

— Я карыстаўся тэлеграфам, але я ніколі не думаў аб яго

людзях, — гаворыць ён. — Тэлеграф для мяне быў чымсьці адцягненым, неадухоўленым... Я ўспрымаў яго як дакладны, але, даруйце мне, бяздушны механізм і — толькі.

Я слухаю яго і думаю: вось жа амаль так глядзеў на тэлеграф нядаўна і я, хоць у мяне ўжо быў вопыт работы тэлеграфістам. Тады, у юнацтве, я шмат чаго не заўважаў, недадумваў...

Выявілася, — капітан Роо збіраецца зноў на фронт.

— Маё месца там, пад Ленінградам. — Твар яго робіцца суровым. — Я павінен і я буду змагацца за свабоду маёй дарагой Эстоніі, маёй радзімы, за шчасце майго народа.

Ён прыхіляе да сябе Марыю і гаворыць далей:

— А за гэтыя дні пабачання з сям'ёй, якія даюць мне новыя сілы, я яшчэ раз дзякую вам...

Я доўга гляджу ўслед выходзіўшай на шумлівую, яркую ад свежавыпаўшага снегу вуліцу сям'і Роо. І цяжка перадаць пачуцці, якія авалодалі мною.

*19 снежня*

— А ці нельга шпарчэй? — сказаў я сёння Арцёмавай, — павольную яе работу я ўжо лёгка бяру на слых.

— Ха-ха-ха... — чую я ў адказ: я спытаў той яе фразай, з якой пачалося наша знаёмства, дружба. — Уключайце клопфер, вам будзе лягчэй браць.

Уключаю клопфер. Арцёмава работае шпарчэй. Бадай, каб усе мае партнёры работалі так выразна, я даўно быў бы слыхачом. Прымаю, не адстаю.

Таццяна Сяргееўна здзіўлена ўзнімае бровы:

— На слы-ых?

— А што ж! Досыць на кожным сходзе тлумачыць, што я марзіст. Цяпер дыспетчар Наркамата не будзе памыляцца.

— Эй, эй! Слыхач! — крычыць праз шкло Міхаіл Мікалаевіч. — Ай жа слаўна! Нічё, нічё, старайся. Ведай нашых! — ён урачыстуюча пазірае на рады схіленых над апаратамі тэлеграфістаў.

Мая радасць — радасць новаспечанага клапферыста — стала радасцю ўсіх маіх таварышаў.

У сталовай Таццяна Сяргееўна гаворыць:

— Ну, брацік, досыць у хованкі гуляць. Падпісваем дагавор на сацспаборніцтва.

Я браў на сябе рад абавязацельстваў. І я выконваў іх. Але я ні з кім не спаборнічаў. Лічыў, што гэта мне не па сілах.

Сённяшні поспех акрыліў мяне. Мы складаем дагавор. І... усё ж я задумаўся. Наконт затрымак, скажэнняў — не баюся, тут я выцягну. Дысцыпліна? Я не быў зрыўшчыкам і не буду. А вось даць 160 працэнтаў — гэта складаней... Але Тацяна Сяргееўна абавязваецца даць 180 працэнтаў! Добра. Я падпісаў дагавор.

— Я — арбітр, — заяўляе Міхаіл Мікалаевіч. — Трымайцеся ў мяне. За невыкананне буду караць сурова.

Я кажу Арцёмавай аб маім дагаворы і дзякую ёй, пасабіўшай мне стаць слыхачом.

— Ведаеце, — гаворыць яна, — я таксама пачала браць на слых. Ленавалася раней, ці што. А цяпер убачыла — са стужкі ж цяжэй.

Я рад быў чуць гэта. Цяпер Арцёмава — сапраўды першакласны работнік.

— Атрымлівайце за гэта дэпешу Кочыну.

— Сцяпану? Ай, як добра!

Перадаю: «Абавязацельства выконваю. Удзельнічаў у баях. Прабуравіў аўтаматам 48 фашыстаў. Буду весці лік і далей. Як з антрацытам? Колькі рубаеш? Прывітанне сям'і. Мікалай».

— Малайчына старшы брацік. Вось які наш Мікалай. Ну і Сцяпан не адстае.

Арцёмаву таксама цікавіць спаборніцтва землякоў-шахцёраў.

—Што ж Сцяпан не паведамляе аб сваіх поспехах?

—Ён да Новага года сюрпрыз рыхтуе.

Яна і гэта ведае.

Перад зменай Ася гаворыць:

— Нашы войскі занялі Валакаламск і Вайбакала.

Немцы коцяцца ад Масквы, расціскаецца варожае кальцо пад Ленінградам. Добрыя навіны! Пра гэтыя навіны я заўсёды даведваюся ад Арцёмавай. Ад яе я пачуў аб узяцці Растова, Ельца, Калініна.

Калегі мае жартуюць:

— Добрага палітінфарматара знайшоў!

Праўда, гэта крыху дзіўна: пра навіны мы даведваемся ад... Марцьянава. Арцёмава ўключае рэпрадуктар, і неўзабаве я чую:

— Л.

І тады ўключаемся ў навіны і мы. Згрудзіўшыся ля апарата, чытаем Асіну палітінфармацыю.

*20 снежня*

«Бюро абслугоўвання» Ангела Гаўрылавіча Архангельскага

за апошні час вельмі дбае аб лёсе нейкага Аляксея. Толькі аб ім і вядзе яно сваю тэлеграфную перапіску. Проста нейкі пяшчотны татуля, які апякуе маладога, неспрактыкаванага ў жыцці юнака. А мне не падабаецца...

*21 снежня*

«Страляю адбойным малатком па 230 працэнтаў.

Будзе і больш. Уся сям'я рада тваім поспехам. Віншуем цябе з Новым годам. Жадаем новых баявых поспехаў. Не давай жыцця фашысцкім сцервяцам, бі трапна і моцна».

Не сцярпеў-такі Сцяпан! Адказаў брату. Абавязацельства сваё ён перавыконвае. Які ж ён рыхтуе сюрпрыз? Адзін «буравіць аўтаматам», другі «страляе адбойным малатком». Шахцёры!

А і праўда: зброя іх і з выгляду мае шмат агульнага і ў рабоце дзейнічае аднолькава — страляе і падрыгвае.

*22 снежня*

Які сёння цудоўны дзень! Ва ўсёй нашай змены прыўзняты, святочны настрой.

Я прымаў тэлеграму з Бора. Ад калектыву алюмініевага камбіната. Сціслай тэлеграфнай мовай калектыў рапартаваў ураду: заданне выканана датэрмінова. 21 снежня дано 402 працэнты нормы мірнага часу.

Я раздзельна і выразна прамовіў:

— Алюміній — чатырыста два.

У мяне адабралі тэлеграму. Яе чытаў Міхаіл Мікалаевіч, але да яе цягнуліся ўжо нецярплівыя рукі другіх таварышаў. Усім хацелася сваімі вачыма прачытаць гэты рапарт. У ім мала было слоў. Ён быў кароткі, амаль сухі. Але кожнае слова яго гучала, спявала.

Перамога! Якая атрымана перамога!..

Я ўяўляю сабе, якая ўрачыстасць цяпер на камбінаце, які новы ўздым ахапіў яго калектыў. Мне так хочацца хоць на міг апынуцца там, хоць адным вокам глянуць у твары гэтых людзей, хоцьаднаму з іх пацісnуць руку.

— Эх... — гаворыць Міхаіл Мікалаевіч. — Туды б на гадзінку, ну — на хвіліну туды б...

Бачу я — усе так думаюць. Усе ахоплены ганарлівай радасцю за перамогу алюміншчыкаў.

Іх подзвіг — не бачны нам, але кроўна блізкі, нібы адлюстраваным магутным ззяннем сваім асвечвае і наш невялікі калектыў, ён кліча да барацьбы і перамог.

Усе ўжо за апаратамі. Усе работаюць. Але ўсе абярожна нясуць у сабе і перажываюць самае чыстае, самае цудоўнае чалавечае пачуццё — радасць.

І на тварах ва ўсіх такія харошыя, такія прамяністыя ўсмешкі.

*24 снежня*

Здаецца, я пачынаю крыху разумець пана Архангельскага. Чым чорт... цьфу! — Ангел не жартуе! Калі я не памыляюся...

Не, пачакаем да заўтра! Будзе вольных пара гадзін, і я праверу свае здагадкі.

*25 снежня*

Вось такое адчуванне, нібы я стаю на мінным полі і — вось-вось — адбудзецца выбух.

Няўжо гэта праўда? Няўжо я не памыліўся ў сваіх здагадках?

Хадзіў я сёння ў КСА, праглядваў стосы тэлеграм майго апарата. І — чым далей у лес, тым болей дроў... Рукі ў мяне дрыжалі, у вачах усё пярэсцілася, я глытаў ваду шклянку за шклянкай.

«Аляксей атрымаў 335 рублёў» праз два дні пасля таго, як алюмініевы камбінат даў 332 працэнты нормы. 400 рублёў той жа Аляксей атрымаў праз дзень пасля выканання камбінатам задання на 402 працэнты. І так, адна за другой, уражалі мяне сваім падабенствам шмат якія тэлеграмы з Бора.

Я хапаў з паліцы ўсё новыя і новыя стосы тэлеграм. І што ж? Паравінскі прыехаў у Бор у дзень прыбыцця туды паравоза для алюмініевага камбіната. Дэкавільскі ўладзіўся на работу ў дзень пуску камбінацкай вузкакалейкі.

Зразумела. Усё зразумела! Дэкавількай часта называюць вузкакалейныя чыгункі лёгкага тыпу, Паравінскі сугучны паравозу. А Аляксей? А чаму б Аляксею не быць псеўданімам алюмінію?!

Вось яны, «зезеры» і «яклакі» паважанага Ангела Гаўрылавіча Архангельскага. Не «яклакі», а іклы. Іклы драпежнага звяругі, які прабраўся за агароджу абароннага прадпрыемства.

Адчуваю, цвёрда ўпэўнены — я не памыліўся.

*27 снежня*

Усё больш прыкметна набліжэнне Новага года. Нескантальным патокам ідуць віншавальныя тэлеграмы.

І якіх толькі не чытаем мы тэкстаў! Ёсць звычайныя, трафарэтныя, але ёсць і такія, па якіх відаць, чым жывуць іх падацелі, якія надзеі ўскладаюць на Новы год.

Лесаводу з далёкай ускраіны нашай вобласці тэлеграфуе яго прыяцель, доктар шпіталя:

«Віншую з поспехам. Піхтавы бальзам, які ты здабыў ва ўмовах Паўночнага Урала, выявіў выдатныя лекавыя якасці, якія садзейнічаюць хутчэйшаму зажыўленню ран, аблягчаюць пакуты параненых байцоў. У Новым годзе жадаю новых творчых поспехаў. Абдымаю цябе, сям’ю».

Гадзіны праз тры я чытаў адказную тэлеграму лесавода:

«Усхваляваны тваёй тэлеграмай. Рад, ганаруся поспехам. Пачынаю распрацоўку пытання вытворчай здабычы піхтавага бальзаму. Усе свае сілы аддам хутчэйшаму ажыццяўленню захапіўшай мяне задачы».

Я ў думках жадаю поспеху скромнаму лесаводу, які знайшоў такое выдатнае прыстасаванне сваім сілам у суровыя дні, што перажывае краіна.

Паказваю тэлеграму Міхаілу Мікалаевічу. Яго вочы загарэліся, ён нібы скідвае з сябе футляр «лорда».

— Як слаўна! Ах, як слаўна... Ты разумееш... Ты разумееш: гартаванае жалеза ворагам, жыватворчы бальзам нашым героям! А? Вось якія мы, уральцы! — і ён, горда падняўшы тэлеграму, патрасае ёю над галавой.

А ў самым канцы дзяжурства Надзенька Федароўскіх перадае: «Віншую з сынам. Здаровы, моцны, цудоўны хлапчук. Каця адчувае сябе добра. З Новым годам, з новымі перамогамі, дарагі Паша. Маторына».

Гэта Колесаву, у Ленінград.

«Ну вось, атрымлівай навагодні падарунак, таварыш Колесаў. Працуй па-баявому — для шчасця сям’і, для шчасця радзімы», — думаю я.

Раптам Надзенька, з нечаканым для яе жыццёвым вопытам і апломбам старой бабулі, рэзюміруе:

— Ва ўсіх яны цудоўныя. У кожнай матулі яе дзеткі — лепшыя за ўсіх. Яшчэ і пячатку да дэпешы прыхлопнула, ха-ха.

— Па-першае, матуля не Маторына, а Колесава, а па-другое, калі пячатка ёсць, дык на тое Маторына і суддзя, каб усё па закону рабіць, — ашарашваю я Надзеньку.

— А вы адкуль ведаеце, што яна суддзя?

— Я ж не адну дэпешу передаў у яе адрас.

— Як вы гэта памятаеце?

— А вы не памятаеце, як татуля клапаціўся аб гэтым цудоўным хлапчуку, калі яго яшчэ не было на свеце?

— Як гэта? Не памятаю.

— А «хадзі асцярожна» памятаеце?

— Ай, верна! Я і забыла. І як вы ўсё памятаеце? — зноў здзівілася Надзенька.

— Калі любіш сваю справу, кожную драбязу будзеш памятаць.

— Ну, ПО, — як быццам пакрыўдзілася мая партнёрша.

ПО — дык ПО. І я перадаў ёй яшчэ некалькі навагодніх тэлеграм.

*1 студзеня 1942 года*

Новы год я сустракаў на дзяжурстве. У 24 гадзіны падышоў да апарата і адразу пачуў:

— Л.

Выбіваю:

— Я.

— З Новым годам, Леанід Сяргеевіч. Жадаю вам хутчэй вярнуцца ў родныя краі. Жадаю здароўя, шчасця, кіпучай работы, і каб гэтая работа давала вам заўсёдную радасць.

Што сказаць мне маёй прыяцельцы?

— Жадаю і вам вялікага шчасця, Анастасія Пятроўна. Жадаю спаўнення ўсіх вашых жаданняў, нават самых скрытых, аб якіх вы думаеце нясмела і ў якіх баіцеся самой сабе прызнацца.

Віншаваннямі абменьваюцца ўсе таварышы па змене. Цудоўныя, чуллівыя мінуты.

Потым мы пачынаем работу. А работы багата. Усё яшчэ ідуць навагоднія тэлеграмы. І сярод іх я сустракаю знаёмыя мне, блізкія імёны.

Ад ленінградца Колесава я перадаваў у Марцьянава пераказную тэлеграму — сынішку на малачышка. Былі ў пераказе гэтым і словы шчаслівага бацькі:

«Страшэнна рад. Беражы сябе, сына. Працую з падзесяцяронай энергіяй. З Новым, шчаслівым годам, дарагія мае».

Мікалай Кочын паведамляў брату:

«Лік прадоўжваю. 94 гітлераўскія мярзотнікі склалі галовы пад маімі кулямі. Берагу аўтамат, міма не страляю. Сям'ю, шах-

цёраў-дружбакоў віншую з Новым годам — годам вялікіх перамог нашай радзімы».

— Малайчына Коля, — гаворыць Ася. — Малайчына і Сцёпа. Я званіла на шахту толькі што. 350 працэнтаў ужо даў. Вось змянюся, разам Мікалаю напішам.

— Чаму разам? — не сцярпеў я.

— Як чаму? Яны ж браты.

— Ну так, вы казалі — Мікалай старшы, Сцяпан малодшы.

— А я сярэдняя сястра, — гаворыць яна.

Я ўтаропеў.

— Сястра?

— Ну так, сястра. Я ж казала вам.

Мне нават крыўдна.

— Нічога вы не казалі. Вы толькі сказалі,што яны браты, а не сказалі «мае».

— Хіба? Ха-ха-ха, — заліваецца смехам апарат. — А я думаю: што гэта ён гаворыць пра братоў маіх, як пра чужых мне, — і зноў гучыць вясёлае Асіна «ха-ха-ха».

Бываюць жа такія непаразуменні...

Але якая сямейка? Тры віртуозы сваёй справы! Ніводнага адстаючага.

Пад раніцу Ася паведаміла аб навагоднім падарунку краіне ад нашай слаўнай Чырвонай Арміі.

— Узята Калуга.

Завяршыўся бой за Маскву! Разгромлен Гудэрыян. Не бачыць паганай немчуры нашай Масквы, не пагасіць ім прамяністага зіхацення крамлёўскіх зор — гранёных уральскімі гранільшчыкамі з рубінаў, здабытых уральскімі гарнякамі.

Прыемна прайшло гэта начное дзяжурства, якое завяршала дні хвалюючай пераклічкі. На фронце і ў тыле — усе працавалі не пакладаючы рук. І з гонарам дзяліліся ў гэтыя пераднавагоднія дні сваімі перамогамі савецкія людзі, якія сваімі рукамі будуюць шчасце і сваімі рукамі бароняць яго.

З перамогамі ўступаем мы ў новы год — год канчатковай урачыстасці над ворагам.

*3 студзеня*

Гадзіны праз тры пасля пачатку дзяжурства ў дзвярах клопфернай з'явіўся Міхаіл Мікалаевіч і паклікаў мяне пальцам. Тут толькі здумаў я, што сёння ж у яго не выходны.

— Ты дзе гэта загуляў, Міхаіл Мікалаевіч?

Ён не адказаў і пацягнуў мяне ў курылку.

— Закурым апошні разок разам, — дастае ён партсігар.

Я не разумею.

— За разлікам прыйшоў, — зноў загадкава гаворыць ён.

— Ды што ты... Кажы да справы.

— Еду ад вас, — не зменьвае ён тону.

— Ды ну цябе, кінь! — узлаваў я.

Ён здаволена смяецца.

— Ага. Узлаваў?

Я з прыкрасцю махнуў рукой.

— Еду на фронт, у аднаўляльную калону сувязі, — горда гаворыць ён. — Бачыў на карце, колькі адбілі ў паганага немца нашай зямлі? Ну, вось. Сувязь наладжваць буду. Хопіць ключом забаўляцца.

— Віншую. Ад душы віншую, дарагі Міхаіл Мікалаевіч! — Я моцна цісну яму руку.

— І цябе хутка выклічу! А?

— Ды ўжо чакаю. Рад буду.

— То-та. Ну, бывай.

— Пісаць будзеш?

— Ды ўжо напішу, — і ён ідзе да дзвярэй. Потым спыняецца. — Чорт пабяры, нязручна ў часе дзяжурства. Робяць людзі. Але і так пайсці нядобра...

І ён вяртаецца ў залу, ідзе па радах апаратаў і паціскае рукі таварышам. Харошыя, светлыя ўсмешкі праводзяць яго да дзвярэй.

— Шчасліва, Міхаіл Мікалаевіч. Давай моцную сувязь!

— Дадзім! — падымае ён руку на адвітанне.

Эх, Міхаіл Мікалаевіч... Сусед па апараце і партнёр мой па курылцы. Сумна мне будзе без цябе.

Ну, нічога. Можа, сустрэнемся яшчэ!

*7 студзеня*

А бюро абслугоўвання Архангельскага не загружае тэлеграф. Відаць, дзейнасць яго перасечана ў самым разгары.

*8 студзеня*

Сёння я на тры гадзіны затрымаў перадачу адной тэлеграмы. Нават Таццяна Сяргееўна не пярэчыла і абяцала не лічыць гэту затрымку зрывам нашага дагавору. Не было нашага строгага арбітра. Але, я думаю, Міхаіл Мікалаевіч таксама не ўшчуніў бы мяне за гэта.

За гадзіну да маёй змены павінна была заступіць на дзяжурства Арцёмава. І я адклаў гэту тэлеграму да яе прыходу. Мне хацелася перадаць дэпешу самому адрасату.

Прыйшла Ася. Мы прывіталіся.

— Адну самую тэрміновую НП, — сказаў я ёй.

— Адну?

— Так, — адну, больш няма.

— ПО.

—Арцёмавай, — кажу я, — з фронту, — і перадаю: «Выйшаў з акружэння. Здароў. Прывітанне ўсім вам, родныя».

— Дзк., Леанід Сяргеевіч, за навагодні падарунак. Цяпер я шчаслівa зусім. Вашы пажаданні пачынаюць здзяйсняцца.

Так. Гэта быў навагодні падарунак Асі. Крыху спознены, але самы каштоўны. Я не ведаю падрабязнасцей, але я ўпэўнены, што Асін муж, лейтэнант Чырвонай Арміі, выканаў баявое заданне.

*11 студзеня*

Уразіла мяне сёння Таццяна Сяргееўна, названая мая сястрыца. Заўсёды сустракае яна мяне дабрадушнай, ветлівай усмешкай, а сёння...

Яна стаяла за сталом брыгадзіра. Уваходжу, яна глядзіць на мяне — сур'ёзная, маўклівая — і незнаёмыя мне злыя агеньчыкі бегаюць у яе вачах.

Я было ўтаропеў.

— Добрага дня, сястрыца!

— Добры брацік! — не вітаючыся, гаворыць яхідна яна. — Не чакала... — і адвярнулася.

Нічога не разумею.

— Дзе Сымон Іванавіч? — пытаюся ў таварышаў па змене.

— Эге! Ён і не ведае? Сымон Іванавіч — брыгадзір юзістаў. Будзе там наладжваць работу. А ў нас брыгадзір — вось ён, — паказваюць мне на Таццяну Сяргееўну.

Тут я пачаў разумець.

— Віншую, сястрыца, — падыходжу я зноў да яе.

— Як не сорам! Яшчэ віншуе. Гэта ж вас хацелі прызначыць брыгадзірам!

Ага. Яна ведае пра маю размову з дырэктарам. Мяне гнеў сястрыцы пачынае ўжо забаўляць.

Мала-памалу я разгаварыў яе.

Яна любіць работаць на апараце. Яна не ўмее і не хоча камандаваць. Яна не хоча быць начальнікам. Яна не разумее, чаму адмовіўся я.

Пачынаю пераконваць. Вядома — не мне, а ёй трэба быць брыгадзірам. І Сымон Іванавіч ніколі не камандаваў, а змену вёў умела і спраўна. І работа гэта вельмі цікавая. І ўсе яе паважаюць, падтрымаюць.

— А наша спаборніцтва? Рады, што не трэба даганяць?

Я зноў даводжу. У яе ўжо 178 працэнтаў, у мяне 156. Значыць, дагавор быў дзейсным. І можна яго нанова скласці: і ў брыгадзіра ж ёсць паказчыкі работы, па якіх можна спаборнічаць. Але... ці захоча яна спаборнічаць з радавым тэлеграфістам?

Яна смяецца.

За працай Таццяна Сяргееўна адышла. Звычайная ціхая ўсмешка прасвятляе яе твар, разгладзіліся зморшчынкі недавольства на лбе.

Ну, вось і добра.

*14 студзеня*

Сёння ў мяне была цікавая размова. Не на тэлеграфе. Пра Ангела Гаўрылавіча Архангельскага. Усё спраўдзілася. Я не памыліўся. Ядавітыя іклы фашысцкай гадзіны абломаны. Вось табе і сляпы выпадак!

З гордым пачуццём здаволення ішоў я на дзяжурства.

*17 студзеня*

У клопфернай цяпер часта можна пачуць словы: «па метаду Сымона Іванавіча». Гэта гавораць тады, калі ў «шпакоўнях» мяняюць лініі сувязі.

Выпадак з Таццянай Сяргееўнай, калі Сымон Іванавіч адхіліў затрымкі тэлеграм, умела пераключыўшы лініі, нібы адкрыў вочы на нашы тэхнічныя магчымасці. Цяпер часта, калі заўважаецца накапленне, тэлеграфіст заяўляе брыгадзіру:

— Трэба ўжыць метад Сымона Іванавіча.

Хоць і працуе Сымон Іванавіч не ў нас, а ў вялікай апаратнай зале, але пра яго не забылі ў клопфернай.

Добрыя справы добра помняцца!

Таццяна Сяргееўна ўдасканаліла гэты метад. Яна часам не пераключае загружаныя лініі, а часова вылучае адну з іх. Вось, да прыкладу, закончу я работу на сваім апараце, яна перасаджвае мяне на гадзіну, дзве на запасны апарат і ўключае ў яго адну з загружаных ліній ад апарата са «шпакоўняй». Глядзіш — за пару гадзін і расшыты абедзве лініі. А за маім апаратам гэтыя дзве гадзіны назірае сусед.

Так да метаду Сымона Іванавіча дабавіўся ў нас яшчэ «метад Таццяны Сяргееўны».

А яна баялася быць брыгадзірам. Цяпер не скардзіцца. Разгрузіць, расшые лініі і здаволена. Бачыць, вядома, што зрабіла больш карыснага, чым дзяжурачы на адным апараце.

*24 студзеня*

Выпадаюць часам узапар такія дні, калі кожны з іх прыносіць шмат прыемнага і не ведаеш, які з іх лепшы. Апошнія дні былі для мяне акурат такімі днямі.

Выдатныя справы на фронце. Чырвоная Армія гоніць вашывую немчуру так, што толькі абмарожаныя пяткі мігцяць. Горад за горадам вяртаюцца ў сям'ю савецкіх гарадоў.

У зводцы Савецкага Інфармбюро я прачытаў аб снайперскім аддзяленні сяржанта Мікалая Кочына. Ён прабуравіў сваім аўтаматам 180 фашыстаў. Кожны баец яго аддзялення справай гонару лічыць не адставаць ад свайго камандзіра. Яны вядуць свае асабістыя рахункі смяртэльнай помсты нахабнаму ворагу. Іх прыкладу паследавалі шмат падраздзяленняў фронту. Шахцёр Мікалай Кочын стаў на чале снайпераў-аўтаматчыкаў вышэйшага класа.

Брат яго Сцяпан стаў дзесятнікам участка шахты. Ася Арцёмава хвалявалася — ці справіцца Сцёпа? Сёння гаворыць:

— Нічога. Спраўляецца.

На шахце ўзрастае здабыча вугалю. Будзе мясцовы антрацыт для ўральскіх домнаў, усё менш і менш будзе клопатаў аб дастаўцы на Урал коксу: антрацыт заменіць яго.

Учора Таццяна Сяргееўна прымчала ў апаратную з газетай у руках.

— Вось... Борскія алюміншчыкі...

Мы не чакалі, пакуль яна перадыхне. Выхапілі газету з яе рук.

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета!

За паспяховае выкананне задання ўрада рад борскіх патрыётаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

І зноў мы перажывалі светлую радасць. Як тады, калі алюміншчыкі рапартавалі аб датэрміновым выкананні задання. І, як тады, мы з новай энергіяй браліся за работу, стараліся зрабіць лепш, больш.

Неўзабаве я прымаў ад Бора тэлеграму.

Мітынг алюміншчыкаў звярнуўся да таварыша Сталіна, да ўрада з падзякай за ўзнагароду. Даючы ўжо 450 працэнтаў звы-

чайнай выпрацоўкі, яны абавязаліся апраўдаць узнагароду і давесці выпрацоўку да 600 працэнтаў.

Дастойны адказ на дастойную ўзнагароду!

Не было з намі Міхаіла Мікалаевіча. Але ён даведаецца аб урачыстасці алюміншчыкаў з газет. Як рады будзе ён за сваіх землякоў-уральцаў!

Я ўспамінаю. Найбольшай каштоўнасцю Урала расійскія прамыслоўцы-капіталісты лічылі ізумруды. Гэтыя каштоўныя каменні здабываліся толькі ў пойме ракі Рэфты.

У нашай сацыялістычнай дзяржаве найкаштоўнейшым капіталам Урала з'яўляюцца яго людзі. Яны працуюць на заводах і палях паблізу славутай ракі Рэфты, на заводах і палях паблізу рэк Чусавой, Камы, Тагіла, Пышмы, Туры, Ісеці. <...>

А сёння прымаў я тэлеграму Колесавай да мужа:

«Горача віншуем з высокай урадавай узнагародай. Ганарымся табой, дарагі Паша. Будзь здароў і дужы. Жадаем новых поспехаў у тваёй рабоце».

Колесаў узнагароджан!

Перабіраю газеты. Знаходжу.

«За паспяховае выкананне заданняў урада па асваенні і вырабу ўзбраення і боепрыпасаў, якія ўзнімаюць баявую магутнасць Чырвонай Арміі, і па будаўніцтву абаронных збудаванняў вакол Ленінграда...

Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга...

Колесава Паўла Ігнатавіча... канструктара завода...»

Колесаў — ардэнаносец.

У тыя дні, калі так хвалявалася яго жонка, калі яе хваляванне востра перажывалі невядомыя ёй людзі, муж яе выконваў адказнае заданне. Ён таксама зрабіў уклад у справу абароны роднага горада, калыскі пралетарскай рэвалюцыі.

Вось якія гэтыя дні. Які з іх лепшы? Усе добрыя. Усе лепшыя. Як справы людзей, пра якія даведаўся я ў гэтыя дні.

*26 студзеня*

Слаўна, Міхаіл Мікалаевіч, слаўна!

Парадаваў мяне прыяцель пісьмом. Стрымаў сваё слова.

«Рушым наперад следам за наступаючымі нашымі часцямі. Яшчэ зямля гудзіць ад блізкай кананады, яшчэ не закапаны трупы паганых фашыстаў, а мы ўжо мяняем разбітыя слупы, зрошчваем парваныя выбухамі бомб драты. У лінію ўключаюцца вайсковыя часці. Ты разумееш, як рады мае хлопцы, калі пачуюць у тэлефонную трубку:

— Ало! Хто гаворыць?

А потым:

— Дзякуй, сувязісты! Працуеце па-баявому!

Не трэба нам лепшай узнагароды, чым гэтыя словы. Дзейнічаюць лініі, працуе сувязь.

Мы ідзём і ідзём наперад. Учора папалі пад бамбёжку. Нічога! Хлопцы мае не злезлі са слупоў. Не спалохалі іх і кулі сцярвятнікаў. Няма часу, браток, хавацца. Бо байцы ідуць наперад, і ім патрэбна сувязь са штабамі.

А сёння дайшлі да лагчыны, бачым — бягуць, уцякаюць немцы. Тут і я не сцярпеў. Сам жа верхалазам быў! Когці на боты і палез на слуп. Ведай нашых! Вядзём лінію да перадавых часцей. Працуем на слупах, а бой перад вачыма. Мы ведаем — перамога наша будзе, і смела вядзём лінію наперад, усё наперад!»

Слаўна, Міхаіл Мікалаевіч. Слаўна. Пісьмо яго чытала ўся змена. Пасля дзяжурства мы напісалі яму калектыўна пра нашы справы. Усё прыгадалі. І новы «метад Тацяны Сяргееўны». Напісалі і пра борскіх алюмінщчыкаў — а можа, газета за гэты дзень не трапіць яму. Няхай парадуецца разам з намі.

*30 студзеня*

Прыйшоў ён, доўгачаканы дзень.

— У армію, таварыш! — сказалі мне сёння ў ваенкамаце.

І прыгадаліся мне вершы земляка-паэта Максіма Танка «Дарогай на захад»:

С зарей знамен к тебе вернусь,
Она блеснет в полях раздольных.
И вновь ты будешь, Беларусь,
Цвести в семье народов вольных.

Я буду браць удзел у вызваленні ад нямецкіх акупантаў маёй рэспублікі, маёй роднай Беларусі. Я ганаруся гэтым.

Я іду на тэлеграф, заходжу ў апаратную. Выклікаю Марцьянава, Бор. Я чую ўсхваляваны адказны стук клопфера, — са мной гаворыць мае завочныя прыяцелі. Потым падыходжу да Тацяны Сяргееўны — маёй названай сястрыцы.

— Добры з вас тэлеграфіст выйшаў, — гаворыць яна. — Жадаю поспеху і ў баявых справах.

Я дзякую ёй за ўсё — за ўвагу, за дапамогу, за чуласць, за дружбу.

Праходжу па радах апаратаў і моцна пацінскаю рукі таварышам па рабоце, з якімі дзяліў я гэтыя месяцы і прыкрыя цяжкасці і бадзёрую радасць.

У трасканіне і шуме вялікай залы, ля аднаго з апаратаў Юза,

я знайшоў Сымона Іванавіча. Мы ідзём з ім па зале, і ён роўным сваім, не парушаючым рытму работы голасам гаворыць:

— Галоўнае, Леанід Сяргеевіч, тэхнікай авалодвайце. І ў тыле, і на фронце — тэхніка вырашае ўсё.

Ён мае рацыю, мой першы брыгадзір, вопытны і ўпэўнены ў сабе тэхнік, гледзячы на якога я вучыўся вытрымцы і спакойнасці ў рабоце.

Алены Уладзіміраўны я не бачу за сталом кантролю.

— Яна ў сталовай, — гавораць мне.

Штурхнуў дзверы на лесвіцу і...

— Ай! — кароткім ускрыкам сустрэла мяне Лянок і, скрывіўшыся ад болю, шпарка махае рукой — я адчыніў дзверы, калі яна працягнула да іх руку...

— Пакуль жаніцца — загаіцца! — ужо смяецца яна.

— Ну, вам не падыходзіць гэта дзіцячая пагаворка. Замужняя жанчына і...

— Калі вы паспелі мяне замуж выдаць? — разгублена глядзіць яна на мяне.

Я таксама замяшаўся. Нешта кажу.

— Ды не ж! Я... Ды я ж незамужняя!

Выходзіць, Міхаіл Мікалаевіч прадгадваў падзеі? А я, памятаю, хацеў было жартаваць з ёю, як з дзіцёнкам. Ну, што ж! Справа мінулая.

Лянок жадае мне баявых подзвігаў. Потым, замяўшыся, няўпэўнена прамовіла:

— Кажуць, вы інжынер?

Што ж, няма чаго ўжо таіцца. Я здавольваю нарэшце цікаўнасць гэтага дзіцяці з пухнатымі кудзеркамі.

— А вы напішаце кнігу пра тэлеграфістаў? Праўда? — зазірае яна мне ў вочы.

— Напішу. Яна ўжо амаль гатова, — кажу я і думаю: «Такі праўда. Кончан мой запісны сшытак. Трэба пачынаць новы».

Я выходжу на вуліцу. Гляджу на блакітны франтон будынка са строгімі зіхатлівымі накладнымі літарамі.

Пяць месяцаў працаваў я тут. Як непрыкметна, як шпарка прамінулі яны ў вірлівай, захапіўшай мяне працы...

Не! Не шкадую я гэтых дзён. Яны не страчаны для мяне. Я ўбачыў, я пераканаўся, што тэлеграф — гэта не толькі дакладны механізм. Тэлеграф — гэта людзі, якія робяць вялікую, хоць і непрыкметную справу. І хіба толькі электрычны ток струменіць па туга нацягнутых, мерна гудучых тэлеграфных дратах? Не! У іх б’ецца, пульсуе шматграннае, творчае, такое дзівоснае жыццё

маёй радзімы.

Я гляджу на франтон высокага блакітнага будынка. Там, за яго сценамі, схіліліся над апаратамі прыяцелі мае, якія адчуваюць магутнае біенне гэтага жыцця.

— Бывайце, дарагія прыяцелі... Не! Да пабачэння!

Дпбч, любыя мае, дпбч!

*Люты 1942 г.*

## ДЗЁННІК СУВЯЗІСТА

*6 красавіка 1942 года*

Цікавае відовішча — агульны строй роты. Я быў сёння днявальным і назіраў збоку за новымі сваімі таварышамі, якія стаялі шчыльна плячо ў плячо. Як выразна вылучаецца ў шарэнгах строю ўсё індывідуальнае, асабліва тое, што належыць толькі гэтаму вось курсанту.

На правым флангу — малайцаваты, стройны Львоў. Як ёмка аблягае яго моцную постаць вайсковая форма! А вось сутулаваты, хударлявы, як жэрдка, Сінельнікаў. Недарэчна доўгае паліто звязвае яго рухі. Ён хутчэй падобны да пастара, які выпадкова трапіў у строй, чым на воіна.

Пільныя блакітныя вочы старшага сяржанта Саладоўнікава, усміхаючыся, паглядаюць на курсантаў. Ён нібы прыцэльваецца да ўсіх гэтых інжынераў, журналістаў, педагогаў, механікаў. А можа, проста ўгадвае шляхі іх перараджэння, станаўлення — як ваенных, як камандзіраў? Яму, у мінулым данбаскаму электрамеханіку, гэта відней!

Рота рушыла на вучэбны пляц. Каманда: «Кругом!» І строй раптам пайшоў кепска, запінаючыся, выгінаючы рады. Гляджу — невысокі, у акулярах, цывільны Розенберг, які ішоў ззаду, воляй каманды стаў накіроўваючым. Падвязаныя вяровачкамі галёшы (снегу вунь колькі на ўральскіх лагчынах!) шархалі па льдзінах, Розенберг цягнуў нагу і ламаў строй усёй роты.

Усміхнуўся Львоў:

— Та-ак... Страявік з яго будзе не надта які...

А праз паўгадзіны роту падзялілі на ўзводы. У першы трапілі франтавікі, кадравікі. Я залюбаваўся імі. Вось гэта шарэнгі, вось гэта выпраўка. Як дружна адбіваюць яны гулкі страявы крок! З зайздрасцю і разам з тым з павагаю паглядаюць на іх курсан-

ты, якія ўпершыню сталі ў рады арміі. Адчуваю я: з гэтай зайздрасці павінна нарадзіцца законнае і здаровае жаданне дагнаць, стаць упоравень. Гэта ж і тыя і другія прыйшлі сюды з адзінай мэтаю. І тых і другіх радзіма паклікала ажыццявіць пачэсную задачу: разграміць, задушыць фашысцкую гадзіну.

Увечары мы паўзводна размяшчаліся ў пакоях, прыглядаліся, кажучы мовай статута, да суседзяў справа і злева. Непадалёку ад мяне, сагнуўшыся вострым трохкутнікам, сядзеў цыбаты Кацнельсон. Ён працягнуў руку і дастаў з палічкі стос вялікіх аркушаў з прамавугольнікамі друкаванага тэксту.

Я зацікавіўся.

— Карэктурныя адбіткі... Гэта Герберт Уэлс. Неўзабаве выйдзе з друку. Я ж выдавецкі работнік. Вось і ўзяў гэту навінку з сабою.

Ён нерашуча пакруціў адбіткі ў руках, уздыхнуў і паклаў назад. Праз хвіліну ён паглыбіўся ў «Настаўленне па тэлефоннай службе» — сёння нам раздалі вучэбныя дапаможнікі, і ўсе спяшаліся бегла азнаёміцца з імі.

Воддаль сядзеў Харытонаў. Гэты ўчарашні бухгалтар быў на абавязковай службе сувязістам. Дзіўнае гучанне скарочаных назваў апаратуры не вабіла яго. Ён глядзеў у нутро складанай тэхнікі. Зрэдку, быццам сустрэўшы знаёмае, але крыху забытае, ён радасна вымаўляў уголас:

— Бленкер!.. Бленкер!.. Дросельны фільтр. Ага. Сімплексная трансляцыя. Ведаю — вольт-міліамперметр. Ёсць і омметр. Зразумела...

Наогул, курсанцкая вучоба пачалася.

Адзін толькі Дордзін скруціўся ля стала абаранкам і, забыўшыся на ўсё навакольнае, прагна ўпіўся ў радкі вялікага аднатомніка Маякоўскага. З гэтага педагога-літаратуразнаўцы яшчэ не злезла «гражданка».

*10 красавіка*

Я часта любуюся Львовым. Малады, чырванашчокі прыгажун, поўны нейкай своеасаблівай абаяльнасці, ён карыстаецца сімпатыяй усіх курсантаў. У чым сіла яго абаяльнасці? Я доўга думаў пра гэта і прыйшоў да нечаканага вываду: у патрабавальнасці. У разумнай воінскай патрабавальнасці. Старшы сяржант Львоў патрабавальны да сябе, патрабавальны да таварышаў. Ён не сябруе з неахайнымі, развязнымі, бесталкова гаманлівымі. Яны гэта адчуваюць. Бачаць, што таварышы супастаўляюць іх са Львовым. І яны падцягваюцца, раўняюцца на яго. Львоў выдатна вучыцца, але ён умее і адпачываць. Ён любіць песню —

бадзёрую страявую чырвонаармейскую песню. І хоць голас у яго не вельмі які, ён запявае. І песня лунае над нашай ротай. Суладная, гучная. Усе заўважаюць: рота сувязі спявае лепш за ўсе падраздзяленні курсаў. Адна дзіўная рыса. У яркага брунета Львова над ілбом адмеціна — сівая пасма.

— Перажылі што-небудзь, таварыш Львоў? — спыталіся спагадліва ў яго.

— Ды не! — смяецца ён. — Гэта прыроднае.

У ім усё прыроднае — і прыгажосць дужага, здаровага дзецюка, і воінская сабранасць, падцягнутасць. Цудоўны хлопец гэты Львоў!

*14 красавіка*

Лепш за ўсё ліняе «гражданка» на страявых занятках, на фіззарадцы. Як старанна робяць страявыя практыкаванні Розенберг, Кацнельсон!

Львоў сёння пахваліў Розенберга:

— А з цябе салдат будзе. Відаць, памыліўся я спачатку, гледзячы на цябе.

Задаволена бліснулі Розенбергавы акуляры. Ён і сапраўды вельмі змяніўся. Памагла тут і форма, у якую цяпер апрануты ўжо ўсе мы.

— Разумееш, я ўнутрана неяк вінавата ўсміхаўся, калі ў цывільным падыходзіў рапартаваць лейтэнанту, — кажа Розенберг. — Скаванасць нейкая, баязлівасць была...

— А цяпер змест адпавядае форме? — з’яхіднічаў Дордзін.

— Але! — цвёрда адказаў Розенберг. — Цяпер я ў сваёй талерцы.

А Кацнельсон паслаў цэлае павучанне свайму сыну: «Не бяры прыкладу з бацькі (вось яно, бацькоўскае самаадрачэнне!) — сістэматычна займайся фізкультурай, будзь сабраным (гэта як дакор сваёй раскіданасці), выпрацоўвай лаканічнасць мовы (і тут удар па сваёй бязладнай гаварлівасці), рыхтуйся быць ваенным з маладосці». Адным словам — перадаў сыну вопыт старога (па ўзросце, вядома) вайскоўца.

Вельмі добра праводзіць страявыя заняткі камандзір аддзялення Саладоўнікаў. Ён жа знаёміць нас з асновамі тактыкі. Талкова, ясна. Гатовы некалькі разоў тлумачыць, але дабіцца, каб усім было зразумела. Гэтай яго якасцю бессаромна карыстаецца Кацнельсон: тысячу разоў перапытае, усё заканспектуе.

З Саладоўнікавым наогул прыемна пагутарыць. Прагная цікаўнасць грызе гэтага чалавека. Што ні трапляе яму ў рукі — усё прачытае. І памяць у яго выключная.

— Гальвані? Каб зразумець яго працы, трэба ведаць, што

зрабіў Вольта. Яны ж і сучаснікі былі...

— Малайскі архіпелаг? Ну, сорамна не ведаць... — так і сыпле ён. Саладоўнікаў можа ўсю роту захапіць сваімі расказамі.

Якія людзі ў нас у роце! Кожны дзень я раблю ўсё новыя і новыя адкрыцці.

*17 красавіка*

У Розенберга мне падабаецца ўсмешка. Наогул народ у нашай роце вясёлы: жывём мы дружна і вучымся дружна, мы бачым кожны дзень свае поспехі, мы рады ім. І ўсміхаемся самім сабе, таварышам. Красамоўныя, харошыя ўсмешкі. І асабліва ў Розенберга. Мілая, сарамяжная, яна праменіцца цёплым унутраным святлом, што ласкае і грэе субяседніка. Разумна паблісквають у авале цёмнай аправы акуляраў яго вочы.

Сёння ўсмешка здрадзіла Розенбергу. Ён задуменны, змрочны.

Вечарам мы сядзелі ў ленінскім пакоі. Моўчкі ён працягнуў мне ліст паштовай паперы. У левым верхнім кутку гэтага шчыльнага ліста паперы «вержэ» быў укампанаваны адмысловы літарны вензель. Пад ім па-французску: «Атэль Жака Карцье. Горад Сен-Мало».

— Пісьмо ад таварыша з фронту, — растлумачыў Розенберг. — Паперу, відаць, адабраў у якога-небудзь фрыца. Ты разумееш? Ён пісаў на ёй выхваляльныя пісьмы з Сен-Мало. Ён, гэты зверападобны мярзотнік, мог пісаць пра свае подзвігі і са зруйнаванага, крывёю залітага Мінска, і са Смаленска. Пісаць на бланках дзіцячага дома, паліклінікі, тэатра... Гэта ж... кавалак паперы... а... гарыць рука, — голас у Розенберга вібрыраваў на высокай ноце, рука сутаргава камечыла лісток з вензелем. — Ах, як я хачу хутчэй быць там, на фронце. Як я зайздрошчу свайму сябру... Як хачу я пачуць грымоты кананады... Сувязь — гэта разумееш, што значыць? Крываносныя артэрыі... Не! Літаральна за нейкія тыдні мы павінны авалодаць тым, на што ў мірныя часы даюцца гады. Мы павінны быць выдатнікамі. Так? — Ён працягнуў мне руку, і твар яго зноў асвяціла мілая, цёплая ўсмешка.

Я моцна пацiснуў руку прыяцеля.

*30 красавіка*

Сярод курсантаў вызначылася група, якую камандаванне з поспехам выкарыстоўвае ў якасці выкладчыкаў. Прыкметна вылучаецца Цяцерын — інжынер-электрык. Бачыў я неяк яго ў ролі днявальнага. Метадычна пагрукваў ён бачком з вадою,

паважна завіхаўся з мяцёлкай. Хадзіў цвёрда, упэўнена — каржакаваты, моцны, гэткі ўральскі тытан.

Такі ён і на занятках. Метадычны, паважны, грунтоўна выкладае электратэхніку. Толькі зрэдку паморшчыцца ды з прыкрасцю махне рукою. Гэта — калі належала б прадэманстраваць адпаведны апарат, устаноўку. А ў нас сяго-таго не хапае. Уздыхне Цяцерын, возьме крэйду і рысуе на дошцы. Між іншым: выкладчык Цяцерын бывае вельмі старанным вучнем. Гэта — на ўроках радыётэхнікі: справа для яго малавядомая. А выкладае радыётэхніку Сінельнікаў. Дарэчы, ён ужо зусім не падобны да таго пастара, з якога мы пакеплівалі спярша. Армейская форма, страявыя заняткі змянілі яго воблік. Цяпер ён — тыповы ваенны інжынер.

*25 красавіка*

Раніцой, калі перадаецца зводка Інфармбюро, Розенберг дзяжурыць ля рэпрадуктара. Рука яго хутка-хутка бегае па паперы — прафесійная натрэніраванасць супрацоўніка ТАСС. Пасля снедання мы слухаем яго інфармацыю. Розенберг стаў агітатарам. Паведамленні ТАСС ён дапаўняе сур’ёзнымі каментарыямі, скарыстоўваючы свае веды спецыяліста па знешняй і ўнутранай інфармацыі.

Розенберг жыве жыццём фронту. Няма таго франтавіка, з якім не пагутарыў бы ён, у якога не вывудзіў бы ўвесь яго баявы вопыт. Розенберг па-сапраўднаму рыхтуецца да рашаючых баёў.

*2 мая*

Сёння раніцой мы заслухалі загад Наркома Абароны № 130. Але размаўлялі пра яго ўвесь дзень. Мы дасканала вывучылі кожны абзац, кожны сказ гэтага загада.

Яшчэ яснейшай зрабілася наша задача. Яшчэ мацнейшым і больш цвёрдым — імкненне быць вартымі савецкімі афіцэрамі.

*7 мая*

Сёння — пра неразлучных Кацнельсона і Дордзіна. Нельга без усмешкі глядзець на цыбатага, павольнага, флегматычнага Кацнельсона і невысокага, сабранага, нервова-рухавага Дордзіна. Здавалася б, поўная супрацьлегласць. Што зблізіла іх? Любоў да насценнай газеты. Не дзіва: літаратар і выдавец! Баявая сувязь б’е па цэлі простай наводкай. Напісана літаратурна, пісьменна — стыль майстра слова Дордзіна, аформлена прыгожа — старанні выдаўца Кацнельсона.

Карэктуру Уэлса Кацнельсон моцна-моцна перавязаў матуз-

ком — не да яе пакуль! Дордзін паяўляецца ў сталовай не толькі з томам вершаў: страсны трыбун Маякоўскі суседнічае з бясстрасным вучоным Сакаловым — аўтарам курса фізікі.

Усё больш вызначаецца кола інтарэсаў у курсантаў, мацнее воінская спайка, асабістая дружба.

А вось вучоны наш электратэхнік Цяцерын нешта захандрыў. Зрабіўся нецярплівы, часам ён грубаваты, прыдзірлівы.

Запыталіся ў яго, у чым справа, — махнуў рукою і адмаўчаўся.

*12 мая*

Цяцерын зачасціў да камандзіра роты. Піша рапарты, дакладныя запіскі. А нам — ні слова, маўчыць, як каменная глыба.

*18 мая*

Нечакана паехаў Цяцерын. Кажуць — у камандзіроўку. Куды? Навошта? Прабавалі запытацца ў камандзіра ўзвода — той смяецца. Загадка. Сёння курсант Чарноў раптам ляпнуў:

— Чаго нам вучыцца! На фронт трэба хутчэй.

Ну і далі ж яму перцу за гэта зухаватае верхаглядства. Асабліва хваляваўся і прымаў заяву Чарнова за асабістую крыўду Розенберг. Ён прымусіў Чарнова яшчэ раз перачытаць загад Наркома Абароны № 130.

— Сувязь — нерв кіравання. Узаемадзеянне часцей забяспечваецца добра наладжанай сувяззю. Так?

— Так...

— Як жа, не вывучыўшы тэхнікі сувязі, будзеш ты ёй карыстацца? — не адступаў ад Чарнова Розенберг.

Чарноў панура маўчаў. Самалюбства перашкаджала яму прызнацца, што ён неразумна так памыліўся. Але ён, відаць было, усвядоміў гэтую памылку.

Узрушаныя спрэчкамі з Чарновым, мы доўга яшчэ размаўлялі пра скарыстанне ў баі тэхнічных ведаў. Паўстала пытанне: што такое механічнасць дзеяння і што такое аўтаматызм? Некаторыя сцвярджалі: гэта — усё роўна, адно і тое ж. А потым згадзіліся з вывадам Сінельнікава. Дзейнічаць механічна — значыць несвядома, бяздумна паўтараць знешне завучаныя рухі. Ледзь замінка, пабочная перашкода і — упрэшся ў глухую сцяну. Аўтаматызм дзеяння — зусім іншае. Глыбокае веданне тэхнікі, натрэніраванасць у скарыстанні яе, у выкананні асэнсаваных маніпуляцый. Тут у тупік не трапіш.

А Саладоўнікаў падмацаваў франтавым прыкладам: у баях

каля Тарту ён за паўтары гадзіны, замест вызначаных чатырох, наладзіў сувязь са штабам корпуса ды яшчэ выкарыстаў трафейную апаратуру і разбураныя лініі. Вядома, гэта не была механічная работа. Гэта была творчасць савецкага воіна, памножаная на майстэрскае валоданне тэхнікай.

Вывад быў просты: яшчэ глыбей вывучаць справу сувязі, усе віды зброі, давесці валоданне складанай тэхнікай да аўтаматызму.

Так, ад прыватнага — спрэчкі з Чарновым — мы прыйшлі да агульнага.

*20 мая*

На палявых занятках мы правяраем, наколькі трывалыя, наколькі асэнсаваныя нашы тэарэтычныя веды.

Мы размотваем кабель, пракладаем тэлефонныя лініі ў лесе, па полі, праз балоты. Мы забяспечваем сувязь у батальёне, палку. Кожны курсант пабываў ва ўсіх ролях — ад тэлефаніста да начальніка сувязі палка.

Дордзін сёння паказаў сваё майстэрства. Ён так замаскіраваў тэлефонную лінію, што мы яе доўга не маглі знайсці.

— Проста я выкарыстаў усе дэталі мясцовасці, — збянтэжаны агульнай пахвалой, гаварыў ён.

Розенберг бяскрыўдна пакпіў:

— Што і казаць! Прывык капацца ў дэталях, сюжэтных ходах і паваротах інтрыгі...

А Розенберг жа меў рацыю. Цывільная прафесія кожнага з нас, прышчэпленыя ёю навыкі — згадзіліся і ў ваеннай справе. Яны толькі атрымалі новую афарбоўку, новую накіраванасць. Кожны з нас дапаўняе адзін аднаго, а сума нашага вопыту памагае ўсім нам.

Так што не заўсёды варта пасмейваецца з «гражданкі».

*24 мая*

Мяне і яшчэ двух курсантаў сёння выклікалі да камандзіра роты.

— Пойдзеце на вакзал. Даставіце ў роту пасылачкі. Тэлеграма прыйшла ад Цяцерына.

— Ёсць даставіць пасылкі! — адказалі мы і накіраваліся на вакзал.

Ідзём, мяркуем: што за пасылачкі, дзе Цяцерын, чаму не сам прывёз — нічога не зразумееш...

Калі пачалі атрымліваць пасылкі, мы разгубіліся канчаткова. Нам падавалі скрыні і скрыначкі, мяшкі і мяшочкі — цэлая процьма! А на многіх надпіс: «Асцярожна». Бярэш яе беражліва

і ледзь не падаеш: да таго важкая. Нішто сабе пасылачкі. Вось дык Цяцерын! Вядома, даставіць за адзін раз гэты груз мы не здолелі. Прыйшлося ўзяць вазок. Стаміліся мы неймаверна, начартыхаліся без меры — адвялі душу.

Мы ўжо, вядома, здагадваліся, што ў пасылках.

*25 мая*

Прыехаў Цяцерын. Вясёлы. Хандры як не было. Яго абступілі:

— Дзе быў? Што прывёз?

Ён адмахваўся і толькі пасмейваўся. А потым паклікаў Сінельнікава і Аралава — выдатнікаў электратэхнікі, і замкнуўся з імі ў закануку, дзе былі складзены пасылкі. Шамацела папера, парыпвала фанера.

— Тсс... — прашыпеў раптам Львоў, прыпаўшы да знойдзенай шчыліны ў дашчанай сцяне. — Ясна. Тсс... Хвілінку! — і, павярнуўшыся да нас, урачыста прашаптаў: — Зарадны агрэгат, вымяральныя апараты, рэастаты, потым гэта, ну як яе... чортава катушка...

— Катушка Румкорфа, — падказаў Саладоўнікаў, які ўсё ведаў.

— Дакладна. Адным словам, ла-ба-ра-то-ры-я.

Мы шумна рушылі па калідоры. Я ўжо не шкадаваў, што папрацаваў над цяцерынскімі «пасылачкамі».

*1 чэрвеня*

Пачаў наш Цяцерын прыходзіць на заняткі ўзброены наглянымі дапаможнікамі — данінай прадпрыемстваў і інстытутаў, у якіх працаваў да прызыву. У зумерным класе (гэтая гучная назва ўсім нам вельмі падабалася) стала больш ажыўлена. Здорава сёння атрымалася дэманстрацыя з'яў, што адбываюцца ў тэлефоннай трубцы. Яна так-такі і гаварыла ад дотыку цяцерынскага пальца.

Львова прызначылі старшыной роты. Ён нікольні не заганарыўся. Усё такі ж таварыскі, па-ранейшаму душа кампаніі (гэта гаворачы цывільнай тэрміналогіяй). У яго цяпер вельмі многа клопатаў і турбот, але ён умее ўшчыльніць час і не дазваляе сабе прапускаць заняткаў. Вось яны, патрабавальнасць і дысцыплінаванасць, што зрабіліся арганічнымі якасцямі.

*10 чэрвеня*

Зумерны клас поўны цяпер складанага абсталявання — як тая лабараторыя (праўда была на баку Львова!). А цяцерынскі заканурак стаў ідэальна абсталяванай майстэрняй. Усё ў ёй можна

зрабіць, зманціраваць, адрамантаваць. Курсанты наперабой просяцца ў памочнікі да Цяцерына. Ён аддае перавагу Сінельнікаву і Аралаву. Заўсёды яны разам. Абмяркоўваюць нешта, спрачаюцца, капаюцца ў схемах, потым замыкаюцца ў майстэрні.

— Што яны робяць у цябе, Цяцерын? — не вытрываў сёння я.

— Што робяць? Працуюць. На пару. Як Ільф і Пятроў.

— Але не раман жа яны пішуць, — нездаволены я адказам Глыбы.

— Не раман. А ўдвух, — спакойна і зусім ужо незразумела адказаў Цяцерын. А ў глыбіні вачэй хітры затоены смяшок.

Зноў загадка. Зноў цяцерынскія штучкі.

*14 чэрвеня*

Цяцерын падносіць нам розныя самім ім складзеныя задачы. Адна мудрэйшая і цікавейшая за другую. Трэба бачыць, як засяроджана развязвае іх Розенберг.

— Я, калі рашаю задачы, усё думаю: а як было б пры франтавых абставінах. Гэта памагае: я бачу рэльефна, як бы адчуваю на дотык, і рашэнне даецца лягчэй, і ў памяці замацоўваецца больш трывала.

Розенберг упарта ідзе да сваёй мэты. Мілы, разумны прыяцель, сціплы журналіст, які робіцца суровым воінам.

Не нацешымся мы з Львова. Які старшына выйшаў з яго! У сталовай няма бесталкоўшчыны, шуміхі. Курыльшчыкі бесперабойна забяспечваюцца тытунём. Ва ўсіх своечасова адрамантаваны абутак (а зношваем мы яго — у маршах, у паходах — страшэнна хутка). Парадак у роце ўзорны — перад Львовым ніхто не хоча аскандаліцца.

Я сёння на хвілінку спазніўся ў строй. Львоў прабраў мяне. Але зрабіў гэта так тактоўна, хоць і паважна, што я, далібог, зусім не пакрыўдзіўся. Хіба толькі на сябе злаваць. І ўпэўнены: спазняцца ў строй ні я, ні хто другі не будзе.

Мы стараемся зрабіць што-небудзь прыемнае нашаму старшыну. Калі ён вядзе строй, мы спяваем, спяваем несціхана. Старшына наш з удзячнасцю паглядае на нас і падцягвае запявалам.

*14 чэрвеня*

Раскрылася тайна «Ільфа і Пятрова». Разгадана загадка Сінельнікава і Аралава. Камандзір роты сёння расказаў нам: яны ўнеслі рацыяналізатарскую прапанову, якая мае надзвычай важнае значэнне для работы сувязі на фронце. Яны павялічылі нагрузку

нумарніка камутатара. Спрасцілі, палепшылі і зрабілі таннейшай ходкую і дарагую апаратуру. Геніяльна проста вырашана задача, якую да гэтага часу лічылі невырашальнай. Сінельнікаў і Аралаў працуюць цяпер у галіне тэлефоннай сувязі, якая не парушалася б і пры парваных правадах. Мы разумеем, якое значэнне мае гэта ў баі. І мы ганарымся нашымі таварышамі. Заслужаная пашана, сяброўская ўвага акружае іх.

Вось табе «Ільф і Пятроў». Папрацавалі сябры на славу.

*23 чэрвеня*

Мы рассталіся сёння са Львовым. Гэта было так нечакана для ўсіх. Яго, як круглага выдатніка, камандаванне выпусціла датэрмінова.

Калі Львоў прыйшоў развітвацца, сотня рук працягнулася да яго, сотня вачэй з прыязнасцю глядзела на постаць любімага старшыны, таварыша. Мы праводзілі яго да прахадной будкі. Не пералічыш усіх пажаданняў, што чуліся ўслед нашаму любімцу.

У казарму вярталіся моўчкі. Нам было сумна. Вядома, мы былі рады за Львова, мы нават зайздросцілі яму. Ён жа раней за нас зможа выканаць свой свяшчэнны абавязак перад радзімай. Але мы расставаліся з таварышам, які сагрэў і звязаў нас дружбай — харошай армейскай дружбай. І нам было сумна.

— Раз! Раз... два... тры!.. Раз... два... тры! — чуваць, як манатонна лічаць у зумерным класе. За тэлеграфным ключом сядзяць курсанты. Шмат якія не дабіліся яшчэ тэлеграфнай «каліграфічнасці» — працяжнікі і кропкі ў іх несуразмерныя. І вось Саладоўнікаў памагае ім у гадзіны самападрыхтоўкі выпрацоўваць выразнасць шрыфту, дабіцца такога рытму ў рабоце, калі працяжнік памерам сваім будзе роўны тром кропкам — не большы, не меншы.

— Пачынаем. Літара Н — працяжнік, кропка. Раз, два, тры! Раз! Так. Літара А — кропка, працяжнік. Раз! Раз, два, тры!

Стукаюць ключы, шліфуецца шрыфт, трэніруецца кісць рукі радыётэлеграфіста.

Вольна, без сутаргавага напружання неспрактыкаваных навічкоў, трымае ключ Шульгін. Плаўна націскае яго, лёгка адпускае.

— Ды гаварыў жа я табе, — падыходзіць да яго Саладоўнікаў, — няма чаго табе тут рабіць. Іграеш жа ключом як сапраўдны піяніст...

Дацэнта кансерваторыі піяніста Шульгіна прывяло ў зумерны клас самалюбства прыкладнага курсанта. І перадае і прымае на слых ён добра — цывільная спецыяльнасць памагла яму

авалодаць майстэрствам тэлеграфіста: тонкі музыкальны слых, гібкая рухавасць натрэніраваных клавішамі пальцаў. Але... добра гэта яшчэ не выдатна!

Шульгін паварочваецца да Саладоўнікава і, хмурачы кусцістыя ільняныя бровы, бурчыць:

— А калі я хачу быць сапраўдным тэлеграфістам?

Саладоўнікаў паціскае плячыма і адыходзіць.

— Літара У. Раз! Раз! Раз, два, тры! — лічыць Саладоўнікаў і скоса жмурыць вока на Шульгіна. Па твары відаць: ён здаволены і апраўдвае ўпартасць сапраўднага піяніста.

Гадзіны самападрыхтоўкі — гадзіны прыдзірлівай самаацэнкі, жорсткай самаправеркі. У гэтыя гадзіны мы ліквідуем недаробкі, правалы ў вучобе. І ўжо гэтак павялося, што Саладоўнікаў штодзень аддае нам свой час.

*2 ліпеня*

Учора пад вечар мы выйшлі на начное вучэнне. У час паходу пачулася каманда: «Паветра!» Усе кінуліся ўроссып — хто куды. А Саладоўнікаў раптам вярнуў сваё аддзяленне і размясціў яго ланцугом у прыдарожнай канаве. Усе гэта заўважылі.

Неўзабаве мы размясціліся на прывал. Згушчаліся прыцемкі. Надакучліва звінелі камары, прагна ўпіваліся ў шыю, у рукі. Нам дазволілі раскласці агонь. Дым яго прымусіў камароў трымацца на даволі значнай адлегласці. Тут мы і ўзяліся за Саладоўнікава.

— Навошта я вярнуў аддзяленне? — Ён хітравата жмурыць вочы, і адкрыты рускі твар яго асвятляе шырокая ўсмешка. — А вельмі проста. Не хавацца трэба ад самалёта, а біць па ім, біць групавым агнём. Так мы заўсёды на фронце рабілі. І збівалі. Глядзець трэба на самалёт нямецкі спакойна, помніць пра сілу сваю і не прыніжаць сябе. І яшчэ... Пачуў альбо ўбачыў паганца — прыкмець, адкуль заходзіць. Калі злева — кладзіся ў канаву справа і — наадварот. Зразумела? Вось... І вядзі па ім групавы агонь, ды кучна. Саб’еш. Гэта ўжо дакладна.

Размова ажывілася.

— Ну, а калі на машыне едзеш?

— І тут кемнасць трэба мець. Мы так рабілі: нахіліш машыну ў кювет ды скруціш дах шафёрскай кабінкі...

— А-а... — перапыніў нехта Саладоўнікава. — Ён і лічыць яе за разбітую?!

— Дакладна! — усміхнуўся зноў Саладоўнікаў. — А будзе ў цябе хвіліна лішняя — ты запалі пакулле ды пакладзі каля

машыны. Зразумела?

— Зразумела! — адказалі ўсе дружным хорам.

З густой чарнаты бяззорнай ночы, што сціснула нас у шчыльнае кола ля агню, вынырнуў невысокі курсант з пухлым фаліянтам пад пахай. Вядома, гэта Дордзін.

— Пачытай, прыяцель! — папрасіў Саладоўнікаў. — З мяне на сёння хопіць! — і ён адсунуўся, уступаючы месца ля агню.

Дордзін чытаў. Чытаў натхнёна, з уздымам. Яго хвалявалі непрывычныя абставіны, хвалявала так востра адчутая пераклічка паэтычных радкоў з падзеямі нашых дзён.

Глаз на врага.
Рука на наган.
Наши
и склады,
и мосты,
и дороги.
Собственным, кровным,
своим дорожа,
встаньте в караул,
бессонный и строгий,
Сами своей республики сторожа.

Засяроджана слухалі мы чаканныя радкі. Не! Гэта не голас мінулага, аддалены пятнаццаццю гадамі, кожны з якіх — эпоха. З гарачым заклікам да нас звяртаўся сучаснік наш. Не пацямнела, не прытупілася ад часу востра адточанае слова байца-паэта. Як грозная зброя, знаходзіцца яно на ўзбраенні савецкага народа, спадарожнічае яму ў баі з заклятым ворагам.

Моўчкі, як бы яшчэ раз перажываючы ўражанні гэтага вечара, раскідалі мы сваё вогнішча.

Далей мы ішлі па азімуту і дакладна трапілі на вызначанае месца. Мы спрытна і старанна пракладвалі кабель і закончылі тэлефонную лінію ў тэрмін.

Здаволеныя першым сваім удалым начным выхадам, вярталіся мы туманным досвіткам у размяшчэнне роты.

*8 ліпеня*

І зноў мы праводзілі сяброў... На гэты раз Сінельнікава і Аралава, нашых «Ільфа і Пятрова». Іх выклікаў штаб акругі для сур'ёзнай даследчай і канструктарскай работы. Мы ведаем: яны аддадуць усе свае сілы і веды, каб палепшыць сувязь, кіраванне войскамі. Мы напэўна ўбачым і ацэнім вынікі іх работы на фронце, у грымотах баёў.

Шчаслівай дарогі, дарагія таварышы! Найлепшых поспехаў у вашай працы!

*12 ліпеня*

Стралковая рота вярталася са страявых заняткаў. Роўныя рады калоны з песняй уваходзілі на двор ваеннага гарадка.

Непадалёку праходзіў батальённы камісар — начальнік палітаддзела курсаў. Ён прыслухаўся да новай песні стралкоў. Гэта была толькі што вывучаная ротай доўгачаканая песня пра курсантаў. Напісаў яе свой жа курсант — паэт Жалязняк. Кампазітар — курсант Войлер — палажыў словы песні на музыку. Лёгка і ахвотна пелася гэтая песня — блізкая жыццю і думам курсанцкім.

Рота падыходзіла да казармы.

— Адставіць песню! — скамандаваў лейтэнант.

Тут яго падазваў да сябе батальённы камісар. Кароткая размова.

— Запявалы, запявай! — скамандаваў лейтэнант. І рота з песняй ішла па двары.

Потым роту спынілі. Запявал выклікалі да батальённага камісара. Праз пару хвілін запявалы вярнуліся ў строй. І рота зноў чаканіла крок пад песню. Але — мы заўважылі — адзін радок гучаў у ёй інакш — больш ярка, мэтаімклівей. Батальённы камісар Прыходзька ўнёс гэту папраўку. Ён зноў услухоўваўся ў гучанне песні і нарэшце задаволена махнуў рукою.

— Рота, стой! Р-разыдзіся! — скамандаваў лейтэнант.

Курсанты абступілі батальённага камісара. Завязалася простая гаворка пра песню — страявую і баявую. Пра песню, што бадзёрыць у цяжкай вучобе, пра песню, што запальвае гневам і нянавісцю да ворага, мацуе адвагу і смеласць. Батальённы камісар расказаў нам пра байцоў, якія з песнямі ішлі ў бой і пакрылі свае імёны нягаснучай славай герояў.

И песня, и стих — это бомба и знамя,
И голос певца подымает класс, —

працытаваў любімага паэта Дордзін.

— Стралкі маюць сваю песню, а мы, сувязісты? — непакоіўся за гонар роты запявала курсаў Шульгін.

— Падумайце аб прыпеве. Песня ж добрая? Толькі прыпеў у ёй стралковы. Вось вы і падумайце аб прыпеве, — раіць батальённы камісар.

Вядома, нам трэба толькі прыпеў. Мы абяцалі батальённаму камісару на бліжэйшым маршы спяваць пра сувязістаў.

*17 ліпеня*

На палявых занятках мы адпрацоўваем цяпер аператыўную дакументацыю, метады скрытага кіравання войскамі.

Мы бязлітасна прыдзірлівыя адзін да аднаго. Розенберг не выпускае алоўка з рук. Ён абурана запісвае шматслоўныя распараджэнні курсантаў, якія выконваюць ролю камандзіраў, і тут жа надае ім лаканічную форму. Ён адзначае і ўлічвае выпадкі няправільнага афармлення дакументаў — зводак, данясенняў, распараджэнняў. Ён не прапусціць ніводнага выпадку неахайных адносін да кода.

— Куды гэта варта? — кіпіць ён.

І нам сорамна за свае промахі, нам хочацца бачыць Розенберга іншым. І мы стараемся з усіх сіл, дамагаемся Розенбергавай светлай усмешкі. Саладоўнікаў хвалюецца не менш, чым Розенберг. Ён не адыходзіць ад нас ні на крок і выпраўляе нас на хаду.

— Памятаю, — кажа ён у перапынку, — давялося мне неяк перадаваць загад, каб адыходзілі... Лепш бы не быў я сувязістам, не стаяў ля тэлефона. Такая туга, такая крыўда сціскае сэрца. А перадаць жа трэба... Голасу няма! І словы не ідуць з горла... Няма лепшага, сябры, як перадаваць загад аб наступленні — наперад, граміць! Як радуешся за сувязь тады. Ганарышся сваёй работай. Гаворыш — быццам бы сам камандуеш войскамі, сам вядзеш іх у бой — да перамогі. Ты ж першы чалавек, які вымаўляе ўголас словы загада!

Глядзім мы на Саладоўнікава і ў думках бачым тыя дні, калі і мы перажывём гордае хваляванне сувязіста.

З заняткаў рота ідзе з курсанцкай песняй. Прыпеў у ёй свой — сувязісцкі. Ён не ўстаяўся яшчэ, ён ствараецца калектыўна. Як фальклор. Вось хутка прыйдзе змена нам — першаму збору курсантаў. Яна падхопіць, запяе нашу песню. Можа быць, унясе ў яе і сваю творчасць. Мы спяваем:

По скалам высоким и чащам лесистым
Мы тянем свои провода.

Мы силы утроим и славу связистов
В бою закрепим навсегда.

Ля ваеннага гарадка нам сустрэўся батальённы камісар Прыходзька. Мы ўпіліся ў яго вачыма: ён слухаў наш прыпеў. З усмешкай адабрэння ён прывітаўся з намі. Ну, значыць прыпеў ухвалены.

*23 ліпеня*

У роце прыўзнятае, нервовае ажыўленне. Гэтымі днямі — залікі. Не за гарамі выпуск. Няцяжка падлічыць гадзіны, што асталіся да дня, якога так чакалі мы ўсе гэтыя напоўненыя ўпартай вучобай месяцы, што так хутка прамчаліся.

Неўзабаве мы будзем камандзірамі, неўзабаве мы паедзем на фронт.

Ні на хвіліну не расстаёмся са статутамі, настаўленнямі. Чытаем, перачытваем, кансультуемся адзін у аднаго, у камандзіраў. Да вялікай урачыстасці — экзамену на сталасць — сур'ёзна, напружана рыхтуецца ўся наша рота.

*30 ліпеня*

Вось і адышлі залікі. Я нічога не запісваў усе гэтыя дні. Дзе там! Не да таго было.

Мы сядзелі ля сваіх ложкаў — стомленыя, шчаслівыя, поўныя новага, дзіўнага і непрывычнага адчування. Мы яшчэ курсанты, але мы ўжо і не курсанты. Мы падняліся на новую ступень. Нялёгка было зрабіць гэты крок. Цяжкі і круты быў пад'ём.

Горда аглядалі мы адзін аднаго і (гэта так ясна відаць па ўсіх!) унутрана аглядваем свой шлях, шлях сваіх таварышаў.

Першы не вытрываў Кацнельсон:

— Дордзін! Памятаеш? Хадзіў ты першыя дні ў асенняй палітожыне, падкручваў пад яго коўдру...

— Але... Мерзнуў я страшэнна. Нялюбы мне быў тады слаўны сівы Урал.

— А шалік? А? Дордзін!

Нам успомніўся поўны разгубленасці, нават жаху твар Дордзіна, калі яму абвясцілі, што ваенная форма вопраткі не дапускае ніякіх шалікаў.

— А вось жа ні разу не кашлянуў... — здзіўлена пацепвае плячыма Дордзін.

Успомнілі мы і пра кацнельсонаўскі наказ сыну. Сапраўды — парады сыну нядрэнна апраўдваў справай сам бацька — сягоняшні добры сувязіст і страявік.

Нагадаліся і падвязаныя вяровачкамі галёшы ў Розенберга, парушаны і знявечаны ім строй. А вось ён і сам — лёгкі на ўспамін.

Розенберг уваходзіць у казарму, са звычайнай сваёй, сёння крыху хітраватай, усмешкай падыходзіць да Кацнельсона.

— Дарагі сябра! — патэтычна і ўзнёсла вымаўляе ён. — У знак пашаны да вас, вартага высокай узнагароды і сапраўды чалавека стаічнага, дазвольце мне ўручыць гэты сціплы прэзент! — і ён працягвае невялікую, акуратна выдадзеную кнігу.

«Герберт Уэлс», — чытаем мы на вокладцы.

Бурны выбух рогату скалануў казарму.

Кацнельсон ці то збянтэжаны, ці то разгублены. Машынальна працягвае руку да палічкі і бярэ перавязаны матузком пажаўцелы, бляклы скрутак адбіткаў. Спрабуючы патушыць наш нязлосны смех, ён гаворыць:

— На, Розенберг...

— На чарнавікі для насценнай газеты? — выручае Дордзін прыяцеля.

— Іменна. Аддасі новай рэдкалегіі.

Мы ўхваляем падказанае Дордзіным рашэнне.

Потым мы акружаем Саладоўнікава, дзякуем чуламу, цудоўнаму таварышу, які прынёс у нашу казарму гарачае дыханне агнявых пазіцый фронту, перадаў нам свой баявы вопыт, навучыў нас хадзіць цвёрдым страявым крокам.

Так, мы моцна стаім на нагах, мы ходзім цвёрда.

І мы даём адзін аднаму слова, слова савецкіх афіцэраў: там, на фронце, крочыць упэўнена наперад, толькі наперад.

*1942 г.*

# АПОВЕСЦЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ПЕТРЫК-ЗАВАДАТАР
*Урыўкі*

### Петрыкава гаспадарка

Зыркі сонцавы прамень смела зазірнуў праз шыбу, тонкім джалам уперыўся ў медзяны рондаль, што вісеў на сцяне разам з іншым кухонным начыннем. Распырскалася, зайграла джала тое слепячым зайкам. Адкінуты рондалем, трапіў зайка проста на заплюшчаныя Петрыкавы павекі.

Адчуў Петрык нібы свавольнае казытанне сонцавага зайкі, заварушыўся, прыжмурана і недаўменна зірнуў, не зусім яшчэ ачнуўшыся ад сну, на рондаль.

«Няўжо гэта ўжо восем гадзін?..» — падумалася. І апошнія чары салодкага сну скінуў з сябе Петрык. Ён ведаў — як кругабегам сваім ранішнім дойдзе сонца да кухні і пашле блазнапромня на рондаль — акурат на дзевятую гадзіну паварот. Як не хмарны дзень, дык і на гадзіннік глядзець не трэба.

— Ці не час, пасажыр, злазіць ужо? — заўважыла Петрыкава маці, адышлася ад печы, ласкава зірнула ўгару, на палок.

Кватэра ў Габрыэльчыкаў невялікая, усяго адзін пакойчык і куханька. Цесна, павярнуцца няма дзе. І ложкаў няма як на ўсіх паставіць. Татка ёмка такі надумаўся: уладзіў ён у кухні да сцяны высока палок — акурат як у вагоне. І не замінае палок той, і спаць дзе Петрыку ёсць. Міколка з Манькай аж зайздросцяць Петрыку: дзіўная ў яго пасцель і спіць ён на ёй, як той пасажыр у спальным вагоне.

Петрык схіляе галаву з палка, ціха, сонным яшчэ голасам гаворыць да мамы:

— А што, таткі няма ўжо дома?

— Уга! Даўно пайшоў ужо... У яго сёння пагрузка вялікая. Казаў, каб ты падскочыў.

— А я ж і заспаў акурат... Ай-яй!

Петрык уміг, ледзь дакрануўшыся нагой да прымайстраванай на сцяне прыступкі, скочыў уніз.

«І трусоў даглядзець трэба... І да сібількоў скокнуць не шкодзіла б... — мігацела ў думках, як умываўся. — Трэба ж было так заспаць...»

Хуценька пабег Петрык у гародчык нашчыпаць націння. Празрыстым было бясхмарнае блакітнае неба. Перамагала ўжо сонца ранішнюю свежасць, падсушвала апошнія кроплі расы.

«Ладны дзянёк сёння будзе. Трэба як-небудзь пакупацца выправіцца...» — думаў Петрык і поркаўся на градках між капусты і буракоў.

Як ішоў з гародчыка, на ганку капашыўся ўжо Міколка. Чысціў чаравічкі, так старанна ўвіхаўся, што аж кончык языка высунуў і напятымі губамі прыціснуў.

Пасміхнуўся Петрык хітра, гледзячы на брата. Міколка акурат пачаў умывацца.

— Ты ж не саромейся, Коль! Вушы як след памый. От так, так... А то які ж з цябе піянер будзе? Пэцкаляў у піянеры не прымаюць.

— Я заўсёды, Петрык, чыста мыюся... Петрык! Я хачу з табой трусікам есці даваць, га?

— Ну, пойдзем! — згадзіўся Петрык.

Падскокам пабег ля Петрыка Міколка. Адчынілі хлевушок. Роўненька ля сценак стаялі ў ім клеткі. Дзверцы ў іх — з драцяных сіткаў. А ў клетках, важнецка намуружыўшыся, злёгку стрыгучы доўгімі вушамі, сядзелі сур'ёзныя такія старыя трусы. Далей — па некалькі маладых у адной клетцы. Маладыя — дык тыя вясёлыя, жвавыя. Хапаліся яны лапкамі за драцяныя пераплёты, узнімаліся на задніх лапках, адштурхвалі адно аднаго. Убачылі ўраз, пэўна, што прынеслі ім паесці.

Міколка прыглядаўся да адной паважнай трускі, якая нібы і не бачыла гасцей. Зацікаўлены Міколка некалькі разоў бразгануў рукой па сетцы. Труска схамянулася, спуджана зірнула вялікімі чырвонымі вачамі на недалікатнага госця і неахвотна, пакрыўджаная, кульганула ў глыб клеткі.

— Ты што, звар'яцеў? — абурыўся Петрык. — Нашто пужаеш? У яе, можа, малыя скора будуць, котная яна...

— Труска котная? — засмяяўся зняважліва Міколка. — Ты б яшчэ цельная сказаў?! Труска — значыць трусная.

— Ну хай сабе трусная... — на адчэпнае згадзіўся Петрык. Не хацелася яму спрачацца з Міколкам — не да таго было, часу не хапала...

А Міколка перамогу сваю адчуў і зняважліва так глянуў на Петрыка. Вельмі не любіў Міколка, калі Петрык пасміхаўся з яго ды даводзіў, што Міколка — зусім яшчэ малы і, бадай, мала што разумее. А Міколка лічыць сябе зусім не малым. Ён ужо чытае, піша, добра ўмее плаваць, рыбу вудзіць, заўжды мамцы дапамагае. Мала што Петрык ходзіць на станцыю і там нешта з таткам робіць. Падрасце Міколка, дык і ён будзе татку дапамагаць. А што пад сілу — і цяпер ён робіць. І мамка хваліць, любіць яго за гэта.

Петрык не заўважыў зняважлівага Міколкавага зірку.

— Глядзі, Міколка, якая ангорская труска прыгожая! — як бы і нічога, казаў ён. — Поўсць чысценькая, бялюткая... доўгая якая! Толькі галоўка з яе вытыркаецца.

— Бачу... — безуважна мармыча пад нос Міколка.

Петрык зноў нібы нічога не заўважае. Ён нешта надумаў, здалёк падыходзіць да Міколкі.

— От як пачне яна аблазіць, дык мамка вычаша яе, пуху назбірае, нітак напрадзе, а з тых нітак Коліку рукавічкі цёплыя зробіць...

Зморшчынкі паважнасці разгладжваюцца на Міколкавым лобіку, вочкі карыя запальваюцца. Ён ужо і забыў, што от толькі хвацка так перамог старэйшага брата.

— І Маньцы таксама рукавічкі? Га, Петрык?

— І Маньцы! — велікадушна згаджаецца Петрык.

— А як малыя ангорачкі падрастуць і таксама пачнуць ліняць, дык тады і табе рукавічкі будуць, і татку з мамкай, праўда?

— Будуць. Усім будуць! — упэўнена гаворыць Петрык. Ён хавае пахмылку: задуманае ўдаецца. Міколка сам унадзіўся.

У суседнім хлевушку зарохкаў кабанчык.

— Пойдзем, Петрык, маленькага паглядзім. Ён такі смешны, — запрашае Міколка. — Мама есці ім прынесла.

У Петрыка — трусіная гаспадарка. У мамы — кабанчыкі. Адзін ужо досыць вялікі. А нядаўна мамка яшчэ маленькага купіла. Петрык казаў, што хопіць і аднаго, што будзе мяса і з трусоў. А мама смяялася. Яна Петрыкаву гаспадарку за забаўку лічыць, зневажае.

— Глупства гэта, — кажа.

Таму Петрык не вельмі што любіць кабаноў. Навошта ж ім перавагу перад трусамі даваць? Трусы ж, можа, не менш карысныя.

А Міколку ўсё адно. Ён ахвотна ходзіць і да Петрыкавых трусікаў, і да мамчыных кабанчыкаў. І трусікі цікавыя, і кабанчыкі не менш за іх. Асабліва маленькі. Ён такі чысценькі, пацешны. Так цікава пятачок свой выстаўляе, есці просіць.

— Ну, трусіны тата, — выяўна кпіць мама, — як твая гаспадарка?

— Нічога... — унікліва адказвае Петрык і абыякава працягвае руку праз загарадку да малога Ваські. Аж тут стары Міцька з пагражаючым рохканнем кідаецца да загарадкі і прыкрывае лычам Ваську. Ён абнюхвае Ваську і настойліва кіруе таго далей ад загарадкі, — каб не пакрыўдзіў хто часам малога. Хвост у Міцькі кручком, маленькія злосныя вочы закрывянеліся.

Хлевушок поўніцца рогатам. Смяюцца і мама, і Міколка, і нават Петрык забыў на сваю непрыязнасць да мамінай гаспадаркі — гэтак смешна абараняе Міцька Ваську! Ніколі яшчэ не кідаўся ён так.

— Бач, як пасябраваў з малым! — здзіўляецца Петрык і зноў заліўчата смяецца. — Аднаму, мусіць, нудна было...

На станцыі грымяць буферамі вагоны. Чуцен глухі, праз натугу крык:

— О-ой! Стой! Годзе... у самы раз...

Грузяць збожжа. Гэта некалькі вагонаў загрузілі ўжо і адагналі далей, а на іх месца парожнія паставілі.

Петрык спахапіўся, занепакоіўся. Трэба ісці на станцыю, а ён яшчэ сібількоў не наведаў.

Да хлевушка ідзе Маня — Петрыкава і Міколкава сястрычка. Яна меншая за Петрыка, большая за Міколку. Смешна, як мышыны хвосцік, матляецца ззаду касічка. Стрыжаныя раней валасы яе яшчэ зусім мала адраслі. Але Маньцы нешта прыспічыла насіць касу.

Петрык злёгку пацягнуў Маньку за касічку.

— Ну? — незадаволена павярнулася яна.

— А чаравічкі хто за цябе чысціць будзе? Пушкін з Гогалем хіба?

Маня пачала апраўдвацца:

— Я намерылася чысціць, аж вы нечага так голасна смяяліся. Я і пайшла паглядзець.

— А ты не будзь такая цікавая! — паважна, як Петрык гэта робіць, гаворыць Міколка.

— Ну, і ты яшчэ, малое... — зняважліва кідае зіркам па ім Маня.

Дзеці гатовы завесціся лаяцца. А Петрыку гэта акурат нецікава.

— Слухайце, вы! — перапыняе ён. — Мне трэба ісці да таты, а сібількам есці яшчэ не дадзена. Дык, можа, вы ўдваіх праходку зробіце на мост, га?

— Добра! — у адзін голас згаджаюцца тыя.

— Там у сенечках, у бляшанцы, трошкі скарынак ёсць і варанага гароху. Дык вы кіньце ім. Скарынкі толькі добра пакрышыце.

— Пакрышым! — дзеці подбегам падаліся дадому.

— А пасля, як прыйдзеце, можна і чаравічкі будзе зняць! — наўздагон крычыць Петрык. — Цёпла ўжо будзе, у самы раз, і зямля не вільготная...

Мама ідзе ззаду, ухмыляецца. Яна рада бачыць, які сур'ёзны Петрык, як ён сябе пільнуе і малодшых парадку навучае. Добры хлопчык з Петрыка расце, разумны і гаспадарлівы.

## Таткава падмога

Петрык хуценька крочыць па платформе да пакоя дзяжурнага па станцыі. Праз расчыненае акно відаць бацьку. Ён нешта піша пад капірку ў вялікай і тоўстай кнізе.

«Дакументы на вагоны», — вызначае Петрык.

З мядзянага, бліскучага і зграбнага тэлеграфнага апарата, пад мерны і гучны трэскат, выпаўзае вузенькая папяровая стужка. Канца-краю няма ёй. Закручваецца стужка адмысловымі круцялямі, не затрымліваецца на стале — так багата круцялёў тых — і скочваецца на падлогу. Перадаюць тэлеграмы, а татку няма часу і прымаць іх.

— А-а-а, памочнік! — заўважыў Петрыка бацька. — Што ж так спазніўся сёння?

Петрыку крыху ніякавата. Ён хуценька садзіцца за тэлеграфны апарат і пачынае перабіраць у спраўных руках стужку. Вокам прыкідвае кучу круцялёў — на гадзіну, паўтары работы.

— Ты б пайшоў паглядзеў ля вагонаў, татка. Мо яшчэ не так дзе загрузяць. А я тут хутка з тэлеграмамі ўпраўлюся.

— І то праўда! — бацька выходзіць з пакоя.

Петрык нахіляецца над сталом, перабірае стужку, чытае з яе і піша на тэлеграфных бланках. З кучы пад сталом стужка раз за разам пераходзіць пад рукой Петрыка на зграбнае кальцо — тамбур.

Петрык неўпрыкмет, гуляючы, налаўчыўся тэлеграфнай рабоце. Набегаецца за дзень, абабегае з сябрукамі і лес, і поплаў, і рэчку. Стоміцца. Абрыдае ўсё. Тады прыбяжыць да бацькі на вакзал, з няма работы цікавіцца: што гэта за значкі такія — рыскі і кропкі на стужцы, якая паўзе мерна з апарата.

— Кропка і рысачка — гэта літара А. Рысачка і тры кропкі — гэта Б, — тлумачыць бацька.

Петрык запамінае. А калі скончыцца перадача тэлеграм, спыніцца адмысловае гучнае патрэскванне апарата, тады кладзе татка Петрыкаву руку на галачку ключа, а на Петрыкаву руку — сваю, прыціскае і пачынае кратаць ключ. На стужцы набіваецца кропка з рысачкай. І яшчэ. І яшчэ. Кропка грубая, рысачка доўгая. Літара выходзіць нязграбная.

— Нічога! — суцяшае бацька. — Напрактыкуешся, дык літары ёмкія і зграбныя будуць.

Потым пакідае на ключы адну Петрыкаву руку. І Петрык сам ужо выбівае літару «а». Пасля дадае да гэтай літары яшчэ адну рыску, выходзіць кропка і дзве рыскі — літара В. Так адну за адной вывучае Петрык усе літары азбукі Морзе. Выходзяць літары ў яго яшчэ не зусім зграбныя, але ўжо досыць чытэльныя. А чытаць тыя літары, што прыбеглі па драцяных правадах у Рудню, Петрык і зусім лоўка можа.

— Э-э-э!.. Дык ты, сынку, можаш ужо і тэлеграмы прымаць! — здзіўлена і радасна казаў праз колькі дзён татка. — От гэта дык так, от гэта лоўка!

Петрык важна ўзяў бланкі і амаль без ніводнай памылкі перапісаў тэлеграму.

— Ну і малайчына! — аж не дае веры тата.

А Петрык адчувае сябе зусім за хвацкага і спрактыкаванага тэлеграфіста. Стараецца, пільна да літар прыглядаецца. Каб памылак не было, каб не стала сорамна пасля пахвалы бацькавай.

Так Петрык стаў бацькавым памочнікам — тэлеграфістам. А пасля пакрысе і да іншых мудрагеляў чыгуначных дайшоў — білеты пасажырам выдаваць, дакументы на вагоны гружаныя складаць. Бацька з пацехі дазваляе яму рабіць гэта, навучае. А Петрык усё хутка так разумее і робіць спраўна, без хібін.

Пацяшаўся раней бацька. А потым і не да пацехі стала. Рады быў ужо, што памочнік неўпрыкмет выгадаваўся, — і сказаць цяжка. Вельмі на восень пагрузкі шмат стала. Збожжа пайшло з калгасаў і саўгасаў, гародніна, бульба ранняя ў Ленінград для заводскіх і фабрычных рабочых. Вагонаў пятнаццаць, а то і ўсе

дваццаць пяць грузіцца штодня. І тэлеграм стала багата, як пагрузка тая ўзрасла. Як дзяжурыць бацька на станцыі, дык ужо і цяжкавата, няўпраўка часам бывае. Кінецца адно рабіць — у другім месцы замінка, кінецца ў другое — трэцяе цябе чакае. От тут — жарт не жарт, а папрасіў бацька і найсапраўднай Петрыкавай дапамогі.

Хоць у Петрыка і свая гаспадарка немалая была і клопату з ёй хапала па самае горла, але не мог жа ён і татку пакінуць без дапамогі. Нездарма ж Петрык піянер... Грузы вельмі затрымліваюцца, позняцца. То завод новы нельга ў час пусціць, бо не ўсе машыны прыбылі (недзе, як той смоўж, цягнік іх марудна вязе), то трактары не паспяваюць да часу ворыва, то камбайны спазняюцца на ўборку ўраджаю. Бывае, што прадукты рабочым заводскім у дарозе доўга затрымаюцца. І піянер павінен усё, што можа, зрабіць, каб палепшыць работу чыгунак. Гэта яго абавязак як свядомага хлопца, камсамольскай змены.

— Не лепш, браточак, і ў нас. Мала што павуцінне пазграбалі, дык зараз мяцёлкі возьмем, каб чысцей падлогу пападмятаць. А то каторыя падмецены для прыклёпу проста, а насыплюць збожжа — і нячыстае будзе. Люк адзін дрэнна прыгнаны... Гэта мы дзяжурнаму па станцыі скажам, каб уладзілі. А то яшчэ дзве шчыліны знайшлі. Адразу і непрыкметныя яны зусім. А потым з іх збожжа не менш павысыпалася б, як з той дзіркі, што кулак Шардыка ўчора прасвідраваў.

— А яно так часта і бывае! — падхапіў Міколка. — От, як ідзём на рэчку па калеях, дык сцежачкай такой усцяж калей збожжа парассыпана бывае...

— Гэта ты правільна скмеціў, — пахваліў Петрык. — От добра мы надумаліся. Глядзі, колькі збожжа ад глуму выратуем. У калгасах усе піянеры на дазор ураджаю ходзяць, каб збожжа не гінула і не раскрадалі яго — я чытаў у газетах пра гэта, — ну і мы дазорам будзем. Бо і на чыгунцы, выходзіць, ураджай зглуміць няцяжка. Ну, гайда па цвікі і дошчачкі, шчыліны пазабіваць. А ты, Міколка, з Мішкам мяцёлку дзе пашукай.

Бегма кінулася дзятва. Праз колькі часу з вагонаў ляскат дробны пачуўся — забіваліся шчыліны. Прыйшоў са станцыі вартаўнік, падпраўляў люк у вагоне, поркаўся ля буфера з гаечным ключом.

— Ну і малыя! Няўрымсцікі гэтыя... Дадумаліся ж! А потым, глядзі, гуляючы, забаўкамі, такую карысць робяць. Ну і дзеці пайшлі цяпер! Да ўсяго ім свой нос паткнуць трэба. Ну і ну...

## Петрык урачыстуе

— Хто тут Петрык Габрыэльчык? — запытаўся нейкі незнаёмы мужчына, калі дазорныя падыходзілі да платформы.

— Во ён, Петрык! — паказалі дзеці.

— Я Петрык Габрыэльчык, — запытальна паглядзеў той на незнаёмага.

— Я — з АРЗа*. Прывёз вам клеткі і трусоў пару блакітных венскіх. Вы тэлеграму атрымалі?

— Атрымаў. — Петрык ледзь не сказаў «сам прыняў».

Сціхамірыліся дазорныя, з цікаўнасцю пазіралі на незнаёмага, што да Петрыка прыехаў. Разам з ім да вакзала падышлі. Стаялі тут пяць прыгожых, лоўка зробленых клетак. А ў адной з іх пара трусоў.

Аж сэрца заскакала ў Петрыка. Такія ж былі гэта прыгожыя трусы! Вялікія, ладныя. От пра такіх акурат і марыў.

— Дык, можа, вашы сябрукі і перанесці дапамогуць нам?

— А мы ўміг! — з радаснай ахвотай падхапіла дзятва клеткі.

— Асцярожна з трусамі каторая! — занепакоена замітусіўся Петрык.

— Будуць цэлыя, Петрык! Мы ж асцярожненька.

Падбег Міколка да адной клеткі, да другой — няма дзе і руку прыкласці. Зноў не паспеў Міколка... Пайшоў сумны бачком, на прыезджага дзядзю прыжмурана пазіраючы. Потым нешта надумаўся.

— Дзядзя, а дзядзя! — тузануў ён прыезджага за руку. — Гэта вы ўсім клеткі прывозіць будзеце, хто трусоў гадуе?

— Усім! — сур'ёзна адказаў прыезджы.

— І трусікаў блакітных таксама?!

— І трусікаў...

— Дык і я, дзядзя, трусікаў гадаваць буду. Папрашу ў Петрыка парачку на развод.

— Гадуй, гадуй, хлопчык, — ухвальна адказаў прыезджы.

Міколку ўяўляліся ўжо блакітныя трусікі, якіх прывязуць яму, як наладзіць ён сваю гаспадарку. Не ведаў, чым аблашчыць і парадаваць такога харошага дзядзю.

— Дзядзя! — раптам праказаў Міколка. — А ў нас партызанскі калодзеж будуецца. Вы бачылі?

— Не, — прыслухаўся больш уважліва прыезджы. — Не бачыў. А што гэта за калодзеж такі партызанскі?

---

* РайАРЗ — раённы аддзел рабочага забеспячэння.

— А вунь! — паказаў Міколка, задаволены, што знайшоў чым здзівіць харошага дзядзю.

Дзядзя ўбачыў высокую драўляную вышку.

— Чаму партызанскі? — не разумеў ён.

— А от так, партызанскі, — міла пасміхаўся Міколка.

— Ды што ты, Міколка, усё глупства рознае гаворыш? Не партызанскі, а артэзіянскі!

От гэты Петрык! І заўсёды ён Міколку гумор сапсуе...

Прыезджы дзядзя весела засмяяўся. Цяпер ён зразумеў, які гэта быў калодзеж: прасвідраваны глыбока ў зямлі.

Засмяяліся і ўсе хлопцы. Аканфужаны Міколка хацеў моцна на ўсіх узлавацца, нават з крыўды ледзь не наважыўся заплакаць. Аж тут дайшлі да месца. Забыліся ўсе на Міколку.

— Дзе ж ты з сваёй гаспадаркай падзенешся цяпер? — ківала галавой Петрыкава маці. — Куды ж столькі клетак у твой хлевушок? Ая-яй!

Але зусім не так, як заўсёды, казала гэта маці. Без нездаволенасці. І не кпіла. Бачыў гэта Петрык, і весела яму было — зусім ужо ўмацавалася гаспадарка ягоная.

— Дзе падзенем? А во! — Петрык адчыніў наросхліст дзверы ў хлевушок, што быў побач з трусіным. Стаялі ў ім клеткі Петрыкавы з трусікамі.

Аж войкнула маці.

— Калі ты перацягнуў? І хто ж табе дазволіў? Гэта ж станцыйная дрывотня. Што ж ты нарабіў? А-яй-яй...

Не чакала яна такога ад руплівага і гаспадарлівага Петрыка.

— Гэта ўжо не дрывотня, а мой хлевушок на трусоў! — ганарыўся Петрык. — А дрывотня будзе там, дзе мой хлевушок быў.

Не! Не разумела Петрыкава маці...

— Ты, мамка, кінь непакоіцца. Я ж не дурань які, самавольна не палез сюды. Сам начальнік станцыі абяцаў мне хлевушок гэты. Тады як тэлеграма прыйшла. Ён жа разумее, што трусоў трэба, канечне, гадаваць. І сам у мяне пару возьме. От што.

Толькі галавой ківала маці, слоў ніяк дабраць не магла. Пазносілі ў хлевушок клеткі, пастаўлялі. Упаўнаважаны АРЗа выцяг з кішэні дзве паперкі.

— От вам нарад на кармы трусам, — падаў ён адну паперку Петрыку. — А тут, калі ласка, распішыцеся, што атрымалі трусоў, клеткі і нарад.

Петрык ураз пасур’ёзнеў, натапырыліся зблізаныя бровы. Прыклаў Петрык паперу да дзвярэй хлевушка і як мага раўнейшымі і прыгажэйшымі літарамі выпісаў:

«Атрымаў Петрык Габрыэльчык».

Зазіраў з-пад рукі на пісанне Петрыкава Міколка. От жа і яму распісвацца некалі давядзецца.

## Міколка задаволены

Новая работа знайшлася Петрыку з дзятвой. Штодня, як прыходзяць вагоны пад пагрузку, выпраўляюцца дазорныя на калеі — на агляд. Калі-нікалі даводзіцца і грузчыкам заўвагу зрабіць, каб грузілі асцярожней, не рассыпалі збожжа. Аднаго разу, як раздажджылася, цэлы гармідар узнялі дазорныя: збожжа цягалі грузчыкі па дажджы, намакалі мяхі і зерне. Тут жа паказалі дазорныя, як лёгка і проста можна абараніць збожжа, — перакінулі колькі дошак з даху вагона на страху пакгауза, а з навятранага боку мяшкамі завесілі.

— Ну і дазорныя гэтыя!.. — дзівіліся грузчыкі. — Усё-такі разумныя. Стары, нязвыклы лічыць дзяржаўнае збожжа за сваё, ніколі і не дадумаўся б да такога...

І, абароненыя самі ад дажджу, насілі ўжо ў вагоны сухое, непадмочанае збожжа.

Даведаліся пра дзяцей-няўрымсцікаў і кандуктары са змазчыкамі, што ездзілі праз Рудню. Пільнаваліся, каб няспраўных вагонаў не адчэпліваць. Змазчыкі перад Рудняй буксы дбайна аглядалі.

— Адчэпіш вагон з недагледжанай буксай, дык праз тых дазорных жэўжыкаў клопату не абярэшся. Што, каб іх цягнікі вадзіць пусціў — от ужо навялі б парадку пацаняты тыя!

Дні міналі хутка. Не было нават часу на рэчку збегаць. Ды і не так цікава было ўжо на рэчцы. Пахмурная такая стала. Вада пацямнела, халадэчай і чужасцю павявала ад яе. Сібількі недзе пахаваліся, не відаць іх. І берагі не такія раскошныя ўжо.

Пажоўкла, выпетрылася трава, пясочак халодны, колкі. Неба засумавала чагось і хмарнае такое стала. А з хмарын тых часцей і часцей сее спорны дожджык, а часам і зацяты дождж пойдзе.

Надышла неўпрыкмет нечаканая і нежаданая восень. Петрыку восень гэтая прынесла вялікую змену ў жыцці. Вучыўся Петрык ужо чатыры гады ў школе, што была кіламетры за два ад станцыі, у невялічкім мястэчку. Петрык акурат сёлета ўвесну скончыў чацвёртую групу. А пятай у Руднянскай школе не было. І Петрык на восень мусіў ехаць у Трубін — на вялікую чыгуначную станцыю, дзе была ўжо і сямігодка. Петрыку кло-

пату мала прыпадала з пераезду ў незнаёмае месца. У Трубіне дзед Петрыкаў жыў, стары машыніст, цяпер ужо інвалід. Адпрацаваў сваё Сымон Вікенцевіч, дзед Петрыкаў, адпачываў, дажываючы веку. Запрашала Петрыкава маці дзеда з бабкай да сябе — спакайней на старасці дагледжанымі быць. Не згадзіліся аднак.

— Пакуль ногі носяць мяне і старую маю, дык не хачу каму на шыю цяжарам скідацца, — так казаў дзед. — От, калі сабачая старасць надыдзе, тады мо і сам да дачкі папрашуся на печы сядзець, косці парыць. Ды і што ў Рудні той вашай? Дэпо — няма. Гудкоў паравозных нават не пачуеш. Адно што ўдзень пара цягнікоў праскочыць? Не! Не людское гэта жыццё...

А бабка дадавала:

— Потым хаціна ў нас... Сякая ні якая, ды ёсць. От у сваёй хаце і спакайней неяк. Нікому не замінаючы.

Так казалі старыя. Дзіўна было слухаць іх. Спрачаліся з імі Петрыкавы бацькі, даводзілі. Але не пераборалі ўпартых. Так і кінулі. Хай, маўляў, яшчэ пастарэюць ды разумнейшымі стануць!

А тут акурат Петрыку ў Трубіне вучыцца прыпала. Старыя ажно з гонарам такім казалі:

— А што, хіба і не добра, што ў Трубіне мы? От унука акурат дагледзім. І нам, старым, радасць у ціхую хату, і вам, бацькам, за дзіця спакайней будзе. Не то што ў інтэрнаце якім...

І тут даводзілася паспрачацца са старымі. За інтэрнат. Не за тое, каб Петрыка ў інтэрнаце пакінуць, — згаджаліся бацькі, каб у старых жыў на пацеху іхнюю, — а за тое, што ганілі інтэрнат той. Але і слухаць старыя не хацелі. Багата, пэўна, чулі пра даўнейшыя інтэрнаты чыгуначных школ, што толькі дзяцей псавалі. Новых, цяперашніх, яны не бачылі, а як малых дзяцей не мелі — дык пра інтэрнаты і школы не цікавіліся.

З Петрыкам у Трубін вучыцца Сымонка ехаў. Весялей трохі Петрыку было. Усё ж не адразу ў незнаёмую школу, да незнаёмых дзяцей. Будзе і свой хлопец, з якім чатыры гады ў школу разам бегаў. Хоць будзе Сымонка жыць у інтэрнаце, але бачыцца будуць штодня. І ў Рудню разам у якія выхадныя дні ездзіць будуць.

Збіраліся Сымонка з Петрыкам у дарогу. Петрык давёў да парадку сваю гаспадарку. Каторых трусоў можна было на адкорм узяць, каб спажываць потым, Петрык перасадзіў у асобныя клеткі — пад мамчын нагляд. Рэшту падзяліў на дзве часткі. Адну пад Міколкаў нагляд, а другую — Маньцы.

— Ты, мамка, за імі назірай тут. Каб даглядалі трусоў як след. А то, ведама, малыя, неразумныя...

Міколку вельмі карцела паспрачацца з Петрыкам. Памыляўся ж той і крыўдзіў дарэмна Міколку. Які ж ён малы і неразумны, калі ў школу сёлета ўжо выпраўляецца і акцябронкам будзе? Але стрымаў сябе Міколка. Не варта было назаляць Петрыку. Ён у Трубін едзе. Сумна, пэўна, яму з дому выязджаць, трусоў сваіх пакідаць. А потым... Раззлуецца яшчэ Петрык гэты, возьме ды трусоў не вылучыць Міколку. Скажа от, што зусім жа малы Міколка і неразумны вельмі. От і спрачайся тады колькі хочаш! Не, лепш перапусціць на гэты раз.

— Аз ангорскім жа як трусікам? Што на рукавічкі? — усяго і наважыўся запытацца Міколка.

— Я ж казаў, што табе першыя рукавічкі будуць, — зусім не падманваючы, відаць, казаў Петрык.

Дзе ж тут з ім спрачацца!..

— Я памятаю, Петрык... А от... даглядаць хто будзе?

— А гэта ўжо мама. Бо ты ж не ведаеш, як пух вычэсваць трэба з яго.

І тут не выпадала спрачацца. Бо Міколка і сапраўды не ведаў, як гэта ўсё робіцца.

— Але мы з Манькай дапамагаць маме будзем? — выгаварыў Міколка хоць частачку з таго, што яму так жадалася.

— А як жа інакш? Вы ёй і тых трусоў будзеце дапамагаць даглядаць. Бо мамцы работы і так хапае.

Міколка зусім заспакоіўся. Выявілася — клопату яму з трусамі хопіць, абы ахвота. Ён быў дарэшты задаволены.

Шмат хто прыйшоў выпраўляць Петрыка з Сымонкам у дарогу — і старыя, і малыя. А яны сябе так паважна трымалі. Сур'ёзныя такія былі. Вядома, як вучні не з Руднянскай, а з Трубінскай школы. Дзе вялікая станцыя, сумятлівае і гармідарнае дэпо з безліччу прарэзліва свішчучых паравозаў, дзе вялікая школа, што сёлета будзе ўжо нават не сямігодкай, а васьмігодкай.

Занеслі пакуначкі свае ў вагон Петрык з Сымонкам. Потым выйшлі на пляцоўку вагона, каб яшчэ раз з усімі развітацца. Як падышоў Петрык да Міколкі, дык той важнецка так праказаў:

— Ты ж вучыся, Петрык, добра. І не сваволь вельмі.

А счакаўшы трохі, падбадзёрваюча дадаў:

— А за трусоў не трывожся, Петрык! Мы іх тут у самы раз дагледзім. І ангорскага таксама.

## Дзедаў качагар

Петрык у школу выправіўся на гадзіну раней. Пайшлі разам з дзедам, каб па дарозе збочыць да дэпо.

Як павярнулі ад станцыі на каляі, нецярплівасць падшпільвала ажно Петрыка. Увесь час ён пазіраў у твар дзеду. А дзед спакойна клыпае сабе так — от, здаецца, дапамог бы ісці яму, каб хутчэй хаця!

На калеях тлумна. Сноўдаюць манеўровыя паравозы (а на іх літары «Ов» — заўважыў Петрык), перастаўляюць вагоны, платформы, цыстэрны. Счапляюць тыя вагоны счэпшчыкі, камандуюць усім складальнікі цягнікоў. Так, вагон за вагонам, ладзяцца саставы. З-пад дэпо падыходзіць, важна так папырхваючы, відная «шчука», становіцца на чале саставу. Узнімаецца крыло семафорнае ўгору, цвірчыць у дудачку галоўны кандуктар, «шчука» адгукаецца гучным гудком і, пыхкаючы ў бакі белымі клубамі пары, пачынае набіраць ходу. Паляскваюць на стыках рэек вагонныя колы, усё часцей і часцей, гучней і задзірысцей — і от ужо апошні вагон з падскокам мінае Петрыка. Далёка, на кругаглядзе, доўгай шызай пасмай віецца дым паравозны.

Пайшоў цягнік!

Тут на слупу раптам заверашчаў званочак.

Складальнік падбег, уторкнуў у адмысловую дзірачку канец провада, выняў з кішэні тэлефонную трубку, прыклаў да вуха.

— Слухаю, таварыш дыспетчар... Трыста пяты рыхтаваць? Добра... На шаснаццатай каляі? Ага! Яна вольная акурат. Арбелі і цыстэрны ў галаву ставіць?.. Ну, вядома...

— А ты ведаеш, Петрык, што гэта за арбелі? — спытаў дзед, пачуўшы словы складальніка.

— А як жа! Гэта вялікія вагоны сістэмы Арбеля. Яны не двухвосныя, як звычайныя, а на чатырох восях... Іх трэба ў галаву цягніка заўжды стаўляць, яны важкія. А лёгкія, звычайныя вагоны — за імі, у хвост.

— Правільна! Ты ж у мяне эксплуатацыйнік важнецкі, бацькаву работу ведаеш... Я і то запамятаваў зусім.

— Эксплуатацыйнік то эксплуатацыйнік, — нечага засаромеўся Петрык, — а от чаму гэта, дзедусь, дыспетчар манеўрамі загадвае?

— Дыспетчар? Праўда, дыспетчар. Гэта ты ў Рудні прызвычаіўся, што дыспетчар распарадкуе рухам цягнікоў на ўчастку. А от, бачыш, на вялікіх станцыях ёсць яшчэ манеўровыя дыс-

петчары. Тут дзяжурны па станцыі загадвае толькі адпраўкай і прыёмам цягнікоў. А работу ўсю з імі на станцыі плануе дыспетчар.

— Бач ты... — бярэ да памяці Петрык новыя веды. — А складальнік як па тэлефоне размаўляе, чуў? От у Рудні не так. Там пагана. Як манеўруе цягнік, дык і стрэлачнік набегаецца, бо складальнікаў жа і счэпшчыкаў там няма, ды і татку хапае беганіны, крыканіны. «Стаўляй пад пакгауз!» — крычыць. «У тупік давай!» А тут — дзвынь! — і: «Слухаю, таварыш дыспетчар!» От гэта дык так...

Да таго захапіўся Петрык назіраннем сумятлівай работы на калеях, што не заўважыў, як дабрылі яны з дзедам да дэпо.

Дэпо Петрык уяўляў сабе як вялікі хлеў. Ну, накшталт таго, як у Руднянскай МТС для трактараў, толькі куды большы, умястоўнейшы. Аж пабачыў іншае. Як прыгледзеўся да дэпо, дык убачыў, што камяніца гэтая мае нейкую адмысловую форму. Два паўкругі злучаны былі прастакутным доўгім будынкам. Дэпо абрысамі сваімі вельмі нагадвала літару «З». Паўкругі гэтыя дзед назваў «веерамі». У іх, казаў ён, рамантуюць паравозы.

На двары, пасярэдзіне кожнага веернага паўкруга, выкапана была круглая вялікая яміна. Праз яе праходзіла, як той мост акурат, чыгуначная каляя. Збудаванне гэтае называлася паваротным кругам. Узыходзіў на той круг паравоз, у будачцы ля круга ўключалі ток, і круг з роўным гудам паварочваўся.

— За маім часам не тое было! — сказаў дзед, гледзячы, як паварочвалі паравоз. — Тады не было на кругу электрыкі. Прымацаваны былі да круга дзве таўшчэзныя кроквы і напіналіся ля іх павяртальшчыкі. Зімой дык проста згуба для павяртальшчыкаў была: ледзь не ўсіх рабочых збіралі, каб павярнуць круг. Ходзяць, упрошваюць дапамагчы. Цьфу, а не работа!

Спыніўся акурат круг. Вукнуў паравоз і пайшоў з круга праз адны з шматлікіх варотаў веера — у стойла. Ад круга, і праўда, цэлым веерным жмуком разыходзіліся калеі ў стойлы.

На калеях ля дэпо чарадой стаяць паравозы. Адпачываюць ад цягніка да цягніка. Паравозныя брыгады самі спраўляюць сякі-такі дробны рамонт паравозаў. Каб быў рамонт значны, дык конь сталёвы пайшоў бы ў хлеў — у стойла веера.

Лёгенькі дымок віецца з дымароў — машына жыве, дыхае, гатова ўміг скінуць сон, рынуць у дарогу на чале грымотнага цягніка.

Ідучы паўз гэтыя паравозы, пачаў дзед свае тлумачэнні. Расказаў ён унуку пра «шчук», пра «авечак». Зганіў нават крыху

«шчуку» — хоць мацнейшая яна за «авечку», але збудавана не зусім удала, таму натурлівая бывае і працаваць на ёй не так лёгка. Паказаў дзед порсткіх, шпаркабегіх «сокалаў».

— А дзе ж «тацяны»? — канечне, хацелася ўбачыць Петрыку машыну, на якой пачынаў працаваць машыністам дзед.

— Няма, Петрык, тут «тацян». Нядэшлыя яны зусім на наш час. Не пад іхнюю сілу шматгрузныя цягнікі. Працуюць дзе на адгаліненнях з невялікім грузаабаротам, а то на манеўрах на меншых за Трубін станцыях. А вунь! Бачыш?

Дзед паказаў на смешны маленечкі паравозік, усяго на трох невялічкіх колах, нават без тэндэра. Паравозік задзірыста чучухкаў, цягнучы пад дэпо вялікую, нібы нежывую, «шчуку».

— Бачыў? Гэты яшчэ слабейшы за «тацяну». Гэта «мяккі знак», яго «кукушкай» дражняць.

На контрбудцы ў паравозіка ля нумара і сапраўды пастаўлена была адзнака серыі — «Ь». Тут акурат як закукуе паравозік, аж Петрык зарагатаў.

— Але ж праўда «кукушка»! Сапраўдная зязюля.

— А тэндэра няма ў яго, бо запас апалу невялікі патрэбны, а вада, бачыш, у «кішэнях» з бакоў катла. От такі бястэндэрны паравоз называецца «паравоз-танк».

— Сымону Вікенцевічу вітанне! — гукнуў да дзеда нейкі малады паравознік.

— Здароў, Васіль, здароў!

— Каму вы тут пра паравозы гаворыце? Што гэта за курсант такі?

— А гэта ўнук мой, Петрык.

— А-а! Гэта той, з Рудні, што ў «Рэйках» пра яго пісалі?

— Ён самы! — лагодна глянуў на Петрыка дзед.

Петрык крыху засаромеўся. Не ведаў ён, што не адзін раз прыходзіў дзед да дэпо з памятным нумарам газеты і выхваляўся ўнукам.

— Ну дык здароў, Петрык! — ласкава сказаў незнаёмы яму Васіль. — Вучыся, вучыся! Будзеш інжынерам-цягавіком.

— А што ты думаеш? — падхапіў дзед, нібы жарт у словах Васілёвых пачуўшы. — Цяпер дзецям нашым на любы шлях семафоры адчыненыя.

— Я ж і кажу! — сур’ёзна адказаў Васіль.

Дзед супакоіўся.

— Ну, як ездзіцца, Васіль?

— Так яно б і нічога, Сымон Вікенцевіч. І машына ў мяне дагледжаная, прыбраная. Як лялька ходзіць. Шаную яе, часу не

шкадую. І працаваць потым люба. А от не шанцуе часам, ліха яго ведае, — ніякавата скончыў Васіль.

— Што ж так? — занепакоена запытаўся дзед.

— А от хоць бы і ўчора сабе. Набіраў ваду з гідраўлічнай калонкі. Пакуль уладзіў састаў — вялікі дужа быў — напакутаваўся. А пасля крануў ехаць — на табе! Састаў парваны... І трапіла неяк жа...

— Парваў, кажаш? — задумаўся дзед і для падмацунку нюхнуў табакі. — Парваў... А скажы папраўдзе, Васіль, праскочыў ты калонку, а пасля асаджваў?

— Ага! Верна! Пераехаў і асаджваў.

— Ну, дык яно і ясна. Ты лепш не даязджай калонкі, калі яшчэ не прылаўчыўся акурат ля яе спыняцца. А пасля падцягвай састаў. Так ніколі адцяжкі вагонаў не будзе і не парвеш. А пераедзеш — ну, тады і праўда, клопату нямала будзе...

— Што вы кажаце, Сымон Вікенцевіч? А я ж думаў-думаў: з чаго б то яно... От не сказаў бы ніколі. Ну і дзякуй жа вам, Сымон Вікенцевіч! Цяпер я ўжо не парву ніколі! — радаваўся Васіль.

Моцна пацiскаў ён старому руку, развітваючыся.

— Пайду да дзяжурнага па дэпо. Калі ехаць, даведаюся.

— Ну, ну, ідзі! — спагадна казаў стары і дадаў да Петрыка: — Гэта Васіль Дайнека. Як ішоў я на інваліднасць, дык за качагара са мной ездзіў. А цяпер, бач, машыніст ужо... Цяжкавата хлопцу: малады яшчэ, неспрактыкаваны... А так — лоўкі з яго машыніст будзе. Галоўнае — машыну любіць ён... А ўмельства з часам назапасіцца.

Глянуў Петрык услед Васілю. Хацелася і яму пайсці ў дэпо, паглядзець, што і як там робіцца, але час было ў школу. З жалем уздыхнуўшы, пайшоў Петрык з дзедам ад дэпо.

## Крыўда

Кожны дзень, абы не чула бабка, назаляў Петрык:

— Пойдзем, дзед, у дэпо! Мы ж не заходзілі ў веерны яшчэ, не бачыў я і такарні. Пойдзем, дзедусь...

Дзеду самому цікава было лішнюю праходку ў дэпо зрабіць. Апрыкрала цалюткімі днямі дома сядзець. Адно што «Гудок» пачытаеш, «Рэйкі» свае раённыя. Але ці надоўга тых газет хапае? Гадзіны на дзве якіх, а пасля хоць ты памірай з нуды.

Скарыўся дзед, выправіўся з унукам у дэпо.

Доўга хадзіў Петрык у вееры ля ўзнятых угору на дамкратах, расхрыбустаных «шчук» і «авечак». Лязгалі выкіданыя з катла дымагарныя трубы. Напружваў слых і зрок Петрык, усё хацеў пачуць і пабачыць, тузаў дзеда раз-пораз, распытваў. Цярпліва тлумачыў дзед Петрыку працэс рамонтных работ, праклыпаў праз увесь веер, прывёў у такарню. Доўга глядзеў Петрык тут, як свідраваліся на станках дзіркі ў грубых кавалках жалеза, як кавалкі гэтыя абточваліся на другіх станках, набывалі формы розных паравозных частак. Мерна і роўна гулі станкі, несціханы скрогат поўніў цэх. Уразіла Петрыка, як на вялікім станку паволі круціўся скат паравозных колаў. Паслухмяна і роўна калаўротам паварочваўся скат, а вострыя разцы гналі з абодвух шынаў-бандажоў пакручастую стружку. Бліскаў на здзёртых месцах роўны, абгладжаны метал, раўнялася ад выбаін паверхня бандажа.

— От гэта табе абточка скатаў! — сказаў дзед.

Але Петрык і сам здагадаўся, што рабілася на станку.

Прайшоўшы ўсе цэхі, трохі інакш разумеў Петрык паравоз, яго часткі, складаны механізм, работу. Цяпер ужо паравоз не здаваўся яму незразумелым склёпкам награмаджанага металу. Але ніколькі не паменшала ў Петрыка павага да гэтай вялікай, дужай машыны.

Назад ішлі зноў праз веер. Тут напаткаўся ім Васіль Дайнека.

— Зноў з экскурсіяй? — як стары знаёмы, вітаўся ён з Петрыкам.

Потым заклапочана звярнуўся да дзеда:

— Сымон Вікенцевіч! Вы ўжо даруйце... Ці не паглядзелі б вы штукі адной? Машына мая ў рамонце, акурат цэнтравы падшыпнік заліваюць. Але нешта не так, думаю я.

Дзед Сымон з ахвотай паклыпаў да станка. Ён такі рад быў дапамагчы былому свайму Васю-качагару. Пілаваў на станку слесар верхнюю частку падшыпніка. Адставала заліўка з бакоў, сыпаліся ў розныя бакі пласткі бабіту. Паківаў галавой дзед Сымон. Напружана ўзіраўся на яго Дайнека. Раптам стары адхіліў рукой слесара — на падшыпніку выяўна ззяла трэшчына.

— Так і паставіш? — адрывіста кінуў Сымон Вікенцевіч.

— А як жа? — нібы і нічога адказаў слесар.

— Ты што, хочаш, каб выплавіўся, каб заўтра зноў паравоз на рамонт стаў?

— А гэта ўжо не мая справа! Мне дадзена прыгнаць падшыпнік — я і прыганяю.

— Мазгі ў цябе ці да месца прыгнаны! — ускіпеў дзед. — Не бачыш, што на шкоду робіш?

— А твая якая справа? — агрызнуўся злосна слесар. — Шмат вас тут, абібокаў, з мазгамі швэндаецца, замінаеце толькі. Адыдзі прэч, пакуль не выкінулі!

Васіль матнуўся да слесара на абарону старога. Петрыку стала неяк няёмка. Крыўдзілі дзеда, і немаведама за што. За тое, што добраму навучае?..

Узрушаны дзед Сымон адчуў сябе нібы за гаспадара машыны. Забыўся і на інваліднасць сваю. Забыўся, што не яму тут камандаваць. От, нібы яго машыне шкоднае хочуць зрабіць. Яго — спрактыкаванага, з вялікім умельствам машыніста — абдурваць?! Ды яшчэ гэтак выслаўляцца!

— Майстар! — ускрыкнуў дзед гучна, моцным і незвычайным для яго, страціўшым старэчую нядэшлую рыплівасць галасам. — Майстар! Сюды!

Праз цэх ішоў у сінім камбінезоне пажылы майстар. З кішэнек камбінезона высоўваліся розныя лінеечкі, цыркулі — адзнакі майстравай годнасці.

— У чым справа? — недаўменна пазіраў ён то на слесара, то на Васіля. Нібы і не бачыў ён дзеда Сымона.

— Я не хачу, каб на мой паравоз ставілі гэтую ламачыну! — цвёрда заявіў Васіль.

— Чаму? — прыжмурыў майстар вочы.

— Таму што падшыпнік гэты заўтра выплавіцца, і машына выйдзе са строю.

— Скуль гэта ты ведаў такіх набраўся? — не раздымаў звужаных павекаў майстар. Пытаўся, хоць добра ведаў і сам, з чаго спрэчка пачалася, чуў і голас — не Васілёў, — што гукаў яго.

— А от запытайцеся ў Сымона Вікенцевіча, у старога машыніста! — сек Дайнека.

— У Сымона Вікенцевіча? Ён мне не ўказчык, інвалід гэты. Ён — староння для дэпо асоба, якой сюды і хадзіць няма чаго. Я прасіў бы вас, грамадзянін Вэйс, не ўтыкацца не ў свае справы, калі вы ўжо сюды прыйшлі. А ты, — павярнуўся ён да слесара, — рабі, што я загадаў!

Порстка павярнуўся і пайшоў прэч майстар. Не адстаў ад яго Васіль, не кідаў спрачацца.

— З’еў? — яхідна кінуў слесар і зноў узяўся за рашпіль.

Дзед Сымон не чуў яго.

— Ах, ты так?.. Гнаць мяне? — аж задыхаючыся, сіпеў ён. Твар яго пакрыўся сіняватым колерам. Трэсліся рукі, няпэўна

коўзаў па зямлі кіёк.

Узяў за руку дзеда Петрык і, спахмурнелы, сумны, павёў з дэпо.

## Маланка

Дайнека быў сёння ў паездцы; у дэпо Петрыку з дзедам не трэба было ісці. Пайшоў Петрык у будынак, што ганак быў з калонкамі.

Спаткалі Петрыка тут вельмі ветліва.

— А! Маё шанаванне, таварыш Габрыэльчык! — жартаваў таварыш Кукліцкі.

Узнялі галовы ад паперак і астатнія, хто быў у пакоі, усміхнуліся.

— Гэта завадатар той твой? Петрык?

— Ён самы.

— Ну, дык здароў, Петрык!

— Госцем будзеш!

— Заходзь, завадатар!

Абступілі ўсе Петрыка, прыглядаюцца.

— Маленькі ты, Петрык, аднак... — нібы расчаравана праказаў адзін.

— Малы ды ўдалы! — засмяяўся другі.

Петрык азірнуўся па баках.

— А газета ж дзе робіцца? — адразу да справы прыступіў ён.

— Які ж ты спрытны! Газета, браток, не тут робіцца. Ці то — робіцца яна і тут, матэрыял праглядаецца, выпраўляецца, перапісваецца, а потым у друкарню яго адносяць. Там ужо і газета друкуецца.

Петрык гатоў быў расчаравацца.

— А зараз мы і ў друкарню з табой сходзім, — падбадзёрыў яго Кукліцкі. — «Маланка» гатова ўжо? — павярнуўся ён да старэйшага, што менш за ўсіх быў вясёлы, — пэўна, сам рэдактар.

— На! Можна друкаваць, — падаў той аркуш паперы.

— Ну, от і добра акурат. Пойдзем, Петрык!

Петрык ураз і да дзвярэй падаўся.

— Дык ты ж заходзь яшчэ, Петрык! — наўздагон гукнулі яму.

— Зайду! — адказаў Петрык. — Мне і тут цікава паглядзець будзе.

Ён бы, можа, і цяпер астаўся ў рэдакцыі, але не хацелася адстаць і ад знаёмага яму таварыша Кукліцкага, што пра трусоў яго калісь у газеце пісаў.

У друкарні, і праўда, значна цікавей было. Стаялі тут наборшчыкі ля высокіх спадзістых сталоў з пляскатымі скрынкамі. А ў скрынках тых багата гняздзечкаў. У гняздзечках дробныя металічныя палачкі, на канцах палачак — пукатыя літары. У кожным гняздзечку — асобныя літары. Наборшчык браў са скрыні — «касы» — літары тыя і хутка-хутка складаў адна да адной у бліскучую формачку — «вярстатку». З літараў складаліся радкі, з радкоў — цэлыя слупкі набору.

Акурат адзін наборшчык скончыў набіраць з рукапісу, абвязаў слупок набору шпагатам, змазаў фарбай з мяккага валіка. На набор потым паклаў кавалак паперы і пракаціў поверху цяжкім валікам. Як знялі паперу — на ёй было аддрукавана якраз усё, што набраў наборшчык. Таварыш Кукліцкі ўзяў гэты адбітак, сеў за столік і пачаў стаўляць нейкія закаручкі на наборы і збоку на чыстым краі паперы.

— А гэта навошта? — здзівіўся Петрык.

— Гэта — карэктура. У наборы могуць памылкі быць. Іх трэба выправіць.

«Відаць, усё гэта не так лёгка і проста», — падумаў Петрык.

— І кніжкі гэтаксама робяцца? — запытаўся ён.

— Гэтаксама. Што кніжкі, што газеты — усё адно.

— Бач ты...

Наборшчык узяў адбітак і, гледзячы на закаручкі, шылам падчэпліваў і выцягваў з набору непатрэбныя, памылкова пастаўленыя літары, ставіў замест іх другія. А калі выправіў, раздзяліў набор на два роўныя слупкі і паміж іх уціснуў тонкую лінеечку. Потым прыклаў зверху нешта набранае вялікімі грубымі літарамі і зноў закруціў шпагатам.

— От «маланка» і завярстана! — сказаў Петрыку Кукліцкі.

Набор спусцілі на металічную гладкую дошку ў машыне, сціснулі ў рамцы, падкруцілі ключом.

«Як у класных вагонах ключ», — параўнаў у думках Петрык.

— Ну, от і заключылі... Нам трыста штук, — казаў Кукліцкі да машыніста.

Той матнуў галавой, пакруціў ручку выключальніка. Загуў

перасцерагаюча маторчык, тарганиуў пас, закруцілася кола машыны. Дошка з наборам, уладжаная на невялічкіх колах, што соўгаліся па гладкіх вузенькіх рэйках, падалася хутка ў нутро машыны. Па наборы крутануў валік з фарбай, пасля другі — з паперай. Дошка з наборам падалася назад, а з другога канца машыны выкінулася гатовая надрукаваная «маланка». Яе падхапіў Кукліцкі, яшчэ раз уважліва перачытаў для пэўнасці. А пасля аддаў Петрыку. Была гэта маленькая газецінка са звычайным, толькі паменшаным, загалоўкам — «Рэйкі гудуць», а побач стаяла слова «маланка», падкрэсленае рыскай, падобнай да зігзага сапраўднай маланкі.

Пісалася ў «маланцы», што дэпо да зімы дрэнна падрыхтавана, не ацеплены цэхі і паравозы.

— Правільна! — ухваліў газетку Петрык. — От і Дайнека, дзедаў падшэфны, скардзіўся, што дзверцы на паравозе лямцам не абабіты, вецер прадзімае. Хоць танцуй з холаду. А ўжо і зіма скора.

Прыгледзеўся Петрык да руху друкарскай машыны. Было ўсё ў ёй звонку, не то што ў паравозе, тут ураз можна было скеміць, як яна пабудавана і як працуе. Было гэта цікава. Але Петрык усё ж падумаў:

«Паравоз куды складанейшы. І магутнейшы. Гэтакі асілак! Не, на паравозе машыністам быць цікавей, чым ля такой шоргаўкі...»

Пакуль Петрык прыглядаўся да машыны ды разважаў, адрукавала яна ўсе «маланкі». Падхапіў іх Кукліцкі, набраў на паперку клею.

— Ну пойдзем, Петрык! — сказаў ён.

— Чаму гэтая газета называецца маланкай? І чаму яна на адзін бок усяго надрукавана? — засыпаў пытаннямі Петрык.

— Таму маланка, што выходзіць яна хутка, праз гадзіну-паўтары. І меры па ёй хутка прымаюцца, як маланкай усё роўна. От ты з дзедам сваім дапамагаеш дэпо, і мы таксама друкаваным словам, вострым і трапным, дапамагаем. Разумееш?

— Дзіва што разумею!

— А на адзін бок друкуецца таму, што расклейваем мы яе на сценах, на паравозах, на платах.

— Дык вы ўсе трыста штук самі і клеіць будзеце?

— Ну, а як жа? От пайду зараз — і раз-раз-раз...

— А ведаеце? — хутка надумаўся Петрык. — Дайце мне з палову, я пайду пад дэпо, наклею па дарозе і ў самім дэпо. Я быў там і ведаю дарогу ва ўсе цэхі. А часу ў мяне да школы яшчэ

хапае.

— Праўду кажаш, Петрык! — ухваліў Кукліцкі і перадаў Петрыку частку «маланак» і кавалак паперы з клеем.

— Я і заўтра прыйду! — крыкнуў Петрык ужо трохі адышоўшы. — І Сымонку прывяду. Разам будзем клеіць. Добра?

— Добра, завадатар! — весела гукнуў Кукліцкі ў адказ.

Петрык выканаў абяцанае. Назаўтра ён прывёў з сабой Сымонку і яшчэ трох піянераў. Паглядзелі хлопцы, як робіцца газета, і падаліся з «маланкамі» ў дэпо, майстэрні. Потым часта ў вольныя часіны па чарзе прыбягалі яны па «маланкі». Цікава і прыемна было з лістоўкамі прыбегчы ў цэх і пачуць спагаднае і нецярплівае:

— Маланка бліскае!

— А ну, хлопчыкі, дайце сюды...

— Каго там сёння ўдарыла маланкай?

Хлопцам цікава і весела. А рэдакцыі — вялікая падмога.

— Толькі глядзіце, хлопчыкі, — папярэджваў Петрыкаву брыгаду Кукліцкі, — каб не шкодзіла гэта заняткам. Каб лекцыі рыхтавалі як след.

— Вядома... Мы ж ведаем! От зараз расклеім маланку і — гайда лекцыі рыхтаваць!

## Нечаканы госць

Як ветрам унесла Петрыка ў хату — спяшаўся з навіной да дзеда: абсталёўваўся ўрэшце ў школе трусятнік. І пад ягоным, Петрыкавым, загадам.

Бразнуў дзвярыма, ускочыў у кухню.

— Ммяў! — не сваім голасам вяўкнула кошка. — Петрык прыціснуў чаравікам ёй лапу.

— Не хадзі босая! — як яно і нічога, выгаварыў да кошкі Петрык.

— А хто там абуты ходзіць? — пачуўся раптам з зальчыка чыйсьці гучны незнаёмы, а здаецца, трохі такі і знаёмы голас.

Петрык сцішыўся. Як тым ветрам, што ў хату Петрыка ўнесла, і ўціхамірыла яго.

Дзвынкліва, чулася, бразгалі лыжачкі.

«Чай п’юць... Каго ж гэта да старых прынесла?..»

Ціхенька прыадчыніў дзверы Петрык і асцярожна, цікуючы, прасунуў галаву. Але Петрыка заўважылі.

— А ну заходзь, хлопча! Цябе Петрыкам, здаецца, клічуць.

От цяпер Петрык, як убачыў госця, дык і голас яго ўраз пазнаў: быў госцем у дзеда Сымона сам таварыш Грамовіч. Прыспеў акурат да вячэрняга чаю. Сядзеў Сымон Вікенцевіч насупраць госця, урачысты такі, узбуджаны. Бабка, дык тая зусім не ведала, што рабіць. То чаю сербане, то падскочыць, цукар госцю падсоўвае.

— Ну дык як, Петрык, справы ў школе? Раскажы, як ты кулака з-пад вагона выцягнуў, га? — аж не даваў дыхнуць Петрыку з роспытамі сваімі госць.

От гэты дзед! Зноў вытыркнуўся, пэўна, не сцярпеў, павыхваляўся. Апавядай тут цяпер, выстаўляйся, нібы герой ты які. Ну і спаймалі кулака, ну і прэмію за трусоў далі. Дык хіба хто, які піянер гэтага не зробіць?

Але давялося-такі Петрыку апавядаць, бо не вінаваты ж начальнік палітаддзела, што дзед у Петрыка такі ўскрутны, хвалько.

— Так, так... Малайчына, Петрык. Можаш ганарыцца, Сымон Вікенцевіч, унукам!

Ну і таварыш Грамовіч! А дзед, дзед! Нібы і падрос. Бач, бараду сваю куртатую пагладжвае. А як жа... І табакі нюхнуць трэба. На яе дык ніколі не забываецца. Бяда з дзедам гэтым...

Узяў свой партфель таварыш Грамовіч і звярнуўся да Петрыка:

— Піць чай будзеш?

— Пі, Петрык, я наліла вунь, — паказала бабка.

— От і добра. Пакаштуй майго пячэння! — выцяг госць з партфеля пачак.

Бабка здзіўлена зірнула на госця. А самой думалася: «От якое начальства пайшло цяпер... Ці ж бачыў свет калі, каб такі начальнік вялікі ў госці прыходзіў? Да старога майго, да інваліда нядэшлага прыйшоў! Ну, каб да машыніста, дык той жа працуе, патрэбны на рабоце. А Сымон — ён жа адпрацаваў сваё. От гэта начальнік! Ды і на малога не забыўся. Не іначай як пра яго думаючы, і пячэнне гэтае купляў...»

Бабка неўпрыкмет для самой уздыхнула. Нешта ласкатала ў грудзях, вочы нібы чым зацярушыліся, здрадліва маргнулі. А госць да яе акурат гаворыць:

— Дык вы хаткай сваёй задаволены, значыцца? Уласную на старасць агаралі? Гэта нядрэнна. Маленькая хатка, але і сямейка ў вас невялікая...

Пахаджвае госць, аглядае кватэру.

— Нішто, нішто... Жыць можна. А як, цёплая хатка?

— Нельга ганіць, праўду сказаўшы, — абыходліва, забыўшыся на нясмеласць, адказала бабка. — Але от стары мой дроў не прыдбаў яшчэ. Казала ўжо яму, бабоніла, дык — не, нібы і зіму для яго сёлета скасуюць!

Бабка пачынала ўжо ўсходзіцца. Сымон Вікенцевіч няёмка сябе адчуў, валтузнуўся, схапіўся за табаку. Петрык напружыўся, думаў: «Як бабку гэтую ўціхамірыць? А то ўсходзіцца, пойдзе і пойдзе бурчаць, не спыніш яе пасля...»

Сорамна аж неяк пры госцю. А той сціху так пахмыльнуўся, дзеда Сымона бароніць:

— Ну, Сымон Вікенцевіч, пэўна, у падман зіме не дасца, прыстараецца дроў...

— Ну, а як жа? Ведама, — падхапіўся, рады з слова, за яго замоўленага, дзед, — на ўсё свой час. І няма чаго скардзіцца табе, старая! — звярнуўся ён да бабкі.

Зірнула тая на яго зняважліва, рукой нават махнула:

— Акурат мне бегаць на пільню па аполкі давядзецца!

І зноў госць выручыў дзеда, на другое павярнуў:

— Дык мы, значыць, Сымон Вікенцевіч, дамовіліся наконт нагляду за якасцю? І каб вы іншых старэйшых і вопытных да гурту сабралі? Ну і добра. Добра. А калі што якое, дык вы цяпер дарогу да мяне знойдзеце? — усміхнуўся госць і пачубіў ласкава Петрыка. — Ах ты, завадатар! Лоўкі ты, Петрык, хлапчына...

З гэтай пахвалы ўнуку ўкрасіліся пахмылкамі твары дзеда і бабкі. Бабка і з галавы выпусціла сваё бурклівае злаванне. Як і дзед, ветліва і хвалюючыся развіталася з нечаканым і такім паважаным госцем.

## Бабка выхваляецца

— Набегаўся, Петрык? — спаткаў дзед унука.

Прыбег той акурат з чарговай сваёй разноскі «маланак».

— Лоўка, дзедусь, нагуляўся. Аж замарыўся!

— От гэта і пагана, што замарыўся, — расчараваўся дзед. — А я толькі хацеў работку адну табе даць.

— А якую?

— Ды от пачытаць трохі з кнігі гэтай пра паравоз. Заўтра

Васілёва машына на рамонт сякі-такі стане, будуць акурат брыгады вольныя, дык наладзім гутарку пра паравую машыну. З практыкі я багата ведаю, але тут і без тэорыі не абыдзешся. Хацеў пачытаць я, аж кніга старая, пацёртая, літараў не бачу. Ну, але калі замарыўся, то...

— Ды не, дзедусь, я бегаць стаміўся, а чытаць — уга! Давайце толькі...

Петрык бярэ кніжку, голасна чытае. Але мала чаго разумее. Не чытаўшы спачатку, дык пасярэдзіне не ўсё і скеміш.

Зрэдку дзед перапыняе Петрыка, загадвае перачытаць яшчэ раз.

— Ага! Так, так... Ну, далей!

Так чыталі з якую гадзіну.

— Кінь, Петрык! — перарваў раптам дзед. — Чуеш?

Петрык прыслухаўся. З-пад дэпо чуцен быў адменны гуд Васілёвай машыны.

— Дайнека прыехаў!

— То-та ж... Дык схаджу пад дэпо, пагляджу, як у стойла стане, дамоўлюся на заўтра.

— І я, дзед.

— Ты ж стаміўся.

— О! Калі тое было?

Дзед разважае. Потым хітруе:

— Толькі скоч раней за мяне на двор, каб бабка не бачыла, а то дасць яна перцу нам!

Як ні хітравалі дзед Сымон з Петрыкам, але не схавацца было ад бабкі. Застукацеў дзед кійком сваім, а старая ўжо глянула ў зальчык — няма Петрыка.

«Ускруціліся ўжо абодва», — напускала на сябе злосць у думках старая. Але не давялося як след раззлавацца, не хапіла часу. Забразгацеў нехта моцна так і напорыста ў дзверы, нібы жывых людзей у хаце няма і не пачуе ніхто.

— Каго прынесла там? — знайшла выйсце для злосці бабка.

— Тут механік Вэйс пражывае? — пытаўся зусім незнаёмы голас з-за дзвярэй.

— Тут! Чаго грукаціш, як з п’янага розуму?

Не звяртаў увагі той на злосць бабчыну, не ўступаў у спрэчкі, казаў сваё далей:

— Ну дык выходзьце, хто там... Дровы прымайце!

— Якія дровы? — расчыніла хуценька дзверы бабка.

Ля ганка стаялі дзве падводы дроў, метраў з тры было іх там.

— Якія, якія! — перадражніў нязлосна падводчык. — Бяро-

завыя. Палітаддзел загадаў даставіць, от і даставілі. Вэйсам дзеда твайго, бабка, гукаць? Інвалід ён? Ну дык правільна патрапілі. Куды складаць?

Ашаламілася проста бабка.

— А бацюхны!.. Трэба ж такое? Ніколі не спадзявалася... — мармытала яна, дрыжачымі рукамі адчыняючы дрывотнік.

— Не чакала, бабка? — лагодна перапытваў падводчык. — Такіх дзялоў палітаддзел гэты самы нарабіў, што ўсім наўздзіў. Не адна ты, старая, не чакала. Усё нанава, іншым тропам пайшло цяпер. Як скажа палітаддзел той — уміг усё зроблена. Віхурыць работа проста! — не сціхаў падводчык, скідаючы дровы з падводы. — А стары твой заслугу якую мае, што пашана такая да яго?

— Пэўна што мае! Сам начальнік палітаддзела ў госці да яго прыходзіў, чай разам п'юць.

— Скажы ты!.. — дзівіўся ўжо і падводчык.

— Ага! Яны ж, стары мой з унукам, у дэпо ўсё ходзяць. Шэфы яны. Парадкі там нейкія наводзяць... Вельмі ўжо іх начальнік той упрошваў дапамагаць. Харошы такі. І без гонару. Унука пячэннем частаваў, знарок у партфелі прыносіў...

— Дык што, бабка, выходзіць, унук гэты твой малы яшчэ?

— Ды малы ж... Трынаццаты гадок усяго! У школу ходзіць. Але і ён заслужаны. Бандыта спаймаў, потым прэмію яму спецыяльна за трусоў прывозілі...

— І вучань яшчэ? Ну і ўнук жа, бабка, у цябе! Скажы ты... — дзівіўся ўсё падводчык.

А бабка аж захліпалася, заслужанымі работнікамі сваімі ганарылася.

Як паехаў падводчык з двара, завіхалася бабка ля печы.

«Стомяцца там ходзячы... — думала яна пра шэфаў сваіх з любасцю і ўжо без ніякай злосці. — Згатаваць чаго смачнейшага на вячэру завадатару таму маломy. Аладку от спячы...»

Пабегла ў кладоўку бабка. Аж тут зноў бразгае нехта клямкай. Ды ціха так, асцярожна і далікатна. Адчыніла бабка — стаіць на парозе сухарлявы і высокі стары, механік — відаць па абліччы. Акурат Сымону Вікенцевічу аднагодак.

— Дзень добры ў хату!

— Дзень добры... — неахвотна так, як падарункам абдзяліла, адказала бабка, падазрона на госця зіркаючы.

— Сымон Вікенцевіч дома? Расціснуць пляшачку нам бы... — падмаргнуў стары і цопнуў хітравата сябе рукой па кішэні.

— І ніякіх пляшак тут! — раззлавалася бабка. — Каб не было гэтага больш. Выходзь! Мае, можа, па справах пайшлі ў дэпо, людзі занятыя. А ты шлындаеш тут. Няма дзела табе. Звадыяш стары! Думаеш — інвалід, дык табе і дзела адно, што брыдоту гэтую смактаць? Майго зводзіць? «Пля-шач-ку», — перакрывіла яна. — Да Сымона Вікенцевіча сам начальнік палітаддзела прыходзіць, чай п’юць і пра справы розныя гамоняць. А ён — з пляшачкай тут. Выходзь, выходзь! Няма чаго тут!

— На якую ж работу, Ганна Паўлаўна? — збянтэжана сказаў госць.

— А от схадзі пад дэпо, паглядзі. Усё роўна бадзяешся. Мо і для сябе справу якую людскую знойдзеш. А то соўгаешся, баламуціш. Каб і не бачыла больш я з пляшачкамі тымі!..

— Ды я што... Я, Ганна Паўлаўна, як звычайна, па добрай знаёмасці... — унурыў галаву зусім ужо ашаломлены наведвальнік і пайшоў з хаты, недаўменна ківаючы галавой.

«Бач, ускіпела старая... Справамі яе Сымон заняўся. Сходзім, паглядзім, што за справы такія там. І што гэта на свеце робіцца?»

Бабка зусім задаволена была. Раз — што дроў нечакана амаль не на ўсю зіму здабылося. Потым — добра, што старога дома не было, як той з пляшачкай з’явіўся. Мо і звадыяшаваў бы, спакусіў на бяду гэтую. А так — не! Не паткнецца больш з пляшкамі лайдак стары той!

## Дзедава спрактыкаванасць

Калі Петрык з дзедам прыйшлі ў дэпо, Васіль акурат ставіў машыну ў стойла. Пыхкаючы ўехала «шчука» ў веер, дайшла да канца канавы і ўраз, затарможаная, стала. З будкі, абціраючы пакуллем рукі, злазіў Дайнека.

— Ну, ты от што: агледзь машыну, а мы цябе ў дзяжурнага пачакаем! — спаткаў яго дзед.

Зайшлі да дзяжурнага па дэпо, пасядзелі. Нюхнуў дзед Сымон пару разоў табакі, прыйшоў тут і Васіль.

— Агледзеў машыну?

— Усё ў парадку. Як лялька, Сымон Вікенцевіч! — задаволена адказаў Дайнека.

— А сорамна не будзе табе, як я хібіну пакажу?

— Быць не можа, Сымон Вікенцевіч!

— Ну добра. Даю... — Сымон Вікенцевіч паглядзеў, маргаючы, на гадзіннік, — даю пяць хвілін. Глянь яшчэ раз!

Паціснуў плячыма Дайнека, пайшоў з памочнікам да паравоза.

Дзяжурны па дэпо запытальна глянуў на старога.

— Не знойдзе, паскуднік... — упэўнена праказаў дзед. — Але хай пашукае. От, пойдзем, пасля пакажу...

З нецярплівасцю ўсе зіркалі на гадзіннік. Мінула пяць хвілін. Сымон Вікенцевіч цяжка ўзняўся з лаўкі, пакрочыў да дзвярэй. А ў дзвярах акурат і Дайнека.

— Нічога, Сымон Вікенцевіч! Усё ў парадку.

Ён, відаць, вельмі хоча, каб стары, смеючыся, сказаў, што ён жартуе, што Васіль — ёмкі хлопец і ўмее даглядаць машыну. І ўраз пахмурнее, калі дзед моўчкі крочыць далей і здымае з крука пераносную электрычную лямпу на доўгім шнуры. Дзед Сымон кіруе да тэндэра, крэкчучы нагінаецца, працягвае між тэндэрных цялежак лямпу і кажа:

— А ну, паглядзі!..

Васіль ахкае. Усе ўраз кажуць:

— Згубіўся валік тормазнага тэндэрнага цыліндра. Ну і Сымон Вікенцевіч!..

— Хібіна ёсць? Га, Васіль? То-та ж! Калі аглядаеш машыну — не лянуйся злазіць у канаву, памацаць і пад тэндэрам. Яна і не вельмі пашкодзіць, хібіна гэтая, але ж...

Далей казаць і не трэба. Васіль і сам разумее. Ён сарамліва гаворыць:

— Ведаю ж сваю машыну во як! Каб хто сказаў, што гэтак, — не даў бы веры... От ліханька!

— А ты веры не давай, ды схадзі паглядзі! — павучальна гаворыць Сымон Вікенцевіч.

Пасля дзед тлумачыць: як станавілася машына і затармазіла — тормазныя калодкі да тэндэрных колаў не прыціснуліся. Значыць, тэндэрны тормаз не дзейнічаў. Павёў паказваць хібіну стары наўздагад. І не памыліўся.

# ЛІСТЫ*

*29 марта 1942 г.*
*Челябинская обл.*

1. Дорогие мои!

Вот уже три дня, как я курсант «такой-то» — и только. Попал в стрелковую часть, так как не имею никакой воинской подготовки. Хоть дальше и больше надо учиться, но зато больше знать буду. А использование (в какой род войск или на какую работу) определят после выпуска, когда явлюсь в штаб округа. Попал в очень хороший взвод, есть милые и приятные ребята. Режим строгий (хотя это и до настоящего начала учебы, которое будет 1 апреля). Подъем в 6 часов, отбой в 23. Нашему Юрке[1] с его копаньем и вставанием была б беда — по два наряда, не меньше, в день. Вот, сынок, тренируйся на скорость во всем и на четкость — пригодится.

Питание прекрасное. На обед — жирный суп с мясом — миска, затем каша с маслом. Утром — миска супа и чай (настоящий) с сахаром. Вечером — каша с маслом и чай. Хлеб — на обед 350 г., утром и вечером по 200 г. Каша — пшенная... Или лапша. Готовят вкусно, как дома, не в пример любым свердловским ресторанам. При себе иметь продуктов нельзя, пришлось всё ликвидировать, кончаю сегодня сухари. Очень мне больно было, когда нашел солонину. И зачем ты, Ксеня, это сделала? Чтобы мне неприятно было, что ли? Отдала последнее, когда оно здесь не нужно совсем.

Обмундирование дадут на днях. Хорошо, что поехал в обычном, а то промерз бы.

Буду налегать на учебу, чтобы толком всё постичь. Говорят, будет отсев. Не все справятся (кто постарше) с режимом. Ну, я надеюсь на себя, должен выдержать.

Увидимся, наверно, в конце июня, а может, повезет, и раньше — не знаю. Местность здесь <...> приятная. Горы, озера — вот когда увидел настоящий Урал.

Очень прошу, Ксеня, брать обеды, не экономить. Деньги буду высылать. Питайтесь как следует. Береги мою золотую Ану-

* Усе лісты адрасаваны жонцы — К. І. Шынклер.

Кики[2]. Наблюдай за Юркой, пусть не балуется. Если будет в чем затруднение <...>, обращайся к Кантар. Она очень милый человек и поможет тебе вместе с Рождественской.

Буду писать часто. Пишите и вы мне. Без вас мне скучно и не совсем по себе.

Целую вас крепко, дорогие мои. Привет знакомым.

*Дюка*[3].

*11 апреля 1942 г.*
*Челябинская обл.*

2. Дорогая Ксеничка!

Вчера и сегодня получил твои письма. А я было беспокоился. Все получили по несколько писем, а мне всё не было. Ну, теперь успокоился. А почта, как видишь, работает неплохо — всего два дня идет письмо. Был у комиссара с телеграммой. Она, конечно, теперь ничего не стоит. Буду писать Михасю[1]: нужно форсировать, если он сможет это сделать.

Ты пишешь как-то наспех, и мне не всё ясно. Что с Юркой: недомогал он или имел бюллетень — так я и не понял. И со столовой: берешь ли ты обеды, и каковы они по качеству? Я напишу рапорт пока в деликатной форме, не поможет — и до Москвы дойду. А ты с патронессами не стесняйся, требуй всё, что бывает... Неясно мне и насчет распределителя — где ты прикрепилась? Неужели и оттуда выперли писателей?

У меня вот какие дела. 8/IV получил наконец обмундировку. Это был первый день, что у меня были сухие и не замерзшие ноги. Зато стал мерзнуть вообще: обмундирование летнее, и шинель из гимнастерочного суконца. Приятна только пилотка — суконная, да две пары портянок — беленькая двусторонняя фланелька, прямо жалко было мять. Ну, а сегодня совсем тепло, и я оттаял.

А на дворе мы часов по 7–8. Загорел, как черт. Правда, столько было испытаний на закалку, что дома давно свалился б, а тут — ничегусеньки. Может оттого, что сыт. Ем с аппетитом, но голоден не бываю, хотя с 1/IV хлеб уже по летним нормам — на 100 граммов меньше (650). Вот только от холода стало неладно с грыжей, побаливает сильнее и выпирает. Не хочется мне идти в санчасть, а, видно, придется.

15 обещают дать жалованье за апрель (полностью) и с 24 марта по 1/IV. Сразу же вышлю тебе. А с мая будешь получать по аттестату 250 руб. Считают тут так: питание 100 р. (вот это дешёвка!), коммунальное обслуживание 15 р., воен. налог 55 р., заем 55 р., и, мол, нужны карманные деньги. А расходовать

некуда. Так что остачу я сберегу и перешлю тоже. Вещи обещали на днях разрешить отправить, но некоторые толкуют, что задержат их до конца учебы. Как будет — не знаю. Пока лежат на складе. Пусть Юрка носит ботинки без теплого чулка, не будут жать, а уже ведь потеплело.

С учебой у меня неплохо. Имею оценки «хорошо». Это — на глаз, потому что меня почти не спрашивают, — даже как-то неловко. Но начинаются зачеты за пройденную часть курса. Надеюсь вытянуть на «отлично», чтобы быть неплохим штабистом, как тут говорят о некоторой группе курсантов. Выбрали меня в редколлегию, сегодня кончаем 1 № газеты. Писал сегодня выступление для одного курсанта (по радио), по заданию комиссара. В общем, втягиваюсь в работу.

Читал письмо Алёксы[2] и завидовал: хорошо ему, лейтенанту. А мы ведь на положении рядовых, да еще и пожестче в десять раз, только и гляди в оба. Как я ни люблю и знаю военное дело, а промахи подстерегают на каждом шагу.

Постигаю много новых истин, чувствую, что и это всё очень пригодится. А для наблюдений (типы, характеры) материал богатейший. Будет, видно, еще книга. Со временем, конечно. Мой свердловский коллега ходит пришибленным. Я против него — молодец. Спим в десяти метрах друг от друга, а видимся редко. Мы в разных ротах.

Пиши мне подробнее о себе, о ребятах. Береги мою малютку... Смотри за ней, чтоб не ушибалась, не тянула на себя вещей. Ведь теперь у нее лапки ко всему тянутся. Что это «саля» — сахар, да? Вот у меня сахару много — 25 грамм в день (750 в месяц), пью очень сладкий чай, а оставить нельзя — выбросят. Мы ведь как институтки — ничего лишнего не должно быть. <...>

Пишу беспорядочно, отрывают часто. И на колене, и на столе. Это не за письменным столом. Прошу еще раз: пиши чаще обо всем. Как с питанием? Меня это очень беспокоит. Привет всем.

Целую всех крепко.

*Дюка.*

*19 апреля 1942 г.*
*Челябинская обл.*

3. Дорогая Ксеничка!

Вчера написал тебе письмо, а сегодня «отменил» — пишу второе, из гор. больницы. В последние дни стало невмоготу ходить, и я обратился в санчасть. Меня направили на операцию.

Говорят, что продлится недели две, а может, и месяц (с заживлением). Лелею надежду, что на это заживление отпустят домой, но, как будто, это не так легко.

Вчера вечером был на приеме у врача больницы. Симпатичная, чуткая женщина. Говорит, что детально ознакомится с моим здоровьем, выяснит — можно ли меня оперировать. По подтекам под глазами бросила мельком, что сердце, видно, нездоровое.

Вот сегодня и лег в палату на это испытание... Снова другая обстановка, менее приглядная, но я как-то смотрю поверх всего, безразлично. Хуже будет с питанием, ну и черт с ним.

Беспокоит то, что отстану в учебе, а это угрожает задержкой на второй сбор, что не весьма приятно. Шел я неплохо, на одном из зачетов обратил на себя внимание, и вот — перерыв. Хотя — легче будет брать все сначала, если останусь на второй сбор. Будет сноровка, а отсутствие ее и было основной преградой для всех подобных.

Пока постараюсь отсыпаться, а то в последние дни спали мы мало и плохо. Буду читать. Взял рукопись, сделаю отрывок для «Вестника связи». Здесь есть один журналист, сотрудничавший там. <...>

Вчера ходил за жалованием, но не было денег, обещали через пару дней доставить сюда. Сразу же вышлю.

С 24/III по 1/V выписали мне 691 р. Вычеты: питание 111 р., обслуживание 14 р., воен. налог 65 р. Да взяли 150 р. в счет майского удержания, что-то вроде перестраховки, на случай ошибки в подсчете вычетов (так толкуют у нас). На руки — 357 р. Я вышлю 300 р., а остальные придержу. Может, будут неожиданные расходы. Заготовляют уже аттестаты на май, и даже на днях вышлют их по местам. Думаю, будут скоро деньги и от Профиздата, так что я очень прошу тебя не экономить. Бери обеды без пропуска дней, бери всё, что можно, в ларьке. Кантар я написал, сообщи, изменилось ли отношение к тебе. Пиши по старому адресу. Это отнимет у тебя минут 15–20 времени, а мне принесет большую радость. Мне очень скучно без вас и хочется знать подробно, как вы там живете, как ведет себя мой солидный механик, что поделывает и чем новым радует моя дорогая Ана. Смотри за девчуркой. Попроси... достать еще рыбьего жиру. Теперь потеплело, ходи с дочуркой на кварц. Надо всё использовать для укрепления ее здоровья. Пусть Юрась не очень увлекается своей кавалерией, а больше отдыхает.

Опасайтесь эпидемических заболеваний. Чаще мойте руки, лицо. Не ходите в комнату в пальто, избегайте трамваев. Пусть

— Ты пішаш праўду, — сказаў Грахоўскі. — На ўсіх фотакартках таго часу Шынклер быў толькі з вусамі.

Выходзіць, што нават самому сабе яшчэ можна трохі паверыць. Калі гэта надта трэба.

*4 красавіка 1982 г.*
*Мінск*

*Наталля Раманава*

## ДАРАГІ МОЙ ЧАЛАВЕК

Калі пры мне называюць імя — Хвядос Сяргеевіч Шынклер — я заўсёды крыху дзіўлюся. Канечне ж, гаворка ідзе пра дзядзю Хвядоса, малодшага брата маёй маці, і ўсё ж гэтыя словы гучаць для мяне неяк нязвыкла, холадна афіцыйна, адчужана.

А звыклае, блізкае — «дзядзя Дзюка», наогул «Дзюка», як называлі яго ўсе блізкія. І ён, помніцца, заўсёды адзываўся на гэты зваротак як на ўласнае імя, і не бянтэжыўся, калі яго так называлі пры незнаёмых людзях.

Дзядзю Дзюку я памятаю з ранняга дзяцінства, бачу яго заўсёды з намі, дзецьмі: мной і ягоным старэйшым сынам Юрам.

Ён быў заўсёды роўным удзельнікам і завадатарам нашых гульняў і свавольстваў, рупліва цікавіўся ўсімі дробязямі нашага дзіцячага, а потым і школьнага жыцця — з тактам сапраўднага выхавацеля. Як цяпер, бачу яго адкрыты твар, добрыя, даверлівыя вочы.

Ці не таму кожная сустрэча з ім для мяне была святам? Ці не таму я з радасцю прыходзіла ў сціплы драўляны дамок на ціхай вуліцы, у засені бэзу, падоўгу сядзела ў пакоі, дзе зачароўвала мноства кніг і дзе быў куток кніг для дзяцей.

Ён вучыў мяне чытаць і назаўсёды прывіў любоў да кнігі, літаратуры, роднай мовы. Ушчуваў за памылкі ў пісьме, гаварыў, што трэба пісаць правільна, акуратна і прыгожа.

Ён хадзіў з намі ў кіно, на пляж. У дні святочных дэманстрацый мы з маці заўсёды выходзілі на вуліцу Свярдлова і чакалі, калі будзе ісці калона Саюза пісьменнікаў. Дзядзя Дзюка ведаў, што мы яго чакаем, дзесьці тут стаім. Нашы позіркі абавязкова сустракаліся, і ён прыветна махаў нам рукой. Пасля ўсе збіраліся за святочным сталом. Дзядзя прыносіў з сабою жарты, смех, радасць.

Па-дзіцячаму тонка і дакладна я заўважала і ўспрымала яго беражлівыя, спагадлівыя адносіны да людзей, здольнасць зразумець чужую бяду, жаданне дапамагчы.

Апошні раз я бачыла дзядзю Дзюку 23–24 чэрвеня 1941 года, калі нашы сем'і вырашылі разам пакінуць ахоплены полымем Мінск. Мы з маці пайшлі дадому па рэчы і дакументы. Думалі, што расстаемся на нейкую гадзіну, а рассталіся на ўсё жыццё.

Трагедыя вайны для мяне асабіста звязана з незваротнай стратай дарагіх і любімых людзей — дзядзі Хвядоса і брата Юрыя. Ксенія Ігнатаўна Шынклер падзяліла лёс мільёнаў жанчын-салдатак, двухгадовая Ірына — дзяцей-сірот Вялікай Айчыннай.

У маім сямейным альбоме асабліва дарагі мне адзін фотаздымак. У аб'ектыў глядзяць трое: дарослы чалавек з ціхай добрай усмешкай і двое гарэзных дзяцей — хлопчык і дзяўчынка.

Я гляджу на здымак і адчуваю, як ува мне ажывае даверлівая радасць гэтай дзяўчынкі ад цёплага дотыку пляча настаўніка і сябра.

*10 снежня 1981 г.*
*Мінск*

*Марыя Шынклер*

# НЯЗГАСНАЕ

Відаць, ёсць свая праўда ў прымаўцы: «Час — самы лепшы лекар». Змяншаецца з часам вастрыня болю, але сам боль жыве, пакуль жыве сам чалавек. Бываюць хвіліны, калі асабліва відавочнай становіцца несуладнасць розуму і сэрца.

Прайшло ўжо сорак гадоў, як няма майго брата Хвядоса, а я вось пішу гэтыя радкі і плачу. Мне так шкада яго: ён пражыў такое кароткае жыццё... Прыемна, канечне, усведамляць, што імя яго не забыта не толькі сваякамі і блізкімі...

Я была самай малодшай у сям'і. Да мяне нарадзіліся сястра Зінаіда і брат Хвядос. Розніца ва ўзросце з братам (10 гадоў) была спачатку адчувальнай, і таму аб яго дзяцінстве і юнацтве я ведаю галоўным чынам ад старэйшых.

Не раз я чула сямейнае паданне пра яго мянушку «Дзюка» (так называлі брата не толькі ў нашай сям'і, але і некаторыя знаёмыя, таварышы, супрацоўнікі). Маці і бацька аднойчы сустрэлі вельмі прыгожага і ветлівага хлапчука па імені Феадосій і па мянушцы «Дзюка» і вырашылі, што калі ў іх народзіцца сын, то і назавуць яго толькі так...

Хвядос апраўдаў спадзяванні бацькоў: рос спагадлівым, шчырым, паслухмяным, цікаўным, хаця і хваравітым.

Наш бацька, Сяргей Канстанцінавіч Шынклер, служачы-чыгуначнік, неўзабаве пасля нараджэння сына быў прызначаны начальнікам станцыі Рудзенск. Хвядос быў неразлучны з бацькам, дапамагаў яму, чым мог, у працы. Асабліва зацікавіў хлопчыка тэлеграф. Будучы яшчэ вучнем мінскага рэальнага вучылішча, ён самастойна авалодаў прафесіяй тэлеграфіста.

Адданасць чыгунцы вызначыла многае ў творчым і асабістым жыцці Хвядоса.

Ён і нявесту сабе прыгледзеў на чыгунцы: яго зачаравала сваім віртуозным майстэрствам Ксенія, дзяўчына-тэлеграфістка, якая ўспрымала азбуку Морзе на слых.

З дзіцячых год Хвядос быў вялікім кніжнікам. Садзейнічалі таму бацькі, якія вучылі нас, дзяцей, цаніць найперш духоўныя каштоўнасці, чалавечую дабрату і высакародства.

У нашым доме, памятаю, была даволі багатая бібліятэка з твораў айчыннай і зарубежнай класікі. Маці да таго ж прывівала нам любоў да музыкі, тэатра. У яе быў цудоўны голас, яна ўдзельнічала ў аматарскіх спектаклях. У вольны час мы ўтраіх (мама, старэйшая сястра

і я) спявалі пад акампанемент гітары. Атрымлівалася, здаецца, у нас няблага. Далучаўся часам да нас і Хвядос. Ён таксама вельмі любіў музыку. Добра маляваў. У брата рана выявіліся здольнасці філолага. Яго сачыненні былі аднымі з лепшых у класе. З цікавасцю і даволі паспяхова вывучаў Хвядос замежныя мовы, пасля рабіў пераклады са славянскіх моў.

Перагортваючы ў памяці старонкі мінулага — двух дзесяцігоддзяў майго свядомага даваеннага жыцця, я заўсёды бачу побач з сабой Хвядоса, і бачыцца мне ён найбольш, і гэта зразумела, у нашых штодзённых добрых дачыненнях брата і сястры. Цяпер, з гэтай далечы асабліва прывабнымі здаюцца мне яго сумленнасць, працавітасць, высокая культура, дабрата. Згадваюцца мне яго ласкавасць, чуласць, яго «ранимость» — уласцівасці, што, як правіла, хутчэй звязваюць з жаночым, а не з мужчынскім характарам. Такім ён быў са сваімі дзецьмі, жонкай, сваякамі, знаёмымі і, відаць, з усімі людзьмі, з якімі зводзіў яго лёс.

Вайна разлучыла мяне з братам назаўсёды.

Я наведала Валгаград, мемарыял на Мамаевым кургане, потым пасёлак Бекетаўку, узышла на вышыню-ўзгорак, дзе абарвалася жыццё Хвядоса. Я не магла не прыйсці сюды, не ўбачыць гэтага месца, гэтага неба, што ў апошнія свае імгненні бачыў ён...

Не заўважылі мы (я і мая пляменніца Наташа), як сонца зацягнулі хмары. Плакалі мы — і з намі неба. А калі спускаліся з узгорка, зноў выглянула сонца, усё навокал ажыло. І нечакана на душы стала таксама святлей...

Я жыву ў Бабруйску — горадзе, дзе ў маладосці жыў і сталеў як пісьменнік мой брат. Шмат гадоў я працавала ў мясцовым лясгасе, цяпер працую на лесакамбінаце, які ў свой час нярэдка наведваў ён, дзе працавалі і яго таварышы — цяпер вядомыя беларускія пісьменнікі.

З гэтым горадам мяне звязвае трывалая духоўная сувязь. Я іду па яго вуліцах, і мне здаецца, што вось тут недзе сустрэну Хвядоса — маладога, прыгожага, узрушанага і разам з тым засяроджанага. Ён спыніцца, цёпла і прыветна паглядзіць на мяне, загаворыць са мной...

*20 лістапада 1981 г.*
*Бабруйск*

*Барыс Рабінін*

## УСПАМІНАЮЧЫ ТЫЯ ДНІ...

Як хутка многае адыходзіць у мінулае. Прынамсі, сорак гадоў — не такі ўжо малы тэрмін у чалавечым жыцці.

...Нас злучыла вайна. У трывогах і клопатах тых дзён, у плыні людзей, што няспынна прыбывалі ў Свярдлоўск, неяк не прыкмецілася, не прыкмецілася і не запомнілася — ды, відаць, і цяжка было гэтага патрабаваць: надта імкліва нахлынулі падзеі! — калі з'явіўся ў нас гэты сціплы, нешматслоўны чалавек, які, аднак, нечым адразу ж выклікаў да сябе прыхільнасць.

Восень сорак першага. Саюз пісьменнікаў нагадваў тады растрывожаны вулей: размовы, натоўпы самага markнага люду, няспынна прыбываюць шырока вядомыя чытачу, знакамітыя таварышы. Здавалася, на Урал наважылася перабрацца ўся пісьменніцкая Масква: Марыета Шагінян, Анна Караваева, Фёдар Гладкоў, Агнія Барто, Леў Касіль... *Эвакуіраваныя*, як гаварылі тады.

Кожны — старонка, а магчыма, і цэлы раздзел гісторыі роднай літаратуры (як, напрыклад, Гладкоў з яго «Цэментам» або драматург Рамашоў, аўтар вядомай у той час п'есы «Байцы»), кожны прадстаўляў якісьці жанр ці пэўны этап жыцця савецкага перыяду...

Хвядос Шынклер, як згадваецца цяпер, быў прадстаўніком перш за ўсё Беларусі, свайго бацькоўскага краю, адкуль яго вырвала бязлітасная вайна. Ён цяжка перажываў адрыў ад роднай зямлі, хаця ніколі не гаварыў аб гэтым. Газеты, радыё ўвесь час паведамлялі аб тым, што нёс ёй фашызм, — смерць, гора, розрух, крывавы жах, — а там жа засталіся карані, фізічныя, маральныя... Не ведаю, дзе быў Шынклер да прыезду на Урал. Беларусь была акупіравана ворагам у першыя ж месяцы вайны, ёй давялося асабліва цяжка, і, вядома, Шынклеру прыйшлося блукаць яшчэ дзесьці, а ў Свярдлоўску ён з'явіўся ўжо на зыходзе лета, на парозе восені, якая быццам вырашыла папесціць прыезджых, што баяліся суровага ўральскага клімату, нязвыкла доўга была цёплай, прыветнай. Зрэшты, ці да таго было: пэўны клімат фарміраваўся цяпер у чалавечых душах — клімат ваенных выпрабаванняў, барацьбы, няўтольнай нянавісці да вераломства і жорсткасці ворага.

Заўсёды ветлівы, заўсёды стрыманы і маўклівы, з пастаяннай журбінкай, прытоенай у глыбіні выразных чорных вачэй, — Хвядос Сяргеевіч у гэтым сэнсе прыкметна адрозніваўся ад іншых. Ён нічога не патрабаваў для сябе, я не памятаю, каб ён звяртаўся з якой-небудзь просьбай у Саюз, да мяне асабіста (нейкі час я быў адказным сакра-

тарам Саюза і ўвесь самы напружаны перыяд заставаўся старшынёй бытавой камісіі: таварышы выбралі мяне, як толькі ўзнікла патрэба ўладкаваць прыбыўшых), але менавіта гэтым ён і вылучаўся.

Мы рэгулярна сустракаліся ў сталовай ля паштамта, ён не прапускаў ні аднаго творчага абмеркавання і сходу ў Саюзе пісьменнікаў, у Доме друку, сам выступаў рэдка, больш слухаў, а калі і гаварыў, то толькі па справе.

Урал жыў сваім жыццём, празмерна напружаным, гераічным, напоўненым працай да знямогі, літаральна да апошняга дыхання (людзі паміралі ля станкоў). Ён каваў зброю фронту. «Урал — апорны край дзяржавы...» І Шынклер хутка знайшоў сваё месца. Ён не мог быць бяздзейным сведкам таго, што адбывалася навокал. Тэлеграфіст у мінулым, ён прыйшоў на Свярдлоўскі Цэнтральны тэлеграф, што змяшчаўся ў добра вядомым усім нам будынку паштамта.

З гэтага часу мы сталі бачыць яго радзей, іншы раз не бачылі тыднямі, а калі прыходзіў, выглядаў стомленым: бяссонныя, неспакойныя начныя дзяжурствы нагадвалі аб сабе. Работа тэлеграфіста і ў мірны час патрабуе вялікага напружання, ну, а калі ідзе вайна і, здаецца, гіне ўвесь свет... Напэўна, да канца зразумець гэта можна, толькі папрацаваўшы самому.

Колькі чалавечых лёсаў, трагічных падзей раскрываюцца ў сціслых радках, якія размерана адбівае апарат! — а ты сядзі і прымай, прымай як належнае... І тым не менш у гэты неверагодна ўшчыльнены час, паміж дзяжурствамі, ён піша кніжку (пісьменнік застаецца пісьменнікам, а тэлеграф даваў невычэрпны матэрыял). І неўзабаве, дзесьці прыкладна ў сярэдзіне сорак другога, Прафвыдат, што знаходзіўся тады ў Свярдлоўску, выдае яго «Пульс жыцця» ў серыі «Байцы працоўнага фронту». Тоненькія сціплыя кніжачкі невялікага фармату, у стандартным някідкім афармленні — як радавалі яны нас тады! У Беларусі аб існаванні гэтай кнігі даведаюцца значна пазней, а для нас усіх гэта быў яшчэ адзін рапарт народу, сведчанне таго, што пісьменнікі таксама не сядзяць склаўшы рукі...

Аднойчы нечакана для ўсіх Шынклер з’явіўся ў пілотцы, у поўным вайсковым абмундзіраванні. Здавалася, што ён ураз неяк памаладзеў, пасвяжэў, усмешка стала больш шырокай і адкрытай. Растлумачыў: прызваны ў дзеючую армію, расстаўся з тэлеграфам. Быў ён у гэту апошнюю нашу сустрэчу ўсё такім жа нягучным і сціплым. Ён цярпліва чакаў свайго часу і дачакаўся. Развітаўся з усімі сябрамі (а за гэтыя ўральскія месяцы ў яго іх стала значна больш) — усё з той жа звычайнай стрыманай і ціхай усмешкай, за якой адчувалася чыстая і светлая душа чалавека, і з тым адбыў. Ён

паехаў, і больш мы не бачыліся. Праз нейкі час прыйшла горкая вестка: загінуў пад Сталінградам, пахаваны ў Бекетаўцы. За бацькам пайшоў і сын, пайшоў добраахвотнікам і таксама не вярнуўся...

*30 студзеня 1983 г.*
*Свярдлоўск*

*Ірына Максімовіч-Шынклер*

## МНЕ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

Я належу да малодшай узроставай групы дзяцей вайны і таму мірнага даваеннага жыцця не памятаю. 24 чэрвеня 1941 года мяне гадавалым дзіцем вынеслі з ахопленага полымем Мінска. З тысячамі бежанцаў наша сям'я пакінула горад і дзвесце кіламетраў пешшу дабіралася да Магілёва. Неслі мяне мой бацька, пісьменнік Хвядос Шынклер, і ягоны таварыш паэт Анатоль Астрэйка... Вайна ўвайшла ў маё жыццё найперш фізічнымі адчуваннямі холаду, недахопам ежы, хаця, вядома, мне аддавалі лепшы і апошні кавалак. У Свярдлоўск мы дабраліся напярэдадні нязвыкла суровай для беларусаў і снежнай зімы. Бацька ўладкаваўся па сваёй ранейшай прафесіі тэлеграфістам на Цэнтральны паштамт, маці — на чыгунку, цёця, Лідзія Ігнатаўна Ярышка, у НДІ, брат Юра, вучань, — на завод. Дома заставаліся я і бабуля.

З болем гляджу на фотаздымак бацькі той пары, зроблены, відаць, для дакументаў: як вязень канцлагера — дарэшты схуднелы, засталіся толькі ранейшыя вялікія прамяністыя вочы. «Галодны» — так гаварыла пра гэты здымак заўсёды маці. (Чамусьці менавіта ён пры наяўнасці іншых, лепшых найчасцей уключаецца ў розныя, у тым ліку энцыклапедычныя, даведнікі.) Як стала мне пасля вядома, бацька ў вольны ад працы час пісаў на мясцовым матэрыяле сваю дакументальную аповесць «Пульс жыцця», да таго ж займаўся грамадскай работай.

Хворы, «белабілетнік», ён пайшоў добраахвотнікам на фронт у сакавіку 1942 года. Сям'і стала яшчэ цяжэй. Цьмяна помню, як хтосьці ў нейкай шурпатай вопратцы трымае мяне на руках, я заходжуся ў плачы. Мяне суцяшаюць, перад вачыма гойдаюцца чырвоныя яблыкі... Гэта бацька забег на хвіліну дадому ў час прыпынку вайсковага эшалона, што імчаў пад Сталінград. Апошнюю паштоўку, датаваную 18 кастрычніка, маці атрымала пасля ягонай гібелі. 25 кастрычніка лейтэнант Шынклер, паводле вайсковага паведамлення, «паў смерцю Героя» на вышыні 95,9 (паўднёвы раён

Сталінграда). Праз некалькі месяцаў пайшоў у армію і 17-гадовы брат Юра, пайшоў і таксама не вярнуўся... Пайшла на вайну і цёця Лідзія: стала партызанкай у родных мясцінах. 9 лютага 1943 года самалётам быў дастаўлены яе апошні ліст: яна загінула ў час прарыву блакады, параненая, у партызанскім шпіталі. Засталіся мы ўтрох — бабуля, мама і я, слабыя, нямоглыя. Вайна вырвала з сям'і мужчын, пазбавіла нас апоры, перакрэсліла ўсе планы, адабрала надзею. Расла я кволай, ціхай, негаваркой, рана пачала працаваць, змагла скончыць толькі сярэднюю школу. Ад непамерных пакут маці стала інвалідам першай групы, цяжкахворай, прыкаванай да ложка. У 1958 годзе мы вярнуліся ў Мінск. Шчырае слова ўдзячнасці за дапамогу ў гэтым найперш былой бібліятэкарцы Саюза пісьменнікаў Беларусі Марыі Канстанцінаўне Хайноўскай. Галоўны цяжар жыццёвай ношы пасля ўзяў на свае плечы мой муж Уладзімір Максімовіч.

Азіраючыся назад, узважваючы пройдзенае і пražытае, усведамляю асабісты лёс кроўна знітаваным з лёсам свайго народа, дакладней, з найбольш пацярпелай яго часткай. І думаю: ці не занадта бяды выпала на долю адной сям'і? У 1920 годзе, яшчэ ў час грамадзянскай вайны, быў беспадстаўна расстраляны мой дзед — Сяргей Канстанцінавіч Шынклер, начальнік станцыі Рудзенск, крыштальна сумленны чалавек, па водгуках усіх, хто яго ведаў, загінуў у выніку правакацыі, як гэта нярэдка здаралася ў тыя віхурныя гады. Гэта азмрочыла творчы лёс майго бацькі. Я не ведала свайго дзеда, не ведаю па сутнасці бацькі, брата. Толькі па яго́ных кнігах ды ўспамінах родных ведае дзеда-пісьменніка і мая дачка Вольга. Загінула на пачатку вайны ў час бамбардзіроўкі варожай авіяцыяй Асіповіч і мая бабуля Марыя Іосіфаўна Шынклер...

Мой сямейны архіў змясціўся ў невялікай шкатулцы. Тут захоўваюцца дарагія рэліквіі, тое, што засталося ад родных людзей: дакументы, лісты, фотаздымкі, «пахаванкі». Раз-пораз я перагортваю ўсё і быццам чую далёкія дарагія галасы, адказваю ім... «Дарагая мая Ана» — гэта ў кожным з трынаццаці бацькавых лістоў. Мяне ахоплівае, атуляе пяшчота і клопат выключнага сем'яніна, ягоны клопат, трывогі, высілкі дапамагчы хоць чымсьці здалечы, нават з пярэдняга краю («Ана» — так называў мяне бацька). «Залатая мая дзяўчынка», «маленькая мая птушачка» — гэта голас цёці з заснежанага беларускага лесу... А гэта глядзіць на мяне запытальна-пранікнёна брат Юра... І я адчуваю, як у адказ ува мне ўздымаецца хваля пяшчоты. «Я люблю вас таксама, дарагія мае, — гавару я. — І ганаруся вамі ўсімі, цудоўнымі, высакароднымі людзьмі. Вы пакінулі мне ў спадчыну не нейкі матэрыяльны скарб (адкуль ён у сумленных сціплых працаўнікоў?), але галоўную каштоўнасць жыцця — добрае

імя і чалавечую годнасць.

У маёй шкатулцы захоўваюцца таксама лісты бацькавых паплечнікаў сяброў-пісьменнікаў: М. Лынькова, Я. Маўра, В. Віткі, Ю. Рудзько, А. Жукоўскага, У. Луцэвіч (па даручэнні Я. Купалы). У кожным з іх — подых суровага часу, адзіны боль за родную зямлю, жаданне падтрымаць, не страціць адзін другога — агульнае спадзяванне выстаяць і перамагчы. Мая спадчынная скарбонка дапамагае мне і сёння трымацца, у наш нялёгкі, смутны час.

Зноў блакіт неба зацягваецца навальнічнымі хмарамі. Зноў ірвуцца на зямлі, знішчаючы ўсё жывое, бомбы. Штодня ў «гарачых кропках» гінуць сотні людзей, зноў пачынае ўзнімаць галаву, здавалася б, назаўжды пераможаны прывід ваеннай пачвары. Адна са сведак, дзяцей-сірот мінулай вайны, я кажу ёй рашучае «Не!». Нізка схіляю галаву перад нашымі абаронцамі, загінуўшымі і жывымі, уплятаючы асабісты лісток у агульны вянок усенароднай нязгаснай памяці. Няхай жа будзе яна сёння пільным, надзейным вартавым міру ва ўсім свеце!



# Міхась ЮДЭЛЕВІЧ

Міхась Львовіч Юдэлевіч нарадзіўся 20 красавіка 1914 г. у м. Смалявічы Мінскай губерні.

Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Мінску (1929) працоўную дзейнасць пачаў рабочым на гуце (шклозаводзе). Затым быў акцёрам у Мінскім тэатры рабочай моладзі (1929–1931). З 1931 па 1935 г. вучыўся ў Дзяржаўным інстытуце мастацтва ў Маскве. У 1935–1940 гг. — працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», ва Упраўленні па справах мастацтва пры Саўнаркоме БССР. З 1940 г. — у арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939–1940 гг. і Другой сусветнай вайны. Загінуў у 1941 г. на фронце.

Друкавацца пачаў з 1929 г. Выступаў як драматург і тэатральны крытык. Адзін з аўтараў калектыўнай п’есы «Першы штандар» (паст. у 1930 г., па іншых звестках у 1929). У 1932 г. напісаў драму «Зямля гарыць», стварыў інсцэніроўку паводле рамана М. Астроўскага «Як гартавалася сталь» (паст. у 1937 г.), лібрэта оперы «Паўка Карчагін» (музыка П. Падкавырава, пастаўлена пасля вайны ў кансерваторыі як студэнцкі спектакль). Рэцэнзіі і водгукі на тэатральныя пастаноўкі друкаваў у 30-я гг. на старонках газеты «Літаратура і мастацтва».

Склаў зборнік «Аднаактныя п’есы» (1937). На рускую мову пераклаў асобныя драматургічныя творы. Пісаў таксама вершы і прыпеўкі.

# КРЫТЫКА

## «ЯК ЯЕ ЗАВУЦЬ»*
*Прэм’ера ў БДТ-1*

У спектаклі «Як яе завуць» шмат прыемнага, радаснага. У першую чаргу гэта стасуецца да работы акцёраў.

Артыст Л. Рахленка ў ролі француза — архітэктара Рэне Пардэсу раскрывае свае сцэнічныя здольнасці вельмі поўна і арыгінальна. У ранейшых ролях Рахленка вельмі часта быў аднастайны, вельмі часта паўтараўся, пэўныя вобразы яго (скажам, у «Велікадушшы») былі зроблены вонкава. Вобраз Рэне Пардэсу зроблен тонка, з вялікім тактам, без прымусу, лірычна і скупа. Тэкст ролі не пазбаўлен таннасці, ён нясе ў сабе небяспеку вульгарнай трактоўкі вобраза. Рахленка перамагае «аперэтачнасць» ролі, яго Рэне Пардэсу авеян сапраўднай лірычнай цеплынёю.

У такім жа плане зроблена роля маладога архітэктара Жэні актрысай Ірынай Ждановіч. Унутранай абаяльнасцю і такім жа, як у Рахленкі, сур’ёзным падыходам да ролі Ждановіч перамагае «дубовасць», надуманасць і часам фальшывасць тэксту. Вобраз, створаны актрысай, жывы, дзейны, радасны.

Яшчэ большая небяспека скаціцца да дурной «аперэтачнасці» была ў акцёра Глебава, выканаўцы ролі Сверхсметкіна. Ад гэтай небяспекі часткова папярэдзіў яго рэжысёр, выкрасліўшы з ролі асабліва «сногсшибательные» мясціны, але і ў тым, што асталося, было багата магчымасцей для стварэння вобраза пашлаватага аперэтачнага коміка. Вялікая заслуга акцёра Глебава ў тым, што ён зрабіў гэты вобраз змястоўным, сапраўды сур’ёзным. Ён стварыў яркі гратэск, маску бюракрата, які моцна запамінаецца. У маналогу перад заслонай (І акт) Глебаў падымаецца да сапраўднай палітычнай сатыры. Мякка, праўдзіва выконваюць ролі акцёры Крыніца, Шапко і Кісель — вобразы Смелага, Пішы, Меці.

Яркія гратэскі стварае Гђліна, заслугоўвае ўвагі работа пастаноўшчыка, заслуж. арт. рэспублікі Л. М. Літвінава. У БДТ-1,

* Рэцэнзія напісана ў сааўтарстве з Б. Мікулічам.

у якім яшчэ так нядаўна было шмат натуралістычнай «тяжеловестности», мы бачым лёгкі, рытмічны культурны спектакль.

І нарэшце, радуе ў гэтым спектаклі мастак. Яшчэ нямала ў нас на сцэнах шэрага, аднастайнага, невыразнага афармлення. Работа засл. арт. рэспублікі В. В. Рындзіна — вельмі маляўнічая, свежая і яркая. На сцэне багата прастору і святла. Асабліва ўдалае афармленне трэцяга акта. Праўда, не ўсе сцэны аднолькава ўдаліся мастаку, напр., у сцэне карнавалу шмат малазразумелых і непатрэбных фігур і заслон і мала змястоўнага, звязанага з тэкстам афармлення.

Але, адзначаючы ўсе станоўчыя якасці пастаноўкі, мы, на вялікі жаль, не можам не канстатаваць, што работа тэатра ў значнай ступені ішла на «халастым ходу», таму што ў аснове спектакля ляжыць п’еса, па меншай меры, бяззмястоўная. Калі мы гаварылі вышэй пра аперэтачнасць п’есы Адуева «Як яе завуць» (майстэрскі пераклад тэксту зрабіў Кандрат Крапіва), дык мы мелі на ўвазе не аперэту як жанр, а тую пошласць, зубаскальства, трафарэты, якія былі ў дарэвалюцыйнай аперэце і якіх няма ніякай патрэбы перацягваць на савецкую сцэну.

Драматург, які бярэцца за цяжкую справу стварэння савецкае аперэты, заслугоўвае ўсялякай падтрымкі, але справа ў тым, што Адуеву такой савецкай аперэты стварыць яшчэ не ўдалося. Як мы ні спачуваем жаданню стварыць «вясёлы» вобраз нашага савецкага героя, мы не можам у Ірыне Норк прызнаць савецкага дырэктара. Яна ўсё ж такі асталася старой аперэтачнай гераіняй, якую штучна паставілі ў новыя савецкія «рамкі». Не можна таксама ўсур’ёз верыць вобразу Рэне Пардэсу і спачуваць яго тром раманам у трох актах п’есы. Нам вельмі патрэбен лёгкі, вясёлы спектакль, аднак мы не можам лічыць, што Адуеў напісаннем свае аперэты вырашыў гэта пытанне. Савецкія словы і факты прышыты да п’есы, іх лёгка аддзяліць, і п’еса ператворыцца ў звычайную дарэвалюцыйную аперэту.

Л. Літвінаў выкрасліў з п’есы асабліва «аперэтачныя» элементы. Але ў спектаклі астаўся вобраз, дзе акцёр не толькі не змяшчае, а ўсугубляе фальшывае гучанне тэксту. Мы маем на ўвазе актрысу Рубанаву, выканаўцу ролі дырэктара Курбудтрэста Ірыны Норк. Актрыса падышла да ролі яўна няправільна, вобраз выйшаў куды больш фальшывы, нежыццёвы і манерны, чым ён

мог бы выйсці пры іншым выкананні.

Не задавальняе таксама другая палова ролі Татачкі (Станюта), асабліва сцэна з Пардэсу, «таргсінаўскі» скок на авансцэне. Каму цікава гэтае дэманічнае самавыкрыванне «девицы сомнительного поведения»? Тут густ здраджвае і рэжысёру і актрысе.

Абагульняючы ўражанні ад спектакля, міжвольна паўстае пытанне — ці варта было тэатру працаваць над п'есай Адуева? Ці варта яна была тае работы, якую затрацілі на яе акцёры, рэжысёр, кампазітары, мастак? Адказ напрошваецца сам сабою. Мы не можам не аценіць вялікай работы калектыву тэатра, не можам не бачыць росту акцёраў (у прыватнасці, шмат карысці прынесла акцёрам работа над вершаваным тэкстам). Але ўсё гэта не выратоўвае спектакля, калі ў яго аснове ляжыць п'еса пустая, каб не сказаць больш.

Будзем гаварыць, што тэатр сваё майстэрства накіруе на стварэнне сапраўды паўнацэнных, жыццёва праўдзівых і хвалюючых спектакляў.

## «СЁСТРЫ»

Тры дачкі было ў старой удавы Соры: Трайна, Рыўка і Хана. Не вельмі шмат патрабавалі сёстры ад жыцця: жыць з каханым чалавекам, працаваць, не галадаць. Але як трагічна склаўся іх лёс! Простыя жаданні аказаліся неажыццявімымі.

Класік яўрэйскай літаратуры І. Перэц прысвяціў шмат выдатных твораў горкай долі яўрэйскай працоўнай жанчыны ў яго эпоху. Сацыяльны і нацыянальны гнёт, мярцвячыя традыцыі патрыярхальнага быту, рэлігія і фанатызм асяроддзя — усё сышлося разам, каб душыць, ламаць і псаваць жыццё гэтых маладых, поўных імкнення да жыцця дзяўчат і жанчын. 19-гадовая Рыўка, выдадзеная замуж за 70-гадовага багацея Зайнвла, вар'яцее і гіне. Вечны голад і нястачы разбураюць сям'ю Трайны, яна застаецца адна, без працы, няшчасная і хворая на сухоты. Не менш трагічна склаўся лёс самай юнай — Ханы, якую імкнецца зрабіць сваёй наложніцай пашляк Герман, сын багацея. Толькі выпадак выратаваў яе ад страшнага шляху, на які штурхнула жыццё.

Апрача трох сёстраў, ёсць у п'есе яшчэ адзін жаночы вобраз, чый лёс не менш павучальны, — гэта сама старая Сора. Нешчаслівае жыццё многаму навучыла яе. Перажываючы гібель

дзвюх сваіх старэйшых дачок, яна ад стыхійнага пратэсту супроць несправядлівага лёсу даходзіць да ўсведамлення ілжывасці і нежыццёвасці адвечнай маралі, якой яна жыла, пачынае сумнявацца, ці ёсць гэты справядлівы Бог, які ўсіх судзіць. «Дык чаму ж ён не дапамог старэйшым дочкам?» — пытаецца Сора.

І калі клікуша Двойра, якая выражае грамадскую думку патрыярхальнага яўрэйскага асяроддзя, адкрывае Соры, што яе Ханя цалуецца з масцеравым і нават смяецца, — Сора не асуджае дачку, і суд, людскі і боскі, якім пагражае Двойра, ёй цяпер не страшны.

Спектакль заканчваецца карцінай, якая носіць амаль сімвалічны характар: шчаслівыя маладыя, Хана і Зорах, абдымаюць старую маці, і яе змучаны твар асвятляецца радаснай усмешкай. Праз вялікае гора прыйшла Сора да гэтага, няхай першага, кроку к вызваленню ад мёртвага грузу, які навален на чалавека і не дае яму жыць і дыхаць свабодна. Ідэя Перэца аб сілах, якія тояцца ў народзе, акцэнтавана ў гэтай апошняй сцэне.

П'еса «Сёстры» з'яўляецца кампазіцыяй вялікай колькасці асобных навел, драматычных сцэн, песень І. Перэца. Перад інсцэніроўшчыкам Л. Рэзнікам стаяла вельмі цяжкая работа — ператварыць гэтыя творы ў п'есу з цэлым сюжэтам, з праўдзівым ходам развіцця вобразаў. Трэба аддаць належнае Л. Рэзніку, які аддаў шмат працы цяжкай, але благароднай задачы — прымусіць гучаць са сцэны гарачыя ідэі вялікага пісьменніка. У плане перамагання ўзнікаючых тут цяжкасцей Рэзнік дасягнуў многага.

Але глядач падыходзіць да п'есы не з меркай — наколькі аўтар п'есы ўдала перамог тыя ці іншыя цяжкасці, звязаныя з інсцэнізацыяй Перэца, а ацэньвае п'есу як п'есу, і гэта яго права, паколькі інсцэніроўка пачала самастойнае мастацкае жыццё. І тут нельга не сказаць аб вялікіх недахопах, якія ёсць у п'есе «Сёстры». Аўтару так і не ўдалося ператварыць сплаў асобных кавалкаў у адзіны самастойны твор. Клей і нажніцы відаць у кожнай сцэне, і героі жывуць не столькі самастойным жыццём у п'есе, колькі тымі штучнымі штуршкамі, якія яны атрымліваюць кожнай новай сцэнай, новым «кавалкам». Таму аб кожным герої застаецца шмат няясных пытанняў.

Але гэта было б яшчэ паўбяды. Горш тое, што і падзеі, якія адбываюцца на вачах гледача, не вельмі яго пераконваюць, бо не раскрыты псіхалагічныя матывы, падрыхтоўка таго ці іншага ўчынку. Пры перакладзе з мовы прозы на мову драмы Л. Рэзніку не ўдалося ў радзе адказнейшых сцэн знайсці тыя новыя формы выражэння, якіх патрабуе сцэна. Старыя, празаічныя, страчаны,

а новыя, сцэнічныя, не знойдзены. Застаюцца тырчаць шкілеты з фраз і ўчынкаў, якія не становяцца сапраўдным жыццём герояў на сцэне.

Ёсць у спектаклі выдатная сцэна. Стары Зайнвл, які ўжо давёў да магілы трох жонак, страшыць няшчасную Рыўку словамі свяшчэннай кнігі: «Скрозь шчыліны жалезнага неба глядзіць Бог... А кахаць ён не дазваляе... За кожную секунду шчасця ён помсціць, помсціць...» І калі падыходзіць каханы Меер, з якім Рыўку разлучыла галеча, яна аглушаная словамі... <...> Але пачуцці кахання перамагаюць страх, Рыўка ў абдымках Меера. Уваходзіць Зайнвл. Павольна, змрочны, як сама смерць, набліжаецца ён да сваёй афяры — забіўшыйся ў кут бледнай Рыўкі... <...>

Тут цудоўна сцэнічна паказана, як цёмныя сілы грамадства душаць чалавека.

Ці многа падобных удач у спектаклі? На жаль, вельмі мала.

Зусім загінула ў п’есе і ў спектаклі трагічная сцэна, калі Іосл, даведзены да надзвычайнага нервовага патрасення галечай, голадам і сорамам за сябе, што не можа пракарміць каханую жанчыну, збівае да крыві жонку і, у жаху зробленага, уцякае з дому, каб больш не варочацца. Складанейшую гаму перажыванняў трэба раскрыць, каб лагічна давесці Іосла да гэтай страшнай сцэны. Аўтар п’есы не знайшоў сцэнічнай мовы для гэтага эпізоду, а ў той жа час не захацеў адмовіцца ад яго, таму ён «назваў» пачуцці герояў, не раскрыўшы іх. Некалькі абрывістых фраз не могуць пераканаць гледача, ён так і не можа зразумець, чаму пяшчотны муж Іосл раптам страў грубіяніць, а потым біць жонку. Таму і ўцяканне Іосла і далейшы лёс Трайны не ўзрушае, бо ва ўсю гэтую гісторыю ўнутрана не верыш.

Таксама толькі названы, але не раскрыты ўзаемаадносіны Меера і Рыўкі. Глядач можа толькі здагадвацца, калі пачне рабіць вывады з тых умоў, якія «дадзены» ў п’есе, аб перажываннях Меера. У спектаклі гледачу «сказалі», што Меер бедны і таму не хоча ажаніцца з Рыўкай, каб не жыць з ёю галодным жыццём. Потым ён знікае, каб з’явіцца ў доме Зайнвла: ён хоча забраць Рыўку ад ненавіснага ёй мужа. Паяўляецца Зайнвл, і Меер уцякае, пакідаючы Рыўку на расправу старому садысту. Што ён — спалохаўся Зайнвла? Ці намер забраць Рыўку быў у яго несур’ёзным? Ці, можа, ён задумаў новы план выратавання Рыўкі? Няясна, неакрэслена. А дзе неакрэсленасць — там няма мастацкага вобраза, там акцёру, па сутнасці, няма чаго іграць.

Акцёр павінен аднавіць цэлае чалавечае жыццё, незалежна

ад таго, маленькую ці вялікую ролю ён выконвае. А абрывістыя фразы і нематывіраваныя ўчынкі не даюць для гэтага матэрыялу. <...>

Толькі натхнёная, напоўненая гарачай страсцю і драматызмам ігра акцёраў здолела б перамагчы гэту штучнасць п’есы і вярнуць героям спектакля, хоць бы часткова, сілу і пераканаўчасць, уласцівую вобразам Перэца. Гэтага не здарылася.

Меер-Бярозкін нібы пазбаўлен якіх бы там ні было чалавечых пачуццяў. Сцэны свае ён праводзіць са здзіўляючай абыякавасцю да лёсу каханай Рыўкі. Ды і ці кахае ён яе — невядома.

Акцёр Левін, які звычайна ўмее знаходзіць праўдзівыя і мяккія фарбы для вобраза, у ролі Іосла яўна збянтэжан. Ён не знайшоў праўды сваіх паводзін на сцэне і кідаецца ад надзвычайнай пяшчотнасці да ўнутрана неапраўданай жорсткасці ў адносінах да Трайны. Ён імкнецца за істэрычным крыкам схаваць ілжывасць сваіх паводзін на сцэне. <...>

Арончык праводзіць ролю Рыўкі з майстэрствам і пачуццём драматызму, які не здраджвае ёй у любой ролі.

Рыўка стала ў цэнтры спектакля, толькі яе лінія завершана. Гэта, так сказаць, плоць спектакля, у той час як гісторыя Трайны — яго сацыялогія (аб няшчасным лёсе работніцы), а Ханы — яго сімволіка (аб маладых сілах). У гэтым вобразе менш ілюстрацыйнасці, больш жыццёвай праўды. І многае тут залежала ад актрысы, здолеўшай знайсці характэрнасць Рыўкі-дзяўчыны і ўсхваляваць яе нешчаслівым далейшым лёсам. Але і ў ігры Арончык нярэдка жывыя пачуцці саступаюць месца ўмоўным, даўно знойдзеным двайнікам іх — завучаным інтанацыям і праверaным эфектам. Меладраматычныя эфекты, з якімі праводзіць Арончык сцэну ля ракі, штучная аднатоннасць у сцэне ў Зайнвла, калі нічога ад такой «плотскай» ранейшай Рыўкі не відаць у актрысе, — наглядны доказ гэтага. Калі б Арончык ставіла сабе за мэту стварыць псіхалагічна праўдзівы, жывы, адзіны (г. зн. асобны, адметны ад другіх, як адрозніваецца, скажам, Рыўка Перэца ад іншых вобразаў, што мелі аднолькавы з ёю лёс) вобраз, яна знайшла б і гэта асобнае, адзінае вырашэнне для названых сцэн. І яно б правільна перадавала сутнасць вобраза.

У добрым тоне праводзіць ролю маці актрыса Пікельчык. Усё ж і гэтаму вобразу не хапае сілы, напружанасці. Гэта асабліва добра адчуваецца ў фінале. Вялікі пералом, які адбыўся ў свядомасці Соры, актрыса не здолела паказаць так, каб ператварыць яе апошнія словы ў лагічны фінал спектакля.

Уражанне такое, што тэатр не адчуў навізны і адказнасці

задачы, якая стаяла перад ім у спектаклі Перэца, і што многае зроблена па трафарэту. Перэц і Шолам-Алейхем абсалютна розныя пісьменнікі, а многія сцэны ў спектаклі выклікаюць адчуванне, што ты ўжо бачыў гэта раней. Ды і дочкі Соры ўвесь час асацыіруюцца з дочкамі Тэв'е-малочніка, настолькі сцёрты ў спектаклі карэнныя сацыяльныя і стылёвыя асаблівасці герояў Перэца...

<...> Але галоўная віна рэжысёра, што ён не ўдыхнуў жыцця ва ўсе гэтыя вобразы — і Трайны, і Іосла, і Меера, і многа другіх, што ён зрабіў не страсны, хвалюючы спектакль, а цяжкую, мёртвую рэстаўрацыю на тэму: як жылі яўрэйскія пралетарыі пры царызме.

Запомнілася рэпліка сядзеўшай у зале жанчыны. Пасля другой карціны яна цяжка ўздыхнула і сказала:

— Ну, капіталістычная сістэма...

Тэатр нібы толькі да таго і імкнецца, каб выклікаць у свядомасці гледача гатовыя сацыялагічныя схемы. У спектаклі няма прасторы жывым чалавечым пачуццям і страсцям, гледачу не даецца магчымасці палюбіць герояў, пахвалявацца разам з імі, зацікавіцца іх лёсам. На яго абрушваюцца адзін за другім прыклады на тэму: «капіталістычная сістэма», — прыклады, у якіх павучальны элемент пераважае над элементамі паэзіі.

Ці ж не натуральна таму, што спектакль, які расказвае аб гэтулькіх разбітых чалавечых жыццях, спектакль, які па замыслу свайму, а мы пераказалі яго ў пачатку артыкула, павінен пасапраўднаму хваляваць, — усё ж не выклікае гэтага хвалявання?.. Агульнае ўражанне, якое пакідае спектакль: цяжка. Цяжкае жыццё гэтых людзей, цяжка і сачыць за гісторыяй іх жыцця. Тэатр нібы стараўся, каб гледачу было цяжка. Ясна, што гэтым не дасягаецца задача ўздзеяння на гледача.

У спектаклі няма адзінай эмоцыі, цэнтра прыцягнення, ён не прымушае пачуццё гледача расці ад сцэны к сцэне. У памяці застаюцца абрывачныя сцэны, а не ярка запамінаючаяся карціна. Адсюль і сіла ідэйнага ўздзеяння спектакля значна знікае. <...>

Аб усім гэтым тым больш неабходна пісаць, што грэх нарачытай павучальнасці, сухой ілюстрацыйнасці ўласцівы не толькі гэтай рабоце Яўрэйскага тэатра. Тэатр часта нібы забывае, што глядач ідзе да яго не толькі глядзець, пазнаваць, але і перажываць, хвалявацца, і што ў гэтым, эмацыянальным, уздзеянні — галоўная сіла тэатра. <...>

Наглядаючы, як тэатр ад спектакля да спектакля паўтарае сябе, круціцца ў зачараваным коле знойдзеных прыёмаў, як застываюць яркія акцёрскія таленты, якімі так багаты тэатр, хочацца

пажадаць яму адысці ад чыста галаўнога, схематычнага прынцыпу ў вырашэнні многіх спектакляў, напоўніць іх жыццём і гарачым чалавечым пачуццём.

Нам застаецца сказаць нямногае аб спектаклі. Вядома, ёсць акцёрскія дасягненні ў гэтым спектаклі, аб некаторых мы гаварылі вышэй. Трэба яшчэ назваць артыста Круглянскага, які мякка і паэтычна выконвае ролю Зораха. Своеасаблівую фігуру свата рысуе артыст Шык. Найбольшай акцёрскай удачай у спектаклі з'яўляецца выкананне ролі Зайнвла М. Сокалам. Ён нарысаваў яркую і закончаную фігуру, вельмі «сокалаўскую»: сцэнічныя сродкі акцёра аказаліся надзвычай падыходзячымі для стварэння гэтага вобраза.

Таленавітае афармленне зрабіў мастак М. Аксельрод. Ёсць удалыя мелодыі ў музыцы, напісанай к спектаклю М. Крошнерам. <...>

## «ПАРТЫЗАНЫ»
### *Заметкі аб п'есе і спектаклі*

<…> Вобразы партызанаў, выведзеныя ў п'есе, разнастайныя і характэрныя. Мужны і скромны начальнік партызанскага атрада, былы матрос Даніла Дрыль. Дзед Бадыль — выдатны мастацкі вобраз і ў п'есе і ў спектаклі, увасабленне народнага свабодалюбства, сілы духу, адвечнай нянавісці працоўнага народа да сваіх прыгнятальнікаў, — вобраз, насычаны цудоўным народным гумарам. Характэрная і фігура бежанца Батуры, гармонік і песенька якога добра дапамагаюць барацьбе партызанаў. Характэрныя фігуры партызанаў Халімона і Міхаля.

<…> П'еса дае вобраз народа, паказвае яго аптымізм, веру ў перамогу над ворагам, паказвае, як лепшыя маральныя якасці выкоўваюцца ў працэсе рашучай і смяротнай барацьбы з ворагам.

Без гэтай унутранай тэмы п'еса звялася б да апошняга паказу барацьбы партызанаў з белапалякамі.

Але ці дастаткова поўна і ярка даносіць К. Крапіва гэтую ўнутраную тэму п'есы? Тут хочацца хоць бы коратка адзначыць недахопы драматургічнай п'есы, якія ў значнай ступені зніжаюць яе мастацкую сілу.

Крапіва добра адчувае кожную асобную сцэну, ён знаходзіць яркі сцэнічны эфект для кожнай сцэны, умее зрабіць цікавым, дасціпным і праўдзівым дыялог дзеючых асоб. Але, калі праса-

чыць за развіццём усяго сюжэта п’есы, можна лёгка пераканацца, што ён слаба прадуман у цэлым. Сцэна жыве сваім самастойным жыццём і мае свой уласны «матор» замест таго, каб атрымліваць рух ад агульнай спружыны дзеяння п’есы. Возьмем для прыкладу IV карціну. На сцэне партызанскі атрад у лесе. Аўтар не паказвае дзеяння гэтай сцэны ў сувязі з дзеяннем папярэдніх і наступных карцін п’есы, а выдумляе спецыяльныя сітуацыі, каб «паказаць» жыццё партызанскага атрада.

Такой сітуацыяй з’яўляецца гісторыя з запіскай, патрэбнай для вызвалення партызанаў, якім пагражае кара смерцю. Але гэта — выпадковая для гледача сітуацыя, ён не ведае арыштаваных партызанаў, не ведае акалічнасцей іх арышту. Для непасрэднага эмацыянальнага ўздзейнічання на гледача драматычная сітуацыя павінна праходзіць на яго вачах і лагічна развівацца. Таму калі ў наступнай карціне Батуру прыносяць вестку, што партызаны загінулі, — у гледача ў свядомасці не нараджаюцца словы, якія гаворыць Батура: «Сотні стануць на іх месца». Паведамленне гэта для яго — факт па-за п’есай, не ў ходзе развіцця п’есы. Такі ж характар другой сітуацыі — смерць партызана Антона. Як ён памёр і чаму? У п’есе (і ў спектаклі) няма нават намёку на бой ці іншыя абставіны, у якіх мог бы загінуць Антон. Гэта смерць таксама па-за п’есай, — сітуацыя, якая звалілася на гледача невядома адкуль. Гэта толькі повад для прамовы Данілы.

Ва ўсёй п’есе няма аб’ядноўваючага, прадуманага сюжэта. А майстэрства драматургіі ў тым і заключаецца, каб добрую ідэю, цікава задуманыя вобразы п’есы, думкі і замыслы аўтара выразіць у так пабудаваным сюжэце п’есы, у якім бы яны знайшлі найбольш сцэнічнае выяўленне, дзе ўсе сітуацыі былі б разлічаны на поўнае, дзейснае раскрыццё характараў, дзе дзеянне было б разлічана так, каб паслядоўна, псіхалагічна праўдзіва раскрываліся героі. Дакладны разлік, майстэрства пабудовы неабходны драматургу не менш, чым глыбіня пачуцця, глыбіня назіранняў. Усякая неахайнасць формы б’е перш за ўсё па змесце.

І сапраўды, хіба не траціць вобраз Данілы Дрыля ад недахопаў сюжэта п’есы? Няма лагічна дзейснага раскрыцця вобраза, і адсюль аднафарбнасць, некаторы прымітывізм Дрыля і рада іншых вобразаў.

Была ў аўтара магчымасць стварыць моцны вобраз павятовага начальніка Яндрыхоўскага, але з-за бяздзейнасці эпізоду ў другой карціне, недадуманасці гісторыі з запіскай, якая вісне

ў паветры, вобраз атрымаўся схематычны, неарыгінальны, — гэта паўтор шмат разоў паказаных на сцэне тыпаў польскіх афіцэраў.

Мы гаварылі вышэй, што кожная сцэна ў паасобку пабудавана сцэнічна, але характар гэтай сцэнічнасці не заўсёды можа выклікаць адабрэнне. Праўда, сцэны выклікаюць вострую і патрэбную рэакцыю глядзельнай залы, нянавісць да ворага, хваляванне за лёс сваіх герояў. Але злоўжыванне гэтымі прыёмамі, якімі поўны ўсе сцэны, псуе п'есу. Часта ва ўгоду эфекту аўтар парушае псіхалагічную праўду вобраза, прыклад — канец V карціны, дзе Рыгор «пад заслону» марыць аб 15 тысячах, якія абяцаюцца ў аб'яве за галаву Данілы. Гэта накіроўвае гледача на няправільныя адносіны да Рыгора, глядач чакае ўжо ў VI карціне здрадніцтва Рыгора. Між тым, аўтар рысуе Рыгора ў гэтай карціне зусім інакш. Так ва ўгоду большаму сцэнічнаму напружанню парушаецца псіхалагічная праўда вобраза. Думаецца, што злоўжыванні сцэнічнымі эфектамі — недахоп драматургічнага майстэрства аўтара.

Пасля «Канца дружбы» К. Крапіва вельмі значна вырас як драматург. Гэта паказвае, што драматургія для яго не выпадковы жанр, што ён сур'ёзна працуе і будзе прадоўжваць работу над драматургічнымі творамі. Але з новай п'есы Крапівы відаць, што ён пакуль што ідзе ў авалоданні драматычнай формай не па шляху найбольшага супраціўлення. І задача крытыкі, тэатра — арыентаваць Крапіву на больш паглыбленае авалоданне вопытам сусветнай драматургіі, на стварэнне больш глыбокіх, больш арыгінальных і майстэрска пабудаваных п'ес.

Абмяжоўвацца выхваленнем п'есы Крапівы, якая мае вельмі моцныя бакі, якая карыстаецца заслужаным поспехам у гледача, і не ўказваць на сур'ёзныя недахопы — значыць затрымліваць рост драматурга, які абяцае ўзбагаціць беларускую савецкую драматургію высокакаштоўнымі п'есамі.

Вельмі добра, што маладыя акцёры атрымліваюць адказныя ролі ў новых пастаноўках Белдзяржтэатра.

Большасць выканаўцаў у «Партызанах» — маладыя акцёры. Ролю дзеда Бадыля выконвае А. Бараноўскі, выконвае добра, з вялікім тактам, мякка і жыццёва праўдзіва. Акцёр пазбавіўся ад празмернай шаржыроўкі, якой вызначаліся яго папярэднія работы. На гэтай рабоце А. Бараноўскі вырас і абяцае ў будучым, пры ўмове сур'ёзнай работы над сабой, многае. Поспех маладога акцёра яшчэ раз паказвае, што трэба смела выхоўваць здольную

моладзь на вялікія ролі.

Другую цэнтральную ролю — ролю Данілы Дрыля — выконвае таксама малады акцёр Ю. Пекур. Ён не зусім падыходзіць да ролі. У акцёра добрыя даныя, але мала вопытнасці, мала ўнутранай сілы і пераканаўчасці. Яго Даніла — занадта стары, схематычны, а ён павінен быць больш гераічным і цікавым. Акцёру не ўдаецца праўдзіва перадаць перажыванні Данілы ў IV карціне — пры ўспамінах аб маці; цікавай павінна быць яго сцэна з Рыгорам: акцёр іграе занадта знешне, скавана; лепш за ўсё яму ўдалася прамова над трупам Антона. П. Пекуру трэба прадоўжваць працаваць над роллю.

Добра справіліся са сваімі ролямі акцёры: Счэнсновіч — Маргун, Шапко — Шмігельскі, Ямпольскі — Батура, Краўцоў — Скіба, Міронава — маці; добра выконваецца роля Кацярыны. Запамінаюцца Халімон і Міхаль у выкананні акцёраў Глебава і Пушкевіча.

Рыгору ў выкананні акт. Шацілы не хапае жыццёвай, бытавой праўдзівасці; ён часта больш нагадвае персанаж меладрамы, чым жывога вясковага хлапца, бедняка. Глядач недастаткова адчувае і верыць у яго неадольнае каханне да Кацярыны, таму і перажыванні яго губляюць канкрэтнасць і жыццёвасць. Гэты недахоп яшчэ ў большай меры ўласцівы К. Былічу (Яндрыхоўскаму). Не ўдаецца стварыць вобраз пані Яндрыхоўскай артыстцы Васкевіч.

Пастаноўшчыкі спектакля Л. Рахленка і рэжысёр К. Саннікаў надалі спектаклю патрэбную прастату, натуральнасць і шчырасць. Перададзены ў спектаклі і высокагераічны сэнс барацьбы народа за сваю свабоду… <…>

Мастак Б. Малкін, які ўпершыню выступае як тэатральны мастак, стварыў добрае ўвогуле мастацкае афармленне спектакля. Добрыя I карціна, сцэны ў лесе. Але хата занадта абстрактная, і прытым чамусьці адна і тая ж хата для III і VI карцін. З добрым густам і вялікай стараннасцю выканана апошняя карціна — у замку Яндрыхоўскага. Але залішняя аддзелка гэтай сцэны мала апраўдана, гэта толькі адцягвае ўвагу гледача, да таго ж замак гэты — па-за часам і прасторай, ён не характэрны для данай абстаноўкі. У афармленні гэтай карціны сказваецца схільнасць мастака да эстэтызацыі прадмета.

Добрыя ў спектаклі песні, напісаныя кампазітарам А. Туранковым.

Спектакль «Партызаны» заслужана карыстаецца вялікім

поспехам у гледача. Гэта добры і хвалюючы спектакль. <…>

## АБ П’ЕСЕ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

Кузьма Чорны напісаў праўдзівую і хвалюючую п’есу «Ірынка». Верны сваёй мастацкай манеры, К. Чорны і на гэты раз не пагнаўся за вялікімі маштабамі і эфектнымі сітуацыямі. Аб вялікіх гістарычных падзеях у п’есе расказана вельмі проста і задушэўна. На лёсе нямногіх дзеючых асоб п’есы драматург дае пераканаўчую і ўразлівую карціну ўнутранай гніласці панскай Польшчы і страшэннага становішча беларуса-працаўніка ў ёй.

Калі знясіленая голадам Ірынка, асірацелая, нікому не патрэбная, пад выццё восеньскай непагоды застаецца адна на вуліцы, без прытулку, у глядзельнай зале няма абыякавых. І разам з Ірынкай глядач перажывае вялікае шчасце, калі ў фінале ўваходзіць чырвонаармеец, абнімае змучаную Ірынку і гаворыць такія простыя і выдатныя словы: «Тут больш ніколі не будзе паноў!»

На адной сям’і Міхалковічаў драматургу ўдалося з вялікай сілай паказаць, што прыход Чырвонай Арміі выратаваў народ Заходняй Беларусі ад страшэннага лёсу, што з’яднанне беларускага народа — акт найвялікшай справядлівасці.

П’еса К. Чорнага — не ілюстрацыя падзей, яна адносіцца да ліку тых п’ес, дзе хвалююць не вобразы, створаныя драматургам, а самі па сабе жыццёвыя падзеі. Тут хвалюе лёс вобразаў. П’еса адухоўлена жывой мысляю, усхваляваным пачуццём драматурга. Вобразы і сюжэт узяты не «на пракат», відаць, што яны нарадзіліся арганічна ў працэсе асэнсавання падзей драматургам. Адсюль паэтычнасць п’есы ўжо ў самым замысле сваім. Зернем гэтага замыслу, вядома, з’яўляецца Ірынка, нездарма ж яе імем названа п’еса. Вобразам гэтай кволай і нешматслоўнай дзяўчынкі драматург абвінавачвае душыцеляў беларускага народа, польскіх паноў, мацней, чым гэта можна зрабіць патэтычнымі маналогамі. Вось да чаго давялі народ і надзею народа — дзяцей! Якая мера помсты здольна акупіць дваццаць год пакутванняў народа.

Вобраз Мікалая належыць да ліку мацнейшых у п’есе, ён выпісан аўтарам з вялікай любоўю. Гэта не новы вобраз у творчасці К. Чорнага. Вельмі многімі рысамі ён нагадвае Гушку з «Бацькаўшчыны» (выкананне ролі Мікалая Уладамірскім, які

ў свой час стварыў незабыўны вобраз Гушкі, яшчэ больш нагадвае нам гэта падабенства). Чорны любіць і ўмее рысаваць (а Уладамірскі іграць) такіх герояў. Мікалай — сумленны працаўнік, чалавек вялікага душэўнага благародства і сапраўднай мужнасці. Ён цярпліва нясе свой крыж; як ні цяжка жыццё, нічога не зробіш, гэткая доля селяніна. І трэба ў гэтых умовах не траціць прысутнасці духу. Ён не бунтар: «яны былі ціхія, і ў працы заўсёды», — гаворыць аб Міхалковічах асаднік Лямэнт. Але вядома, ён хавае таварыша, які забіў паліцэйскага, як хавае Гушка бальшавіка. І, як Гушка, ён ніколі не дапусціць прыніжэння сваёй чалавечай годнасці. У першай жа яго сутычцы з панам Чарноцкім у Мікалая гучыць такая перакананасць у сваёй не толькі маральнай роўнасці, але і перавазе над жорсткім польскім панам, што Чарноцкі не без павагі заўважыў: «Ён са мною так гаворыць, нібы гэта я жыву на яго зямлі, а не ён на маёй».

<…> У яго адносінах з панам больш пагарды, чым нянавісці. Як можа быць чалавек такім жорсткім? — гэта мысль хвалюе яго больш, чым пытанне аб тым, як скінуць з сябе ненавіснае іга. «Гэтулькі ў ім злога, гэтулькі неміласэрнага, — гаворыць ён, — што, здаецца, гэта не чалавек... На дне магілы, мусіць, ясней, як у яго на душы... Як гэта, каб усё гэта было ў чалавеку?»

<…> Мы бачым яго вярнуўшымся ў родную хату разам з Чырвонай Арміяй, разумеем яго вялікую радасць, але ці выспеў ён у гэтых падзеях? У падзеях апошняга акта страціўся вобраз Мікалая. Гэта вельмі шкада, і вось чаму. Вядома, не прыходзіцца папракаць драматурга за тыя альбо іншыя рысы ў створаных ім вобразах, але ў даным выпадку канструкцыя п’есы гэткая, што Мікалай успрымаецца як сімвал, як мастацка-абагульнены вобраз беларускага народа, які знаходзіўся пад гнётам польскіх паноў... А калі так, дык кожная рыса Мікалая набывае характар абагульнення, тыпізацыі. У якасці такога абагульнення хацелася б бачыць Мікалая больш актыўнай фігурай, чалавекам, які не абмяжоўваецца, так сказаць, маральным судом над панамі з абстрактных агульначалавечых пазіцый.

П’еса не свабодна ад некаторай сентыментальнасці, гэткай спагадлівасці. Прыгадайце расказ Мікалая Чарноцкаму аб тым, як раніцой трэба будзіць слабенькую Ірынку на работу, а яна просіцца хоць крышачку даць ёй яшчэ заснуць, і як у бацькоў сэрца крывёю абліваецца. У другім акце гэта ўсё паказана наглядна. Дэталь сама па сабе праўдзівая і сцэнічна выйгрышная, але тон, якім усё гэта напісана ў аўтара, не гнеўны, а жаласлівы.

Паўтараю, вобраз Мікалая мог бы і павінен быў бы, думаецца, уносіць у п'есу больш актыўную сілу. Гэта было б бліжэй да жыццёвай праўды і павысіла б мастацкую сілу ўздзеяння п'есы.

Вялікую цікавасць уяўляе другая сюжэтная лінія п'есы: Лямэнт — Юзя — Зыгмусь. Веданне людзей, тонкае разуменне іх псіхалогіі дало магчымасць К. Чорнаму ў паказе гэтага «трохкутніка» скупымі штрыхамі дабіцца вялікай пераканаўчасці. Пакаёўка Юзя, выпешчаная ў доме асадніка, спачатку здаецца адарванай ад народа. Але пакуты Ірынкі знаходзяць у ёй глыбокі водгук, адраджаюць яе душу, і к моманту прыходу Чырвонай Арміі перад намі ўжо другі чалавек... Вобраз Юзі, напісаны гранічна праўдзіва, — вялікая ўдача драматурга. Увогуле, амаль аб усіх вобразах п'есы можна сказаць, што драматург дасканала ведае сваіх герояў і рысуе іх эканомнымі, але дакладнымі фарбамі.

Гэтага нельга сказаць толькі аб вобразе Чарноцкага, які напісан вельмі «прыблізна». Відаць, што аўтар імкнуўся зрабіць свой вобраз пераканаўчым, надаць яму рысы «ўнутранай праўды». Чарноцкага душаць спазмы аб забраным бальшавікамі маёнтку, ён пакутуе аб лёсе Польшчы і здзекуецца з Мікалая. Але ва ўсім гэтым не знойдзена мастацкай меры, замест ведання вобраза тут ёсць толькі здагадка аб ім.

Вялікай пахвалы заслугоўвае мова, якой напісана п'еса. К. Чорны — майстар дыялогу, ён валодае адным з самых цяжкіх сакрэтаў драматургіі — уменнем рысаваць характар чалавека пры дапамозе мовы.

Пры ўсіх значных вартасцях п'есы яна не свабодна ад недахопаў. Аб некаторых з іх мы гаварылі вышэй, у сувязі з вобразам Мікалая. Цяпер жа хочацца адзначыць, што, пазбегнуўшы ілюстрацыйнасці ў замысле і асноўных вобразах п'есы, К. Чорны не ўстаяў перад гэтай спакусай у ходзе разгортвання сюжэта. Трэці акт п'есы цалкам ілюстрацыйны. Глядач яшчэ ў першым акце не прапусціў, вядома, міма вушэй, што там, на савецкім баку, у былым доме пана Чарноцкага жыве аднагодка Ірынкі, іграе на раялі і безумоўна шчаслівa. Навошта ж было ўводзіць сцэну з гэтай савецкай дзяўчынкай, раяль і самога дзеда, бацьку Мікалая Міхалковіча? Усё, аб чым мы даведваемся з гэтай сцэны, мы ўжо ведаем, нарысавалі сабе сілай свайго ўяўлення. І гэта мела большую сілу ўздзеяння, чым сцэна, напісаная «нейтральна», як ілюстрацыя пэўнага тэзіса п'есы. Вельмі шкада, што «Ірынка» стала «п'есай з варыянтамі». Не будзем

гаварыць аб дапісанай для абвастрэння сюжэта сцэне пераходу граніцы, сам тэатр пераканаўся, што гэта чужароднае цела ў п’есе. Але такім жа чужародным целам з’яўляецца і фінал п’есы, прыдуманы тэатрам. Апошні акт, які адбываецца ў доме Міхалковіча, разбіт на дзве сцэны. Відаць, баючыся, што прыход аднаго чырвонаармейца ў хату Міхалковіча не перадасць «маштабнасці» падзей, тэатр вынес апошні эпізод на вуліцу. Змяненні ідуць па лініі знешняй.

А ў тэатра былі добрыя намеры: перамагчы некаторую пасіўнасць герояў п’есы, паказаць волевую, дзейсную сілу, якая жыла ў народзе, змагалася супроць прыгнятальнікаў, што, як мы адзначалі, недастаткова зроблена ў п’есе аўтарам.

Кінуты тут папрок тэатру не павінен захаваць другое: тэатр сур’ёзна, настойліва працаваў над спектаклем, і пры наяўнасці адзначаных недахопаў «Ірынка», ці «У апошнюю ноч», — патрэбны, хвалюючы спектакль.

## РОСКВІТ БЕЛАРУСКАЙ ДРАМАТУРГІІ

Ніколі драматургічны жанр не займаў такога значнага месца ў беларускай савецкай літаратуры, як за апошнія некалькі год. Амаль усе нашы пісьменнікі сталі прабаваць свае сілы ў галіне драмы: Колас, Бядуля, Чорны, Крапіва, Самуйлёнак, Глебка, Броўка (оперныя лібрэта), Клімковіч, Шынклер, Вольскі, Маўр, Аксельрод, Каган, Левін, Ушакоў, Жаўрук, Шапавалаў, а зараз працуюць над п’есамі і опернымі лібрэта Якімовіч, Агняцвет, Куляшоў, Блісцінаў, Мальцінскі, Платнер і інш. Калі дадаць да іх, так сказаць, драматургаў па спецыяльнасці — Рамановіча, Гурскага, Ільінскага, — дык атрымліваецца вельмі салідная армія.

Думаю, што такая вялікая цікавасць пісьменніка да драмы — невыпадковая з’ява. Яна з’яўляецца вынікам росту нашага тэатральнага мастацтва з аднаго боку, росту і пашырэння кругазору нашых пісьменнікаў — з другога.

Яшчэ некалькі год назад было зусім інакш. Паміж літаратурай і драматургіяй быў вялікі водараздзел. Для тэатра пісалі спецыяльныя людзі, якія манапольна валодалі так званай спецыфікай драматургіі. Спецыфіка гэта, асаблівасць драматургіі як жанру, многімі разумелася як абасобленасць ад агульных патрабаванняў, якія прад’яўляюцца да мастацкай літаратуры... Драматургія, па сутнасці, калі не лічыць некалькіх удалых п’ес

сапраўдных драматургаў, ператваралася ў драмаробства.<...>

<...> Перад актывам ССПБ паўстала задача — стварыць поўнакаштоўны рэпертуар для тэатраў БССР, задаволіць па-сапраўднаму тыя патрабаванні, з якімі глядач прыходзіць у тэатр. А патрабаванні гэтыя ўзрасталі з кожным днём. Тады ў тэатр пайшлі старэйшыя паэты і празаікі — Колас і Бядуля, Чорны і Крапіва. За імі паследавалі і другія. Былі створаны п'есы «У пушчах Палесся» Я. Коласа, «Салавей» З. Бядулі, «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Партызаны» К. Крапівы.

Своеасаблівa драматургія гэтага перыяду! Ва ўсіх гэтых п'есах, напісаных рознымі аўтарамі, ёсць ярка выражаныя агульныя рысы. Гэта амаль заўсёды інсцэніроўкі раманаў — «У пушчах Палесся», «Салавей», «Бацькаўшчына», «Сяржант Дроб». Гэтыя п'есы пачалі новы этап у развіцці беларускай савецкай драматургіі. Іх стварылі новыя ў драматургіі людзі. Першым словам хочацца выказаць самае важнае. Адсюль тэматыка п'ес. Ніхто не піша, скажам, бытавой камедыі ці п'есы на «любоўную тэму» і г. д. <...>

Новыя драматургі яшчэ мала асвоіліся са спецыфікай жанру. Адсюль схільнасць да інсцэніроўкі сваіх раманаў як пераходнай ступені ад прозы да драмы. Адсюль жа значныя недахопы фармальнага парадку ў гэтых п'есах.

Аб недахопах гэтых пісалася і гаварылася не раз. І здаецца мне, за гэтымі размовамі часта пераставалі заўважаць вялікія вартасці гэтых першых драматургічных твораў. П'есы «Салавей», «У пушчах Палесся», «Партызаны» да гэтага часу не сыходзяць са сцэны нашых тэатраў, да гэтага часу яны горача хвалююць і выхоўваюць гледача. Гэта лепшы доказ мастацкай сілы гэтых твораў. П'еса «Салавей» сведчыць, што драматургія — не выпадковасць у багатай і разнастайнай жанрамі творчасці З. Бядулі. Бядуля — драматург, і моцны драматург, які ўмее будаваць вострую і напружаную сітуацыю, умее ў мове героя выявіць яго характарыстыку; ён павінен пісаць п'есы, захапляючыя і хвалюючыя п'есы.

Нельга недаацэньваць сілы драматурга Я. Коласа. Я маю на ўвазе не толькі «У пушчах Палесся», але і «Вайну» з цудоўным першым актам і сцэнай у паліцэйскага ў другім акце.

Хто бачыў «Бацькаўшчыну» К. Чорнага, той назаўсёды запомніў Леапольда Гушку, Паўлу Няміру, бальшавіка Евеля Цывіна. Выдатным майстрам псіхалагічнай драмы паказаў сябе К. Чорны ў гэтай п'есе.

Аб «Партызанах» Крапівы шмат пісалася. Дастаткова адной

сцэны ў Рыгоравай хаце, каб бачыць вялікі драматургічны талент Крапівы, які ўвесь час развіваецца. <...>

Крапіва як драматург расце наглядна ад п’есы да п’есы. Першая — «Канец дружбы» — была п’еса з тыповымі для драматургіі тых год недахопамі — раней зададзены ідэйны тэзіс, які ілюструецца сцэнічнымі падзеямі, анёльска-чысценькі станоўчы герой, які для «ажыўлення» надзяляецца «чалавечымі» рысамі, адарванымі ад яго «вытворчых функцый», і вымазаны ў сажу адмоўны герой і т. д. Але і тады скрозь агульнапрынятую схему прарываўся жывы струмень творчасці Крапівы. Такая была сцэна ў вёсцы, пралог, ды і ў абмалёўцы Карнейчыка было многа жывога і моцнага. Другая п’еса — «Партызаны» — ясна паказала, што схематызм і надуманасць першай п’есы не ўласцівы Крапіве як драматургу. Поўная натуральнасць інтанацыі п’есы, прастата, праўдзівасць і ў той жа час мастацкая эканомнасць у паказе падзей характарызуюць «Партызан». Гэта сапраўдны драматургічны дакумент аб гераічным 1920 годзе. <...> Але разам з тым востра адчуваецца буйнейшы драматургічны недахоп «Партызан» — няма сапраўднага драматургічнага сцержня, сцэны не з’яўляюцца неабходнымі звеннямі строга прадуманай лініі развіцця п’есы ў цэлым, як гэта павінна быць у драматургіі. Гэта ёсць ужо ў трэцяй п’есе Крапівы. Камедыя «Хто смяецца апошнім» пабудавана так, што крок за крокам раскрывае замысел аўтара. Яна напісана з сапраўдным драматургічным майстэрствам. П’еса, якая выкрывае паклёпнікаў і палітычных прахадзімцаў, напісана з усім бляскам таленту Крапівы-сатырыка. <...>

Нельга тут не ўпамянуць, што наша драматургія справілася яшчэ з адной адказнай і новай для яе задачай: стварэння лібрэта для беларускіх опер. Чатыры лібрэта напісаны тт. Броўкам, Рамановічам, Клімковічам, а таксама Глебкам і Броўкам («Кветка шчасця»).

Асобна хочацца адзначыць лібрэта Броўкі. Ён першы кінуўся ў гэта незнаёмае плаванне, і таму яму так многа прыйшлося перапрацоўваць тэкст лібрэта, але паэт з гонарам выйшаў з гэтага выпрабавання. Лібрэта ў яго цяперашнім выглядзе мае вялікія дадатныя якасці.

<...> Што хочацца адзначыць у гэтых беглых нататках аб характары развіцця нашай драматургіі? Усё ж яшчэ аднастайна тэматыка. Большасць п’ес — аб грамадзянскай вайне, аб барацьбе з ворагамі народа. Шмат важнейшых тэм не ўзнята. І яшчэ

адна асаблівасць. Сюжэты п’ес вельмі агульныя, у іх мала прыватнага, індывідуальнага, мала асабістага — ад драматурга. Між тым, чым нечаканей, індывідуальней сюжэт, тым ярчэй можна ў ім раскрыць агульную ідэю. У нас драматургі адштурхоўваюцца больш ад агульнага: імперыялістычная вайна, акупацыя, і ўжо на фоне гэтага знаходзяць месца для сваіх герояў. А цікава было б асаблівы «прыватны» лёс паказаць і праз жыццё людзей, паказаць гістарычныя падзеі. Напрыклад, надзвычай ярка абмалёвана імперыялістычная вайна праз лёс і ўзаемаадносіны людзей у першых актах «Бацькаўшчыны». А ў апошніх актах паказаны самі падзеі рэвалюцыі, і ў гэтых падзеях аўтар шукае месца для сваіх герояў. І часта не знаходзіць...

Рад новых работ драматургаў адрозніваецца свежасцю тэматыкі і жанру (Вольскі — добрая казка для ТЮГа на матэрыяле народных казак, Маўр — п’еса, якая паказвае рост калгасніцы-стаханаўкі і высмейвае мяшчанства, Ушакоў і Жаўрук — музычная камедыя на сучасным калгасным матэрыяле).

<...> З многіх пытанняў, якія паўстаюць, калі думаеш аб развіцці нашай драматургіі, хочацца тут выдзеліць яшчэ адно. З лёгкай рукі вульгарызатараў устанавілася ганенне на героя ў драме. Яго, маўляў, павінна замяніць маса. Невыпадкова ж атрымалася, што ў «Салаўі» няма Салаўя як героя п’есы, тэатр адцясніў яго на задні план «палітруком» пры ім Язэпам. У «Кацярыне Жарнасек» няма гераіні п’есы — Кацярыны. Таксама ў лібрэта Броўкі клопат аб «палітруку» прывёў да таго, што функцыі героя раздвоіліся паміж Міхасём і бальшавіком Анішчуком, ад чаго ні аднаго героя — цэнтральнага вобраза — не атрымалася і назва зноў-такі аказалася неапраўданай.

Сапраўднае мастацтва — у вялікім абагульненні. <...>



# КЛІМЕНТ ЯКАЎЧЫК

Клімент Марцінавіч Якаўчык нарадзіўся 7 лістапада 1898 г. у в. Дольная Свіслач Гродзенскага павета (цяпер в. Свіслач Гродзенскага раёна).

Вучыўся ў Свіслацкім двухкласным вучылішчы. Пасля заканчэння Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі жыў і працаваў у Самары (з 1918 г.). Пазней пераехаў у Маскву, дзе скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава (першы выпуск). У 20–30-я гг. працаваў рэдактарам у Маскоўскім дзяржаўным выдавецтве. З пачаткам вайны — у шэрагах маскоўскага народнага апалчэння. Загінуў у лістападзе 1941 г. на фронце, абараняючы Маскву. Яго імя было занесена на мемарыяльную дошку ў Цэнтральным Доме літаратара (г. Масква).

Пісаў вершы па-руску, друкаваў іх у газетах Масквы і Ленінграда. Пад псеўданімам К. Кундзіш выступаў як літаратурны крытык на старонках часопіса «Узвышша».

Адзін з першых перакладчыкаў беларускай літаратуры на рускую мову. У 1929 г. ён пераклаў «Повести и рассказы» З. Бядулі і «В глуши Полесья» Я. Коласа. Выйшлі ў яго перакладзе зборнік апавяданняў Я. Нёманскага «На изломе» (1930) і раман З. Бядулі «Язеп Крушинский» (1931). Асобнымі выданнямі ў Маскве пабачылі свет яго пераклады твораў П. Галавача — «Переполох на межах» (1933) і «Сквозь годы» (1935). Перастварыў на рускую мову творы К. Чорнага, К. Крапівы, А. Звонака і інш.

# КРЫТЫКА

## SINE IRA ET STUDIO

*Агляд паэзіі Цішкі Гартнага*
*Урыўкі з артыкула*

<...> Перада мною два яго зборнікі вершаў: «Песні працы і змагання» і «Урачыстасць». Кола тэматыкі іх невялікае. Яно падзяляецца на тры асноўныя моманты: на матывы працы, матывы пейзажнай лірыкі і матывы чыста рэвалюцыйныя. Як на пабочны элемент, можна паказаць яшчэ і на матывы гарадскія.

Самымі характэрнымі для Ц. Гартнага, як я ўжо сказаў, лічацца матывы работніцкія, ці, як я іх называю, абагульняючы, — матывы працы. Пераходжу адразу да іх.

Сагнуўшыся, я ля вярстата стаю, —
Скуру ўвесь дзень без прастанку я гну,
Я скуру ўсё гну,
Нядолю кляну —
І песню пяю...[1]

Раз, другі — і сашнік
Можа ў поле ўжо браць
Гарацешны мужык
Сваю ніву гараць[2].

Такіх прыкладаў можна было б падаць вельмі шмат, але абмяжоўваюся гэтымі. Думаю, што выстарчыць. Цэнтральнае месца між вершаў гэтага цыкла займаюць «Песні гарбара». Цяжкая і вельмі шкодная на здароўе работа — вырабляць скуры, няма чаго і казаць. Малая аплата і цяжкасці ў падшуканні нават і такой работы стаўлялі гарбароў у нясцерпныя ўмовы. Усё гэта ў вершах Ц. Гартнага ёсць, трэба адзначыць, але дзе тут тое *аснаўное* ў гэтых матывах, што вылучала б яго з шэрага іншых паэтаў? Аджа ж падобнае можна знайсці і ў А. Гаруна. Як і ў яго, у Ц. Гартнага гэтыя работніцкія матывы канчаюцца звычайна надзеяй на лепшую будучыню:

І на шчасця прыход
Не заплюшчвай вачэй!..

Па сутнасці справы, гэтыя матывы нельга назваць цалкам работніцкімі. Нікому і на думку не ўспадзе сцвярджаць, што Ц. Гартны адлюстраваў работніцкую працу больш буйных прадпрыемстваў, як, напрыклад, фабрык і заводаў, якія на Беларусі існавалі і да рэвалюцыі (узяць тыя ж шкляныя гуты, пільні, тэкстыльныя і папяровыя фабрыкі і г. д.). А дзе ўсё гэта ў Ц. Гартнага? Яно прайшло міма яго. Адзінае, што пападала ў поле яго зроку, — гэта праца *саматужнікаў*; менавіта яе Ц. Гартны і адлюстраваў.

Але ж гэтыя матывы краналіся не толькі ім, не толькі А. Гаруном, але і Я. Купалам і Я. Коласам. Усё ж, калі прызнаць, што пасля двух апошніх паэтаў у беларускую літаратуру дзе што новае ў гэтым сэнсе і ўнесена, дык трэба па справядлівасці аддаць належнае А. Гаруну, але толькі не Ц. Гартнаму. Менавіта А. Гарун першы ўзняў з асаблівай яскравасцю гэтыя матывы, і Ц. Гартнаму толькі заставалася працягваць пачатае. <...>

Цяпер пра вершы рэвалюцыйныя. Як і іншыя вершы зборнікаў, яны не вызначаюцца ніякімі годнасцямі. Гэта з большага штампаляваныя агіткі, наскрозь рытарычныя, у якіх ні кроплі мастацкасці, але затое высакамоўнасці, псеўдапафасу і прэтэнзіі на трыбуннасць — колькі хочаш:

Сочаць руінай масты,
Шлях да звароту адрэзан —
Квіта.
...Хто перапыніць наш шаг,
Толькі паходняю рушым
Ўпарта[3].

Міжнароднае свята працоўных — Першае траўня — Ц. Гартны дае самымі зацёртымі словамі, тэму бярэ прымітыўна і так развівае да канца:

Першае мая — то дзень вызвалення!
Слаўны ваяка прад бойкай гарачай

---

[1] Песні працы і змагання. С. 9.
[2] Тамсама. С. 16.

Сілам падцятым, ждучы аднаўлення,
Цяжкім змаганнем яго абазначыў[4].

Такімі агульнымі месцамі нікога не задзівіш. І гэта яшчэ палова бяды была б, каб не мова да немагчымасці зацвілая. Узяць хоць бы верш «Хто мы?»:

Мы сыны
Новых дзён!
Мы прарокі-ваякі за волю,
Пяруны з бліскавіцамі
Значаць наш шлях...[5]

І так далей. Як і ў папярэдніх прыкладах, тут ніводнага жывога слова, не кажучы ўжо пра цэлыя радкі. Гэта нейкая суздромная мярцвячына, узведзеная ў прынцып, і нават усё, што хочаш, але толькі не вершы. Паэзія ў іх і не начавала. <...>

...Я перайду да лірыкі ва ўласным значэнні гэтага слова, г. зн. чыстай лірыкі. Апошняя сама па сабе, як вырашэнне асабістасці, спатыкаецца ў Ц. Гартнага рэдка. Больш за ўсё яна разгортваецца на фоне прыроды. Прычым узыходзіць яна да ўзораў далёкай старасветчыны:

Белым матылёчкам,
Лёгкім ды вяртлявым, (?!?)
Па зялёных травах,
Па густых кусточках,
Ў руцяных лісточках
Ясным днём і ночкай
Я б хацеў лятаці,
Я б хацеў лятаці[6].

Аджа ж гэта вельмі падобна, шчыра кажучы, на «мотивчик» з аднае оперы:

Если б милые девицы
Так летали, будто птицы,
И садились на сучках...

І гэтак далей. За дакладнасць не паручуся, бо ў мяне няма зараз, на жаль, пад рукою Дзяржавіна. Пэўна, гэты «мотивчик» вельмі падабаецца Ц. Гартнаму. Але ці мала што можа спадабацца, хоць бы нават і вельмі. Гэта яшчэ не дае права перажоўваць яго. Як пародыю гэта яшчэ можна дапусціць, але як сталую лірыку — ні ў якім разе. Гэты прыклад не адзінкавы. <...>

[3] Урачыстасць. С. 33.

Ведаю, што на гэты артыкул будзе шмат нападкаў з боку штатных прыхільнікаў паэзіі Ц. Гартнага. Даю ім поўнае права перакуліць мае палажэнні і давесці адваротнае...

*6 ліпеня 1927 г.*
*Масква*

[4] Урачыстасць. С. 31.
[5] Тамсама. С. 35.
[6] Тамсама. С. 70.

# ПЕРАКЛАД

*Кондрат КРАПИВА*

## СИГНАЛЬЩИК ИВАНОВ
*Басня*

С тех пор прошел который год —
Учебную стрельбу вела пехота.
Так вот, стрелял однажды взвод,
А может быть, и рота.
Тут военком верхом внезапно — шасть!
Взглянуть занятно, как стреляет часть,
Как верен глаз и как тверда рука
У красного стрелка?
Команда — «попади!»,
И скрылся красный флаг,
Стрелки — на линию. Застыли на упорах.
Вот выстрелил один,
Вот разом — трах-тах-тах!
Щекочет нос и отдает в ушах
(Когда-то военком наш тоже нюхал порох).
Вот кончили. Отбой...
Довольны все начальники стрельбой:
Тот три попал, тот пять,
И редко, редко промах.
Тут вспыхнула у военкома
Охота пострелять.
Мишень себе он подсмотрел,
И, лежа на упоре,
Прижав ружье, напрягши взоры,
Навел прицел.
И — бах!
Под носом землю взрыло.
Еще раз. Пуля вдаль завыла.
Еще за ними три, —
И все — «за молоком».

— Ах, черт их побери! —
Рассержен военком.
Какой позор, какое пораженье!
Но уж бегут сигнальщики к мишени,
И машут торопливо
(У них хороший нюх!):
«Две, три, четыре, пять! Да это просто диво!
Легли все пули в круг».
Тут осенило командира:
Пять холостых патронов он берет
И тех же шлет сигнальщиков вперед.
И что б вы думали? «Ни разу не промазал», —
Как доложил, не шевельнувши глазом,
Сигнальщик Иванов:
«Все пули в самый центр загнали вновь».
Комдив же Иванова похвалил:
— Ты, Иванов, примерный подхалим».

Всем подхалимам сей прием знаком:
Бьет ли начальство в цель иль шлет «за молоком»,
Всегда найдутся Ивановы,
Что услужить ему готовы.



# Уладзімір ЯСЮЧЭНЯ

Уладзімір Мікалаевіч Ясючэня нарадзіўся 17 лістапада 1925 г. у в. Станькі Капыльскага раёна на Міншчыне.

Вучыўся у Ванелевіцкай сямігодцы, затым — у Доктаравіцкай СШ. Пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі быў прызваны ў армію. Малодшы сяржант У. Ясючэня загінуў 12 сакавіка 1945 г. у баях на р. Одэр, пахаваны ў мястэчку Грапфенхаген (Германія).

Узнагароджаны ордэнам Славы III ступені і медалём «За адвагу».

Першыя допісы і вершы надрукаваў у газеце «Піянер Беларусі». У 14-гадовым узросце быў адзначаны Ганаровай граматай гэтай газеты. У асноўным пісаў для дзяцей. Падчас акупацыі і на фронце не расставаўся з паэзіяй, пісаў вершы. У гады вайны загінулі два родныя браты У. Ясючэні, адзін з вершаў паэта мае назву «Адпомшчу за братоў». Падборкі яго вершаў апублікаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1971 г. і калектыўным зборніку «Дзень паэзіі» (1980). Аўтар апавядання «Бацькаў сын».

# Паэзія

## ПРЫЙДЗІ НА МІЛАЕ СПАТКАННЕ

Прыйдзі на мілае спатканне,
Дзяўчынка любая мая!
Прабудзем разам да світання
І будзем слухаць салаўя.

Нас стрэнуць першыя праменні,
Узыдзе сонца за гарой,
І папаўзуць даўгія цені, —
Тады расстанемся з табой...

Рака дыміцца у тумане,
Шуміць пад ветрам вербалоз.
Дзяўчынка, сэрца не трывож,
Прыйдзі на мілае спатканне.

## НОЧ НА РЭЧЦЫ

Кінуў месяц на рэчку святло,
Заблішчэла, бы люстра, вада.
Каля поплава спала сяло.
Над вадою драмала вярба.

Кучаравы спавіў вербалоз
Бераг рэчкі — круты, як абрыў.
Спала ўсё. Толькі вецер між лоз
Безумоўку шаптаў-гаварыў...

Бор за рэчкай маўкліва стаяў,
Як той дзед-вартаўнік ля гумна.

І туман у нізіне апаў, —
Панавала наўкол цішыня.

## НА НАЧЛЕЗЕ

Рассыпаліся ў небе зоры,
Нібы сярэбраны пясок.
Ўзлятаюць іскры-метэоры,
І дрэмле месяц-каласок.

За рэчкаю пасуцца коні.
Туман валокны разаслаў.
Цямнее лес. На бабкі ў полі
Адзела пацеркі раса.

Алешнік стыне над ракою.
Звіняць музыкі-камары
І не даюць спачыць нікому
Ля куста свежае травы.

Усход ружовасцю палае,
І песню драч сваю вядзе...
Чакаць нядоўга — рассвітае,
Настане новы ў шчасці дзень.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Мікола Гіль*

## НА ДВАЦЦАТАЙ ВЯСНЕ

*Аб чым расказаў экспанат саўгаснага музея*

Калі вы прыедзеце ў Доктаравічы — мінскім, слуцкім альбо капыльскім аўтобусам, дык якраз насупраць канцавога прыпынку, на цэнтральнай сядзібе саўгаса, убачыце малады сквер з высокім шэрагранітым абеліскам, справа ад яго — Дом культуры, злева — будынак пошты і гасцініцы, а ў глыбіні — невялікі белацагляны дамок. Падыдзіце вузкай асфальтаванай сцяжынай бліжэй, да яго высокага ганка. Шыльда ля дзвярэй скажа вам, што ў гэтым дамку — саўгасны «Музей баявой і працоўнай славы».

Пра гэты музей газета «Літаратура і мастацтва» не так даўно ўжо расказвала сваім чытачам — пра яго арганізацыю, пра сабраныя ў ім матэрыялы і дакументы, і таму я наўрад ці рашыўся б гаварыць пра яго зноў, калі б не адна акалічнасць. Зрэшты, я не зусім пра гэта...

Тыдні тры назад, будучы ў камандзіроўцы ў Капылі, трапіў я ў Доктаравічы. Абмінуць музей не мог. І не таму, бадай, што спадзяваўся знайсці там штосьці асаблівае, невядомае, не заўважанае раней нашым братам-газетчыкам, тым больш, што музей адчынены гады чатыры назад. Зайшоў туды хутчэй па прычыне чыста чалавечай цікаўнасці — што там і як на самой справе, бо, шчыра кажучы, не так і шмат яшчэ ў нас калгасных ды саўгасных музеяў, ды яшчэ от такіх, што размешчаны ў спецыяльна выбудаваным для такой справы доме. Зайшоў — і не пашкадаваў. Нечакана пашчасціла мне дакрануцца, а мо і крышачку далучыцца да аднаго надзіва чыстага, светлага, натхнёнага жыцця, на жаль — кароткага...

У першым пакоі, а, па сутнасці, у калідорчыку на сцяне вісяць партрэты тых жыхароў Доктаравіч і іншых саўгасных вёсак — воінаў і партызанаў, якія не вярнуліся з вайны, якія аддалі свае жыцці ў змаганні з фашызмам. Сярод іх кінуўся ў вочы партрэт юнака, амаль падлетка. Прачытаў надпіс: Уладзімір Ясючэня. Пад ім даты: 1925–1945. Гэтыя даты найбольш запынялі позірк: усяго дваццаць. Потым,

пільней ужо, узіраўся я ў прыгожы, малады, амаль дзіцячы твар: багатая і, відно, непадатлівая чупрына, высокі лоб, прамы, вастраваты нос, тонкія, нервовыя вусны, праніклівы, нейкі самотна-трывожны пагляд вачэй. І ці то таму, што больш ні пад адным з партрэтаў даты жыцця і смерці не збягаліся так блізка, ці таму, што ў паглядзе юнака было сапраўды штосьці балесна-трывожлівае, твар Валодзі Ясючэні (называць яго сталым імем Уладзімір нейк не хацелася) доўга яшчэ стаяў перад маімі вачыма.

У мемарыяльнай зале музея маю ўвагу прыцягнула папка з надпісам: «Пісьмы з фронту». Разгарнуў яе. Пажаўцелы ад часу лісток у лінейку калісьці быў складзены салдацкім трохкутнікам, а цяпер старанна разгладжаны. Уверсе дата: 20 снежня 1944 года. Вочы прабеглі радкі: «Лёс вырашае жыццё. Хай загіну і я ў будучых рашаючых баях, але за кроў сваіх любімых братоў я клянуся сурова адпомсціць праклятым фрыцам...»

Перавярнуў лісток і — не паверыў сваім вачам: гэта быў ліст Валодзі Ясючэні, яго пісьмо ў родную вёску Станькі, адрасаванае маці, бацьку, сястры і брату.

У папцы аказалася больш дзесяці Валодзевых пісем. Наступнае было датавана *10 студзеня 1945 года*:

«Дарагі Ваня! Вельмі буду прасіць цябе, прагледзь харашэнька ўсе мае папяровыя архівы, але нічога не выкідвай, асабліва мае вершы (сшыт. «Раннія творы», «Першыя крокі», «Мара» і ліст з пяццю вершамі пад псеўданімам Б. Каліна). Там ты сустрэнеш шмат чаго цікавага з літаратуры — прачытвай і зноў акуратна зберагай, як і розныя дзённікі, выразкі, а таксама газеты...»

Стоп. Вось яно што. «Мае вершы? Сшыткі «Раннія творы», «Першыя крокі», «Мара»? Малады паэт? Няўжо? Няўжо гэта ўгадвалася мне ў тым незабыўна-праніклівым паглядзе юнака?

Я прысеў да стала і стаў хутчэй гартаць астатнія пісьмы...

*«14 студзеня 1945 года*

Наступнага пісьма чакайце ўжо з-за Віслы, калі лёс не здрадзіць і я шчасліва фарсірую раку...

*26 студзеня 1945 года*

Не крыўдуйце, што доўга не пісаў — мы ідзём усё далей на захад, так што пошта не паспявае нас дагнаць. Мне ўжо вядома, што 27 снежня 44 года прыехаў дадому Ваня. Я гэтаму вельмі рады. Дарагі Ваня! Глядзі па карце гор. Бромберг (яго мы ўжо даўно ўзялі), Віслу перайшлі з 16 на 17 студзеня ўначы. Прасоўваемся імкліва...

*28 студзеня 1945 года*

Паведамі, Ваня, ці атрымалі вы мае вершы, дакументы, хусцінку і інш., якія я выслаў у пачатку студзеня...

*30 студзеня 1945 года*

Дарагія мае! Паведамляю, што я жывы і здаровы, знаходжуся ўжо на тэрыторыі Германіі...

*3 лютага 1945 года*

Дарагі Ваня! Хачу табе паведаміць, што мяне прадставілі да ўзнагароды Славай трэцяй ступені. Гэта мяне радуе, я буду біць ворага яшчэ лепш. У апошні час мы прынялі шмат баёў, магчыма, скора пойдзем на адпачынак...

*13 лютага 1945 года*

Чытаў сваю заметку «Блізкі час расплаты». Яе прыслалі мне з рэдакцыі «К. К.»...

*16 лютага 1945 года*

Пасылаю падзяку за ўдзел у баях за горад Дойч-Кроне. Зберажы, Ваня, усё, што я перасылаю, зберагай, дарагі брат... З навін скажу, што я ўзнагароджаны медалём «За адвагу»...

*22 лютага 1945 года*

Да Берліна засталося кіламетраў 50...

*25 лютага 1945 года*

Дарагі Ваня! Літаратуру беражы, асабліва мае рэчы — вершы і апавяданні. Напішы, ці атрымалі мае вершы, якія я паслаў яшчэ ў студзені. Зберажы іх...

*3 сакавіка 1945 года*

Яшчэ раней я паслаў вам падзяку за г. Дойч-Кроне, зараз высылаю другую — за сталіцу Польшчы Варшаву...»

Наступны ліст напісаны іншаю рукою:

*«22 сакавіка 1945 года*

Паважаныя бацькі! Цяжка пісаць, але ўсё ж напішу і паведамляю, што Ваш сын Уладзімір адважна загінуў у жорсткіх баях 12.III.45 г. з нямецкімі захопнікамі, а скора пасля гэтага пісьма вы атрымаеце і пахавальную запіску і дакументы і даведаецеся, дзе ён пахаваны. Быў узнагароджаны медалём «За адвагу». Вось што я вам хацеў паведаміць. Гэта пісаў пісар роты Ільін Міхаіл Мацвеевіч».

І яшчэ адно пісьмо аказалася ў папцы:

«Добры дзень, тав. Ясючэня!!!

У першых радках прашу вас прабачыць мне за маё пісьмо да вас. Але я вырашыў паведаміць вам пра лёс Вашага сына Уладзіміра. Я яго баявы таварыш, з ім я ўдзельнічаю ў баях са жніўня 44 г. Спачатку былі ва ўчэбным батальёне. Валодзя быў курсантам, а я быў яго камандзірам аддзялення. Ён быў лепшым курсантам майго аддзялення. Пасля, як яму прысвоілі званне сяржанта, мы з ім трапілі на перадавую, дзе ўдзельнічалі ў баях да ракі Одэр. Разам фарсіравалі р. Віслу, бралі гарады. Заўсёды ў цяжкую хвіліну памагалі адзін

аднаму. Былі разам узнагароджаны медалямі «За адвагу». І вось у адным гарачым баі на р. Одэр мне давялося страціць лепшага таварыша па зброі Валодзю, дзе яго забіла мінай, а мяне параніла ў нагу. Пахаваны Вова ў мястэчку Грайфенхаген на беразе р. Одэр. У мяне застаўся яго аўтамат № 526, з якім ён фарсіраваў р. Віслу і ўдзельнічаў ва ўзяцці Варшавы. З яго аўтаматам я фарсіраваў р. Одэр, быў у баях за Берлін, за што атрымаў падзяку і ордэн Айчыннай вайны II ст., і выйшаў на р. Эльбу...

Валодзеў друг *Аляксей Гімпель*».

Вось і ўсё. Я машынальна перагортваў папку, нібы спадзеючыся адшукаць яшчэ што-небудзь, але больш там нічога не знаходзілася. Жанчына, якая адчыніла мне музей, не магла нічога ні дадаць, ні растлумачыць. Праўда, яна дазволіла мне пакорпацца ў шафе, дзе ляжала тое, што не трапіла на музейныя стэлажы і стэнды. Знайшоў дзве кніжкі, прысланыя рэдакцыяй газеты «Піянер Беларусі» лепшаму дзяткору Валодзю Ясючэню, грамату, якой Валодзя быў узнагароджаны гэтай жа рэдакцыяй за актыўны ўдзел у літаратурнай гульні, некалькі газетных выразак з яго допісамі і некалькі вершаў — таксама газетныя выразкі — з подпісам: «В. Ясючэня. Доктаравіцкая СШ».

І ўсё? А сшыткі, пра якія Валодзя турбаваўся ў пісьмах, а вершы, якія ён дасылаў дадому з фронту?

— Больш у музеі нічога няма, — адказала жанчына.

— А бацькі яго жывуць?

— Хто яго ведае. Гэта ж у Станьках. А брат яго, той, што ў пісьмах упамінаецца, — Ваня, жывы. Бухгалтарам у саўгасе робіць.

Назаўтра я сустрэўся з Іванам Мікалаевічам Ясючэнем. Ён шмат расказваў пра Валодзю, пра тое, з якой ахвотаю ён вучыўся — спачатку ў Ванелевіцкай сямігодцы, а пасля, адзін год перад самай вайной, у Доктаравіцкай СШ, з якой прагнасцю чытаў кнігі; пра тое, як хораша — з самых малых гадоў — маляваў, пра Валодзеву дружбу з Аляксеем Коршакам (цяпер іх партрэты ў музеі — побач); пра тое, з якой сур'ёзнасцю ставіўся Валодзя да сваіх літаратурных спроб...

— Міша, старэйшы брат, прыахвоціў яго да чытання, да літаратуры. Брат настаўнікам быў. Не прыйшоў з вайны, як і Федзя, трэці мой брат Міша быў разумны хлопец, а Валодзя, відаць, абскакаў бы і яго. Чыталі пісьмы, бачылі, як ён піша? Ніводнай памылкі! А почырк які?.. Ды што цяпер казаць... Каб жыў, а то... На дваццатым годзе галаву злажыў...

— Іван Мікалаевіч, а сшыткі Валодзевы? Дзе яны? Захаваліся?

— Няма сшыткаў. Толькі тое, што ў музеі. Было шмат папер, але ж — такое жыццё было, хай яно спрахне. Бацька і маці ад гора

зайшліся, памёрлі, потым — сястра-гаротніца... Хату перацягваў на новае селішча... Каб жа тое ведаць было, што зацікавіцца хто. А мо і аддаў каму. Помню, пасля вайны прыязджаў да мяне адзін з газеты раённай. Мо ў яго што захавалася...

У той жа дзень мне ўдалося сустрэцца з тым чалавекам, які працаваў у капыльскай раённай газеце неўзабаве пасля вайны. Але ў адказ пачуў:

— Памятаю, быў у Ясючэні, і сшыткі тыя бачыў, нават гартаў. Але ж я нічога, ніводнага сшытка не браў...

Значыць, загінулі. А шкада. Тая настойлівасць, з якой Валодзя наказваў у пісьмах з фронту берагчы яго сшыткі, сведчыць, што пісанне вершаў было яго душэўнай патрэбай, што ён вельмі даражыў сваімі спробамі пяра і звязваў свой лёс з будучай сур'ёзнай літаратурнай працай. Чамусьці хочацца думаць, што, каб не тая фашысцкая міна, якая абарвала яго жыццё на дваццатай вясне, сярод імён сённяшніх нашых паэтаў было б і імя паэта Уладзіміра Ясючэні — юнака (ён назаўсёды застаўся юнаком) з чыстай душой, гарачым сэрцам патрыёта і светлымі, высокімі помысламі. Гэта, мне думаецца, пацвярджаюць і тыя яго вершы, якія выпадкова ацалелі. І таму да гэтай згадкі пра светлы воблік юнака з капыльскай вёскі Станькі хочацца далучыць і ягоныя — няхай сабе няспелыя яшчэ — паэтычныя радкі. Будзем памятаць і тое, што напісаны яны рукой вучня сёмага-восьмага класа, і тое, што пісаў іх падлетак, які праз нейкія тры-чатыры гады аддаў жыццё за Радзіму.

# КАМЕНТАР

## *УЛАДЗІМІР ПАХОМЕНКА*

### *Паэзія*

**Отомстим за муки Юрия Смирнова (с. 5)**

Друкуецца паводле газ.: Магіл. праўда. 1985. 14 лют.

**Месть за друга (с. 5)**

Друкуецца паводле газ.: Магіл. праўда. 1985. 14 лют.

**Письмо (с. 6)**

Друкуецца паводле газ.: Магіл. праўда. 1985. 14 лют.

### *У вянок памяці*

**Васіль Леўчанка**
**Штыком і пяром (с. 7)**

*Леўчанка Васіль* — журналіст.

Артыкул друкуецца з невялікімі скарачэннямі паводле газ.: Магіл. праўда. 1985. 14 лют.

## *ПЁТРА ПРОСТЫ*

### *Проза*

**Слёзы (с. 11)**

Друкуецца паводле выд.: Беларуская дакастрычніцкая проза / Склад. В. В. Барысенка. Мінск: Навука і тэхніка, 1965. С. 116.

Упершыню: Наша ніва. 1907. 25 студз.

**Воля (с. 12)**

Друкуецца паводле выд.: Беларуская дакастрычніцкая проза. С. 117.

Упершыню: Наша ніва. 1907. 2 лют.

**Абразкі (с. 13)**

Друкуюцца паводле выд.: Дэкляматар / Рэд.-выд. М. Гарэцкі. Вільня, 1921. С. 24.

Упершыню: Наша ніва. 1909. 7 мая.

Абразкі друкаваліся ў «Першым беларускім календары «Нашае нівы на 1910 год» (Вільня, 1910), «Беларускім дэкляматары» (Вільня, 1928).

## *Драматургія*

### *Свякроўка (с. 15)*

П'еса друкуецца паводле час. «Сьвіцязь» (Гродна), 1995, № 1, дзе апублікавана ўпершыню, пад рубрыкай «З архіваў».

Публікацыя і падрыхтоўка тэксту Я. Трацяка і Ю. Пацюпы.

Рукапіс твора захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ НАНБ (Ф. 5, воп. 1, адз. зах. 114).

Гэты тэкст і наступныя публіцыстычныя творы П. Простага падаюцца згодна з нормамі сучаснай арфаграфіі, граматыкі і пунктуацыі, пры гэтым пэўныя асаблівасці аўтарскай лексікі і мовы захоўваюцца.

## *Публіцыстыка*

### *У калядны, ціхі вечар… (с. 37)*

Друкуецца паводле газ. «Biełarus», 1913, 19 снеж., пад псеўданімам Piotra Prosty, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

[1] *...маестатычная павага...* — Тут: велічная, усемагутная, годная.

[2] *надусё* — тут: перш за ўсё, перадусім.

### *Навагоднія думы (с. 39)*

Друкуецца паводле газ. «Biełarus», 1914, 3 студз., пад псеўданімам Piotra Prosty, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

### *«Ойча наш» беларуса (с. 41)*

Друкуецца паводле газ. «Biełarus», 1914, 22 студз., пад псеўданімам Piotra Prosty, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

## *У вянок памяці*

### *Янка Трацяк*
### *«Чалавекам быў ён простым...» (с. 43)*

Друкуецца паводле час.: Сьвіцязь. 1995. № 1.

[1] У кнізе «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя» (Аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі), выдадзенай у 1999 г., змешчаны «Метрычны выпіс пра нараджэнне і хрышчэнне Ільдэфонса Бобіча», дзе гаворыцца пра дакладную дату і месца нараджэння пісьменніка: «…родившійся 1890 года января 10 дня въ дер. Дзедзинка…» (с. 553).

## *АЛЕСЬ ПРУДНІКАЎ*

### *Паэзія*

#### *Зацвітуць бялявыя вербы… (с. 51)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55). Матэрыялы фонду на момант падрыхтоўкі каментара не былі цалкам апрацаваны.

#### *Памяці Паўлюка Труса (с. 52)*

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55).

#### *На вуліцы конь заірзаў… (с. 53)*

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55).

#### *Усё так спакойна, усё адмірае… (с. 53)*

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55).

#### *На вакзале (с. 54)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55).

#### *Ноч глухая… (с. 54)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. Мінск, 1967. С. 116.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1967, 13 чэрв., з прадмовай П. Пруднікава.

На рускую мову пераклаў В. Ліпневіч.

#### *Звіняць абшары (с. 55)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 117.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1967. 13 чэрв.

На рускую мову пераклалі П. Жур і В. Ліпневіч.

#### *Малады плытагон (с. 56)*

Друкуецца паводле час.«Чырв. Беларусь», 1931, № 10, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Абрабаваны Стронг (с. 58)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 119.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1967. 13 чэрв.

Верш таксама друкаваўся ў «Анталогіі беларускай паэзіі» (1993. Т. 2).

#### *Зямныя зоры (с. 61)*

Урывак з паэмы друкуецца паводле выд.: Пруднікаў А. Зямныя

зоры: Паэма. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1932. С. 3.

Упершыню: Полымя. 1931. № 6. Пад творам пазнака: *Вясна 1931 г., г. Менск.*

#### *Круг дарог (с. 62)*

Урыўкі з паэмы друкуюцца паводле час. «Заклік», 1933, № 2, а таксама аўтографа і машынапісу (раздзел «Гадќ»), якія захоўваюцца ў БДАМЛіМ (Ф. 55).

### *У вянок памяці*

### *Павел Пруднікаў*
#### *Яго забыць нельга (с. 65)*

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Дзень паэзіі–71. Мінск: Беларусь, 1971. С. 245.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1967, 13 чэрв., пад назвай «Недапетая песня».

## *УЛАДЗІМІР РАГУЦКІ*

### *Паэзія*

#### *Праходжу я... (с. 69)*

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 1, адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

#### *Паштальён (с. 70)*

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 7–8, адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

#### *Незабудкі (с. 71)*

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 12, адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

Намі апушчана 5 страфа:

Як на плошчы воінам жалезным
Пасылала з песняю прывет.
Як на свята стужкамі і бэзам
Убірала Сталіна партрэт.

#### *Хвоя (с. 72)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. Мінск: Беларусь, 1967. С. 124.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1938. № 10.

У гэтай публікацыі апушчаны два апошнія слупкі (радкі 46–53), якія ёсць у першай публікацыі і тэксце, змешчаным у зб. «Мы іх не

забудзем»:

Бо растуць у нас таланты
Пад зарніцамі Крамля,
Бо савецкім музыкантам
Рукаплешча ўся зямля!

І авацый дружных хвалі
Будуць доўга не змаўкаць...
А з Крамля вялікі Сталін
Выйдзе песню сустракаць.

Верш на рускую мову пераклалі І. Бурсаў і А. Дракахруст.

***М. А. Някрасаву (с. 73)***

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1938, 10 студз., пад назвай «Н. А. Некрасаву», адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

Пад вершам зацемка «Вечар памяці Н. А. Некрасава»: «8 студзеня ў Доме пісьменніка адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны памяці вялікага рускага паэта-дэмакрата Н. А. Некрасава». У 1938 г. адзначалася 60-годдзе з дня смерці М. А. Някрасава.

***17 верасня (с. 74)***

Друкуецца паводле выд.: Мы іх не забудзем. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1949. С. 206.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1940. № 9–10.

Верш друкаваўся ў зб. «Крывёю сэрца» (1967), «Покліч долі адзінай» (1979), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), час. «Першацвет», 2000, № 5.

На рускую мову пераклалі І. Бурсаў і А. Дракахруст.

***На ўспамін (с. 75)***

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1940, 17 чэрв., адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

***Чайка (с. 76)***

Друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1940, 17 чэрв., адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

## ***У вянок памяці***

***Мікола Аўрамчык***
***Паэт і чайка (с. 77)***

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Дзень паэзіі–71. Мінск: Беларусь, 1971. С. 243, дзе апублікаваны ўпершыню.

## *РУВА РЭЙЗІН*

### *Паэзія*

#### *Фанька (с. 81)*

Пераклад на беларускую мову зроблены Р. Барадуліным спецыяльна для гэтага выдання паводле зб.: Лира: Венок стихов. Москва: Сов. писатель, 1985. С. 307.

Гэта адзін з першых вершаў Р. Рэйзіна, які, на думку Р. Рэлеса, «стаў хрэстаматыйным» (Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўнік: У 5 т. Мінск: БелЭн, 1995. Т. 5. С. 195).

#### *У агнях усміхаецца горад… (с. 83)*

Друкуецца паводле выд.: Дзень паэзіі–71. Мінск: Беларусь, 1971. С. 200.

На беларускую мову пераклаў А. Зарыцкі.

### *У вянок памяці*

#### *Рыгор Рэлес*
#### *Паэт-салдат (с. 84)*

Успаміны друкуюцца паводле аўтарскага рукапісу.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1971, 10 снеж., з падзагалоўкам «Да 60-годдзя з дня нараджэння паэта Рувы Рэйзіна».

Артыкул дапрацаваны аўтарам спецыяльна для гэтага выдання.

## *РЫГОР СУНІЦА*

### *Паэзія*

#### *Эх вы, думкі… (с. 89)*

Друкуецца паводле альманаха «Уздым» (літ. зб. Бабруйскай філіі «Маладняка»), Бабруйск, 1926. С. 83, дзе ўпершыню апублікаваны разам з іншымі вершамі пад агульнаю назвай «Вершы Рыгора Суніцы».

#### *Раніца (с. 89)*

Друкуецца паводле альманаха «Уздым», 1926. С. 83, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Рытмакапытаму другу (с. 90)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. Мінск, 1967. С. 132.

Упершыню — час. «Вясна» (літ. дадатак да газ. «Камуніст»), 1930, № 8, пад псеўданімам Рыгор Суніца.

### *На сконе дзён (с. 94)*

Друкуецца паводле час. «Вясна», 1930, № 6, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Рыгор Суніца.

Змешчаны ў перакладзе на рускую мову ў зб. «Кровью сердца» (1985).

## *Пераклады*

### *Аляксандр Пушкін*
### *У Сібір (с. 96)*

Друкуецца паводле газ. «Камунар Магілёўшчыны», 1936, 11 чэрв., дзе апублікаваны ўпершыню пад уласным прозвішчам.

Пад вершам спасылка: *«Верш адрасаваны дэкабрыстам, сасланым на катаргу. Пушкін пераслаў яго праз жану дэкабрыста Н. М. Мураўёва, якая ездзіла да мужа ў Сібір. Зварот Пушкіна выклікаў адказны верш паэта-дэкабрыста А. Адоеўскага».*

### *Адам Міцкевіч*
### *Блыха і равін (с. 96)*

Друкуецца паводле газ.: Літ. і мастацтва. 1940. 23 лістап.

26 лістапада 1940 г. мінула 85 год з дня смерці А. Міцкевіча. У гэтым жа нумары «Літ. і мастацтва» змешчаны пераклады твораў паэта, зробленыя Я. Купалам і М. Танкам.

Байку таксама пераклаў К. Крапіва.

### *Уладзімір Маякоўскі*
### *Вайна абвешчана (с. 97)*

Друкуецца паводле выд.: Маякоўскі В. В. Выбр. тв. / Пад рэд. П. Броўкі. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1940. С. 31.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1937. 30 ліп.

### *Мама і забіты немцамі вечар (с. 98)*

Друкуецца паводле выд.: Маякоўскі В. В. Выбр. тв. С. 32.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1937. 30 ліп.

## *У вянок памяці*

### *Васіль Вітка*
### *Наша вясна (с. 100)*

*Вітка Васіль* (Цімох Васільевіч Крысько; 1911–1996) — паэт і дзіцячы пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1970), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972), лаўрэат Міжнароднага ганаровага дыплома імя Х.-К. Андэрсена (1978).

Урывак з артыкула «Цераз выпрабаванні часу» друкуецца паводле выд.: Вітка В. Урокі: Арт., выступленні, нататкі. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 13.

### ***Васіль Вітка***
### ***Суніцы (с. 102)***

Друкуецца паводле выд.: Вітка В. Случчына: Вершы, паэмы, казкі. Мінск: Маст. літ., 1981. С. 131.

### ***Янка Казека***
### ***На пачатку шляху (с. 103)***

*Казека Янка* (Іван Дарафеевіч; 1915–1999) — крытык і літаратуразнаўца, заслужаны работнік культуры Беларусі (1975), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976).

Успаміны друкуюцца з невялікімі скарачэннямі паводле выд.: Казека Я. Падарожжа ў маладосць: Арт., літ. партрэты, успаміны. Мінск: Маст. літ., 1984. С. 60.

Упершыню: Полымя. 1978. № 5.

### ***Мікалай Лынькоў***
### ***Слова пра брата (с. 118)***

*Лынькоў Мікалай* Ціханавіч (нар. у 1915 г.) — малодшы брат Рыгора Суніцы (Лынькова), жыве ў Санкт-Пецярбургу.

[1]*Пелагея Ціханаўна Лынькова* (у замужжы Шалабодава; 1905–2000) — сястра Рыгора Суніцы (Лынькова).

[2]*Барыс М-ч* — Барыс Мікуліч.

Успаміны друкуюцца з невялікімі скарачэннямі паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 189 Я. Казекі), у перакладзе А. Бельскага. Матэрыялы фонду на момант падрыхтоўкі каментара не былі цалкам апрацаваны.

## ***МІКОЛА СУРНАЧОЎ***

### ***Паэзія***

### ***Наказ (с. 123)***

Друкуецца паводле выд.: Сурначоў М. Акопны спеў: Вершы. Лісты. Успаміны / Склад. П. Пранузა. Мінск: Маст. літ., 1986. С. 3.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1938. 6 ліп.

2 Разгубіла ў мурах.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### ***Зноў яны, драбнюткія сняжынкі... (с. 124)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 6.

Упершыню: На сурмах баравых. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1946. С. 28.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Пра цябе не сніў і не гадаў... (с. 124)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 7.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1940. 3 жн.

6 Сонца не страчала і не грэла
8 На баянах баяла капела

Верш уключаны ў зб. «Зорка Венера» (1972).

На рускую мову пераклалі І. Бурсаў, Р. Вінонен.

***Барвовая зара (с. 125)***

Друкуецца паводле выд.: Сурначоў М. Барвовая зара: Вершы. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1959. С. 3.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1940. № 12.

***Наростані (с. 127)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 8.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1941. 12 крас.

Апушчана 2 страфа:

Цяпер з самотай надаедлівай
Дружы і радуйся, як хочаш, —
Адходзячы, глядзіць прыветліва
Не кажучы: «Спакойнай ночы».

***У стоптаным жыце (с. 127)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 9.

Упершыню: На сурмах баравых.

Ва ўспамінах «Недаспяваная песня» пісьменнік М. Аўрамчык адзначае: «Улетку 1941 года, калі мы з Міколам служылі ў запасным артылерыйскім палку, гэты верш упершыню быў апублікаваны ў нашай палкавой насценгазеце» (Маладосць. 1969. № 6. С. 121).

Верш таксама друкаваўся ў шматлікіх анталогіях і зборніках паэзіі: «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 2; 1993. Т. 2), «Дзень добры, мама!» (1977), «Беларуская балада» (1978), «Сэрцам табе прысягаю» (1978), «Такія сэрцы ў нас» (1980), «На сцягу і ў сэрцы» (1982) і інш., а таксама ў шматлікіх перыядычных выданнях: «Полымя», 1975, № 5; «Чырв. змена», 1971, 2 верас.; «Вясёлка», 1984, № 7; «Маладосць», 1985, № 5; «Беларусь», 1995, № 5; «Роднае слова», 1995, № 5; «Звязда», 1986, 9 мая і інш.

Верш перакладзены на розныя мовы свету. На рускую мову пераклалі А. Твардоўскі, М. Браўн, І. Бурсаў, Д. Кавалёў, Г. Пагіраў, Б. Спрынчан, на ўкраінскую — Д. Паламарчук, Д. Грыгараш, на балгарскую — Н. Вылчаў, на польскую — Я. Гушча, К. Гансяроўскі, на малдаўскую — К. Кондра, на англійскую — У. Мэй і інш.

### *Ты мне патрэбна, як глебе вада... (с. 128)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 9.

Упершыню: На сурмах баравых.

На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Старонка мая, у смутку... (с. 128)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 10.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш на рускую мову пераклаў Д. Кавалёў.

Друкаваўся ў газ. «Чырв. змена», 1971, 2 верас.; час. «Маладосць», 1985, № 5.

### *Месяц знізіўся... (с. 129)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 11.

Упершыню — зб. «На сурмах баравых», пад назвай «Месяц ранены...».

1 Месяц ранены знік у карчы

На рускую мову пераклалі А. Твардоўскі, І. Бурсаў, Р. Вінонен.

### *Паштоўка (с. 130)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 12.

Упершыню: На сурмах баравых.

На рускую мову пераклаў В. Смірноў.

Друкаваўся ў газ. «Бел. ніва», 1994, 31 мая; час. «Маладосць», 1985, № 5.

### *Словы помсты (с. 130)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 13.

Упершыню: На сурмах баравых.

На рускую мову пераклалі М. Браўн, Д. Кавалёў.

### *Як неба рассякла ракета... (с. 131)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 14.

Упершыню: Барвовая зара.

Апушчаны наступныя радкі:

34–35 Той горад, за каторы Сталін
Начэй не спаў, таварыш мой...

### *Ён не хацеў здавацца нам... (с. 132)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 15.
Упершыню: На сурмах баравых.
На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Ні шчыры мароз, ні сівыя бураны... (с. 133)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 16.
Упершыню: На сурмах баравых.
На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Прысяга ў акопах (с. 134)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 17.
Упершыню: На сурмах баравых.
На рускую мову пераклалі М. Браўн, Д. Кавалёў, Н. Кіслік.

### *Паходная (с. 134)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 18.
Упершыню: На сурмах баравых.
Верш таксама друкаваўся ў час. «Роднае слова», 2000, № 5.
На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Штодзень вялі мяне шляхі... (с. 135)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 19.
Упершыню: На сурмах баравых.
На рускую мову пераклаў Д. Кавалёў.

### *Новы мост (с. 136)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 20.
Упершыню: На сурмах баравых.
На рускую мову пераклаў Д. Кавалёў.

### *Ліст да маці (с. 137)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 21.
Упершыню: Беларусь. 1944. № 3.

6 Уяві: ты іх маці
18–19 За юнацтва сваё залатое,
Плацяць кроўю сваёй, ваякі

Верш друкаваўся ў зб. «Крывёю сэрца» (1967), «Дзень добры, мама!» (1977), «Мы іх не забудзем» (1979), «За цябе, Радзіма!» (1984); час. «Маладосць», 1985, № 5, « Беларусь», 1992, № 5; газ. «Чырв. змена», 1964, 30 чэрв.

На рускую мову пераклаў Д. Кавалёў.

### *Што пісаць і чым парадаваць... (с. 137)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 22.

Упершыню: На сурмах баравых.

На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Роздум (с. 138)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 23, пад назвай «Раздум'е».

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш друкаваўся ў зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967); газ. «Чырв. змена», 1971, 2 верас., «Бел. нива», 1994, 31 мая і інш.

На англійскую мову пераклаў У. Мэй, на рускую — М. Браўн, Д. Кавалёў.

***Смага (с. 139)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 23.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш на рускую мову пераклаў Д. Кавалёў.

***Зямлянка (с. 139)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 24.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Стаіць над попелам хаціны... (с. 140)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 25.

Упершыню: На сурмах баравых.

На рускую мову пераклалі М. Браўн, Д. Кавалёў, на ўкраінскую — Д. Паламарчук, на англійскую — У. Мэй.

***Вея кідаецца, кружыцъ... (с. 141)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 26.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш друкаваўся ў газ. «Вяч. Мінск», 1969, 24 крас., «Звязда», 1986, 9 мая.

На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Вяселле (с. 142)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 27.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Дума пра казака Чубатага (с. 144)***

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 30.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Запавет салдата (с. 145)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 31.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Сон (с. 146)*

Друкуецца паводле выд.: Акопны спеў. С. 34.

Упершыню: На сурмах баравых.

Верш друкаваўся ў зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 2), «Крывёю сэрца» (1967), «Сэрцам табе прысягаю» (1978), «На сцягу і ў сэрцы» (1982), «За цябе, Радзіма!» (1984), а таксама ў перыядычных выданнях: «Полымя», 1985, № 5, «Маладосць», 1985, № 5; газ. «Чырв. змена», 1980, 9 верас. і інш.

На рускую мову пераклалі І. Бурсаў, Д. Кавалёў.

### *З румынскіх эцюдаў (с. 147)*

Урыўкі з нізкі друкуюцца паводле выд.: Акопны спеў. С. 35.

Упершыню — газ. «Чырв. змена», 1944, 30 верас., пад назвай «Румынскія эцюды».

У артыкуле «Такім ён быў» П. Пранузa піша:

«Частку вершаў, якія прысылаў мне Мікола, я захаваў.

У 1959 годзе мне давялося ўкладаць яго зборнік «Барвовая зара». У яго я ўключыў і вершы, узятыя з лістоў да мяне. Але не ўсё, напісанае паэтам, уключана ў зборнік. Пасля доўгіх пошукаў мне ўдалося знайсці верш «Румынскія эцюды»... Напісаны ён у франтавых умовах» (Полымя. 1966. № 6. С. 124).

### *Лісты (с. 148)*

Друкуюцца паводле выд.: Акопны спеў. С. 38.

Упершыню: Беларусь. 1967. № 6.

[1] Публікацыя П. Пранузы пад загалоўкам «З дарог вайны». Ва ўступным слове ён піша: «У час Вялікай Айчыннай вайны мне давялося перапісвацца з маім баявым сябрам паэтам Міколам Сурначовым. Некалькі яго пісем захавалася ў маім архіве. У іх раскрываецца воблік Міколы Сурначова як паэта і воіна, які любіў сваю Радзіму, аддаў за яе свабоду і шчасце сваё жыццё. Прапаную ўвазе чытачоў некалькі пісем свайго сябра».

